WEISSRUTHENISCHES INSTITUT FÜR KUNST UND WISSENSCHAFT, e. V.

# Wissenschaftliche Schriften

## Band 4

Schriftleitung: Dr. Stanislau Stankiewitsch

München 1966

WHITERUTHENIAN (BELORUSSIAN) INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

# Annals

## Volume 4

Edited by Dr. Stanislau Stankevich

Munich 1966

# INHALTSVERZEICHNIS



Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, München 19, Bothmerstr. 14

---

Das Jahrbuch WISSENSCHAFTLICHE SCHRIFTEN wird von dem Weissruthenischen Institut für Kunst und Wissenschaft, e. V., 8 München 13, Postfach 627 (Deutschland), herausgegeben.

# ЗЬМЕСТ



---

ЗАПІСЫ выдаюцца Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва. Адрыс: Weissruthenisches Institut für Kunst und Wissenschaft, e. V., 8 München 13, Postfach 627 (Deutschland).

# TABLE OF CONTENTS



ANNALS is a publication of the Whiteruthenian (Belorussian) Institute of Arts and Sciences, 8 München 13, Postfach 627 (Deutschland).

# Беларуская падсавецкая літаратура першай палавіны 60-ых гадоў

Станіслаў Станкевіч

## I
## ЛЯ ВАТОКАЎ НОВЫХ ПЛЫНЯЎ

Пачаткі пасьлясталінскай лібэралізацыі палітычнага курсу ў дачыненьні да літаратуры й мастацтва звычайна зьвязваюць з XX зьездам КПСС у 1956 годзе, на якім упяршыню адбылося, хоць і за зачыненымі дзьвярыма, афіцыйнае асуджэньне Сталіна й сталінізму. А адкрытае й агульнае асуджэньне Сталіна й сталінізму ўжо на XXII зьезьдзе КПСС у лютым 1961 году звычайна бярэцца за пачатак таго вялікага ўзруху ў літаратуры, мастацтве й наагул у духовым жыцьці ў СССР, які адзначыўся й з кажным наступным годам адзначаўся штораз шырэйшым вызваленьнем літаратуры й мастацтва із службовае ролі для партыі ды іхным паступовым адыходам ад дагматычнага сацыялістычнага рэалізму.

Аднак-жа першыя сымптомы аслабленьня дагматычнага сталінскага курсу зазначыліся крыху раней. Аповесьць Ільлі Эрэнбурга «Адлега» («Оттепель»), што дала назоў новаму курсу, зьявілася, як ведама, ужо ў 1954 годзе, а ў 1956 годзе, у якім адбываўся XX партыйны зьезд, ужо друкаваўся на бачынах часапісу «Новый мир» ведамы раман В. Дудзінцава «Ня хлебам адзіным», што даў пачатак войстрай крытыцы савецкай рэчаіснасьці ў мастацкай літаратуры.

У вабставінах Беларусі першымі сымптомамі зьмены, таксама яшчэ перад XX зьездам, сталіся рэгабілітацыі некаторых паэтаў і пісьменьнікаў, што былі «зьліквідаваныя» ў пагромных 30-ых гадох сталінскага тэрору, а іхныя творы вычыркнутыя зь гісторыі беларускай літаратуры. Першыя рэгабілітацыі адбыліся ўжо ў 1955 годзе (Янка Скрыган, Мікола Хведаровіч, Алесь Звонак, Алесь Пальчэўскі),[1] каб трохі пасьля, асабліва ў 1957—58 гадох, набыць шырокага размаху ды ахапіць звыш трох дзе-

---

[1] Янка Скрыган. Свая аповесьць. Менск, 1964, б. 515; Мікола Хведаровіч. З пражытых год. «Пяцьдзесят чатыры дарогі». Менск, 1963, б. 508; Алесь Звонак. Аўтабіяграфічныя нататкі. «Пяцьдзесят чатыры дарогі», б. 229; «Літаратура і Мастацтва», № 5, 15 студзеня 1965 г.

сяткоў жывых і памерлых ужо на выгнаньні творцаў беларускай мастацкай літаратуры ды некаторыя, хоць далёка ня ўсе, іхныя творы, што датуль знаходзіліся пад цэнзурнай забаронай. Рэгабілітацыі гэтыя, аднак, абмінулі такіх выдатных нашаніўцаў, як Алесь Гарун і Вацлаў Ластоўскі-Власт, а таксама ўзвышэнца Андрэя Мрыя. Але рэгабілітацыйны працэс можна ўважаць яшчэ не закончаным, бо вось узвышэнскі літаратурны крытык Адам Бабарэка, рэгабілітацыі якога дамагаўся яшчэ на самым пачатку 1963 году Уладзімер Дубоўка,[2] быў вернуты беларускай літаратуры адно ў 1965 годзе,[3] хоць нічога зь ягоных літаратурна-крытычных працаў яшчэ дасюль ня перавыдадзена. А ўзвышэнскі пісьменьнік Лукаш Калюга быў рэгабілітаваны адно ў 1966 годзе надрукаваньнем у № 8 «Полымя» за гэты год ягонай навэлі «Цеснаватая куртачка».

Пры ўзаконеным яшчэ за Сталіна палажэньні, у якім расейскай літаратуры адводзілася цэнтральнае месца ў літаратурным працэсе ўсяго СССР, а г. зв. «нацыянальным» літаратурам месца правінцыі ці пэрыфэрыі, усякія новыя зьявы, кірункі й плыні маглі зьяўляцца спачатку адно ў гэнай цэнтральнай расейскай літаратуры, адкуль ужо пасьля перакідаліся, або й ня перакідаліся зусім, і ў літаратурныя правінцыі. Гэтак запачаткаваная аповесьцяй Ільлі Эрэнбурга літаратурная «адлега» ў ейнай эрэнбургаўскай форме на нацыянальныя пэрыфэрыі так і ня перакінулася.[4] А зварот ад г. зв. сацыялістычнага да крытычнага рэалізму зь ягонай бязьлітаснай крытыкай і сатырай на тагачасную савецкую рэчаіснасьць, што шырака зазначыўся ў расейскай літаратуры ў сувязі із згадваным раманам В. Дудзінцава ў 1956 годзе, у Беларусі мог эфэмэрычна зьявіцца адно ў 1958 годзе — у сатырычнай крытыцы толькі аднаго, калгасна-вясковага адрэзку гэтае рэчаіснасьці — у ваповесьці Аляксея Кулакоўскага «Дабрасельцы» й камэдыі Андрэя Макаёнка «Каб людзі ня журыліся».[5] Але партыйныя колы ды інсьпіраваная імі крытыка гэтак войстра заатакавала абодвых пісьменьнікаў, зьвінаваціўшы іх у вадлюстроўваньні савецкай рэчаіснасьці ў хвальшывым сьвятле (Кулакоўскі быў у сувязі з гэтым звольнены із становішча адказнага рэдактара часапісу «Маладосьць», у якім былі надрукаваныя ягоныя «Дабрасельцы»), што на гэтых дзьвюх першых спробах паказаць калгаснанае жыцьцё такім, якім яно ёсьць, на даўжэйшы час і скончылася.

---

[2] Уладзімер Дубоўка. Сярод людзей добрых. «Полымя» (у далейшым — «П»), № I, 1963, бб. 124—125.

[3] Уладзімер Конан. Адам Бабарэка. «П», № I, 1965; Ул. Конан. Чужых думак ня пераказваў. «Літаратура і Мастацтва» (у далейшым — «ЛіМ»), № 79, 5 кастрычніка 1965.

[4] Проф. А. Адамович. Национальные литературы СССР. «XV научная Конференция Института по изучению СССР», Мюнхен, 1963, б. 129; тое-ж паангельску: Anthony Adamovich. The Non-Russian Soviet Literature in the Sixties. An International Symposium. Frederik A. Praeger. New York—London, 1964, p. 102—103.

[5] Гл. Ст. Станкевіч. Рэвізіяністычныя плыні ў беларускай савецкай літаратуры напярэдадні 40-годзьдзя БССР. «Беларускі Зборнік» Інстытуту для Вывучэньня СССР. Кніга 10-тая, Мюнхэн, 1959; тое-ж паангельску: Stanislaŭ Stankevič. „Revisionists Tendencies“ in Soviet Belorussian Literature on the Eve of the Fortieth Anniversary of the BSSR. „Belorussian Review“. Institute for the Study of the USSR, Nr. 7, Munich, 1959.

Цяглы й сыстэматычны працэс вызваленьня літаратуры зь ейнае службовае й вузка утылітарнае ролі, ейны зварот да крытычнага рэалізму, да паўнакроўнага й шырокага адлюстроўваньня прыватнага й чыста асабістага жыцьця, да разгляданьня літаратурнага мастацтва перш-наперш як мастацтва зь ягонымі апрычонымі й незалежнымі эстэтычнымі функцыямі пачынаецца на Беларусі адно ў 1961 годзе. 1961 год — тутака ня толькі каляндарная дата пачатку новага дзесяцігодзьдзя, але й рубеж, вызначаны ўсім нутраным характарам ды галоўнымі ідэйнымі й мастацкімі тэндэнцыямі ў літаратуры. I за першы выдатнейшы твор беларускай падсавецкай літаратуры, у якім гэты нутраны характар і новая ідэйная й мастацкая ськіваванасьць выявілася ўва ўсёй сваёй паўніні, можна ўважаць раман Івана Мележа «Людзі на балоце», што ўпяршыню быў надрукаваны ў №№ 8—10 часапісу «Полымя» за 1961 год.

Пачаўшы гэным 1961 годам, беларуская падсавецкая літаратура разьвіваецца спачатку пад знакам сваясаблівага «суіснаваньня» партыйнай ідэялёгіі зь незалежнай ад яе мастацкай існасьцяй літаратуры. Гэтая зьява знайшла й тэарэтычнае сфармуляваньне ў кароценькім вершы Максіма Танка «Кесарава-Кесару», надрукаваным у № 3 «Полымя» за 1963 год. Пры дапамозе ведамай эвангельскай формулы Танк сьцьвярджае, што ён, у моц канечнасьці, аддае неабходную даніну Кесару — партыі й ейнай ідэялёгіі, але перш-наперш служыць Богу паэзіі — запраўднаму мастацтву.[6] Гэтыя «кесаравы» кампанэнты ў літаратуры атрымалі ў савецкіх літаратурных колах яшчэ й трапны назоў «паравозаў», пры дапамозе якіх пісьменьнікі стараліся працягнуць праз цэнзуру й кампанэнты «Божыя» — творы запраўднае паэзіі.[7]

Гэткія вось «паравозы» былі бадайшто неадлучнымі ў зборніках і цыклях, друкаваных у літаратурных часапісах, вершаў беларускіх паэтаў на працягу 1961—63 гадоў. Але ўжо ў 1964 і асабліва ў 1965 годзе пачалі зьяўляцца цыклі вершаў і бяз гэных «паравозаў» і «кесаравых» кампанэнтаў.

Гэта, аднак, не абазначае, што палітычная й ідэялягічная праблемнасьць цяперака зьнікла ў літаратуры. Яна йснуе й далей, адно не становіць галоўнага й абавязваючага ейнага кампанэнту, ад якога былі-б узалежненыя й якому служылі-б, як гэта было за Сталінам, усе іншыя ейныя кампанэнты. Ідэйная й палітычная праблемнасьць штораз менш настырліва накідаецца чытачу, пакідае граць ролю непарушнай догмы, траціць ранейшую прапагандавую лёзунгавасьць. Гэтая праблемнасьць, калі й выступае ў літаратурных творах, дык звычайна дастае больш глыбокага жыцьцёвага й філязафічнага асэнсаваньня, абарачаючыся ў непрамінальную агульналюдзкую або нацыянальную каштоўнасьць.

---

[6] Ант. Адамович, тамсама, б. 144 (у артыкуле паангельску б. 116—117).

[7] Д. Стариков. Времена меняются. «Литература и жизнь», № 109 (681) за 12 верасьня 1962, б. 3: «Безь якога-колечы сораму або няёмкасьці некаторыя паэты ўжываюць у літаратурным асяродзьдзі новы паэтычны тэрмін: «паравоз» (гэтак завуць адзін-два вершы на «палітычную тэму», да якіх «прычапляюцца» вершы лірычныя). З «паравозам» падборка, як ім здаецца, лягчэй праходзіць праз рэдактарскі стол на бачыны газэтаў і часапісаў! I жахліва, што часамі карыстаецца гэтым навет моладзь, бясспрэчна таленавітая, якая поўнасьцяй разумее, што такое добра й што блага ў мастацтве».

Поўнае асуджэньне Сталіна й сталінізму на XXII партыйным зьезьдзе адчыняе для мастацкай літаратуры зусім новую тэматычную сфэру — рэалістычнае адлюстраваньне некаторых канкрэтных зьяваў сталінскага тэрору й ягоных вынікаў, сарамяжліва названых бязьвінным тэрмінам — «культам асобы Сталіна». І ў гэтай галіне пачатак быў зроблены ў расейскай літаратуры пад канец 1962 году ведамай аповесьцяй Аляксандра Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Але ўжо ў самым канцы гэнага 1962 году беларускі паэта Пятрусь Макаль выступае зь вершам «Думайце, людзі» — першым у нашай паэзіі адкрытым і войстрым асуджэньнем сталінскіх злачынстваў.[8] У беларускай мастацкай прозе ўпяршыню былі паказаныя гэтыя злачынствы ў вапавяданьні Алеся Пальчэўскага «Мікітка», што зьявілася на самым пачатку 1963 году.[9]

Працэс дэсталінізацыі й штораз вайстрэйшае асуджэньне ня толькі асобы Сталіна, але й усяго сталінізму, пад які падцягвалася ўсё тое ліха, што шалела ў гэным часе, запалохалі партыйныя вярхі. Сам тагачасны першы сакратар ЦК КПСС Мікіта Хрушчоў у дакладзе на сустрэчы кіраўнікоў партыі й ураду зь дзеячамі літаратуры й мастацтва 8 сакавіка 1963 году ад ранейшага асуджэньня перайшоў да абароны сталінізму. Ён казаў:

> Таму мы й гаворым, што няправільна робяць тыя пісьменьнікі, якія вельмі аднабакова падходзяць да ацэнкі таго этапу ў жыцьці нашай краіны, спрабуючы паказаць ледзь ня ўсе падзеі ў змрочным сьвятле, перадаць чорнымі хварбамі. Яшчэ ня перавяліся літаратары, якія ўважаюць за лепшае чэрпаць для сябе матарыялы із сьметніку й хочуць выдаць такія творы за праўдзівае асьвятленьне жыцьця народу...
>
> Трэба даць адпор аматарам наклейваць ярлык «лякіроўшчыка» тым пісьменьнікам і дзеячом мастацтва, якія пішуць аб станоўчым у нашым жыцьці. А як-жа назваць тады тых, хто шукае ў жыцьці толькі дрэннае, паказвае ўсё ў чорных хварбах? Відаць, іх трэба называць дзёгцямазамі...[10]

Заклікі й перасьцярогі Хрушчова ўжо былі ня ў моцы спыніць глыбокага працэсу вызваленьня мастацкае літаратуры з накінутых ёй партыйных дырэктываў ды паўстрымаць яе ад спробаў аб'ектўнага паказу рэчаіснасьці, у тым ліку й няслаўнай рэчаіснасьці часоў сталінскага тэрору. Дырэктыўная прамова Хрушчова ня выклікала ніякага трывалкага рэха ў літаратуры. Ня выклікала ніякага рэха й пастанова пленуму ЦК КПСС з 21 чырвеня 1963 году, у якой новыя плыні ў літаратуры й мастацтве народаў СССР зьвязваліся ўжо зь беспасярэднімі ідэйнымі ўплывамі краёў Захаду. У пастанове казалася:

> Цяпер кіруючыя колы імпэрыялістычных краін, не адмаўляючыся ад іншых форм барацьбы супраць сацыялізму, робяць галоўную стаўку на ідэялягічныя дывэрсіі ў вадносінах да сацыялістычных дзяржаваў, на ашалелы антыкамунізм. Пад флагам антыкамунізму імпэ-

---

[8] «Л і М», № 103, 25 сьнежня 1962.

[9] «Л і М», № 3, 8 студзеня 1963.

[10] М. С. Хрушчоў. Высокая ідэйнасьць і мастацкае майстроўства — вялікая сіла савецкай літаратуры і мастацтва. «Л і М», № 21, 12 сакавіка 1963.

рыялістыя праводзяць эканамічную й палітычную дыскрымінацыю краін сацыялістычнай сыстэмы, ліхаманкава раздуваюць гонку збраеньняў. Усімі сродкамі яны прабуюць перанесьці «вайну ідэй» у сацыялістычныя краіны. Пад парыкрыцьцём лёзунгу мірнага суіснаваньня ідэялёгіяў яны спрабуюць працягнуць у наша грамадзтва хвальшывыя канцэпцыі «беспартыйнасьці» мастацтва, «абсалютнай свабоды творчасьці», бязыдэйнасьці й апалітычнасьці, «канфлікту пакаленьняў», разбэсьціць ідэйна няўстойлівых людзей.[11]

Выходзячы з такога сьцьверджаньня, ЦК КПСС у тэй-жа пастанове заклікаў:

Пленум абавязвае партыйныя арганізацыі ўзмоцніць работу па выхаваньню працоўных у духу сацыялістычнага *інтэрнацыяналізму,* умацоўваць брацкую дружбу народаў Савецкага Саюзу — найвялікшую заваёву сацыялізму, актыўна садзейнічаць узаемаўзбагачэньню культур народаў СССР, весьці няпрымірымую барацьбу супраць любых праяў нацыяналізму: месьніцтва, пропаведзі нацыянальнай выключнасьці й адасобленасьці, ідэялізацыі мінулага, усхваленьня рэакцыйных традыцый і звычаяў. Нацыяналізм па сваёй прыродзе варожы сацыялізму, марксыцка-ленінскаму сьветапогляду, дружбе народаў, супярэчыць аб'ектыўнаму працэсу разьвіцьця й збліжэньня сацыялістычных нацый.[12]

Дзеля паўніні абраза й паказу падобных партыйных дырэктываў у вабставінах Беларусі ня лішнім будзе прывесьці словы тагачаснага сакратара партыйнага бюра Саюзу пісьменьнікаў БССР Аляксея Русецкага зь ягонага дакладу на справаздачна-выбарным сходзе пісьменьніцкай арганізацыі ў лістападзе 1963 году. Русецкі казаў:

Асобныя творчыя работнікі, якія паддаліся нездаровым уплывам буржуазнага Захаду, пачалі, прыкрываючыся словамі аб выкрыцьці рэштак культу, прапаведваць ідэі агульначалавечай праўды й маралі, мэтафізычна шукаць нейкі адметны мастацкі стыль. А ў сваёй творчай практыцы яны, па сутнасьці, пачалі пераймаць прыёмы буржуазнага мадэрнізму й абстракцыянізму. Ня выпадкова, што сярод тых, хто ў нейкай меры пачаў адыходзіць ад асноўных ленінскіх прынцыпаў партыйнасьці й народнасьці ў літаратуры, аказалася моладзь.[13]

Гэтае зьвязваньне спробаў шуканьня паэтамі й пісьменьнікамі новых плыняў і творчых канцэпцыяў з уплывамі ідэяў Захаду — нічога іншага, як выпрабаваная партыяй форма шантажаваньня, тым больш небясьпечная й пагрозьлівая, што ўсякія абвінавачаньні ў арыентацыі на Захад лёгка могуць быць падцягнутыя пад катэгорыі каральных палітычных праступкаў. У запраўднасьці-ж прычынаў няўпыннага імкненьня паэтаў і пісьменьнікаў да творчае свабоды трэба шукаць ня ў уплывах ідэялёгіі й эстэтычных катэгорыяў мастацтва Захаду, але перш-наперш у прыродных асьпірацыях чалавека-творцы да поўнага й ніякімі дырэктывамі неабмежанага выяўленьня ягонае духовае існасьці.

---

[11] Аб чарговых задачах ідэалагічнай работы партыі. «ЛіМ», № 51, 25 чырвеня 1963.

[12] Тамсама.

[13] «Л і М», № 91, 15 лістапада 1963.

«Партыйнасьць і народнасьць мастацкай літаратуры — неад'емныя рысы мастацтва сацыялістычнага рэалізму»[14] — галоўныя сяньня лёзунгі Камуністычнай партыі ў дачыненьні да літаратуры й мастацтва. Народнасьць мастацкай творчасьці ў партыйным разуменьні — гэта таксама сынонім партыйнасьці, пад якой трэба разумець ня толькі прапагаваньне камуністычных ідэяў, але й служэньне актуальным і надзённым практычным патрэбам партыі. У гэткім вось пляне за часамі Хрушчова паўстала была на Беларусі паэзія кукурузы, рабіліся спробы паклікаць да жыцьця паэзію цаліны, хоць, праўда, бяз удачы, бо беларускія аўтары ўсялякімі спосабамі абміналі цалінныя тэмы, як і арганізаваныя партыяй кампаніі выезду на цаліну, моцна непапулярныя на Беларусі. Ужо пасьля ўпадку Хрушчова была зробленая на Беларусі спроба стымуляваць паэзію хіміі. Зь ініцыятывы «Литературной газеты» і «Літаратуры і Мастацтва» была 4 чырвеня 1965 году праведзеная ў Менску адмысловая канфэрэнцыя, пра характар і мэты якой паведамлялася: «На думку ўдзельнікаў сустрэчы — і самых пісьменьнікаў, і вучоных, і спэцыялістых — абавязак літаратараў, прытым абавязак нумар адзін — паказаць паэзію хіміі, людзей, якія працуюць у гэтай галіне».[15] Аднак гэтага «абавязку нумар адзін» беларускія пісьменьнікі ўжо ня выканалі: паэзія хіміі гэтак і не зьявілася.

Не зважаючы на ўсе гэтыя й да іх падобныя пастановы, перасьцярогі, заклікі й дырэктывы, пералічаць якіх няма змогі й патрэбы, жыцьцё йшло сваёй каляінай, а разам зь ім разьвівалася й мастацкая літаратура паводля ўзятага на парозе 60-х гадоў ідэйнага й мастацкага курсу. Працэс рэгабілітацыяў, што пачаўся ад рэгабілітаваньня імёнаў «зьліквідаваных» у 30-ых гадох паэтаў і пісьменьнікаў ды некаторых іхных твораў, што пачалі цяпераказ выцягвацца з архіваў і перавыдавацца ў стандартнай для рэгабілітаваных пісьменьнікаў форме «выбранага», пачаў штораз шырэй і глыбей ахапляць усю ідэйную й мастацкую існасьць літаратуры. Літаратура апошняга пяцігодзьдзя магла ўжо закранаць і разьвязваць даволі шырокае кола праблемаў прыватнага й грамадзкага жыцьця, асэнсоўваючы яго ня з вузка партыйна-палітычных, але з чыста людзкіх пазыцыяў.

На першае месца выступіла ў ёй праблема паўнавартаснага чалавека й чалавечнасьці, як натуральная рэакцыя супраць адмаўленьня гэтае чалавечнасьці ў панурых сталінаўскіх часох, ідэі людзкой дабрыні, прыгажосьці й паўніні жыцьця. Асуджэньне ўсяго таго ліха, што было зроджанае Сталінам, знаходзіла асабліва моцны рэзананс у творчасьці бадай-што ўсіх паэтаў і пісьменьнікаў. Вельмі часта падымалася праблема асуджэньня вайны ды, як антытэза да ваенных няшчасьцяў і разбурэньняў, усхваленьне мірнай стваральнай працы. Быў поўнасьцяй зрэгабілітаваны жанр чыстае лірыкі, а зь ёй прыходзілі да поўнага голасу сама інтымныя асабістыя пачуцьці й перажываньні. І нарэшце, побач з рэгабілітацыяй усіх гэтых агульналюдзкіх зьяваў у літаратуры, адбываецца працэс рэгабілітацыі й ейных чыста нацыянальных каштоўнасьцяў. У гэтым асноўная розьніца сяньняшняга літаратурнага працэсу ў нерасейскіх

---

[14] «Л і М», № 4, 12 студзеня 1965.
[15] Пісьменік-вёска-хімія. «Л і М», № 48, 16 чырвеня 1964.

народаў Савецкага Саюзу ад расейскай літаратуры, нацыянальная існасьць якой ніколі ня была загрожанай.

Прынятая ў 1961 годзе новая Праграма КПСС, дапушчаючы, як часовую зьяву, разьвіцьцё нацыянальных моваў «на аснове раўнапраўя й узаемаўзбагачаньня», паставіла ў тэзісным парадку канечнасьць і няўхільнасьць сьціраньня нацыянальных розьніцаў ды зьліцьцё ўсіх моваў у вадну мову будучага камуністычнага грамадзтва. Хоць гэтае «сьціраньне нацыянальных розьніцаў, асабліва моўных розьніцаў, значна больш даўгі працэс, чымся сьціраньне клясавых граняў», — цьвердзіла новая партыйная Праграма,[16] — тым ня менш гэтае ейнае прароцтва сталася грозным мэмэнто для беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў. Беспасярэдняй натуральнай рэакцыяй на тэзу партыйнай Праграмы пра будучае зьліцьцё нацыяў і адміраньне нацыянальных моваў сталася ў творчасьці беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў патрыятычная любасьць да ўсяго свайго роднага, нацыянальнага: да свайго краю, ягонай слаўнай мінуўшчыны, народнай традыцыі, а першнаперш да свае роднае мовы. Родная мова сталася прадметам асаблівага культу ў творах бадайшто ўсіх паэтаў і пісьменьнікаў. Узноў-жа як натуральная рэакцыя супраць ранейшай русыфікацыі беларускай літаратурнай мовы й наагул русыфікацыйнага шалу ў сталінаўскіх часох ува ўсіх галінах публічнага жыцьця Беларусі, беларускія паэты й пісьменьнікі пачалі й практычна ачышчаць сваю літаратурную мову ад уведзеных у яе расейскіх элемэнтаў ды выяўляць асаблівую руплівасьць у кірунку ейнае чысьціні й нацыянальнай апрычонасьці.

Характэрна, што некаторыя старэйшыя паэты й пісьменьнікі, як Пятро Глебка, Міхась Лынькоў або Кандрат Крапіва, творчае ўзвышша якіх прыпадала якраз на сталінскія часы й творчасьць якіх, шчыра ці ў моц абставінаў, ляяльна выконвала службовыя функцыі, цяперака, у новых абставінах, пераважна, ато й зусім адыйшлі ад мастацкай літаратуры ды заняліся галоўна навуковай і рэдактарскай дзейнасьцяй. Таксама й тыя літаратары, што ўжыцьцяўлялі ў сваёй творчасьці сталінскія дырэктывы не за страх, а за сумленьне, цяпер або зусім замоўклі, як Макар Пасьлядовіч і Тарас Хадкевіч, або й надалей з тым-жа сэрвілізмам выконваюць сацыяльныя заказы, як Ільля Гурскі (раманы «Улада Саветам» і «Народжаная бурай»), Уладзімер Карпаў (раман «Нямігі крывавыя берагі») або Рыгор Няхай (аповесьці «Героі не адступаюць» і «Сарочы лес»). Але на фоне сяньняшняе пераацэны ідэйных і мастацкіх каштоўнасьцяў ды прыходу да голасу чыста мастацкіх крытэрыяў, творы гэтых пісьменьнікаў, наагул нявысокага мастацкага ўзроўню, зусім не характэрныя для апошняга пяцігодзьдзя

Заданьнем гэтае працы — ня толькі нарысаваць агульны абраз разьвіцьця беларускай літаратуры ў першай палавіне 60-ых гадоў, але й паказаць на прыкладзе твораў паасобных паэтаў і пісьменьнікаў, як беларуская літаратура ў гэтым пяцігодзьдзі паступова вызвалялася з накінутай ей службовай ролі, ахапляла сваёй тэматыкай штораз шырэйшыя зьявы грамадзкага, нацыянальнага, прыватнага ды чыста асабістага жыцьця, пано-

---

[16] «Правда», 30 ліпеня 1961.

ваму іх асэнсоўвала зь людзкіх гуманістычных пазыцыяў ды наагул у сваім творчым працэсе старалася выходзіць з крытэрыяў мастацкіх, а не якіх-небудзь іншых.

## II

## ПАЭЗІЯ

Пераходзячы да агляду беларускае паэзіі за апошняе пяцігодзьдзе, спачатку трэба спыніцца на творчасьці старэйшага пакаленьня паэтаў, што былі актыўнымі ў літаратурным руху яшчэ перад вайной і ў сталінскіх часох ужо належалі да групы вядучых паэтаў. З гледзішча на літаратурны стаж, афіцыйную ролю ў літаратурным жыцьці, як старшыні Саюзу пісьменьнікаў БССР яшчэ ад 1944 году ды вялікую творчую актыўнасьць на працягу ўсяго пяцігодзьдзя, першым сярод вэтэранаў беларускай паэзіі трэба заняцца *Пятрусём Броўкам.*

Подыхі новых ідэяў, што выступілі ў творчасьці беларускіх паэтаў у сувязі з дэсталінізацыяй, не абмінулі й Пятруся Броўкі, хоць зазначыліся яны ў ягонай творчасьці ладна пасьлей і ня гэтак поўна, чымся ў іншых паэтаў асабліва сярэдняга й наймалодшага пакаленьня. Ужо ў моц свайго службовага становішча ды цешачыся поўным даверам партыі за асаблівую руплівасьць быць у згодзе з афіцыйнай лініяй на працягу ўсяе свае творчасьці, Броўка ў вапошнім пяцігодзьдзі знаходзіўся як-бы пасярэдзіне паміж перапевамі старога й гэнымі подыхамі новага. У першым выпадку выходзілі спад ягонага пяра вершы, пра якія крытык Якаў Герцовіч вельмі трапна быў сказаў, што «так пісаць можа кожны, хто адрозьнівае ямб ад харэю, дактыль ад анапэсту».[17] За адзін з цэлага мноства прыкладаў Броўкавага рымаваньня прапагандавых шаблёнаў могуць быць хоць-бы наступныя радкі зь ягонага цыклю «Верасень» з канца 1963 году:

Каторы дзень сьпякота запар,
І горача на сэрцы ў нас,
Рэспублікі чытаю рапарт —
Здала багаты плён у час.

І бачу я, як скрозь мяхамі
Напоўнены грузавікі,
Мяхі-ж сядзяць гаспадарамі,
І выгляд не абы-які.

Бо едуць пасланцамі года
На элеватары, на сход.
Ім віншаваньні ад народа.
Даўно чакае іх народ.[18]

---

[17] Якаў Герцовіч. Размова зь лірычным героем. «П», № 11, 1962, б. 182.
[18] Пятрусь Броўка. Верасень. «П», № 1, 1964, б. 4.

Ніяк нельга паверыць у шчырасьць паэтавых пачуцьцяў, каб здача ў час дзяржаўных нарыхтовак была віншаваная народам, як азнака ягонага шчасьця. Таксама ня можа крануць шчырай праўдай думка, выказаная ў тым-жа цыклі «Верасень», што тымчасам як у бацькаўшчыне паэты быццам шчасьцем «уся распранаецца зямля»,

На ўсёй зямлі-ж ня так сягоньня:
Я чую плач, як сьвішча біч,
Я чую выбухі ў Сайгоне
І ў Вашынгтоне нэграў кліч.[19]

Але побач з падобнымі трафарэтамі знаходзім і ў Броўкі штораз больш вершаў, у якіх ён штораз глыбей засярэджваецца на філязафічных разважаньнях над непрамінальнымі зьявамі грамадзкага й асабістага жыцьця. Наагул характэрнай рысай Броўкавых вершаў апошняга часу — выразная перавага рэфлексійнага элемэнту над эмацыянальным. Крытык Іван Ралько правільна адзначыў, што «больш глыбокая сьхільнасьць паэты да філязофскага роздуму — гэта ня толькі асабістая патрэба асэнсаваньня ўласнага жыцьцёвага вопыту, але й заклік эпохі, лепш за ўсё — тэй палітычнай і грамадзкай атмасфэры, якая склалася ў краіне пасьля асуджэньня культу асобы».[20]

Тэндэнцыя павароту да запраўднае паэзіі, як вартасьці незалежнае ад надзённае палітыкі, зусім выразна зазначылася ў Броўкавых вершах канца 1964 і пачатку 1965 году. Падхапляючы найбольш характэрную тады ідэю чалавечнасьці, паэта ў вершы «Аб сумленьні» зварачаецца як-бы да самога сябе, цьвердзячы, што

Жыцьцё — складанае. Бывае,
Што і памылішся ня раз —
І на крыніцу ападае
Смуга, пароша ў нейкі час.

Ня трэба-ж рассыпацца лісьцем,
Што ты заўсёды шчырым быў,
Бо можа быць і ты калісьці
Хоць раз душою пакрывіў.

І ведай, час пакуты здыме
І пасьвятлее воблік твой, —
Калі сумленны прад другімі,
Тады сумленны прад сабой.[21]

У некаторых сваіх апошніх вершах паэта выступае супраць прыводу новае вайны ды, як антытэзу да гэтае думкі, усхваляе мірную стваральную працу людзей. Характэрныя з гэтага гледзішча вершы «Магіла невядомага салдата» й «Скаргі зямлі», у якіх няма ўжо газэтных выпадаў супраць «заходніх падпальшчыкаў вайны», а праблема гэтая выступае ў ейным філязафічным асэнсаваньні.

---

[19] Тамсама.

[20] Іван Ралько. Паэты, вершы, час. «Маладосьць» (у далейшым — «М»), № 7, 1964, б. 130.

[21] Пятрусь Броўка. Аб сумленьні. «М», № 1, 1965, б. 3—4.

За новую рысу ў вапошніх Броўкавых вершах трэба ўважаць ціpэдкія ў іх элемэнты патрыятызму, пры гэтым патрыятызму ўжо нацыянальнага, зусім адрознага ад г. зв. савецкага патрыятызму, у палоне якога знаходзілася ранейшая паэзія Броўкі. Гэтак свой верш «Родная песьня» паэта пачынае словамі — «жыць безь цябе абыякава, сумна і цесна, о, як мяне ты ўзьняла родная, любая песьня», — каб, падчыркнуўшы ўсе непрамінальныя паштоўнасьці роднае песьні, закончыць верш гэткім патрыятычным акордам:

Ведаю, прыйдзе той час, пад курганом заначую,
Усё-ж, праз карэньні дубоў, родную песьню пачую.[22]

Асабліва цікавы з гэтага гледзішча верш «Багата, родная ты мова», у якім Броўка далучаецца да ўсіх паэтаў, што выказалі свае патрыятычныя дачыненьні да роднае мовы:

Багата, родная ты мова,
Цябе стварыў і ўзьнёс народ.
А вобразы якія ў словах,
А параўнаньняў што за ўзьлёт![23]

Пачаўшы такімі радкамі верш, паэта паказвае далей на прыкладах, узятых з народнае фразэалёгіі, якія неабмежаныя паэтычныя магчымасьці хавае ў сабе беларуская мова.

Побач зь ідэйным адсьвяжэньнем Броўкавай паэзіі йдзе й ейнае паэтычнае майстроўства. Ягоная наагул бязвобразная й беспачуцьцёвая паэтычная мова, што звычайна гарманізавала зь перавагаю думкі над пачуцьцём, тутака зазьзяла сьвежымі й арыгінальнымі вобразамі, а верш загучэў моцнай сілай пачуцьця.

Філязафічны роздум над зьявамі сучаснага жыцьця й собскім месцы ў ім характарызуе вершы гэтага пэрыду *Аркадзя Куляшова,* паэты няштодзённага таленту, выразнай арыгінальнасьці й высокай паэтычнай культуры. У 1961 годзе пачаў, а ў 1963 закончыў ён вялікі цыкль шаснаццацёхрадковых вершаў пад загалоўкам «Новая кніга», якая, паводля словаў крытыка Рыгора Бярозкіна, «пачынае... новы этап куляшоўскай творчасьці».[24] Гэтыя вершы дакладней назваць ня цыклем, а вялікай лірычнай паэмай, у якой ад пачатку й да канца разгортаецца адна суцэльная думка — вызначэньне актыўнай і адказной ролі самога паэты ў працэсе сучаснага духовага й грамадзкага жыцьця.

У вадным з найпрыгажэйшых вершаў цыклю «Ёсьць у паэта свой аблог цалінны» Куляшоў кажа, што закладзенае ў ягонай душы «думак прагавітае насеньне» знаходзіць заўсёды «сьпелае ўвасабленьне» ў ягонай творчасьці. Гэтае ўвасабленьне — у аптымістычнай веры паэты ў будучыню Зямлі, у перамогу дабра й справядлівасьці над злом і хвальшам,

---

[22] Пятрусь Броўка. Родная песьня. »М», № 1, 1965, б. 9—10.

[23] Пятрусь Броўка. Багата ты, родная мов. «П», № 8, 1965, б. 4—5.

[24] Р. Бярозкін. Вобраз чалавека, вобраз часу. Уводны артыкул да: Аркадзь Куляшоў. «Выбраныя творы ў двух тамах», т. 1, Менск, 1964, б. 18.

у закладзеныя ў чалавечай душы прыродныя элемэнты дабра. Узброены гэтай верай, паэта кідае выклік усяму злому й нізкаму на зямлі:

Ні перад злом, ні перад крывадушшам
Сьцяг белы я ніколі ня ўзьніму.

Ні перад хваль пагрозным хваляваньнем,
Ні перад сьмерцю, ні перад каханьнем,
Калі мяне ня мужным мараком
Яно захоча бачыць, а рабом.[25]

Асабліва вымоўныя фінальныя радкі цыклю, у якіх філязофія паэты знайшла сваё найвышэйшае завяршэньне. Усьведамляючы неабмежаную часам духовую моц свае паэзіі, гэнае «сьпелае ўвасабленьне» ягоных «думак прагавітае насеньне», паэта верыць, што й ён, увасобіўшыся ў сваёй паэзіі, будзе жыць вечна:

Быў пылам я ў імклівым карагодзе
Гадоў, трухой і зернем на таку,
Хацеў-бы век, які ўжо на зыходзе,
Забраць мяне з сабой, а я руку
Гарачую працягваю прыродзе —
З дваццатага ў трыццатае стагодзьдзе.[26]

Подых новага ў вершах Куляшова таксама ў беспасярэднясьці й глыбіні паэтавага натхненьня, у эстэтычнай насычанасьці кажнага ягонага радка, слова й вобразу. Паводля крытыка Івана Ралько, усё гэта — «непасрэдная рэакцыя на досыць моцна пашыраную ў часы культу асобы інфляцыю паэтычнага слова».[27]

У лютаўскім нумары часапісу «Маладосьць» за 1966 год надрукаваў Куляшоў два цыклі сваіх найсьвяжэйшых вершаў. Другі зь іх пад агульным загалоўкам «Маналог» прысьвечаны памяці паэтаў Зьмітрака Астапенкі й Юля Таўбіна, што сталіся ахвярамі сталінскага тэрору, можна ўважаць за найцяжэйшы прысуд над крыўдай і несправядлівасьцяй гэнага часу, які здабылася дагэтуль выдаць беларуская паэзія. Пра глыбіню духовага болю паэты й беспасярэднясьць ягоных перажываньняў, выказаных з воддалі больш чым двух дзесяткоў год, найлепш сьветчыць наступны зь дзевяцёх вершаў цыклю:

Сябры мае! Пад пустак дыванамі
Ці не абрыдла безназоўнасьць вам?
Дзе дзьверы, што замкнуліся за вамі?
Як вас знайсьці? Якіх пытацца брам?

Маўчыць нябыт каменных пліт паважных,
Дзе з надпісаў дажджы змываюць пыл,
Там я блукаў, але імёнаў вашых
Не адшукаў на вокладках магіл.

---

[25] Аркадзь Куляшоў. Выбраныя творы ў двух тамах, т. II, Менск, 1964, б. 78.
[26] Тамсама, б. 51.
[27] Іван Ралько. Аб жыцьці, аб людзях, аб сабе. «Зьвязда», 13 сакавіка 1965.

Няма куды сваю жалобу ўскласьці
Ні жонкам, ні знаёмым, ні бацькам.
Сябры мае, хіба аб гэткім шчасьці
У маладосьці марылася нам?

Вяло нас музы строгай блаславеньне
На шлях цяжкі, ды што казаць аб тым...
Я — ваша памяць, вы — маё сумленьне,
Я — дрэўка, вы — трывалы сьцяг на ім.

Аднаўляючы ў памяці гэныя «крутыя гады» зь іхнымі «бязьлітаснымі судамі», гады «бесчалавечнасьці», што «выпаліла рану на часе тым, што адышоў навек», Куляшоў беспасярэдня не асуджае й навет ня выказвае свае нянавісьці да людзкіх віноўнікаў народнае трагэдыі. Як і наагул усе паэты, што часамі прыгадваюць гэныя панурыя гады, Куляшоў навет не называе гэных віноўнікаў іхнымі імёнамі, а тым ня менш цяжар гэтага асуджэньня вычуваецца ў кажным слове, у кажным вобразе ягонага верша:

Лепш цяжка жыць, чым быць бадзёрым трупам —
Гарэць агнём, якога ўжо нямаш,
Былой уладай пахавальны марш
Забараняць іграць крытычным трубам.

Лепш вечны сон, чым гэткай явы сны.
Хай на парозе нябыцьця такога
Мяне ў калыску з труннае сасны
Кладуць жывога так, як няжывога.

«На самых высокіх нотах лірызму й драматызму напісаны „Маналог"», — гэтак трапна яго схарактарызаваў крытык і паэта Алег Лойка.[28] Узапраўды, гэта рэдкае, калі наагул не адзінае ў сваёй глыбіні асэнсаваньне ў нашай паэзіі народнага гора 30-ых гадоў.

Пасьлясталінская «адлега» й у сувязі зь ёй самарэгабілітацыйныя тэндэнцыі зырка выступілі ў ваднаго з найталенавіцейшых і найпрадуктыўнейшых сяньняшніх паэтаў — *Максіма Танка*. Ужо колькі год, як ён штораз больш вызваляецца ад службовае ролі ў сваёй паэзіі, якую за сталіншчыны выконваў не за страх, а за сумленьне й якая моцна скоўвала ягоны талент ды звужала кола творчых магчымасьцяў гэтага ў сваёй прыродзе вельмі дынамічнага паэты. Рэвалюцыйны патас, цірэдка штучны й шаблённы, і публіцыстычную лёзунгавасьць, якімі была перагруваншчаная ягоная паэзія раней, цяперака заступілі спакойная развага, жыцьцёвая праўда й глыбіня філязафічнае думкі.

На іншым месцы было ўжо адзначана, што ў сваім вершы 1963 году «Кесарава — Кесару» Танк даў і тэарэтычнае сфармуляваньне сваясаблівага суіснаваньня між службовасьцяй літаратурнага мастацтва й творчым сумленьнем паэты. Але вось у вадным вершы 1964 году ў дасьціпна-гумарыстычным тоне паэта заяўляе, што ён «не навучыўся выконваць сьлепа загадаў», ужо зусім не ўспамінаючы навет пра даніну «Кесару», бо

---

[28] Алег Лойка. Праблемы і клопаты паэзіі. «Л і М», № 32, 19 красавіка 1966.

для гэтае незайздроснае ролі «нямала... падхалімаў ёсьць спрытных і хітрых».[29] Падобную-ж думку выказаў Танк і ў кароценькай эпіграме таксама 1964 году:

У спрэчцы з крытыкам заўзятым,
З рэдактарам, зь яго сям'ёй,
Нат з роднай жонкаю, кумой
Быць можаш часам дыпляматам,
Але ў паэзіі, брат мой,
Ты мусіш быць самім сабой.[30]

Праўда, Танк і цяперака ў некаторых вершах усё-ж аддае, хоць і рэдка, сваю даніну Кесару, а таму ягоныя словы, што «не навучыўся выконваць сьлепа загадаў», трэба ўважаць у некаторай меры як паэтычную рыторыку, модную цяперашнім часам у СССР. Тым ня менш, у бальшыні сваіх вершаў Танк стаўся ўзноў самым сабой, такім, якім ён быў да верасьня 1939 году, калі жыў і пісаў у Заходняй Беларусі. Ён цяперака поўным голасам выказвае зусім прыватныя й асабістыя пачуцьці й думкі, разьвівае свае, узноў-жа чыста асабістыя пагляды на розныя зьявы й праблемы жыцьця.

Асобную й для Танка асабліва характэрную групу становяць аб'ектна-сюжэтныя вершы, вольныя ад якой-небудзь ідэялёгіі й праблемнасьці. У іх ён звычайна разгортвае нейкі абразок ці выпадак пераважна ізь сялянскага жыцьця або з народнага фальклёру, што надае гэтым вершам самабытна нацыянальны каларыт. Да найлепшых узораў такой аб'ектна-сюжэтнай лірыкі могуць быць залічаныя вершы «Зімовая казка», «На вечарынцы» й «Бабка». Дзеля прыкладу, гэты апошні прыводзім ніжэй:

Ходзіць бабка лесам-гаем,
У хусьціначку зьбірае:

Даланясты ліст кляновы —
Хлеб на ім пячы жытнёвы,

А дубовы ліст — для бочкі,
Каб хрумсьцелі агурочкі,

А бабоўнік кучаравы —
Каб ня страціць смак для стравы,

Ліст малінавы — для чаю,
Што ад кашлю памагае,

Жменьку ядлаўцовых ягад —
Для лячэбных кропель — брагі

Ад дакучлівай ламоты,
Рознай там непамыслоты...

Ачаплялася лістамі,
Ягаднікамі, імхамі,

---

[29] Максім Танк. З кнігі «Глыток вады». «П», № 2, 1964, б. 77.
[30] Тамасама, б. 80.

Што, як сядзе ў цень мурожны,
І вавёрка не адрозьніць:

Ці то бабка каля сьцежкі,
Ці пянёк, ці сыраежка?[31]

Як і наагул у творах сучасных беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, у вершах Танка асабліва часта выступае ідэя чалавека й чалавечнасьці, як антытэза да адмаўленьня гэтае чалавечнасьці сталінскімі часамі. Праблемы дабра, праўды й справядлівасьці, звычайна ў іхнай супрацьпаставе да зла, хвальшу й крыўды, захапленьні харавством прыроды, разважаньні пра існасьць паэзіі й ейную ролю ў жыцьці людзей і народу — далёка яшчэ ня поўны пералік тэмаў, найчасьцей апрацоўваных у сучасных Танкавых вершах. Пры дапамозе сьмелых і арыгінальных мэтафараў, прыраўнаньняў, эпітэтаў ды іншых мастацкіх прыхваткаў гэтыя думкі й пачуцьці Танк выказвае вельмі пуката й канкрэтна. Танку асабліва ўдаюцца вершы, у якіх ён гэтыя думкі й пачуцьці выказвае пры пасярэдніцтве паэтычных вобразаў, узятых із зьяваў роднае прыроды, фальклёру, быту й наагул з жыцьця беларускай вёскі. Ня ў дэклярацыйных запэўніваньнях у любасьці да роднага краю, не ў абстрактным захапленьні ягоным харавством, але ў вадчуваньні арганічнага зрадненьня з канкрэтнымі аб'ектамі беларушчыны выяўляецца Танкаў патрыятызм і нацыянальны калярыт ягонай паэзіі. Гэтак у мініятурным вершыку 1965 году выказвае паэта думку, што адно паэзія, арганічна зьвязаная з роднай глебай, можа быць запраўднай і паўнавартаснай паэзіяй:

Скрыпіць Зорны Воз ля аселіц.
Яго па мяне прыслалі
На нечае ехаць вясельле,
Пакінуўшы родныя далі.

Ды, каб я і даў сваю згоду,
Хто возьме рог — Нёман грымучы,
Цымбалы — жытнёвыя ўсходы,
Бор Пількаўскі — смык мой пявучы?

Бязь іх-жа, бяз гэтых прыладаў —
Няхай традыцыйных і звыклых —
Якая зь мяне каму радасьць,
Які зь мяне ў чорта музыка![32]

Нярэдка нейкі тыпова беларускі вобраз прыроды або эпізод зь вясковага быту, або ўзноў-жа нейкая характэрная сцэна із сялянскае земляробскае працы служаць ужо ня толькі фонам або мастацкім сяродкам дзеля канкрэтызацыі аўтаравае думкі ці ідэі, але йснуюць у вершы самыя для сябе, як зусім самастойныя тэмы. З апошніх Танкавых твораў такімі можна назваць вершы «Пах баравіковы»,[33] «Аўсяны кісель», «На кірмашы».[34]

---

[31] Максім Танк. Трыццаць вершаў. «П», № 3, 1962, б. 4—5.
[32] Максім Танк. Новыя вершы. «П», № 10, 1965, б. 11—12.
[33] Максім Танк. Новыя вершы. «П», № 2, 1965, б. 104.
[34] Максім Танк. Новыя вершы. «П», № 10, 1965, бб. 12 і 14.

Сярод сучасных беларускіх паэтаў Максім Танк належыць да найбольш няўрымсьлівых, можна сказаць, зайздросных шукальнікаў штораз новых спосабаў канкрэтызацыі мастацкіх сымбаляў. У бязупыннай эвалюцыі свайго таленту ён стараецца быць заўсёды непаўторным, самабытным і арыгінальным, і гэта, дзякуючы вялікай творчай фантазіі, яму звычайна ўдаецца. Танкава паэтычная мова вельмі канкрэтна-вобразная. Не зважаючы на ейную багатую мэтафарычнасьць, мова гэтая вельмі простая й натуральная, часамі быццам жыўцом узятая з народнае гутаркі. І ў гэтай вось прасьціні й натуральнасьці паэтычнае мовы, у арыгінальнасьці й непаўторнасьці вобразаў, у іхным нацыянальным калярыце, у звонкай музыцы слова хіба й хаваецца сакрэт, чаму Танкава паэзія гэтак моцна прамаўляе да чытача.

Асуджэньне Сталіна й сталінізму мела вельмі карысны ўплыў і на творчасьць *Пімена Панчанкі,* што раней, падобна як Пятрусь Броўка й Максім Танк, быў партыйным рупарам у беларускай паэзіі.

Пімен Панчанка быў і ёсьць паэтам наскрозь сучасным. Але паэтычнае асэнсаваньне гэтае сучаснасьці ў Панчанкавых вершах сяньня зусім іншае, чымся яшчэ колькі год таму. Яшчэ ягоны перадапошні зборнік «Чатыры кантынэнты», што быў выдадзены ў 1964 годзе, але абыймаў вершы, напісаныя да 1962 году, перагрувашчаны надзёнными партыйнымі лёзунгамі й газэтнымі штампамі. Апісваючы ў гэтым зборніку жыцьцё й сацыяльныя праблемы ў капіталістычных і адсталых краёх усіх чатырох кантынэнтаў, паэта тэндэнцыйна паказвае ў вадмоўным сьвятле навет зьявы бясспрэчна дадатныя. Прыкладам, апісваючы ў вершы «У царстве Форда» жыцьцё амэрыканскіх работнікаў, паэта ня мог абмінуць такой немалаважнай дэталі, што бадай усе гэтыя работнікі жывуць у собскіх утульных хатах. Каб гэтае сацыяльнае дасягненьне амэрыканскіх работнікаў зьвесьці наніштто, Панчанка кідае наіўную рэпліку:

Гарачы душ. Халодны лёд,
А колькі год выплачаваць?
Аж дваццаць год! Махлярскі ход!
А што, як права страчана?

Ня хочам мець ніколі мы
Утульнасьці такой.
Мы ўсім адгрукаем дамы
Савецкай талакой.[35]

Навет савецкі крытык Уладзімер Боган, рэцэнзуючы зборнік «Чатыры кантынэнты», уважаў за патрэбнае залічыць гэты верш да такіх Панчанкавых твораў, у якіх «глыбокі дыялектычны аналіз падмяняецца ў яго зьнешняй, а таму і неперакан аўчай крытыкай».[36]

Зусім інакш загучэлі Панчанкавы вершы, што зьявіліся ў 1964 і 1965 гадох у «Полымі». Гэтыя вершы таксама на сучасныя тэмы. Адзіным выняткам з гэтага — вершы на тэму апошняй вайны, але і ў іх ваенныя праблемы ўжо асэнсаваныя з чыста сучасных пазыцыяў. Прыкладам, верш

---

[35] Уладзімір Боган. Патрыятычная песьня. «П», № 2, 1965, б. 176.
[36] Тамсама.

«Франтавікі» адрысуе паэта нягэтулькі да мінулых гадоў вайны, колькі да сучаснасьці, як відаць з наступных ягоных радкоў:

А хто не паспрыяў людзкому шчасьцю,
Каго і сёньня гне халуйскі страх,
Дык той не франтавік, ня нашай часьці,
А недзе аціраўся у тылах.[37]

Тэматыка й праблематыка Панчанкавых вершаў багатая й разнастайная. У іх асабістыя перажываньні паэты-лірыка, разважаньні над рознымі зьявамі людзкога жыцьця, лірыка каханьня, уражаньні ад сучасных дасягненьняў навукі й тэхнікі, справы індустрыялізацыі Беларусі й шмат іншых пытаньняў, што ставіць сяньняшняе жыцьцё. Назет гарадзкім падмятальніцам, што «матчынымі рукамі, мыюць, як дзіця, наш горад»,[38] прысьвяціў Панчанка адзін зь лепшых сваіх вершаў. У гэтым багацьці й разнастайнасьці Панчанкавых зацікаўленьняў дамінуюць дзьве вузлавыя праблемы, што надаюць сяньняшняй ягонай творчасьці галоўны тон. Гэта — пачуцьцё любасьці да роднага краю й філязафічна асэнсаваная праблема чалавечнасьці.

Беларусь у Панчанкавым уяўленьні — гэта нейкі казачны край паэтаў, дзе «песьняроў — нібыта маку, аж статыстыка дае ў падліках маху», гэта

Край залатакосы, край зялёны —
Рык ласіны,
Звон пчаліны,
Мора лёну.
Там, дзе Сьвіцязь, там, дзе Прыпяць і Яселда,
Дзе танцуюць пад цымбалы на вясельлях;
Дзе жанчына, сінявокая і ласкавая,
Звонка чаравічкамі пляскавала.[39]

У прыгожым вершы «Родная мова» далучае Панчанка й свой голас да шмат якіх паэтаў, што ўслаўляюць родную мову й выступаюць у ейнай абароне:

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй зьнікнуць пара.
Для мяне-ж яна вечна жывая,
Як раса, як сьляза, як зара.

Гэта ластавак шчабятаньне,
Звон сьвітальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І бусьлінае клякатаньне.[40]

Гэткія-ж шчырыя й сардэчныя паэтавы пачуцьці, калі ён гнеўна асуджае хвальш і несправядлівасьць сталінаўскіх часоў ды ўслаўляе ў чалавеку праўдзівую чалавечнасьць. Вершы «Чалавечнасьць», «Асьцерагайцеся падробкі», «Паэма майго лесу», «Сумленьне» ды «За вогненымі вякамі» —

---

[37] Пімен Панчанка. Франтавікі. «П», № 5, 1965, б. 3.
[38] Пімен Панчанка. З кнігі «Тысяча небасьхілаў», «П», № 7, 1962, б. 55.
[39] Пімен Панчанка. Край паэтаў. «П», № 3, 1964, б. 57.
[40] Пімен Панчанка. Родная мова. «П», № 12, 1964, б. 8.

гэта грознае асуджэньне ўсяго хвальшывага й крывадушнага, а адначасна ўслаўленьне ўсяго праўдзівага й узвышанага:

Толькі-б захаваць
Усё найлепшае,
Толькі-б пахаваць
Усё найгоршае:
Бо без чалавечнасьці
Ня будзе і вечнасьці,[41] —

робіць выснаў паэта. У гэтых вось словах галоўная ідэя сяньняшняй творчасьці Пімена Панчанкі й ягоная жыцьцёвая філязофія.

Да гэтай групы старэйшых паэтаў прымыкае й *Аляксей Зарыцкі,* што, пасьля даўжэйшага перапынку, стаўся ўзноў творча актыўным, а ягоныя вершы й паэмы часта зьяўляюцца двума апошнімі гадамі на бачынах літаратурных часапісаў.

Пачаўшы друкавацца яшчэ ў 1927 годзе, Зарыцкі, як і ўсе паэты, што ацалелі ў пагромных 30-ых гадох, быў цалкам паставіў сваю творчасьць на службу тагачаснаму партыйнаму курсу. Гэтая ягоная службовая роля не магла не адбіцца адмоўна на ягонай творчасьці. Адно, што ўсё-ж часткава выратоўвала ягоную паэзію ад шаблённай рытарычнасьці й лёзунгавай дэклярацыйнасьці, было тое, што шмат якія ягоныя вершы выросталі з фальклёрнай паэтыкі й вызначаліся самабытнай сьвежасьцяй народнай паэзіі.

Аднак, хоць і пазьней за шмат якіх іншых паэтаў, бо толькі ў 1964 годзе, і ў творах Зарыцкага пачаў прасочвацца подых новае атмасфэры, вызваленае зь ідэйных і мастацкіх догмаў сталінаўскіх часоў. З гэтага гледзішча заслугоўвае на ўвагу ягоная паэма «Вяртаньне на Зямлю», як твор навукова-фантастычнага жанру, ці не адна з найлепшых, калі наагул не найлепшая лірыка-эпічная паэма Зарыцкага. У ёй філязафічна-пераконліва прагучэла поўным голасам ідэя чалавечнасьці, усемагутнае сілы чалавечага розуму, што ў паэтавай паэтычнай візіі падпарадкавала сабе ўвесь космас. Але для чалавека, народжанага на Зямлі, усё-ж найдаражэйшая Зямля, куды й варочаецца ён з космасу. У гэтым вось услаўленьні й кульце Чалавека зь вялікае літары, як усяго чалавецтва, і зьмяшчаецца тое новае, што прыйшло на зьмену нягоднаму культу чалавека-адзінкі.

Асуджэньне гэнага культу чалавека-адзінкі — другая новая рыса найнавейшых вершаў Зарыцкага. У вершы «Пасьля далёкай дарогі» паэта, вярнуўшыся з далёкай вандроўкі ў свой родны горад,

...убачыў, што там, дзе ён высіўся ў броньзе,
На плошчы Цэнтральнай адкрылі каток...
Тады не захацелася болей мне згадваць
І помнікі тыя, што ён пры жыцьці
Паставіў сабе для свайго праслаўленьня.
(Нізрынулі іх і ня ўзьняцца ім век!),
І тое пакутнае ўсё, што прынесла
Яго славалюбства бязьмежнае нам.[42]

---

[41] Пімен Панчанка. За вогненнымі вякамі. «П», № 5, 1965, б. 13.
[42] Аляксей Зарыцкі. Пасьля далёкай дарогі. «Беларусь» (у далейшым «Б»), № 4, 1964, б. 20.

Найглыбей і найшырэй, аднак, выявіліся азнакі новага часу ў патрыятычнай ідэі вершаў Зарыцкага, асабліва ў ягоным кульце роднае мовы. «Колькі ў табе нявызнаных скарбаў схавана, мова наша, пявучая мова», — натхненна ўсклікае паэта ў вершы «Скарбы»,[42a] і тым самым далучаецца й ён да ўслаўленьня шмат якімі іншымі паэтамі свае роднае мовы, як найвялікшае скарбніцы нацыянальнай існасьці народу.

*

У васобную групу даводзіцца выдзяліць рэгабілітаваных паэтаў, што былі жыўцом вырваныя зь беларускага літаратурнага руху ў пагромных 30-ых гадох. Ужо ў моц чыста біяграфічных абставінаў яны, аднаўляючы літаратурную дзейнасьць пасьля звыш 20-ёхгадовага вымушанага перарыву, цяперака як-бы нанава нарадзіліся як паэты, што не магло не адбіцца на некаторых мамэнтах іхнае далейшае творчасьці. Яшчэ важнейшым мамэнтам тое, што іхныя перажываньні ў часе выгнаньня таксама не маглі не знайсьці некаторага рэзанансу ў творчасьці. На ўзьверх усяго, не малаважным было й пашырэньне геаграфіі тэматыкі цяперашняй іхнай творчасьці, якая папоўнілася матывамі сібірскае тайгі й пайночнае тундры, бачанае вачыма выгнаньнікаў.

Рэгабілітаваны адным з апошніх, бо аж у 1958 годзе, адзін зь вядучых, тады яшчэ маладых, беларускіх паэтаў 20-ых год і галоўны мэтр літаратурна-мастацкага згуртаваньня «Узвышша», *Уладзімер Дубоўка,* адразу-ж пасьля рэгабілітацыі, не зважаючы на век (нарадзіўся ў 1900 годзе), разгарнуў больш, чымся ягоныя сябры па няшчасьці, інтэнсыўную паэтычную дзейнасьць. Якраз гэны 1958 і колькі наступных год былі асабліва плённымі ў ягонай творчасьці, як аўтара чыста арыгінальных твораў. Пасьлейшымі-ж некалькімі гадамі, побач з арыгінальнымі творамі, ня гэтак ужо частымі, паэта аддаў шмат увагі паэтычным перакладам твораў сусьветнае клясыкі, у тым ліку й галоўна Байрана й Шэксьпіра, паэтычнаму апрацаваньню народных казак, беларускіх і ўсходніх, а таксама жанру дзіцячай літаратуры. Самымі-ж апошнімі гадамі ўжо не знаходзім у друку ягоных арыгінальных твораў. А выдадзеныя ў 1965 годзе ягоныя «Выбраныя творы ў двух тамах» замыкаюцца ўжо творамі з найпазьнейшай датай напісаньня ў 1961 годзе.

Як ня дзіва, але заміж нянавісьці й нараканьняў на сваю долю, чаго трэба было-б чакаць, у Дубоўкавых творах, прысьвечаных гадом выгнаньня, знаходзім зусім процілежныя пачуцьці. Апрача частых дыгрэсіяў і падтэкставых думак у шмат якіх вершах, цалком гэтаму пытаньню ён прысьвяціў цыкль вершаў, дакладней лірычную паэму «Чакае ля берагу човен мяне» ды вершы «У дарозе» й «Нам некалі са смуткам знацца», усе напісаныя ў 1958 годзе. Гэтым апошнім вершам закончвае паэта й сваю аўтабіяграфію, надрукаваную ў зборніку «Пяцьдзесят чатыры дарогі», дадаўшы, што ў ім «найбольш дакладна сказана» пра гэныя часы. Нельга ня прывесьці гэнага наскрозь аўтабіяграфічнага верша й тутака,

---

[42a] Скарбы. «Б», № 9, 1964, б. 8.

бо якраз у ім найпаўней асэнсаваў паэта свае думкі й перажываньні часоў вымушанага вандраваньня:

І Волгу бачыў я і Дон,
багата рэк сібірскіх бачыў.
Такі мой лёс: зь юнацкіх дзён
ён вандраваньні мне прызначыў.

Вадзіў праз горныя хрыбты,
цераз Байкал і за Байкалам.
А хараства, а пекнаты —
аж цераз самы край бывала.

Жыві хоць лішніх сто гадоў —
красу праславіць немагчыма.
Патрэбна сотня мастакоў
ды ўсе каб зь яснымі вачыма...

Сьпявалі песьню мне вятры,
сьпявалі песьню навальніцы.
А казкі, спад крутой гары,
плылі люстранаю крыніцай...

У песьнях мне шумеў чарот
пра нарачанскія азёры.
У казках казачны народ
насіў лятункі аж на зоры...

Які-б цяжар ні быў калі,
на сэрцы гарката якая, —
ад гэных песень і быліц
яны крышыліся, зьнікалі...

З Грузінам жыў, як родны брат,
таксама жыў зь сібіракамі.
Затым сяброў усюды шмат,
а ў сьлед — ніхто ня кіне камень.

Ня вырываліся з рукі
ані сякера-ж, ні фуганак.
І зь кельняй браў размах такі,
каб ня было і зь ёй заганы...

Бяз працы я ня быў нідзе,
а праца нам і творыць долю.
Ні на зямлі, ні на вадзе
ня сумаваў я аніколі.

Бо ўсюды, скрозь — радзімы край,
варштаты ўсюды ёсьць для працы.
Сумуе вораг наш няхай,
нам — некалі са смуткам знацца.[43]

Маючы на думцы гэты й падобныя іншыя вершы, крытык Д. Бугаёў вельмі трапна зазначае, што «нават пра ўсе выпрабаваньні, што выпалі на ягоную нялёгкую долю, Дубоўка расказвае з гумарам, зь вясёлай усьмешкай пераможцы. За гэтай усьмешкай вельмі выразна адчуваецца «падтэкст» — вось якія каверзы падрыхтавала нам жыцьцё, а мы іх усё-ж адолелі...»[44]

У 1961 годзе выйшаў зборнік парэгабілітацыйных вершаў Дубоўкі «Палеская рапсодыя», які быў узнагароджаны літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы ў першым-жа годзе прысуджваньня гэтае прэміі. Як добра адзначыў Пятро Глебка ў сваёй прадмове да «Выбраных твораў» Уладзімера Дубоўкі выданьня 1959 году, з гледзішча на свае мастацкія якасьці, свае дачыненьні да жыцьця ды глыбокую нацыянальную самабытнасьць свае творчасьці паэта застаўся такім самым, якім ён быў і да свайго арышту ды выгнаньня ў 1930 годзе. Розьніца між ранейшым і цяперашнім Дубоўкам, паводля Глебкі, адно ў тым, што ягоны талент цяпер значна ўзмужнеў, а кола ягоных тэматычных зацікаўленьняў пашырылася. Да ўсяго гэтага варта дадаць і тое, што ў першых парэгабілітацыйных творах Дубоўкі куды больш дэманстраваньня савецкага патрыятызму й камуністычных акцэнтаў, чымся было раней. Навет з чыста фразэалягіч-

---

[43] Уладзімер Дубоўка. Выбраныя творы ў двух тамах. Т. I, Менск, 1965, бб. 253—254.

[44] Гісторыя беларускай савецкай літаратуры ў двух тамах. Т. I, Менск, 1965, б. 383.

нага боку падобных радкоў, як, прыкладам, «Камуністычнай працы — слава!», «Узьняты чырвоны штандар над зямлёй — Камуны Народаў Сусьвету», «Стварыўшы шчасьце, пройдзеш зь ім да сьветлай мэты — у камунізм», «Жадае шчасьця нам Масква», у зборніку «Палеская рапсодыя» шмат. Але трэба не забывацца, што гэта вершы яшчэ канца 50-ых гадоў, калі ня прыйшлі наагул да голасу новыя ідэйныя плыні ў беларускай літаратуры. Гэтак згадванае суіснаваньне паміж ідэялягічнымі й чыста паэтычнымі ды нацыянальнымі кампанэнтамі, характэрнае для паэзіі самага пачатку 60-ых гадоў, шырака выявілася ў Дубоўкі яшчэ ў канцы 50-ых гадоў.

Але ня гэтымі камуністычнымі й савецкімі трафарэтамі, а перш-наперш тэй жыцьцярадаснасьцяй, тым жыцьцясьцьвярджальным культам стваральнай працы й змаганьня, якімі вызначалася творчасьць Дубоўкі ў 20-ых гадох, характэрны зборнік «Палеская рапсодыя». Спэцыфічна Дубоўкаў сьветапагляд выражаюць, прыкладам, наступныя радкі з «Палескай рапсодыі»:

Вітаю ўсіх я шчырым сэрцам,
стаяць на месцы хто ня хоча,
хто ў далі новыя імкнецца,
хто сьцежкі новыя ўсё топча!

За імі пройдуць пасьлядоўцы,
сьцяжынка бойным шляхам стане!
Спрадвеку так ідзе пад сонцам:
дзе ўзьлёт, размах — там красаваньне![45]

Іншым добрым прыкладам Дубоўкавага сьветапагляду могуць быць наступныя радкі зь ягонай «народнай казкі» — «Хто дужэйшы?»:

Тады пазнаў вялікі сход,
што ні мароз, ні сьнег, ні лёд,
ні Вецер з Хмарай на чале,
ні Сонца ў казачным сьвятле
ня пераможуць сілы той,
якая ў працы ёсьць людзкой.
Людзкая праца — уладар.
Яна на сьвеце гаспадар![46]

Адзначаная Глебкам нацыянальная самабытнасьць Дубоўкавай творчасьці выступае перш-наперш у вобразах з народнага жыцьця, у пэрыфразаваньні народных казак, у вобразах беларускае прыроды й шчырай любасьці да роднага краю. Гэтая нацыянальная самабытнасьць выражаецца таксама ў паэтычнай мове Дубоўкі, якая вызначаецца крыштальнай чысьцінёй і багатая тыповымі народнымі выразамі.

Адзначаючы высокія мастацкія дасягненьні Дубоўкі ў ягоных новых вершах, крытык Д. Бугаёў зазначыў, што імкненьне да большай эпічнасьці, «да гранічнай яснасьці думкі й добрая стрыманасьць пісьмаператварюцца ў сваю адмоўную процілегласьць — залішнюю сухасьць і некаторую празаічнасьць паэтычнай мовы, як быццам пазбаўленай мускуля-

---

[45] Цяпер ня ў песьнях, а на яве. «Палеская рапсодыя», Менск, 1961, б. 37.
[46] «Палеская рапсодыя», б. 34.

туры».[47] Але-ж гэтая празаізацыя зусім сьведамы Дубоўкаў мэтад, як адзін із спосабаў мастацкай крыптаграфіі, пры дапамозе якога паэта падчыркнуў свае няшчырыя й чыста казённыя дачыненьні да савецкай рэчаіснасьці, якая ў моц абставінаў мусіла быць прысутная ў творы. Там, дзе гэтая рэчаіснасьць паэту ня перашкаджала, і ён выказваў свае асабістыя перажываньні, як, прыкладам, у цыклі «Чакае ля берагу човен мяне», маем бяздонную сваёй глыбінёй эмацыянальную насычанасьць, а там, дзе тэмай верша мусіла быць нейкая канкрэтная зьява гэтай рэчаіснасьці, выступае адзначаная Бугаёвам «залішняя сухасьць і некаторая празаічнасьць паэтычнай мовы», як, прыкладам, у вершах «Сакратар райкома», «Сталіца міру», «Першы спадарожнік», «Камуністычнай працы — слава!» й у некаторых іншых. Гэтую самую манеру празаізацыі й дзеля тых-жа самых мэтаў — сьвядомага, але глыбака зашыфраванага абясцэньваньня камуністычных і савецкіх каштоўнасьцяў Р. Склют падчыркнуў быў у творчасьці Дубоўкі яшчэ 20-ых гадоў.[48] Аказваецца, тым-жа самым мэтадам карыстаецца Дубоўка й сяньня. Дарэчы прыпомніць, што гэтым самым мэтадам празаізацыі шырака карыстаўся й Янка Купала ў 30-ых гадох, калі ўсё напісанае ім тады было «мізэрнае кольскасна, няшчырае, адчэпнае й бязвартаснае з мастацкага гледзішча».[49]

Другі вядучы беларускі паэта 20-ых гадоў узвышэнец *Язэп Пушча* быў рэгабілітаваны два гады раней за Дубоўку ў 1956 годзе, а нейкі час пазьней яму дазволена было вярнуцца на Беларусь і ўзнавіць паэтычную творчасьць. У 1960 годзе быў выдадзены ягоны зборнік «Вершы і паэмы», у які, апрача невялікай кольскасьці твораў 20-ых гадоў, увайшло ўжо шмат вершаў парэгабілітацыйнага пэрыяду ды колькі вершаў, што былі напісаныя ў гадох выгнаньня. А ў 1963 годзе выйшаў зборнік і вылучна парэгабілітацыйных твораў Пушчы «Пачатак легенды», пра які паэта Сяргей Грахоўскі пісаў: «Пачатак легенды» — сьветчаньне мужнасьці, аптымізму, нязгаснай сілы й працавітасьці паэты».[50] І гэта не зважаючы на зацяжную хваробу паэты, набытую яшчэ на выгнаньні, што ў палавіне верасьня 1964 году прывяла яго передчасна ў магілу.

У парэгабілітацыйных вершах Пушчы ўзноў загучэлі зь вялікай сілай патрыятычныя мэлёдыі, бязьмежная любасьць да роднага краю й адчуваньне арганічнай лучнасьці зь ім. Асабліва шмат вершаў 1956—59 гадоў, часта пісаных у форме санэту, прысьвяціў паэта Радзіме зь вялікае літары, пад якой разумеў найчасьцей ня цэлы Савецкі Саюз, а Беларусь, зь якой адчуваў сябе непарыўна зьвязаным пачуцьцём і перакананьнем. Гэтыя паэтавы думкі й пачуцьці можа добра праілюстраваць ягоны санэт 1957 году «Буду жыць»:

---

[47] Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, т. I, б. 378.

[48] Р. Склют. Мастацкая крыптаграфія ў нашай літаратуры. «Конадні», Нью Ёрк, 1954, № 2, б. 86.

[49] Ст. Станкевіч. Янка Купала. Жыцьцёвы й творчы шлях паэты. Уводны артыкул да зборніка: Янка Купала. «Спадчына», Нью Ёрк-Мюнхэн, 1955, б. LVIII.

[50] «П», № I, 1964, б. 178.

Народны лёс я завіваю у санэт,
Каб ён, жывы, чало Радзіме упрыгожыў.
Свайго народу дух высокі, сьветлы розум
Нясу у сьвет, як песьню радасьці паэт.

Хачу ў санэтах выткаць родныя узоры:
Крынічаньку, што рэчанькай у сьвет бяжыць.
Вякі мінуць, а я хачу у песьні жыць,
Пакуль у небе не паганснуць сонца, зоры.

Я прыпадаю да тваіх, зямля, грудзей
І прагна сок твой п'ю і веру у бясьсьмерце,
І б'ецца пульс і абуджае сьпеў у сэрцы.

Іду я да цябе, як радасьць да людзей,
Нясу і аддаю вянок жывых санэтаў,
Гарачым сэрцам і агнём душы сагрэтых.[51]

Як да савецкай рэчаіснасьці 20-ых гадоў Пушчава паэзія была нядвузначна апазыцыйная, гэтак і пасьля рэгабілітацыі ў васноўным засталася яна глухая на справы й патрабаваньні гэтае рэчаіснасьці. Калі ня браць на ўвагу двух ягоных вершаў 1960 году пра Леніна — «Жарптушка» й «Ленін»,[52] зусім зразумелых у дадзеных абставінах, дык ува ўсёй ягонай парэгабілітацыйнай творчасьці знаходзім усяго адзін-адзіны верш 1958 году «Слаўся, Радзіма», які можна закваліфікаваць як хваласьпеў ужо Радзіме — Савецкаму Саюзу, Камуністычнай партыі й Расіі, што «зь сёстрамі ў згодзе і разам з братамі сілы народаў зьяднала». [53] Зьмешчаны на чале выбраных «Вершаў і паэмаў», як мотто для цэлага зборніка, верш гэты, відаць, служыў прыказкавай «візай для друку».[54]

Загадкавы Пушчаў верш 1957 году «Песьня песень», што пачынаецца й канчаецца наступнай звароткай:

Хоць сьнегам бор занесен,
А сонца ў небе сінім.
Сьпяваю песьню песень
І сонцу і Расіі.[55]

Загадкавы таму, што ў творчасьці 20-ых гадоў Пушча нярэдка выказваў адмоўныя пачуцьці да Расеі, як віноўніцы ў гістарычных і сучасных крыўдах Беларусі. А ў сваіх аўтабіяграфічных нататках, рыхтаваных пасьля рэгабілітацыі ўжо, Пушча пра гэны час пісаў: «Ленінград зьдзівіў мяне

---

[51] Язэп Пушча. Вершы і паэмы. Менск, 1960, б. 117.
[52] Тамсама, бб. 147 і 148.
[53] Тамсама, б. 11.
[54] Пятрусь Броўка ў сваім дакладзе «XXII зьезд КПСС і задачы беларускай савецкай літаратуры» на 4-ым пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР 30—31 студзеня 1962 году, прапануючы «дэсталінізаваць» творчасьць Янкі Купалы, сказаў: «Мне думаецца, што з тых твораў, у канцы якіх словы «вялікі Сталін» былі проста прычэплены, *як віза для друку* (падчыркнута намі — С. С.), гэтыя словы, неабходна зьняць, бо самі творы добрыя і высокамастацкія, і ніякага дачыненьня да культу, апрача пэўнага прывеску, ня мелі. Можа мне скажуць, што гэта ня зусім навукова, але гэта правільна. Бо мы ўсе добра ведаем, як ставіўся да культу Янка Купала і зусім перакананы ў тым, што, калі-б ён жыў, ён з радасьцю зрабіў-бы гэта сам сягоньня» («ЛіМ», № 10, 2 лютага 1962).
[55] Язэп Пушча. Вершы і паэмы, Менск, 1960, б. 87—88.

сваім хараством, сваёй строгай і велічнай архітэктурай, сваімі палацамі, помнікамі. Мне было балюча, што ў Беларусі нічога гэтага няма, і гэта навеяла пэсымізм, які так выразна адчуваецца ў маіх ленінградзкіх вершах, якіх я напісаў даволі шмат».[56] Што прарасейскія акцэнты ў вершы «Песьня песень» былі няшчырыя, так ці йнакш вымушаныя на Пушчы, сьветчыць горкая гіронія, што выразна вычуваецца ў падтэксьце гэтага верша, як і нярэдка ў Пушчавай паэзіі 20-ых гадоў, калі ён пры дапамозе гіранічных прыхваткаў зашыфроўваў свае адмоўныя дачыненьні да савецкай рэчаіснасьці.[57] Пра гэта яшчэ лепш сьветчыць ягоны верш 1960 году «Валуны», у якім, у алегарычным вобразе паўночных валуноў, узяў ён моцны рэванш на «Песьню песень» і тым самым адклікаў выказаныя ў ёй хваласьпевы ў чэсьць Расеі. Вось гэты верш:

Уздоўж шляхоў-дарог сівыя валуны.
З паўночных гор гуртом спаўзьлі яны,
Ляглі на ціхі ўзгорак і прыкрылі лог.
Знаць, нездарма праклён: «Каб каменем ты лёг,
Наш вораг, тут, на полі,
І ўжо ня ўстаў ніколі».

Вы — сьветкі-помнікі ліхой пары-бяды;
Да аднаго зьбяром, пасадзім тут сады,
І зашумяць яны на сонечнай зямлі,
Калі абудзяць даль вясною жураўлі,
І ў ранак майскі росны
Раськінуць цьвет дзівосны.

Скалісты ледавік больш не спаўзе сюды —
Яго растопіць сонца, высахнуць сьляды,
І валуноў гурты ня будуць нас пужаць,
Ня будзе камень на грудзях зямлі ляжаць —
Разьмелюць часу жорны,
І вецер попел згорне.[58]

Алегорыя тут зусім выразная й нядвузначная: у алегарычным вобразе паўночных валуноў паэта разумеў ня што іншае, як тое ліха, што йшло на Беларусь з Расеі.

Зь іншых вершаў, у якіх наймацней прагучэлі нацыянальныя эмоцыі Пушчы, трэба ўспомніць вершы «Сьветлы Нёман-чарадзей» і «Белавежа».[59] У паэтычных вобразах гэтых геаграфічных аб'ектаў Беларусі — Нёману й Белавежы патрыятычныя эмоцыі паэты выліваюццца тут у сьвежай непаўторнай красе, родзяць у ягонай душы сьветлыя аптымістычныя настроі.

Зырка нацыянальны характар Пушчавай паэзіі й ейнае як быццам дэманстрацыйнае прамоўчваньне актуальных зьяваў савецкай рэчаіснасьці былі прычынай, што яшчэ за жыцьцём сваім паэта ня цешыўся асаблівай ласкай у партыйных дзейнікаў. Гэтак, калі зборнік парэгабілітацыйнае паэзіі Дубоўкі «Палеская рапсодыя» быў у 1962 годзе першым узнагаро-

---

[56] Тамсама, б. 8.
[57] Р. Склют, тамсама, бб. 84 і 87.
[58] «П», № 2, 1961, б. 160.
[59] Тамсама, б. 158—159.

джаны літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы, дык такі-ж Пушчаў зборнік «Пачатак легенды» ня быў навет прадстаўлены да ўзнагароды. У выдадзены у 1963 годзе зборнік аўтабіяграфіяў беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў «Пяцьдзесят чатыры дарогі» ня трапіла аўтабіяграфія Пушчы, якая праўдападобна навет рыхтавалася паэтам, як можна меркаваць з цытаваных вышэй Пушчавых аўтабіяграфічных нататак.

Калі ў верасьні 1964 году Пушча памёр, дык ані «Літаратура і Мастацтва», паза кароткім нэкралёгам Прэзыдыюму Саюзу пісьменьнікаў БССР, ані якая-небудзь іншая газэта ці часапіс ня прысьвяцілі памерламу паэту аніводнага артыкулу, хоць у часапісах «Полымя» й «Маладосьць» друкаваў ён бадай што ўсе свае парэгабілітацыйныя творы. Таксама аніводным словам ня былі адзначаныя ў беларускім савецкім друку й першыя ўгодкі Пушчавай сьмерці. А ў выдадзеным у 1964 годзе першым томе «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» творчасьці Пушчы прысьвечана ўсяго колькі радкоў у розных месцах кнігі, у якіх падчыркваюцца вылучна нэгатыўныя асаблівасьці Пушчавай паэзіі, ейныя славутыя «хваравітыя ўпадніцкія матывы» й адценьні «буржуазнага й дробнабуржуазнага нацыяналізму».[60]

Гэткім парадкам, не зважаючы на вялікую ўдзельную вагу Язэпа Пушчы ў беларускай літаратуры, ягоную літаратурную спадчыну пачынаюць сяньня выкідваць з гэтае літаратуры. Выглядае, што з мамэнтам сьмерці паэты як-бы скончыўся й пэрыяд ягонай рэгабілітацыі ды наступіў першы ў беларускай літаратуры выпадак *дэрэгабілітацыі.*

Рэгабілітаваны ў 1955 годзе паэта *Мікола Хведаровіч* выдаў у 1965 годзе аднатомнік сваіх выбраных твораў «Пасьля навальніцы», які абыймае творы паэты ад 1925 да 1961 году. Адразу паўстае пытаньне: чаму ў гэты аднатомнік не ўвайшлі Хведаровічавы вершы, што былі напісаныя пасьля гэнага 1961 году, але яшчэ перад выхадам аднатомніка? Калі прыраўнаваць вершы аднатомніка да вершаў, што зьявіліся ў літаратурных часапісах у 1964 і 1965 гадох, дык лёгка ўстанавіць, што якраз гэны 1961 год быў у Хведаровічавай творчасьці гранічным годам. Усё тое, што выйшла спад ягонага пяра пасьля, пачынае ўжо новы, сяньняшні пэрыяд Хведаровічавай творчасьці.

Валянцін Тарас, рэцэнзуючы ў «Полымі» Хведаровічаў зборнік 1961 году «Переразвон бароў», вершы якога ўвайшлі й у вапошні разьдзел успомненага аднатомніка, зусім трапна адзначыў, што кажнаму з рэгабілітаваных паэтаў «трэба было нарадзіцца другі раз яшчэ і як паэту. А гэта цяжка. Цяжка таму, што паэзія сёньня ня тая, якой яна была, калі выходзілі першыя вершы тых, пра каго йдзе гаворка. Акрамя ўсяго іншага, узрасла культура творчасьці, культура верша, якасна зьмянілася паэтыка».[61] Бо й запраўды, Хведаровічавым вершам першых парэгабілітацыйных гадоў яшчэ характэрныя паэтычныя хваласьпевы ў чэсьць партыі, г. зн. тое, што ў прыведзенай цытаце з рэцэнзіі В. Тараса вычуваецца пад словамі «акрамя ўсяго іншага», павярхоўнае апісальніцтва, ілю-

---

[60] Гісторыя беларускай савецкай літаратуры, т. I, бб. 16 і 43.

[61] Валянцін Тарас. Пераадольваючы сілу інэрцыі. «П», № 2, 1963, б. 183.

страцыйнасьць, спрошчанасьць і штампаванасьць думкі. Адны ўжо загалоўкі ягоных вершаў 1959—60 гадоў — «Партыя мая», «Камунізм», «Першамайка», «Зь Інтэрнацыяналам», «Камуністычная ракета», «Шляхамі героя» — прыгадваюць найчасьцей паўтараныя загалоўкі ў зборніках розных паэтаў сталінскіх часоў. А цыкль Хведаровічавых вершаў 1960 году, абнятых агульным загалоўкам «Беларусь», у якім патэтычна апяваюцца запраўдныя й уяўныя дасягненьні Беларусі, як вынік асаблівых клопатаў Камуністычнай партыі, жыўцом прыгадвае славутае «Пісьмо беларускага народу вялікаму Сталіну», што ўжо тады даўно было здадзенае ў архіў гісторыі. Ці ў гэтых анахранічных ужо тады перапевах мінулага дзеіла сіла інэрцыі, як думае ўспомнены рэцэнзэнт В. Тарас, ці была гэта вымушаная даніна за рэгабілітацыю, варажыць ня будзем. Адзначым адно вельмі цікавую зьяву: пасьля 1961 году на працягу двух наступных гадоў — 1962 і 1963 — Хведаровіч нічога новага не надрукаваў. А ў 1964 і 1965 гадох стаўся ён узноў творча актыўным і ў новых сваіх вершах зь ідэйнага й мастацкага бакоў зусім іншым.

У сваіх новых вершах Хведаровіч ужо траха поўнасьцяй аддае ўвагу прыватным праблемам і зьявам людзкога й асабістага жыцьця, аднаўляе ў памяці асабіста перажытае на працягу даўгіх год выгнаньня й працы на поўначы, становіцца больш праўдзівым і натуральным у паэтычным рэагаваньні на зьявы навакольнага сьвету. Пра адзін такі верш — «Ганю плыты» крытык Рыгор Бярозкін выказаўся, як пра «прыемную нечаканасьць». Ён пісаў: «Наўрад ці памылюся я, сказаўшы, што ніколі раней паэт не дасягаў такой чысьціні й сілы гучэньня, такой унутранай паўнаты й значнасьці, як у вершы «Ганю плыты».[62] Вось канцавая частка гэтага верша:

Яшчэ да прыстані далёка мне,
Як ад сапраўднасьці да казкі,
Пячора пеніцца, галёкае
І ліжа берат коўзкі, вязкі.
. . . . . . . . . . . .

Маё сьняданьне не заказана:
Я кухар сам — вару і смажу.
Я да плыта свайго прывязаны,
Хто гэты вузел мне разьвяжа?

Тут на ражне ласіна вяліцца —
Дабаўка да пайка сухога.
За стол са мной садзіцца раніца,
І болей тут няма нікога.

Мне дождж ці сонца — ўсё аднолькава,
На іх цяпер я ня крыўдую.
Жыву, як кажуць, і ня войкаю,
Надзею ў сэрцы ўсё гадую,

Што абміну глухія запані
І выйду зноў на родны бераг.
Хоць дождж то сьціхне, то накрапвае,
Расьце, мужнее мая вера.

---

[62] Рыгор Бярозкін. Паўгодзьдзе палымянскай паэзіі. «ЛіМ», № 55, 9 ліпеня 1965.

Стаю адзін над коўзкай сплоткаю,
Далёкай весткі ўсё чакаю.
Мая разлука не кароткая,
Дарога жвірыста-крутая.

Вакол усё лясы маўклівыя,
І скрозь, да самага аж мора,
Стырном сяку ваду імклівую,
А сум на дне тваім, Пячора.[63]

Высокую ацэну гэтага верша крытыкам Бярозкінам можна пашырыць і на вершы Хведаровічавы 1965 году «Успамін», «Каля Чорнай рэчкі» ды некаторыя іншыя, у якіх паэта ўваскрашае ў памяці цяжкія перажываньні над Пячорай, Енісеем і Чорнай рэчкай, асэнсоўваючы гэтыя перажываньні ўжо з пазыцыяў сяньняшняга дня.

Яшчэ мацней, чымся ў Хведаровіча, заважылі перапевы анахранічных ідэяў і вобразаў у вершах першых парэгабілітацыйных гадоў рэгабілітаванага таксама ў 1955 годзе *Алеся Звонака.* Ягоны апошні зборнік «Запаветнае» зьмяшчае, як зазначана ў анатацыі ад выдавецтва, вершы, напісаныя ў вапошніх двух гадох беспасярэдня перад ягоным выданьнем у 1961 годзе. Зборнік гэтак перапоўнены трафарэтнымі камуністычнымі лёзунгамі й шаблённымі элемэнтамі г. зв. савецкага патрыятызму, што на іхным фоне бляднеюць і губляюць усякую выразнасьць адлюстроўваныя ў шмат якіх вершах гады цяжкога пяражытага.

Калі Хведаровіч у сваіх вершах апошніх двух год здолеў усё-ж атрэсьціся ад падобных перапеваў і пайсьці з духам часу, дык Звонак не зрабіў бадай што й гэтага ўжо з тае простае прычыны, што ў вапошнім пяцігодзьдзі нічога з паэзіі не друкаваў у літаратурных часапісах. І толькі зьмешчаныя ў «Дні паэзіі» 1965 году два ягоныя новыя санэты прагучэлі ўжо новымі мэлёдыямі. Асабліва ў аўтабіяграфічным санэце «Мэта» выразна вычуваецца зусім новае й жыцьцёва глыбокае асэнсаваньне пяражытага ў гэных гадох выгнаньня, што дае асновы спадзявацца, што Звонак, калі будзе весьці далей сваю паэтычную дзейнасьць, магчыма ўжо ня вернецца на старыя пазыцыі.

Вельмі мала апошнімі гадамі быў актыўны ў паэзіі, а больш як крытык і аўтар успамінаў пра сваіх літаратурных сяброў рэгабілітаваны паэта *Станіслаў Шушкевіч.* Пасьля выданьня ў 1961 годзе апошняга свайго зборніка «Усьлед за марамі», Шушкевіч надрукаваў усяго колькі сваіх вершаў у № 4 «Полымя» за 1961 год ды пару вершаў у іншых пэрыёдыках у пасьлейшых гадох. Шчырай любасьцяй да роднага краю, захапленьнямі харастваом ягонай прыроды, а таксама пазбаўленасьцяй надзённых палітычных штампаў вершы гэтыя маюць у сабе выразныя азнакі новых плыняў у беларускай паэзіі.

Сярод рэгабілітаваных паэтаў асобнае месца належыцца *Максіму Лужаніну.* Арыштаваны й высланы ў 1933 годзе, ён яшчэ перад вайной быў вернуты з высылкі, але зноў друкавацца пачаў толькі ў часе апошняе вайны. Тады-ж і адразу пасьля вайны ён быў вельмі актыўны ў паэзіі, але

---

[63] «П», № 6, 1965, б. 103.

ўжо ў разгляданым намі пяцігодзьдзі вельмі мала займаўся ёю, а часьцей выступаў у кінадраматургіі й у жанры кароткага празаічнага апавяданьня. Надрукаваныя ў 1961 годзе ў № II «Полымя» ягоныя «Вершы 1961 году» яшчэ маюць на сабе ўсе азнакі паэзіі сталінскіх часоў, хаця тры найнавейшыя вершы «З новай кнігі», зьмешчаныя ў зборніку «Дзень паэзіі» 1965 году, вызначаюцца ўжо глыбокім і захварбаваным мяккім лірызмам роздумам над жыцьцём і самым сабой, характэрным для паэзіі сучаснага дня.

Але не паэзіяй і наагул ня творамі мастацкай літаратуры вызначалася Лужанінава роля ў літаратурным руху апошняга пяцігодзьдзя, а працамі літаратурна-мэмуарнага характару й крытычнымі артыкуламі. Выдадзеныя ў 1964 годзе дзьве каштоўныя ягоныя кнігі «Колас расказвае пра сябе» й зборнік артыкулаў і ўспамінаў «Вачыма часу» вельмі добра й карысна рэкампэнсуюць цяперашнюю ягоную пасыўнасьць у галіне паэзіі.

Арыштам і высылкай у 30-ых гадох была раптоўна й у самым зародку спыненая паэтычная дзейнасьць *Сяргея Грахоўскага,* і затым першы ягоны зборнік пад вымоўным загалоўкам «Дзень нараджэньня», што быў выдадзены ў 1958 годзе, становіць фактычна пачатак сыстэматычнай ягонай дзейнасьці ў галіне беларускай паэзіі. Сяньня Грахоўскі — аўтар чатырох зборнікаў вершаў, трэйці зь якіх — «Табе зайздросьціць сонца» — з 1963 году часткава, а апошні зборнік «Памяць», выдадзены ў 1965 годзе, ужо поўнасьцяй зьмяшчаюць вершы Грахоўскага апошняга пяцігодзьдзя.

Цяжкія жыцьцёвыя выпрабаваньні й пачуцьцё крыўды ня толькі не зламалі моцнай ад прыроды сялянскай натуры Грахоўскага, а, наадварот, загартавалі ягоны характар і ўзброілі яго багатым жыцьцёвым дазнаньнем. Пра гэта добра кажа ягоны праграмава-дэклярацыйны верш 1962 году:

Жыцьцё часамі мачыхай было:
Сьляпіла вочы, шчокі секла,
То праз чысьцілішча вяло,
То зноўку кідала у пекла.

А я ня здаўся, не зачах,
Не набрыняў атрутай злосьці,
Таму і сёньня у вачах
Гарыць іскрынкі маладосьці.

Таму так прагна я люблю
Жыцьцё, людзей і веру сьвята:
Што не пасьпеў зрабіць — зраблю
І пражыву другую рату.[64]

Паэтавы пакуты й цяжкія перажываньні ня выклікаюць у яго пачуцьця асабістай крыўды, ён, як зьвяраецца ў прыведзеным вершы, «не набрыняў атрутай злосьці». Гэтыя перажываньні ў сучасных вершах Грахоўскага як-бы зусім і не асабістыя, а агульныя для ўсіх ягоных равесьнікаў, якіх спаткала такая-ж, як і паэту, доля, ды навет як-бы перажываньні й крыўды ўсяго народу. Такое абагульненьне асабіста перажытага асабліва моцна падчыркнутае ў аўтабіяграфічным вершы «Памяць», ад якога атрымаў

[64] «П», № 9, 1962, б. 4.

назоў новы зборнік Грахоўскага. У вершы гэтым паэта ўспамінае сваіх равесьнікаў, няўрымсьлівых шукальнікаў праўды й гарачых энтузіястых новага жыцьця. І гэтыя ягоныя равесьнікі, найбуйнейшы цьвет пакаленьня, як кажа паэта,

Цяпер адны спраўляюць юбілеі,
Другіх скасіла сьмерць пад Ленінградам,
Пад Мінскам, пад Варшаваю, Бэрлінам,
А іншых — на дарогах Калымы...
. . . . . . . . . . . . . . .

Мы ведаем, што замянілі паўшых
На маршы, за канвеерам і ў полі.
А чым заменіш трапяткія сэрцы,
Што так любілі родную зямлю?

А чым заменіш неспакойны розум,
Што біўся да апошняе хвіліны,
Што ўрэзваўся ў глухую невядомасьць,
Што мог-бы неадкрытае адкрыць,

Што мог знайсьці гаючую вакцыну
Ад страшнай неадольнае хваробы,
Што растапіў-бы лёд у Запаляр'і,
Каб красавала і цьвіла зямля?

А колькі фізыкаў, паэтаў, астраномаў,
Няўрымсьлівых, лабастых, непакорных,
Сказаць галоўнай праўды не пасьпела.
І гэта ўсё — равесьнікі мае.[65]

Паэзіі наагул і самому сабе, як паэту, ставіць Грахоўскі высокія патрабаваньні. Ён уважае, што галоўнай передумовай запраўднай паэзіі — ейнае арганічнае зрадненьне з жыцьцём. «Патрэбна быць паэтам не за сталом, а у жыцьці»,[66] — заяўляе ён у вершы «Быць паэтам». Але найбольш глыбокае й патрабавальнае разуменьне існасьці паэзіі выказаў Грахоўскі ў вапошніх радкох свайго арыгінальнага верша «Як хлеб надзённы»:

Палёгак і ськівдак, паэт, не прасі ты —
Пачуцьці і словы
Прасейвай празь сіта

І што ні прыдумвай, і што ні кажы,
А вершы замешвай,
Як хлеб у дзяжы,

Каб пахлі аерам і пухам зямлі,
Каб хлебам надзённым
Заўсёды былі.[67]

Нажаль, часамі гэтае свае разумнае рады паэтам Грахоўскі не тарнуе да самога сябе. Прыкладам, у зборніку зьмешчаны даўгі верш «Тры вымя-

---

[65] Сяргей Грахоўскі. «Памяць», Менск, 1965, бб. 42 і 44.
[66] Тамсама, б. 107.
[67] Тамсама, б. 27—28.

рэньні», дзе гаворка пра тое, што было-б, калі-б ня было Леніна й рэвалюцыі, а таксама, што было-б тады, калі-б Ленін жыў яшчэ сяньня. На першае пытаньне дае паэта гэткі адказ:

Сядзеў-бы я і сёньня ў курнай хаце,
Тачыў-бы верацёны пры лучыне,
Насіў-бы лапці, зрэбныя кашулі
І вечным-бы нядоімшчыкам быў...
. . . . . . . . . . . . . . . .

А белы сьвет канчаўся-б за узгоркам,
І толькі-б не канчаліся нястачы,
І толькі крыўды, гора і зьнявагі
Я ў спадчыну-б унукам перадаў...
. . . . . . . . . . . . . . . .

Руда рудзела-б пад гарой Магнітнай,
Гула-б тайга на берагох Амура,
Каля Старобіна ляжалі-б сыльвініты,
А на Палесьсі панаваў каўтун.

У такім-жа наіўным адказе на другое пытаньне паэта робіць, між іншага, гэткі высноў:

А што было-б, каб Ленін жыў дагэтуль?
Нікога-б мы ня страцілі ніколі,
Пабудавалі-б, што збудуем заўтра,
Зрабілі-б больш і менш перажылі-б.
Ня ведалі-б трывог і недаверу,
Ня чулі-б пра унжлягі і сіблягі.[68]

Чытаючы гэтую сухую трафарэтную рытарычную публіцыстыку, міжвольна родзіцца такі-ж рытарычны адказ на аўтарава пытаньне, што калі-б ня было Леніна, дык ня было-б і Сталіна, а тады Грахоўскі й тысячы ягоных равесьнікаў не патрабавалі-б гібець на Калыме... Хоць верш гэты ўпяршыню надрукаваны ў № 4 «Полымя» 1964 году, калі ўжо перамаглі новыя ідэйныя плыні ў беларускай паэзіі, тым ня менш бяспрынцыповы сэрвілізм Грахоўскага пераходзіць тут усякія межы.

На шчасьце гэткіх вершаў у Грахоўскага ўсё-ж няшмат. Ягоная паэзія ў васноўным жыцьцясьцьвярджальная, паважная й аптымістычная. Паэта моцна верыць у жыцьцё, у людзкую дабрату. Адзін ягоны верш, гэтак і названы «Дабрата», канчаецца наступнымі радкамі:

Усё праходзіць, быццам дождж няроўны —
І боль, і злосьць, і дробная бяда,
А застаецца важны і галоўны
І самы сьветлы талент — дабрата.[69]

Апрача ўжо ўспомненых, глыбінёй думкі й шчырасьцяй пачуцьцяў вызначаюцца ў зборніку яшчэ такія вершы, як «Думка пра думку», «І мы сварыліся», «Сьнежань», «Размова з маці», «Хмель», «Нас разлучылі вёрсты

---

[68] Тамсама, бб. 51 і 52.
[69] Тамсама, б. 64.

і гады». У вадпаведнасьці з глыбінёй і паважнасьцяй зьместу, і сама форма вершаў Грахоўскага — сьціплая й простая, суровая й паважная, як і само жыцьцё.

*

Наступную групу складаюць паэты, што пачалі стаўляць першыя крокі ў літаратуры або перад самай вайной, або ў вайну, або ў першых паваенных гадох, а дасягнулі паэтычнай сталасьці ў той пераходны час другой палавіны 50-ых і першых 60-ых гадоў, калі пачала ўжо разьвейвацца ўдушлівая атмасфэра сталінізму. Гэтыя паэты складаюць сярэдняе векам паэтычнае пакаленьне, якое, разам з малодшым паэтычным пакаленьнем паэтаў, паводля абазначаньня Васіля Быкава, сяньня «самае дзеяздольнае».[70]

З гледзішча на літаратурны стаж мэтазгодна пачаць ад *Антона Бялевіча,* што выявіў сябе, як здольнага паэту, яшчэ ў часе вайны, а першыя паваенныя гады былі ўжо асабліва плённыя ў ягонай творчасьці. Але-ж гэта былі гады ўсяўладнага панаваньня сталінаўскага дагматызму й Ждануаўскай рэакцыі, што мела на мэце перасячы ў корані імкненьні паэтаў і пісьменьнікаў да захаваньня хоць-бы тае нязначнае творчае свабоды, якая была талераваная ў цяжкі й няпэўны ваенны час. Антон Бялевіч і тады, аддаючы сваю даніну патрабаваньням партыі, адначасна стараўся быць верным і свайму творчаму сумленьню.

Услаўляў і слаўлю я
Час наш пераможны.
А чаму пра салаўя
Мне пісаць няможна?[71] —

апраўдваўся Бялевіч у вадным сваім вершы яшчэ ў 1955 годзе. Але гэтыя словы ў роўнай меры датычаць і да тых першых паваенных год, і да пазьнейшага часу, і да цяперашніх дзён ягонай паэзіі, калі ўслаўленьне гэнага «пераможнага часу» ўсё яшчэ прысутнае ў Бялевічавай паэзіі побач із штораз званчэйшымі песьнямі «пра салаўя».

З нагоды свайго 50-цёхгадовага юбілею Бялевіч выдаў у 1964 годзе зборнік выбраных твораў «Высокі поўдзень», у які ўвайшло ўсё ягонае найлепшае, што было ім напісанае за папярэднія тры-чатыры гады. Але й пасьля гэтага зборніка зьявілася ў літаратурных часапісах цімала ягоных твораў, між імі цікавая нізка найнавейшых ягоных вершаў у № 6 «Полымя» за 1965 год.

Мала хто із сучасных беларускіх паэтаў гэтак арганічна зьвязаны зь вёскай, як Бялевіч. Натхненна апявае ён сялянскую працу на зямлі, уздымаючы яе да вышыні прадмету свайго культу. «Каб слава дружыла з табой праз гады, ты з працай здружыся, мой сын, назаўжды»,[72] — гаворыць ён у вершы «Запавет».

---

[70] Васіль Быкаў. Пяром аналітька. «М», № 2, 1966, б. 121.
[71] Антон Бялевіч. Высокі поўдзень. Менск, 1964, б. 51.
[72] Тамсама, б. 57.

Побач із сялянскай працай і вясковым побытам, паэта ня менш захапляецца хараством прыроды беларускай вёскі. У вершы 1963 году «Сталасьць» ён прызнаецца, што «самі лезуць у рыфму дубровы, бор стары на пясчаным грудку».[73] Сваё паэтычнае крэда сфармуляваў Бялевіч у вершы «Мае абавязкі», у якім, між іншым, кажа:

Мае абавязкі высокія ў тым,
Каб долі даць лёгкія крылы.
Каб сэрцы засеяць агнём залатым
І песьняй мяцежнае сілы.

Як дрэвы ў дуброве, цяністай, старой,
Зраднілі карэньні зь зямлёю —
Я гэтак, народ мой, зрадніўся з табой,
Зь вялікаю доляй тваёю.[74]

Крытык Рыгор Бярозкін зрабіў Бялевічу дакор, што ён, падчыркваючы сваю лучнасьць з народам, ня выходзіць з партыйных пазыцыяў сучасьніка.[75] Але-ж мастацкая праўда гэтага верша якраз у тым, што паэта адштырхнуўся ў ім ад гэных партыйных пазыцыяў.

Антон Бялевіч у сваёй паэзіі шырака выкарыстоўвае й матывы народнае творчасьці. І сюжэтнай канцэпцыяй, і паэтычнымі вобразамі, і складам мовы наскрозь народныя ягоныя вершы «Прыйдзі, мая харошая» й «Сьпее грэчка пры бары», а таксама й некаторыя радкі ў паэме «Рэха навальніц». Паэтычнае апрацаваньне элемэнту фальклёру ў Бялевічавай паэзіі наскрозь традыцыйнае. Дый наагул Бялевіч і ў сваіх беспасярэдніх выказваньнях, і ў практыцы сваёй творчасьці праціўнік усякіх пошукаў і экспэрымэнтаваньня ў галіне паэтычнай формы, як гэта добра паказаў крытык Іван Ралько.[76]

Падчыркнутыя вышэй тры асноўныя элемэнты — сялянскасьць, прыродаапісальніцтва й матывы народнае творчасьці надаюць Бялевічавай паэзіі шматхварбны нацыянальны калярыт.

Да бясспрэчна здольных, таленавітых і плённых паэтаў паваеннага часу належыць *Кастусь Кірэенка,* а як няўрымсьлівы шукальнік штораз новых спосабаў паэтычнае канкрэтызацыі ён — поўная супрацьлежнасьць Антону Бялевічу.

Кірэенкава творчасьць апошнімі гадамі была вельмі няроўная. Ягоныя вершы, у якіх ён намагаўся адклікацца на надзённыя патрэбы й дырэктывы партыі або, як прынята гаварыць, стараўся «йсьці ў нагу з часам», даволі штучныя, бясхварбныя, дэкляратыўныя й куды слабейшыя, чымся вершы, што выражаюць асабістыя паэтавы й прыватныя людзкія пачуцьці, настроі й перажываньні, інакш кажучы, вершы чыстае лірыкі. З катэгорыі г. зв. грамадзянскае паэзіі адно вершы пра мінулую вайну, у якой паэта прыймаў удзел і якую асабіста перажыў, гучаць жыцьцёвай праўдай і беспасярэднясьцяй пачуцьця. Ніяк нельга ўспрыймаць абыякава,

---

[73] Тамсама, б. 49.
[74] «П», № 6, 1965, б. 83.
[75] Р ы г о р  Б я р о з к і н. Паўгодзьдзе палымянскай паэзіі. «ЛіМ», № 55, 9 ліпеня 1965.
[76] І в а н  Р а л ь к о  Паэты, вершы, час. «М», № 7, 1964, б. 129.

прыкладам, наступнага вобразу зь ягонага верша «Поле», калі земляроб-салдат, будучы цяжка параненым на фроньце, вяртаецца ў родную вёску:

Моўчкі ён плуг зь зямлі адкапаў.
Злосна, бы ў пекле апошняга бою,
Першую ськібу на полі паклаў
Адною рукою.[77]

Затое ў вершах на надзённыя савецкія праблемы гэтай праўдзівасьці й глыбіні пачуцьцяў нямашака. Гэткім ў васноўным Кірэенкаў зборнік 1962 году «Смага», за які, дарэчы, была яму прысуджаная літаратурная прэмія імя Янкі Купалы, ды гэткім быў і наступны ягоны зборнік 1964 году «Жывыя ідуць наперад». Рэцэнзуючы гэты зборнік, Ул. Боган пісаў: «Недахопам новых твораў Кірэенкі трэба назваць рыторыку, залішне агаленую публіцыстычнасьць, за якой не адчуваеш аўтарскага сэрца».[78]

І толькі ў вершах 1965 году, надрукаваных вялікімі цыклямі ў двух нумарох «Полымя» — 4-ым і 7-ым — загаварыў Кірэенка зусім пановаму й дасягнуў запраўдных паэтычных узвышшаў. Агульныя бадай-што для ўсіх сяньняшніх паэтаў пачуцьці сардэчнай любасьці да роднага краю й арганічнага зь ім зрадненьня, шчырыя захапленьні непаўторным хараством ягоных краявідаў і зьяў прыроды — галоўныя крыніцы паэтавага натхненьня, як можна бачыць хоць-бы з наступнага верша, тыповага для ўсяе ягонае паэзіі 1965 году:

Не хапіла-б рук, не хапіла-б вачэй,
Каб абняць усю родную далячынь.
І гэты пляскотны чысты ручэй,
І гэту азёраў крохкую сінь,
І гэты стракаты ніў узор,
І небасхілаў дымную даль,
І гэту квецень калін на грудах.
Толькі ў сэрцы і можна адчуць,
Колькі багацьцяў даў табе край.
І тое, чаго ня змог дасягнуць,
І тое, якое — бяры выбірай,
Якое з маленства — як хлеб, як соль,
Як сьцюдзёнай са студні вады карэц,
Як матчына песьня, як радасьці боль,
Якому ў сэрцы гарэць — не згарэць...[79]

Гэткая вось варыяцыя пачуцьцяў і захапленьняў хараством навакольнага сьвету, іхная шчырасьць, беспасярэднясьць і нязвычайная пяшчотнасьць, а таксама звонкая музыка слова вызначылі найбольш характэрныя асаблівасьці новых Кірэенкавых вершаў. Яны глыбака хвалююць і захапляюць, бо ў іх, ня ў прыклад вершам, надрукаваным у двух успомненых зборніках, траха ў кажным радку вычуваецца трапяткое біцьцё паэтавага сэрца.

[77] Анталёгія беларускай паэзіі, т. 3, Менск, 1961, б. 369.
[78] «ЛіМ», № 49, 18 чырвеня 1965.
[79] «П», № 4, 1965, б. 6.

Калі ў вершах Кірэенкі й наагул у беларускіх сучасных паэтаў патрыятычныя пачуцьці звычайна асацыююцца з вобразамі й зьявамі прыроды роднага краю, дык *Мікола Аўрамчык,* хоць і рос, як ён кажа ў вершы «Родныя сосны», «сярод бронзастволых соснаў і сярэбранастволых бяроз»,[80] сваю любасьць да бацькаўшчыны зьвязвае з новаадкрытымі прыроднымі багацьцямі беларускай зямлі. Выдадзены ў 1963 годзе апошні зборнік ягоных вершаў «Сустрэча былых канагонаў», дарэчы ўзнагароджаны літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы, гэта — з аднаго боку — балючы ўспамін нявольніцкай працы ў шахтах Руры, куды быў трапіў паэта ў вапошнюю вайну, як нямецкі ваенна-палонны. З другога-ж боку — гэта, на фоне гэных успамінаў, шчырае ўслаўленьне працы беларускіх шахцёраў Салігорску й багатай натуральнымі выкапнямі Беларусі. Пачуцьцё гордасьці за родны край гучыць у бальшыні вершаў зборніка, але найбольш глыбокае й канкрэтнае сваё выражэньне знайшло яно ў наступным вершы:

Шмат хто рот на мой край разяўляў,
Нас выпальваў гарачым жалезам...
А казалі, што наша зямля
Толькі бульбай багата ды лесам.

Ажно ў нетрах яе заляглі
Скарбы вугалю, нафты і солі...
Як мы толькі паверыць маглі,
Не задумваючыся ніколі,

Каб у гэтай зямлі,
На якой
Зь веку ў век
У пажарах ваенных
Торф і лес камянелі наўкол,
Не захоўваўся вугаль каменны?

Каб глыбока у гэтай зямлі,
На якой людзі многа занадта
Палымянай крыві праліліі,
Ня было узгаральнае нафты?

Каб на гэтай зямлі,
Дзе жыве
Працавіты народ хлебасольны,
Што гасьціннасьцю ўсюды слыве,
Ня было хлеба з сольлю уволю?[81]

Новым і сучасным у гэтым вершы, калі льга так сказаць, ягоная палітычная нэўтральнасьць. Калі-б верш пісаўся ў атмасфэры часоў сталінізму, дык успомненыя ў ім дасягненьні Беларусі мусілі-б быць, як правіла, зьвязаныя з «бацькоўскімі клопатамі» пра яе калі ня «мудрага й любімага», дык прынамся «роднай партыі» й «бескарысьлівай дапамогай вялікага рускага народу». Тутака-ж гэтага нямашака, і таму верш хвалюе непадробленым і шчырым пачуцьцём. Ня менш кранаюць пачуцьцём паэ-

---

[80] «П», № 5, 1962, б. 11.
[81] Тамсама, б. 5.

тавай гордасьці за свой родны край апошнія радкі верша «Практыканты зь Ветнаму»:

А калі разглядвалі яны,
Як спрактыкавана ў падзямельлі
Беларус камбайнам саляным
Праразае дзіўныя тунэлі,

Я ўсьміхнуўся сам сабе тады:
Хто-б калісь паверыць нас прымусіў,
Што зь Ветнама
Будуць праз гады
Юнакі на практыку сюды
Прыяжджаць, у шахты Беларусі.[82]

Мікола Аўрамчык — адзін з рэдкіх у беларускай паэзіі, што, у моц жыцьцёвых абставінаў і дазнаньняў, стаўся натхнёным паэтам работніцкага асяродзьдзя. Ён цікавы й пасвойму арыгінальны таксама й з гледзішча на чыста мастацкія асаблівасьці свайго таленту. «Стрыманая, часам дзесьці на грані з прозай рытмічная плынь верша можа спачатку здацца нават крыху сухаватай, але гэта толькі на імгненьне, бо паэтычныя інтанацыі надаюць вершаванаму радку дынамічнасьць і пругкасьць, напаўняюць верш дыханьнем жывой чалавечай размовы, па-сяброўску даверлівай споведзі»,[83] — трапна ахарактарызаваў мастацкі профіль Аўрамчыкавага верша Іван Ралько.

У той час, калі адклікаючыся на зьявы й праблемы сучаснасьці, Мікола Аўрамчык дае ім глыбокае жыцьцёвае асэнсаваньне й ня зьніжаецца да публіцыстычных штампаў, дык бязмала аднолькавага зь ім веку й літаратурнага стажу паэта *Анатоль Вялюгін* знаходзіцца ячшэ ў палоне партыйнага сэрвілізму, характэрнага для паэзіі 50-ых і ранейшых гадоў. Гэта перш-наперш выявілася ў Вялюгінавай паэме «Вецер з Волгі», у якой апявае дзяцінства й юнацтва Леніна. Асаблівымі мастацкімі якасьцямі паэма ня вызначаецца, а часам сваім штучным патасам выклікае нат пачуцьцё нясмаку. Але паэта спрытна выкарыстаў палітычную каньюнктуру, калі, на зьмену адкінутага культу Сталіна, прыйшоў аднаўлены культ Леніна, і за гэта паэма «Вецер з Волгі» была ўзнагароджаная літаратурнай прэміяй імя Янкі Купалы.

Выдадзены ў 1964 годзе зборнік «Адрас любві» зьмяшчае Вялюгінавы творы, напісаныя за ўсе гады. Але вершы, напісаныя на пачатку 60-ых гадоў, сваёй ідэйнай ськіваванасьцяй зусім ня розьняцца ад вершаў ранейшых гадоў. Штучным патасам вее ад верша «Трысьнягі», калі паэта, вудзячы рыбу ў беларускім бродзе, чуе, быццам, на Кубе «чарнабародая свабода пяе, парваўшы ганцугі»,[84] або калі ў вершы «Музыка ў сьвеце» для паэты «будзённы дзень чырвоніцца нядзеляй, калі гаворыць Партыя са мной».[85] Дзеля аб'ектыўнасьці трэба ўсё-ж адзначыць, што некаторыя вершы пра падзеі партызанскага змаганьня, як «Парты-

[82] Тамсама, б. 7.
[83] Іван Ралько, тамсама, б. 135.
[84] «П», № 5, 1961, б. 5.
[85] «П», № 9, 1961, б. 12.

занская школа» або «Пячура», відаць, глыбака перажытага самым паэтам, гучаць праўдзіва й пераконліва.

Характэрныя для літаратурнай сучаснасьці новыя ідэйныя й мастацкія плыні шырака выявіліся ў творчасьці *Аляксея Русецкага* двух апошніх год пяцігодзьдзя — у лірычнай паэме 1964 году «Яго Вялікасьць» і ў цыклях лірычных вершаў, надрукаваных у 1965 годзе ў часапісах «Полымя» й «Беларусь». Каб у некалькіх словах паінфармаваць, што сабой прадстаўляе паэма «Яго Вялікасьць», найлепш прывесьці ейную характарыстыку, дадзеную Іванам Ральком:

> Твор гэты, бясспрэчна, значнае дасягненьне ня толькі мінулага году, але й вельмі прыкметная зьява ў беларускай паэзіі апошняга дзесяцігодзьдзя. Паэма «Яго Вялікасьць» — гэта ў пэўнай ступені гістарычны летапіс велічы й мужнасьці чалавека й чалавецтва ў барацьбе зь сіламі цемры й зла і адначасна, нават пераважна — біяграфія народу, краіны, веку ад Кастрычніцкіх гераічных дзён да эпохі асваеньня космасу, біяграфія пакаленьняў, прапушчаная праз сэрца й розум паэты».[86]

Ужо з гэтай кароткай, але вельмі дакладнай характарыстыкі відаць, што паэма «Яго Вялікасьць» — гэта спроба паэтычнага асэнсаваньня гістарычных дасягненьняў парэвалюцыйнай эпохі з пазыцыяў сяньняшняга дня. Лірычны гэрой паэмы — сам аўтар. Ён душой і сэрцам палкі рэвалюцыянэр і зацяты вораг капіталізму. «Я рэвалюцыяй з маленства жыў, я дыхаў ёю»,[87] — кажа паэта. Але гэты ягоны рэвалюцыянізм, узьведзены на вышыню людзкога ідэялу, усім сваім атрыём ськіваваны супраць дагматычнага рэвалюцыянізму сталінаўскага тыпу.

> Я — сын Рэвалюцыі мудрай, а шчыра
> сьхіляўся перад магутным кумірам,
> услаўленым песьняй і цяжкім гранітам,
> ды гэта пражыта,
> але не забыта.[88]

Вось выходны пункт, зь якога паэта ацэньвае сучасны яму гістарычны працэс. Гэны «магутны кумір», «услаўлены песьняй і цяжкім гранітам», быў у паэтавым разуменьні прычынай найвялікшага народнага гора, хоць ужо «перажытага», але «не забытага».

Праклінаючы ў гэтым «магутным куміры» або «ідале», як называе паэта Сталіна ў іншым месцы твору, усё зло эпохі, паэта супрацьстаўляе яму ідэю чалавечнасьці, увасобленую ў сучасным пакаленьні, у чалавеку зь вялікае літары. Адсюль і назоў паэмы «Яго Вялікасьць». Сама ідэя сяньня ўжо ня новая, яна агульная й найбольш вызначальная для ўсіх сяньняшніх паэтаў і пісьменьнікаў. Заслуга-ж Русецкага ў тым, што гэтую ідэю ён патрапіў выказаць з такой сілай перакананьня, у такіх войстрых вобразах і глыбокіх думках, як бадайшто ніхто іншы.

---

[86] Іван Ралько. Аб жыцьці, аб людзях, аб сабе. «Зьвязда», № 60, 13 сакавіка 1965.
[87] Аляксей Русецкі. Яго Вялікасьць. «П», № 6, 1964, б. 11.
[88] «П», № 7, 1964, б. 85.

Але паэма «Яго Вялікасьць» каштоўная й зь іншага ідэйнага гледзішча, зусім не адзначанага крытыкай. Рэвалюцыянізм, паводле сваёй прыроды, інтэрнацыянальны, мае ў паэме Русецкага й нацыянальны аспэкт. Ствараючы вобразы рэвалюцыі, паэта аж двойчы зьвязвае іх з традыцыяй паўстаньня Кастуся Каліноўскага: «... палымянны наш Кастусь зноў кіне кліч: — А волі час настане, чуеш, Беларусь»[89] — абнайдзейвае паэта змагароў рэвалюцыі, калі ўваходзіла яна ў крытычную фазу.

Каб летапіс чалавечай долі, выпісаны ў паэме, застаўся вечным, або, кажучы паэтавымі словамі, «каб нятленны ён быў, ня зьлізаў яго вецер часу, — я мовай матчынай вечнай пісаў». І далей паэта пяе натхнёны гімн роднай мове, якая «щуміць, жывая, ласкава, сурова, як мора, шырока шуміць мая мова».[90] Такім парадкам, у паэме Русецкага знаходзім сынтэз інтэрнацыянальнага й нацыянальнага, як зьяваў раўнавартасных, што гарманічна дапаўняюць адна другую.

Вершы Русецкага 1965 году надрукаваныя ў № 8 «Полымя», цікавыя й арыгінальныя тым, што ў іх паэта адкрывае праўдзівую паэзію ў зьявах, здавалася-б, наскрозь празаічных — у нябачных для вока працэсах біялёгіі й сухіх формулах мадэрнае фізыкі. У гэтай вось здольнасьці знаходзіць рамантыку паэзіі там, дзе для іншых яе няма, таксама азнака наскрозь сучаснага паэты, што імкнецца абняць сваёй паэтычнай увагай найшырэйшыя прасьцягі духовага й фізычнага жыцьця.

Вялікую ўдзельную вагу мае ў сучаснай беларускай падсавецкай паэзіі творчасьць *Сяргея Дзяргая.* За кнігу ягоных выбраных вершаў розных гадоў «Чатыры стыхіі», выдадзеную ў 1962 годзе, яму была прызнаная літаратурная прэмія імя Янкі Купалы. Гэты, а таксама й наступны ягоны зборнік «Сьвята ў будні», што выйшаў у 1964 годзе, былі даволі прыхільна ацэненыя крытыкай.

У сваім вершы «Родная мова», напісаным яшчэ ў пачатку ягонай паэтычнай дзейнасьці ў 1957 годзе, Дзяргай стаўляў перад сабой такую мэту:

Цябе, Радзіма, буду апяваць,
Пакуль аж ня ўздыхну я раз апошні.

А гэта таму, што паэта йнакш самога сябе й не ўяўляе, як толькі арганічнай часткай сваёй бацькаўшчыны:

Гук слова роднага... Ды гэта-ж і ёсьць.
Пах хлеба жытняга... То-ж Беларусь-айчына.
А я — твой сын, ад косьці тваёй косьць,
Кроў ад крыві тваёй, мая Айчына.[91]

У вершах Дзяргая асабліва моцна чуваць беларуская народная фальклёрная стыхія. Народныя матывы выкарыстоўвае паэта не традыцыйна, але на фальклёрнай аснове й у фальклёрным стылі стварае ён чыста арыгінальныя вобразы, асацыюючы іх з рознымі зьявамі жыцьця або

[89] «П», № 6, 1964, бб. 9 і 15.
[90] «П», № 7, 1964, б. 88.
[91] Анталёгія беларускай паэзіі, т. 3, Менск, 1961, б. 282.

выказваючы пры іхнай дапамозе свае думкі й ідэі. Добрым прыкладам гэтага можа служыць ягоны верш «Ой, бяда салаўю, бяда». У вершы гутарка аб тым. як салавей сваёй песьняй перамагае бяду за бядой, якія адно йшчэ паўбеды. Але вось спатыкае яго запраўдная бяда, калі салаўіха ўзамен за сваю любоў загадвае салаўю прыдбаць сабе ўдодаў чуб. Але ўдод згодзен аддаць свой чуб адно ўзамен за салаўёвую песьню. І салавей разважае:

Гукі песьні ў душы зьвіняць...
Як на чуб яе прамяняць?
Зь ёю, зь песьняй, жыцьцё хваліў,
Зь ёю ў небе зоры паліў,
Зь ёю зоркі ўначы гасіў,
Зь ёю росы буйныя піў...
Буйны кроплі расы ў лазе —
Кропля кожная — па сьлязе.

Думаў, думаў шэры бядак,
Думаў, думаў... прыдумаў так:
«Ці пагораю я бяду,
Ці насеньне сваё зьвяду.
Салавей толькі песьняй дуж,
Ну і гэту сваю бяду-ж
Ці ня песьняй...» І грымнуў, гэй,
Песьню звонкую салавей.[92]

Кажны сказ, навет кажнае асобнае слова, у вадпаведным кантэксьце ўжытае, атрымліваюць у Дзергаёвых вершах азначаную мастацкую функцыю: або завайстраюць вобраз, або ствараюць адпаведны гукавы эфэкт, або ўвыпукляюць нейкую думку ці выклікаюць патрэбную паэту асацыяцыю. Дзергаёў верш пабудаваны гэтак, што ў ім няма нічога лішняга, нічога прыпадковага. Хіба гэтую асаблівасьць меў на думцы Мікола Арочка, калі рэцэнзуючы апошні Дзергаёў зборнік «Сьвята ў будні», мэтафарычна выразіўся, што «душа паэты ня проста творыць, а *выпраменьвае песьню*».[93]

З гэтага гледзішча асабліва вымоўны верш на 80-ыя ўгодкі ад нараджэньня Янкі Купалы — «Над спакоем крыніц». Дзяргай гэтак містэрна авалодаў Купалавымі вобразамі й інтанацыямі, што верш ягоны ў кажнай із сваіх частак пераклікаецца із шмат якімі вершамі Купалы. Вось некалькі такіх вобразаў, вырваных зь Дзергаёвага верша:

І такі тут спакой
У старонцы лясной!
Цішыня!
Над спрадвечнаю пушчаю;
Толькі зрэдку ў кустах
Шасьне спуджаны птах,
Пройдзе лось
Сьцяжынай нявідушчаю.

---

[92] «П», № 7, 1961, б. 135.

[93] Мікола Арочка. Песьня шчырасьці і роздуму. «П», 5, 1965, б. 180.

Няцяжка адгадаць, што ў гэтых словах сьвядомае насьледваньне пачаткавых радкоў Купалавай паэмы «Курган».

I народ зразумеў
Гэты велічны сьпеў,
Бо ў тым сьпеве
Адбітак пакут яго,
Бо ў ім бачыў сябе —
Па цяжкой барацьбе —
На пачэсным пасадзе раскутага.

Тут ужо — рэха з Купалавага вершу «Маладая Беларусь» і зь песьні Лявона ў драматычным абразку «На папасе». А вось рэмінісцэнцыя з Купалавага верша «А хто там ідзе?»:

Колькі іх,
Колькі іх!
I сьляпых, і глухіх,
Век пагарджаных лёсам і доляю?
Не адзін міліён,
Не адзін міліён!
Выйшлі з думкай:
«Памру ці падолею».[94]

Гэтак унікліва й тонка Дзяргай схарактарызаваў Купалу купалаўскімі-ж вобразамі й словамі.

Зусім нядаўна *Аляксей Пысін* уважаўся ў літаратурных колах БССР за паэту, што не дасягнуў яшчэ поўнае творчае сталасьці й не знайшоў свайго месца ў беларускай паэзіі. I таму асабліва прыемна, што пра апошні, трэйці з чаргі зборнік вершаў Аляксея Пысіна «Мае мэрыдыяны», што выйшаў у 1965 годзе, крытыка загаварыла ўжо зусім іншымі словамі. Рэцэнзуючы гэты зборнік ды прыраўноўваючы яго да папярэдняга зборніка Пысіна 1959 году «Сіні ранак», Рыгор Бярозкін трапна адзначыў, што «Пысін ня проста вырас, — ён стаў прынцыпова іншым і новым».[95] Між іншым, гэтую Бярозкінаву ацэну зь яшчэ большым правам можна прыкласьці да цыкляў найнавейшых вершаў Пысіна, што былі апублікаваныя ў некалькіх нумарох «Полымя» за 1965 год.

Гэная «іншасьць» і «новасьць» сяньняшняга Пысіна, на нашую думку, перш-наперш у большай паважнасьці, глыбіні й натуральнасьці асэнсаваньня рэчаіснасьці ды ў арыгінальнасьці й самабытнасьці ейнага паэтычнага адлюстраваньня. Свае вобразы, думкі й перажываньні Пысін умее перадаць асабліва войстра, пуката й пераконліва пры ашчаднасьці слоўнага матарыялу. Прыкладам, бадайшто ўсе сяньняшнія паэты любяць падчыркваць сваё арганічнае зрадненьне з дарагой ім беларушчынай, што трэба ўважаць за натуральную рэакцыю на сталінаўскія часы, калі зь літаратуры бязьлітасна выпустошваўся ўвесь нацыянальны элемэнт. Але Пысін выказвае гэтыя патрыятычныя пачуцьці неяк пасвойму, з асаблі-

[94] «П», № 7, 1962, б. 3—6.

[95] Рыгор Бярозкін. З павагай да рэчаіснасьці. «М», № 6, 1965, б. 126.

вай вайстрынёй, як аб гэтым могуць сьветчыць хоць-бы дзьве наступныя звароткі зь ягонага зборніка «Мае мэрыдыяны»:

Ня ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да старых сосен за сялом,
Да яблынь, груш і вязаў...

Адно я знаю: гэткі меч
На сьвеце ня скуецца,
Каб мог ён вузел мой расьсеч,
Не закрануўшы сэрца...[96]

Пысін ня ўхіляецца ад выказваньня войстрых жыцьцёвых супярэчнасьцяў, што стварыла савецкая рэчаіснасьць. З гэтага гледзішча вельмі цікавы ягоны верш «Баркалабаўскія салаўі» пра вясковых дзяўчат, якіх вывозяць на цаліну. Дзеля мацнейшага заакцэнтаваньня нацыянальнага калярыту й прывязанасьці дзяўчат да роднае глебы, ад якой іх адрываюць, верш пачынаецца на мінорных радкох, удала спарафразаваных з народнае песьні:

Цячэ рэчанька,
Цячэ быстрая,
Скочу — пераскочу.
Аддай мяне,
Мая мамачка,
За каго я хочу...

Але суровая рэчаіснасьць зрыхтавала дзяўчыне іншую долю:

Ля чорнай кладкі плавала
Гусінае пяро.
Дзяўчыну з Баркалабава
Павезьлі за Дняпро.
Палонам ёй і згубаю
Той род чужы і дом.
Лепш кукаваць зязюляю
У матулі пад акном.[97]

Праўда, далей у вершы паэта намагаецца знэўтралізаваць адважна выказаную думку, загадваючы дзяўчатам, што едуць на цаліну, заміж роднай «Рэчанькі», сьпяваць песьню «пра Ангару», але гэтая дэталь вычуваецца тут лішняй і непераконлівай. Таму гэта бадайшто першы ў нашай паэзіі голас не пра казённую радасьць і энтузіязм моладзі, што едзе ўздымаць цаліну, а горкая праўда пра ейную незавідную долю.

Ужо зь іншага гледзішча вельмі цікавы Пысінаў верш «Домскі арган». Зачараваны магутнай музыкай арганаў у рыскай катэдры, Пысін далёкі ад атэістычных думак, якіх можна было-б спадзявацца ад савецкага паэты. Наадварот, ён перажывае ўзвышаныя пачуцьці й аддаецца глыбокаму роздуму аб жыцьці:

---

[96] Тамсама, б. 126.
[97] «М», № 6, 1964, б. 72.

Расступаецца насьпех падвечар
Старадаўны гатычны сабор.
І ўрываюцца мора і вецер,
Б'е галінамі пругкімі бор.
Гэта грае прыбой ракатлівы,
Гэта буру ўздымае арган.
І зьвіняць пералівы, прылівы,
Сум і радасьць нясуць берагам.
Абыдзённасьць патраціць уладу,
І — няма нейкіх дробных турбот.
Чуеш вечнасьці гулкай баляду,
Дум нязьдзейсьненых чуеш палёт.
Павяртаеш трывогу ўсё тую-ж —
Ці душою сталеў, ці старэў?
І аб чымсьці ў жыцьці пашкадуеш —
Разьмінуўся калісь, ня сустрэў.
Хай трывогі шчымлівыя сьпеюць,
Хай над летам рыдаюць бары...
Толькі-ж вочы заўсёды ясьнеюць,
Калі іх абмываюць вятры.[98]

Дзякуючы ляканічнасьці паэтычнай мовы й сьмелым, нярэдка ледзьве ўлоўным асацыяцыям паміж прадметамі й зьявамі, выабражэньне чытача змушанае напружана працаваць, каб улавіць і асэнсаваць глыбіню паэтавай думкі, містэрнасьць і арыгінальнасьць ягонага вобразу. Прыкладам, вобраз восені малюе паэта ўсяго двума радкамі:

У дубах салаўі адсьвісталі,
Адзьвінеў над плугамі жаўрук[99]

Таксама двума радкамі рысуе паэта й вобраз зімы:

Птушыныя гімны пад сьнегам заснулі,
Дрымотную пражу завеі прадуць.[100]

Тым ня менш, у нашым выабражэньні ўзьнікаюць поўныя вобразы й адчуваюцца настроі абедзьвюх пораў году.

Аляксей Пысін сваймі апошнімі вершамі знайшоў сваё месца ў беларускай літаратуры, як паэта глыбокае думкі й няпрыхарошанай жыцьцёвай праўды. Адначасна ён наскрозь арыгінальны й самабытны, як майстра паэтычнага слова. Усё, разам узятае, ставіць Пысіна ў вадзін рад з найздальнейшымі й найбольш таленавітымі беларускімі паэтамі сучаснасьці.

Побач з Пысінам трэба паставіць *Ніла Гілевіча,* месца і вага якога ў сучаснай беларускай паэзіі прыблізна такія-ж, як і Пысіна, і гэта як іхнымі падабенствамі, так і розьніцамі. Абодвы чулыя на актуальныя праблемы й зьявы агульналюдзкага, нацыянальнага й грамадзкага жыцьця, але кажны рэагуе на іх пасвойму. У той час, калі ў сваім рэагаваньні на зья-

[98] «П», № 11, 1964, б. 5.
[99] «П», № 3, 1965, б. 6.
[100] Тамсама, б. 4.

вы навакольнага сьвету Пысін больш інтэлектуальны, разважлівы, навет суровы, Гілевіч успрыймае жыцьцё больш дынамічна, эмацыянальна й беспасярэдня. Такім парадкам, Пысін і Гілевіч, будучы найбольш рэпрэзэнтацыйнымі беларускімі паэтамі сучаснасьці, узаемна сябе дапаўняюць.

Выдадзены ў 1965 годзе апошні й чацьверты з чаргі зборнік Ніла Гілевіча «Бальшак» зьмяшчае ў сабе вылучна вершы апошняга пяцігодзьдзя. У зборніку асабліва войстра й шырака распрацаваная тэма асуджэньня Сталіна й сталінізму, і гэта ня толькі ў нэгатыўным сэньсе — у паказе шкодных і праступных зьяваў, але й у сэньсе пазытыўным — у супрацьстаўленьні яму й рэгабілітаваньні тых каштоўнасьцяў, што былі патаптаныя й зьнявечаныя:

Зноў нам сьвецяць імёны,
      што здрадна
            былі перакрэсьлены,
Дарагія імёны,
      што праўдай зь нябыту
            ўваскрэсены, —
Іх сягоньня бяруць сабе плошчы,
      і школы,
            і крэйсэры.
І ніколі ўжо
      з памяці сэрца
            ня сьцерціся ім![101]

Беспасярэдняй рэакцыяй на жудасныя сталінскія часы, калі чалавек і ягоная годнасьць былі зьведзеныя на нішто, выступае ў вершах Гілевіча глыбокая ідэя чалавечнасьці, ідэя годнасьці, велічы й гэнія чалавека-творцы. Гэтая ідэя наскрозь пранізвае новыя вершы Гілевіча й знаходзіць найбольш зыркае сфармуляваньне ў наступным чатырохрадкоўі ягонага лірычнага цыклю «Сто вузлоў памяці»:

У палавіне веку,
Пракляўшы культ пакут,
Давер'я Чалавеку
Мы будзем славіць культ!..[102]

Паэтава ўяўленьне, што ліхалецьце хвальшу, крыўды й ганьбаваньня беспаваротна мінула, родзіць у яго моцную веру ў будучыню. Вымоўныя з гэтага гледзішча заключныя радкі ўспомненага цыклю «Сто вузлоў памяці»:

Вядзі-ж, вядзі мяне, хутчэй дарога,
Насустрач будучыні запаветнай —
Я моцна веру ёй, і гэтай веры,
Я знаю, хопіць мне на ўсё жыцьцё.[103]

Вось чаму Гілевічавы вершы заўсёды гучаць сьветлым аптымізмам і шчырай радасьцяй жыцьця. «Хаця чалавек нараджаецца з плачам, але

---

[101] Ніл Гілевіч. «Бальшак», Менск, 1965, б. 8—9.
[102] Тамсама, б. 86.
[103] Тамсама, б. 109.

нараджаецца ён, каб сьмяяцца».[104] — фармулюе паэта сваю жыцьцёвую філязофію ў вершы «Дарыце сонца». І таму ён верыць, што «вечна сонцу купацца ў лясных беларускіх крыніцах, і няўрымсьлівай песьні у вечным паходзе зьвінець»![105]

Усе паэтавы асабістыя й грамадзкія пачуцьці зьліваюцца ў пачуцьці наймагутнейшым і найбольш узвышаным — у пачуцьці любасьці да ўсяго свайго роднага, беларускага. Гэтае пачуцьцё ў паэты арганічнае, неадлучная частка ягонай духовай існасьці. Добрым прыкладам такога асэнсаваньня паэтавага патрыятызму можа служыць наступны верш із зборніка «Бальшак»:

Я хаджу закаханы
У твае краявіды,
І шапчу як прызнаньне:
О, мой край дарагі!
Зноў нясу табе ў споведзь:
І трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі,
І любоў, і грахі...

Пасьля доўгіх расстаньняў
І далёкіх вандровак
Я вярнуся навекі
Ў засень клёнаў тваіх.
Толькі з роднага долу,
Толькі ў роднай дуброве —
Як ня дрэвам, хоць кветкай
Прарасту для жывых.[106]

Прысьвечаны выдатнаму выканальніку беларускіх народных песьняў Міхасю Забэйду-Суміцкаму даўжэйшы верш «Спадчына» — гэта натхнёны гімн песьні. Наступныя радкі з гэтага вершу ў сваёй апотэозе роднае песьні мала маюць сабе роўных ува ўсёй беларускай паэзіі:

Часта думаю:
Што, каб ня матчына песьня?
Чым-бы дыхаў?
На холадзе чым саграваўся-б?
Папрасінцам, напэўна,
Бадзяўся-б па сьвеце,
Жабраком
Між чужых і радні
Пабіраўся-б.
. . . . . . . . . . . . .
Я хачу зьберагчы цябе,
Матчына песьня,
Каб запоўніць табою
Спусьцелыя душы!
Я хачу
Пасяліць цябе ў сэрцах
Нашчадкаў,
Каб ніколі мяне
Папракнуць не змаглі,
Каб было перад сьмерцю
Мне лёгка ад згадкі,
Што я жыў недарэмна
На роднай зямлі.[107]

Паэтычная мова Гілевіча, наагул простая й далёкая ад мэтафарычнай нязвычайнасьці, часамі, асабліва ў тых нярэдкіх выпадках, калі паэта паслугоўваецца белым, а нат і вольным вершам, бадайшто ня розьніцца ад штодзённае гутаркавае мовы. Паэтычная экспрэсія дасягаецца Гілевічам ня мэтафарычнай вобразнасьцяй, але пачуцьцёвай беспасярэднясьцяй і своеасаблівай лірычнай інтанацыяй мастацкага слова. Гэтая рыса, праўдападобна, вынік іншае асаблівасьці Гілевічавай паэзіі — ейнага палкага публіцыстычнага патасу. Наагул-жа, на аснове зборніка «Бальшак» і ранейшых кнігаў ягонае паэзіі, Гілевіч уяўляецца, як паэта з моцным публіцыстычным ухілам, што адразу-ж жыва рэагуе на актуальныя праб-

[104] Тамсама, б. 10.
[105] Тамсама, б. 14.
[106] Тамсама, б. 45.
[107] Тамсама, б. 41—43.

лемы жыцьця. Але з асаблівым націскам даводзіцца падчыркнуць, што гэтая публіцыстычнасьць высокай мастацкай якасьці й ня мае нічога супольнага із сьцёртымі газэтнымі штампамі.

Але вось у 1965 годзе на бачынах часапісу «Беларусь» зьявіўся ягоны «Вянок санэтаў», «Нарач», у якім публіцыстычны тон і дынамічныя выбухі ранейшых вершаў замяніла спакойная развага й духовая раўнавага. Гэтых якасьцяў вымагае ўжо строга рэгулярная форма санэту, тым ня менш у цыклі «Нарач» Гілевіч паказаў, што ён ня горшы, а мо нат яшчэ лепшы майстра і ў гэтым жанры. Усе чатырнаццаць санэтаў цыклю, прысьвечанага наднарачанскаму паэту Максіму Танку, пранізвае адна галоўная ідэя — кроўная любасьць да Нарачы, церазь яе — да прыроды беларускага краю, а ўзноў-жа церазь яе — да Беларусі наагул. Вось радкі, якімі канчаецца 7-ы санэт:

На сьвеце лепшага кутка няма,
Чым той куток, дзе маці нарадзіла.
Лепш за яго расьпяцца на крыжы,
Чым выракчыся, як бяздомны лыска,
Хто хоць куды з-за большага агрызка
Гатоў пабегчы — толькі пакажы.
Твой сын другім не прадаваў душы.
Ён тут радзіўся, ты — яго калыска.

Гэтую думку завершваюць пачаткавыя радкі 8-га санэту:

Ён тут радзіўся, ты — яго калыска.
А «дзе радзіўся — там і памірай».
Яго ня звабіць іншая прапіска —
Чужых кутоў размаляваны рай.[108]

Наагул-жа, «Вянок санэтаў Нарач», што замыкае Гілевічаву паэзію першай палавіны 60-ых гадоў, — гэта найвышэйшае ягонае мастацкае дасягненьне.

Важнае месца ў сучаснай беларускай паэзіі займае малады й вельмі плённы паэта *Рыгор Барадулін.* Пачаўшы друкавацца на бачынах часапісаў і газэтаў толькі ў 1954 годзе, ён ужо мае за сабой тры зборнікі вершаў. Апошні зь іх «Нагбом», што выйшаў у 1963 годзе, зьмяшчае вершы першых год разгляданага намі пяцігодзьдзя. Пасьля гэтага Барадулін надрукаваў у часапісах «Полымя» й «Маладосьць» шмат новых вершаў, што выходзяць у гэтым 1966 годзе чацьвертым ягоным зборнікам «Неруш».

Яшчэ ў самым пачатку 1963 году Барадулін выступіў быў у газэце «Чырвоная зьмена» з праграмава-дэклярацыйным вершам «Мая мова», распачынаючы ім выступленьні шмат якіх іншых паэтаў у вабароне роднае мовы перад наканаванай ёй партыйнай праграмай згубай. Гэты верш, як храналягічна першы ў вялікім сьцягу падобных вершаў, мае гістарычную вымову, а таму мэтазгодна яго прывесьці тут поўнасьцяй:

Сьцьвярджаюць гісторыкі і мовазнаўцы,
што паступова сьціраюцца грані нацый.
І, як перажытак, аджыць павінна абавязкова
мова маці маёй — беларуская мова,

---

108 «Б», № 8, 1965, б. 15.

што мне, як імя ўласнае, блізкая і знаёмая;
што па жылах маіх цячэ
і сонным Сажом і Нёманам.
Лісьце золатам сьпелым асыплецца з дрэў,
абагрэецца Поўнач сузор'ямі залатымі.
І калі нават мова мая адамрэ,
то ня зробіцца мёртвай латыньню.
Словы, дзе кожны гук
у цябе ўваходзіць як цьвік у бляху цынкавую,
ня змогуць стаць тэрмінамі мэдыцынскімі.
Нанова іх вывучаць будуць павінны,
каб даведацца,
Як за Радзіму радзімічы
жывата свайго не шкадавалі,
як у крыўду сябе
крывічы не давалі;
як Беларусь упоплеч з Украінай і Расіяй
гарачай крывёю прасторы продкаў расіла.
Калі мова мая
уліецца ў агульны людзкі акіян —
пацячэ ў ім, стрыманая,
маленькім Гальфстрымам,
і сэрца маё будзе грэць
кожным ашчадным словам.
Бо, як жыта, спрадвечная
беларуская мова.[109]

[109] «Чырвоная зьмена», № 9, 13 студзеня 1963. У «Дні паэзіі» 1965 году Барадулін надрукаваў новы варыянт гэтага верша, у якім значна аслабіў, хіба-ж ня із собскае ініцыятывы, а пад ціскам звонку, моц ідэйнага гучэньня. І так заміж выкінутых зусім радкоў верша:

Лісьце золатам сьпелым асыплецца з дрэў,
абагрэецца Поўнач сузор'ямі залатымі, —

устаўленыя наступныя радкі:

Я чакаю часіну сябрыны людзкой,
але не згаджуся, што родныя мовы луской
былі на рыбіне чалавецтва,
якая ў вечнасьць плыве акіянам вечнасьці.
Галеюць увосень гаі-касмачы,
па вясьне расьціскаюць лісты
свае кулачкі маладыя.

Далей заміж радка:

у цябе уваходзіць як цьвік у бляху цынкавую, —

уведзены радок:

Азяблай сініцай цінькае.

У новым варыяньце выкінуты зусім радкі:

як за Радзіму радзімічы
жывата свайго не шкадавалі,
як у крыўду сябе
крывічы не давалі;
як Беларусь упоплеч з Украінай і Расіяй
гарачай крывёю прасторы продкаў расіла, —

а на месца іх уведзены:

як Русь мая, белая
ад вясновай наквеці
і касьцей няпрошанай набрыдзі

А ў іншым вершы, надрукаваным у самым канцы таго-ж 1963 году, Барадулін пісаў: «Беларусь — мая мова і песьня».[110] Ідучы за традыцыяй Янкі Купалы, ён атоесамліваў гэтым сваё паняцьце Беларусі зь ейнаю моваю й нацыянальнай паэзіяй, у гэтай мове пісанай. Прыводзім таксама поўнасьцяй Барадулінаў верш пра родную мову «Неруш», бо гэтым словам ён назваў новы зборнік сваіх вершаў, што яшчэ адно мае выйсьці з друку:

Неруш ранішні роднага слова,
Мне шукаць цябе,
покуль гляджу
Пад зялёным крылом верасовак,
Пад крысом
і сьпякоты й дажджу.
Слова,
што як нарог для ратая,
Як для ластаўкі —
стромы вільчак;
Ад якога на небе сьвітае,
Ад якога ясьнее ў вачах.
А пашчасьціць натрапіць на неруш —
Зазьвіняць недзе промні наўзбоч.
Неруш свой
панясу я аберуч,
Як сьлязіну з матуліных воч.
Ад абразы,
да позірку злога,
Шлях заблытаўшы для насланьня,
Неруш мой,
нечапанае слова,
Мне, як бору,
цябе засланяць![111]

Асаблівую вымову маюць апошнія словы верша, у якіх паэта бярэ на сябе ролю ахоўваць родную мову, гэты «неруш роднага слова», «засланяць» яго ад усякага «насланьня».

Рыгор Бярозкін, цьвердзячы ў сваёй рэцэнзіі на зборнік «Нагбом», што «грамадзянскае высьпявае ў Барадуліну яшчэ недастаткова актыўна», «далейшае ўзмужненьне, далейшы рост» ягоны паставіў у залежнасьць ад таго, «наколькі пасьпяхова яму ўдасца ўзбагаціць і насыціць свой жыцьцясьцьвярджальны й яркі талент *высокім сэнсам* (гаворачы словамі паэты), духоўным, ідэйным зьместам эпохі, яе грамадзкім пафасам».[112] Затое кры-

---

з-пад чарапастых свастык,
вольнай воляй сваёй даражыла,
як з братамі і сёстрамі шчыра дружыла.

І наапошку, два апошнія радкі верша:

Бо, як жыта, спрадвечная
беларуская мова, —

замененыя ў новай рэдакцыі радкамі:

мая спрадвечная
Беларуская мова!

[110] «М», № 12, 1963, б. 8.
[111] «П», № 4, 1965, б. 8.
[112] Рыгор Бярозкін. Трэцяя кніга. «П», № 12, 1963, б. 174.

тык, ён-жа й паэта Анатоль Вярцінскі знайшоў у зборніку «Нагбом» якраз тое, чаго не заўважыў Бярозкін: «паэзія Барадуліна — гэта перш за ўсё паэзія роднай, бацькаўскай зямлі». [113] А гэтая рыса, добра падгледжаная Вярцінскім, якраз і ёсьць неад'емнай часткай актыўнай грамадзянскасьці Барадулінавай паэзіі. Таксама моцнае грамадзянскае гучэньне атрымлівае ў Барадулінавых вершах праблема міру й праблема неабмежанага шчасьця на зямлі.

Характэрнай асаблівасьцяй Барадулінавага таленту — войстрая канкрэтызацыя й эмацыянальная насычанасьць мастацкіх сымбаляў. Абстрактныя паняцьці й думкі паэта выказвае пры дапамозе канкрэтных вобразаў, запазычаных ад навакольнае прыроды, народнае творчасьці або вясковага побыту. Адсюль — багатая мэтафарычнасьць ягонае паэтычнае мовы, надаваньне прадметам і зьявам асаблівасьцяў жывых істотаў. Гэтак у яго «Ноч бліскавіцы выкрасала. Кракталі хмары крыгаталам» (верш «Русалка»);[114] «За вокнамі ходзяць цыбатыя ліўні, град буйнакаліберны шчапае гонты» («Арцель інвалідаў»);[115] «Неўзабаве зноў загаворыць Зямля на зялёнай мове лістоў поўнай шчырасьці і даверу» («Шыбы рады ад выбухаў мірных зьвіняць»);[116] або, успамінаючы сваё маленства, паэта піша: «калыску маладзік да поўначы на вострых рожках калыхаў» («Верасовачка»).[117] А вось у вадным з найпрыгажэйшых вершаў «Дзятлінка» гэтая тыповая краска беларускіх палёў у паэтавым уяўленьні ўспрыймаецца, як маладая дзяўчынка, і асацыюецца зь Беларусяй:

Дасьвецьце займаецца ціхае.
На лістох раса халодае.
Узьбегла на ўзьмежак,
задыхалася
Дзятлінка белагаловая —

Пляменьніца дзятла белагрудага,
Унучка завеі ўскудлачанай.
Сукню, што зелянеецца рутаю,
З канюшынай купіла у складчыну.

Ля дзяўчынанькі шчырэюць з раніцы
Чмялі —
сваты басавітыя.
Адвячоркам туман стараецца
Ногі ўхутаць сьвіткаю.

Навальніца прасторы вымые —
І дзятлінка зноўку клявае.
На чужыне асьветліць сны мае
Сваёй галавой бялявою.

---

[113] Анатоль Вярцінскі. Канкрэтнасьць паэтычнага бачаньня. «М», 4, 1964, б. 132.
[114] «П», № 8, 1964, б. 99.
[115] Тамсама, б. 1000.
[116] Тамсама, б. 103.
[117] Тамсама, б. 102.

Дзятлінка сьнежнарутая,
Як сьляза па Радзіме,
чыстая...
Таксама і Беларусь мая
На ўзьмежках цьвіла
і выстаяла.[118]

У вершы гэтым ужо ня толькі эмацыянальна насычаны вобраз, але ў вапошніх ягоных радкох і глыбокая нацыянальная думка аб тым, што й Беларусь, як тая палёвая дзятлінка, хоць і «на ўзьмежках цьвіла», а не на ўрадлівай і вырабленай ніве, а ўсё-ж «выстаяла», г. зн. перамагла ўсе жыцьцёвыя выпрабаваньні.

Эмацыянальнай насычанасьцяй вершаванага радка й нацыянальна-самабытным характарам сваёй паэзіі блізка стаіць да Пысіна, Гілевіча й асабліва Барадуліна, хоць і розны ад іх гістарычнымі зацікаўленьнямі, *Уладзімер Караткевіч*. Паэтычную дзейнасьць ён пачаў у 1955 годзе, а ў 1958 годзе выдаў свой першы зборнік вершаў «Матчына душа», а ў 1960 другі — «Вячэрнія ветразі». Але ў канцы 50-х і пачатку 60-ых гадоў перастравіўся ён на жанр мастацкае прозы, аб чым будзе мова на сваім месцы. Але й паэзіі Караткевіч усё-ж не пакідае, друкуючы, хоць рэдка, але з добрымі вынікамі, і вершаваныя творы.

Караткевічавы вершы хвалююць глыбокім і шчырым лірызмам, захварбаваным элегійнымі настроямі й рамантычнай узвышанасьцяй. Найчасьцейшымі матывамі ягонае лірыкі — кроўная зродненасьць з бацькаўшчынай, дарагой яму кажным вобразам, кажнай зьявай зь ейнае мінуўшчыны. Як прыклад ягонай паэзіі, вазьмем «Чорную баляду Гаркушы», зьмешчаную ў «Дні паэзіі» 1965 году. Верш пачынаецца й канчаецца гэткімі радкамі:

Як махровая сажа ў хаце курной,
Чарнела вакол імгла.
Чалавек у цэлі сядзеў пад зямлёй,
Трэці год у цэлі сядзеў пад зямлёй,
Пажыцьцёва ў цэлі сядзеў пад зямлёй...
Бяз іскры сьвятла.

Паэта, пераказваючы цярпеньні, думкі й перажываньні легэндарнага гэроя Беларусі, узвышае ягоную мужнасьць і бязьмежную любасьць да бацькаўшчыны:

Потым барву зарніц глытала імгла,
І пад покрывам буры сухой
Беларусь, як макава поле, цьвіла.
Кожны мак — пажар над страхой...
Сіні сьпеў жаўрука... Аранжавы звон...
Мёд... Валошкі... Зіхоткі шлях...
Андаракаў фанды... Вясёлак агонь...
Сонца б'ецца ў зялёных збанах...
Згасае, згасае вясёлкавы плёс.
Памяць! Памяць! Малю! Малю!!!
Аднаві мне фарбы палёў і нябёс,
Аднаві мне маю зямлю.

---

[118] Тамсама, б. 99.

Ад мяжы, над якой месяц дрыжыць,
Да мяжы ў заходняй крыві,
Ад сіняй мяжы да барвянай мяжы
Аднаві! Аднаві! Аднаві ! ! !

Іншы паэта, таксама вельмі чулы лірык, *Алесь Няўроцкі* выдаў у 1962 годзе першы й дагэтуль адзіны свой зборнік «Неба ўсьміхаецца маланкаю», што зьмяшчае пераважна вершы канца 50-ых гадоў. У першым пяцігодзьдзі 60-ых гадоў ён стаўся мала актыўным у паэзіі, хаця ягоныя вершы, што ў гэтым часе зьявіліся ў друку, карысна вызначаюцца шчырымі інтымнымі эмоцыямі й мэтафарычным мысьленьнем.

Спасярод паэтаў малодшага пакаленьня цікава вызначаецца *Артур Вольскі*. Тыя ідэйныя й мастацкія плыні, што пасьля засуджэньня сталіншчыны йшлі на зьмену палітычна-партыйнаму элемэнту ў літаратуры, у творчасьці Артура Вольскага выявіліся ў выразнай пераваза нацыянальна-патрыятычных матываў. Патрыятызм Вольскага пераважна геаграфічнага характару: вазёры, рэкі й пушчы Беларусі хвалююць паэту непаўторным харaством і родзяць у ягоным сэрцы пачуцьцё любасьці да роднага краю. Гэтак адзін із сваіх вершаў 1963 году ён пачынае радкамі:

І нашто цягаюцца за межы? —
Кажа друг мой, сталы чалавек —
Аднае зубрынай Белавежы
Хопіць нам усім на цэлы век...

Калі-ж яму й даводзіцца бываць у далёкіх краёх, дык ён пачуваецца там адно часовым госьцем, і нат тады думкамі й сэрцам жыве ў родным краі. І верш канчаецца гэткай звароткай:

Я пайду туды, дзе водар сьвежы.
Да маіх лагодных дрэў і траў.
І скажу: За межы, Белавежа,
Я цябе з сабой у сэрцы браў ! ..[119]

У вершы 1964 году «Толькі сэрца вызначыла граніцы» Вольскі гэтак-жа натхненна апявае харaство Нарачы, заяўляючы, што калі-б ён «мог нанова нарадзіцца», дык «нанова нарадзіўся-б тут». Далей паэта пералічае: «А каб раптам птахам нарадзіўся, пэўна нарадзіўся-б куліком» — птушкай, што водзіцца над Нарачай; «Каб я раптам зоркай нарадзіўся, у гэтай-бы адбіўся чысьціні»; а калі-б нарадзіўся валуном, дык «на гэты бераг прыкаціўся, нават і ня гнаны лядніком». Гэтыя пачуцьці любасьці да роднага краю, навееныя харaством Нарачы й канкрэтна выказаныя вобразамі з куліком, зоркаю й валуном, абагульнівае паэта ў канцавой звarотцы верша:

Водар твой, настоены сасною,
Я глытаю, нібы мёд з карца...
Беларусь!
Я назаўжды з табою —
Ад пачатку і да канца![120]

---

[119] «М», № 3, 1963, б. 47—48.
[120] «М», № 7, 1964, б. 68.

У самым пачатку 1966 году надрукаваў Артур Вольскі невялічкую навукова-фантастычную паэму «Плянэта без магіл», у якой выкарыстаў модную сяньня тэму пра дасягненьні чалавека ў космасе. Але выкарыстаў вельмі арыгінальна, бо ў сваёй фантазіі, якую назваў «навагоднімі лятуценьнямі», паказаў у напалавіну жартаўліва-гумарыстычным тоне, як за некалькі стагодзьдзяў, у эпоху панаваньня камунізму ў цэлым сьвеце, будзе выглядаць ягоная родная Беларусь. Увесь космас будзе тады гэтак асвоены, як сяньня Зямля, а падарожжы ў сусьветны прастор стануцца штодзённымі зьявамі. Адрозным ад жыцьця на Зямлі будзе тое, што людзкі арганізм у сусьветным прасторы ня будзе паддавацца дзеяньню часу, і чалавек, знаходзячыся ў ім, зусім ня будзе старэць. І вось гэрой паэмы — сам аўтар, «шлях зрабіўшы ў некалькі тысяч віткоў, апынуўся ... у Менску наступных вякоў». І тут знайшоў ён рэальныя зьдзяйсьненьні такіх дзіваў людзкой фантазіі, якія пакідаюць далёка з-заду ўсе абяцаньні камуністычнай прапаганды. Тут і гарэлка, калісьці прычына людзкіх бедаў, цяперака адно «ў музэі, у ваддзеле атрут»; тут вайсковае справаводзтва ваенкамату — «у архіве» й «гістарычным кіно»; навет усе хваробы зьнішчаныя камуністычнай мэдыцынай, што Зямля сталася «плянэтай без магіл», як гаворыцца ў загалоўку паэмы.

Але сярод гэтых дзіваў паэту непакоіць першым чынам думка, а якая-ж тут мова ў людзей? «Пытаньне ўсур'ёз» — разважае ён, — бо «ніякіх слоўнікаў я ня прывёз».

Раптам радыя голас дайшоў да мяне:
— Калі ласка, таварыш! Да Вашых паслуг...
І тлумачыць мне ўсё клапатліва, як друг.
Нібы рэха, даносіцца з розных бакоў:
— Калі ласка!..

Тут і зьедлівая іронія на сяньняшняе палажэньне, калі ў афіцыйным жыцьці беларускай сталіцы мовы беларускай бадайшто не пачуеш, але тут і паэтава вера, што, наўсуперак камуністычнай тэорыі пра адміраньне нацыянальных моваў і іхным зьліцьці пры камунізьме ў вадзіную сусьветную мову, родная беларуская мова несьмяротная. І гэтай мове ён пяе натхнёны гімн:

О, вечная мова бацькоў!
За мяне ты старэй,
за мяне маладзей.
Безь цябе я ня меў-бы
ні мар, ні надзей.
Безь цябе —
мне далей у жыцьці
ні на крок!
Безь цябе —
мне назад
толькі ў холад і змрок...[121]

Гэтак і Артур Вольскі далучае свой голас да агульнага гімну бадайшто ўсіх беларускіх паэтаў у чэсьць роднае мовы й да ейнае абароны супраць наступу на яе.

---

[121] «М», № 1, 1966, б. 8.

Вялікі творчы ўздым, што зазначыўся апошнім часам у беларускім літаратурным жыцьці, вярнуў да паэтычнай актыўнасьці *Янку Непачаловіча,* які, здавалася, ужо зусім быў адыйшоў ад літаратурнага жыцьця. Пасьля надрукаваньня ў 1958 годзе першага й дагэтуль адзінага зборніка сваіх вершаў «Мера любві», прыхільна ацэненага крытыкай, прозьвішча паэты бадайшто зусім не зьяўлялася на бачынах літаратурных часапісаў. І толькі ў 1-ым і 12-ым нумарох «Полымя» за 1965 год зьявіліся новыя вершы Непачаловіча, а ў пачатку 1966 году ягоныя вершы знаходзім у 3-ім нумары таго-ж «Полымя» ды ў 1-ым і 3-ім нумарох часапісу «Беларусь».

У новых Непачаловічавых вершах вычуваюцца йшчэ значныя ідэйныя супярэчнасьці й хістаньні паміж духам сучаснасьці й нядаўнае мінуўшчыны. Прыкладам, ягоны верш «Партыя», «Сібір» і некаторыя іншыя носяць на сабе азнакі партыйнага сэрвілізму. Але ў бальшыні ягоных новых вершаў выразна чуваць ідэі й настроі сяньняшняга дня, і якраз яны найбольш характэрныя для ягонае сучаснае паэзіі. Сярод іх зьвяртае на сябе ўвагу верш наступны:

О, павучаць людзей умелі,
Як гаспадарыць на зямлі.
Хоць самі плавалі на мелі,
З вышынь камандаваць маглі:

Каму і колькі сеяць лёну,
Ячменю, проса і аўса,
І колькі гусак па закону
Павінен абслужыць гусак,

Што мець зімой патрэбна сані —
Жыць можна летам без саней,
Што нават больш сьвініны стане,
Калі паменш трымаць сьвіней...

Вось так дурылі нам галовы,
Калі што сеяць, як што жаць,
А самі вопыт шматвяковы
Ня ўсюды ўмелі паважаць.

Павінен помніць нават гэній,
Не забываць аб тым нідзе:
Вучыць людзей патрэбна меней,
А больш вучыцца у людзей.[122]

Гэта ўжо нязвычайна войстрая й у гэтай сваёй вайстрыні бадайшто адзіная ў беларускай паэзіі сатыра на партыйных верхаводаў і іхныя недарэчныя сельскагаспадарскія экспэрымэнты, якімі стараліся ашчасьлівіць калгасьнікаў ня толькі ў сталінскіх, але й у нядаўных хрушчоўскіх часох.

Так сама пасучаснаму гучыць Непачаловічаў верш «Запаўняючы анкеты». Такой-жа кусьлівай сатырай заатакаваў у ім паэта савецкую анкетную палітыку. Заміж нязьлічоных бюракратычных пытаньняў, што зву-

---

[122] «П», № 12, 1965, б. 6.

жаюць паняцьце аб чалавеку, паэта радзіць «скараціць анкеты, каб жыцьцю у іх было шырозна».[123] Максім Танк у вершы «Анкеты»[124] каратка перад Непачаловічам і хутка пасьля яго Кастусь Кірэенка ў вершы «Адказ анкеце»[125] выказалі тую-ж супрацьанкетную думку. Тым ня менш, сама праблема, якой прысьвечаныя ўспомненыя вершы, нагэтулькі войстра надзённая, што ў ейным асэнсаваньні кажны паэта застаўся арыгінальным.

Паэта *Пятрусь Макаль* мае ўжо за сабой чатыры зборнікі вершаў. Крытыка, наагул шчодрая ў дачыненьні да Макаля, адзначыла, што апошні ягоны зборнік «Круглы стол», выдадзены ў 1964 годзе, — бясспрэчны рост паэты на шляху ягоных творчых шуканьняў.

Пятрусь Макаль стараецца адклікацца на найбольш войстрыя палітычныя падзеі часу. Выходзячы ад пытаньняў і фактаў прыватных і асабістых, паэта звычайна ўздымаецца да праблемаў шырэйшых, агульнанародных і людзкіх. Прыкладам такое творчае манеры Макаля можа быць ягоны верш «Думайце, людзі!» з канца 1962 году. Гэты верш пачынае ў беларускай літаратуры адкрытае асуджэньне сталінскага тэрору, дзеля чаго зьмяшчаем яго поўнасьцяй:

Бацьку майго забралі ад ворыва,
Ад праліўной баразны,
ад вясны.
Бацьку майго забралі як ворага,
На рукі накінуўшы кайданы.

Перааралі, навылет прашылі
Пакойчык нязваныя плугары,
Кайстру вучнёўскую распатрашылі,
Бомбу шукалі ў маім буквары.

Сын паслухмяны бязбожніка-века,
Літасьці я не маліў у нябёс.
Да ўсемагутнага чалавека
Крыўду, як рану да лекара, нёс.

Нямеў я пад ім — гранітна-каменным, —
Бы выбух, што стоены ў цішыні.
Ды на мяне ён паглядам каменным
Як на мурашку, глядзеў з вышыні.

Хмурыў дзяржаўна ён бровы цяжкія:
Трызьнілася яму на зямлі
Змова муроў навакольных, якія
Яго, недасяжнага, перарасьлі.

Біліся-ж сэрцы і ў паняверцы.
Жыў пад канвоем чырвоных пагон
Ленін, як вязень, за дротам — у сэрцы
Тысяч людзей без надзей і імён.

---

[123] Тамсама, б. 5.
[124] «П», № 10, 1965, б. 14.
[125] «Б», № 1, 1966, б. 6.

З кажным бязьвінным да сьценкі пастаўлена
Праўда, якую касілі з пляча...
Гэта-ж стралялі іменем Сталіна
У рэвалюцыю, у Ільіча.

...І зноў я на пляцы, дажджамі прамытым,
Дзе ўчора звышчалавек камянеў.
Яго узарвалі не дынамітам —
Выбухнуў мой расшчэплены гнеў!

Вернуты памяці, каб ня глухла,
Каб ня прыйшла да нашчадкаў нямой,
Таварыш Пастышаў,
Таварыш Блюхер,
Таварыш бязьведамы бацька мой...

Стукае ўладна сямнаццаты рэхам
Ва ўрады,
галовы,
мацярыкі.
Вернуты верныя рэчышчы рэкам,
Каб не мялеў акіян трапяткі.

Хай-жа ніколі сьляпою ня будзе
Наша любоў зь міліярдам вачэй.
Думайце, людзі!
Думайце, людзі!
Сонцы свае даставайце хутчэй![126]

Сталіну й увасобленаму ў ім найгоршаму злу супрацьстаўляе тут паэта Леніна, як увасабленьне патаптанай Сталінам справядлівасьці. Шчыра ці няшчыра, — ведаць аднаму Макалю. Тым ня менш, без такой алюзіі да Леніна верш такі, трэба думаць, ня мог-бы зьявіцца.

Гучаць глыбокай жыцьцёвай праўдай і некаторыя іншыя вершы Макаля, у якіх ён асэнсоўвае сучасныя падзеі або адлюстроўвае падзеі нядаўнай мінуўшчыны. Да такіх трэба перш-наперш залічыць вершы «Нашы хлопцы», «Экспанат», «Сікейрас», а перадусім «Граніца». Верш «Граніца» наагул цікавы тым, што вінавацячы заходнія краі за іхную замкнутасьць у сваіх дзяржаўных межах, паэта, — хацеў ён гэтага ці не, — асудзіў фактычна зялезную заслону свайго собскага краю. Вось гэты верш:

Не наглядзецца — гэтак узарана
Палоска ўздоўж дзяржаўнае мяжы.
Яна дыміцца на зямлі, як рана,
Якая просіць лекаў: — Памажы!
Тут зернятка баіцца ўпасьці ў ворыва,
Прыпасьці, як да маці, да ральлі,
Каб потым, быццам выкрытага ворага,
Яго пад трыбунал не аддалі.
На цэнтр з палоскі сігануў з разьбегу
З чародкай натапыранай травы,
Як перабежчык, адуванчык белы:
Бярэ яго на мушку вартавы...

---

[126] «ЛіМ», № 103, 25 сьнежня 1962.

Цябе, як арыштанта, пад штыкамі
Скруцілі
пагранічныя драты,
Замля мая, ты круцішся вякамі —
Няўжо ня можаш выкруціцца ты?
Ты ў спрасаванай атмасфэры хмарышся,
Спрабуючы парваць спавівачы...
Як быць табе? Хіба суседу Марсу
Зямныя пазыўныя пракрычы?
Няўжо твае паселішчы людзкія
Ня больш, як заапарк глуханямы?
Дзяржавы быццам клеткі, у якія
Саміх сябе пазаганялі мы...
Вам, што здаўна над межамі варожыце,
Я пакажу абшар зямлі бязь меж,
Дзе, разарваўшы дзірваны варожасьці,
Граніцы нівам перадаў лямеш.
Мы — людзі! Мы павінны парадніцца,
Крануць пласты адвечнай цаліны...
Плянэту падпяража не граніца,
А млечны пояс роснай збажыны.[127]

Ськіроўваныя пад адрысам Захаду абвінавачаньні яшчэ больш асацыюцца ў уяўленьні чытача ня гэтулькі з Захадам, колькі якраз із Савецкім Саюзам, у вершы «Сікейрас», напісаным у знак пратэсту супраць зьняволеньня мэксыканскага мастака Давіда Сікейраса:

Астрожнымі бразгаць брамамі
Піратам і імпэратарам,
Пакуль на зямлі не абрана
Праўда адзіным дыктатарам.[128]

Гэтыя радкі аж просяцца быць устаўленымі ў Макалёў супрацьсталінскі верш «Думайце, людзі!»

Але далёка незаўсёды ўдаецца Макалю ў вершах на палітычныя тэмы шчасьліва абмінаць падводныя камяні. У шмат якіх іншых ягоных вершах, як «Рабы», «На абэліску перамогі», «Кубінскі танец», «Мера» — запраўдную паэзію падмяняе шэры публіцыстычны шаблён і газэтная плякатнасьць.

Падобная нераўнамернасьць заўважаецца й у галіне паэтычнае формы Макалёвых вершаў. Як успаміналася, Макаль — няўпынны шукальнік арыгінальных і сьмелых вобразаў, новай і нязвычайнай музыкі слова. Ягоная мова пераважна мэтафарычная й асацыятыўная. Гэтае наватарства часамі яму добра ўдаецца. Пра дзявочую сукенку ён, прыкладам, кажа: «як вясна сярод пабляклай восені, яблынькай сукенка расьцьвіла» («Лісьце ў парку»).[129] Або пра маланку: «агністай пугай сьцёбае над пашаю, марудлівую хмарку падганяе, што цягнецца хадою чарапашаю» («Хмара»).[130] Або йшчэ мэтафарычны вобраз Прыпяці: «Здалася ты мне з вышыні трапяткой, з глухой самалётнай шыбы сасновай галінаю, да якой, як

[127] «М», № 5, 1964, б. 6—7.
[128] «М», № 9, 1963, б. 4.
[129] «М», № 5, 1964, б. 10.
[130] «М», № 2, 1962, б. 8.

гнёзды, прыліплі сялібы» («Прыпяць»).[131] Побач із зрокавымі, у вершах Макаля частыя й гукавыя асацыяцыі. Прыкладам, у вершы «Пад дажджом» гукавыя асацыяцыі ствараюць узапраўды настраёвы фон:

Вечар. Вецер. Плошчу палошча
Дождж пранізьлівы і густы.
Толькі два дзівакі на плошчы —
Слуп тэлеграфны і ты.[132]

Нажаль, у некаторых выпадках у імкненьні да мэтафарычнай канкрэтызацыі вобразаў і гукавых асацыяцыяў паэта перабірае меру, і тады ягоная мова робіцца цяжкай і штучнай. Гэтак, паэта паведамляе, што, апынуўшыся ў горадзе, ён «смачна мак камандзіруе ў рот» («Зялёнае царства»),[133] або што ў васеньнім парку «ськідаюць клёны з плеч сваю форму парыжэлых гімнасьцёрак: дэмабілізуе восень іх» («Лісьце ў парку»).[134]

Анатоль Вярцінскі, рэцэнзуючы Макалёў зборнік «Круглы стол», зазначыў, што паэта «піша сёньня інакш», чымся пісаў раней. Гэта перадусім «у сэньсе майстэрства, у сэньсе ўменьня робіць верш».[135] Бясспрэчна, зборнік «Круглы стол» — значны крок наперад у мастацкіх пошуках Макаля.

Некаторымі асаблівасьцямі сваёй паэзіі, галоўна ейнай палітычнай праблемнасьцяй і публіцыстычным патасам блізка да Макаля стаіць малодшы за яго *Генадзь Бураўкін*. Ідучы напярэймы партыйным патрабаваньням апяваць сучаснасьць і адклікацца на актуальныя праблемы дня, паэта ў сваіх ранейшых вершах вельмі часта, дзе трэба й ня трэба, упрагаўся ў службовую ролю, і тады, заміж запраўднае паэзіі, заміж усхваляванага рытму паэтавага сэрца, выходзіла вершаванае пераказваньне партыйных лёзунгаў і мітынговых штампаў. Прыкладам такой публіцыстычнай шэрасьці могуць быць наступныя радкі зь ягонага верша 1962 году:

І там,
      за морам, падлічана,
Колькі адной бомбай
Можна зьнішчыць навек
Ціхіх садоў,
            і вёсак,
І гарадоў сталічных,
Колькі застанецца трупаў
І колькі калек.[136]

Быццам на гэтым баку мора адны лагодненькія галубкі міру, дзе ўсе гэтыя жахі вайны не падлічаныя. Падобныя вершы Бураўкіна трапна ацаніў рэцэнзэнт ягонага апошняга, а другога з чаргі зборніка «Зь любоўю і нянавісцю зямною», што выйшаў у 1963 годзе, Паўлюк Суботка: «Усё ў іх правільна, а паэзіі няма».[137]

---

131 »М», № 8, 1965, б. 3.
132 «М», № 4, 1962, б. 6.
133 Тамсама, б. 6.
134 «М», № 5, 1964, б. 10.
135 Анатоль Вярцінскі. Талент сталее. «П», № 5, 1965, б. 179.
136 «М», № 8, 1962, б. 8.
137 Паўлюк Суботка. Неспакой маладосьці. «М», № 10, 1963, б. 135.

Як-бы йдучы за радамі свайго рэцэнзэнта — «загаварыць на поўны голас, на ўсю моц свайго таленту»,[138] — у пасьлейшых сваіх вершах пачынае Бураўкін успрыймаць палітычныя й грамадзкія праблемы, выходзячы із самых глыбіняў людзкога жыцьця. Галоўным матывам ягоных вершаў 1964 году становіцца гнеўнае асуджэньне Сталіна й сталінаўшчыны ды супрацьстаўленьне ім культу чалавека й чалавечнасьці. Гэтымі ідэямі насычаныя такія ягоныя вершы, як «Адышлі ў нябыт панэгірыкі», «Бацьку», «Пра сьціплых» і асабліва верш «Пустыя п'едэсталы», у якім знаходзім найбольш моцнае асуджэньне Сталіна. Вось гэты верш:

І на зямлі ўжо багоў ня стала.
Раструшчаны апошні бронзавы бог.
Але засталіся стаяць п'едэсталы
Каля скрыжаваньняў раённых дарог.

Іх дождж размывае,
то нудны, то буйны,
Навокала лужы з вадою рудой...
Стаяць п'едэсталы,
нібыта трыбуны,
Прамоўцаў зь якіх пазганялі на дол.

Відаць,
у адданых служьцеляў культу
Яшчэ па-старому зварыла башка,
Ня могуць паверыць,
што вопытны скульптар
Ня зьлепіць ніколі другога бажка...

Стаяць п'едэсталы.
Пустыя,
бяз кветак.
Вось-вось яны грымнуцца вобзем навек
І пылам асядуць
на мокрых кювэтах
Ля кірзавых ботаў тваіх,
Чалавек.[139]

Нягэтулькі да кагосьці іншага, як да самога Бураўкіна трэба было-б ськіраваць словы з аднаго ягонага іншага вершу, які гучыць як поўнае запярэчаньне службовасьці й публіцыстычнай плякатнасьці ў паэзіі:

Адышлі у нябыт панэгірыкі
Сьціплым вінцікам, сьпешнай сяўбе.
Людзям хочацца шчырай лірыкі
Не пра вінцікаў —
пра сябе.
Людзям хочацца песьні звонкай
Не пра мудрасьць высокіх пасад,
А пра сінія матчыны вокны,
І пра раніцу, і пра сад.[140]

---

[138] Тамсама, б. 136.
[139] «М», № 10, 1964, б. 19.
[140] «М», № 3, 1963, б. 7.

Але адно ў другой палавіне 1965 і на пачатку 1966 году надрукаваў Бураўкін у «Полымі» й «Маладосьці» ладне новых вершаў, што ўжо заслугоўваюць на назоў гэнай «шчырай лірыкі» й «песьні звонкай». Гэтак у першым вершы з цыклю «Неба і зямля» паэта, пры дапамозе сьвежых вобразаў прыроды, вылівае інтымныя пачуцьці каханьня, каб у наступных вершах цыклю падчыркнуць сваю неразрыўную сувязь зь зямлёй, цьвердзячы, што «нічога мне ў сьвеце ня трэба — ні неба, ні зор — безь Зямлі».[141] У іншых вершах ён аддаецца роздуму над рознымі зьявамі жыцьця або выказвае патрыятычную любасьць да роднага краю, да ягоных паўнаводных рэкаў, жадаючы зь іхных «паясоў ... ткаць песьні».[142]

Гэтак у сваіх няўпынных пошуках штораз новых ідэйных і мастацкіх каштоўнасьцяў Бураўкін на сяньняшнім этапе сваёй творчасьці пачаў канцэнтраваць сваю ўвагу на асабістай і нацыянальна-патрыятычнай лірыцы.

Зь іншых сучасных паэтаў, якіх можа залічыць да гэтае групы, даводзіцца адно ўспомніць такіх, як Міхась Калачынскі, Васіль Вітка, Алесь Бачыла, Алесь Бажко, Паўлюк Пранузa, Пятро Прыходзька, Уладзімер Корбан, Адам Русак, Пятрусь Гаўрусёў, Алег Лойка, Міхась Машара, Анатоль Астрэйка, Васіль Матэвушаў. Усе яны мала характэрныя для разгляданага гэтта пэрыяду, а бальшыня іх наагул ня шмат праяўляла творчай актыўнасьці.

*

Ёсьць усе асновы выдзяліць у васобную групу жаноцкіх прадстаўніцаў у сучаснай беларускай паэзіі. Хоць у іхнай творчасьці закранаюцца самыя розныя тэмы й праблемы ды парознаму яны ўспрыймаюцца, як паэтычны матарыял, набываючы рознае мастацкае ўжыцьцяўленьне, усё-ж у іхнай паэзіі выразна гучаць і ноткі спэцыфічна жаноцкія.

Гэты разьдзел трэба было-б пачаць ад *Канстанцыі Буйлы,* адзінай яшчэ жывой прадстаўніцы нашаніўскае пары ў нашай паэзіі й наагул у мастацкай літаратуры. Пасьля даўжэйшага творчага перапынку ў часе між дзьвюмя войнамі, у гадох Другое сусьветнае вайны Буйла аднавіла літаратурную дзейнасьць і ня спыняе яе й да сяньня. Толькі ў вапошнім пяцігодзьдзі Буйла выдала два зборнікі сваіх новых вершаў: «На адноўленай зямлі» — у 1961 годзе й «Май» — у 1965 годзе.

У сваіх вершах Канстанцыя Буйла выліваё шчырыя й мяккія пачуцьці любасьці да роднага краю, захапляецца хараством ягонае прыроды, выказвае свае асабістыя перажываньні. Трагэдыя апошняе вайны знаходзіць у ейнай паэзіі асабліва йшчэ моцны рэзананс. Зусім зразумела, што сяньняшняя творчасьць Буйлы, як паэткі пакаленьня, што адыйшло ўжо ў гісторыю, стаіць як-бы ў баку ад сучаснага літаратурнага працэсу, як зьява ў некаторым сэньсе таксама ўжо гістарычная.

Хоць некалькімі словамі трэба ўспомніць таксама пра паэтку *Ларысу Гэніюш,* што перад апошняй вайной і ў вайну знаходзілася на эміграцыі й

---

[141] «П», № 8, 1965, б. 91.
[142] «М», № 10, 1965, б. 6.

жыла ў Празе Чэскай, дзе ў 1942 годзе выдала зборнік вершаў «Ад родных ніў». Адразу-ж пасьля вайны была яна там-жа савецкімі органамі бясьпечнасьці арыштаваная й высланая ў паўночныя раёны Савецкага Саюзу. У самым канцы 50-ых ці нат у пачатку 60-ых гадоў была яна рэгабілітаваная й вярнулася ў Беларусь. У № 4 «Полымя» за 1963 год зьявілася, побач з ранейшымі, некалькі новых ейных вершаў, датаваных 1962 годам. І гэта ўсё, што зь ейных твораў зьявілася апошнім часам у друку.

За наскрозь сучасную жаноцкую прадстаўніцу ў беларускай паэзіі трэба ўважаць *Эдзі Агняцьвет,* што пачала пісаць і друкавацца яшчэ на самым пачатку 30-ых гадоў. Вынікам ейнае паэтычнае дзейнасьці апошняга пяцігодзьдзя зьявіўся ў канцы 1965 году невялічкі зборнік вершаў «Лірыка».

Эдзі Агняцьвет цікавая першым чынам ужо тым, што пры сваім жыдоўскім паходжаньні сталася гарачай беларускай патрыёткай. Пайшоўшы сьлядамі Зьмітрака Бядулі-Ясакара, яна дзейная ў літаратуры не як пісьменьніца жыдоўская, што толькі піша пабеларуску, але як паэтка і мовай, і зьместам, і перакананьнямі наскрозь беларуская, для якой беларуская мова й культура сталіся ейнымі роднымі. Усьведамленьне гэтага арганічнага зрадненьня зь беларушчынай выказанае ў вершы Агняцьвет з 1965 году «Удзячнасьць»:

За мову, што люблю з маленства,
Я ўдзячна добраму народу,
Дубровам, рэкам, пералескам,
Усходам жыта, сонца ўсходам.

Я ўдзячна маці незабыўнай:
Яна мне цуды адкрывала
У казцы, мудрай і наіўнай,
У вершы Коласа, Купалы.[143]

Паэтка ў сваіх вершах апявае ўсё тое, што ў жыцьці добрае й прыгожае: радасьць людзкога жыцьця й стваральнай працы, дружбу й даверлівасьць сярод людзей, радасьць пазнаньня сьвету, хараство прыроды, каханьне й матчынную любасьць.

У сваёй аўтабіяграфіі Агняцьвет адзначае: «Найбольш хвалюе мяне тэма — нашы дзеці. На дарогах вайны бачыла я шчарнелых, бяздомных дзяцей. Гэта не павінна паўтарыцца ніколі!».[144] І ня ў моднай сяньня савецкай прапагандзе міру, а вось у гэтай, бачанай і перажытай самой паэткай дзіцячай трагэдыі вытокі вершаў Эдзі Агняцьвет супраць вайны, у вабароне міру. За добры прыклад гэткага праўдзівага хваляваньня за долю маладога пакаленьня можа быць адзін з апошніх ейных вершаў «Мовазнаўцы»:

Сьмела мовазнаўца трохгадовы
Ўсё знаходзіць, адкрывае словы.

---

[143] «П», № 3, 1965, б. 8.

[144] «Пяцьдзесяць чатыры дарогі», б. 26.

Толькі з ложка цёплага ўстае —
Маме ён спакою не дае.
— А чаму завуцца хмаркі «небам»,
А зярняткі называюць «хлебам»?
Зьдзіўлены маленькі ад душы:
— Што такое «бомба»? Адкажы!
— Родненькі! — і маці затужыла,
Сына прытуліла, засланіла

Ад страшэнных прывідаў вайны,
Дзе калісьці гінулі сыны.

. . . . . . . . . . .

Хай для юных мовазнаўцаў сьвету
Пахнуць словы сонцам, хлебам, ветрам,
Яблыкамі, мятай і сасной,
Толькі — не вайной![145]

Мякчыня тонаў, лагоднасьць хварбаў і эмацыянальная пяшчотнасьць добра паказваюць, побач з частым выражэньнем матчынных пачуцьцяў, на жаноцкія рысы ў паэзіі Агняцьвет. Але разам з гэтым пачуцьцё заўсёднага неспакою й імклівасьці ў нязнанае надаюць ейным вершам і мужчынскі тэмпэрамант. Адсюль ейнае замілаваньне да падарожжаў: «Напэўна ў гэтым няма заганы, што ўсю замлю хачу спазнаць»,[146] — прызнаецца паэтка ў вершы «Яшчэ маўчыць даліна». Ня дзіва, што падарожныя цыклі вершаў ейнага апошняга зборніка — «Узбэцкія матывы», «Рэха далёкіх вандровак» і «Там, дзе горы Балканы» — належаць да найлепшых.

Але захапляючыся чужымі краямі, Эдзі Агняцьвет душой заўсёды ў роднай Беларусі. Слухаючы музыку узбэцкага народнага інструманту «чангі», яна «адразу прыгадала нашы родныя цымбалы».[147] А ранішні шум баўгарскага бору прыводзіць ёй на памяць беларускую зязюлю й народную песьню «Ой, ня кукуй, зязюленька рана».[148] У чужых далёкіх краёх паэтка любіць, кажучы ейнымі словамі, «трывожна і нязьменна ўсё, што з нашай зьвязана зямлёй».[149]

Паэтка малодшага пакаленьня *Еўдакія Лось* ня мела асаблівага шчасьця ў літаратурнай крытыцы, якая, адзначаючы ў ейнай паэзіі й мамэнты, што ўважала за дадатныя, знаходзіла ў ёй вельмі шмат, навет зашмат і мамэнтаў адмоўных. Гэтак паэта Аляксей Зарыцкі, рэцэнзуючы перадапошні зборнік Еўдакіі Лось «Добрыя людзі», што выйшаў у 1963 годзе, пісаў: «У гэтай кнізе глыбокае часта суседнічае з павярхоўным, першаступеннае з другарадным, арыгінальнае са сьцёртым штампам».[150] А ў рэцэнзіі Міколы Арочкі на ейны апошні зборнік «Хараство» з 1965 году чытаем бадай-

[145] «Б», № 3, 1966, б. 7.
[146] «П», № 3, 1961, б. 47.
[147] Эдзі Агняцьвет. Як перакладаецца музыка. «П», № 3, 1961, б. 47.
[148] Эдзі Агняцьвет. На вяршыні Сталетава. «П», № 3, 1961, б. 47.
[149] Эдзі Агняцьвет. Перад сустрэчай. «П», № 5, 1964, б. 4.
[150] Алесь Зарыцкі. Слова сьвежае і сьцёртае. «П», № 4, 1964, б. 184.

што тое самае: «Драбнатэм'е, нажаль, найбольш перашкаджае Еўдакіі Лось. Няўдача абавязкова насьцігае паэтэсу там, дзе верш пішацца дзеля абыграваньня нейкага аднаго слова або вобразу».[151]

Прыведзеныя ацэны абодвых рэцэнзэнтаў проста несправядлівыя, бо далёка незаўсёды й няўсюды паэтку спатыкае няўдача там, дзе яны хочуць гэтую няўдачу бачыць. Пастаўленае ў дакор паэтцы драбнатэм'е, павярхоўнасьць і другараднасьць — ня вынік бязгустоўнасьці ці непатрабавальнасьці да самой сябе, а натуральная асаблівасьць таленту паэткі, пры гэтым паэткі-жанчыны, пажаноцку чулай на найдрабнейшыя зьявы жыцьця. У вадным сваім вершы Еўдакія Лось кажа зусім выразна, што для яе

У кожным імгненьні паэзія ёсьць,
У кожным зьдзяйсьненьні — яе прыгожасьць.[152]

Вось на гэтыя «імгненьні» людзкой і ейнай собскай душы, на гэтыя «зьдзяйсьненьні» людзкіх і ейных собскіх лятуценьняў і спадзяваньняў чула рэагуе Еўдакія Лось.

Нявыпадкова свае апошнія зборнікі Еўдакія Лось загаловіла «Добрыя людзі» й «Хараство», бо якраз людзкая дабрыня й хараство навакольнага сьвету — галоўнае ў ейных вершах. Яшчэ адзін з рэцэнзэнтаў ейнага зборніка «Хараство», Ул. Гніламёдаў, радзіў паэтцы «не абмяжоўвацца толькі дабратою й спагадлівасьцю, а больш сьмела й востра ўмешвацца ў самыя драматычныя канфлікты й праблемы».[153] У гэтай радзе Гніламёдава, як і ў вацэнах Зарыцкага й Арочкі, вычувацца яшчэ спадчына нядаўнае мінуўшчыны, калі ад паэзіі першым чынам патрабавалася рэагаваньне на грамадзкія й палітычныя праблемы. Еўдакія Лось, відаць, разумее, што для паэзіі ня бывае добрых або благіх тэмаў, а ёсьць толькі добрае або благое іхнае мастацкае разьвязаньне, і затым не пайшла яна за радамі сваіх рэцэнзэнтаў. І як-бы ў вадказ на ўсе іхныя дакоры й патрабаваньні, у вадным сваім вершы паэтка гэтак кажа:

Ці-ж гэта грэх — даверліваю быць
І веру чалавеку падарыць?
Ці грэх сьпяшацца ў хаты, буданы,
Дзе столькі хараства і гаманы!

О, хоць-бы не спазьніцца мне, пасьпець,
Туды, дзе вучаць сябраваць і пець!
Я не ўва ўсіх вясёлых пабыла,
Ня ўсіх вясёлак барвы здабыла...[154]

Але ў Еўдакіі Лось цімала, а штораз, дык усё больш і вершаў, у якіх яна асэнсоўвае й гэныя «драматычныя канфлікты й праблемы». Прыкладам філязафічна глыбокай, драматычна-канфліктнай і «нядробнатэмнай» паэзіі можа быць ейны верш «Пра пакаленьне». У вершы гэтым паэтка арыгінальна разьвівае актуальную й сяньня праблему двух пакаленьняў:

---

[151] Мікола Арочка. У пошуках хараства. «П», № 7, 1965, б. 190.
[152] «П», № 3, 1963, б. 87.
[153] «ЛіМ», № 34, 27 красавіка 1966.
[154] «М», № 8, 1964, б. 5.

сяньняшняга, што можа ўжо цешыцца некаторай свабодай ды сякой-такой паўнінёй жыцьця, калі «хлопцы, дзяўчаты, як дзеці ў ясьлі, спрытна ў пісьменьнікі валяць», ды пакаленьня ранейшага, калі «ня ўсё, што хацелі, рабілі рукі, а тое, што загадаюць». Тым ня менш, і людзі гэнага ранейшага пакаленьня, а зь імі й сама паэтка, загартоўваліся ў суровых абставінах жыцьця, «прыгажэлі на дзіва», бо лятуцелі «пра дзень шчасьлівы»...[155]

Важнае месца ў паэзіі Еўдакіі Лось займае прыродаапісальная й патрыятычная лірыка. Як звычайна бывае ў шмат якіх паэтаў, вобразы роднага краю ў вершах Лось выклікаюць патрыятычныя пачуцьці шчырай любасьці да іх. Спасярод такіх вершаў цікава вылучаецца арыгінальнай задумай і патрыятычнай вымовай верш «Матыў Магілеўскай шашы», у якім у рытмічна-напеўным тоне ў такт язды зьмяняюцца перад вачыма паэткі-падарожніцы вобразы роднага краю ў іхнай нацыянальнай самабытнасьці й зыркай адрознасьці ад прыроды Расеі. Вось гэты верш:

Шлях паслаўся,
Быццам Волга,
Канца-краю ня відно.
Будзе Чэрвень,
Будзе Волма,
Будзе тут Беразіно...
Будуць белыя
Бялынічы —
Сьняжынкі талакой.
Як сьнягурачкі, дзяўчыніцы —
Шафёраў неспакой...
Волма — Волма,
А ня Волга,
Чэрвень — чэрвень,
Ня іюнь...
Што ты едзеш гэтак доўга?
Пабялела ў полі рунь...
Шлях ад Мінска
Роўны-роўны,
Магілеўская шаша.
Дзень дарогі
Поўны-поўны,
Як паўнюткая душа.
Прабягаюць сосны, елкі,
Працякае ўдаль рака.
Поплеч, як дуга вясёлкі, —
Спадарожніка рука...[156]

Вершы Еўдакіі Лось у бальшыні належаць да найлепшых узораў чыстае лірыкі, якая сяньня штораз больш прыходзіць да голасу ў нашай паэзіі.

Малодшая за яе паэтка *Данута Бічэль-Загнетава* сяньня ўжо аўтарка двух зборнікаў вершаў — «Дзявочае сэрца» (1961 год) і «Нёман ідзе» (1964). Яна карысна вылучаецца, як паэтка, што, як прынята ў БССР гаварыць, мае свой собскі почырк, характэрны й сваясаблівы толькі ёй. Літаратурная крытыка зьвярнула ўвагу на тое, што калі шукаць найбольш тыпова жаноцкіх рысаў паэзіі, дык яны найбольш зырка выявіліся якраз у творчасьці Дануты Бічэль. Галоўныя матывы айнае паэзіі — бязьмежная любасьць да роднага краю, ягонае прыроды, людзей, мінуўшчыны, а панад усё — роднае беларускае мовы. Гэтыя патрыятычныя пачуцьці выліваюцца гэтак шчыра й беспасярэдня, гэтак мякка й ласкава, што калі-б чытач і ня ведаў, хто аўтар гэтых вершаў, дык лёгка мог-бы здагадацца, што гэтым аўтарам жанчына, поўная жаноцкай пяшчотнасьці й ласкі. Хіба нявыпадкова свой першы зборнік вершаў загаловіла паэтка «Дзявочае сэрца».

155 «М», № 8, 1964, б. 3—4.
156 «П», № 3, 1965, б. 68—69.

Патрыятычныя пачуцьці часта асацыююцца ў паэткі з пачуцьцямі чыстага й узвышанага каханьня. У гэткім пляне яшчэ ў 1961 годзе зьявіўся ейны верш «Роднае слова», які пачынаецца гэтак:

Пад казачным дубам, над Нёманам сінім
Хлапец прызнаваўся ў каханьні дзяўчыне.

Адразу-ж пасьля гэтага паэтка абыгравае слова «кахаю», якое ў ейным успрыйманьні

...пяшчотнае, шчырасьці поўнае,
Маё беларускае, роднае, кроўнае,
Такое раптоўнае, такое чароўнае,
Такое ласкавае, цёплае, чыстае,
Як сонца агністае,
Як Нёман, празрыстае,
Як казка, быліна, як песьня, жаданае,
Дагэтуль яшчэ у жыцьці не спазнанае,
Гарачае слова ад шчырага сэрца!

Слова гэтае зараз-жа асацыюецца із словам-сынонімам «люблю», што мае шырэйшае адценьне таго-ж значаньня й сьціраванае да роднага краю: «Беларускаму краю бясконца я слова «люблю» паўтараю».[157]

Падобны паралелізм знаходзім і ў вадным з найпрыгажэйшых вершаў Дануты Бічэль «Каложа». Любасьць да мінуўшчыны роднага краю, узбуджаная таямнічай мовай руінаў старасьвецкай Калоскай царквы ў Горадні, асацыюецца з пачуцьцём каханьня маладых людзей:

Каложа мая, Каложа!
Калі над табою сьцені мярэжацца,
Гучаць пацалункі на кожнай сьцежаццы.
Ціха па лесьвіцы, туфлікі, стукайце!
Яшчэ на прызнаньні абцасікам ступіце.
Ціха, зязюлі! Змоўкніце ў гольлі —
Тут і бяз чараў шчасьця даволі.
Нёман, замры, не складай калыханак —
Тут закалыханы вочы каханьнем...[158]

Патрыятычныя эмоцыі ў творчасьці Дануты Бічэль не абстрактныя, яны заўсёды маюць свой канкрэтны аб'ект, да якога сьціраваныя й які становіць нейкую частку паняцьця агульнага — бацькаўшчыны. Гэта: або беларуская мова, або народныя звычаі й абрады, або наднёманскія мясцовасьці, або памяткі беларускай мінуўшчыны. Паэзія Бічэль мае дакладна вызначаны геаграфічны фон: Нёман і Наднямоньне, Горадзень, родная вёска Біскупцы, а навет частка гэтае вёскі — Загасьцінец, дзе паэтка нарадзілася й пражыла дзіцячыя гады. Гэтак «Загасьцінскімі матывамі» й назвала яна нізку сваіх вершаў, што была надрукаваная ў 1965 годзе ў часапісе «Беларусь». З гэтага гледзішча творчасьць Дануты Бічэль мае ў значнай ступені рэгіянальны калярыт.

Адна з наймалодшых беларускіх паэтак *Вера Вярба* выдала ў 1962 годзе першы й адзіны дасюль зборнік сваіх вершаў «Вочы вясны», але ў пер-

---

[157] «Анталёгія беларускай паэзіі, т. 3, б. 639.
[158] «П», № 8, 1963, б. 58.

шых нумарох усіх трох літаратурных часапісаў — «Полымя», «Маладосьць» і «Беларусь» за 1966 год яна ўжо ўправілася надрукаваць па адным салідным цыклі новых вершаў. Разглядаючы творчасьць старэйшых за Вярбу Еўдакіі Лось і Дануты Бічэль, крытыка звычайна падчырквае спэцыфічна жаноцкія рысы іхных вершаў. Але ўсё тое, што мы звыклі ўважаць за спэцыфічна жаноцкае, найшырэй і найзырчэй выяўляецца ў вершах Веры Вярбы. Як адзначыў адзін з рэцэнзэнтаў зборніка вершаў Вярбы Вячаслаў Рагойша, ейныя вершы «зачароўваюць сваёй сардэчнасьцю, непасрэднасьцю. Адразу кранае цёплае, нейкае спэцыфічна жаночае ўспрыняцьце сьвету».[159]

Тэматыку лірыкі Вярбы пераважна складаюць пачуцьці каханьня, матчынныя пачуцьці ды роздум над зьявамі асабістага й людзкога жыцьця. Усё, што ў вершы становіць аб'ект ейнае ўвагі, прапушчанае праз прызму собскіх перажываньняў паэткі. Успомнены рэцэнзэнт Вячаслаў Рагойша пажадаў быў паэтцы, каб да чыста асабістых матываў у ейнай творчасьці «прыйшло больш важнае — адчуваньне шырыні гарызонтаў нашага жыцьця».[160] Вось-жа ў вапошніх вершах Вярбы ўжо ёсьць гэтая «шырыня гарызонтаў нашага жыцьця». Ды яна ня ў форме публіцыстычнага рэагаваньня на надзённыя праблемы сучаснасьці — чаго ўвесь час патрабуюць ад беларускіх паэтаў і чаму некаторыя зь іх ахвоча йдуць напярэймы — але — і гэта найважнейшае — у паэтычным адлюстраваньні праблемаў непрамінальнай і вечнай важнасьці.

Аднэй з такіх праблемаў, што часамі закраналася і ў ранейшых вершах Вярбы, — гэта роздум над будучыняй і трывога за долю новага пакаленьня ў ёй. Гэтая праблема найпаўней распрацаваная ў ейным вершы «Унукам маіх унукаў» з цыклю «Белыя лісты». Тут знаходзім такія вымоўныя радкі:

Ня выступаю з трыбуны,
Але думаю пра нашчадкаў далёкіх:
Што зь імі будзе
На плянэтах лёгкіх?
Наіўнае маё стараньне
Перадаць трывогу тым людзям:
«Людзі! Не забудзьце каханьне!
Хай яно будзе!»

І паэтка верыць у гэтую будучыню, калі, як яна піша:

Ціха адыду да сонца
Днём веснавым шчасьлівым.
Будуць цьвісьці рамонкі,
Жураўлі вернуцца з выраю...
Час разгорне старонку
Новага жыцьця і шчырасьці[161]

Другім ня менш важным і заўсёды наяўным у вершах Вярбы грамадзянскім матывам — шчырая й беспасярэдняя любасьць да ўсяго свайго

---

[159] Вячаслаў Рагойша. Шырэй глядзець на сьвет. «М», № 2, 1963, б. 140.
[160] Тамсама, б. 142.
[161] «П», № 3, 1966, б. 70.

роднага. Ілюстрацыяй ейнага глыбокага патрыятызму можа быць наступны верш:

У полі гойсае вятрыска
І долу каласы сьхіляе.
А маладзіца над калыскай —
Дзіцёнку ціхенька сьпявае.

Ад песьні гэтае народнай
Ўсё пачынаецца на сьвеце.
Напеў душы яе, свабодны,
Разносіць, як насеньне, вецер.

І цераз горы і дубровы
Ва ўсе замежныя краіны
Цячэ майго народу мова,
Як гонар дарагой айчыны.

Хай на зямлі шмат ісьцін спрэчных:
Любоў, і шчасьце, і багацьце,
Але адно, я знаю, вечна —
Сьвятое слова нашай маці.[162]

Асабліва ў мэтафарычных вобразах і паэтычных прыраўнаньнях, пераважна будаваных на матар'яле з навакольнае прыроды й сялянскага быту, паэтка моцна падчырквае нацыянальны калярыт свае паэзіі.

*

Наапошку даводзіцца спыніцца над паэтамі новае маладое зьмены, што, выявіўшы ўжо бясспрэчныя здольнасьці й няштодзённыя таленты, яшчэ знаходзяцца ў фазе паэтычнага дасьпяваньня й шуканьня свайго, найбольш адпаведнага іхным творчым асаблівасьцям, месца ў беларускай паэзіі. Маладых паэтаў, што маюць па адным-два зборнікі, а то йшчэ й адно чакаюць на першыя кніжкі сваіх вершаў, гэтулькі, што хоцькі-няхоцькі даводзіцца абмежыцца адно да некаторых, найбольш характэрных для паэзіі сяньняшняга дня як з гледзішча ідэйнага, гэтак і мастацкага.

Спасярод іх карысна вылучаецца *Юрась Сьвірка,* як няўтомны, але яшчэ толькі шукальнік гэнага свайго месца ў беларускай паэзіі, які ў гэтых сваіх пошуках шпарка й упэўнена йдзе наперад. Гэта добра адзначылі Рыгор Барадулін[163] і Вячаслаў Рагойша,[164] рэцэнзуючы ягоны апошні, другі з чаргі зборнік вершаў «Вечнасьць», што выйшаў у 1963 годзе. Яны аднадушна супрацьпаставілі гэты зборнік, як вынік далейшага росту паэтычнага майстроўства Сьвіркі, першаму ягонаму зборніку «Шэпчуцца ліўні», выдадзенаму ў 1960 годзе.

І ўзапраўды, Юрась Сьвірка выразна прагрэсуе, як здольны майстра паэтычнага слова. Пра гэта добра сьветчаць найнавейшыя ягоныя вершы, што зьявіліся ў 1964, а асабліва ў 1965 годзе ў літаратурных часапісах.

---

[162] «Б», № 1, 1966, б. 11.
[163] Рыгор Барадулін. Пра кнігу таварыша. «П», № 2, 1964, б. 174.
[164] Вячаслаў Рагойша. Вечная, чалавечная. «М», № 2, 1964, б. 131.

Асабліва шмат сваіх вершаў прысьвяціў Сьвірка мінулай вайне, якую давялося яму глыбака й балюча перажыць асабіста. У вершы «Пра сябе» ён піша, што ягонае «Маленства першай іскраю спад крэсіва успыхнула і больш — як ня было. Вайна ўсе забавы перакрэсьліла, спаліла і маленства і сяло».[165] Ніякага тады дзіва, што вайна абумовіла ў значнай меры тэматыку й накінула элегійныя настроі ў шмат якіх навет найнавейшых Сьвіркавых вершах. Але здарэньні й перажываньні вайны выступаюць у Сьвіркавых вершах адно ўжо як балючы ўспамін, як падзея, асэнсаваная з пазыцыяў сучаснасьці. Гэтак у вершы «Зьбялелі цьвёрдыя сіўцы» знаходзім такое кантраставае прыраўнаньне забітых у біцьве байцоў із жывымі:

Зьбялелі цьвёрдыя сіўцы,
Тырчаць калючымі пучкамі.
Пайшлі стамлёныя касцы...
Байцы-ж — ня пойдуць за касцамі.

Ім на узьлеску векаваць
За ціхай вёскаю Бярозкі,
Ім чыстых зор ня сустракаць,
Ня слухаць мяккіх хваляў плёскат.[166]

У паэтавым уяўленьні палеглыя думаюць, што калі-б жылі іхныя таварышы бою, дык напэўна прыйшлі-б на магілу, каб «штыкамі кожнае імя павысякаць на абэлісках». Але паэта із сумам сьцьвярджае, што

...абэліскаў тут няма,
Дажджамі ўсе імёны змыты
І толькі ранішні туман
Не абміне магіл забытых.[167]

Ня ў прыклад творам часоў сталінізму, тут ужо не знаходзім ані патэтычных праклёнаў пад адрысам ворага, ані партыйных лёзунгаў пра вернасьць і ахвярнасьць для сацыялістычнай бацькаўшчыны. Наадварот, ваенная трагэдыя асэнсоўваецца ў гэтым вершы із чыста людзкіх пазыцыяў.

Раўнуючы да вершаў пра вайну, зусім іншымі настроямі й пачуцьцямі гучыць лірыка паэты пра родную Беларусь. Гэта — наскрозь патрыятычныя вершы з моцна зарысаваным у іх нацыянальным каларытам. Але Сьвіркаў патрыятызм ня мае нічога супольнага з традыцыйнай дэклямацыйнасьцяй пра любасьць да роднага краю. Патрыятычныя пачуцьці ў вершах Сьвіркавых вельмі канкрэтныя й выплываюць арганічна з намаляваных зьяваў сялянскага быту або вобразаў прыроды роднага краю. Дзеля прыкладу, вазьмем ягоны верш «Маці раніцу будзіць»:

Смачна раніца сьпіць,
Сіняватая, крохкая.
Смачна сьпіць маладая —
Аж зайздрасьць бярэ.

Маці раніцу будзіць
Нясьмелымі крокамі
І натужлівым рыпам
Настылых дзьвярэй.

---

[165] «М», № 5, 1962, б. 63.
[166] «М», № 5, 1964, б. 39.
[167] Тамсама, б. 40.

Апускае ў калодзеж
Вядро акаванае —
І танчэюць на вораце
Тросу рады.
І чуваць, як у зрубе
Вядро спатыкнецца заспанае,
І прачнецца
Ад блізасьці золкай вады.
Маці стане ля дроў.
Выбірае сухія паленцы,
Каб аладкі у печы
Пякліся хутчэй.

Ціха дзьверы адчыніць
І мякка увойдзе у сенцы:
На руках нясе дровы,
Як некалі сонных дзяцей.
І як толькі агонь
Па яловых дрывах завіхляе,
Прачынаюцца дровы
Ад дыму у печы глухой.
І страляюць яны,
Салютуючы раніцы млявай,
Хаця гэты салют
Адрасованы маці маёй.[168]

У гэтым вершы цэлая гама арганічна зьвязаных і містэрна пераплеценых пачуцьцяў: і юнацкая радасьць жыцьця, і сьвежае адчуваньнне маладосьці, і сыноўская любасьць да маткі, і шчырае захапленьне вясковым бытам. А ўсё гэта, разам узятае, стварае пачуцьцё шчырай любасьці да ўсяго свайго роднага.

Ня менш глыбокае выяўленьне паэтавага патрыятызму ўжо не праз прызму сялянскага быту, але малюнкаў прыроды знаходзім у Сьвіркавым вершы «Сосны на беразе Нарачы»:

Заглядзеліся сосны
У люстра празрыстае Нарачы.
Нахіліліся сосны —
Карэньне тугое відно.
Мусіць, сосны ня знаюць,
Што прыйдзецца ім, паміраючы,
Падаць з кручы уніз галавой.

Можа суджана так,
Што парэжаць іх пілы зубчастыя,
Каб згарэлі
На зыркім рыбацкім агні...
Мо яны спадзяюцца,
Што гольле на хвалях зашастае
Сосен тых,
Што ў вазёрнай ляжаць глыбіні.

Не вяртаюцца сосны
У лес зь верасамі пахучымі,
Дзе сасоньнік на ўзрост
Наракае штодзень:
Не цярпіцца яму
Нахіліцца над берагам-кручаю
І, пакуль не ўпадзе,
На шырокую Нарач глядзець.
І, накрыўшыся
Мяккаю хваляй азёрнаю,
Легчы ціха на дне,
Каб суччом ня хрумсьцець...
Ты няйначай прыгожая, Нарач,
Красой непаўторнаю,
Калі сосны ідуць паглядзець на цябе,
Забываючы навет на сьмерць.[169]

Мяккім пяшчотным лірызмам з своеасаблівай вобразнасьцяй вельмі падобныя да гэтых вершаў яшчэ й вершы «Родны дом» і «Бягомель». Усе яны добра сьветчаць пра арыгінальнасьць і самабытнасьць ды нацыянальную калярытнасьць паэзіі Сьвіркі.

Іншы малады паэта *Мікола Арочка* сяньня ўжо аўтар двух зборнікаў вершаў і аднэй празаічнай аповесьці «Хай расьце маладая таполя». Апрача гэтага, у літаратурных часапісах зьявілася ў 1965 годзе ладня ягоных новых вершаў, што сьветчаць пра шпаркі рост іхнага аўтара. Аднак нельга яшчэ ўважаць, што літаратурны профіль гэтага бясспрэчна здольнага й цікавага паэты поўнасьцяй ужо сфармаваўся, таксама як цяжка сказаць,

---

[168] «П», № 3, 1965, б. 11.
[169] Тамсама, б. 12.

які жанр — паэзія ці мастацкая проза — больш адказвае ягонаму літаратурнаму таленту.

Найнавейшыя вершы Міколы Арочкі, што былі надрукаваныя ў 9-ым нумары «Маладосьці» ў 1965 годзе, — гэта пераважна рэфлексійная лірыка. Галоўнае ў ёй — філязафічнае асэнсаваньне праблемаў асабістага, агульналюдзкага й цірэдка палітычнага жыцьця. Вось, прыкладам, верш «Каб спыталі, чыя перацягне вага». У ім паэта разьвівае думку, што калі-б на аднэй шалі вагі палажыць увесь «сьмяротны прыпас дальнябойных ракет, бамбавозаў і баз, ліхаманку агрэсій, пагроз шантажу», а на другой шалі — адну «пасму пасівелых валос» старой маці, што страціла на вайне сваіх сыноў, дык, кажучы словамі паэты, «уздрыгнецца другое плячо рычага — маці, гора твайго перацягне вага».[170]

Глыбокую думку хавае ў сабе Арочкаў верш «Крывіцкія курганы». У старасьвецкіх крывіцкіх курганох знаходзіць паэта ня прылады вайны й забойства — мячы й дзіды, а «набытак людзям дарагі» — нарог, касу, зерняткі збожжа», а таксама, «каб людзі спазналі душу іх зычлівую, іх трывогі, лятункі і сны», клалі Крывічы яшчэ йскрыпку — «чатыры напеўных струны». Верш канчаецца радкамі:

Я нашчадак зямлі іхнай, мірнай і сьветлай,
тую скрыпку, нібы запавет бяручы,
паднімаю над нашым трывожным сьветам —
і ў бясьсільлі назад адступаюць мячы.[171]

Мікола Арочка карысна вылучаецца тым, што, часта закранаючы ў сваіх творах важныя жыцьцёвыя праблемы, як, у дадзеным выпадку, праблемы вайны, стараецца абмінаць прапагандава-палітычныя акцэнты, а імкнецца разглядаць іх з узвышшаў чыста людзкіх і нацыянальных.

Спасярод маладых паэтаў, што стаўляюць першыя крокі ў літаратуры, таксама карысна зварачае на сябе ўвагу *Раман Тармола*. У ягоных вершах знаходзяць выразнае адлюстраваньне галоўныя ідэйныя й мастацкія асаблівасьці, характэрныя сучаснай беларускай паэзіі наагул. Гэта — чулае рэагаваньне на праблемы асабістага й грамадзкага жыцьця, спробы іхнага філязафічнага асэнсаваньня, глыбокія патрыятычныя эмоцыі, замілаванасьць да сьмелых і арыгінальных вобразаў, асацыяцыяў і гукавых эфэктаў слова.

У 1964 годзе Тармола выдаў першы зборнік сваіх вершаў «Асколкі і росы». У ім зварачае на сябе ўвагу войстрая праблемнасьць і ўдумлівае ўспрыйманьне жыцьця. Навет вобразы прыроды, наагул частыя ў Тармолавых вершах, гэта як-бы настраёвы фон для сугучных зь імі думак і разважаньняў. У шмат якіх вершах паэта выказвае трывогу за будучыню Зямлі й чалавека, загрожаных прывідам новае вайны. Прысьвечаны жахам апошняе вайны й боязі, каб яна не паўтарылася, свой верш «Баляда» закончвае Тармола гэткімі радкамі:

---

[170] «М», № 9, 1965, б. 28.
[171] Тамсама, б. 32.

Колькі ў сэрцы нянавісьці,
гневу колькі
Да страшэннай вайны —
праз жыцьцё пранясу,
Ня прымаць каб дзецям
расу за асколкі
І асколкі — за ранішнюю расу.[172]

Часта закранаючы ў сваіх вершах агульналюдзкія праблемы вайны, паэта шчасьліва абмінае небясьпечную ў такіх выпадках голую публіцыстычнасьць і прапагандавую крыклівасьць. Наадварот, гэтыя дый усякія іншыя жыцьцёвыя праблемы ў Тармолавых вершах звычайна маюць глыбокую філязафічную вымову.

Нярэдка выступаюць у вершах Тармолы й матывы нацыянальна беларускія. З гэтага гледзішча асабліва цікавы ягоны верш «Бацькаўшчына». Дарагая паэту ідэя бацькаўшчыны глыбака яго хвалюе, і ён канчае свой верш жыцьцярадасным пачуцьцёвым акордам:

Люблю-ю-ю...
Люблю-ю-ю... —
Разносіцца ў ваблоках, —
Зямлю
і тых вунь з косамі людзей!
А новы дзень
румяніць людзям шчокі,
Бо з сонцам
пачынаюць новы дзень.
Я радуюся шчыра, як магу,
Што крочу з гэтымі людзьмі ў нагу.[173]

На пачатку 1966 году Тармола выдаў другі зборнік сваіх вершаў і паэмаў «Поўня». Зборнік адчыняецца цікавым вершам «Хлеб», у якім паэта паралельна разьвівае дзьве думкі: пра хлеб і пра працу над вырошчваньнем хлеба, у тым ліку й працу літаратурную над вершам, што для чалавека такі-ж канечны, як і хлеб. Галоўная думка верша, што адно тая паэзія можа мець вартасьць роўную з хлебам, калі паэта «над радком, як над ральлёй пацеў»,[174] быў у дачыненьні да паэзіі руплівым «хлеборобам», а не «дармаедам».

Сваёй праграмнасьцяй і ідэйнай прынцыповасьцяй, сугучнай сяньняшняму дню, вылучаецца Тармолаў верш «Галоўнае»:

Хачу дазнацца, што ў жыцьці галоўнае:
Сумленьне,
вернасьць,
абавязак сынаў?

Было...
Расплачваліся ў нас галовамі
За гэта ўсё, —
у сэрцах боль насілі...

[172] «П», № 2, 1963, б. 4.
[173] «М», № 12, 1963, б. 17.
[174] «Б», № 8, 1965, б. 1.

Але сумленнасьць ня перавялася,
І вернасьці сыноўняе стае.
Радзіма, я ніколі ня цураўся
Ні мовы,
        ні гісторыі твае.
Трымаю голаў на тваіх каленях,
І згоды я ніколі тым ня дам,
Хто кажа: «І на сонцы плямы-цені...»
А я хачу, каб ты была бяз плям.
Сьвяцілася-б уся, як росы тыя,
Што дзеці нашы ў прыгаршчы бяруць.
Хай рукі сьае працаю адмые,
Хто ведае: на іх застаўся бруд.
Тут словам «памыляўся» не паможаш,
Не адмахнешся больш: «Такой бяды...»
Не да прамоў і не да слоў прыгожых —
Жыцьцё жыцьцём даказваюць заўжды.
І вечна будзе у людзей галоўным
Сумленьне,
        вернасьць,
                абавязак сынаў...
Грудок зямлі любімай у далонях
І жыць і важыць людзям даваў сілы...[175]

У Тармолавых вершах зборніку «Поўня» наагул тая-ж агульналюдзкая й нацыянальная беларуская праблемнасьць, тыя-ж асабістыя й грамадзкія пачуцьці й рэфлексіі, што і ў вершах першага зборніка. Хоць навейшыя вершы, як творы мастацтва, куды больш дасьпелыя, нельга яшчэ сказаць, што поўнасьцяй ужо сфармаваўся профіль Тармолы, як паэты. Таму застаецца далучыцца да думкі першага рэцэнзэнта зборніка «Поўня» Фёдара Яфімава, што «Р. Тармола — увесь у станаўленьні».[176]

Калі толькі ход пра наватарскія пошукі ў сучаснай беларускай паэзіі й пра мастацкае экспэрымэнтаваньне некаторых маладых паэтаў, дык у якасьці прыкладу звычайна падаюць маладога паэту *Янку Сіпакова.* Ягоны апошні, а другі з чаргі зборнік вершаў «Лірычны вырай», выдадзены пад канец 1965 году, дзякуючы гэтаму, стаўся аб'ектам асаблівай увагі крытыкі. Некаторыя крытыкі маюць тэндэнцыю інтэрпрэтаваць наватарства й экспэрымэнтаваньне Сіпакова, як пагоню за модай, каб за ўсякую цану быць арыгінальным і не падобным да іншых паэтаў. Гэтак Алег Лойка, хоць і прызнаў Сіпакову бясспрэчны талент і «вялікі запас творчых мажлівасьцяў», усё-ж знайшоў у шмат якіх ягоных вершах «той няплённы ўхіл, які спароджаны думкай, што паэзія пачынаецца ўвогуле там, дзе ёсьць увасабленьні, мэтафарызацыя, вонкавыя прыёмы, асабліва такія, якія яшчэ ў навіну для нацыянальнай паэзіі ўвогуле».[177] Зусім інакш і супрацьлежна да Лойкі ацаніў новыя вершы Сіпакова Пятрусь Макаль у сваёй рэцэнзіі ў газэце «Літаратура і Мастацтва». Паводля Макаля, наватарскія вершы Сіпакова зьяўляюцца «не ад жаданьня бліснуць фармальнай вынаходлівасьцю, а з рэальнай патрэбы як мага паўней і да-

---

[175] «М», № 4, 1965, б. 29.
[176] «ЛіМ», № 51, 24 чырвеня 1966.
[177] Алег Лойка. Пошукі і ўплывы моды. «М», № 4, 1966, б. 141.

кладней увасобіць складанасьць сучаснага жыцьця, драматызм эпохі».[178] Макаль, на нашую думку, лепш, чымся Лойка, зразумеў наватарскія пошукі Сіпакова.

Першы зборнік сваіх вершаў «Сонечны дождж» выдаў Сіпакоў яшчэ ў 1961 годзе. Зборнік зьмяшчаў вершы, пісаныя паводля ўсіх канонаў традыцыйнае паэтыкі. Паводля характару паэтычнай экспрэсіі, яны, як і наагул традыцыйная лірыка, вызначаліся эмацыянальнай насычанасьцяй, а інтэлектуальнага элемэнту ў іх бадайшто ня было. Зусім што іншае ў вапошнім зборніку Сіпакова. Прыраўноўваючы яго да першага зборніка паэты, Міхась Стральцоў вельмі трапна выказаўся, што аўтар у зборніку «Лірычны вырай» «таленавіта адмовіўся ад сябе, ад сваёй здольнасьці пісаць вершы — у імя здольнасьці мысьліць імі».[179] Гэта, аднак, не абазначае, што новыя вершы Сіпакова зусім пазбаўленыя лірычнага, эмацыянальнага элемэнту. Наадварот, запас эмоцыяў у ягоных вершах нязвычайна багаты й разнастайны, але яны не накідаюцца беспасярэдня чытачу, а свабодна й пасярэдня ўжо выплываюць з асацыяцыйных вобразаў верша, сканструяваных паводля сваясаблівай мастацкай лёгікі. Найпершымі элемэнтамі такога верша — чыста інтэлектуальнае ўспрыйманьне рэчаіснасьці, якое, аднак, сваім парадкам, узбуджае пачуцьці ды змушае працаваць фантазію. Найлепш, калі пакажам гэтую мастацкую асаблівасьць Сіпакова на прыкладах некаторых ягоных вершаў. Вось кароценькі вершык з апошняга зборніка «Зялёнае воблака на рынку»:

Гэй, купляйце, я прадаю
Вятры, травінкамі закалыханыя!
Гэй, купляйце, я так аддаю
Салаўіныя песьні, з лугу сабраныя!

Сьмялей падыходзьце — я-ж прадаю
Май, што водарам весьнім упоены.
Бярэце. Я ў кветках вам мёд аддаю,
Што на гудзе пчаліным настоены.

Ну, бярэце-ж хутчэй: я прадаю
Сонца, маланкі — іх знойдзеце вобмацкам.
Таргавацца ня трэба: за так аддаю
Вам зялёнае, летняе воблака —
Воз духмянага сена![180]

У вершы маем усяго адзін разгорнуты асацыяцыйны вобраз — возу сена на рынку. Гэты вобраз ад пачатку й да канца асацыюецца з усімі тымі калёрамі, галасамі й пахамі, сярод якіх расла лугавая трава. Такая разгорнутая асацыяцыя, мысьленьне асацыяцыйнымі вобразамі, хоць і дае паэту шырокія, проста неабмежаваныя мастацкія магчымасьці, але й вымагае ад яго інтэнсыўнай творчай фантазіі, а ад чытача — напружанай увагі й асацыяцыйнага думаньня, каб перажыць, і то перажыць эмацыянальна гэткі верш.

---

178 «ЛіМ», № 11, 4 лютага 1966.

179 Міхась Стральцоў. Лінія паэтычнага гарызонту. «П», № 5, 1966, б. 175.

180 «П», № 5, 1965, б. 123.

Вазьмем яшчэ адзін верш — «Лірычны ўспамін», характэрны яшчэ й тым, што разьвівае й глыбокія думкі таксама пры дапамозе асацыяцыйнага вобразу. Тут паэта прыпамінае сваё маленства, пражытае ў бацькоўскай сялянскай хаце, што «любіла лашчыцца печкай, дзе грэліся бабчыны казкі, дзе за комінам сны хаваліся...» Пра гэтую вось печ паэта спачатку кажа гэтак:

Мне вясёлыя дні твае ўпамку,
Калі цяжка было загнету
Ад гаршкоў, чыгункоў пузатых,
Калі радасна печка сьмяялася
Сваім шчырым шчарбатым ротам;
А калі яна хлеб ружавіла —
На пах адусюль зьляталіся
Сарокі да нашага коміна.

Гэта — часы сялянскага дабрабыту й дастатку. А вось і вобраз вясковага голаду:

А было ў цябе і такое,
Калі пахла ты бульбай гнілою,
Калі стравы былі ўсе з крапівы —
Ня стрыкае, пякучка, у голад!
Калі печ вінавата глядзела,
Халоднай закрыўшыся засланкай,
Калі міскі і лыжкі маўчалі,
Хоць чакалі мы іхнага звону.

І нарэшце, ужо ня зь печкай, але з хатай асацыюецца народная трагэдыя апошняй вайны:

Я цябе і заплаканай помню,
Калі бацька табе й нам на ростань
Падаваў зьвязаныя рукі,
Што як крылы ў вяроўках біліся...
Паніжэла вянцоў ты на пару,
Пастарэла гадоў на дзясятак
І, вуглы ў кулакі сашчапіўшы,
Пагражала нямецкім вінтоўкам.[181]

Гэтыя вось вобразы сваёй жыцьцёвай праўдай, непаўторнай арыгінальнасьцяй, багатай асацыяцыйнай мовай і антрапамарфізацыяй рэчаў няжывога сьвету — узаўпраўды здольныя ўсхваляваць чытача. Гэтак бадайшто ўсе, зь вельмі рэдкімі выняткамі, вершы зборніка «Лірычны вырай» разгортаюць падобныя асацыяцыйныя вобразы, кажны зь якіх мае сваю глыбака зьместоўную вымову. Наагул-жа, наватарскія пошукі Сіпакова — гэта не пагоня за модай, як думае Алег Лойка, а ўласьцівая паэту асаблівасьць паэтычнага таленту, для ўсяе-ж сучаснае паэзіі — азнака ейнага няўпыннага росту.

Моцнае грамадзкае гучэньне знаходзім у вершах *Анатоля Вярцінскага,* што ў 1963 годзе выдаў першы й тымчасам адзіны зборнік сваіх вершаў «Песьня пра хлеб». Артур Вольскі ў сваёй рэцэнзіі на гэты збор-

---

[181] «П», № 5, 1965, б. 123.

нік пад загалоўкам «Вучыцца, шукаць», рэцэнзіі, хоць і зычлівай да Вярцінскага, як да «здольнага паэты, моцна зьвязанага з роднай глебай, са сваім народам, з нашай рэчаіснасьцю»,[182] усё-ж знайшоў у зборніку больш адмоўнага, чымся дадатнага. Рэцэнзэнт, дарэчы зусім справядліва, паставіў быў у дакор маладому паэту «аднастайнасьць інтанацый, вялую рытміку, неапраўданыя паўторы, даволі частыя моўныя агрэхі».[183] Пасьля выданьня гэнага зборніка, Вярцінскі бадайшто зусім быў замоўк, як паэта, спрабуючы сваіх здольнасьцяў — і трэба сказаць, ня без удачы — у галіне літаратурнае крытыкі. Выглядала, што па першай няўдачы, Вярцінскі зусім пакінуў паэзію.

Выйшла-ж, што паэта даўжэйшы час як-бы набіраў сілы да новага старту, і старт гэты, зроблены напрыканцы 1965 і пачатку 1966 году, выйшаў ужо на карысьць аўтару. Новыя вершы Вярцінскага маюць выразныя грамадзкія матывы, а ў іх найчасьцейшай нотай згукаецца супольная сяньня бадайшто ўсім паэтам і асабліва вызначальная для сучаснасьці ідэя чалавека й чалавечнасьці. На гэтую тэму гэтулькі ўжо напісана, што, здавалася-б, нельга сказаць чагосьці новага, што ня было-б паўторам ужо сказанага. Тымчасам Вярцінскі ў вершах на гэтую тэму патрапіў быць арыгінальным і непаўторным. Вазьмем, як прыклад, ягоны верш «Мы на пачатку зазналі страху», у якім паэта сьцьвярджае спачатку, што сваіх фізычных здольнасьцяў і духовых звычак чалавек навучыўся ад зьяваў жывой і няжывой прыроды, сярод якой рос і разьвіваўся:

Мы на пачатку зазналі страху,
перад прыродай падалі ніц.
Потым лятаць вучыліся ў птахаў,
агонь здабываць —
у навальніц.

Плаваць — у рыб,
у сям'і качынай
мы вучыліся паляваць,
шумець — у ветра,
у кракадзіла —
хвальшывыя сьлёзы праліваць.
Быць задуменнымі — у воблак,
быць спакойнымі — у дрэў.
Да зор узьнімаў чалавек свой воблік
і, гледзячы на іх, мудрэў.[184]

Але, кажучы словамі вершу, «іншая справа — стаць чалавечным. Тут узорам ня можа быць прырода з законам яе адвечным: «З ваўкамі жыць — па-воўчаму выць». Вышэйшую якасьць людзкой душы — чалавечнасьць з усімі ейнымі маральна-этычнымі атрыбутамі — чалавек павінен знайсьці «у самым сабе і ў тых, што да яго падобныя». Гэткі выснаў — не банальнае маралізатарства, а арыгінальна сфармуляваная думка.

---

[182] Артур Вольскі. Вучыцца, шукаць. «М», № 6, 1963, б. 143.
[183] Тамсама, б. 144.
[184] «М», № 5, 1966, б. 32.

Варта ўспомніць пры гэтым іншы, пісаны на народны лад верш «Гора — не бяда». У ім разгортваецца думка, што «беды — непазьбежнасьць» у жыцьці чалавека, ужо наканаваная яму «залежнасьць ад прыроды — мёртвай і жывой». Таму ўсе беды — гэта яшчэ ня гора, за выняткам аднае бяды — несправядлівасьці, што «горай за ўсякіх бед».[185]

Спасярод вершаў на іншыя тэмы карысна вылучаюцца глыбокай думкай вершы пра народныя няшчасьці апошняе вайны. Вось, прыкладам, верш «Дынамік». Верш пачынаецца зусім празаічным і нязначным выпадкам, калі ў вадзінокай сялянкі папсулася «радзіва», якое ў ейным адзіноцтве замяняла ёй жывы голас дарагіх сыноў, што не вярнуліся з вайны. Із сваёй бядой ідзе яна да «радзіста Косьці», каб «паглядзеў, што гэта зь ім», але ў «радзіста» якраз нарадзіўся сын. Гэтая радасная падзея ў чужой сям'і прыводзіць старой на памяць сумную гісторыю зь ейнымі сынамі, і яна разважае ўголас:

Так крычаў і мой малодшанькі,
Што забілі на вайне...
Бач, выпроствае аж ножанькі.
Імя выбралі ці не?
Бач, які галасок сярэбранькі...
Так крычаў і мой сярэдняннькі,
Ня прыйшоў што з партызан,
Што памёр ад цяжкіх ран.
А старэйшы быў ціхоня.
Як радзіўся —
                спаў і спаў...
Можа дзе жыве і сягоньня,
Раз бязь весткі ён прапаў.[186]

Гэта — ня проста пераказ успаміну старое маці пра ейных сыноў, а трагэдыя ўсіх беларускіх матак, дзяцей ад якіх забрала вайна. Паэтычная экспрэсія гэтага верша дасягаецца спакойнай, чыста гутаркавай мовай няшчаснае маці, якая, гаворачы пра сьмерць сваіх сыноў, прыпамінае іхнае маленства.

Падобная, але ўжо самой канцэпцыяй верша абагульненая на ўвесь народ трагэдыя апошняй вайны разгорнутая ў вершы «Кожны чацьвёрты». Паклікаючыся на статыстычныя дадзеныя, паводля якіх у часе апошняй вайны загінуў кажны чацьверты Беларус, паэта пачынае свой верш гэткім паралелізмам:

Вы бачылі лес,
                дзе прагал скразны?
Скажэце, вы бачылі бор той,
дзе кожнай другой няма сасны,
ці сама меней — чацьвёртай?
Тое-ж было з народам маім.
Сякера вайны прайшлася па ім.
І — падаў, распрасьцёрты,
кожны чацьвёрты.

---

185 «ЛіМ», № 101, 17 сьнежня 1965.
186 «М», № 5, 1966, б. 34.

I верш канчаецца гэтак:

Не забываем страты свае.
Памяць шуміць, як чароты.
О, як нам вас не стае, —
кожны чацьвёрты![187]

Гэта — не прапагандавы й модны сяньня лёзунг за мір, а глыбокі сваёй балючай праўдай крык паэтычнага сэрца, чулага на ўсе радасьці й няшчасьці ягонага народу.

Карыснай характэрнай азнакай вершаў Вярцінскага тое, што ў іх няма нічога лішняга. Ягоныя вобразы намаляваныя адно кароткімі штрыхамі, часта павязанымі між сабой далёкімі асацыяцыямі, што надае ім плястычную пукатасьць, а думкам і эмоцыям — войструю выразнасьць. Паэтычная мова Вярцінскага зусім простая, гутаркава-народная, густа перасыпаная афарызмамі й народнымі прыказкамі, але, нажаль, часамі й сухаватая ды залішне празічная.

Да групы наймалодшых, але здольных і цікавых паэтаў належыць *Анатоль Сербантовіч*. Пачынаючы ад 1962 году, ён надрукаваў у літаратурных часапісах цімала сваіх вершаў, што адно ў першай палавіне 1966 году выйшлі собным зборнікам «Азбука».

У сваёй ацэне рэчаіснасьці й людзей Сербантовіч глыбака ўдумлівы, паважны, можна сказаць, суровы. Гэткім ён перш-наперш да самога сябе. Ён сьведамы, што ў шуканьні свайго месца ў жыцьці, ён часта блудзіць і робіць памылкі. Але гэта яго не палохае, бо ён ведае, што жыцьцё — гэта змаганьне, а ў змаганьні — і сэнс жыцьця:

Я памыліўся.
Я не адмаўляюся.
Пакорліва сьхіляю галаву.
Але галоўнае ня ў тым,
што каюся.
А ў тым,
што непакорліва жыву.
Лупцую гэта.
Тое выратоўваю.
Шукаю.
Непакоюся,
Гару.
I хоць мяне памылкі загартоўваюць,
Памылкам дзякуй я не гавару.
Я ведаю,
што я ўсёроўна вырасту,
I што мяне няўдача не саб'е.
Я ведаю,
што ад памылак вырвуся,
I адшукаю ў барацьбе сябе.[188]

Шукаючы ў чалавеку людзкой годнасьці, дабрыні, праўды й справядлівасьці, або, падводзячы ўсе гэтыя якасьці пад супольны назоўнік —

---

[187] Тамсама, б. 34—35.
[188] «М», № 1, 1965, б. 61.

чалавечнасьці, паэта ненавідзіць у ім штучную позу, баязьліўства, няшчырасьць і хвальш. У сваім вершы «Нямыя размаўляюць пальцамі» шчырых і адважных нямых, што «рухамі рук і губ... крычаць, калі пабачаць, што не зьвяліся махляры», паэта супрацьстаўляе ненямым, што

...з усьмешкамі падробнымі
Зьгінаюцца у дзесяць шый,
Чаму прыкідваюцца добрымі,
Хоць і нядобра на душы?..

Няшчырасьць бачачы іх мыльную,
Калі страчаюць часам іх —
Глядзяць з пагардаю нямыя
На гэтых ненямых
нямых.[189]

З гэтым вершам выразна пераклікаецца другі Сербантовічаў верш — «Манэкены». Паэта, ідучы гарадзкім праспэктам, бачыць у вокнах магазынаў бяздушных манэкенаў, што «па сваёй аналёгіі нагадваюць бюракратаў»:

Тых бюракратаў ветлівых,
Чыстых і асьцярожных,
Што ўсьміхаліся сьветла мне,
А гаварылі:
— Ня можам...
Што гаварылі:
— З радасьцю-б...
Ласкай сьвяцілася поза,
Але і тады у сапраўднасьці
Быў няжывы іх позірк.
І па праспэкце праходзячы,
Можа таму — няйначай,
Іх недалёкіх родзічаў
Я ў вітрынах бачыў.[190]

Як і шмат іншых сучасных паэтаў, Сербантовіч у шмат якіх вершах адклікаецца на трагэдыю апошняе вайны, якой, пэўна-ж, ня памятае (нарадзіўся ў 1941 годзе), але балючыя водгукі гэтай трагэдыі, хіба-ж, яму ня чужыя. Гэтак у вадным з раньніх сваіх вершаў ён перадае перажываньні нешчасьлівай маці, калі яна дастала з фронту паведамленьне, што ейны сын «прапаў бязь весьці». А гэныя «бюракраты» й «манэкены», пра якіх кагадзе была гутарка, падсоўваюць ёй думку, што ейны сын, відаць, «здаўся ў палон».

А ня ведала тая маці,
Што вясновым пявучым ранкам
Спатыкнуўся
і ўжо ўзьняцца
Сын ня змог ля варожага танка...[191]

---

[189] Тамсама, б. 61.
[190] «М», № 2, 1963, б. 68—69.
[191] «М», № 5, 1962, б. 82.

Увесь трагізм ня ў тым, што сын загінуў на фроньце, а ў тым, што яго падазраюць яшчэ і ў зрадзе радзімы. Шырака разьвіў і глыбока асэнсаваў гэтую думку Іван Шамякін у сваёй аповесьці «Мост», пра што гутарка будзе на сваім месцы.

Як відаць з пададзеных прыкладаў, лірыка Сербантовіча наскрозь прадметная із значнай дамешкай сатырычнага элемэнту. Свае думкі й ідэі паэта разьвівае не абстрактна, але на фоне нейкага канкрэтнага выпадку ці падзеі, паказаных у дзеі й руху. Ягоная мова часта-густа перасыпаная мэтафарамі й прыраўнаньнямі, пабудаванымі на народным моўным матарыяле, што надае ягоным вершам самабытную беларускую калярытнасьць.

На бачынах часапісаў «Полымя» й «Маладосьць» на працягу апошняга пяцігодзьдзя часта сустракаліся вершы маладога паэты *Рыгора Семашкевіча,* што адно ў 1966 годзе маюць выйсьці асобным зборнікам. А тымчасам Рыгор Семашкевіч — паэта цікавы, самабытна-арыгінальны й наскрозь сучасны. Як спасярод старэйшых паэтаў Антон Бялевіч, гэтак з прадстаўнікоў маладога пакаленьня Рыгор Семашкевіч найбольш моцна й арганічна зьвязаны ў сваёй творчасьці зь зямлёй — зь беларускай вёскай, сялянскім бытам, вясковай прыродай і з матывамі народнага фальклёру. Але Бялевіч у сваім успрыйманьні вясковай стыхіі ня выходзіць паза межы традыцыйнай паэзіі, тымчасам як Семашкевіч, наадварот, разумее й адчувае гэтую стыхію зямлі з пазыцыяў сучаснага паэты й зусім пасучаснаму яе асэнсоўвае.

Ад шмат якіх вершаў Семашкевіча вее трывожным неспакоем, каб людзі, што вырываюцца думкамі ў касьмічныя прасторы, зачараваныя сучаснымі дасягненьнямі навукі й тэхнікі, псыхічна не адарваліся ад зямлі, ад ейных жыцьцядайных сокаў. Найбольш поўна падагульніў Семашкевіч гэтыя думкі ў наступным вершы:

За ліўнямі, за аркамі вясёлак,
У краі песень і юначых мар —
Юпітар — на Дзяржынчыне пасёлак,
На ціхай Жлобіншчыне — вёска Марс.

Там да упаду вечарамі полькі,
Ня сьпіцца там удовам па начах.
А цішыні — празрыстай, звонкай — колькі,
Блакіту яснага ў людзкіх вачах!

А недзе на вялікіх касмадромах
Стаяць на старце тысячы ракет,
А недзе ў кабінэтах астраномы
Цікуюць за арбітамі плянэт.

Прайсьціся-б ім, разумным, мудрым, грозным,
Каля сваіх бяроз, сваіх буслоў,
Да вёскі Марс па сініх-сініх росах,
Да тайнаў — песень, рэк, лесавікоў.

Турысты па бульварах, па вакзалах...
Плянэта Марс загадкаю маўчыць...
А ў вёсцы Марс іграюць на цымбалах
І немаўляты вучацца хадзіць.

Ўзьлятаем, людзі, рвёмся у захмар'е.
Няхай стартуюць нашы караблі!
Не забывайце-ж пра зямныя Марсы
І незямныя цуды на Зямлі![192]

Вось гэтыя «незямныя цуды на Зямлі» — бадай ці не адзіны аб'ект паэтавых захапленьняў. І бадай ці ня ўся, яшчэ, праўда, і ня вельмі багатая колькасна, ягоная паэзія — гэта натхненны гімн беларускай зямлі. У вершы «Спакойныя, магутныя дубы» паэта, зачараваны ранішняй музыкай лесу, натхненна ўсклікае: «Зямля, ты ўваходзіш у мяне і бліскавіцаю, і сьпелым ліўнем», і верш канчаецца радкамі:

О, бацькаўшчына! Мы зноў і зноў
Ідзём ад спрэчак, радасьцяў і працы,
Каб грэцца ля рабінавых кастроў
І чысьціні сьнягоў тваіх сьхіляцца.[193]

А вось адзін, зь ці рэдкіх у Семашкевіча, аб'ектна-сюжэтны верш «Быў май». У ім гаворка пра тое, як «прапахлы дымам, полымем, жалезам» чалавек варочаецца з вайны ў сваю вёску. «Сям'ю сваю, свой родны дом знайшоў», але, пасьля даўгога вандраваньня, ён адразу-ж заснуў, доўга спаў, як «ня спаў яшчэ ў жыцьці ніколі». Не патрапілі яго разбудзіць навет выбухі ўзрываных мінерамі мінаў, што «засталіся ад вайны на полі». Але вось,

А поўначчу у спапялёны край
Вярнуўся салавей зь цяжкой дарогі.

Успырхнуў на галінку пад акном,
Запеў на ўсе лады — ну проста дзіва.
Трывожны, ён сьпяваў пра гэты дом,
Пра любую адзіную радзіму.

Нібы хацеў сказаць: «Ну вось і я.
У родны край свой зь песьняю вярнуўся.
Сьвет, слухай, слухай песьню салаўя!»
Ён доўга пеў, і чалавек прачнуўся.[194]

Гэта адзін з найпрыгажэйшых і найглыбейшых патрыятычнай думкай Семашкевічавых вершаў. А вось якія непадроблена шчырыя й павесна-вому сьвежыя пачуцьці перажывае беларускі селянін у гэткіх радкох Семашкевічавага белага вершу «Май»:

І быў, нібы дзіця, шчасьлівы гаспадар,
Той, што прынёс перадсьвяточным днём
Вязанку ладную бярозавага гольля,
Якое ў старане той называюць маем.
Умаіць дом! Прынесьці мора пахаў,
Звон салаўёў-разбойнікаў і сонца.
Галінкі ў гладышох, карнізах вокнаў, кубках.
Як добра засынаць і бачыць зоркі
Там, за вакном, таксама у галінах
І адчуваць сябе калі ня зоркай,
То нечым добрым. Соладка і родна.[195]

---

[192] «П», № 5, 1963, б. 104.
[193] «М», № 9, 1964, б. 14.
[194] Тамсама, б. 15.
[195] «П», № 12, 1965, б. 8.

Прыведзеныя радкі із Семашкевічавых вершаў могуць ужо даць уяўленьне пра характар і асаблівасьці таленту гэтага маладога паэты. Талент ягоны наскрозь лірычны. Але гэты лірызм пазбаўлены дынамічнай выбуховасьці, спакойны, кантэмпляцыйны, глыбокі думкай, сьвежы пачуцьцямі. Пуката-плястычнымі вобразамі, арыгінальнымі асацыяцыямі й мэлядычнай музыкай слова верш ягоны зусім сучасны, можна нат сказаць, наватарскі, хоць наватарскасьць гэтая і памяркоўная, далёкая ад экспэрымэнтальнай віртуознасьці.

Толькі ў першай палавіне 1966 году пабачыў сьвет першы зборнік вершаў *Васіля Зуёнка* «Крэсіва», што на працягу колькіх папярэдніх год друкаваліся на бачынах літаратурных часапісаў. Такі патрабавальны паэта, як Рыгор Барадулін, быў неяк сказаўшы пра Зуёнкавы вершы, што для яго яны «заўсёды сустрэча зь нечым чыстым, родным, наскім, беларускім».[196] І ўзапраўды, усе бяз вынятку Зуёнкавы вершы шчыра хвалююць, выклікаюць глыбокі роздум, разгортаюць непаўторныя сваёй навінёю вобразы й асацыяцыі, змушаюць працаваць фантазію. Вось, дзеля прыкладу, Зуёнкаў верш 1963 году «Помнік»:

— Што-ж ты, бярозанька,
сокам гаючым
Не акрапіла
іх раны?..
— Позна я,
позна ўзрасла па-над кручай:
Хлопцы
даўно пахаваны...
— Што-ж ты, матуля,
сьлязьмі не размыла
Жвір гэты,
смутак чорны?..
— Доўга я,
доўга ішла да магілы —
Сьлёз не данесла,
Сьлёз не хапіла,
Выпіла сьлёзы гора...
— Што-ж ты, матуля,
гневам пякельным
Жвір тады не спапяліла?..
— Гнеў скамяніўся мой...
З гневам каменным
Так і стаю над магілай...[197]

У вершы боль маці па загінутых сынох, хаця й не падаецца прычыны іхнае сьмерці, пра якую гадаць можна парознаму. Але на тое, што сыны не маглі памерці натуральнай сьмерцяй, наводзіць «гнеў пякельны», «гнеў каменны» маці, што стаіць над магілай. Характэрнай асаблівасьцяй Зуёнкавай паэзіі, што зарысавалася ў гэтым вершы — гэта, што паміж думкай і паэтычным вобразам, які павінен перадаць гэтую думку, звычайна далёкая й свабодная, ледзь-ледзь улоўная асацыяцыя. Кампазыцыйная структура верша, у якім думка разьвіваецца ў форме аўтаравых пытаньняў,

---

[196] Рыгор Барадулін. Чакаю зборніка. «Дзень паэзіі» 1965, б. 86.
[197] «П», № 11, 1963, б. 157.

сьціраваных да бярозанькі й матулі, і іхных адказаў, а так-жа вобраз самой бярозанькі з «гаючым сокам», ды навет выраз — «выпіла сьлёзы гора» — гэта характэрныя матывы народнае песьні. Якраз яны надаюць нацыянальны каларыт вобразу. Аднак фальклёрны элемэнт як адно сырэц, ён пэратоплены ў паэтавай фантазіі й містэрна сатканы ў суцэльны мастацкі вобраз, зусім мадэрны сваім гучэньнем. Вынік такога творчага працэсу той, што гэты кароценькі вершык да глыбіні кранае нашае пачуцьцё, узбуджае фантазію, паглыбляе думку, прыгадваючы народную трагэдыю, — дае нам, інакш кажучы, глыбокае эстэтычнае перажываньне.

Вазьмем іншы прыклад з найнавейшага верша Зуёнка, што быў надрукаваны без загалоўку ў газэце «Літаратура і Мастацтва» за 11 сакавіка 1966 году. Верш пачынаецца словамі: «Тры вышыні, тры сілы знаю ў лесе». Першая сіла — «з камлёў — сталёвая», зь якіх у хатах «спрадвек вянцы вязалі». Другая сіла — уяўляецца паэту «песьняй звонкай» пасярэдзіне сасновага камля, дзе, як ён кажа, «сонца захлынаецца ад медзі». З гэтае часткі дрэва «звонкія цымбалы выразалі». «А ля аблок — у гойданцы зялёнай — жыцьця пачаткі правяць цуд штодзённы» — гэта трэйцяя сіла. Да гэтых вось «вяршынь узьляталі думкаю паэты — пазнаць імкненьня і жыцьця сакрэты». Гэткім знаў паэта беларускі лес. І раптам жахнуўся: нехта «цьвёрдай рукой падрэзаў жылы, жывіцу цягне — жывую сілу», гордым соснам «прыдумаў Майданэк». Верш канчаецца пытаньнямі, якія паэта ставіць:

...перад вашым, сосны, вечам,
На тым судзе — лясным і чалавечым —
Спытаю гнеўна — хай адказ трымае:
Чаму дух смольны з нашых хат зьнікае
І гніль вянцы бярэ? І так хліпка
І глуха так чаму сьпяваюць скрыпкі?
Чаму ў паэтаў паніжэлі думы,
Ня вырвуцца ніяк з пустога тлуму!..
І калі ён змаўчыць, дык вы — крычэце!
Крычэце, сосны, сосны, не маўчэце...

Ці-ж можна больш арыгінальна, войстра й чула выказаць любасьць да роднае прыроды й лепш асэнсаваць ейную ролю ў жыцьці людзей? І гэтак бадайшто кажны Зуёнкаў верш чымсьці інакшы ў сваёй непаўторнасьці, чымсьці, як кажа той-жа Барадулін, «па-вясноваму звонкі, па-маладому сьмелы».[198]

*

Апрача гэтта разгледжаных, шмат іншых маладых паэтаў, што ўжо маюць па адным-два зборнікі сваіх вершаў або яшчэ зусім ня маюць кніжных выданьняў сваіх твораў, стаўляюць у беларускай паэзіі цьвярдыя й упэўненыя крокі ды выяўляюць сыстэматычную творчую актыўнасьць. Калі назваць найбольш ужо ведамых спасярод наймалодшых паэтаў, як Анатоль Грачанікаў, Казімер Камэйша, Генадзь Кляўко, Уладзімер Паўлаў, Мікола Кусянкоў, Іван Летка, Мікола Маляўка, Хведар Чэр-

[198] Рыгор Барадулін, тамсама, б. 89.

ня, Хведар Жычка, Уладзімер Ляпёшкін, Вольга Іпатава, Нэля Тулупава, Васіль Макарэвіч, Генадзь Тумас, Кастусь Цьвірка, Сяргей Панізьнік, Міхась Рудкоўскі, Міхась Стрыгалёў, Мікола Федзюковіч, Міхась Губарнатараў, Міхась Кушняроў, — дык і гэты даўгі пералік яшчэ далёка ня вычэрпвае прозьвішчаў усіх пачынаючых паэтаў, што даюць большыя або меншыя довады паэтычнага росту.

Апошняе пяцігодзьдзе якраз асабліва характэрнае масавым прыходам у літаратуру новых паэтычных талентаў. За часамі сталінаўскага тэрору быць паэтам або пісьменьнікам зь нязбытым клопатам і асьцярогай, каб ня скрывіць афіцыйнай лініі ды ня выйсьці паза яе, было і няцікава, і небясьпечна. Затое сяньняшняя сытуацыя й абставіны разьвіцьця беларускай паэзіі ладна зьмяніліся. Нельга лепш схарактарызаваць гэтай сытуацыі й абставінаў, як гэта зрабіў у вадным сваім артыкуле Ніл Гілевіч:

> Ня ведаю, ці ўсе, што цікавяцца лёсам роднай паэзіі і сочаць за яе разьвіцьцём, пагодзяцца са мною, але ў мяне асабіста склалася такое ўражаньне, што яшчэ ніколі маладыя парасткі не прабіваліся так напорыста й паўсямесна і ня шугалі так хораша й дружна, як у самы апошні час, як сёньня. Міжволі прыходзіць на ўспамін народнае параўнаньне: растуць, як грыбы пасьля дажджу. І міжволі хочацца сказаць: будзьце-ж вы навек блаславёны, добрыя дажджы, што прайшлі ў патрэбную пару над усёй краінай — дзеля жыцьця і чалавечай радасьці.[199]

У гэным-жа артыкуле Ніг Гілевіч падаў яшчэ й наступную інфармацыю пра наймалодшых спасярод маладых паэтаў:

> За апошнія паўтара гады на старонках «Маладосьці», «Чырвонай зьмены», «Літаратуры і Мастацтва», «Полымя» і іншых рэспубліканскіх выданьняў было апублікавана некалькі сот вершаў звыш сямідзесяці аўтараў, якія робяць свае першыя крокі ў паэзіі (толькі ў рэспубліканскім друку, не гаворачы пра абласны і раённы)».[200]

А старэйшы паэта Максім Лужанін, сьцьвярджаючы ў сваім судакладзе на Пятым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі «прадчуваньне вельмі багата паэтычнага плёну», зазначыў: «Моладзь расьце так натхнёна і няўрымсьліва, што пачынаюць прыгадвацца часы «Маладняка» зь яго 500 паэтамі».[201] Пэўна-ж, гэтае Лужанінава прыраўнаньне ня можа быць поўным. За часамі маладнякоўскай «бурапены» даволі было аднае крыклівае рэвалюцыйнае фразэалёгіі, павязанае ў вершаваныя радкі, каб мець дадзеныя аўтару такіх вершаў уважацца за паэту. Былі гэта ў васноўным эмбрыянальныя паэты, што ў бальшыні выпадкаў паза стадыю пачынаючых гэтак і ня выйшлі, і з тае астранамічнае колькасьці засталіся ў літаратуры адно адзінкі.

Сяньняшняя-ж паэтычная моладзь, як сьцьвярджае й савецкая літаратурная крытыка, вызначаецца высокай літаратурнай культурай і строгай патрабавальнасьцяй да самое сябе, што дае поўныя асновы чакаць буйнога росквіту ейнае паэтычнае творчасьці, ейнага «багатага паэтычнага плёну».

---

[199] Ніл Гілевіч. Радасныя надзеі. Думкі аб паэзіі маладых. «ЛіМ», № 34, 26 красавіка 1966.
[200] Тамсама.
[201] «ЛіМ», № 40, 17 травеня 1966.

## III

## МАСТАЦКАЯ ПРОЗА

Пісьменьнік Іван Навуменка ў сваім судакладзе на пятым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі сьцьвердзіў: «Яшчэ гадоў дзесяць-дванаццаць назад вядучым жанрам у беларускай літаратуры была паэзія. Цяпер становішча перамянілася — на першым месцы проза. Відаць, гэта зусім нармальны працэс, які характарызуе сталасьць літаратуры».[202]

Ставячы такое цьверджаньне, Навуменка, пэўна-ж, ня выходзіў з чыста колькасных паказальнікаў, бо паэзія ў беларускай літаратуры паранейшаму прадстаўленая найбольшай колькасьцяй аўтараў, але з таго меркаваньня, што сучасная беларуская мастацкая проза ў васобах гэткіх пісьменьнікаў, як Іван Мележ, Уладзімер Караткевіч, Янка Брыль, Іван Шамякін і Васіль Быкаў дасягнула вышэйшага ўзроўню.

Гэты інтэнсыўны росквіт беларускай мастацкай прозы адным зь першых пачаў *Іван Мележ* раманам «Людзі на балоце», із задуманага ім цыклю «палескай хронікі», зь ня меншай удачай спрычыніўшыся да яго наступным з гэнава цыклю раманам «Подых навальніцы». Раман «Людзі на балоце» быў упяршыню надрукаваны ў 8—10 нумарох «Полымя» за 1961 год, кніжным выданьнем выйшаў ён год пасьля — у 1962 годзе. Раман-жа «Подых навальніцы» друкаваўся ўпяршыню ў нумарох 1—2 «Полымя» за 1964 і ў 9—11 за 1965 год, а асобнай кніжкай зьявіўся на пачатку 1966 году.

Раман «Людзі на балоце» адразу-ж пасьля свайго зьяўленьня ў «Полымі» выклікаў у літаратурных і чытацкіх колах БССР гэткую жвавую, адназгодна пазытыўную рэакцыю, як бадай ніводзін яшчэ іншы твор у беларускай літаратуры савецкага пэрыяду. Раман гэты, за які была прызнаная аўтару літаратурная прэмія ймя Якуба Коласа, стаўся проста літаратурнай падзеяй. Пра ўражаньне, якое выклікаў у пісьменьніцкіх колах раман «Людзі на балоце», гэтак інфармуе крытык Янка Казека:

> Пра раман Івана Мележа «Людзі на балоце» загаварылі адразу, як толькі ён пачаў друкавацца ў часапісе... Не пасьпеў выйсьці ў сьвет часапіс з заканчэньнем раману, а ў друку зьявіўся поўны захапленьня водгук Янкі Брыля, які дачытваў гэты твор у карэктуры і назваў яго «запаветнай песьняй». Неўзабаве прайшло абмеркаваньне раману ў Саюзе пісьменьнікаў. Ня часта даводзілася бачыць такую аднадушнасьць у вацэнцы новага твору, якая выявілася на гэтым абмеркаваньні. Усе, хто прыйшоў падзяліцца сваймі думкамі і ўражаньнямі, гаварылі пра «Людзей на балоце», як пра твор таленавіты, напісаны рукою сталага майстра, як пра цікавую і радасную зьяву сучаснай беларускай прозы.[203]

Успомнены Іван Навуменка ў сваім судакладзе на пісьменьніцкім зьезьдзе даў гэткую характарыстыку сучаснай мастацкай прозе, паказаўшы на ейную адрознасьць ад прозы часоў сталінізму:

---

[202] Іван Навуменка. Сем гадоў пошукаў і зьдзяйсьненьняў. «ЛіМ», № 39, 13 травеня 1966.

[203] Янка Казека. Дарога па зямлі. «П», № 6, 1962, б. 140.

> ...пачалі страчваць вагу творы, у якіх жыцьцё падавалася спрошчана, прасталінейна, з тэндэнцыяй лякіроўкі, згладжваньня супярэчнасьцяў, творы, дзе на першы плян выступала тэма, а не яе паўнакроўнае мастацкае ўвасабленьне.
>
> Асаблівасьцю твораў апошніх гадоў зьяўляецца тое, што іх аўтары імкнуцца да мастацкага дасьледаваньня жыцьця ў яго самых разнастайных сувязях, не пазьбягаюць пытаньняў складаных, супярэчлівых.[204]

Раман «Людзі на балоце» быў хcraналягічна першым у нашай літаратуры, у якім вызначаныя Навуменкам новыя асаблівасьці выступілі ўва ўсёй сваёй глыбіні й шырыні. Гэтае «мастацкае дасьледаваньне жыцьця ў яго самых разнастайных сувязях» выявілася перш-наперш у шырокім і неабмежаным ідэялягічнымі меркаваньнямі рэалістычным паказе жыцьця палескай вёскі ды ейных жыхароў, кажны зь якіх — наскрозь жывы, зьіндывідуалізаваны й адрозны ад сваіх суседзяў характар. Вельмі трапна зазначыў Уладзімер Юрэвіч, што «Іван Мележ ня проста апісаў вёску беларускага Палесься, а ўзьняўся да мастацкага паказу таго тыповага, што складала зьмест жыцьця паляшукоў на першым часе ўсталяваньня савецкай улады ў Беларусі».[205]

У жанравым сэньсе, «Людзі на балоце» — раман сацыяльна-псыхалягічны. У ім разгортваюцца дзьве асноўныя сюжэтныя лініі — псыхалягічная — лінія каханьня Васіля й Ганны, ускладненая ўмяшаньнем Яўхіма Глушака, ды сацыяльная — лінія прасяканьня ў глухую палескую вёску Курані подыху новых падзеяў, зроджаных рэвалюцыяй. Абедзьве гэтыя лініі ўзаемна зазубляюцца, а разгортаюцца на фоне шырокага паказу жыцьця й быту палескай вёскі. Першая лінія завяршаецца тым, што Ганна пакідае любага ёй, але беднага Васіля Дзятліка ды выходзіць замуж за нялюбага Яўхіма Глушака. Хоць чытач застаецца прыкра расчараваным такім нешчасьлівым фіналам, але гэткая разьвязка ў тагачасных абставінах жыцьця беларускай вёскі псыхалягічна ўматываваная. Крытык Рыгор Шкраба зусім добра характарызуе гэныя абставіны:

> Мы ведаем і пра сілу традыцый, і пра асаблівасьці асяродзьдзя, у якім жыла дзяўчына, і пра прычыны эканамічнага характару, якія штурхнулі яе на гэты крок. Мы ведаем, што Ганна ў тых акалічнасьцях не магла зрабіць інакш, што зь ёй разыгралася яшчэ адна трагедыя, тыповая для таго часу.[206]

На другой сюжэтнай лініі — сацыяльнай — даецца час пачатку 20-ых гадоў, калі бальшавізм, прынамся ў сваёй сацыяльнай праграме, яшчэ не ўвайшоў у войстры канфлікт з народам. І ў Мележавым творы паказаныя адно тыя мамэнты савецкай рэчаіснасьці, што ня былі вылучна бальшавіцкімі, але агульнанароднымі ды знаходзілі шырокае адлюстраваньне навет у антыбальшавіцкіх праграмах гэнага часу. Адным з такіх мамэнтаў, шырака разгорнутым у рамане — гэта перадзел зямлі між сялянаў вёскі Курані. На фоне гэтай падзеі, як у наступнай частцы «палескай

[204] Іван Навуменка, тамсама.
[205] Уладзімер Юрэвіч. Шматгалосьсе жыцьця. «М», № I, 1964, б. 130.
[206] Рыгор Шкраба. Да праўды жыцьця. «П», № 6, 1962, б. 170.

хронікі» на фоне калектывізацыі, Мележ вельмі праўдзіва й поўна раскрыў адмоўны тып вясковага багацея й крывасмока, у бальшавіцкай тэрміналёгіі «кулака», Халімона Глушака й ягонага сына Яўхіма. Тымчасам як літаратура часоў сталінізму выводзіла сацыяльна варожыя пэрсанажы вельмі спрошчана й шаблённа, не як жывых людзей, а як носьбітаў контрэвалюцыйных ідэяў, Мележаў Халімон Глушак, пры ўсіх сваіх адмоўных рысах, тып жывы й праўдзівы, багата надзелены рэалістычнымі асаблівасьцямі чалавека дадзенага сацыяльнага асяродзьдзя.

Іншым мамэнтам, за які агітуюць у рамане мясцовыя савецкія актывістыя, — гэта асушэньне грамадзкімі сіламі куранёўцаў і алешнікаўцаў балоцістай грэблі, што на працягу большае часткі году адразала Курані ад навакольнага сьвету. Справа гэтая прыпамінае асушэньне камсамольскай моладзяй Гнілога Балота ў ваповесьці Якуба Коласа 1925 году «На прасторах жыцьця», ды, пэўне-ж, адтуль і трапіла да Мележа. Але і ў Мележа і ў Коласа справа асушэньня балота — перш-наперш справа наагул народная, праводжаная для народнае карысьці.

Дзея «Людзей на балоце» заканчваецца агульным мітынгам на скончанай грэблі. Дык і гэтая сюжэтная лінія даведзеная ў рамане да поўнага завяршэньня. Такім парадкам, і сюжэтна, і кампазыцыйна, і ідэйна раман «Людзі на балоце», хоць задуманы, як першая частка вялікай цэласьці, твор закончаны. Затое нельга гэтага сказаць пра другую частку «палескай хронікі» — раман «Подых навальніцы».

Раманам «Подых навальніцы» «палеская хроніка» ператвараецца ў вагульнабеларускую хроніку з тэндэнцыяй далейшага разгортаньня, у наступных ейных частках, калі гэткія зьявяцца, у народную эпапэю, а дзея зь вёскі Курані й раённага цэнтру Юравічы частква пераносіцца ў сталічны Менск. У гэтым рамане ўжо ня дзьве, як у «Людзях на балоце», а штонайменш чатыры сюжэтныя лініі, і толькі адна зь іх — гісторыя каханьня Хоні й Хадоські — даведзеная да канца. Пасьля даўгіх перашкодаў яны ўсё-ж пажаніліся, хоць і коштам выхаду камсамольца Хоні, гарачага энтузіястага новага жыцьця, з калгасу й вянчаньня ў царкве. Якраз іхным вясельлем канчаецца дзея раману «Подых навальніцы».

Затое трыкутнік Васіль-Ганна-Яўхім у рамане «Подых навальніцы» разгорнуты далей і далёка яшчэ не разьвязаны. Ганна ўсё-ж пакідае Яўхіма, «ідзе ў прочкі», але з Васілём так і ня можа зыйсьціся. Васіль жанаты з Маняй, ахвоча пакінуў-бы яе дзеля Ганны, але ня можа адмовіцца ад прыдбанага ў пасагу куска зямлі, а зямля, собская зямля — ад самага маленства ягонае запаветнае лятуценьне, адно цяперака ўжыцьцёўленае. Дык гэтая, бадайшто цэнтральная ў рамане сюжэтная лінія, чакае на сваю разьвязку ў наступнай чыстцы «палескай хронікі».

Іншая, ня менш важная сюжэтная лінія — калектывізацыя, ужо ня толькі ў Куранёх, а ў вагульнабеларускім, прынамся ў раённым маштабе, якая з дабраахвотнай уваходзіць у фазу прымусовай, ня толькі не даведзеная да нейкага важнага гранічнага пункту, а яшчэ адно пастаўленая на парадку дня. Але пастаўленая гэтак, што ў далейшым ейным разьвіцьці мусяць выявіцца катастрафальныя вынікі, добра ведамыя зь гісторыі калектывізацыі на Беларусі. Дзея раману канчаецца тым, што

старшыня райвыканкому Апейка, вярнуўшыся на пачатку зімы 1929 году зь гістарычнай сэсіі ЦВК у Менску, на якой абмяркоўвалася пытаньне суцэльнай калектывізацыі, дастае важную інструкцыю. Гэтая інструкцыя

> ...дзяліла рэспубліку па тэмпах і тэрмінах калектывізацыі на некалькі зон. З гэтага рашэньня раён быў уключаны ў зону, дзе калектывізацыю завяршыць поўнасьцю трэба было ўжо не ў два-тры гады, а за вясну, можна лічыць, за тры месяцы. Апейка чытаў, неспакойна хадзіў па пакоі, ня мог адолець трывогі, супярэчлівасьці: тое, што яму здавалася празьмерным у некаторых выступленьнях, было ўжо рашэньнем; а рашэньні ён павінен быў выконваць. Звыклы браць цяжар працы на сваё плечы, адказваць за раён, за людзей, ён з прыкрасьцю адчуваў, што задача гэта — проста непасільная, што гэта, як ён ні будзе старацца, ня зробіць; бо зрабіць гэта немагчыма за такі час, пры тых умовах, якія былі вядомы яму зь бясконцых паездак. Але рашэньне ёсьць рашэньне, трэба было рабіць, што магчыма, і — больш таго...[207]

Значыцца, канфлікт зь ягонымі ведамымі вынікамі на фоне калектывізацыі няўхільны. Дый Апейка, кажучы сяньняшняй тэрміналёгіяй, «ідэйны камуністы ленінскага тыпу», належыць да тае катэгорыі савецкіх актывістых, што калі яшчэ й ацалелі на пачатку 30-ых гадоў, дык за яжоўшчынай ужо зусім зьніклі з гарызонту.

З асобай Апейкі зьвязаная яшчэ адна важная падзея гэнага часу — масавыя партыйныя чысткі, а зь імі — выведзеныя на сцэну й актывістыя чыста сталінаўскага тыпу, арганізатары й руплівыя выканальнікі партыйных пагромаў, як сябра камісіі па чыстках Галенчык, сакратар юравіцкага райкому Башлыкоў і сакратар камсамольскай арганізацыі Косьцік Кудравец. Усе гэтыя праблемы, адно пачатыя ў «Подыху навальніцы», чакаюць на свой шырокі паказ і разьвязку ў наступным або наступных раманах з цыклю «палескай хронікі».

Ня менш войстра патрабуе шырэйшага паказу й адпаведнага ідэйнага асэнсаваньня яшчэ адна гістарычная падзея, што ў рамане «Подых навальніцы» яшчэ адно завязваецца ў ягонай чацьвертай сюжэтнай лініі. Гэта — пагромны паход канца 20-ых і 30-ых гадоў супраць беларускай нацыянальнай культуры, ейных носьбітаў і творцаў, ведамы пад назовам «змаганьня з нацдэмаўшчынай». Гэты сюжэтны вузёл завязваецца вакол г. зв. «нацдэмаўскага падбрэхіча», былога Апейкавага вучня паэты Алеся Маёвага, якога, за публічныя выступленьні ў вабароне войстра тады крытыкаваных Цішкі Гартнага, Міхася Зарэцкага, Уладзімера Дубоўкі, Язэпа Пушчы й іншых, выкінулі з унівэрсытэту. Які далейшы кірунак возьме гэтая справа, можна будзе даведацца адно з далейшага працягу «палескай хронікі». І ня мае хіба рацыі крытык Хведар Куляшоў, цьвердзячы, што «Подых навальніцы» — «раман нутрана завершаны і зьяўляецца з мастацкага боку суцэльным творам».[208]

На фоне войстрых і супярэчлівых падзеяў канца 20-ых гадоў, дакладней ад вясны да пачатку зімы 1929 году, калі разыгрываецца дзея раману, пісьменьнік меў добрую нагоду яшчэ больш, чымся ў «Людзях

---

[207] Іван Мележ. Подых навальніцы. Менск, 1966, б. 566.
[208] **Федор Кулешов. Дыхание грозы. «Неман», № 4, 1966, б. 171.**

на балоце», паглыбіць паказ людзкіх характараў, пачуцьцяў і парываньняў. Новым і каштоўным у рамане тое, што ў гэтым паказе няма й сьледу тае ілюстрацыйнасьці, спрошчанасьці й схэматычнасьці, якімі вызначаліся ўсе ранейшыя творы пра калектывізацыю. Ня толькі г. зв. «кулакі» й «серадныякі» ў Мележавым паказе супраць калектывізацыі, супраць яе й вялікая колькасьць «беднякоў». Супраціў калектывізацыі тлумачыцца ня толькі псыхалягічнымі матывамі, але й цьвярозай сялянскай лёгікай. Калі старшыня райвыканкому Апейка даводзіць на сходзе, што сяляне, пайшоўшы ў калгас, пабагацеюць, аргумэнты такія ня пераконваюць навет беднякоў. Бядняк зь беднякоў Чарнушка разважае гэтак:

> Ня мог толкам даўмецца Чарнушка, з чаго мусіў той калгас так пабагацець, калі ўсе сыдуцца разам, зьвядуць сваіх конікаў, кабылак, свае калёсы ды сані. Крэдыт — то, канешне, непагана, пакуль суд ды справа, пакуль на ногі ня станеш! А толькі-ж крэдыт той і аддаць заўтра трэба будзе; сягоньня палучыш, а заўтра аддай! Дапамога ад дзяржавы — канешне, добра, але што з таго дастанецца Кураням, от што яшчэ паглядзець трэба! Памагці то яна, дзяржава, пэўна-ж, рада, але ці вельмі-ж памагці і яна можа, калі Расея без канца-краю і ўсім трэба помач, і трэба бясконца заводы будаваць, грошы на іх трэба! І на армію трэба, на зброю, на харч! Ясна, што помач помаччу, а трэба, каб самі, грэц яго, станавіліся зразу на ногі! А на тое, што станеш моцна, надзеі цьвёрдай і няма! І дабра небагата з кожнага, і надзеі добрай не на ўсякага: ня ўсякі, грэц яго, старацца будзе на нейчай паласе ды берагчы нейчага коніка![209]

А вось зялезная лёгіка думаньня такога-ж самага бедняка Васіля Дзятліка:

> Аддай поле, абагуль! Аддай поле — ето ўсе адно што — аддай душу! Папробуй, адарві душу!.. — Уся сіла чалавека — у зямлі. І сіла ўся, і радасьць! Няма зямлі — няма, лічы, чалавека![210]

Падчыркнутая Навуменкам асаблівасьць сучаснае мастацкае прозы — няўхіляньне ад «пытаньняў складаных, супярэчлівых» — найзырчэй і найшырэй выявілася ў рамане «Подых навальніцы», у якім гэтыя складаныя й супярэчлівыя пытаньні ў некаторых выпадках ня што іншае, як агульны пасыўны, а цірэдка й актыўны супраціў саветызацыі, а ў дадзеных абставінах вёскі — калектывізацыі. Гэткія творы, як «Людзі на балоце», а «Подых навальніцы» і пагатоў, у пэрыяд усяўладнага панаваньня артадаксальнага сацрэалізму сталінскіх часоў не маглі-б пабачыць сьвету. Сьцьвярджае гэта й сам Мележ, кажучы, што «Людзі на балоце» ў такім выглядзе, у якім яны напісаны, маглі зьявіцца толькі пасьля тых перамен, што адбыліся пасьля XX зьезду партыі».[211]

Мележ, выдатны майстра ў паказе людзкіх характараў, асабліва здольным мастаком выявіў сябе ў раскрыцьці духовага сьвету сымпатычных яму вясковых пэрсанажаў у мамэнтах перажыванага імі асабістага гора. Глыбака кранаюць гэткія сцэны, як калі Ганна перажывае сьмерць свае

---

[209] Іван Мележ, тамсама, б. 98—99.
[210] Тамсама, б. 369.
[211] Аляксей Гардзіцкі. Бачыць глыбока і шырока. «М», № 5, 1966, б. 139.

дачушкі Верачкі, або калі Нібыта-Ігнаціха спачувае гору свае дачкі Хадоські, пакрыўджанай і зганьбаванай Яўхімам. У вабедзьвюх сцэнах, распрацаваных да найменшых дробязяў, пісьменьнік памайстроўску паказаў багаты духовы сьвет простых вясковых людзей.

Пры ўсім нашым захапленьні раманам «Подых навальніцы», трэба, аднак, адзначыць, што пэрсанажы зь інтэлігенцкага асяродзьдзя, за выняткам аднаго Апейкі, удаліся пісьменьніку куды менш, чымся людзі вёскі; яны трохі зааднастайныя й залішня папяровыя. Гэта, відаць, затым, што цікавілі яны пісьменьніка галоўна не як людзі, а як прадстаўнікі й носьбіты пэўных ідэяў.

Раманы «Людзі на балоце» й «Подых навальніцы» каштоўныя й з гледзішча на асаблівасьці іхнае мовы. Уладзімер Юрэвіч зрабіў гэткі выснаў з аналізу моўнага матар'ялу Мележавых «Людзей на балоце»:

> У рамане «Людзі на балоце» Іван Мележ дасягнуў таго ўзроўню пісьменьніцкага майстэрства, калі слова выступае ня толькі як умоўны знак пэўнай рэчы ці дзеяньня, а як моцны сплаў гуку й сэнсу, як матарыял і інструмэнт мастацкага мысьленьня. Факты, падзеі, рысы адлюстраванай у рамане рэчаіснасьці адліты ў дасканалыя формы, зробленыя з таго звычайнага слова, якое здабываў пісьменьнік у самай гушчы жыцьця.[212]

Гэта характарыстыка пісьменьнікавай мовы з гледзішча на ейныя агульныя мастацкія функцыі ў творы. Апрача гэтага, мова вясковых пэрсанажаў раману, насычаная дыялектызмамі народнае гаворкі тае часткі Палесься, дзе разыгрываецца дзея, выконвае яшчэ й адмысловую мастацкую функцыю — падчырквае лякальны калярыт твору, як мамэнт калярыту нацыянальнага.

Рэдкая зьява ў літаратуры, каб пісьменьнік яшчэ за сваім жыцьцём, навет яшчэ ў гадох свайго творчага росту здабыў гэткае агульнае й аднагалоснае прызнаньне з боку крытыкі й чытацкай грамадзкасьці, якім цешыцца сяньня Іван Мележ. Гэты аўтарытэт і прызнаньне здабыў ён не сваймі ранейшымі апавяданьнямі й аповесьцямі, не сваім першым раманам «Мінскі напрамак», а якраз сваймі раманамі з цыклю «палескай хронікі».

Сілаю таленту, творчага размаху й выняткавым месцам у беларускай сучаснай літаратуры ня толькі ня сьтупае, але бадай перавышае Івана Мележа прыблізна на дзесяць год малодшы за яго й нагэтулькі-ж малодшы ў літаратурнай дзейнасьці *Уладзімер Караткевіч.* Літаратурную дзейнасьць Караткевіч пачаў як паэта, выпусьціўшы ў канцы 50-ых гадоў два зборнікі сваіх вершаў — «Матчына душа» ў 1958 і «Вячэрнія ветразі» ў 1960 годзе. Тады-ж пачаў прабаваць, і ня без удачы, сваіх здольнасьцяў і ў драматургіі. У разгляданым гэтта пяцігодзьдзі Караткевіч шырака разгарнуў літаратурную дзейнасьць у галіне мастацкае прозы, выступаючы зь лірычнымі вершамі адно калі-нікалі. Ён адзіны ў сяньняшняй беларускай літаратуры пісьменьнік, што, з малымі выняткамі, працуе ў жанры гістарычнае прозы, апрацоўваючы ў сваіх апавяданьнях, аповесьцях і

---

[212] Уладзімер Юрэвіч. Жывапіс словам. «П», №10, 1963, б 169.

раманах тэмы зь гісторыі Беларусі XIX і ранейшых стагодзьдзяў, першнаперш часоў рэвалюцыйнай дзейнасьці й паўстаньня Кастуся Каліноўскага.

Ужо як адзіны ў нашай літаратуры аўтар гістарычных твораў заслугоўвае Караткевіч на асаблівую ўвагу, тым больш у сувязі яшчэ й з тым, што гістарычная тэматыка ў падсавецкіх літаратурах, галоўна ў літаратурах нерасейскіх народаў сяньня ня цешыцца прызнаньнем і ўхвалаю. Крытык Віктар Каваленка яшчэ ў 1964 годзе прызнаваўся: «Быў час, калі распрацоўка тэмы мінулага разглядалася як нейкае няпрыняцьце сёньняшняй рэчаіснасьці».[213] Хоць гэткі пагляд Каваленка назваў «закаранелым дагматызмам», тым ня менш актуальны ён і сяньня, і гістарычная тэматыка, прынамся што да беларускае літаратуры, для партыйных дзейнікаў вельмі-ж непажаданая. Нічога тымчасам не памагаюць высоўваныя аргумэнты, што «без звароту ў мінулае ня можна глыбака й поўна паказаць сучаснасьці», бо «душа народу — гэта ня толькі яго сёньняшняя энэргія, у ёй — цэлыя вякі духоўнага вопыту многіх пакаленьняў»,[214] і што творы на гістарычныя тэмы, але асэнсоўваныя із сучасных ідэйных пазыцыяў, гэтак-жа патрэбныя й пажаданыя, як і творы пра сучаснасьць.

Калі-ж і зьяўляліся творы на гістарычныя тэмы, дык яны далей углыбкі за часы Кастрычніцкай рэвалюцыі й грамадзянскай вайны, у рэдкіх ужо выпадках за часы рэвалюцыі 1905 году, бадайшто не сягалі. Такімі былі, прыкладам, у вапошнім пяцігодзьдзі раманы «Іду ў жыцьцё» Рамана Сабаленкі, «На парозе будучыні» Міколы Лобана й «Засьценак Малінаўка» Аркадзя Чарнышэвіча, у якіх гістарычная мінуўшчына яшчэ пераклікалася із сучаснасьцяй. Адзін адзіны Уладзімер Караткевіч шырака апрацоўвае ў сваіх творах тэмы стагадовай і ранейшай даўнасьці, не зважаючы на стаўляныя яму выдавецкія перашкоды й няпрыхільныя галасы або й байкатаваньне з боку партыйнае крытыкі.

Гэтак у самым пачатку 1963 году газэта «Літаратура і Мастацтва» паведамляла пра выхад неўзабаве асобнай кніжкай гістарычнай аповесьці Караткевіча «Дзікае паляваньне караля Стаха» разам з раманам «Леаніды ня вернуцца да зямлі», што пад загалоўкам «Нельга забыць» друкаваўся ў №№ 5—6 «Полымя» за 1962 год.[215] Тымчасам кніга гэтая ня выйшла й дасюль, а аповесьць «Дзікае паляваньне караля Стаха» была надрукаваная адно ў часапісе «Маладосьць» у самым канцы 1964 году. Калі сюды дадаць яшчэ найнавейшы гістарычны раман Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», першая кніга якога, дарэчы, з рэдакцыйнымі скарачэньнямі, друкавалася ў першай палавіне 1965 году ў «Полымі», дык усе тры буйныя ягоныя творы мастацкае прозы не дачакаліся дагэтуль аніводнага кніжнага выданьня. З прычыны сваіх гістарычных зацікаўленьняў і нацыянальнага аспэкту ў ьасэнсаваньні мінуўшчыны Беларусі Караткевіч наагул ня

---

[213] Віктар Каваленка. Удакладнім пазыцыі. «ЛіМ», № 76, 22 верасьня 1964.

[214] Віктар Каваленка. Думкі пра сучасны беларускі раман. «П», № 1, 1963, б. 170.

[215] «ЛіМ», № 17, 26 лютага 1963.

мае ласкі ў афіцыйных колах, што пацьвердзіў навет пісьменьнік Янка Брыль, калі ў вадным сваім артыкуле ўспамінаў Караткевіча, як «пісьменьніка цікавага таленту і пакульшто налёгкага лёсу».[216]

Не зважаючы на гэты свой «нялёгкі лёс», Караткевіч зь цьвёрдай прынцыповасьцяй не пакідае быць дзейным у літаратуры, як аўтар гістарычных апавяданьняў, аповесьцяў і раманаў. Гэтую сваю прынцыповасьць добра паказаў Караткевіч, калі, як выявілася на справаздачна-выбарным сходзе партарганізацыі Саюзу пісьменьнікаў у канцы 1963 году, «адмоўвіўся ўлічыць парады і заўвагі, выказаныя старэйшымі таварышамі пры абмеркаваньні яго раману «Леаніды ня вярнуцца на зямлю».[217]

Першым літаратурным творам Караткевіча на гістарычную тэму апошняга пяцігодзьдзя была аповесьць «Раман Ракута», у васнову якое было пакладзенае сялянскае паўстаньне на Магілеўшчыне ў XVI стг. У аповесьці гэтай ужо з асаблівай выразнасьцяй зарысавалася шырэй распрацоўваная ў пазьнейшых гістарычных творах Караткевіча канцэпцыя, калі пачуцьцё ўзвышанага рыцарскага каханьня правадыра паўстаньня двараніна Рамана Ракуты да прыгожай мужычкі Ірыны неразлучна зьвязанае зь ідэяй волі. Сам-жа Раман Ракута надзелены такімі якасьцямі легендарнага гэроя, які, каб выкупіць палонных халопаў, самахоць аддаецца ў рукі ворага. Падобная шляхотнасьць душы й бязьмежная самаахвярнасьць таксама стануцца неадлучнымі рысамі гэрояў пазьнейшых гістарычных твораў Караткевіча. Аповесьць «Раман Ракута», хоць і разгортае легэндарны сюжэт, пацьвердзіла, што Караткевіч мае добрае вычуцьцё гістарычнае атмасфэры й каларыту эпохі, у якой разыгрываецца дзея. Навет і мову сваіх пэрсанажаў патрапіў умела захварбаваць архаічнымі элемэнтамі.

У №№ 5 і 6 «Полымя» за 1962 год надрукаваў Караткевіч першы свой раман «Нельга забыць», які ў плянаваным кніжным выданьні меўся звацца «Леаніды ня вернуцца на зямлю», на тэму із сучаснага жыцьця беларускай інтэлігенцыі, галоўна студэнцкай моладзі, з шырака разгорнутым пралёгам на гістарычную тэму з часоў паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Гістарычны пралёг быў аўтару патрэбны, відаць, на тое, каб галоўных гэрояў раману — Беларуса Андрэя Грынкевіча, студэнта й паэту, і ягоную каханую, маладую выкладчыцу мастацтвазнаўства Расейку Ірыну Гораву зьвязаць з традыцыяй паўстаньня Кастуся Каліноўскага. Прадзед Андрэя Усяслаў Грынкевіч быў актыўны ўдзельнік паўстаньня Каліноўскага, расстрэлены на загад Мураёўва, а прадзед Ірыны Горавай, капітан царскага войска, прысланага дзеля здушэньня пўстаньня, Юры Гораў, які выказаў узвышаную высакароднасьць у спробе ратаваньня Усяслава Грынкевіча. Культ Каліноўскага, а разам зь ім і глыбокае пачуцьцё беларускага патрыятызму жывыя ў сям'і Грынкевічаў. Навет у сваім студэнцкім пакойчыку ў Маскве Андрэй старэнна перахоўвае, як «самую вялікую каштоўнасьць: выцьвілы, пабляклы дагэратып Кастуся Каліноўскага».[218]Андрэеў патрыятызм у гадох ягонага маленства быў руп-

[216] Янка Брыль. Непарадны агляд. «П», № 2, 1966, б. 166.
[217] «ЛіМ», № 91, 15 лістапада 1963.
[218] «П», № 5, 1962, б. 42.

ліва культываваны ягонай маці. Пра гэта расказвае Андрэй свайму студэнцкаму сябру Латышу Вайвадсу, перадаючы сваю даўную гутарку з маці:

> Быў у Чэхіі адзін вучоны. Гэта быў час, калі Чэхі пасьля шматвяковага нямецкага рабства пачалі абуджацца. Яны захацелі мець сваю культуру, свае кнігі й музыку. А Немцы сказалі ім, што нічога такога ў іх было, а таму і ў будучым ня можа быць.
>
> — Што, матуля, у іх сапраўды ня было?
>
> — Вядома, усё было. Але за многія стагодзьдзі ўладары спалілі амаль усе іхныя кнігі, а тыя, што зьбераглі́ся, трэба было шукаць. А шукаць ня было часу. Год ці два вырашалі пытаньне аб тым, жыць народу ці не.
>
> І гэты вучоны (звалі яго Ганка) пачаў шукаць.
>
> — Знайшоў?
>
> — Ну, вядома, калі чалавек вельмі хоча — збываецца ўсё: дружба, каханьне, рух зьняволеных... Так і ён знайшоў спачатку адзін вельмі старажытны рукапіс, а потым другі. І гэта былі кнігі такой паэтычнай сілы, што ўся Чэхія ажыла духам. Яны знайшлі сваю кнігу, такую паэтычную і такую старажытную. Дзе ім было цяпер слухаць Немцаў, якія пераконвалі ў тым, што Чэхі толькі вечныя пазычальнікі чужога? І чужых вучоных ніхто ня стаў слухаць, хоць яны і ляманталі аб тым, што абодва рукапісы — падробка. Паэты пачалі пісаць вершы, музыкі — ствараць сваю музыку, вучоныя — шукаць другіх старажытных кніг. І выявілася, што варта было ўзяцца за справу ўсім — і адразу знойдуцца сотні й тысячы прыгожых старых кніг. І галасы хлусьлівых вучоных змоўклі. І Чэхія стала Чэхіяй.
>
> — Мама, а гэта былі сапраўдныя рукапісы?
>
> Мама заплюшчыла вочы і ўсьміхнулася. І лепш за гэтую ўсьмешку ня было нічога.
>
> — Ня варта было-б казаць табе пра гэта, Андрэйка. Але рукапісы Ганкі былі сапраўды геніяльнай па таленту і паэзіі падробкай. Зь легенды ня выкінеш слова.
>
> — Нясумленна.
>
> — Ты яшчэ дурненькі. Нясумленна забіць чалавека, здрадзіць, абкрасьці яго. А Ганка проста ведаў, як цяжка — часта проста немагчыма — абудзіць народ, калі ён засьне... І ён вельмі любіў.
>
> Так казала маці.[219]

Ня можа быць сумлеву ў тым, што гэты гістарычны выпадак із схвальшаванымі рукапісамі Ганкі ў часе нацыянальнага адраджэньня Чэхіі прыведзены аўтарам дзеля паказаньня аналёгіі зь Беларусяй. Наагул-жа гэтая дэталь мае асабліва глыбокую нацыянальную вымову ў Караткевічавым рамане.

Галоўны гэрой раману Андрэй Грынкевіч — гэта прадстаўнік маладой беларускай інтэлігенцыі, пры гэтым інтэлігенцыі патомнай, ад дзядоў і прадзедаў. Гэтая інтэлігенцыя наскрозь нацыянальная, яна жыве глыбокімі патрыятычнымі пачуцьцямі й нацыянальнай традыцыяй мінуўшчыны роднага краю. Побач з гэтым, галоўным зьместам жыцьця маладога Андрэя было каханьне, узвышанае да рамантычнае ўсеабсяжнасьці й плятанічнае адухоўленасьці, спачатку да Алены Саколіч, пасьля — да Ірыны Горавай. У вабодвых выпадках канец быў трагічны: Алена Саколіч за-

---

[219] Тамсама, б. 46.

гінула ў аўтамабільнай катастрофе, а Ірына Горава памерла пасьля апэрацыі сэрца.

Андрэй — чалавек выняткавы ў жыцьці. Яшчэ калі ў 1948 годзе было яму ўсяго дваццаць год, «за плячыма яго ляжала ўжо вялікае, багатае падзеямі жыцьцё. Яно не зьмяшчалася ў рамкі аўтабіяграфіі, ня лезла ў ніякія анкеты»,[220] — інфармуе пісьменьнік. Гэта чалавек нязвычайна ўзвышаных пачуцьцяў, душою й сэрцам — лятуценьнік і рамантык, ня гэтулькі тып, колькі ідэял пісьменьнікавага сучасьніка. У раскрыцьці духовага сьвету гэтага чалавека Караткевіч паказаў сябе ўнікілівым псыхалёгам, а ў паказе гісторыі ягонага каханьня ўва ўсёй паўніні выявіў свае лірычныя здольнасьці. Нездарма-ж пачаў Караткевіч дый часткава працягвае свой творчы шлях лірычнымі вершамі, бо й мова ягонага раману нагэтулькі эмацыянальная, мэтафарычная й асацыяцыйная, што й увесь твор — у значнай ступені паэзія ў прозе.

«Нельга забыць» — гэта бадайшто першы ў беларускай падсавецкай літаратуры твор паваеннага часу, што атрымаў вельмі супярэчлівыя ацэны крытыкі. Першы рэцэнзэнт раману Адам Мальдзіс роўна за месяц пасьля сканчэньня друкаваньня яго ў «Полымі», як-бы прадбачачы, што грамадзянскі пагляд галоўнага гэроя некаторым крытыкам можа выдацца зьбедненым, пісаў: «Раман «Нельга забыць» прынясе карысьць чытачу, таму, што ён абуджае багатыя думкі й пачуцьці. Не, ён не мабілізуе на выкананьне канкрэтнай, вузкай задачы. Раман робіць большае: выхоўвае культуру пачуцьцяў, абуджае роздум аб сэньсе жыцьця».[221] Затое артадаксальная партыйная крытыка асудзіла раман, як нясучасны й нясугучны патрэбам часу. Савецкі крытык В. Чалмаеў усю гістарычную частку раману назваў «подлай банальнасьцяй гісторыі», а галоўны гэрой Андрэй, у ягоным разуменьні, дзеля свайго «чыстага» каханьня «пачынае часам жыць паводля вельмі заніжаных маральных нормаў».[222] Яшчэ зласьней ацаніў раман беларускі дагматычны крытык Якаў Герцовіч: «Пры ўсім жаданьні ня прызнаеш паэта Грынкевіча нашым сучасьнікам, гэта хутчэй за ўсё пэрсанаж рыцарскага раману, чалавек, які служыць толькі «даме сэрца» і нічым болей ня цікавіцца».[223]

Крытык Дзімітры Бугаёў зрабіў спробу знайсьці ў галоўным гэроі раману рысы, зусім сугучныя сучаснасьці. Ён зьвярнуў увагу, што былы партызан Андрэй Грынкевіч вельмі паважна ставіцца да мастацтва, што яму ўласьцівая няпрыязнасьць да ўсякай няпраўды й хвальшу ды што й само каханьне ў Грынкевіча вельмі чалавечнае і ў гэтай сваёй чалавечнасьці зусім сучаснае. Бугаёў узяў таксама ўвагу на моцны антываенны патас, што становіць адну зь ідэяў раману, сугучную сяньняшняй савецкай кампаніі за мір.[224] Прызнаючы правільнасьць аргумэнтацыі Бугаёва, трэба яшчэ дадаць сюды й гарачы патрыятызм Андрэя й ягонай

---

[220] Тамсама, б. 45.

[221] А. Мальдзіс. Права мастака. «ЛіМ», № 57, 17 ліпеня 1962.

[222] В.Чалмаев. Самые насущные заботы. «Дружба народов», № 9, 1962, б. 264.

[223] Якаў Герцовіч. Герой ёсьць герой. «ЛіМ», №67, 21 жніўня 1964.

[224] Дзімітр Бугаёў. Стылявая шматграннасьць і крытычная спрошчанасьць. «ЛіМ», № 74. 15 верасьня 1964.

Ад надрукаваньня ў «Маладосьці» гэтае цікавае аповесьці мінула ўжо роўна паўтара гады, а й дасюль не зьявілася аніводнае рэцэнзіі на гэты ў некаторым сэньсе навет унікальны твор у нашай літаратуры. Прычына такой ейнай ігнаранцыі, відаць, тая-ж, што й адмоўных ацэнаў раману «Нельга забыць».

Падзеяй вялікай важнасьці ня толькі ў творчасьці Уладзімера Караткевіча, але й ува ўсёй сучаснай беларускай літаратуры сталася зьяўленьне ў №№ 2—6 «Полымя» за 1965 год першае кнігі ягонага вялікага гістарычнага раману «Каласы пад сярпом тваім». Раман гэты каштоўны й цікавы перш-наперш як наагул першая спроба ў нашай літаратуры стварыць на гістарычным матар'яле шматгранную й шырокамаштабную нацыянальную эпапэю агульнанароднага жыцьця й змаганьня за сацыяльнае й нацыянальнае вызваленьне. Аўтар выказаў вялікую руплівасьць быць аб'ектыўным і ў поўнай згодзе зь гістарычнай праўдай. Як відаць з паасобных, навет зусім дробных гістарычных фактаў, што закранаюцца ў рамане, а таксама з цытаваньня рэдкіх гістарычных крыніцаў, Караткевіч грунтоўна прастудыяваў даступную яму гістарычную літаратуру, а некаторыя гістарычныя выпадкі самастойна ўдакладніў і паглыбіў. І таму важнае ў гісторыі Беларусі дзесяцігодзьдзе — ад пачатку 50-ых гадоў мінулага стагодзьдзя й да скасаваньня прыгону царскім маніфэстам 19 лютага 1861 году — дастала ў першай кнізе раману шырокае мастацкае адлюстраваньне ў поўнай згодзе з вынікамі найнавейшых гістарычных дасьледваньняў.

У ранейшай гістарычнай, а сьледам за ёй і ў мастацкай літаратуры, і асабліва за часамі ўсяўладнага сталінізму паказваліся адно сацыяльныя прычыны, што прывялі да паўстаньня Кастуся Каліноўскага. За гэтыя прычыны падаваліся сацыяльная крыўда сялянства й ягонае расчараваньне царскай рэформай пра скасаваньне прыгону. У рамане Караткевіча, апрача гэтых сацыяльных прычынаў, упяршыню ў нашай літаратуры паказаныя й ня менш важныя іншыя прычыны: агульнапалітычныя й нацыянальныя. Вось як выглядала тады палітычная сытуацыя ў расейскай імпэрыі паводля аўтаравае ацэны ў рамане:

> Гэта быў страшны й цяжкі час.
>
> Уся неабдымная імпэрыя дранцьвела й дубела ад жахлівага палітычнага марозу, які вось ужо дваццаць шэсьць год вісеў і кашлата варочаўся над яе абшарамі. Кожны, хто спрабаваў дыхаць на поўныя грудзі, адмарожваў лёгкія.
>
> Казаць — дазвалялася толькі ману, любіць — толькі праваслаўе ды імпэратара, ненавідзець — толькі вольнадумцаў (якіх ніхто ня бачыў, так іх было мала).
>
> Літаратура трымалася на нейкім дзесятку сьмельчакоў, якіх гналі й расьпіналі ўсе, пачынаючы ад усерасійскага квартальнага і канчаючы квартальным звычайным. Ды й сьмельчакі гаварылі, часьцей за ўсё прыглушаным голасам, бо на кожнага адносна сумленнага было па дваццаць ланцужных псоў, здатных на ўсё.
>
> Большасьць ня вытрымлівала і, сказаўшы сьмелае слова, адразу пачынала дыгаць нагою й прасіць прабачэньня, жахацца са сваіх былых пераканаvýньняў. «Мёртвыя душы» назвалі «тройчы маною, паклёпам на расійскую рэчаіснасьць і панашэньнем асноў».

Вялікія заваёвы чалавецтва імпэрыя аб'явіла лухтой, праўду — злосным падкопам, іншамысных — злачынцамі, што ня хочуць велічы айчыны.

Бог быў падобны на будачніка, а будачнікі — на разбойнікаў.

Шпіцрутэны й смугастыя будкі сталі сымбалем.

Шчасьлівых ня было. Дваранства было прыніжанае, разначынства — расьпятае, чыноўніцтва — ніцае, сялянства — забітае.

Усё прыносілася ў вахвяру ідэалу дзяржаўнай моцы.[231]

Пранізьлівы холад ад гэтага «жахлівага палітычнага марозу» й задзіночваў усе прагрэсыўныя элемэнты Беларусі ў вадзіным жаданьні змагацца, хоць-бы й ня перамагчы ды стацца «каласамі пад сярпом» гісторыі, бо выхаду іншага, апрача змаганьня, ня было. Згодна зь гістарычнай праўдай пісьменьнік паказаў арганізуючую й кіраўнічую ролю ў гэтым змаганьні прагрэсыўнага дваранства й галоўна інтэлігенцыі, што з гэтага дваранства выйшла. Таксама згодна зь гістарычнай праўдай пісьменьнік паказаў, што сялянскія масы, хоць і найбольш пакрыўджаныя, паўставалі на змаганьне адно стыхійна. Сяляне ўсё яшчэ верылі ў «добрага цара бацюшку», бачачы ўсё няшчасьце ў тым, што яго быццам ашуквалі ягоныя міністры ды тыя-ж дваране. Гэты мамэнт пісьменьнік вельмі добра падчыркнуў у сцэнах сялянскага бунту пад правадырствам Юльяна Корчака. Сярод сялян жывая йшчэ памяць сялянскіх гэрояў-бунтароў, як Васька Вашчыла, Міхайла Крычаўскі й іншыя.

Асабліва шырака адлюстраваў Караткевіч нацыянальны падклад і дынамічную сілу нацыянальнага мамэнту ў насьпяваньні паўстаньня Кастуся Каліноўскага. З прычыны свае няпісьменнасьці й матар'яльнае галіты сялянскія масы ў сэньсе нацыянальным былі нясьведамыя й пасыўныя. Працэс нацыянальнага ўсьведамленьня мог зарадзіцца ўзноў-жа адно сярод прагрэсыўнае й ідэйнае дваранскае інтэлігенцыі. Галоўнымі прадстаўнікамі гэтага нацыянальнага працэсу маглі стацца ў рамане адно такія людзі ідэі, як князь Алесь Загорскі, Кастусь Каліноўскі, ягоны брат Віктар, не бяручы выведзеных эпізадычна гістарычных асобаў, як Адам Ганоры-Кіркор, Язэп Каратынскі, Вінцук Дунін-Марцінкевіч, Праньцішак Багушэвіч і цэлы сьцяг іншых.

Галоўны гэрой раману, малады князь Алесь Загорскі, згодна із старымі прыдняпроўскімі звычаямі, быў аддадзены на «дзядзькаваньне» (узгадаваньне) ў сям'ю прыгонных сялян Когутаў, дзе ён пазнаёміўся ізь сялянскім асяродзьдзем, ягонымі звычаямі, навучыўся беларускае мовы й шчыра ўзьлюбіў усё гэта, як сваё роднае. Пра гэтае сваё «дзядзькаваньне» Алесь Загорскі скажа пасьлей гэтак: «Я мужык... Я князь, але я і мужык. Магчыма мяне тым дзядзькаваньнем няшчасным зрабілі. Але я таго няшчасьця нікому не аддам. У ім маё шчасьце. Яно мяне вярнула да народу. Да гнанага, да абрэханага кожным сабакам. І я цяпер зь ім, што-б ні здарылася».[232]

Пра гарачы беларускі патрыятызм іншых пэрсанажаў раману могуць сьветчыць наступныя словы, якія чуем з вуснаў Віктара Каліноўскага:

---

[231] «П», № 3, 1965, б. 37.
[232] «П», № 4, 1965, б. 14.

Таму што песьні нашы затаўклі ў гразь, талент расьпялі, гордасьць аплявалі. Усё забралі: зямлю, ваду, неба, свабоду, гісторыю, сілу... А я ўсё гэта люблю, як... як... ня ведаю што. Бога я так ня люблю, як сваю краіну. Магчыма, яшчэ й таму, што Бог дазваляе, каб зь ёю рабілі такое.[233]

Раман «Каласы пад сярпом тваім» цімалое дасягненьне й у сэньсе літаратурна-мастацкім. Ён гэтак удала скампанаваны ў вадно мастацкае цэлае, што ніводная дэталь ня выдаецца ў ім лішняй. Сярод вялікага мноства пэрсанажаў, фікцыйных і гістарычных, на першы плян высоўваецца фікцыйная постаць Алеся Загорскага, у якой або вакол якой сканцэнтраваліся ўсе сюжэтныя лініі й галоўныя праблемы раману. Алесь Загорскі ня толькі ўвасабленьне ідэі, але й асоба, зусім жывая й праўдзівая. Галоўная гістарычная асоба — Кастусь Каліноўскі — паказаны яшчэ ня поўна. Відаць, на ім будзе сканцэнтраваная ўвага ў другой кнізе раману, што лягічна мела-б быць прысьвечаная ўжо самому паўстаньню. Пры ўсіх іншых мастацкіх якасьцях раману асабліва хвалюе ягоны шчыры лірызм, глыбокія духовыя перажываньні як некаторых дзейных асобаў, гэтак і самога аўтара. У вадпаведнасьці з гэтым і мова раману нязвычайна сакавітая, эмацыянальная, наскрозь мэтафарычная й вобразная. Усё гэта, разам узятае, кажа пра тое, што раман «Каласы пад сярпом тваім» з кажнага гледзішча твор манумэнтальны.

Неўзабаве па надрукаваньні раману ў «Полымі» зьявілася на яго рэцэнзія Адама Мальдзіса пад вымоўным загалоўкам «Праўда мастацкая і праўда гісторыі».[234] Узброены глыбокімі гістарычнымі ведамі пра эпоху, у якой разгортаецца дзея раману, Мальдзіс, які, як успаміналася, першым рэцэнзаваў і Караткевічаў раман «Нельга забыць», аб'ектыўна й пераконліва пацьвердзіў поўную згоднасьць распрацоўванай у рамане тэмы з праўдай гісторыі й паказаў на высокія мастацкія якасьці твору. Ад Мальдзісавай рэцэнзіі мінуў роўна год часу, і ніхто больш не адгукнуўся на раман ні благім, ні добрым словам. І толькі ў сваім дакладзе на апошнім пісьменьніцкім зьезьдзе Пятрусь Броўка згадаў пра Караткевіча, як пра «здольнага паэту й празаіка», «чалавека з добрай эрудыцыяй», зазначыўшы пры гэтым, што «многае, зробленае ім, заслугоўвае пахвалы». Аднак-жа Броўка ўважаў за патрэбнае зрабіць і дакор, цьвердзячы, што ў гістарычных творах «трэба паказваць жыцьцё народу, менш захапляцца побытам князёў». Паведамляючы, што «аўтар цяпер перапрацоўвае раман», Броўка зазначыў: «Хочацца пажадаць яму посьпеху менавіта ў паказе жыцьця народу-працаўніка, народу-змагара».[235] Падобна й Іван Навуменка ў сваім судакладзе на тым-жа зьезьдзе, жадаючы Караткевічу «посьпехаў у далейшай рабоце» над наступнымі часткамі раману, адначасна пажадаў і «большай сацыяльнай абгрунтаванасьці паводзін гэрояў, глыбейшага паказу тых сацыянальна-гістарычных сіл, якія дзейнічалі на Беларусі».[236]

---

[233] Тамсама, б. 52.

[234] «ЛіМ», № 63, 6 жніўня 1965.

[235] «ЛіМ», № 39, 13 травеня 1966.

[236] Тамсама.

Прыклад з Караткевічам добра паказвае, што аб'ектыўнае адлюстраваньне ў мастацкай літаратуры гістарычнай мінуўшчыны беларускага народу моцна непажаданае для партыйных колаў яшчэ й сяньня.

Высокімі якасьцямі таленту, нацыянальна-народнай асновай творчасьці й глыбінёй асэнсаваньня жыцьця, сугучнага сяньняшняму дню, найбліжэй да Івана Мележа і Уладзімера Караткевіча стаіць трэйці празаік сучаснай беларускай літаратуры — *Янка Брыль*. З Уладзімерам Караткевічам лучыць яго яшчэ й багаты лірычны элемэнт ягонай творчасьці.

Падобна як і Караткевіч, пачаў Брыль сваю літаратурную дзейнасьць лірычнымі вершамі, якія друкаваў яшчэ перад вайной у віленскіх беларускіх часапісах, перш-наперш у «Шляху моладзі», але разгарнуў шырэй сваю творчасьць як аўтар твораў празаічных ужо пасьля вайны. Першай ягонай кнігай у разгляданым гэтта пяцігодзьдзі быў выдадзены ў 1962 годзе зборнік апавяданьняў, замалёвак і нарысаў «Працяг размовы», за які была яму прызнаная літаратурная прэмія імя Якуба Коласа. Зборнік цікавы галоўна тым, што ў ягоных творах пісьменьнік стараецца пасвойму, з пазыцыяў, што сталіся магчымымі пасьля асуджэньня сталіншчыны, інтэрпрэтаваць і асэнсоўваць сацыяльна-палітычныя, грамадзкія, маральна-этычныя й літаратурна-эстэтычныя праблемы.

Найбольшым літаратурным дасягненьнем Янкі Брыля быў першы ягоны раман «Птушкі і гнёзды», што друкаваўся ў двух апошніх нумарох «Полымя» за 1963 год, а на пачатку 1965 году выйшаў, у значна перапрацаванай рэдакцыі, кніжным выданьнем. Ня маючы гэтага кніжнага выданьня, мы змушаныя, нажаль, карыстацца тут часапісным тэкстам гэтага твору.

Раман «Птушкі і гнёзды» унікальны твор у беларускай літаратуры і навінёй тэматыкі, і наватарскай кампазыцыяй, і ўдалым перапляценьнем эпічнага й лірычнага элемэнтаў, і сваяасаблівай у Брыля эманцыянальнай сакавіта-народнай мовай.

Галоўным сюжэтным стрыжнём раману — прабываньне галоўнага гэроя Алеся Руневіча й ягоных суродзічаў у ваенным палоне ў Нямеччыне, куды яны трапілі як жаўнеры польскай арміі, ды спробы ўцёкаў, першай няўдалай, а другой пасьпяховай, на бацькаўшчыну. Кампазыцыйна раман разгортваецца ў трох розных адрэзках часу, якім адказваюць тры паасобныя, узаемна пераплеценыя часткі твору. Першы адрэзак — гэта дзяцінства й раньняя маладосьць Алеся Руневіча ў вабставінах жыцьця ў ягонай роднай Наваградчыне пад Польшчай. Гэтая частка падаецца ў форме ўспамінаў галоўнага гэроя, і яна, на нашую думку, найбольш дасканалая з боку мастацкага й насычаная ўзапраўды глыбокім лірызмам. Другая частка, галоўная й найшырэй паказаная — гэта гады побыту Руневіча ў лягерах для ваеннапалонных у Нямеччыне й пасьлей на вольнай працы. Трэйцяя частка — гэта час, калі пасьля шчасьлівых уцёкаў зь Нямеччыны, Руневіч знаходзіцца ў партызанах і, выступаючы цяперака пад прозьвішчам Юркі Бондара, дыктуе ў партызанскай зямлянцы сваёй машыністцы Аленцы сваю аповесьць, якую складаюць першая й другая часткі раману «Птушкі і гнёзды». Такім парадкам, гэтыя дзьве часткі твору Брыля, у якіх гутарка пра дзяцінства й маладосьць Руневіча, а так-жа

гісторыя ягонага палону ў Нямеччыне, гэта як-бы раман у рамане «Птушкі і гнёзды».

Мастацкія якасьці раману «Птушкі і гнёзды» й ягоныя наватарскія тэндэнцыі крытыка ацаніла наагул прыхільна. Затое ў вацэне ідэйна-праблемнага боку твору й раскрыцьці духовага сьвету пэрсанажаў некаторыя крытыкі не патрапілі вызваліцца із закасьцянелага дагматызму й шукаюць у творы таго, чаго ў ім няма й не магло быць. Прыкладам, Якаў Герцовіч у галоўным гэроі Алесю Руневічу захацеў бачыць хадзячага носьбіта камуністычнае ідэі, а не знайшоўшы ў ім гэтых ідэяў у дастатковай ступені, зрабіў аўтару несправядлівы дакор у няправільным выбары гэроя. «Шмат якія факты й падзеі атрымалі-б іншую ацэнку і іншае насьвятленьне, калі-б на іх пагглядзелі больш дапытлівыя, больш пранікліВыя вочы гэроя»,[237] — робіць выснаў Герцовіч. Іншы крытык, Уладзімер Калесьнік ня зусім сугучныя з партыйнымі догмамі паводзіны й сьветапагляд гэроя тлумачыць тым, што «людзям таго асяродзьдзя, да якога належаў Руневіч, выпрацаваць клясавыя пагляды перашкаджала складанае перапляценьне сацыяльнага, нацыянальнага й гульначалавечага ў Заходняй Беларусі».[238]

Вось-жа творчае дасягненьне Янкі Брыля ў рамане «Птушкі і гнёзды» якраз у тым, што пісьменьнік не заўсёды глядзеў на разгортваныя ў рамане падзеі з партыйных сацрэалістычных пазыцыяў, а ў шмат якіх выпадках патрапіў падняцца вышэй за гэтыя пазыцыі. Адна з галоўных асаблівасьцяў творчага мэтаду Брыля — адкрываць у жыцьці ня тэндэнцыйна прыхарошаную або зьбедненую, а шчырую й аб'ектыўную праўду. Іншая, сваяцкая першай, асаблівасьць таленту пісьменьніка — бачыць у чалавеку перш-наперш чалавека, такога, якім ён у жыцьці. Гэтыя якасьці й далі магчымасьць Брылю адмаляваць праўдзіва й наскрозь рэалістычна жыцьцё й людзей у тых адрэзках часу і ў тых геаграфічных шырынях, у якіх разгортаецца дзея раману.

Галоўны гэрой Алесь Руневіч — Юрка Бондар — гэта аўтапартрэт самога пісьменьніка, а сам раман у ладнай ступені аўтабіяграфічны, але ўзбагачаны аўтаравай фантазіяй. Гляньма на тыя разьдзелы раману, у якіх паказанае маленства й раньняя маладосьць Алеся Руневіча, праведзеныя ў ягонай роднай Наваградчыне. І Алесь, і ягоны брат Толя ўліваюцца ў варожы да Польшчы падпольны камуністычны рух, што разьвіваўся тады ў Заходняй Беларусі. Галоўным маторам гэтага руху было не захапленьне камуністычнай дактрынай, у якой вельмі слаба разьбіраліся й самі ўдзельнікі гэтага руху-пэрсанажы раману, а апазыцыйнасьць да Польшчы й бяскрытычна прыйманая вера, быццам у Савецкім Саюзе справядліва разьвязанае сацыяльнае й нацыянальнае пытаньне беларускага народу. З дакладнасьцяй да найдрабнейшых дэталяў адмаляваў пісьменьнік палажэньне ў Заходняй Беларусі ў тыя часы.

Служэньне праўдзе, і толькі праўдзе не пакідае Руневіча й пасьля, калі ён стаўся партызанам Юркам Бондарам. Вось вымоўны абразок у парты-

---

[237] Якаў Герцовіч, тамсама.
[238] Уладзімер Калесьнік. Раман-паэма. «М», № 5, 1964, б. 126.

занскай зямлянцы, калі Юрка Бондар дыктуе Аленцы свой раман. Яна раптам перапыняе пісаньне й кідае рэпліку:

> — Такія хлопцы сымпатычныя ў цябе — і Алесь, і Толя. І раптам, парабак, нанятая жняя... Навошта гэта? Каб на цябе крывіліся?.. Ён памаўчаў. Ды адказаў даўно ўжо гатовым пытаньнем: — А навошта, Аленка, праўда?.. Я-ж ня выдумляю Руневіча... У жыцьці яно ня так усё вельмі просьценька, гладка...[239]

А вось іншая вымоўная дэталь. Пакуль яшчэ не пачалася савецка-нямецкая вайна, Алесь, будучы ўжо выпушчаны зь лягеру для ваеннапалонных, але прабываючы й далей у Нямеччыне, атрымліваў лісты з дому. У вадным лісьце маці ягоная нядвузначнымі намёкамі пісала: «Жывём, сынок, як у нас жыла пры Польшчы Ганна Заморкава, а скора будзем, мусіць, жыць і яшчэ лепей... Калі табе там, сынок, як ты пішаш, у гаспадара таго ня дрэнна, дык і жыві, можа, здароў, ня прыся сюды».[240] Гэтак сама й брат Толя ў сваіх лістох радзіў Алесю «не ўцякаць» на бацькаўшчыну, не падаючы дзеля цэнзурных абставінаў прычыны гэтага. І толькі пасьля ўцёкаў расказвае ён у партызанскай зямлянцы сваёй машыністцы Аленцы:

> А чаму «не ўцякай», дык ён гэта ведаў. Мама расказвала: двух запольскіх прыйшлі ў той час, улетку саракавога, таксама з палону ўцяклі, дык іх адразу «як кот зьеў». Забралі. Дабраўся-б я сюды — і раптам, як табе тады: «Адкуль? Хто паслаў? Якое заданьне?..»[241]

Але вось калі ўжо Беларусь была акупаваная нямецкай арміяй, Руневічу, як успаміналася, удалося ўцячы зь Нямеччыны й дабрацца, гэтым разам шчасьліва, у родныя мясьціны. «Першыя месяцы пасьля палону — прызнаецца ён — і ў мяне ня было яшчэ канкрэтных думак пра барацьбу з захопнікамі. Хацелася толькі ўтрымацца на волі, застацца ў родным сьвеце самім сабой, сваім для добрых людзей».[242] Але пабачыўшы на собскія вочы жахлівыя зьверствы эсэсаўцаў над нявінаватымі людзьмі. Алесь як і іншыя ў ягонай аколіцы, ня мог ужо заставацца бязьдзейным. Ён стаўся партызанам. Значыцца, не пачуцьцё савецкага патрыятызму й адданасьць камуністычнай ідэі, а чыста людзкае пачуцьцё помсты й інстынкт самаабароны вызначылі далейшую долю Руневіча.

Ёсьць у рамане адна сцэна, што найлепш раскрывае шляхотную душу Руневіча, не як камуністычнага дактрынэра, якім ён ня быў ніколі, а як высокароднага гуманістага, чалавека, здольнага да ўзапраўды ўзвышаных чыста людзкіх перажываньняў. Гэта сцэна, калі Руневіч ужо перад самымі ўцёкамі на бацькаўшчыну трапіў у нямецкім гарадку на канцэрт прыежджай сьпявачкі й калі выкананая ёй песьня Ave Maria Шубэрта абудзіла ў ім найглыбейшыя пачуцьці:

> Тры пачуцьці, тры вобразы ажылі ў яго памяці пад гукі музыкі. Усяночная ў іхнім мястэчку. Высока паднятае, прагна-вясёлае полымя клубкоў-паходняў, за бясконцыя тыдні вялікага посту навітых

[239] Янка Брыль. Птушкі і гнёзды. «П», № 11, 1963, б. 77.
[240] Тамсама, б. 146.
[241] Тамсама, б. 99.
[242] «П», № 12, 1963, б. 84.

з рознага рызьзя, намочаных у газе і выкачаных у каломазі. Зь імі яны, падлеткі, ішлі сваёй дарогай, поўныя і крыклівай, і маўклівай маладзецкай радасьці, ішлі і з горкі бачылі, як па іншых дарогах таксама палаюць клубкі!..

Другое, што здавалася яму, дзесяцігадоваму хлопчыку, самым прыгожым, былі бясконцыя, старанна жаласьлівыя песьні-малітвы старцоў — сьляпых бабулек на вазах з палатнянымі будамі і бязногіх, бязрукіх, гугнявых дзядоў на зямлі, побач з задзёртымі аглоблямі, дзе хрупае сена зусім чамусьці супакойны каняга.

І трэйцяе — асноўнае на тым амаль фантастычным фоне — расьпяты Хрыстос і песьня, якая толькі адна і здавалася Алесю важнай і верагоднай ва ўсёй эпапэі пакут і ўваскрасеньня таго, хто «быў Богам і чалавекам адразу». Нікчэмна бледны, барадаценькі псаломшчык, мнагадзетны п'янчужка (яны яго, школьнікі, ведалі добра), цяпер дзіўна ачышчаны ад брыдоты натхненьнем, высокім і сардэчна любым голасам уздыймаў над гарачым, потным натоўпам цудоўную песьню вялікай журбы і смутку, што гучаньнем і сэнсам старaславянскіх слоў — «Не рыдай мене, маты...» — да ціхага плачу, да таямнічага і бяздонна шчасьлівага плачу даводзіла хлопчыка, разам з мамай зацёртага ў бабскім натоўпе.[243]

Яшчэ шэсьць год перад зьяўленьнем раману «Птушкі і гнёзды» крытык Алесь Адамовіч у 1957 годзе пісаў пра Янку Брыля: «Калі літаратуру называць чалавеказнаўствам, дык першая й самая адметная якасьць прозы Брыля — гэта высокая культура чалавеказнаўства».[244] Вось-жа гэтая культура чалавеказнаўства, спалучаная зь любасьцяй да праўды й чалавека, як і да ўсяго свайго роднага, і дазволіла Брылю ў рамане «Птушкі і гнёзды» падняцца вышэй за ўсякі сацрэалістычны шаблён.

У № 6 «Маладосьці» за 1964 год зьмясьціў Янка Брыль вялікую нізку сваіх дробных мініятур і замалёвак «Рамонкавы россып», якія, праўдападобна, увайшлі разам зь іншымі ў выдадзены ў 1965 годзе ягоны зборнік «Жменя сонечных промняў». «Рамонкавы россып» — гэта сьвежая й беспасярэдняя рэакцыя пісьменьніка на ўсё тое спатканае ў жыцьці, што зьвярнула на сябе ягоную ўвагу. Дзеля пазнаньня асабовасьці пісьменьніка й ягоных паглядаў на жыцьцё, нельга ня прывесьці тут датаванага «верасьнем шасьцідзесятага году» наступнага ягонага запісу:

...Колькі можа перацярпець чалавек?..

Пяць гадоў панскай турмы, уцёкі ў СССР, дзе яму, чыстаму сэрцам хлопцу, даюць дваццаць пяць бяз права перапіскі, як... польскаму шпіёну!..

А цяпер, калі чалавек вярнуўся, пасьля дзевятнаццаці год зьняволеньня, зрубіў хату, ажаніўся, сына нажыў, цяпер ён на хаду паміpae ад рака...

І ўвесь акіян яго незаслужанай крыўды, і ўся яго, нягледзячы на гэтую крыўду, сьветлая вера ў родную савецкую справу, увесь сьвет яго перажываньняў, дум — «ня тыповая зьява», пра што мы будзем маўчаць... дзеля агульнага дабра. І няпрыемнае для нас само яго жыцьцё,

---

[243] Тамсама, б. 77.

[244] Алесь Адамовіч. Багацьце творчых індывідуальнасьцей. «ЛіМ», № 21, 13 сакавіка, 1957.

як напамінак, прыкры напамінак пра вялікую крыўду, вялікі боль, незаслужана нанесены добраму, нявіннаму чалавеку, як напамінак пра вялікую «памылку» — ня сотую і ня тысячную долю той жахлівай зьявы, што зашыфроўваецца лічбай «1937» або словамі «культ асобы».

Праўда, суровая, чыстая, горкая праўда пра тое сказана.

Прыйдзе таксама вялікі мастак, які гэтую праўду паўторыць мовай вобразаў — зноў-жа і па сапраўднаму — *дзеля агульнага дабра!..*

А тым часам, калі-б мая воля, дык я гэтым хлопцам і дзяўчатам, што без пары сталі дзядамі і бабамі, надломленымі жыцьцём, я ім даваў-бы вялікія ордэны, як гэроям — за іх веру, нястрачаную ў нялюдзкіх выпрабаваньнях.[245]

Гэты вось роздум над трагэдыяй сталінаўскіх часоў, якая сяньня для шмат каго, перш-наперш для сувіноўнікаў гэтае трагэдыі — «ня тыповая зьява», пра якую трэба «маўчаць... дзеля агульнага дабра», — вельмі важны мамэнт для характарыстыкі Янкі Брыля, як чалавека, праўдзівага гуманістага й адважнага абароньніка праўды.

*

Апрача строга вымаганага прынцыпу партыйнасьці й «народнасьці» літаратуры, партыя ставіць перад ёй таксама ў дырэктыўным парадку яшчэ й прынцып сучаснасьці. Партыйныя органы й паслухмяная ім крытыка намагаюцца ўсякімі спосабамі накіроўваць літаратуру на як найшырэйшае адлюстраваньне сучаснай, штонайменш паваеннай рэчаіснасьці, патрабуючы ад пісьменьнікаў рэагаваць у партыйным духу на надзённыя праблемы савецкага жыцьця. Не зважаючы, аднак, на асаблівую настойлівасьць такіх вымаганьняў, паэты й празаікі, як ціраз падчырквалася, куды ахватней зварачаюцца за творчым матар'ялам для сваіх твораў у бліжэйшую й далейшую мінуўшчыну, а калі й апрацоўваюць тэмы сучасныя, дык узноў-жа ахватней засярэджваюць сваю ўвагу на зьявах чыста прыватнага й асабістага жыцьця сучаснага пакаленьня ды на праблемах агульналюдзкіх, баронячыся, як мага, перад рэкамэндаванымі палітычнымі пытаньнямі. У выніку такой пісьменьніцкай тэндэнцыі тэмы із сучаснага савецкага жыцьця знаходзяць значна вузейшае адлюстраваньне ў беларускай літаратуры, асабліва ў творах мастацкае прозы, чымся тэмы, што ўжо належаць да недалёкай гісторыі.

Спасярод пісьменьнікаў, што засярэджваюць сваю ўвагу галоўна на паваенных і зусім сучасных праблемах савецкае рэчаіснасьці, на першым месцы даводзіцца паставіць *Івана Шамякіна.* За найважнейшы ягоны твор ня толькі апошняга пяцігодзьдзя, але й усяе ягонае творчасьці ўважаецца ягоны, ужо чацьверты з чаргі, раман «Сэрца на далоні», што быў спачатку надрукаваны ў №№ 8—10 «Полымя» за 1963 год, а ў 1964 годзе выйшаў і асобнай кніжкай.

Шмат што паказвае на тое, што раман «Сэрца на далоні» быў задуманы як рэпліка ў паказе сучаснай беларускай інтэлігенцыі й ейных праблемаў на Караткевічаў раман «Нельга забыць». На гэтую думку наводзіць

---

[245] Янка Брыль. Рамонкавы россып. «М», № 6, 1964, б. 21—22.

навет тая, хіба-ж, нявыпадковая акалічнасьць, што і ў Шамякінавым рамане, падобна як і ў Караткевічавым, кульмінацыйным пунктам усяе акцыі — апэрацыя сэрца гэраіні, што ў «Нельга забыць» сталася безпасярэдняй прычынай сьмерці гэтае гэраіні — Ірыны Горавай, а ў «Сэрцы на далоні» мела вынік шчасьлівы, бо там гэраіня Зося Савіч пасьля цяжкой апэрацыі зьвярнулася да здароўя й паўнавартаснага жыцьця. Але апрача гэтага, чыста структуральнага, важнейшае супрацьстаўленьне ў прынцыпова адрозным аспэкце паказу ў вабодвых творах сучаснае інтэлігенцыі: у Караткевіча — гэта нацыянальна-беларускі аспэкт (і пры гэтым у гістарычнай пэрспэктыве), у Шамякіна — агульна-савецкі. Нацыянальнага беларускага ў гэтай інтэлігенцыі, як і наагул у цэлым Шамякінавым рамане, няма абсалютна нічога. Дзея раману, што разгортаецца ў Гомелі, магла-б быць перанесеная ў кажны іншы горад Савецкага Саюзу, і ад гэтага твор нічога ня страціў-бы. Навет беларуская мова раману, як і наагул твораў Шамякіна, як-бы падрабляючыся пад афіцыйную беларускую мову ў БССР, у значнай меры калькаваная з расейскае мовы.

У гэтай сваёй зьінтэрнацыналізаванасьці і інтэлігенцыя ў рамане «Сэрца на далоні» паказаная наагул праўдзіва й рэалістычна. Галоўныя прадстаўнікі гэтае інтэлігенцыі доктар Антон Яраш і пісьменьнік Кірыла Шыковіч, наагул тыпы высока пазытыўныя, грэшаць асноўнымі грахамі сяньняшняе савецкае эліты: імкненьнем да асабістых выгодаў і прыватнае собскасьці. Абодвы пабудавалі незаконна «дачы» на прысвоеных «па блату» дзялянках зямлі. Інтэлігенцыю гэтую добра схарактарызаваў тыповы ў рамамне стыляга, Шыковічаў сын Славік, у словах, поўных зьедлівай іроніі: «Я таксама за тое, каб усе сталі дачнікамі!»[246] Яраш і Шыковіч сваёй высокай інтэлігенцыяй — людзі наагул рэдкія ў савецкім грамадзтве, бо інтэлігенцыя ў сваёй масе бязь інтэлігентнасьці. «Усё няшчасьце наша, — кажа доктар Яраш, — што мы ня выхавалі ў нашай інтэлігенцыі неабходнай інтэлігентнасьці».[247] Асяродзьдзе работніцкае паказанае ў рамане ў васобах сяброў брыгады камуністычнае працы на чале з брыгадзірам Тарасам, прыбраным сынам Яраша. Гэтае асяродзьдзе бадайшто ня розьніцца ад інтэлігенцыі, што, побач зь інтэрнацыянальным узгадаваньнем, ёсьць таксама ідэялам камуністычнай партыі. Добра ўдаўся пісьменьніку тып савецкага стылягі ў васобе Славіка Шыковіча. Крытык Павал Дзюбайла зрабіў дакор, што ў гэтым пэрсанажы «Шамякіну не ўдалося да канца раскрыць складаны працэс нараджэньня грамадзяніна ў сваім героі, паказаць прыход да яго чалавечай сталасьці».[248] Наадварот, якраз ад таго, што пісьменьнік тут не намагаўся раскрыць гэнага «працэсу нараджэньня грамадзяніна», патрэбнага для партыйнага стандарту, адно выйграла жыцьцёвая й мастацкая праўда твору. Бяручы ў цэласьці, інтэлігенцыя ў рамане «Сэрца на далоні» прыгадвае тую сучасную камуністычную новую клясу, якую гэтак унікліва схарактарызаваў югаслаўскі былы камуністы Мілаван Джыляс у ведамай кнізе «Новая кляса».

---

[246] Іван Шамякін. Сэрца на далоні. Менск, 1964, б. 167.
[247] Тамсама, б. 345.
[248] Павал Дзюбайла. Усімі фарбамі жыцьця. «П», № 4, 1964, б. 174.

Побач з паказам сучаснай інтэлігенцыі, другім праблемным стрыжнём раману — адлюстраваньне злачыннага характару сталінізму й дэсталінізацыі. Раман Шамякіна — адзін зь першых твораў беларускае паваеннае літаратуры, у якім увесь жах і нялюдзкасьць сталінізму паказаныя ў васабліва трагічнай завойстранасьці. Ахвярамі сталінскага тэрору сталіся тут ня проста ў нічым нявінаватыя людзі, але выняткава заслужаныя, бязьмежна адданыя для савецкай справы, адважныя вычыны якіх для гэтае справы ўзьведзеныя да ўзроўню запраўднага гэраізму. Раман Шамякінаў добрая ілюстрацыя таго, якія цяжкасьці стаяць перад савецкім пісьменьнікам, калі ён наважваецца даць паказ нялюдзкасьці сталінаўскае сыстэмы. У гэтым, відаць, хаваецца й прычына, чаму тэма сталінізму, здавалася-б, прынадная для бэлетрыстыкі, знаходзіць ня шмат ахвотнікаў у літаратуры. А й тыя пісьменьнікі, у тым ліку й Шамякін, што ўсё-ж хапаюцца за гэтую тэму, распрацоўваюць яе вельмі асьцярожна й стрымана із шкодай для мастацкай якасьці твораў.

У рамане «Сэрца на далоні» няпоўнагодная яшчэ дачка доктара Савіча Зося ў часох нямецкае акупацыі стаецца, як і ейны бацька, выдатнай падпольшчыцай і перахоўвае ў сваёй хаце адказных дзеячоў падпольля. Гітлераўцы выкрываюць гэта й высылаюць яе ў канцэнтрацыйны лягер. Калі-ж пасьля вайны Зося вярнулася ў родны горад, савецкія органы бясьпекі таксама высылаюць яе ў канцэнтрацыйны лягер у Сібіры, зьвінаваціўшы яе ў супрацоўніцтве з акупантам. Аўтар даволі інфармуе пра ейныя пакуты ў нямецкіх лягерах, пра тое, як яе мучылі й білі, затое пра ейную высылку ў Сібір даведваемся адно з выпадковых словаў Кірылы Шыковіча. Вярнуўшыся зь Сібіру, Зося паддаецца бадай безнадзейнай апэрацыі сэрца. Толькі дзякуючы выдатнаму хірургу Ярашу, якога яна калісьці хавала ад гітлераўцаў, Зося застаецца пры жыцьці. З падтэксту раману відаць, што прычынай ейнай сэрцавай хваробы быў савецкі канцлягер. Але Зося ня чуе да нікога ніякага жалю, быццам вінаватай у сваіх муках была яна сама. Таму ейны вобраз успрыймаецца, як выідэялізаваны й няжыцьцёвы. Віктар Каваленка, рэцэнзуючы раман «Сэрца на далоні», спрабуе бараніць аўтара тым, што ён быццам хацеў нарысаваць «вобраз Зосі самым абагульненым у рамане». І гэта быццам затым, што, паводля ягоных словаў, «яна прадстаўніца народу, адна з тых, што служаць радзіме самааддана й бескарысьліва».[249] Нажаль, гэткая інтэрпрэтацыя вобразу Зосі ня пераконлівая.

Выразная тэндэнцыя ўсьцерагчыся канфлікту з афіцыйнай лініяй партыі адмоўна адбілася й на паказе іншага важнага пэрсанажу твору — Сямёна Гукана. Гэта зацяты сталінавец, у якім сканцэнтраваліся шмат якія адмоўныя рысы сталінізму ўлучна з крымінальнымі злачынствамі дзеля захаваньня непахіснасьці свайго аўтарытэту. За выдатную дапамогу партызанам, у тым ліку й асабіста Гукану, гітлераўцы зьнішчылі бацьку Зосі доктара Савіча. Ужо пасьля ягонае сьмерці Гукан адудзячыўся яму зусім пасталінаўску: сваім аўтарытэтам найлепшага знаўцы падпольля ён, паслугоўваючыся й паклёпніцкімі даносамі, стварыў апі-

[249] Віктар Каваленка. Рытм чалавечага сэрцабіцьця. «М», № 3, 1964, б. 141.

нію, быццам доктар Савіч і ягоная дачка Зося — калябаранты з ворагам. На няжывога ўжо Савіча падае таўро здрадніка, а Зося, дзякуючы ягоным даносам, пасьля звароту зь нямецкага, трапіла ў савецкі канцэнтрацыйны лягер. Трэба было Шыковічу патраціць шмат энэргіі, пошукаў і ўпорыстасьці, каб аж у 1962 годзе дамагчыся рэгабілітацыі доктара Савіча й Зосі. Адначасна быў канчальна выкрыты й маральна здыскрэдытаваны Гукан, які дагэнуль займаў адказнае становішча старшыні гарсавету. Дзеля тае-ж, відаць, асьцярожнасьці, пісьменьнік гэтым і абрывае гісторыю з Гуканам, не паінфармаваўшы, якое-ж панясе ён пакараньне. Праўдападобна бадайшто ніякага, як можна меркаваць із словаў Шыковіча: «Мы на дзіва добрыя. Сама больш — яго пашлюць на пэньсію».[250] Каб лепш застрахавацца, Шямякін не забыўся падчыркнуць заслугаў партыі у васобе сакратара гаркому Тарасава й органаў бясьпекі ў васобах начальніка КДБ падпалкоўніка Вагіна й капітана Сербаноўскага пры здэмаскаваньні Гукана й рэгабілітацыі Савічаў.

Не зважаючы на падчыркнутыя хібы, а так-жа на некаторую ілюстрацыйнасьць у паказе некаторых пэрсанажаў і зьяваў у жыцьці, што крытык Барыс Бур'ян назваў «бэлетрызаванай стэнаграмай»,[251] раман «Сэрца на далоні» не пазбаўлены запраўдных мастацкіх дасягненьняў. Аўтар патрапіў удала скампанаваць моцна разгалінаваны сюжэт, жыва й цікава разгарнуць дзею, раскрыць тыповыя, дадатныя й адмоўныя, рысы савецкага сучасьніка.

З гледзішча на праўдзівы паказ паваеннага жыцьця ўжо ня ў горадзе, а ў вёсцы, і на раскрыцьцё злачынстваў сталінізму проста рэвэляцыйная Шамякінава аповесьць «Мост», надрукаваная ў №№ 6 і 7 «Полымя» за 1965 год. Дзея аповесьці разгортаецца ў першую паваенную вясну ў ваднэй прыдняпроўскай вёсцы, а ейнай тэмай — адбудова разбуранага калгасу й пераход да мірнага стваральнага жыцьця.

Бадайшто ўва ўсіх ранейшых творах беларускай літаратуры на гэтую тэму — а гэткіх твораў зьявілася цімала, у тым ліку й таго-ж Шамякіна — быў паказваны ў ружовых хварбах згодны высілак народу ў вадбудове разбуранага вайною краю, агульны энтузіязм і пачуцьцё вялікай радасьці, што народ собскімі рукамі на руінах вайны будуе сабе будучае шчасьце. У ваповесьці Шамякіна чагосьці падобнага няма й заваду. Казённы аптымізм заступае тут голая й нічым ня прыхарошаная праўда, заміж радасьці й энтузіязму, — пануе кашмарная атмасфэра расчараваньня, недаверу й страху, замік распрапагандаванага савецкага патрыятызму — пачуцьцё незадаваленьня, крыўды й навет варожасьці да сыстэмы й фармаванай ёю рэчаіснасьці. Усё гэта ў ваповесьці «Мост» лягічна й псыхалягічна ўматываванае канкрэтнымі фактамі, усё ўспрыймаецца праўдзіва й пераконліва. Прычынай такой удушлівай атмасфэры ня гэтулькі ваенныя няшчасьці, колькі сама сыстэма. Навет галоўны гэрой аповесьці сакратар партарганізацыі Пятро Шапятовіч вычувае гэта пры ўсім сваім імкненьні да казённага аптымізму:

---

[250] Іван Шамякін, тамсама, б. 393.

[251] Барыс Бур'ян. Стратэгічнае поле раману. «ЛіМ», № 76, 22 верасьня 1964.

> Нягледзячы на ўсе нястачы, бюракратызм, грубасьць, Пятру хацелася пасьля такой вайны й такой перамогі бачыць толькі добрае, прыгожае, высокае й чыстае. Часам яму здавалася: каб людзі знарок ня вышуквалі благое, ня выцягвалі яго на сьвет Божы, то вакол было-б больш сьветлага і ўсім лягчэй жылося-б.[252]

Парадаксальныя супярэчнасьці савецкага жыцьця паказаныя ў ваповесьці «Мост» вельмі войстра й рэалістычна. Сельская гаспадарка ўшчэнт зруйнаваная, людзі галадаюць, вучні ў школе млеюць у часе заняткаў ад недаяданьня. А тут-жа ваенны інвалід Прышчэпа, выцягнуўшы зь кішэні скамечаную газэціну, чытае паведамленьне, што «СССР на працягу красавіка, мая й чэрвеня паставіць Францыі 400 тысяч тон пшаніцы й 100 тысяч тон ячменю». «Што мы — такія багатыя? Сваіх накармілі ўволю?»[253] — абураюцца людзі. Андрэй Запечка, таксама ваенны інвалід, які, «уцёкшы зь нямецкага палону, быў францускім партызанам, вярнуўся зь іх ордэнам»,[254] пацьвярджае, што Францыя гэтак не разбураная, што людзі жывуць там куды лепш, чымся ў Савецкім Саюзе. За пару дзён пасьля гэтага Запечку арыштоўваюць органы бясьпекі, як францускага шпіёна, што вёў антысавецкую агітацыю.

Іншы ня менш вымоўны прыклад. Людзі пераважна жывуць у цёмных і сырых зямлянках. Каб нешта пасеяць на сваіх прысядзібных дзялянках і сяк-так пракарміцца, аруць на сабе. І гэта пераважна жанчыны: адна падпіхае плуг, а дзьве, упрогшыся ў пастронкі, цягнуць яго. На гэткім вось фоне паказаная сцэна, калі партыйныя прадстаўнікі зьбіраюць у вёсцы Панізоўе падпіску на дзяржаўную пазыку. Пятро Шапятовіч думае пры гэтым уголас: «Што скажаш чалавеку, калі ў вадказ на прапанову пазычыць дзяржаве, ён тут-жа просіць пазычыць яму, каб дабудаваць хату, вывесьці дзяцей зь земляной нары на сьвятло? А просьбамі такімі засыпалі: лесу, пазыкі, хлеба, напраткі для дзяцей». Калі з пазыкай прыйшлі да інваліда Прышчэпы й паклікаліся на загад правадыра, той ня вытрываў і закрычэў: «Пайшлі вы... са сваім правадыром!»[255] Усюды паношыцца хвальшывая афіцыйшчына й бяздушны бюракратызм, работа ў калгасе вядзецца абы каб фармальна выканаць плян, бо й тыя, што кіруюць, ня вераць, каб пры гэткай сыстэме былі нейкія вынікі.

Над усімі пазытыўнымі пэрсанажамі маральна й ідэйна ўзвышаецца настаўнік гісторыі ў мясцовай школе й сакратар партарганізацыі, успаміналы ўжо Пятро Шапятовіч. Былы партызан, пасьля франтавы салдат, тройчы ранены, а цяперака, хоць жыве із сям'ёй галадуючы, усёй душой адданы працы для людзей. Гэта рэдкі ў жыцьці тып ідэялістага, ён сьніць і лятуціць, што павінен пабудаваць мост праз Дняпро. «І ў партызанах, і на фроньце, у сьне і на яве, бачыў ён гэты мост, што будзе пабудаваны па яго праекце, найпрыгажэйшы з усіх мастоў, уцалелых і разбураных вайной, якія даводзілася бачыць на рэках Радзімы, Поль-

---

[252] Іван Шамякін. Мост. «П», № 7, 1965, б. 35.
[253] Тамсама, б. 15.
[254] Тамсама, б. 16.
[255] Тамсама, б. 57.

шчы й Германіі».[256] Вымраены ім мост — гэта нічога іншага, як прыгожы сымбаль высокіх парываньняў і імкненьняў гэтага чалавека.

I вось ні з таго, ні зь сяго, начальнік раённага аддзелу МГБ Булатаў арыштоўвае Шапятовіча й прышывае яму або зусім высcаныя з пальца злачынствы, або інтэрпрэтуе ягоныя бясспрэчныя заслугі таксама, як злачынствы. Уся гісторыя з Шапятовічам канчаецца аднак памысна, бо сакратары райкому Анісімаў і Лялькевіч раптоўна ўрываюцца ў кабінэт Булатава ў мамэнт, калі ён вядзе допыт Шапятовіча, і сіламоц вызваляюць яго. Гэтае ўмяшаньне партыйных прадстаўнікоў і цэлая сцэна вызваленьня імі Шапятовіча, «надзіва няверагодная ў гэтым праўдзівым творы»,[257] як сьцьвердзіў пісьменьнік Васіль Быкаў, спатрэбілася пісьменьніку, падобна як і ў рамане «Сэрца на далоні», узноў-жа дзеля самазастрахаваньня перад эвэнтуальнымі закідамі ў антыпартыйных тэндэнцыях.

Відаць пісьменьнік сам глыбака й з болем перажываў адлюстроўваны ў ваповесьці «Мост» кашмар савецкае рэчаіснасьці за часоў Сталіна. Гэтым, відаць, тлумачыцца й наяўнасьць у ваповесьці лірычнага элемэнту, наагул рэдкага ў Шамякіна, як пісьменьніка наскрозь эпічнага жанру. Як слушна зазначыў той-жа Васіль Быкаў, сьціплая памерамі аповесьць «Мост» «заключае ў сабе ўсе патэнцыі, неабходныя для паўнакроўнага й войстраканфліктнага раману».[258]

Беларускі нацыянальны калярыт, якога бадайшто зусім няма ў Івана Шамякіна, асабліва моцна зарысаваўся ў творах *Янкі Скрыгана,* што таксама, як і Шамякін, засярэджвае сваю ўвагу на праблемах і зьявах з жыцьця сучаснай беларускай інтэлігенцыі й калгаснага сялянства. У вадрознасьці ад Шамякіна й іншых аўтараў вялікіх і шырокамаштабных эпічных жанраў, Янка Скрыган паза межы апавяданьня, у рэдкіх выпадках аповесьці, таксама кароткай памерамі, зусім ня выходзіць, будучы, аднак, у гэтых жанрах запраўдным майстрам.

У 1964 годзе на свой 60-цігадовы юбілей Скрыган выдаў зборнік выбраных твораў розных гадоў «Свая аповесьць». У ім зьмешчаныя найлепшыя ягоныя апавяданьні й аповесьці, як напісаныя яшчэ да вайны, да арышту й высылкі пісьменьніка, гэтак і пасьля ягонае рэгабілітацыі ў 1955 годзе, у тым і ў разгляданым гэтта пяцігодзьдзі, а таксама аўтабіяграфічны нарыс пад тым-жа загалоўкам «Свая аповесьць». Загалоўкам гэтага нарысу, як бачым, загаловіў пісьменьнік і ўсю сваю кнігу, відаць, таму, што ўважаў яго за асабліва важны ў сваёй творчасьці. Дый загаловак самога гэнага нарысу, здаецца, нявыпадковы таксама, бо, падаючы ў ім важны дакумантальны матар'ял пра самога сябе, сваю творчасьць і літаратурнае асяродзьдзе, зь якім стыкаўся Скрыган яшчэ ў 20-ых гадох, пісьменьнік надаў гэтай сваёй аўтабіяграфіі характар чыста літаратурна-мастацкага твору.

У гэтым аўтабіяграфічным нарысе Скрыган, між іншага, прызнаецца, што некаторыя ягоныя творы яму «нечым бліжэй да сэрца. Мабыць, ад та-

---

256 «П», № 6, 1965, б. 7.
257 Васіль Быкаў. Улада праўды. «ЛіМ», № 69, 27 жніўня 1965.
258 Тамсама.

го, што ўвесь гэты матарыял найбольш прапусьціў праз сябе. Што ў працэсе работы найбольш зжыўся з гэтымі вобразамі».[259] І тут-жа пісьменьнік называе няпоўны дзесяток апавяданьняў і аповесьцяў, што, як ён кажа, «найбольш прапусьціў праз сябе». Гэтае Скрыганава прызнаньне можна пашырыць і на ўсе ягоныя творы, бо й запраўды ўсё чыста, напісанае ім, у большай або меншай ступені «прапушчанае праз сябе» пісьменьнікам. Няма бадай аніводнага ягонага твору, у якім-бы праз эпічную аснову не прамаўляла лірычнае «я» пісьменьніка.

Вазьмем, дзеля прыкладу, апавяданьне «Месячная ноч», напісанае ў 1962 годзе. Пакінутая на адзіноту й паняверку сваім мужам Сьцяпанам калгасьніца Волька сустракае на сваім жыцьцёвым шляху інжынера-геадэзістага Андрэя, што ў ейнай мясцовасьці праводзіў геалягічныя пошукі. Андрэй — чалавек ідэі й высокіх маральных якасьцяў. Пра мэту й вынікі свае працы ён гэтак расказвае Вольцы: «Гэта найвялікшае гістарычнае глупства, якое паўтаралі зь веку ў век ува ўсіх кнігах і вучоныя, і невукі, што Беларусь — край балот, галечы, каўтуна й мякіны. Няпраўда! Хлусьня! Наша зямля вельмі багатая, толькі ня было каму, як добраму доктару, праслухаць яе».[260] Якім-жа нізкім і нікчэмным выглядае супраць яго Вольчын Сьцяпан у ейным аналізе: «Куды, чаго ён паехаў у сьвет? Чаго яму тут не хапала? Чым ён даражыў і што бачыў перад сабой? Што і каго любіў? Толькі самога сябе. Навет не, і самога сябе ня любіў — нікога!».[261] Вуснамі Андрэя й Волькі прамаўляе тут патрыятычнае сумленьне самога аўтара.

Увагу пісьменьніка часта займае праблема каханьня й зьвязаная зь ёю праблема сямейнага жыцьця. На фоне любоўных і сямейных канфліктаў, наагул частых у апавяданьнях Скрыгана, праводзіцца думка, што нутраная, духовая прыгажосьць чалавека куды важнейшая за прыгажосьць вонкавую, што адно духовыя вартасьці прыносяць шчасьце ў сужэньсьцьве й наагул у жыцьці. Апрача апавяданьня «Месячная ноч», гэтая думка асабліва зырка ўвыпукленая ў вапавяданьні 1958 году «Сьлепата», а таксама ў вапавяданьнях першае палавіны 60-ых гадоў, як «Разьвітаньне». «У старым доме», «Над гаем кружылі буслы» й іншых.

Пісьменьнік Раман Сабаленка свой артыкул на Скрыганавы 60-ыя ўгодкі закончыў сьцьверджаньнем, што Скрыганава творчасьць «заўсёды жывілася й жывіцца з крыніц народнага духу, з самых глыбінь народняга жыцьця».[262] І ўзапраўды: ці гэта будуць прадстаўнікі інтэлігенцыі, ці сялянскія пэрсанажы, што выведзеныя ў пазытыўным сьвятле, ці сцэнкі зь вясковага жыцьця й быту, ці мініятурныя замалёўкі краявідаў Беларусі й зьяваў прыроды — усе яны маюць у сабе нейкія спэцыфічна народныя й тыпова беларускія рысы. Асабліва датычыцца гэта да сялянскіх пэрсанажаў, якімі густа заселеныя Скрыганавы апавяданьні й аповесьці. Як прызнаецца сам пісьменьнік у сваёй аўтабіяграфіі, ба-

---

[259] Янка Скрыган. Свая аповесьць. Апавяданьні, аповесьці, роздум. Менск, 1964, б. 523.
[260] Тамсама, б. 448.
[261] Тамсама, б. 449.
[262] Раман Сабаленка. З крыніц народнага духу. «ЛіМ», № 94, 23 лістапада 1965.

дайшто ўсе яны скап'яваныя із знаёмых яму жывых людзей, а гэтымі прататыпамі для сваіх твораў бярэ ён звычайна гэткіх людзей, якія чымсьці характэрныя й тыповыя. Вось чаму пэрсанажы Скрыганавых твораў ня толькі носьбіты абстрактных думак і ідэяў, але й жывыя ілюстрацыі тыпова беларускіх характараў. У Скрыганавых творах беларуская нацыянальная калярытнасьць ня толькі моцна падчыркнутая, але й абагрэтая шчырай любасьцяй пісьменьніка.

Жыцьцёвая праўда ў літаратурным творы — строга абавязваючы закон для Скрыгана навет у найдрабнейшых дэталях. Калі ў тым-жа апавяданьні «Месячная ноч» Андрэй папытаўся ў Волькі, як зваць яе па бацьку, тая адказала: «А па бацьку й ня трэба, мы да гэтага ня прывучаны. Проста Волька і ўсё».[263] Імкненьне быць заўсёды праўдзівым і наскрозь народным расьцягваецца ў Скрыгана й на мову ягоных твораў, ейны сынтаксычны й фразэалягічны склад. Мова гэтая адбівае ў сабе характэрныя асаблівасьці гаворкі Случчыны ўлучна й зь некаторымі ейнымі русыцызмамі, як «палучаць», «спаймаць» ды іншыя, якія пісьменьнік непрадумана ўважае за чыста беларускія.

Тонкая назіральнасьць і глыбокае раскрыцьцё людзкіх характараў — асабліва каштоўныя рысы Скрыганавага таленту. А ў гэтай сваёй дакладнасьці й жаданьні быць у поўнай згодзе з жыцьцёвай праўдай Скрыган вельмі і патрабавальны. У вапавяданьні «Неспадзеўнае падарожжа» Скрыган успамінае пра адно сваё апавяданьне, кажучы, што «кожнае слова ў ім ня толькі стаіць на месцы, а стаіць важка, значна, нясе на сабе найбольшую нагрузку».[264] Зь пісьменьнікавай аўтабіяграфіі даведваемся, што некаторыя сюжэтныя сытуацыі й пэрсанажы ягоных апавяданьняў, узятыя з жыцьця, дасьпявалі ў яго цэлымі гадамі, пакуль маглі знайсьці адпаведную форму мастацкага ўжыцьцёўленьня. Гэтая строгая патрабавальнасьць да самога сябе й руплівасьць пра кажную дэталь у творы, відаць, былі прычынай, што Скрыган, пачаўшы пісаць яшчэ ў сярэдзіне дваццатых гадоў, напісаў колькасна ня шмат і ня выйшаў паза межы кароткіх празаічных жанраў. Але й тое, што выйшла спад ягонага пяра, застанецца ў нашай літаратуры ўзорам жанру кароткага апавяданьня.

Свой 60-цігадовы юбілей адзначыў і *Піліп Пестрак* у 1963 годзе выданьнем свайго новага вялікага раману «Серадзібор», які із шмат якіх гледзішчаў заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Гэта твор, у якім пісьменьнік упяршыню ў сваёй творчасьці глянуў іншымі вачыма на сучасную яму рэчаіснасьць.

Піліп Пестрак пачаў сваю літаратурную дзейнасьць яшчэ перад вайною, як вершапісец. І толькі шмат пазьней, асабліва-ж пасьля вайны ён узяўся за мастацкую прозу, і тады спад ягонага пяра выйшла шмат апавяданьняў, аповесьцяў ды вялікі раман «Сустрэнемся на барыкадах», выдадзены ў 1954 годзе. Тэмай раману — падпольнае змаганьне, інсьпіраванае й кіраванае камуністычнай партыяй, супраць польскага рэжыму ў Заходняй Беларусі, у якім сам аўтар браў актыўны ўдзел. Зь ідэй-

---

[263] Янка Скрыган, тамсама, б. 447.
[264] Тамсама, б. 402.

нага гледзішча ўсе гэтыя творы вытрыманыя ў артадаксальным камуністычным духу сталінаўшчыны. Гэткую ідэялягічную лінію пісьменьніка можна вытлумачыць перш-наперш палітычнымі абставінамі часу, у якім творы гэтыя пісаліся, але не бяз уплыву мусілі тут быць і матывы чыста асабістага біяграфічнага характару. Пестрак быў адным з прафэсійных і найбольш актыўных у Заходняй Беларусі рэвалюцыянераўпадпольнікаў — з дваццацёх год існаваньня незалежнай Польшчы між абедзьвюма сусьветнымі войнамі цэлыя адзінаццаць год прабыў Пестрак у польскіх турмах.[265] Таму прыход савецкай арміі ў Заходнюю Беларусь у верасьні 1939 году, які бальшыні стаўся новай і яшчэ горшай няволяй, Пестраку быў запраўдным вызваленьнем. Яшчэ ў самым пачатку 60-ых гадоў выглядала, што, не зважаючы на новыя творчыя пошукі й ідэйную фэрмэнтацыю ў сучаснай беларускай літаратуры, Пестрак застанецца на старых дагматычных пазыцыях.

Тымчасам апошні ягоны раман «Серадзібор» паказаў адваротнае. Галоўная тэма раману — аднаўленьне калгасаў у Заходняй Беларусі адразу па сканчэньні апошняе вайны. Раўналежна з гэтай галоўнай тэмай пісьменьнік разьвівае праблему ролі навукі й навуковых дасягненьняў у разьвіцьці сельскай гаспадаркі. Гэтая праблема, якую Уладзімер Юрэвіч, рэцэнзуючы раман, схарактарызаваў, як «усталяваньне саюзу зямлі з навукай»,[266] разгортаецца й канкрэтызуецца ня ў пляне агульнасавецкім, інтэрнацыяналістычным, а якраз у нацыянальным, беларускім. Усе вучоныя Беларусы — гэроі раману — жывуць аднэй прагай — аддаць усе свае веды й сілы аднэй Беларусі. Беларускага вучонага агранома Паўла Кляновіча звольнілі із становішча міністра сельскае гаспадаркі затое, што ягоная доктарская дысэртацыя «Аб урадлівасьці глебаў Беларусі» не ўва ўсім адказвала партыйнай лініі. Яму запрапанавалі пасаду першага сакратара абкому на Паволжы, але ён горда заяўляе: «Лепш пайсьці на паніжэньне, чым пакідаць, будучы аграномам, сваю зямлю».[267] І Кляновіч застаецца працаваць на Беларусі ў характары ўсяго абласнога агранома. Ён прапагуе гадоўлю найбольш выгоднае ў вабставінах Беларусі чырвонае пароды кароваў, якую ягоныя партыйныя працаўнікі называюць «нацыяналістычнай».[268] А вось разважаньні Кляновіча пра Беларусь: «На гэтай зямельцы ёсьць адна мясьціна, якую на карце можна закрыць далоняю. І завецца яна здавён-даўна Белая Русь. Гэтая мясьціна найбліжэйшая сэрцу, як тая матчына зрэбная або кужэльная сарочка. І таму вось аб ёй з гадамі расьце клопат. Хочацца яе росквіту, красаваньня».[269] У гэтых энтузіястычных словах Паўла Кляновіча выказаная галоўная ідэя самога твору.

Другі гэрой раману — малады вучоны Платон Грушка напісаў сваю кандыдацкую дысэртацыю таксама, як і Кляновіч, на беларускую тэму — «Рух і пераўтварэньне супяскоў у Беларусі». Ён едзе працаваць аграномам у

---

[265] «Пісьменьнікі савецкай Беларусі», Менск, 1959, б. 342.
[266] Уладзімер Юрэвіч. Сучаснасьць і майстэрства. «П», № 10, 1961, б. 166.
[267] Пілiп Пестрак. Серадзібор. «П», № 1, 1961, б. 43.
[268] Тамсама.
[269] «П», № 10, 1962, б. 66.

родны Серадзібор, дзе свае тэарэтычныя веды памысна выкарыстоўвае для ўздыму ўрадлівасьці беларускіх глебаў. Ягоны галоўны дэвіз сфармуляваны ім самым у паэтычных словах: «Будзем мацаваць навуку, каб зрадніцца з сонцам».[270]

Трэйці гэрой раману, таксама гарачы беларускі патрыёта журналісты і пісьменьнік Аляксей Жарнавік, уважае за свой патрыятычны абавязак працаваць адно на Беларусі й для Беларусі. Вось якімі цёплымі хварбамі малюе яго сам аўтар:

> ...Аляксей, народжаны вайною журналісты, пасьля дэмабілізацыі не пасьпяшаўся да мамы, а пайшоў за гукамі жыцьця пасьляваеннай радзімы — зь мястэчка ў мястэчка, зь вёскі ў вёску — да розных сакратароў райкомаў, да старшынь калгасаў, да дзядзькоў пасівелых, да нястомных цётак і іх дочак-красунь. Дзе тыдзень, дзе два... Ах якое-ж багатае жыцьцё на дарогах радзімы, багатае на сілу, нястомнасьць, на вялікую тугу па лепшым, заўтрашнім дні. Многа пра яго запісана ў нязьлічоных бляклотах Журнавіка, і разам з тым недзе ў глыбінях душы расьце думка, міжвольнае жаданьне — апісаць гэтую вялікую плынь, як тую шырокую дарогу, якой і канца ня відаць у далячыні.[271]

Патрыятызм Журнавіка, Грушкі й Кляновіча ды некаторых іншых пэрсанажаў раману — гэта ўжо патрыятызм ня сталінаўскага тыпу.

Хоць раман «Серадзібор» быў узнагароджаны літаратурнай прэміяй імя Якуба Коласа, але ў вабмеркаваньнях ягоных, што друкаваліся ў «Літаратуры й Мастацтве» ў 1964 годзе, падчыркваліся дзьве галоўныя хібы раману. Першая, гэта хранікальна-апісальная форма апавяданьня, што перашкодзіла аўтару раскрыць нутраны сьвет шмат якіх пэрсанажаў твору. Другая — аўтар гэтак перагрувасьціў свой раман вялікім лікам рознаякіх праблемаў, што ня ўправіўся ўсіх іх разьвязаць у ходзе дзеі й пра разьвязку некаторых зь іх быў змушаны адно паведаміць у эпілёгу.

Ідэя навуковае працы дзеля эканамічнага разьвіцьця роднага краю, адкрыцьцяў і эксплятацыі нетраў беларускай зямлі, мімабегам закранутая ў вапавяданьні Янкі Скрыгана «Месячная ноч», знайшла шырокае адлюстраваньне ў вапавяданьні *Міколы Ткачова* «Пошукі скарбаў», што было надрукаванае ў № 12 «Полымя» за 1962 год, а ў 1963 годзе — у ваднайменным зборніку апавяданьняў і нарысаў за ўвесь творчы шлях пісьменьніка. Гэтая ідэя апавяданьня Ткачова выразна пераклікаецца з раманам «Серадзібор» Піліпа Пестрака з тэй розьніцай, што, заміж дасьледваньня зямельных нетраў Беларусі, гэроі Пестракавага раману праводзяць свае пошукі на ейнай паверхні — у галіне земляробства. Калі-ж яшчэ прыгадаць успомненыя ў папярэднім разьдзеле вершы Міколы Аўрамчыка «Шмат хто рот на мой край разяўляў» і Янкі Непачаловіча «Роднай зямлі», дык можна зрабіць выснаў, што ідэя навуковай працы для народнага дабрабыту й патрыятычная гордасьць за знойдзеныя ў Беларусі прыродныя багацьці харатэрныя й агульныя для ідэйнай плыні сучаснае беларускае літаратуры.

---

[270] «П», № 2, 1961, б. 78.
[271] Тамсама, б. 127.

Мікола Ткачоў пачаў пісаць перад самай вайной, але шырэй разгарнуў сваю творчасьць адно пасьля яе, як аўтар апавяданьняў і нарысаў на тэмы партызанскага змаганьня на Беларусі, удзельнікам якога ён сам быў, а таксама выдадзенага ў 1951 годзе на гэтую-ж тэму раману «Згуртаванасьць». Апавяданьне «Пошукі скарбаў», якое правільней было-б назваць аповесьцяй, ужо цалком прысьвечанае аднэй з надзённых праблемаў сучаснай савецкай рэчаіснасьці.

У вапавяданьні «Пошукі скарбаў» аўтар выводзіць на сцэну дваіх маладых выпускнікоў гаелёгаў Сьцяпана Галіноўскага й Зосю Корань, што ўзаемна пакахаліся, але іхнае каханьне пастаўленае пад пагрозу, бо кажны мае іншыя зацікаўленьні ў жыцьці й кажны пасвойму хоча ўладзіць сваю будучыню. У Сьцяпановым характары «няўвага да мясцовага, роднага, захапленьне экзотыкай далёкіх краёў, жаданьне лунаць, як кажуць, за хмарамі»,[272] за што Зося дае яму жартаўлівую мянушку Эфір. Яе-ж Сьцяпан празваў Нетрай, бо была яна «зямная-прызямная», закаханая ў свой родны край. Таму й зьбіраецца яна паехаць працаваць на буравыя шчыліны на Палесьсі.

Гэтак завязваецца сюжэтны канфлікт апавяданьня, які разгортаецца далей у дзьвюх лініях: часткава ў сьвеце рэальным, часткава ў фантастычным — у сьне Галіноўскага. У першым пляне — рэальным пісьменьнік, каб пераканаць свайго гэроя ў няправільнасьці ягоных захапленьняў далёкімі краямі й няўвагі да роднага краю, робіць яго сьветкам гутаркі выпадковых спадарожнікаў з розных мясцовасьцяў Беларусі, што, едучы цягнікам зь Менску ў вадным купэ, жвава спрачаюцца пра тое, дзе запраўднае шчасьце: у далёкіх багатых, але чужых краёх, ці ў роднай, хоць і «беднай» Беларусі, якая, на думку некаторых, не такая ўжо й бедная. У спрэчках перамагае думка, што, не зважаючы на незавідную гістарычную долю, Беларусь вялікія «цуды рабіла і робіць». Адзін із спадарожнікаў, што ў пошуках шчасьця калісьці выехаў быў у Амэрыку, але не знайшоўшы яго там, на старасьці год вярнуўся на сваю бацькаўшчыну, расказвае: «Прыехаў я, сказаць па праўдзе, паміраць сюды, а як паглядзеў наўкола — сілы Бог ведае адкуль узялося, жыць нанава захацелася».[273]

Лятуценьні Галіноўскага ўва сьне, што складаюць фантастычную частку апавяданьня — гэта як-бы ўстаўленае ў яго зусім самастойнае навукова-фантастычнае апавяданьне, у якім Галіноўскі пралятае над усёй Беларусяй, а пасьля спушчаецца ў ейныя нетры. Ведзены духам каханай, ён прабіраецца праз пласты падземных багацьцяў Беларусі: нафты, каменнага вугальля, зялезнае руды, натуральнага газу, рэдкіх мінэральных водаў ды іншых багацьцяў роднага краю. Дзея апавяданьня пераходзіць узноў у рэальную частку й канчаецца тым, што Галіноўскі пастанаўляе застацца на Беларусі. Сваім сюжэтам і ідэяй «Пошукі скарбаў» вельмі прыгадваюць навукова-фантастычную аповесьць Вацлава Ластоўскага-Власта «Лябірынты», дзе, заміж матарыяльных скарбаў, гэрою адкрываюцца ў падзямельлі полацкага замчышча духовыя

---

[272] Мікола Ткачоў. Пошукі скарбаў. «П», № 12, 1962, б. 4.
[273] Тамсама, б. 56.

багацьці нацыянальнай мінуўшчыны Беларусі. Зусім магчыма, што адгэнуль і канцэпцыя апавяданьня Ткачова.

Крытык Павал Дзюбайла, падчыркнуўшы ў вапавяданьні важнасьць і надзённасьць тэмы, зрабіў, аднак, Ткачову й вельмі суворыя дакоры: «Арыгінальна задуманае, надзённае апавяданьне «Пошукі скарбаў», — пісаў ён, — вельмі расьцягнутае, рытарычнае, featнахарактарнае ў стылявых адносінах».[274] Усё гэта можа й так, але прычынай падчыркнутых Дзюбайлам хібаў тое, што ўсе пэрсанажы апавяданьня ня гэтулькі канкрэтныя людзі, узятыя із самога жыцьця, колькі ўвасабленьні пэўных ідэяў, як і само разьвіцьцё сюжэту апавяданьня служыць увыпукленьню гэтых ідэяў. І ня рэалістычны паказ пэўнага адрэзку рэчаіснасьці ды зьіндывідуалізаваных у ёй людзей меў на мэце пісьменьнік, а разгарненьне й уматываваньне згары закладзенай ідэі: самаабароны перад актуальнай, асабліва за Хрушчовам, палітычнай тэндэнцыяй расьцярушваньня маладой беларускай інтэлігенцыі па ўсім Савецкім Саюзе із шкодай для нацыянальнай патэнцыі й прагрэсаваньня роднага краю. Апавяданьне «Пошукі скарбаў» якраз і было задуманае ў гэткім палемічным пляне.

Савецкую рэчаіснасьць першых паваенных гадоў адлюстроўвае ў сваіх творах *Іван Пташнікаў*. Першыя ягоныя апавяданьні, аповесьці й раман «Сустрэнемся ў далёкіх Грынях», што зьявіліся яшчэ ў канцы 50-ых гадоў, былі прысьвечаныя тэмам з калгаснага жыцьця. Крытыка згодна адзначыла, што, побач зь бясспрэчнымі задаткамі пісьменьніцкага таленту, у гэтых творах цімала й істотных хібаў.[275] Затое Пташнікава аповесьць «Лонва», што друкавалася ў №№ 4 і 5 «Полымя» за 1964 год, а ў 1965 годзе выйшла кніжным выданьнем, атрымала пазытыўную ацэну, як твор з мастацкага боку поўнасьцяй дасьпелы.

Дзея аповесьці, якая з гледзішча на шырокае ахапленьне жыцьця мусіла-б называцца раманам, разгортаецца на працягу цэлага лета 1946 году ў паўночных лясох Беларусі на Мсьціжаўшчыне — у лясной вёсцы Лонва й навакольных лясох. Група зь пяцёх асоб вядзе працу ў галіне ласеўпарадкаваньня: таксатар Анатоль Завішнюк, што прыбыў з Алтаю працаваць над адбудовай зруйнаванай вайной Беларусі, студэнткі практыканткі з тэхнікуму Жэня й Сьвета, пажылы калгасьнік Андрэй Акцызьнік і дванаццацёхгадовы Юрка Даліна. З дня ў дзень яны вымяраюць лясныя кварталы, працярэбліваюць лініі, ставяць межавыя слупкі. Дзея разгортаецца павольна, на першы пагляд, здаецца, вельмі аднастайна, перарываная адно апісаньнямі лясных краявідаў ды экскурсамі ў недалёкую мінуўшчыну часоў вайны, акупацыі й партызанскага руху. Твор чытаецца, аднак, з нарастаючай увагай, бо пісьменьнік умела й глыбака раскрывае людзкія характары, выразныя й незабыўныя індывідуальнымі рысамі. Адныя зь іх, як Завішнюк, Жэня й Сьвета, калгасьніца Грасыльда й асабліва Юрка — пэрсанажы выразна пазытыўныя, карысныя гра-

---

[274] Павал Дзюбайла. У пошуках скарбаў чалавечай душы. «П», № 6, 1963, б. 181.

[275] Пілiп Пестрак. Шырока глядзець на сьвет. «П», № 10; Якаў Герцовiч. Пошукі і іх напрамак. «П», № 7, 1961, б. 165.

мадзтву й паўнавартасныя, як людзі, у іншых, як Акцызьнік і старшыня калгасу Кастэцкі, пераважае эгаізм і чэрствасьць.

Аркадзь Марціновіч, рэцэнзуючы аповесьць, выдаў гэткую, на нашую думку, зусім трапную ацэну Юрку Даліну: «Вобраз Юркі — найбольшая ўдача Пташнікава ў гэтым творы. І наўрад ці будзе памылкай сьцьвярджаць, што і ўнутранае разьвіцьцё дзеяньня ў ваповесьці, і яе ідэйнамастацкая накіраванасьць зьвязаны найперш з вобразам Юркі».[276] І ўзапраўды, вобраз Юркі, шырака паказаны ў працэсе ягонага духовага разьвіцьця й фармаваньня маладога характару, шчодра надзелены багатымі й глыбокімі перажываньнямі. Не зважаючы на перажытае ў часе вайны, якое балючым прывідам часта вяртаецца да ягонай сьвядомасьці, на цяжкую працу й галаданьне цяперака, Юрка ўсім сэрцам цягнецца да жыцьця. У яго зарадзілася сьветлае й нявіннае, яшчэ зусім падзяцінаму ўспрыйманае пачуцьцё каханьня да Жэнькі. Ён лятуціць пра тое, што раскажа ёй пра сваё жыцьцё, пра вайну й блякаду, як страшная сьмерць глядзела яму ў вочы, калі Немцы яго расстрэльвалі, і толькі цудам удалося яму застацца жывым. Усьцярогшыся ад гэтай сьмерці тады, гіне Юрка цяперака, падарваўшыся на міне, што асталася пасьля вайны. Ад ейнага выбуху цяжка раненая й Жэнька.

У ваповесьці «Лонва» Пташнікаў выявіў сябе глыбокім псыхалёгам у веданьні людзкіх характараў і здольным майстрам у паказе духовага сьвету людзей. Іншы рэцэнзэнт «Лонвы» Сэрафім Андраюк трапна адзначыў: «Пташнікаў не паўтараецца ў прыёмах і спосабах раскрыцьця чалавечых характараў. У кожнага з гэрояў аповесьці свой непаўторны ўнутраны сьвет, кожны раскрыты псыхалягічна па-іншаму, інакш».[277]

Дзея аповесьці ўвесь час разгортваецца на фоне лесу. Як трапна заўважыў успомнены кагадзе Аркадзь Марціновіч, «вобраз лесу, вобраз беларускай прыроды арганічна жыве ў ваповесьці, надае ёй своеасаблівы калярыт».[278]

Уся аповесьць — гэта наскрозь праўдзівы й хвалюючы паказ духовага сьвету выведзеных у ёй пэрсанажаў. І ў гэтым паказе чыста прыватнага й асабістага духовага іхнага жыцьця, зусім абыякавага да надзённых справаў савецкай рэчаіснасьці, якая, дарэчы, траха зусім не адчуваецца ў творы, і хаваецца тое новае й пазытыўнае, што ставіць гэтую аповесьць побач зь лепшымі творамі сучаснай беларускай прозы.

Вылучна на праблемах савецкага сучасьніка засярэджваецца ў сваіх творах пісьменьніца *Лідзія Арабей*. Ейная аповесьць «Экзамен», надрукаваная ў № 9 «Маладосьці» за 1963 год, а выдадзеная асобнай кніжкай у 1964 годзе, войстра праблемная й цікавая разгорнутымі ў ёй псыхалягічнымі канфліктамі між людзьмі, што гразнуць яшчэ ў мяшчанскім эгаізьме й прыстасавальніцтве, і людзьмі цьвёрдых маральных прынцыпаў.

У ваповесьці разгорнутыя два такія канфлікты. Адзін зь іх, зьвязаны з асобай маладога асьпіранта Рыгора Сіліцкага, становіць сабой

---

[276] Аркадзь Марціновіч. З глыбінь жыцьця. «П», № 6, 1965, б. 186.
[277] Серафім Андраюк. Паглыбленьне ў характарах. «М», № 12, 1965, б. 139.
[278] Аркадзь Марціновіч, тамсама.

галоўны сюжэтны стрыжэнь аповесьці. Сіліцкі падрыхтоўваецца да абароны кандыдацкай дысэртацыі «Шляхі павышэньня прадукцыйнасьці працы ў машынабудаваньні». Першы ягоны апанэнт Тарасэвіч, знайшоўшы, што дысэртацыя не на ўзроўні патрабаваньняў сучаснай эканамічнай навукі, радзіць шчыра Сіліцкаму адмовіцца ад абароны й грунтоўна перапрацаваць яе. Другі апанэнт Сьцяпан Рымар, што ў жыцьці кіруецца прынцыпам «сам жыві й іншым давай жыць», ідучы на кампраміс із сумленьнем, дае высокую ацэну дысэртацыі не за ейную вартасьць, але зь меркаваньняў, што Сіліцкі з удзячнасьці будзе забавязаны дапамагчы яму ў ягоных нясумленных махінацыях. Пасьля даўгіх хістаньняў і змаганьня із самым сабой, Сіліцкі, галоўна пад уплывам мужнай жонкі Галі, работніцы на заводзе аўтаматычных лініяў, публічна адмаўляецца ад абароны дысэртацыі. Прынцып чэснасьці й сумленнасьці ў навуцы перамагае.

Праблема ня новая ў беларускай літаратуры. Яшчэ Кандрат Крапіва ў васобе Гарлахвацкага ў камэдыі 1939 году «Хто сьмяецца апошнім» стварыў, праўда, у камічна-карыкатурным пляне, добры прататып Сьцяпана Рымара. Але ў Арабей гэты тып выйшаў зусім арыгінальна й жыцьцёва, ён паказвае, што Рымары-Гарлахвацкія не зьвяліся ў савецкім грамадзтве й сяньня.

Другі канфлікт, у ваповесьці пабочны, але ня менш важны ў жыцьці, разгортаецца вакол традыцыйнае праблемы «бацькоў і дзяцей». Галоўнай асобай ў гэтым канфлікце сын Сьцяпана й Веры Рымароў — Валодзя. Ён поўная супрацьлежнасьць бацькоў, які ў васьвятленьні пісьменьніцы становіць сабой ідэял гэтак званага новага камуністычнага грамадзтва. Вось як характарызуе яго аўтарка:

> Калі Валодзя скончыў дзесяць клясаў, ён вельмі хацеў паехаць на цаліну або ў Сібір на якое-небудзь будаўніцтва. Некалькі чалавек зь іх клясы паехалі на новабудоўлі. Але маці й тут загарадзіла яму дарогу . . .
>
> Ён ня мог даравацъ сабе, што яшчэ раз паслухаўся мацеры, калі, не паехаўшы ў Сібір, пайшоў не на завод, а ў кіраўніцтва, дзе бацька знайшоў яму месца празь нейкага знаёмага.[279]

Валодзя закахаўся ў старэйшую за сябе разьведзеную жанчыну зь дзіцем, работніцу на тым-жа заводзе аўтаматычных лініяў Тамару Шнітко. Не зважаючы на супраціў і стаўляныя бацькамі перашкоды, ён пакідае іх і жэніцца з Тамарай. Валодзя — ня гэтулькі тыповы прадстаўнік свайго пакаленьня, колькі жывая ілюстрацыя праводжанай аўтаркай ідэі. На аповесьці наагул моцна памсьцілася тэндэнцыя, хаця твор не пазбаўлены мастацкіх якасьцяў у галіне ўмелага будаваньня сюжэту й разгортаньня дзеі.

Слабей удалася Арабей надрукаваная ў ваднэй кніжцы з аповесьцяй «Экзамен» іншая ейная аповесьць — «Ларыса». Мэтай аповесьці — раскрыцьцё працэсу маральнага фармаваньня, выпрацоўкі грамадзянскай мужнасьці й прынцыповасьці ў сучаснай моладзі. Тут у яшчэ большай

---

[279] Лідзія Арабей. Экзамен. «М», № 9, 1963, б. 31.

ступені, чымся ў ваповесьці «Экзамен», памсьцілася на мастацкай праўдзе тэндэнцыя йсьці напярэймы партыйным дырэктывам у літаратуры.

Гэткую-ж службовую сьціраванасьць маюць і творы *Алеся Савіцкага,* у якіх пастаўленая згары ідэя падцягвае да сябе ў якасьці ілюстрацыйнага матар'ялу ўсе іншыя элемэнты твораў.

Найважнейшым творам Савіцкага ўважаецца раман «Жанчына», што выйшаў кніжным выданьнем у 1963 годзе, а перад гэтым яшчэ ў тым-жа самым годзе друкаваўся ў №№ 6 і 7 «Полымя». Галоўны гэрой раману Стэфа Шакун працуе апэратарам на Полацкім заводзе шкловалакна й адначасна вучыцца завочна ў інстытуце. Ува ўсіх сваіх паводзінах, думках і лятуценьнях яна ўвасабленьне ідэяльнай жанчыны-грамадзянкі. З думкай пра гэта, а не пра мастацкую праўду, аўтар надзяляе яе такімі якасьцямі, як культ працы на заводзе, які нярэдка выглядае паказной ілюстрацыяй ідэі, як нянавісьць да ўласьніцтва навет у межах дазволенага законам. Канфлікт паміж Стэфай і ейным мужам Міхасём, які прывёў да таго, што яны разыйшліся, паўстаў на грунце розных паглядаў на прыватную собскасьць: Міхась зьбіраецца будаваць собскую хату, а Стэфа й думаць пра гэта ня хоча. Навет савецкі крытык Сяргей Гусак ня мог не адзначыць, што «ў антыўласьніцкіх перакананьнях Стэфы многа завучанага, кніжнага, дакучліва дыдактычнага».[280]

Раман Алеся Савіцкага «Жанчына» вымоўны прыклад, сяньня ўжо анахранічны, ілюстрацыйнасьці й схэматычнасьці, а таму й падлякіраванай непраўдзівасьці ў паказе людзей і жыцьця, якія бытавалі ў літаратуры яшчэ ў 50-ых гадох.

У №№ 11 і 12 «Маладосьці» за 1965 год Алесь Савіцкі надрукаваў аповесьць «Самы высокі паверх» таксама із сучаснага работніцкага жыцьця. Аўтар паказвае брыгаду работнікаў, занятых пры будоўлі новага дому. Усе яны энтузіястыя сваёй працы, шчасьлівыя савецкімі абставінамі жыцьця, бадайшто зусім ня розьняцца ад інтэлігенцыі, а некаторыя навет вучацца завочна ў вышэйшых школах. I ў гэтай аповесьці, падобна як і ў рамане «Жанчына», людзі й іхныя паводзіны — ілюстрацыйны матар'ял для згары задуманай ідэі.

Ня лепш із зборнікам апавяданьняў Савіцкага ўжо на калгасныя тэмы «Белы гарлачык», што выйшаў у 1965 годзе. Бадайшто ўсе гэтыя апавяданьні можна схарактарызаваць словамі рэцэнзэнта зборніка Паўла Дзюбайлы: «Нажаль, часам у пісьменьніка псыхалягічны аналіз душэўнага стану гэрояўператвараецца ў штучнае псыхалягізаваньне вакол загадзя прыдуманай схэмы». [281]

Цікавым прыкладам супярэчнасьцяў між імкненьнем да творчае свабоды й выконваньнем службовае ролі для партыі — творчасьць *Алеся Пальчэўскага.*

Пальчэўскі пачаў пісаць і друкавацца яшчэ ў 1925 годзе й хутка стаўся ведамы, як аўтар апавяданьняў для дзяцей, гэтак і дарослых. Але ў

---

[280] Сяргей Гусак. «Карэньні» і вышыня. «М», № 4, 1964, б. 136.

[281] Павал Дзюбайла. Псыхалягізм сапраўдны і ўяўны. «ЛіМ», № 53, 2 ліпеня 1965.

30-ых гадох не абмінула й яго доля шмат якіх паэтаў і пісьменьнікаў, што сталіся ахвярамі сталінскага тэрору. Пісьменьнік быў арыштаваны й высланы, у сувязі з чым ягоная літаратурная дзейнасьць спынілася на даўгія гады. Але пасьля рэгабілітацыі ў 1955 годзе й звароту на Беларусь, ён аднавіў літаратурную дзейнасьць.

Пальчэўскі цікавы ўжо тым, што ён бадай першы ў беларускай мастацкай прозе закрануў праблему, якой у расейскай літаратуры прысьвяціў ведамую сваю аповесьць Аляксандар Салжаніцын «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» ў канцы 1962 году. А ўжо на самым пачатку 1963 году было надрукаванае апавяданьне Пальчэўскага «Мікітка». У вапавяданьні гутарка аб тым, як групу арыштаваных вязуць у закратаваным цягніку зь Менску кудысьці на ўсход. У групе знаходзіцца й малы хлопчыквучань Мікітка, які дзевяць месяцаў таму быў арыштаваны невядама зашто. Ён верыць, што едзе на волю ў родную вёску. Але ў Оршы даведваецца, што «Асобае Савешчаньне пры самым Наркоме Унутраных Справаў» засудзіла яго, як няпоўналетняга ўсяго на восем год канцэнтрацыйнага лягеру за «контррэвалюцыйную дзейнасьць».[282] У прыпісцы да апавяданьня аўтар паінфармаваў, што ў вапошнім часе ён працаваў над цыклем апвяданьняў «Зь недалёкага мінулага», у «васнову якіх легла перажытае й бачанае мною ў часы культу Сталіна».[283] Нажаль, за вынятакам апавяданьня «Мікітка», ніводзін з гэтых твораў Пальчэўскага так і не зьявіўся ў друку.

Затое ў гэным-жа часе — у двух апошніх нумарох «Маладосьці» за 1962 год зьявілася аповесьць Пальчэўскага «Жнівеньская раніца», перадрукаваная ў 1963 годзе ў ваднайменным зборніку ягоных парэгабілітацыйных твораў, якая мае ўжо зусім іншую палітычную сьціраванасьць. Тэмай аповесьці — перасяленьне беларускіх сялян у Сібір, іхнае жыцьцё й праца над асваеньнем сібірскіх аблогаў. Гэтая тэма разгортваецца паралельна ў двух розных адрэзках часу — перад Першай сусьветнай вайной і ў часе цяперашняй савецкай кампаніі за перасяленьне беларускіх сялян на цаліну. Аўтар паказвае, што калі ў гэным першым адрэзку часу беларускіх сялян гнала ў Сібір безьзямельле й малазямельле ў сябе дома, дык цяперака рвуцца яны туды з матываў чыста ідэйных. Гэтак калі ў 1954 годзе гэрой аповесьці Антон Дзямідчык наважыўся паехаць у Сібір на цаліну, дык ягоны дзед Даніла, што зьведаў Сібір яшчэ перад першай вайной, гаворыць:

> — А ты, унучак, едзь, едзь... За два-тры гады багацеем станеш. Аб дабры сваім знаць ня будзеш... Така-ая-та зямля!.. Така-ая-та раскоша!
>
> — Дзядуля, не за гэтым я еду туды. У нас другая ідэя... Ну, мэта, задача, такая, разумееце... Вы хацелі адзін забагацець, а мы для людзей будзем старацца.
>
> — І я, дзеля сяго дзеля, не для сябе аднаго стараўся, — пакрыўдзіўся Даніла. — Хацеў, унучак, каб і твой бацька, і твае дзядзькі, ды й ты сам потым мелі разам са мной хлеб і да хлеба.

---

[282] «ЛіМ», № 3, 8 студзеня 1963.
[283] Тамсама.

— Адным словам, аб сваёй радні дбалі, дзядуля, — палажыў на Данілава плячо руку Антон. — А мы для ўсіх людзей нашай дзяржавы старацца будзем. А можа, нават, і для ўсяго чалавецтва.[284]

Жыцьцё й праца беларускіх перасяленцаў у Сібіры паказаныя ў аповесьці ў выідэялізаваным ідылічным сьвятле. Яны ня могуць нацешыцца із свайго шчасьця, усе цяжкасьці й нястачы, зьвязаныя з уладжаньнем на новым месцы, яны пераносяць гэтак мужна й лёгка, усёроўна як у казцы. Усе пэрсанажы аповесьці пазбаўленыя індывідуальных рысаў, падобныя адзін да аднаго, зьяўляюцца ня рэальнымі людзьмі, але схэмамі дзеля ілюстрацыі згары пастаўленай ідэі.

Уся-ж аповесьць «Жніваньская раніца» ўспрыймаецца, як сьвядомая агітацыя за перасяленьне беларускае моладзі на цаліну, хаця агульна ведама, што ейны вываз на цаліну, ня кажучы ўжо аб вялікай нацыянальнай шкодзе, гэта ня ейнае асабістае шчасьце, а нядоля. Гэтым, хіба, можна выясьніць цікавую зьяву ў беларускай літаратуры, што бадай ніводзін зь беларускіх пісьменьнікаў, за выняткам Пальчэўскага, ня прысьвяціў аніводнага свайго твору дзеля апраўданьня гэтай перасяленскай палітыкі. Апрацаваньне-ж Пальчэўскім гэтай непапулярнай у нашай літаратуры тэмы — гэта яшчэ адзін довад, што, як гаварылася ў папярэднім разьдзеле, рэгабілітаваныя паэты й пісьменьнікі знаходзяцца пад большым кантролем і ціскам з боку партыйных дзейнікаў.

Найнавейшая аповесьць Пальчэўскага «Данеўцы — нашы знаёмыя», надрукаваная ў верасьнёўскім нумары «Маладосьці» за 1965 год і адразу-ж выдадзеная асобнай кніжкай, робіць ужо лепшае ўражаньне. Яна напісаная для дзяцей сярэдняга веку. У цікавай апавядальнай форме аўтар паказвае жыцьцё школьнае моладзі ў беларускай вёсцы, што ня толькі добра вучыцца, але й разьвівае ў сабе карысныя людзкія навыкі.

Цікавым і здольным пісьменьнікам малодшага пакаленьня, што, як і Пальчэўскі, піша для моладзі й для дарослых, выступае *Іван Грамовіч*. Першыя апавяданьні Грамовіча пачалі зьяўляюцца ў друку коратка перад вайной, але шырэй разгарнуў ён сваю творчую актыўнасьць, галоўна як аўтар апавяданьняў, у паваенныя 40-ыя й 50-ыя гады. У вапошнім пяцігодзьдзі ён ужо не належаў да асабліва плённых пісьменьнікаў, але тое, што выходзіла спад ягонага пяра, мае няштодзённыя мастацкія каштоўнасьці.

У 1964 годзе Грамовіч выдаў апошні свой зборнік апавяданьняў для дзяцей і моладзі «Сонца скрозь воблакі». Вось як іх характарызуе Алесь Макарэвіч: «Іван Грамовіч — празаік. Але яго больш правільна было-б назваць паэтам у прозе. Мяккі лірызм, паэтычнасьць, эмацыянальнасьць, рамантычная ўзьнёсласьць — гэтыя адметныя асаблівасьці твораў пісьменьніка яскрава праявіліся і ў яго новай кнізе «Сонца скрозь воблакі».[285]

Лепшымі апавяданьнямі зборніка, напісанымі ў вапошнім пяцігодзьдзі, трэба назваць «Садок насаджу», «Песьня ў бары», «Кавалачак хле-

---

[284] Алесь Пальчэўскі. Жніваньская раніца. Менск, 1963, б. 57.
[285] Алесь Макарэвіч. Падарожжа ў паэтычнае. «М», № 2, 1965, б. 140.

ба», «У людзі», «Як прыйшла вясна». Хоць усе яны з жыцьця дзяцей і падрастаючай моладзі ды для іх і пісаныя, але сваёй жыцьцёвай праўдай і чульлівасьцяй хвалююць і дарослых.

*

Падзеі апошняе вайны й партызанскага руху ў Беларусі, не зважаючы на дваццацігадовую даўнасьць, ня перасталі яшчэ й сяньня быць галоўнымі тэмамі твораў для некаторых пісьменьнікаў. А многія іншыя пісьменьнікі, распрацоўваючы ў васноўным тэмы або даваеннае мінуўшчыны, або паваеннае й сяньняшняе сучаснасьці, некаторыя свае творы прысьвячаюць таксама падзеям апошняе вайны. І гэта зусім нармальна, бо вайна прынесла гэтулькі зьнішчэньняў Беларусі і ў людзях і ў матарыяльных каштоўнасьцях, што ейныя жахі яшчэ ня могуць успрыймацца, як адно факты й падзеі гісторыі.

Дасьледавальнік ваеннае тэматыкі ў беларускай мастацкай прозе Павал Дзюбайла гэтак характарызуе творы пра вайну канца 40-ых і 50-ых гадоў:

> Вядома, што ў першае пасьляваеннае дзесяцігодзьдзе пад уплывам культу асобы ў многіх творах аб вайне выяўлялася аднабаковасьць у падыходзе да праўды жыцьця, няўвага да рэальнай праўды чалавечых перажываньняў на фроньце, адчувалася голая рытарычнасьць і публіцыстычнасьць, саладжавая ўзьнёсласьць стылю, наіўная рамантызацыя падзеяў...
>
> Пісьменьнікі, як правіла, адлюстроўвалі толькі гэраічную праўду вайны, пазьбягаючы драматычнай і трагічнай яе праўды.[286]

Такія рэпрэзэнтацыйныя творы беларускай літаратуры гэнага паваеннага дзесяцігодзьдзя, як раманы Івана Шамякіна «Глыбокая плынь» (1948), Міколы Ткачова «Згуртаванасьць» (1950), Івана Мележа «Менскі напрамак» (1952), Аляксея Кулакоўскага «Расстаемся ненадоўга» (1954), а так-жа чатырохтомны раман-эпапэя Міхася Лынькова «Векапомныя дні» (1951—1958) ды цэлы сьцяг аповесьцяў і апавяданьняў вызначаліся такім выідэялізаваным і супэргэраічным паказам ваенных падзеяў і людзей. І хоць ад напісаньня гэтых твораў мінула ўсяго каля дзясятку год, яны ўжо ня могуць хваляваць чытача, а ўспрыймаюцца, як памяткі мінулага літаратурна-гістарычнага пэрыяду, што ўжо належыць да гісторыі.

Пра сучасныя творы на ваенныя тэмы Дзюбайла піша гэтак: «Для літаратуры аб вайне апошніх год характэрная тэндэнцыя псыхалягічнай «напоўненасьці» твораў, паглыбленай драматызацыі, паказу ўсёй праўды вайны».[287]

Гэтыя аснаўныя розьніцы між ранейшымі й пазьнейшымі творамі пра вайну ў прынцыпе правільныя, а межавая лінія між імі праходзіць якраз у часе на пераломе 50-ых і 60-ых гадоў. Пры чым, як звычайна бывае ў гісторыі, паасобныя зьявы абедзьвюх плыняў яшчэ нейкі час

[286] П. К. Дзюбайла. Беларускі раман аб Вялікай Айчыннай вайне. Менск, 1964, б. 128.
[287] Тамсама, б. 129.

выступаюць па абодвых бакох гэтае межавое лініі, што й падчыркнуў той-жа Дзюбайла.

Гэтак ужо ў самым канцыі 50-ых гадоў Іван Шамякін у цыклі сваіх чатырох аповесьцяў «Трывожнае шчасьце», асабліва ў трэйцяй зь іх — «Агоны і сьнег» (1959), паводля словаў Дзюбайлы, «у васноўным пазьбягае хвальшывай рыторыкі, прымітыўнай ілюстрацыйнасьці, для яго аповесьцяў характэрныя войстрыя сытуацыі, імклівая дынаміка разьвіцьця падзеяў, пастаянная напружанасьць і драматызм апавяданьня»,[288] гэта значыць, зьявы, што сталіся характэрнымі для твораў першай палавіны 60-ых гадоў, перш-наперш для аповесьцяў Васіля Быкава. І наадварот, спадчына дагматычнага сацрэалізму шмат даўжэй і ў значна большай ступені мсьцілася на творах пра вайну й гэнае першае палавіны 60-ых гадоў, чымся на творах зь іншымі тэмамі. Гэта, відаць, таму, што тэмы вайны самі ў сабе нагэтулькі былі палітычна войстрымі, а іхнае аднабаковае асэнсоўваньне сталася абавязваючай нормай, што распрацоўваць іх інакш, як паводля ўзаконенага шаблёну, даўжэйшы час было цяжка.

Гэты шаблён найперш і найбольш праявіўся ў творах пра вайну такога здольнага й дазнанага пісьменьніка, як *Аляксей Кулакоўскі.*

У 1955 годзе Кулакоўскі выдаў раман «Расстаемся ненадоўга», калі яшчэ йнакш, як з тагачасных ідэйных і мастацкіх пазыцыяў, пісьменьнік ня мог адлюстроўваць падзеяў вайны. Пазьней аказалася, што гэты раман быў адно першай часткай дылёгіі, другая частка якой — «Сустрэчы на ростанях» зьявілася ў 1961 і 1962 гадох у «Полымі», а ў 1964 годзе выйшла асобнай кніжкай.

Галоўныя пэрсанажы раману «Сустрэчы на ростанях» камандзер Андрэй Сакольны, партызанская санітарка Марыя Корнева й камісар Мікіта Труцікаў бязьмежна адданыя камуністычнай ідэі й савецкай уладзе, зусім не зважаючы на небясьпеку, рвуцца ў бой і наагул выконваюць звышгэройскія вычыны, жыцьцё асабістае для іх або бадайшто ня йснуе, або строга падпарадкаванае тэй-жа ідэі й вайсковаму абавязку. Падобнымі якасьцямі надзеленыя ў рамане й усе іншыя станоўчыя гэроі, нават зусім эпізадычныя й бязыменныя. Вось апошнія словы жаўнера штрафной роты, які, будучы цяжка раненым, памірае:

> — Пакідаю вас назаўсёды. Не старайцеся ратаваць, бо ўсё-роўна... Не шкадую, што паміраю, і ня крыўдую... Нават на тых, што паслалі мяне ў штрафную роту... Ня ведаю толькі, за што мяне паслалі... Нічога кепскага ня маю й ня меў на душы...[289]

Такая ўсепрабачальнасьць у дачыненьні да тых, што бязь ніякай віны паслалі салдата ў штрафную роту й пасярэдня спрычыніліся да ягонае сьмерці, вычуваецца штучнай і няжыцьцёвай. Ня меншае пачуцьцё нясмаку выклікае фанатычны піетызм, які гэроямі раману аддаецца партыйным і камсамольскім білетам. Пра гэтыя білеты кажацца ў некалькіх месцах твору, але найбольш характэрныя разважаньні на гэтую тэму Андрэя Сакольнага:

---

[288] Тамсама, б. 139.

[289] Аляксей Кулакоўскі. Сустрэчы на ростанях. «П», № 4, 1962, б. 51.

Андрэй пакуль што хавае Ванеў камсамольскі білет пры сабе, каб перадаць яго Мікіту Мінавічу. У таго будуць білеты ўжо двух сыноў. Білет самага малодшага, Лёні, бацька закапаў недзе ў родных мясьцінах разам са сваім партыйным білетам. . .

Можна лепш і самому разьвітацца тут з гэтымі дарагімі сэрцу дакумэнтамі: Ваневым камсамольскім ды сваім партыйным, атрыманым нядаўна проста на баявой пазыцыі, пад стракатаньне кулямётаў і грукат гармат... З самім можа здарыцца хоць і вельмі нечаканае, непрадбачанае, а партыйныя дакумэнты не павінны трапіць у рукі ворага».[290]

Тэндэнцыя да гэраізаваньня падзеяў і людзей наўсуперак жыцьцёвай і мастацкай праўдзе адмоўна адбілася й на падчыркнутых савецкай крытыкай прыгодніцкіх мамэнтах раману, асабліва ў паводзінах Марыі Корневай, калі яна, вярнуўшыся на самалоце з-за фронту, шукае брыгаду Сакольнага.[291] Дзеля большага заакцэнтаваньня гэраічных рысаў у станоўчых гэрояў, Кулакоўскі, мэтадам кантрасту, супрацьстаўляе ім пэрсанажы адмоўныя, ня менш згушчанымі ў гэтай адмоўнасьці хварбамі. Гэтак у рамане начальнікам паліцыі выступае праваслаўны сьвятар, які расстрэльвае собскаручна нявінных людзей з малітваю на вуснах. У даступнай людзкой памяці рэчаіснасьці прататыпу для такога пэрсанажу аўтар знайсьці хіба-ж ня мог. Ня зьначваюць агульнага скрайнага выідэялізаванага вобразу і некаторыя пэрсанажы, як Кандрат Ладуцька, камбат Дзюбка, малодшы лейтэнант Чумак ды некаторыя іншыя эпізадычныя й пабочныя пэрсанажы, у якіх пісьменьнік намагаўся падчыркнуць, побач з дадатнымі, і адмоўныя рысы, характэрныя для людзей сталінаўскага тыпу.

У гэткім-жа звышгэраічным пляне напісаная й аповесьць Кулакоўскага «Твой шлях перад табою», якая была спачатку надрукаваная ў № 9 «Полымя» за 1964 год, а ў 1965 годзе выйшла ў ягоным зборніку «Першае чаканьне». У ваповесьці мова аб тым, як славацкі камуністы Людвік Шэўчык, будучы змабілізаным у саюзную зь Немцамі славацкую армію, перакінутую на Беларусь дзеля змаганьня з партызанамі, сам пераходзіць да партызанаў. У гэтым пераходзе дапамагае яму беларуская падпольшчыца Жэня, муж якой загінуў на фроньце, пакінуўшы яе з дваймі дзецьмі. Гісторыя, здавалася-б, як на гэныя часы зусім будзённая, навет, як паведамляе аўтар, аўтэнтычная, узятая ім з партызанскіх архіваў. Але ўся гэтая гісторыя, усе цяжкасьці партызанскага жыцьця й змаганьня пададзеныя ў такім саладжавым ідылічным сьвятле, што губляе яна ўсякія рысы рэальнасьці.

Куды большыя, а нярэдка й высокія мастацкія дасягненьні маюць творы Кулакоўскага, у якіх ён адлюстроўвае сучасную яму рэчаіснасьць. Увага пісьменьніка апошнімі гадамі засярэджвалася галоўна на тэмах пра разбудову калійнага камбінату Салігорску й аднайменнага гораду, адкуль паходзіць і сам пісьменьнік. Пра камбінат, новы горад і ягоных людзей Кулакоўскі надрукаваў пару аповесьцяў, шмат апавяданьняў і нарысаў, лепшыя зь якіх пасьля увайшлі ў успомнены ягоны зборнік «Пер-

---

[290] Аляксей Кулакоўскі, «П», № 6, 1961, б. 11.
[291] Н. Пашкевіч. На шырокіх хвалях жыцьця. Менск, 1965, б. 312.

шае чаканьне». Спасярод іх вылучаецца шырокім раскрыцьцём духовага сьвету беларускіх сялян, цяперака землябскіх работнікаў прыгараднага саўгасу, аповесьць «Тры зоркі». Але й на гэтай аповесьці памсьцілася тэндэнцыя ствараньня залішня ідылічнай атмасфэры саўгаснага жыцьця.

Але вось у студзеньскім нумары «Полымя» за 1966 год зьявілася новая аповесьць Кулакоўскага «Расьце мята пад акном». У ёй Кулакоўскі ўжо поўнасьцяй вызваліўся ад тэндэнцыі прыхарошваньня савецкай рэчаіснасьці, а глянуў на яе вачыма рэалістычнага пісьменьніка.

Дзея аповесьці «Расьце мята пад акном» разгортаецца таксама ў Салігорску, які выступае тут пад назовам Калійск. Але сам горад і калійны камбінат становяць й ваповесьці адно вонкавы фон апавяданьня, а галоўнай тэмай, што разраслася тут да разьмеру сацыяльнае, маральнае й навет палітычнае праблемы — людзі, што над разбудоваю гэтага камбінату й гораду працуюць. Хоць аўтар выразна пра гэта ня кажа, але выведзеныя ў ваповесьці пэрсанажы няйнакш літаратурныя патрэты гэтак званых сяньня будаўнікоў камунізму, а таму іхныя ідэйна-маральныя якасьці павінны былі-б адрозьніваць іх ад людзей папярэдняга пакаленьня, што яшчэ ня вызбыліся некаторых перажыткаў капіталістычнага сьветапагляду. Сам аўтар беспасярэдня не дае адказу на пытаньне, ці выведзеныя ў ваповесьці пэрсанажы ўзапраўды чымсьці розьняцца ад пакаленьня папярэдняга. Адказ на гэтае пытаньне выплывае із самой лёгікі падзеяў, а галоўна з падтэксту твору.

У ваповесьці выступаюць два галоўныя й з гледзішча на сваю ролю ў творы зусім раўнавартасныя пэрсанажы: галоўны інжынер будаўніцтва Леанід Высоцкі й культурная працаўніца-масавік Ева Дым. Абодва пэрсанажы сваймі ідэйна-маральнымі якасьцямі вырастаюць над сваім асяродзьдзем, як людзі, якіх з поўным правам можна назваць ідэяльнымі. Характэрна, што абодва былі нявіннымі ахвярамі сталінаўскага тэрору. Але ўзноў-жа характэрна й для сучаснай беларускай літаратуры бадайшто тыпова, што аўтар прыпамінае часы сталінаўскага тэрору ня дзеля самога паказу іхнай жахлівасьці, а адно дзеля характарыстыкі Леаніда й Евы, як людзей цьвёрдага характару й непахіснае волі, якіх не патрапіла зьвіхнуць асабістае гора. І цяперака яны сумленна й аддана працуюць для грамадзтва.

Але асяродзьдзе, сярод якога яны жывуць і працуюць, зусім іншае. І старшыня пабудовы Адам Запрагаеў, і былы галоўны інжынер трэсту Істужкін, і лекар Вікенці Панурын, і былы намесьнік міністра будаўніцтва, а цяперака рэспубліканскі дэпутат і кіраўнік трэсту Яўмен Крывашып, і некаторыя іншыя адказныя кіраўнікі — гэта маладушныя эгаістыя, людзі бязь ніякае ідэі, а іхныя дачыненьні да ўзятых на сябе абавязкаў тыпова бюракратычна-фармалістычныя «Тут бяздушна й коснасьць, самыя агідныя!»[292] — гаворыць пра іх у парыве гневу Высоцкі. Навет былы партызанскі камандзер, а цяперака сакратар партыйнай арганізацыі й шчыры прыяцель Высоцкага Мячаслаў Жамчужын, чалавек на-

[292] Аляксей Кулакоўскі. Расьце мята пад акном. «П», № 1, 1966, б. 95.

агул дадатны, у крытычныя хвіліны паддаецца маладушнасьці свайго асяродзьдзя. Калі заслужаны, й незаменны масавік Ева Дым несправядліва была пакінутая бяз працы, ён не патрапіў здабыцца на патрэбную станоўчасьць, каб аказаць ёй дапамогу. А калі судзілі Высоцкага за супрацоўніцтва з акупантам, ён адзіны тады жывы сьветка, які ведаў, што гэтае супрацоўніцтва было па заданьню партыі, струсіў і не здабыўся, каб выступіць у ягонай абароне. Праўда, дзея аповесьці канчаецца памысна. Усе перашкоды, што стаялі перад Высоцкім і Евай, пераможаныя, яны ўваходзяць у шчасьлівае сужэнства й перад імі адкрываюцца сонечныя пэрспэктывы. Але гэтая перамога дасягаецца адно дзякуючы асабістай настойлівасьці Высоцкага й ягонаму высокаму аўтарытэту ды наўсуперак гэнай удушлівай бюракратычнай атмасфэры, што пануе ў Калійску. Гэная атмасфэра застаецца й надалей.

Як ведама, у свой час Кулакоўскі быў моцна атакаваны за апублікаваную ў 1958 годзе аповесьць «Дабрасельцы». Яго абвінавацілі ў тым, што ў гэнай аповесьці ён быццам згусьціў чорныя хварбы ў паказе адмоўных бакоў калгаснага жыцьця. Відаць, навучаны горкім дазнаньнем, у ваповесьці «Расьце мята пад акном», ён ня толькі ня ўвыпуклівае адмоўных бакоў савецкага жыцьця, але выразна прытушоўвае іх, сьпіхае на задні плян, як зьявы, што трапляюцца быццам між іншым. Гэтак між іншым успамінаецца, што прыгарадная вёска Гулаеўка, у якой жывуць пераважна работнікі прадпрыемства, яшчэ й цяперака тоне ў балоце й цемры, бо нікому ня прыйшло ў галаву правесьці электрычнае сьвятло. Каб зарплату цяжка працуючых падсобных работнікаў дацягнуць прынамся да мізэрнага мінімуму, прыходзіцца «ісьці на розныя нацяжкі й прыпіскі». У той час, калі кіраўнікі камбінату жывуць у выгодных катэджах, а пад Менскам маюць і собскія дачы, адзіны культурны асяродак на камбінаце — бібліятэка знаходзіцца ў зусім запушчаным і нездаровым памешканьні. Паставіўшы перад сабой заданьне — аб'ектыўна й рэалістычна адлюстраваць сучасныя сацыяльныя дачыненьні й людзей, што надаюць агульны тон грамадзкаму жыцьцю, пісьменьнік ня мог абыйсьці гэтых адмоўных бакоў. І як ён не стараўся іх прытушоўваць ды супрацьстаўляць бяздушнаму эгаістычнаму асяродзьдзю людзей крыштальнае чысьціні — Леаніда Высоцкага й Еву Дым, усё-ж сучасная савецкая рэчаіснасьць выглядае ў ваповесьці вельмі-ж незайздроснай і няпрываблівай.

Апрача рэалістычнага адлюстраваньня рэчаіснасьці, аповесьць не пазбаўленая й іншых мастацкіх якасьцяў. Калі асоба Леаніда Высоцкага выйшла трохі схэматычнай, дык Ева Дым надзеленая глыбока праўдзівымі рысамі жывога чалавека, прывабнага сваім нутраным хараством. Добра абдуманы сюжэт аповесьці й гэтак удала скампанаваны, што чытаецца яна з напружанай увагай і хваляваньнем. Рупліва дагляданая маткай Высоцкага пахучая мята пад акном, ад якой і назоў аповесьці, зусім пераконлівы сымбаль шляхотных людзкіх пачуцьцяў. Наагул-жа, аповесьць «Расьце мята пад акном» — бясспрэчнае творчае дасягненьне Аляксея Кулакоўскага.

У тым-жа 1962 годзе, калі на бачынах «Полымя» канчаўся друкавацца раман Аляксея Кулакоўскага «Сустрэчы на ростанях», у нумарох 7—10 «Маладосьці» быў зьмешчаны раман *Івана Навуменкі* «Сасна пры да-

розе» й у тым-жа годзе быў выдадзены асобнай кніжкай. Але не зважаючы на тое, што абодвы творы нарадзіліся бадайшто адначасова, яны зусім пайнакшаму адлюстроўваюць вайну, людзей і наагул тагачасную савецкую рэчаіснасьць. Пасьля аповесьцяў Івана Шамякіна канца 50-ых гадоў з цыклю «Трывожнае шчасьце», «Сасна пры дарозе» Навуменкі першы вялікі твор пра вайну, дакладней пра партызанскі рух у часе вайны, у якім зробленая ўдалая спроба сказаць шчырую праўду пра людзей і падзеі гэнага часу, як іх бачыў і перажываў сам пісьменьнік у сваёй маладосьці. Як можна бачыць з аўтабіяграфіі пісьменьніка, надрукаванай у зборніку «Пацьдзесят чатыры дарогі», у рамане «Сасна пры дарозе», перадусім у васобе ейнага галоўнага гэроя Міці Птаха цімала аўтабіяграфічных фактаў з маладосьці Навуменкі.

Дзея раману разгортаецца ў палескім мястэчку Бацькавічы ў першым годзе вайны. Хутка пасьля прыходу Немцаў у мястэчку саматугам творыцца падпольная група, у якую ўліваецца галоўна моладзь, учарашнія вучні старэйшых клясаў мясцовай сярэдняй школы, у іхным ліку й галоўны гэрой раману Міця Птах. Як трапна заўважыў крытык Нічыпар Пашкевіч, «Міця Птах — юнак дапытлівага роздуму, душэўнай чысьціні і многіх іншых прывабных маральных якасьцяў, а ўвогуле натура вельмі характэрная для пакаленьня, якому на рубяжы вайны было шаснаццаць-сямнаццаць».[293] Вобраз Міці, як і бадайшто ўсіх важнейшых пэрсанажаў, падае аўтар не гатовым і духова складзеным, а ў працэсе фармаваньня й дасьпяваньня. Спачатку мы яго бачым, як яго непакояць сьцьвярджаныя ім самім супярэчнасьці між савецкай прапагандай і непадобнай да яе рэчаіснасьцяй. Важная й цікавая з гэтага гледзішча аўтарская інфармацыя ў самым пачатку раману:

> Міця хадзіў у школу напрасткі, сьцяжынкай, пракладзенай проста па калгасным полі. На полі гэтым восеньню гніла незасьціртаваная салома, яе расьцягвалі, хто хацеў, сям-там бульба аставалася нявыкапанай да марозаў. Але ў газэтах пісалі пра ўсесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку ў Маскве, пра посьпехі калгасаў, і ён, бачачы на ўласныя вочы непарадак, ня верыў у яго, лічыў дробязьзю, ня вартай таго, каб пра гэта думаць. Для яго не існавала сярэдзіны паміж вялікім і малым, зьявы й рэчы ў яго разуменьні мелі выразную і толькі адзіную назву.
>
> Калі ішла вайна зь белафінамі, Міця на нейкі час разгубіўся. Двое ці трое раненых местачкоўцаў прыехалі са шпіталяў, яны расказвалі зусім ня так, як пра баі пісалася ў газэтах. Гэта бянтэжыла, злавала. Зрэшты, нашы авалодалі Выбаргам, у клюбе паказвалі фільм «Лінія Манэргайма», і Міця супакоіўся. Усё стала на сваё месца.[294]

Гэтак прышчэпліванае школай і штодзённай прапагандай савецкае выхаваньне рабіла сваё, і Міця стараўся ў савецкай рэчаіснасьці бачыць толькі добрае, закрываючы вочы на благое. Тым ня менш, не ягоны савецкі патрыятызм, які ў такога юнака з дапытлівым і аналітычным розумам і чулай душой ня мог быць асабліва глыбокі, а юнацкая рамантыка спачатку кіравала ім, калі ён улучыўся ў падпольную работу, каб адно

[293] Н. Пашкевіч, тамсама, б. 258.
[294] Іван Навуменка. Сасна пры дарозе. «М», № 7, 1962, б. 27.

пазьней, пад узьдзеяньнем бачаных навокал і дазнаных на сабе самім нялюдзкіх зьверстваў гітлераўцаў, стацца наважаным змагаром. Іншы крытык Павал Дзюбайла трапна адзначыў гэтую эвалюцыю Міці, кажучы, што «ад разгубленасьці й роспачы праз страшныя выпрабаваньні гэрой ішоў да ўсьведамленьня трагічнай праўды вайны, сутнасьці палітыкі фашыстых, ад дзіцячай нявопытнасьці ў падпольнай рабоце, гульні ў вайну да сапраўднай барацьбы супраць ворага».[295]

Калі лепшая частка моладзі рвалася да змаганьня з ворагам інтуіцыйна, у моц юнацкай рамантыкі, дык старэйшыя жыхары мястэчка, а сярод іх перш-наперш Міцеў бацька Сьцяпан Птах, чыгуначны будачнік, цьвяроза глядзелі на вайну й стараліся, каб абы выйсьці жывымі й цэлымі зь ейнага пекла. Заўважыўшы, што Міця тайком ад яго майструе ў хляве прымітыўную міну, каб узарваць чыгуначную рэйку, бацька злосна яго дакарае. Ягоная размова зь Міцем нязвычайна характэрная для настрояў гэнага часу, што ня лішнім будзе прывесьці яе гэтта:

> — Праз такіх, як ты, народ пакутуе. Не чапай ліха і яно цябе не зачэпіць. Але вам-жа не сядзіцца, сьвярбіць. Калі фронту ня ўтрымалі, то гэтым не паможаш, што стрэліш у Немца. Ты яго аднаго, а ён тваіх дзесяць. У яго-ж зброя, улада.
>
> — А мала Немцы зьдзекуюцца зь людзей? — крычыць Міця. — Мала схапілі, расстралялі?
>
> — Дык ты што — укажаш ім? Яны-ж твайго спросу ня пыталіся, калі пачыналі вайну. Іх сіла — іх і права. Беражонага й Бог беражэ. Будзеш сядзець ціха, дык, можа, і міне бяда.[296]

Але зьверствы акупанта наапошку ськіроўваюць і разважлівага Сьцяпана Птаха на дарогу актыўнага змаганьня. Раман канчаецца вымоўнай сцэнай, калі Сьцяпан памагае партызанам разьвінчваць рэйку на чыгунцы, якую ён дагэтуль сумленна вартаваў. І вось у гэтым аб'ектыўным паказе рэчаіснасьці, ня гэраічнай, але драматычнай і трагічнай праўды вайны, тое новае й сучаснае, што знайшло шырокае адлюстраваньне ў рамане «Сасна пры дарозе».

Але новым і сучасным у рамане яшчэ й тое, што паказ суровых падзеяў ваеннага часу не падпарадкоўвае сабе ўсіх чыста элемэнтаў твору, як гэта было ў раманах 50-ых гадоў і ў «Сустрэчах на ростанях» Кулакоўскага. Навуменка патрапіў надзяліць гэрояў раману багатымі індывідуальнымі рысамі й чыста асабістымі перажываньнямі, паказаўшы іх ня схэматычнымі ілюстрацыямі ідэі, а людзьмі жывымі й праўдзівымі. Падзеі раману пераважна падаюцца праз суб'ектыўнае й эмацыянальна вострае ўспрыйманьне Міці, а тым самым і самога аўтара. «Пераважна з вобразам Міці зьвязана ў рамане і ўсё багацьце хварбаў роднай прыроды, якую Навуменка ўмее апісаць пранікнёна, настраёва і ў цесным дачыненьні да духоўнага сьвету пэрсанажаў»,[297] — сьцьвярджае Н. Пашкевіч. Праз увесь раман праходзіць сымбалічны вобраз сасны, які ўвасабляе ідэю кроўнай любасьці й зьвязанесьці людзей вёскі зь іхнай роднай зямлёй. Глы-

---

[295] П. Дзюбайла, тамсама, б. 147.
[296] Іван Навуменка. «М», № 9, 1962, б. 41.
[297] Н. Пашкевіч, тамсама, б. 259.

бака хвалюе гісторыя ўзвышанага каханьня Міці й Сюзаны, у паказе якой найлепш раскрываецца аўтарава ўвага да духовага сьвету маладога пакаленьня.

«Сасна пры дарозе» пакульшто адзіны шырокамаштабны твор Навуменкі, якім ён зарэкамандаваў сябе здольным і ўніклівым пісьменьнікам «лірыка-рамантычнага складу», як назваў яго той-жа Н. Пашкевіч.[298] Апрача гэтага раману, Навуменка аўтар цэлага сьцягу апавяданьняў як пра часы вайны, гэтак і сучаснае жыцьцё калгаснага сялянства. А ў 1964 годзе выйшла ягоная цікавая аповесьць «Бульба» з жыцьця беларускай студэнцкай моладзі.

У ваповесьці мова аб тым, як група студэнтаў філялягічнага факультэту аднаго пэдагагічнага інстытут едзе ў вёску Князева Сяло адбываць у васьмігодцы практыку пазакляснай пэдагагічнай работы й, у парадку гэтак званай «вытворчай нагрузкі», памагаць падшэфнаму калгасу капаць бульбу. Жвава й праўдзіва паказанае ў ваповесьці бесклапотнае прыватнае жыцьцё студэнтаў у інтэрнаце, іхная дружба й каханьне, а таксама й сур'ёзныя разважаньні аб жыцьці й іхным месцы ў ім. Найбольш увагі прысьвяціў аўтар Веньяміну Сыраежку, якога можна ўважаць галоўным гэроем аповесьці. Ён паходзіць з палескай вёскі, ягонае «дзяцінства было галаднаватае, бесаногае, але вясёлае»,[299] цяперака-ж, будучы студэнтам, глыбей і паважней, чымся ягоныя сябры, разважае аб жыцьці, прабуе пісаць вершы і захапляецца ўсім прыгожым і ўзвышаным. Характэрна тое, што студэнты зусім далёкія ад справаў надзённае палітыкі й праблемаў ідэялягічнага характару. У вадлюстраваньні студэнцкага жыцьця й вобразаў саміх студэнтаў шмат лірызму, пачуцьцёвай беспасярэднясьці й псыхалягічнай тонкасьці.

Тэмы вайны й партызанскага змаганьня ў Беларусі распрацоўвае ў сваіх творах *Аляксей Карпюк,* а ягоная аповесьць «Пушчанская Адысэя» належыць да лепшых твораў гэтага жанру апошняга пяцігодзьдзя. Аповесьць гэтая наскрозь аўтабіяграфічная, а ейны галоўны гэрой Алёша Кучынскі — гэта сам аўтар. Кучынскі за сувязь з партызанамі быў Немцамі арыштаваны й вывезены ў лягер сьмерці ў Штутгофе, адкуль шчасьліва ўцёк, дабраўся ў сваю родную вёску ў Ваўкавышчыне, уліўся ў партызанскае змаганьне, зрабіў цэлы сьцяг узапраўды гэраічных вычынаў, што пад канец стаўся камандзерам партызанскага злучэньня імя Кастуся Каліноўскага.

За найважнейшую якасьць аповесьці трэба ўважаць шчырасьць і праўдзівасьць у вадлюстраваньні партызанскага руху ў Беларусі. Пісьменьнік у васобе капітана дэсантнай групы Чыгрова добра паказаў усеагульную падазронасьць, недавер і пагарду да чалавека, чым якраз вызначалася ўдушлівая атмасфэра часоў сталінізму. Алёша Кучынскі, каб зьвярнуць на сябе ўвагу ў пачаткавай фазе свайго партызанства, узрывае чыгуначную стрэлку. Гэтым ня прычыніў ён Немцам бадайшто ніякай шкоды, затое пацярпела мясцовае жыхарства, бо Немцы арыштавалі й расстралялі трох сялян, што былі пастаўленыя вартаваць чы-

---

298 Тамсама, б. 257.
299 Іван Навуменка. Бульба. Менск, 1964, б. 19.

гунку. Гэты бяздумны паступак не пакідае мучыць сумленьня Кучынскага аж да канца аповесьці.

Але найбольш вымоўны фінал «Пушчанскай Адысэі». Мясцовасьць, у якой дзеіў Алёша із сваім злучэньнем імя Кастуся Каліноўскага, займае савецкая армія. Перад заслужаным партызанскім камандзерам і мучанікам за савецкую справу Кучынскім, здавалася-б, цяперака адкрытыя ўсе дарогі. Тымчасам у ваповесьці чытаем:

> Яшчэ ў Менску, у штабе, вэрбавалі партызан для адной работы. Трэба было быць кемлівым, ведаць мовы. Работа здавалася мне рамантычнай і вартай таго, каб рызыкаваць. Пайшоў прасіцца. Пачынаю апавядаць біяграфію, даходжу да Штутгофу — і мяне адхіляюць. Выяўляецца, я — з плямай, а маё прабываньне ў лягеры сьмерці і ўцёкі зь яго не заслуга, а страшная віна![300]

«Тое самае спаткала многіх», — інфармуе далей аўтар і ўдакладняе, што адхілілі ад гэнага заданьня й іншага заслужанага партызана за тое, што бацькі ягоныя, як цяперака выявілася, былі ў 1937 годзе арыштаваныя. Алёша Кучынскі, не знайшоўшы сабе пасьля «вызваленьня» месца ў жыцьці, дабраахвотна далучаецца да тых савецкіх воінаў, што йдуць здабываць Бэрлін. Але далучаецца ён не з матываў савецкага патрыятызму, але з пачуцьця горкага расчараваньня й роспачы.

Празаік *Алесь Асіпенка* замацаваў сваё месца ў беларускай літаратуры, як аўтар аповесьцяў на тэмы савецкае сучаснасьці, што ў 1960 годзе выйшлі ў зборніку «Подых кветак і працы». Ягоная аповесьць на сучасную калгасную тэму «Абжыты кут», што спачатку друкавалася ў №№ 11 і 12 «Маладосьці» за 1963 год, а ў 1964 годзе выйшла асобнай кніжкай, вырозьнівалася глыбокім аналізам характараў выведзеных у ёй пэрсанажаў і імкненьнем пісьменьніка быць у згодзе з аб'ектыўнай праўдай у вадлюстроўваньні савецкай рэчаіснасьці.

Абедзьве гэтыя рысы найбольш поўна выявіліся ў ягоным рамане «Вогненны азімут», што друкаваўся ў №№ 2—5 «Маладосьці» ў 1965 годзе. Тэма раману — падпольны рух і партызанскае змаганьне падчас апошняе вайны ў вадным з раёнаў роднага пісьменьніку Падзьвіньня.

Ужо ў самым пачатку дзеі раману, калі савецкая армія хаатычна ўцякала на ўсход пад бліскавічным ударам Немцаў, пісьменьнік вельмі рэалістычна патрапіў адтварыць трывожную й панікёрскую атмасфэру гэнага часу. Ня толькі людзі звычайныя, але й дазнаныя савецкія воіны амаль у кажным незнаёмым чалавеку бачылі тады шпіёна або нямецкага дэсантніка, а няўдачы савецкае арміі прыпісвалі здрадзе ейных камандзераў. «Сам на свае вушы чуў, што камандуючага нашай акругі за здраду расстралялі»,[301] — перадае падхопленую чутку акружэнец Грышка Саханчук.

Ня ў прыклад шмат якім ранейшым творам на партызанскія тэмы, раман «Вогненны азімут» адлюстроўвае зародкі й разьвіцьцё партызанскага руху ў Беларусі зусім згодна зь гістарычнай праўдай. Гэты рух

---

[300] Аляксей Карпюк. Пушчанская Адысэя. Менск, 1964, б. 370.
[301] Алесь Асіпенка. Вогненны азімут. «М», № 3, 1965, б. 17.

зусім ня быў стыхійным патрыятычным уздымам беларускага народу, як камэнтуе яго афіцыйная савецкая прапаганда, наадварот, гэта быў рух, арганізаваны й кіраваны партыйнымі органамі пры больш або менш пасыўным становішчы мясцовага жыхарства. У рамане паказаныя два галоўныя вогнішчы, у якіх зарадзілася падпольная й партызанская акцыя. Адным зь іх была адмыслова пакінутая ў тылу праціўніка група камуністычных актывістых — старшыня райвыканкому Галай, загадчык раяна Іван Тышкевіч, начальнік міліцыі Валенда, старшыня калгасу Каршукоў і сакратар сельсавету Вера Прусава. Другім вогнішчам партызанскага руху былі акружэнцы савецкай арміі на чале з капітанам Баталавам. Да адных і другіх з ходам часу далучаліся іншыя савецкія актывістыя, уцекачы зь лягераў ваеннапалонных і некаторыя сяляне, якім пагражалі рэпрэсіі з боку Немцаў.

На шмат якіх прыкладах пісьменьнік паказаў, што акты сабатажу й дывэрсіі, праводжаныя партызанамі, ня гэтулькі шкодзілі Немцам, колькі цывільнаму жыхарству. Гэтак за забойства партызанамі аднаго нямецкага салдата Немцы спалілі ўсю вёску Расьсекі й пастралялі ейных жыхароў. Гэты лёгкадумны паступак партызанаў выклікае абурэньне навет у ваднаго партызана — паэты Міхася Лянкевіча. «Сапраўды, ці ёсьць у каго маральнае права, — разважае ён, — ахвяраваць жыцьцём соцен сваіх людзей».[302] Іншы прыклад. Партызаны ўзарвалі нямецкі эшалон, але вынікі гэтага вычыну трагічныя якраз для ні ў чым нявінаватага жыхарства: «Праз два дні наляцеў на суседнюю з Хацямлёй вёсачку карны атрад. Дзесяць чалавек былі схоплены, як заложнікі, а хаты спалены. І таму, што сярод заложнікаў ня было нікога вінаватага, і таму, што іх, пэўна-ж, расстраляюць, у Тышкевіча ныла сэрца».[303]

Дык нічога дзіўнага, што беларускае жыхарства ў сваёй масе старалася быць пасыўным з адзіным жаданьнем спакойна перачакаць трывожны ваенны час ды выйсьці жывым з ваеннае завірухі. Гэта добра паказана ў сцэне, калі партызанка Вера Прусава намаўляе свайго траюраднага брата Пятра Прусава арганізаваць у горадзе дывэрсійную акцыю. Пятро наадрэз адмаўляецца, тлумачучыся, што «за аднаго салдата Немцы сто чалавек расстрэльваюць». На гэта Вера адказвае: «Спалохаўся? Усіх ня перастраляюць. А калі й перастраляюць, дык лепей памерці, чым жыць на каленях».[304] Гэтая кароткая рэпліка вельмі зырка адкрывае зусім розныя дачыненьні да партызанскага руху беларускага сялянства — з аднаго боку, і камуністычных фанатыкаў — з другога. Агульную атмасфэру й сытуацыю, у якой апынулася беларуская вёска ў часе вайны, як ня трэба лепей раскрывае наступная цытата з разважаньняў самога пісьменьніка пра трагічную долю беларускага жыхарства:

> Азяблыя, нецярплівыя й злосныя, людзі паяўляліся ў ночы, пагражалі зброяй, мянялі папрэлыя, потныя гімнасьцёркі і шынялі на цывільную вопратку, бяз спросу бралі хлеб і сала. Зьнікалі нечакана, загадаўшы маўчаць. Потым паяўляліся другія, па-сталаму цікаўныя, але

---

[302] Тамсама, б. 51.
[303] «М», № 5, 1965, б. 57.
[304] «М», № 4, 1965, б. 100.

шумныя й неспакойныя. Гэтыя забіралі толькі вайсковае адзеньне й харчы.

Удзень прыяжджалі паліцэйскія. Шукалі самагонку, харахорыліся, стралялі мокрых, начубленых варон. Часам аднекуль налятalі Немцы, хваліліся: Масква ўзята, фюрар паехаў прымаць парад на Краснай плошчы.

Чутак хадзіла шмат. Ім верылі, і ня верылі. У мор намруцца, у вайну наілгуцца... Пры сьвятле капцілак мужчыны рэзаліся ў карты, пілі саладкаваты нямецкі шнапс і горкі, да сьлёз моцны, першачок.

У чаканьні нейкіх перамен насьцярожаным, чуйным жыцьцём жыло Падзьвіньне ў тую першую ваенную восень.[305]

Алесь Асіпенка намагаецца ў сваім рамане асьвятляць падзеі з партыйных сацрэалістычных пазыцыяў. Але ўсюды там, дзе ён хоча быць у згодзе з праўдай, гэтыя партыйныя пазыцыі бываюць за вузкія для паказу рэчаіснасьці. І тады ягоны раман «Вогненны азімут» становіцца праўдзівым дакумэнтам часу. У гэтым галоўная мастацкая сіла раману.

Малады пісьменьнік *Барыс Сачанка* упяршыню заявіў пра сябе, як пра таленавітага і ўдумлівага ўтара, у нарысе «Зямля маіх продкаў», надрукаваным у № 3 «Полымя» за 1964 год і ў выдадзеным у гэным-жа годзе аднайменным зборніку ягонае мастацкае прозы. «Зямля маіх продкаў» — гэта натхнёны гімн Палесьсю й ягонай мінуўшчыне, прапяяны з глыбокім хваляваньнем пісьменьнікам, які раней быў ведамы адно як аўтар кароткіх апавяданьняў і міньятурных замалёвак пра прыроду й быт беларускай вёскі.

Каштоўнасьць нарысу Сачанкі перш-наперш у тым, што пісьменьнік патрапіў удала спалучыць ягоную надзённую праблемнасьць, характэрную рысу для жанру нарысу наагул, з элемэнтамі зусім ненадзённымі: з высокамастацкімі апісаньнямі хараства палескага краявіду й багатымі экскурсамі ў гісторыю. Асабліва гэтыя апошнія займаюць такое выдатнае месца ў творы, што гэты дарожны нарыс мог-бы таксама быць названы гістарычным нарысам. Прыродаапісальныя й гістарычныя элемэнты твору, а таксама вобразы паказаных у ім сяньняшніх паляшукоў авеены шчырым і сьвежым пачуцьцём любасьці да роднага краю, ягоных людзей ды слаўнай мінуўшчыны Беларусі. Эпічная аснова апавяданьня проста расплываецца, а нярэдка й губляецца ў лірычнай споведзі пісьменьніка. Бязьмежная патрыятычная любасьць да роднага краю вызначае ня толькі ідэйную, але й кампазыцыйную суцэльнасьць твору.

Дзеля прыкладу, возьмем аўтаравы перажываньні, калі ён на цеплаходзе падплывае да Турава, гэтай, як ён выражаецца, «сьвятыні Палескага краю». Старажытны горад выклікае ў пісьменьнікавым уяўленьні жывыя асацыяцыі зь вялікім прасьветнікам Беларусі XII стагодзьдзя сьвятым Кірылам Тураўскім. Зачараваны напамінам пра гэтага «найвялікшага мудраца Палесься», Сачанка піша:

Падарожны, сьпкінь шапку й нізка пакланіся зямлі, якая ўзгадавала такога сына ня толькі для славы свайго гораду... Па гэтай зямлі ён

---

[305] Тамсама, б. 48.

хадзіў, тут ён думаў, тут складаў свае славутыя пропаведзі, дзякуючы якім яго інакш пры жыцьці й ня звалі, як «Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси». Тут ён, яшчэ юнаком, пастрыгся ў манахі і так захапіўся асцэтычным жыцьцём, што папрасіў замураваць сябе ў манастырскай вежы і там у вадзіноце аддаўся пасту й літаратурнай дзейнасьці... Але гучаць і сяньня словы найвялікшага мудраца Палесься... Гучаць і будуць гучэць, пакуль жыве Беларусь...[306]

Такіх гістарычных экскурсаў у нарысе Сачанкавым цімала.

У 1965 годзе Барыс Сачанка надрукаваў дзьве новыя аповесьці: «Пакуль не разьвіднела» — у № 8 «Полымя» й «Баравое рэха» — у № 11 «Маладосьці». Абодвы творы — выразны крок наперад у працэсе літаратурнага разьвіцьця гэтага таленавітага й плённага пісьменьніка. Тэмай аповесьці «Пакуль не разьвіднела» — нямецкі тэрор і партызанскае змаганьне ў вапошнюю вайну. У ваповесьці «Пакуль не разьвіднела», падобна як і ў Асіпенкавым рамане «Вогненны азімут» ды ў іншых ведамых ужо нам творах,не прасавецкія настроі, а інстынкт самаабароны перад актамі нямецкага крывавага тэрору піхнуў масы людзей у лясы й падняў іх на партызанскае змаганьне. У гэткім насьвятленьні партызанскага руху ў Беларусі пісьменьнік застаецца ў поўнай згодзе зь гістарычнай праўдай.

У вадным палескім мястэчку Немцы аднае ночы арыштавалі 26 падпольшчыкаў, а коратка перад гэтым яны спалілі суседнюю вёску Муціжану разам зь людзьмі .З блізкага да мястэчка хвойніку чуць ня кажны дзень чуваць аўтаматныя залпы: гэта нямецкія карнікі расстрэльваюць арыштаваных людзей. Падпольшчыку Падабеду ўдалося даведацца, што назаўтрае будзе спаленая нямецкімі карнікамі вялікая вёска Доўгі Мох разам зь ейнымі жыхарамі. Таму Падабед выпраўляе сваю пляменьніцу Юлю ў Доўгі Мох, каб папярэдзіць аб гэтым партызанскі аддзел Дзядзькі Цімоха, пад кантролем якога знаходзіцца гэтая вёска.

Гэта адна часовая лінія дзеі аповесьці — сучасная. Але паралельна да яе разгортаецца праз думкі й успаміны Юлі, што прабіраецца ляснымі сьцежкамі ў Доўгі Мох, і другая лінія, зьвязаная зь недалёкай яшчэ мінуўшчынай. З роздумаў і ўспамінаў Юлі, што займаюць ня менш палавіны аповесьці, даведваемся шмат новых дэталяў ня толькі пра жахлівае сучаснае, калі людзі ня былі пэўныя ні дня ні гадзіны, але даведваемся й пра падобнае да сяньняшняга трагічнае палажэньне ў часы абнаглелага сталінскага тэрору за яжоўшчынай. Праведзеная ў ваповесьці аналёгія між гітлераўскім і сталінскім тэрорам мае сваю глыбокую падтэкставую вымову.

Другая Сачанкава аповесьць «Баравое рэха» разгортае ўжо зусім іншую тэму — заблытаную гісторыю каханьня маладога студэнта Зьмітры Жолуда. Пачуцьці каханьня зь іхнымі радасьцямі й захапленьнямі, расчараваньнямі й горам, паказаныя ў ваповесьці гэтак праўдзіва й беспасярэдня, што ўжо ў гэтым мастацкая каштоўнасьць твору. Але-ж апрача самой тэмы каханьня, у ваповесьці цімала іншых цікавых з мастацкага гледзішча мамэнтаў. У ёй знаходзім шырокі паказ быту сучаснай

---

[306] Барыс Сачанка. Зямля продкаў. «П», № 3, 1964, б. 44.

калгаснай вёскі, любоў да вясковае працы, удала схарактарызаваныя сельскія пэрсанажы, як Зьмітраў брат брыгадзір Кузьма, ягоны дзядзька Зьмітра Жолуд, а перадусім нешчасьлівая ў сваім каханьні лясьнікова дачка Марта. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць у творы багатыя палескія краявіды й абразы прыроды, адмаляваныя з пачуцьцём шчырае любасьці да роднага краю. Усё гэта, разам узятае, вылучае аповесьць «Баравое рэха», як адзін зь лепшых твораў Барыса Сачанкі.

*

Спасярод пісьменьнікаў, што пішуць на ваенныя тэмы, зусім апрычонае месца займае *Васіль Быкаў*. Бяручы падзеі апошняе вайны за вылучныя тэмы сваіх апавяданьняў і аповесьцяў, Быкаў ня гэтулькі цікавіцца самымі гэтымі падзеямі, колькі, як трапна выразіўся П. Дзюбайла, «распрацоўвае галоўным чынам тэму «чалавека на вайне».[307] Сам Васіль Быкаў — у мінулым салдат, франтавік ад самага пачатку й да канца вайны, а таму ягоныя ваенныя аповесьці й апавяданьні ня толькі плод творчай фантазіі, але й прадукт асабістых назіраньняў і перажываньняў. У сваіх ваенных аповесьцях Быкаў вызваліўся поўнасьцяй із сацрэалістычнага шаблёну, ад ідэялізацыі гэроікі вайны, ад штучнай рыторыкі й патэтычнасьці, што ў большай або меншай меры мсьцяцца йшчэ й сяньня на творах шмат якіх пісьменьнікаў, засланяючы й нявечучы суровую ваенную рэчаіснасьць. У сваім інтэрвю, дадзеным Анатолю Вярцінскаму, Быкаў сам раскрыў гэтую асаблівасьць свайго творчага мэтаду: «Абавязак кожнага сьветкі й удзельніка мінулай вайны — гаварыць толькі праўду, якой-бы горкай яна ні здавалася, будучы пры гэтым бязьлітасным у сваёй шчырасьці».[308]

Ужо ў першай сваёй ваеннай аповесьці «Жураўліны крык», надрукаванай у № 2-ім «Маладосьці» за 1960 год, Быкаў выявіў найбольш характэрныя асаблівасьці свайго таленту й даў глыбокае гуманістычнае асэнсаваньне трагэдыі вайны. На чыгуначным пераезьдзе ў самым пачатку вайны ў 1941 годзе камандзер батальёну пакідае недастаткова ўзброеных і прыпадкова падабраных пяцёх салдат на чале із сяржантам Аляксеем Карпенкам, каб адны суткі часу прыкрываць адступленьне сваёй часьці перад пераважаючымі сіламі ворага. І вось не зважаючы на тое, што адзін зь іх дабраахвотна здаецца ў палон, другі — дызэртыруе, і абодвы гінуць, астатнія чатырох выконваюць, здавалася-б, нявыканальнае заданьне, хоць пры жыцьці астаецца толькі адзін зь іх, Беларус зь Віцебшчыны Васіль Глечык, ды й яму наканаваная сьмерць. Паставіўшы сваіх гэрояў у такія драматычныя, навет трагічныя сытуацыі, аўтар раскрывае духовы сьвет кажнага зь іх да самага дна.

Дзея гэтай багатай зьместам аповесьці разыгрываецца на працягу няпоўных сутак, хоць аўтар і робіць экскурсы ў мінулае ўсіх сваіх гэ-

---

[307] П. Дзюбайла, тамсама, б. 141.

[308] Анатоль Вярцінскі. Галоўнае — праўда... «ЛіМ», № 81, 9 кастрычніка 1964.

рояў, адводзячы кажнаму зь іх асобны разьдзел. Гэтыя экскурсы ў біяграфію гэрояў гэтак арганічна зьвязаныя з галоўным сюжэтам аповесьці, што не парушаюць ягонае цэласьці й не запавольніваюць апавяданьня. Ужо ў гэтай першай аповесьці Быкаў паказаў сябе здольным псыхалягічным аналітыкам характараў і пераканаеньняў сваіх пэрсанажаў, галоўна засярэджваючы сваю ўвагу на маральна-этычных мамэнтах чалавечае душы. Ува ўсіх дэталях твору пісьменьнік сьціслы й ляканічны, а ягоныя вобразы й дыялёгі маюць, апрача беспасярэдняй, і глыбокую падтэкставую вымову.

На працягу ўсяго адных сутак разгортаецца дзея наступнай аповесьці Быкава «Здрада», што ўпяршыню была надрукаваная ў № 3-ім «Полымя» за 1961 год. У студзені 1945 году на вугорскай зямлі паблізу Карпацкіх гор чатыры савецкія салдаты асталіся ў вакружэньні, бо ня мелі права пакінуць сваёй гарматы, а коні загінулі ў часе бою. Адзін зь іх, Блішчынскі, «сплецены з разьліку, фальшы й хітрасьці»,[309] як характарызуе яго аўтар, дызэртыруе, другі Здабудзька гіне ад варожае кулі, трэйці Ваня Шчарбак, будучы цяжка ранены, страляе ў самога сябе, каб ня трапіць жывым у рукі ворага, і толькі чацьверты Валодзя Цімошкін прабіраецца да сваіх. Да ўсіх іхных няверагодных мукаў далучаецца йшчэ й маральнае прыгнечаньне, бо, хоць і сказаныя із сарказмам, але не пазбаўленыя рэальнага сэнсу словы Блішчынскага: «У анкеце ўжо не напішаш, што ў палоне й акружэньні ня быў. Цяпер чортаў знак. Ды яшчэ асобы аддзел на цыгундар возьме».[310]

Абедзьве аповесьці дастаткова засьветчылі, што ў васобе Васіля Быкава дасьпявае вялікі й арыгінальны пісьменьніцкі талент. Але адно трэйцяя ягоная аповесьць — «Трэйцяя ракета», сьпярша надрукаваная ў № 2-ім «Маладосьці» за 1962 год і ў тым-жа годзе выдадзеная асобнай кніжкай разам з аповесьцяй «Здрада», прынесла Быкаву шырокую папулярнасьць і пісьменьніцкую славу. Яна-ж была ўзнагароджаная й літаратурнай прэміяй імя Якуба Коласа за 1962 год.

На працягу ўсяго адных сутак і на адным і тым самым месцы — у вакопе на фроньце ў Румыніі ў 1944 годзе бачым сямёх гэрояў аповесьці — пяцёх салдатаў, іхнага камандзера старшага сяржанта Жаўтыха і санінструктарку Люсю. Будучы акружанымі, знаходзяцца бадайшто ў безнадзейнай сытуацыі, тым ня менш, кажны зь іх жыве собскім духовым жыцьцём. Кажны зарысоўваецца перад намі, як зьіндывідуалізаваны й багаты нутраным зьместам пэрсанаж. А ўсе разам — жывыя й праўдзівыя людзі, вырваныя зь нетраў самога жыцьця. Пяцёх зь іх гіне ад варожай кулі, шостага Лёшку Задарожнага, што аказаўся пустым самалюбам і дыэзртырам, у парыве гневу застрэльвае з ракетніцы ягоны сябра Лазьняк, які толькі адзін застаецца жывым.

Усе яны глядзяць на вайну, хоць і «айчынную», з чыста людзкіх жыцьцёвых пазыцыяў, як на найбольшае зло й зусім бяз чаду савецкага патрыятызму. «— Я-б усе мэдалі аддаў, — гаворыць сяржант Жаўтых, — толькі-б дзяцей зьберагчы. Вунь — ня скончыцца вайна да Новага го-

---

[309] Васіль Быкаў. Трэцяя ракета — Здрада. Менск, 1962, б. 190.
[310] Тамсама, б. 188.

ду — старэйшы мой, Дзімітры пойдзе. Дапрызыўнік. Васемнаццаць год хлопцу. Возьмуць, трапіць у пяхоту, і што думаеш? Маладое, дурное — у першым-другім баі і пакладзе галаву. Ня знаўшы, ня ведаўшы...»[311] Іншы пэрсанаж, Лук'янаў — сын камандзера брыгады й Гэроя Савецкага Саюзу, раней быў лейтанантам. Але, трапіўшы ў акружэньне, із-за страху падняў рукі й здаўся ў палон. Калі-ж уцёк з палону, яго здэградавалі да радавога. А вось ідэяльны салдат Крывёнак. Паводля аўтаравае характарыстыкі, «заўсёды цьвёрды, разумны і ў цяжкую хвіліну паводзіў сябе, як трэба», але ў найбольш крытычны мамэнт і ў ім адклікаецца толькі чалавек. На дакор Лазьняка: «— Ты за каго ваюеш?» — адказвае: «— Як за каго? За сябе! За каго павінен я ваяваць? — Мала, відаць, з табой палітзаняткаў праводзілі. — Палітзаня-я-яткі! — адразу раздражняючыся, кажа хлопец. — Палітзаняткі адно, а тут другое».[312] Ня іншы й Лазьняк, ад першай асобы якога вядзецца апавяданьне й зь якім, праўдападобна, утоесамліваецца сам аўтар. У крытычную хвіліну ў яго вырываецца прызнаньне: «— Я думаў: дабрацца-б да Немцаў! А ці толькі яны сталі віною нашай бяды! На колькі-ж франтоў суджана змагацца мне — і з ворагамі ў акружэньні, са сволаччу побач, нарэшце, з самім сабой».[313] Аўтар старанна надзяліў Лазьняка й глыбокімі патрыятычнымі перажываньнямі. Ён, апынуўшыся на фроньце ля Карпатаў, пяшчотліва пераносіцца думкамі ў Беларусь, у «далёкую лясную старонку», як ён называе яе. Ён перажывае пачуцьцё гордасьці, усьведамляючы, што ён Беларус: «...я заўсёды нашу ў сабе стрыманы, маўклівы гонар, што я — Беларус. Я не крыўдую, калі, сказаўшы ня так якое рускае слова, чую ад Задарожнага абразьлівае «трапка», — хай сабе я не скажу гэтак прыгожа, як ён, але ёсьць у мяне свая вартасьць, і ён, як-бы ні хацеў, ня можа абразіць мяне».[314] Жаноцкая постаць Люсі, нязвычайна прывабнай, чулай на людзкое гора й бязьмежна ахвярнай — гэта асаблівае дасягненьне пісьменьніка.

У № 1 «Маладосьці» за 1964 год і асобнай кніжкай зьявілася наступная аповесьць Васіля Быкава «Альпійская баляда». У ёй апісваюцца ня беспасярэднія ваенныя падзеі, а гісторыя ўцёкаў зь лягеру ваеннапалонных у Аўстрыі Беларуса Івана Цярэшкі, які выпадкова напаткаў па дарозе такую-ж лягерніцу-ўцякачку Італьянку Джулію. Нявымоўна цяжкія абставіны ўцёкаў Івана й Джуліі, бадайшто бязвыхаднасьць іхнага палажэньня, з чаго абое добра здаюць сабе справу, а таксама трагічны фінал долі Івана стварылі аўтару добрую нагоду раскрыць глыбокі духовы сьвет гэтых маладых людзей.

Дзея гэтай аповесьці, падобна як і ўсіх папярэдніх, абмяжоўваецца ўсяго да адных сутак, а ейны сюжэт можна было-б перадаць усяго колькімі сказамі. Не зважаючы на гэтую абмежанасьць часу й дзеяньня, чытаючы гэты не малы твор, што абыймае траха 200 бачынаў друку, чытач увесь час у напружаньні. Ды ня гэтулькі дзеяньне й ня сюжэтная

---

311 Тамсама, б. 29.
312 Тамсама, б. 131.
313 Тамсама, б. 141.
314 Тамсама, б. 17.

інтрыга завайстраюць чытачову ўвагу, а глыбокі аналіз людзкіх пачуцьцяў і перажываньняў палоніць чытача.

Выводзячы на сцэну Беларуса Івана Цярэшку й Італьянку Джулію, як галоўных гэрояў, пісьменьнік як быццам хацеў заакцэнтаваць камуністычную ідэю інтэрнацыяналізму й дружбы народаў. Але пры ўсім ейным інтэрнацыяналізьме «Альпійская баляда» найбольш нацыянальная з усіх дасюлешніх аповесьцяў Быкава. Ейны нацыянальны характар ужо ў тым, што Іван Цярэшка ўвесь час з асаблівай любасьцяй і пачуцьцём глыбокае тугі ўспамінае Беларусь, гэную, як ён заве яе, «старажытную зямлю Крывічоў». Вырозьніваецца Іван Цярэшка спасярод пэрсанажаў іншых нацыянальнасьцяў таксама, як чалавек прадонна глыбокае душы, бязьмежнае высакароднасьці й ахвярнасьці для іншых. Вось на лягер ваеннапалонных звалілася з амэрыканскага ці ангельскага самалёту бомба й ня выбухнула. Абясшкодзіць яе змушаныя ваеннапалонныя. І тут сярод ваеннапалонных родзіцца адчайны плян: узарваць бомбу з тым, што зьгіне той зь іх, хто будзе яе ўзрываць, але разам зь ім зьгіне й шмат эсэсаўцаў. Палонныя пастаўнаўляюць разьвязаць справу лясаваньнем. Лёс выпаў палоннаму Расейцу Срэбнікаву. Гэты, аднак, аказаўся маладушным і ад свайго заданьня адмовіўся. Тады Іван Цярэшка, заўсёды маўклівы, сьціплы й нясьмелы Беларус, што адно й лятуцеў, каб выйсьці з ваеннага й лягернага пекла жывым ды вярнуцца ў родную Беларусь, дабраахвотна бярэ на сябе заданьне Срэбнікава. Чытача не пакідае ўражаньне, што аўтар ня выпадкова надзяліў гэтымі высокімі якасьцямі душы якраз Беларуса, падобна як хіба-ж ня выпадкова ў ягоных ранейшых аповесьцях асаблівымі маральна-этычнымі якасьцямі вырозьніваюцца якраз Беларусы: у «Жураўліным крыку» — Васіль Глечык, у «Здрадзе» — Валодзя Цімошкін, у «Трэйцяй ракеце» — Лазьняк.

У «Альпійскай балядзе» разгорнутая й яшчэ адна важная праблема. Як ведама, у часе апошняе вайны дый даўгі час пасьля яе ўважалася, што трапіць у палон — гэта цяжкае злачынства, ваенная здрада. Прыгадаем, што на гэтай праблеме пабудаваная й ведамая аповесьць Аляксандра Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Вось-жа Быкаў стараецца ў сваёй аповесьці рэгабілітаваць у нічым нявінаватых савецкіх палонных апошняе вайны. Гэтаму рэгабілітаваньню служыць ня толькі ўся лёгіка дзеяньня «Альпійскай баляды», але й беспасярэднія выказваньні аўтара.

Пісьменьніцкі талент Васіля Быкава заясьнеў яшчэ зырчэйшым блескам у ягонай наступнай аповесьці «Мёртвым не баліць», што была надрукаваная ў №№ 7 і 8 «Маладосьці» ў 1965 годзе. Дзея гэтае аповесьці разгортаецца на перадавых пазыцыях фронту пад Кіраваградам зімой 1944 году й абыймае ўжо каля двух сутак часу. У ёй, як у калейдаскопе, перасоўваюцца перад нашымі вачыма жахлівыя сцэны зацятых баёў адрэзаных ад сваёй часьці савецкіх воінаў і распачлівых спробаў вырвацца з акружэньня. Але калі ў сваіх ранейшых аповесьцях Быкаў маляваў адно вузкія эпізоды ваеннае эпапэі, дык у ваповесьці «Мёртвым не баліць» разгарнуў ужо шырокую панараму ваенных дзеяньняў, увыпукліваючы вельмі плястычна й маляўніча такія мамэнты, як бой зь нямецкімі танкамі ў кукурузным полі, абарона ўзвышша, сцэна ў заімправізаваным у

сельскай хаце ваенным шпіталі, бой у вакружанай Немцамі вёсцы, уцёкі цераз замінаванае поле ад нямецкіх танкаў, сховы ў чыгуначнай трубе, наапошку ўзяцьце Немцамі ў палон. Сваім багатым, складным і разгалінаваным сюжэтам «Мёртвым не баліць» хутчэй нагадвае раман, чымся аповесьць.

У ваповесьцях Быкава сталася ўжо манерай, што ён звычайна паказвае невялічкую групку воінаў, якая, апынуўшыся ў безнадзейнай сытуацыі або трапіўшы ў вакружэньне, змагаецца да апошняга й у бальшыні гіне. Проста цудам астаюцца жывымі ўсяго адзін-два жаўнеры. Гэтак і ў ваповесьці «Мёртвым не баліць» з цэлага дзесятку воінаў астаецца жывым, хоць і двойчы цяжка параненым, адно галоўны гэрой аповесьці малодшы лейтэнант Леанід Васілевіч ды, магчыма, хоць ня пэўна, камандзер групы штабны капітан Сахно. У драматычных абставінах гіне, падарваўшыся на міне, і адзіная ў гэтай групе жанчына — санітарка Каця Шчарбенка, якая шмат у чым прыпамінае санінструктарку Люсю з «Трэйцяй ракеты».

Як і заўсёды ў Быкава, вайна асэнсаваная ў ваповесьці, як найвялікшае зло, якое для савецкіх людзей удвая цяжкое й балючае, бо добрая палавіна ваенных няўдачаў і няшчасьцяў спрычыненая собскім камандаваньнем. Ува ўсім заўважаецца агульная няпрыгатаванасьць да вайны, хаос, бязладзьдзе, фармальныя бяздушныя дачыненьні да людзей, як беспасярэдні вынік сталінаўскай сыстэмы. З вуснаў жаўнераў і ахвіцэраў толькі й чуваць слова «безабразіе». Адзін вайсковы старшына гэтак характарызуе палажэньне: «— Што-ж: ударылі, прарваліся, пайшлі куды як добра! Давай наградныя пісаць. Ведама-ж, абы на перадку ўсё па графіку, а тут што робіцца — напляваць».[315] Малады салдат Каваль наракае: «— Неарганізаванасьць, бязладзьдзе — гэта факт. Адбілі палову Украіны, прарвалі фронт, акружылі Кіравагград. А тут вось няўвязка».[316] Незабыўнае ўражаньне пакідаюць словы бабулькі падчас сьвяткаваньня ў Менску 20-ых угодкаў Дня Перамогі:

> Стары ў блякаду ў лесе галаву зложыў. Старшы Сямёнка пад горадам Варонежам ад ранаў памёр. Грышутку ў сьцюдзёнай старане — як-жа гэта яе, ужо забылася... Мурманскай, здаецца, завецца. Там забілі. А малодшанькага, Віцюньку, дык у моры Чорным патапілі. Капітанам быў. Праўда, за сярэдненькага, Міколку, яшчэ калі сэрца баліць... Але і то-ж... Столькі гадкоў... Каб жыў дзе, дык-бы азваўся. А то пайшоў пад Аршаву, дык і прапаў...

Аўтар вуснамі свайго галоўнага гэроя Леаніда Васілевіча, зь якім, як відаць з усяе лёгікі аповесьці, утоесамляецца сам Быкаў, гэтак камэнтуе бабульчыны словы:

> Цэлая геаграфія! — думаю я. — Геаграфія і гісторыя толькі ў адным сэрцы. А колькі-ж па краіне такіх бабулек, што вырасьцілі й аддалі вайне сыноў.[317]

---

[315] Васіль Быкаў. Мёртвым не баліць. «М», № 7, 1965, б. 86.

[316] Тамсама, б. 95.

[317] Тамсама, б. 55.

У іншым месцы аповесьці словамі Леаніда Васілевіча аўтар прыпамінае, як савецкія жаўнеры гінулі ня толькі ад варожае кулі, але й ад «сваіх» у выніку сталінаўскага тэрору на вайне: «Не забывалася, як пайшлі з палка і не вярнуліся хлопцы за здачу пазыцыяў, якіх нельга было ўтрымаць, за нявыкананьне нявыканальных загадаў, за сутычкі з начальствам і за недазволеныя размовы таксама».[318]

Паказ ваенных падзеяў і фронту ня ёсьць, аднак, у ваповесьці галоўнай мэтай пісьменьніка. Ваенныя эпізоды становяць фактычна найбольш адпаведны фон для паказу праступных людзей сталінаўскага тыпу на становішчы камандзераў, бюракратычныя, бяздушныя й нялюдзкія паводзіны якіх падвоілі ваенныя няшчасьці. Гэткім у ваповесьці «Мёртвым не баліць» ёсьць штабны капітан Сахно. Вось як характарызуе яго аўтар вуснамі Леаніда Васілевіча ў дзьвюх розных сытуацыях: у сытуацыі камандзера на фроньце і ў сытуацыі ваеннапалоннага: «Здавалася, гэта жалезны ў сваіх перакананьнях фанатык, бязьлітасны ня толькі да іншых, а і да сябе ў імя той справы, якой ён служыў». Калі-ж Сахно апынуўся ў нямецкім палоне, дык не застрэліўся, да чаго ў падобных сыстуацыях змушаў іншых, але адразу-ж пачаў выслужвацца перад ворагам. «Ён зусім ня быў крэменем, якім стараўся здавацца, таму што быў бяспрынцыповы й гнуткі. Што ён ні рабіў, ён перш думаў пра сябе — аб сваёй карыеры й выгодзе»,[319] — дапаўняе ягоную характарыстыку Леанід Васілевіч.

На пэрсанажы гэтага «патэнцыянальнага здрадніка», як называе яго аўтар, сканцэнтраваў Быкаў вельмі шмат увагі ды паказаў яго не як рэдкі ў жыцьці вынятак, але як тыповага гадунца сталінскае эпохі. Дзеля такога паказу пісьменьнік, выкарыстоўваючы кампазыцыйны мэтад двуплянавасьці апавяданьня, вядзе яго адначасна ў двух часовых разрэзах: у перадапошнім годзе вайны на фроньце й у дваццатыя ўгодкі Дня Перамогі ў Менску. У разьдзелах, дзея якіх разыгрываецца дваццаць год пазьней, пісьменьнік выводзіць на сцэну былога старшыню Ваеннага Трыбуналу Івана Гарбацюка, ня толькі духовага й маральнага, але й фізычнага двайніка капітана Сахно, за якога й прыймае спачатку Васілевіч Гарбацюка. Гэтым Быкаў хацеў падчыркнуць, што людзі сталінаўскага тыпу, гэныя Гарбацюкі й Сахны не зьвяліся й сяньня.

На фоне бязьлітаснага асуджэньня вайны, як абсалютнага зла, і на фоне такога-ж асуджэньня сталінаўшчыны, выплывае шляхотная ідэя, сфармуляваная ў наступных аўтарскіх словах аповесьці: «У сорак пятым мы ня толькі здабылі перамогу. За чатыры гады вайны мы, як ніколі, згуртаваліся ў вадно цэлае і ўбачылі, на што зь немагчымага мы здольныя. Дух свабодалюбства й непадлегласьці злу здабыў сабе ў той барацьбе магутныя крылы. Я веру, яны не апусьцяцца».[320]

Пад канец 1965 году выйшаў зборнік празаічных твораў Васіля Быкава «Адна ноч». У ім зьмешчаная аповесьць «Пастка», праўда, ужо ня но-

---

[318] Васіль Быкаў. Мёртвым не баліць. «М», № 8, 1965, б. 28–29.
[319] Тамсама, б. 74.
[320] Тамсама, б. 85.

вая, бо ў расейскім перакладзе была яна надрукаваная ў 1964 годзе ў часапісе «Юность». Аповесьць асуджае ў этычна-філязафічнай роўніцы зроджаны духам сталіншчыны недавер і пагарду да чалавека ды ўслаўляе ягоную маральную моц. Ня новым у зборніку й апавяданьне «Адна ноч», ад якога атрымала назоў кніжка, бо ўпяршыню было яно надрукаванае ў 1963 годзе ў № 1-ым «Маладосьці». Але тады ніхто не зьвярнуў на яго ўвагі. Цяперака-ж гэтае апавяданьне, як і аповесьць «Мёртвым не баліць» сталіся аб'ектам нападу на іхнага аўтара беларускага партыйнага крытыка Якава Герцовіча. Ён абвінаваціў Быкава ў «міжвольнай даніне абстрактнаму гуманізму» ў дачыненьні да ворага, а таксама ў тым, што «празьмернай актыўнасьці Сахно ня проціпастаўлены здаровыя сілы, якія маглі-б хоць у нейкай меры абясшкодзіць перастрахоўшчыка, тым болей, што матывы яго паводзін правільна разгаданы і малодшым лейтэнантам Васілевічам і многімі іншымі франтавікамі».[321] Калі першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў у сваёй прамове на XXIII партыйным зьезьдзе гаварыў: «Выклікае зьдзіўленьне, зь якой пасьпешнасьцю й лёгкасьцю часам слабыя ў ідэйных і мастацкіх адносінах, а іншы раз проста шкодныя творы публікуюцца на старонках папулярных часапісаў і выпускаюцца асобнымі выданьнямі»,[321a] дык мог мець на думцы толькі аповесьць Быкава й часапіс «Маладосьць», у якім была яна надрукаваная.

Выступленьне Машэрава было сыгналам для цэнтральнай маскоўскай прэсы, якая абвінаваціла беларускага пісьменьніка ў схвальшаваньні гістарычнай праўды й выкрыўленьні партыйнай лініі ў ваповесьці «Мёртвым не баліць». Спасярод цэлага сьцягу газэтаў і часапісаў, што асудзілі твор Быкава, асабліва войстра пісала «Правда»: «Аповесьць „Мёртвым не баліць" — няўдача аўтара. Пра гэта трэба сказаць адкрыта й бескампрамісова. Гэта няўдача — вынік сур'ёзных ідэйна-эстэтычных пралікаў пісьменьніка».[322] А газэта «Красная звезда» назвала аповесьць Быкава зборам «усякіх недарэчнасьцяў і бруднага хвальшу».[323] Быкаў быў войстра заатакаваны й на пятым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі, а Пятрусь Броўка ў сваім дакладзе навет заклікаў аўтара, каб ён «перапрацаваў свой апошні твор карэнным чынам».[324]

Цікава тое, што якраз напярэдадні ўсёй гэтай кампаніі адбылося 12 сакавіка ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі Навукаў БССР абмеркаваньне аповесьці Быкава. Як паведаміла «Літаратура і Мастацтва», вынік гэтага абмеркаваньня быў наступны: «Усе былі адной думкі: аповесьць Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» — значная зьява беларускай прозы за мінулы год».[325] З гэтага можна зрабіць выснаў, што абвінавачаньні Быкава былі інсьпіраваныя партыйнымі вярхамі. Наагул уся справа, паднятая вакол аповесьці Васіля Быкава «Мёртвым не ба-

---

[321] Я. Герцовіч. Дзьвюх праўд ня бывае. «Зьвязда», № 26, 1 лютага 1966.

[321a] «ЛіМ», № 28, 5 красавіка 1966.

[322] В. Севрук. Правда о великой войне. «Правда», 17 красавіка 1966.

[323] С. Паранец, И. Лашков. Вопреки правде жизни. «Краная звезда», 20 красавіка 1966.

[324] «ЛіМ», № 39, 13 травеня 1966.

[325] «ЛіМ», № 22, 15 сакавіка 1966.

ліць», вымоўнае сьветчаньне таго, што пра шкодныя й трагічныя вынікі сталіншчыны, асабліва ў арміі й у часе апошняе вайны дазволена гаварыць адно ў строга вызначаных межах, выходзіць паза якія пісьменьнікі ня маюць права.

*

Некаторыя пісьменьнікі распрацоўваюць у сваіх творах галоўна тэмы зь нядаўнае яшчэ мінуўшчыны, пачынаючы ад насьпяваньня рэвалюцыі 1905 году й падзеяў самой рэвалюцыі, рэвалюцыі 1917 году й грамадзянскай вайны, з часоў між дзьвюмя сусьветнымі войнамі ды канчаючы падзеямі апошняе вайны. Больш значнымі пісьменьнікамі гэтае групы можна ўважаць Аркадзя Чарнышэвіча, Міколу Лобана й Рамана Сабаленку.

Першы зь іх *Аркадзь Чарнышэвіч* пачаў пісаць і друкавацца яшчэ ў 1940 годзе, але інтэнсыўна пачаў займацца літаратурнай дзейнасьцяй адно пасьля вайны, друкуючы шмат апавяданьняў, аповесьцяў і раман «Сьвітаньне» (1957 г.) аб устанаўленьні савецкай улады ў Беларусі. У разгляданым намі пяцігодзьдзі Чарнышэвіч напісаў вялікі раман «Засьценак Малінаўка», які, пасьля надрукаваньня ў часапісе «Полымя» (першай часткі ў №№ 11 і 12 за 1961, а другой — у №№ 8—11 за 1964 год), выйшаў асобнымі кнігамі: у 1964 годзе ягоная першая частка, а ў 1965 годзе — частка другая.

Адзін зь першых рэцэнзэнтаў раману Дзімітр Бугаёў назваў яго «досыць традыцыйным як па жыцьцёвым матар'яле, пакладзеным у яго аснову, так і па сваёй жанравай структуры».[326] І гэта зусім правільна. Тым ня менш, гэтая традыцыйнасьць раману ўжыцьцёўленая пісьменьнікам у пазытыўным сэньсе.

Дзея раману «Засьценак Малінаўка» разгортаецца напярэдадні рэвалюцыі 1905 году й адкрывае маляўнічыя й тыповыя вобразы з жыцьця, працы й побыту жыхароў засьценку Малінаўка й суседняй зь ім вёскі Чыжэвічы ў паўдзённай Случчыне. Гэта тыповы ў гэныя часы ў Беларусі куток, поўнасьцяй ізаляваны ад рэшты сьвету, у якім разгортаецца самабытнае жыцьцё беларускага сялянства, бо й лапцюжная малінаўская шляхта — тыя-ж сяляне, адно што захавала пачуцьцё свайго шляхоцкага гонару.

На фоне шматграннага паказу вясковага жыцьця разгортае пісьменьнік, як галоўную праблему, насьпяваньне рэвалюцыйнай сьвядомасьці сярод сялянства, што ўжо ў канцы першай часткі раману й на працягу ўсяе дзеі часткі другой выліваецца ў рэвалюцыйныя хваляваньні й акты бунту. У гэтым дачыненьні Чарнышэвіч, залішне згушчаючы хварбы й спрошчваючы зьявы значна больш складаныя, стараецца быць у згодзе із савецкай гістарыяграфіяй у вацэне сацыяльных дачыненьняў і клясавага расслаеньня жыхарства Беларусі напярэдадні рэвалюцыі 1905 году. Вось як спрошчана паказвае сам аўтар гэтае клясавае расслаеньне й сацыяльную ненавісьць: «Пан Крупскі пагарджае сваім аканомам Гендарса-

---

[326] Дзьмітры Бугаёў. Трапным вокам мастака. «П», № 11, 1964, б. 180.

нам, той і ў грош ня ставіць малінаўскую шляхту, шляхта ня прызнае за людзей чыжэвіцкіх мужыкоў, а чыжэвіцкія мужыкі ня прызнаюць панскіх парабкаў. Яны самыя апошнія, самыя абяздоленыя... Ім няма месца сярод людзей...»[327]

Вобразы вясковага жыцьця й побыту, паказ сялянскіх інтарэсаў і зацікаўленьняў, рэалістычна й пуката адмаляваныя ў рамане, носяць на сабе выразны адбітак Коласаўскае традыцыі. Чытаючы Чарнышэвічаў раман, мімахоць усплываюць на памяць вобразы селянскага жыцьця й быту, адлюстраваныя ў Коласавых апавяданьнях нашаніўскае пары, а таксама ў трылёгіі «На ростаньнях», асабліва ў дзьвюх першых ейных частках — «У палескай глушы» і «У глыбі Палесься».

У сваім рамане Чарнышэвіч вывеў на сцэну багатую галярэю сялянскіх тыпаў і наагул людзей вёскі. Кажны пэрсанаж беспасярэдня вырваны з жыцьця й кажны чымсьці тыповы й характэрны для рэпрэзэнтаванай ім катэгорыі людзей. Іншым ёсьць патрыярхальны тып селяніна-бацькі Юстынь Сташэвіч, іншым гарачы й парывісты ягоны сын Андрэй, яшчэ іншым — разважлівы й аўтарытэтны ягоны дзядзька Ян Сташэвіч. Добра паказаны дзівакаваты тып вандроўнага багамола Герасім Жукоўскі, а таксама сельскі інтэлігент і дамарослы палітык фэльчар Марцін Крываблоцкі. Рэдкімі ў вёсцы, але праўдзівымі рысамі вырозьніваецца чыжэвіцкі парабак Іван Аўсянік, што ўсякімі спосабамі горнецца да чытаньня кніжак і самаадукацыі. Багатымі індывідуальнымі рысамі надзелены малінаўскі бядняк Сымон Аішакевіч У рамане цімала й жаноцкіх пэрсанажаў, якія, відаць, у моц таго, што ў патрыярхальнай беларускай вёсцы гэнага часу галоўную ролю адыгрывалі мужчыны, паказаныя больш скупа, тым ня менш праўдзіва. Найлепш удаліся Чарнышэвічу пэрсанажы адмоўныя: сельскі багацей Яўхім Халуста й чыжэвіцкі Жыд Хаім Ножык. Гэта нярэдкія ў жыцьці тагачаснай вёскі тыпы крывасмокаў, адзінай мэтай якіх — як мага больш нажыцца хоць-бы цаной круцельства й людзкой крыўды. Абодвы гэтак праўдзіва й памайстроўску адмаляваныя, што маглі-б стацца прыказкавымі для адпаведнай катэгорыі людзей.

Затое зусім не ўдаліся пісьменьніку тыпы вясковых рэвалюцыянэраў і падпольшчыкаў, як дворскі мэханік Станіслаў Вярбіцкі, парабкі Павал Квітун і Платон Шабуня, а асабліва Халустаў парабак Якаў Шэмет Будучы зусім мала граматнымі, яны чытаюць творы Леніна й Пляханава, дыскутуюць над разыходжаньнямі паміж бальшавікамі й меншавікамі на такім узроўні, якога мог-бы пазавідаваць не адзін запраўдны інтэлігент. Гэтыя пэрсанажы, скроеныя на адзін сацрэалістычны капыл, выйшлі бледнымі й няжыцьцёвымі. І гэта паважная загана нядрэннага й цікавага ў іншых дачыненьнях раману.

Шмат у чым падобны да Аркадзя Чарнышэвіча пісьменьнік *Мікола Лобан*. Ён пачаў друкаваць першыя свае апавяданьні яшчэ ў 1930 годзе, але шырэй разгарнуў літаратурную творчасьць, падобна як і Чарнышэвіч, адно па вайне. У 1964 годзе ён выдаў першы свой вялікі твор — раман «На парозе будучыні» (сьпярша раман друкаваўся ў № 7 «Полымя» за 1961

---

[327] Аркадзь Чарнышэвіч. Засьценак Малінаўка, частка І-ая. Менск, 1964, б. 126—127.

і ў нумарох 7 і 8 за 1963 год), як першую часьць із задуманае аўтарам трылёгіі. Раман «На парозе будучыні» сваймі дадатнымі й адмоўнымі бакамі шмат у чым падобны да Чарнышэвічавага раману «Засьценак Малінаўка». Але гэтае іхнае падабенства ня вынік літаратурнага ўплыву аднаго пісьменьніка на другога, тым больш, што абодвы раманы зьявіліся адначасна, а выплывае з аднолькавых творчых намераў абодвых аўтараў: адлюстраваць працэс насьпяваньня рэвалюцыйнай сьвядомасьці беларускага сялянства на дадзеным гістарычным адрэзку ня так далёкай мінуўшчыны.

Але заданьне Міколы Лобана было куды цяжэйшае, чымся Чарнышэвіча. Дзея Чарнышэвічага раману разгортаецца на пярэдадні рэвалюцыі 1905 году, якая адно павярхоўна, і то ня ўсюды, закранула беларускую вёску. Таму Чарнышэвіч меў большую свабоду сканцэнтравацца на паказе прыватнага жыцьця сялянства й быту беларускай вёскі. Затое Мікола Лобан такой свабоды ўжо ня меў, бо дзея ягонага раману абыймае часы Першае вайны, Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, акупацыі Беларусі нямецкай і польскай арміямі ды працэс устанаўленьня савецкай улады ў Беларусі ў першыя парэвалюцыйныя гады. Усе гэтыя падзеі глыбака ўскалыхнулі беларускую вёску, а таму аўтар апынуўся перад немалымі цяжкасьцямі: быць у згодзе зь гістарычнай і мастацкай праўдай — з аднаго боку, і не ўвайсьці ў супярэчнасьць з партыйнай гістарыяграфіяй у васьвятленьні гэнага гістарычнага пэрыяду — з другога. І гэтых цяжкасьцяў Лобан не патрапіў перамагчы.

Зь дзеі ягонага раману выглядае, што ў сьведамасьці беларускага сялянства ўжо тады адбылася клясавая дыфэрэнцыяцыя й што вёска палітычна была падрыхтаваная, каб прыняць савецкую ўладу. Згодна з партыйнай клясыфікацыяй, жыхары вёскі ў рамане «На парозе будучыні» выразна дзеляцца на тры сацыяльныя групы: беднякоў, серадлякоў і кулакоў. Беднякі, прадстаўленыя Кандратам Сарокам, Параскай, Хведарам Семянякам і галоўна братамі Шэметамі — гэта надзейная апора савецкае ўлады, яны за гэтую ўладу змагаюцца актыўна. Серадлякі, пра якіх шмат кажацца ў творы, але якія канкрэтна паказаныя адно ў васобе хутараніна Сідара Крывіцкага, спачуваюць Саветам, але актыўна ня выступаюць. Кулакі-ж — браты Іван і Ціток Сядуры, Шмігельскія, Рэйтаны й Рымшы — зацятыя й актыўныя ворагі новае ўлады. Гэткі спрошчаны й схэматычны паказ жыхарства беларускай вёскі зусім не адпавядае запраўднасьці. Сярод гэтага жыхарства, бяручы яго ў цэласьці, як і ўнутры ягоных сацыяльных групаў існавалі тады, як ведама, вялікія супярэчнасьці й хістаньні ў дачыненьні да новых парадкаў, але паказаная пісьменьнікам клясавая дыфэрэнцыяцыя не ўсьведамлялася. І таму пазытыўная ацэна гістарычнага й сацыяльнага аспэкту раману крытыкамі Паўлам Дзюбайлам[328] і Дзімітрам Бугаёвам[329] зусім ня пераконлівая. А выснаў, зроблены Сяргеем Гусаком у ягонай рэцэнзіі раману, што «заслуга пісьменьніка, што ён, пазьбягаючы прасталінейнасьці й спрошчанасьці ў паказе падзей рэвалюцыі на вёсцы, выяўляе

---

[328] Павал Дзюбайла. Усімі фарбамі жыцьця. «П», № 4, 1964, б. 176.

[329] Дзьмітры Бугаёў. Некрашы. Дваццатыя гады... «ЛіМ», № 49, 29 чырвеня 1964.

паступовае, але няўхільнае пранікненьне новага ў вясковае жыцьцё, у сьвядомасьць сялян»,[330] — намаганьне выдаць жаданае за запраўднае.

Затое ў паказе чыста індывідуальных рысаў сялян і іхнага духовага сьвету пісьменьнік аказаўся добрым псыхалёгам і ўмелым мастаком. У глыбокім псыхалягічным аналізе дзейных пэрсанажаў і раскрыцьці іхных духовых перажываньняў і супярэчнасьцяў у рамане «На парозе будучыні» вычуваюцца лепшыя традыцыі раманаў Кузьмы Чорнага. Добра ўдаліся Лобану такія пэрсанажы, як станоўчы й заўсёды неспакойны Кандрат Сарока, здольная да глыбокіх і складаных пачуцьцяў Параска, жыцьцярадасны й гарэзьлівы Андрушка Шэмет. Але найбольш удала выведзены рэдкі ў беларускай вёсцы, але зусім праўдзівы тып вясковага багацея й нягодніка, чалавека бязь ніякага пачуцьця навет асабістай годнасьці — Цітка Сядуры. Гэта яшчэ больш псыхалягічна паглыблены тып такога-ж вясковага ліхадзея, якім ёсьць Яўхім Халуста з Чарнышэвічавага раману «Засьценак Малінаўка».

Асаблівая прывабнасьць Лобанавага раману ў глыбокай гуманістычнай чалавекалюбнай ідэі, у сьцьверджаньні высокіх маральных якасьцяў абяздоленага беларускага селяніна. Каб паказаць нявымоўна цяжкое жыцьцё сялянства ў ягоным змаганьні за кавалак хлеба на долі аж трох пакаленьняў Шэметаў, аўтар пачынае апавяданьне за дзесяць год да Турэцкай вайны. Гэтая частка раману, фактычна ягоны разгорнуты пралёг, адлюстроўвае сялянскае гора ў шырокім гістарычным разрэзе. Але гэтае гора й бесьперапынныя няшчасьці, неадлучныя спадарожнікі селяніна, не зламалі, аднак, яго маральна. Прыроджаныя задаткі добрага ў ягонай душы засталіся някранутымі. Вымоўная з гэтага гледзішча сцэна, калі засуджаны на павешаньне за чужую віну Амеля, каб усьцерагчыся кары, доўгія гады хаваецца, вядучы жыцьцё тыповага валацугі. Наапошку ён падпілноўвае ў лесе Цітка Сядуру, каб вымусіць ад яго грошы на нелегальны выезд у Амэрыку. Ціток, вінаваты за прыпісванае Амелі злачынства, намаўляе яго напасьці на свайго брата Івана Сядуру й, прыгразіўшы сьмерцяй, дастаць гэтыя грошы. Амеля, напалавіну ўжо зьдзічэлы, горда адказвае: «Не, браце ты мой, дзякую табе за такую параду! Я гэтага не зраблю. Ты думаеш — калі я абадранец ды бяздомак, то і на ўсё здатны? Я гэтага не зраблю. Паміраць буду з голаду, а гэтага не зраблю».[331]

Нельга не падчыркнуць яшчэ аднэй важнай асаблівасьці Лобанавага раману — ягонай чыстай беларускай і наскрозь народнай мовы. Аўтар, паводля асьветы й прафэсіі мовавед, ставіцца да мовы зь вялікай рупліваcьцяй, а ў мову сваіх вясковых пэрсанажаў шчодрай рукой уводзіць зусім рэдкія й навет вузкага засягу правінцыяналізмы, добра падчырківаючы гэтым мясцовы каларыт твору.

Трэйці пісьменьнік гэтае групы — *Раман Сабаленка* распачаў літаратурную дзейнасьць яшчэ ў 1927 годзе, як паэта, каб пасьля апошняй вайны больш зактывізавацца творча й пераставіцца на жанр мастацкай прозы. Сабаленка закончыў 50-ыя й распачаў 60-ыя гады сваёй трылёгіяй «Іду

---

[330] Сяргей Гусак. У пошуках будучыні. «П», № 1, 1965, б. 173.
[331] Мікола Лобан. На парозе будучыні. Менск, 1964, б. 43.

ў жыцьцё», дзьве першыя часткі якой, напісаныя ў 1957—1960 гадох, выйшлі асобнай кніжкай пад тым-жа загалоўкам у 1961 годзе, а трэйцяя частка «Былове астаецца ў сэрцы», што пісалася ў 1960—61 гадох, выйшла ў 1965 годзе.

«Іду ў жыцьцё» — гэта ў значнай ступені твор аўтабіяграфічны, а галоўны ягоны гэрой Макар Шыянок, ад імя якога вядзецца ў першай асобе апавяданьне, літаратурны партрэт самога пісьменьніка, хоць і ўзьняты на вышыню тыпізаванага вобразу. Гісторыя жыцьця, дзейнасьці й змаганьня Макара Шыянка паказаныя на фоне сацыяльных і палітычных працэсаў у Беларусі ў 20-ых і 30-ых гадох, а ў апошняй частцы трылёгіі — на фоне апошняй вайны й партызанскага руху ў Беларусі. Пісаная на мяжы 50-ых і 60-ых гадоў, трылёгія мае ў сабе ўсе ідэйныя асаблівасьці сталінаўскіх часоў, улучна з апраўданьнем галоўным гэроем-аўтарам сыстэмы сталінаўскага тэрору ў беларускай вёсцы ў часе прымусовае калектывізацыі й пазьнейшай ажоўшчыны. Таму для разгляданага намі пяцігодзьдзя гэты, цікавы із шмат якіх гледзішчаў твор, гучыць ужо анахранізмам.

На працягу 1963—1964 году Раман Сабаленка піша, а ў 1965 годзе выдае асобнай кніжкай (спачатку друкуе ў №№ 6 і 7 «Полымя» за 1964 год) новую аповесьць «Незамужняя ўдава», якая ўжо мае ў сабе выразныя азнакі новага часу.

Аповесьць гэтая перш-наперш цікавая тым, што ў ёй шырака разгорнутая праблема дэсталінізацыі праз паказ найбольш жахлівых мамэнтаў сталінскага тэрору. У беларускай падсавецкай літаратуры ўжо цімала зьявілася твораў, у якіх выкрываліся тыя ці іншыя аспэкты сталінскіх злачынстваў. Але бадайшто ўва ўсіх іх трагэдыя сталінскае пары паказвалася адно паасобнымі штрыхамі ці эпізодамі, укліненымі ў паказ звычайнага жыцьця. У вадрознасьць ад гэных твораў, у ваповесьці «Незамужняя ўдава» факты сталінскага тэрору становяць галоўны стрыжэнь усяго дзеяньня, цэнтральную сюжэтную лінію, зь якой зьвязаныя або ад якой узалежненыя ўсе іншыя сюжэтныя лініі й праблемы твору. Апрача гэтага, Сабаленка падаў жахі сталінскага тэрору не адно намінкамі ці паўсловамі, як гэта робяць із зразумелай асьцярожнасьці шмат якія іншыя аўтары, а стараецца раскрыць усю трагэдыю гэных панурых гадоў ды паказаць яе ў васабліва войстрых сытуацыях і зыркіх хварбах.

Гэроі аповесьці «Незамужняя ўдава» Станіслаў Сопат і Альбіна Панасюк, бліскуча выканаўшы заданьне партыі ў Заходняй Беларусі й перанёсшы нялюдзкія зьдзекі ў польскай турме, уцякаюць у Савецкі Саюз, як мучанікі за камуністычную ідэю. Уцякаюць ня із собскай волі, але на загад партыі. Але тут хутка іх арыштоўваюць як польскіх шпіёнаў, ды вымушаюць іх самых да гэтага прызнацца. Як ведама, у гэным часе цімала беларускіх рэвалюцыянэраў уцякала із Заходняй Беларусі ў Савецкую Беларусь. У бальшыні гэта былі ідэйныя камуністыя й мучанікі за камуністычную ідэю. Але ў часы яжоўшчыны ўсе яны бадай бяз вынятку былі арыштаваныя, як польскія шпіёны, і фізычна зьнішчаныя. У гэтым дачыненьні Сабаленкава аповесьць мае бясспрэчную дакумэнтальную вартасьць.

Разгорнутая ў ваповесьці праблема не канчаецца на асобах Станіслава й Альбіны. У ваповесьць уведзеная яшчэ адна асоба, пры дапамозе якой

аўтару ўдалося яшчэ больш завайстрыць трагізм сталінскіх часоў. Гэта студэнтка Галіна Заранка. За тое, што яна зьлітавалася над пакінутым малым дзіцём «ворагаў народу» Станіслава й Альбіны, узяла яго да сябе пасьля іхнага арышту й гадавала, як сваё роднае, яе за гэта выкінулі за борт грамадзкага жыцьця, як суудзельніцу ў дзяржаўных злачынствах. Калі-ж пасьля апошняй вайны былы партызанскі камандзер Іван Леўчык, у ватрадзе якога працавала Галіна сувязной, запрапанаваў ёй быць ягонай жонкай, яна, хоць таксама яго кахала, адкінула гэтую прапанову дзеля шчасьця прыбранага сына й засталася «незамужняй удавой».

Вось гэткае ўвыпукленьне незавіненай крыўды найлепшых савецкіх людзей, адданых савецкіх патрыётаў ды навет мучанікаў за справы партыі, паглыбляе нявымоўны трагізм іхнае долі. З гэтага гледзішча Сабаленкава аповесьць стаіць куды вышэй за ведамую аповесьць Аляксандра Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». Гэрой гэтай апошняй Шухаў — гэта звычайны савецкі салдат, праўда, у нічым нявінаваты, але й без асаблівых заслугаў. Затое гэроі беларускага аўтара — гэта людзі рэдкіх маральных якасьцяў, крыштальна чыстых характараў і, наверх усяго, асабліва заслужаныя для справы камунізму.

Такім парадкам, аповесьць Рамана Сабаленкі «Незамужняя ўдава» — гэта найбольш зыркі паказ трагэдыі савецкіх людзей за часамі крывавага сталінаўскага тэрору й найбольш цыжкое асуджэньне сталінізму ўва ўсёй беларускай літаратуры.

*

Спасярод пісьменьнікаў малодшага пакаленьня (маючы наўвеце ня гэтулькі гады, колькі творчасьць) некаторыя стаяць ужо на парозе пісьменьніцкае сталасьці й дастаткова выявілі мастацкія асаблівасьці й галоўныя кірункі творчага разьвіцьця. Да іх трэба перш-наперш залічыць маладога, але цікавага й здольнага пісьменьніка *Міхася Стральцова.*

Крытык Яўхім Цыбук, рэцэнзуючы першы зборнік апавяданьняў Міхася Стральцова «Блакітны вецер», што выйшаў у 1962 годзе, даў гэткую пахвальную ацэну маладому пісьменьніку: «Вельмі добра, калі можна сказаць, што ў маладога пісьменьніка свой почырк. А такі почырк у Стральцова сапраўды ёсьць: уменьне надаваць вялікую нагрузку падтэксту, пільная ўвага да гукавой, настраёвай арганізацыі сказу, здольнасьць вельмі рэльефна, «рэчава» маляваць навакольны сьвет».[332]

Пасьля зборніка «Блакітны вецер», Міхась Стральцоў надрукаваў да канца 1965 году ўва ўсіх трох літаратурных часапісах — «Полымі», «Маладосьці» й «Беларусі» цімала новых апавяданьняў, што ўвайшлі ў другі ягоны зборнік «Сена на асфальце», выдадзены ў 1966 годзе. Зусім правільна падчыркнутыя рэцэнзантам Яўхімам Цыбуком асаблівасьці мастацкае прозы Стральцова ў вапавяданьнях ягонага апошняга зборніка зарысаваліся яшчэ зырчэй і паўней. Больш таго, у новых апавяданьнях Стральцова выявіліся й іншыя цікавыя асаблівасьці, што, разам з адзначанымі ўжо

---

[332] Яўхім Цыбук. З адчуваньнем прыгожага. «П», № 12, 1962, б. 166.

ўспомненым рэцэнзэнтам, выразьніваюць яго, як пісьменьніка індывідуальнага й арыгінальнага.

Стральцоў перадусім глыбокі псыхалёг, а найчасьцейшымі тэмамі ягоных апавяданьняў звычайна бываюць розныя духовыя перажываньні выведзеных у іх пэрсанажаў. Аўтар звычайна зачэпліваецца за нейкі канкрэтны жыцьцёвы выпадак, каб у сувязі зь ім разгарнуць у вапавяданьні нейкую цікавую псыхалягічную праблему. Добрым прыкладам такой творчай манеры можа служыць апавяданьне «На чацьвертым годзе вайны». Дзея апавяданьня завязваецца гэтак: «Бабуля, — высахлая, з учарнелым ад работы і старасьці тварам, — адсьцябала матузкамі малога ўнука за тое, што паабшчыпаў, не дачакаўшыся вячэры, акрайчык ацесьлівага, сьпечанага з бульбы і ячменных шароек хлеба».[333] Зусім дробны, здавалася-б, гэты выпадак паслужыў аўтару выходным пунктам, каб паказаць нявымоўнае гора гэтае сям'і, спрычыненае вайной. Да глыбіні кранае нас сваёй дзіцячай наіўнасьцяй фінальная сцэна апавяданьня, калі матка й бабуля, абняўшыся плачуць пад цяжарам гора, а хлопчык, разумеючы гэта пасвойму, суцяшае іх: «Ня плачце!.. Я ня буду чапаць больш хлеба...»[334]

Цэнтральнай праблемай шмат якіх апавяданьняў Стральцова выступае псыхалягічная праблема вёскі й гораду. Гэтую праблему ставіць пісьменьнік не ў актуальным сяньня сацыяльным пляне, калі моладзь, здабыўшы нейкую спэцыяльнасьць, стараецца за ўсякую цану ўцячы ад калгаснай шэрасьці й галіты ў горад, але разьвівае яе ў пляне чыста псыхалягічным. Маладыя людзі зь вёскі, скончыўшы вышэйшую навуку, жывуць і працуюць у горадзе. Але ўсёй душой яны зьвязаныя зь вёскай, нейкая падсьвядомая сіла іх цягне назад у вёску. Але ў вёсцы яны ўжо чужыя, быццам адно госьці. Гэтак і называецца адно з апошніх апавяданьняў Стральцова — «Госьць». У ім сялянскі сын Пятро Шыбека, скончыўшы інстытут, уладкаваўся на працу ў горадзе. Але, пасварыўшыся з начальствам, кідае працу, новай працы шукаць у горадзе й ня думае, а вяртаецца назад у вёску, каб «уладкавацца на работу ў калгасе ці ў мястэчку — на якінебудзь гароднінасушыльны заводзік».[335] Але ў вёсцы ўсе суседзі, навет і родная матка ўважаюць яго адно госьцем. Калі-ж ён казаў, што вярнуўся ў вёску назусім, дык «усе чамусьці ўсьміхаліся на гэта, як на дасьціпны жарт».[336]

Псыхалягічны канфлікт між вёскай і горадам пісьменьнік цікава разьвязвае ў вапавяданьні «Сена на асфальце», ад якога атрымаў назоў увесь зборнік. Дзядзька Ігнат і сялянскі сын Віктар, што нядаўна скончыў інстытут, жывуць у горадзе, але абодвы тужаць за вёскай. «Я ведаю, што бязь вёскі нельга, але і бяз гораду нельга таксама», — разважае Віктар.» — Што я думаю, дык гэта — каб тое і другое ў чалавечай душы прымірыць».[337] І вось аднэй летняй раніцай абодвы выходзяць з косамі на гарадзкі пляц і косяць перастарэлую траву, уяўляючы ў думках, што яны

---

[333] Міхась Стральцоў. На чацьвертым годзе вайны. «М», № 9, 1964, б. 3.
[334] Тамсама, б. 8.
[335] Міхась Стральцоў. Госьць. «П», № 6, 1965, б. 108.
[336] Тамсама, б. 111.
[337] Міхась Стральцоў. Сена на асфальце. «М», № 2, 1964, б. 63.

на вясковым лузе. Апавяданьне канчаецца заўвагай Віктара: «Сена на асфальце, — падумаў я, — вёска ў горадзе . . .»[338]

Тонкае ўменьне пазнаваць чалавека й аналізаваць ягоныя перажываньні добра выявіліся ў вапавяданьні «Сьвет Іванавіч — былы Дон Жуан». Малодшы навуковы супрацоўнік музэю 30-ёхгадовы Жэнька, бачучы ў сучасным грамадзтве мяшчанскае прыстасавальніцтва, няшчырасьць і падман, стараецца або нейк адсэпаравацца ад яго, або хвастаць яго іструвом зьедлівай гіроніі. З гледзішча на псыхалягічны аналіз складаных і часта супярэчлівых перажываньняў галоўнага гэроя й на ўніклівую характарыстыку сяньняшняга гарадзкога грамадзтва апавяданьне гэтае адно з найлепшых у Стральцова.

Апавяданьні Стральцова вельмі зьмястоўныя й ляканічныя сваім моўным матар'ялам. Калі-ж і бываюць у іх адгалінаваньні ад галоўнага сюжэту, дык не патое, каб абы запоўніць чымсьці час і месца ў вапавяданьні, але маюць свой сэнс і мэту. Прыкладам, у вапавяданьні «Госьць» Пятро, чакаючы на спозьнены самалёт, чуе за перагародкай пачакальні ажыўленую гутарку двух маладых людзей пра вершы аднаго паэты. «Чытаў я ў газэце твайго Валькі вершы: пра кукурузу ўсё ды пра малако», — заўважае адзін зь іх. Другі-ж адказвае: «Спачатку і пра кукурузу трэба, каб начальства заўважыла, пахваліла, ці як у іх там».[339] Вось гэты кароценькі эпізод выкарыстаў аўтар, каб зь няпрыхаванай гіроніяй схарактарызаваць хрушчоўскія гады.

Проза Стральцова пераважна лірычная й старанна адшліфаваная, як у вершы. Статычныя сцэны й абразы прыроды пісьменьнік умее перадаць усяго некалькімі штрыхамі, але яны вельмі пуката зарысоўваюцца ў нашым выбражэньні, як, прыкладам, наступны абразок з апавяданьня «Перад дарогай»:

> За акном нетаропка шапацеў дождж, і відно было ўсё ў садзе: змакрэлыя яблыні, апалыя жоўтыя яблыкі ў прытаптанай траве, бульбоўнік на барознах, і зусім блізка, ля акна, рабінка: вялікія зеленаватыя кроплі дажджу вісьлі на яе галінах, адрываліся, падалі долу. У суседняй хаце, за садам, відаць, таксама палілі ў печы: па мокрым даху слаўся дым.[340]

Гэты абразок нагэтулькі канкрэтны й плястычны, што быццам бачым яго намаляваным на палатне ўмелым мастаком.

Міхась Стральцоў бясспрэчна здольны, арыгінальны й самабытны пісьменьнік. Калі-ж да гэтага яшчэ дадаць ня менш ачавідную ягоную руплівасьць і стараннасьць, зь якімі ён апрацоўвае свае апавяданьні, дык ад яго шмат можна спадзявацца ў галіне беларускай мастацкай прозы.

Іншы пісьменьнік гэтае групы *Мікола Ракітны*, хоць і шмат старэйшы за Міколу Стральцова й з большым за яго пісьменьніцкім стажам, канчаткова не патрапіў яшчэ знайсьці адпаведнага свайму таленту месца ў беларускай навэлістыцы.

---

[338] Тамсама, б. 72.
[339] Міхась Стральцоў. Госьць, «П», № 6, 1965, б. 109.
[340] Міхась Стральцоў. Перад дарогай. «П», № 1, 1962, б. 153.

Апошні, а з чаргі чацьверты зборнік апавяданьняў Міколы Ракітнага «Была вясна», што выйшаў у 1964 годзе, крытыка сустрэла няпрыхільна. Рэцэнзэнты гэтага зборніка — Якаў Герцовіч[341] і Г. Юрчанка[342] адназгодна вылучылі ўсяго два апавяданьні — «Тайна» і «Ён ведаў іх», як удалыя з мастацкага боку. Ува ўсіх-жа іншых апавяданьнях зборніка яны знайшлі й кампазыцыйную аднастайнасьць, і небагаты арсэнал мастацкіх прыхваткаў, і сюжэтную неўматываванасьць, і схэматызм у паказе людзей, і цэлы сьцяг іншых хібаў. Тым ня менш, абодвы крытыкі адзначылі, што Мікола Ракітны ўсё-ж здольны й таленавіты пісьменьнік, а знойдзеныя імі заганы — вынік ягонай лёгкадумнай непатрабавальнасьці да самога сябе.

З такой суровай ацэнай апошняга зборніка Ракітнага прыходзіцца, нажаль, згадзіцца. Таму кажнага энтузіястага мастацкай літаратуры павінна ўзрадаваць тое, што ў сваіх найнавейшых апавяданьнях Мікола Ракітны пачаў больш сур'ёзна працаваць над сабой. Гэта відаць ужо ў ягоным першым пасьля выхаду ўспомненага зборніка апавяданьні «Двое», што зьявілася ў 1964 годзе ў шостым нумары «Полымя». У гэтым апавяданьні інжынеру Арцёму Бальшакову, чалавеку з выняткавымі грамадзкімі якасьцямі, што вымагаюцца ад перадавых будаўнікоў камунізму, пісьменьнік супрацьстаўляе заскарузлага ў вузкім мяшчанскім эгаізьме й собсьніцкай псыхалёгіі Цярэньцяга Марцалюка, які ўсёй сваёй небагатай існасьцяй зьвернуты ў мінулае. Тэма ў сяньняшняй савецкай літаратуры няновая, як і няновае ейнае наскрозь тэндэнцыйнае ўжыцьцяўленьне. Але мастацкае апрацаваньне гэтае тэмы й раскрыцьцё характараў двух кантраставых тыпаў вызначаецца ўжо ўмеласьцяй завайстраць канфлікт ды здольнасьцяй абсэрвацыі.

Яшчэ большая ўдача спаткала Ракітнага ў ягоных апавяданьнях 1965 году, што зьявіліся ў немалой колькасьці ў «Полымі» й «Беларусі». Гэта кароценькія, часта зусім мініятурныя абразкі ці, як лепш іх назваць, замалёўкі з жыцьця, быту й людзей сяньняшняй беларускай вёскі. Усе яны абнятыя агульным надзагалоўкам «Сярод людзей сваіх». Дзея гэтых апавяданьняў зьлякалізаваная ў вёсцы Пятроўка, — гэтак, відаць, пісьменьнік зьіначыў тут назоў сваёй роднай вёскі Петрыцкае Брагінскага раёну Гомельшчыны, — што ляжыць над Дняпром пры самай мяжы з Украінскай ССР.

Вясковыя людзі ў гэтых апавяданьнях жывуць сяньняшнім калгасным жыцьцём, задаволеныя з новых парадкаў, але не парываюць зь мінуўшчынай. Прыкладам, апавяданьне «Міходзя» пачынае пісьменьнік гэткай заўвагай:

> У кожным сяле ёсьць два-тры шматлікія, галінастыя роды, якія карыстаюцца ў людзей агульнай павагай. За гаспадарлівасьць, за сялянскую мудрасьць, за ўсё тое, чым жыве і з чаго складаецца побыт вясковага ладу. Некалі, яшчэ да калгасаў, гэтыя гаспадары выяжджалі ў поле на спраўных, сытых конях, снапы вазілі высока накладаючы вазы. Ды і двары іх розьніліся ад іншых — і хатамі, і хлявамі, і нават варотамі-брамаю.

---

[341] Якаў Герцовіч. На тым-жа месцы. «П», № 8, 1964, б. 185.

[342] Г. Юрчанка. Аб ісьцінах банальных. «ЛіМ», № 23, 19 сакавіка 1965.

Гэтыя гаспадарлівыя роды лічыліся такімі і цяпер. Выбіраецца на сходзе брыгадзір ці жывёлавод — чалавек міжволі ў мінулае кідае: «Э, а зь якога ён роду? Як яго бацька ці дзед некалі дбаў?» — і толькі пасьля гэтага падыме руку.[343]

У гэтых апавяданьнях-замалёўках Ракітны добра выявіў талент тонкага назіральніка. Усяго некалькімі, але выразнымі штрыхамі ён зарысоўвае чымсьці характэрны тып селяніна, паказваючы яго на фоне нейкага вясковага здарэньня. Гэты тып звычайна гэтак рэалістычна адмаляваны, нярэдка зь лёгкім гумарам, што ўяўляецца нам, як дакладна скап'яваны з натуры. Не зважаючы на тое, што такіх апавяданьняў-замалёвак у цыклю «Сярод людзей сваіх» аж трыццаць сем, тэй аднастайнасьці й схэматычнасьці, пра якія ўспаміналі згаданыя рэцэнзэнты зборніка «Была вясна», тутака ўжо няма бадайшто й сьледу.

Вясковыя пэрсанажы ў вапавяданьнях Ракітнага лучыць агульная для ўсіх іх пачуцьцёвая прывязанасьць да роднае вёскі, да зямлі бацькоў і прадзедаў, да роднага краю. У вапавяданьні «Кубанцы» выводзіць пісьменьнік на сцэну жыхароў вёскі Рудакі, «закаранелых дамаседаў», як ён называе іх. Але вось паддаліся й яны спакусе ды, пакінуўшы свае хаты, перасяліліся на Кубань. Хоць і зажылі тамака багацей, чымся дома, але, кажучы аўтаравымі словамі, «толькі год прастаялі хаты пустыя, з пазабіванымі вокнамі — у тых, хто не прадаў іх. Вярнуліся. Усе да аднаго вярнуліся ў свае родныя Рудакі — вясной, за якія два-тры месяцы да пачатку вайны».[344]

Старая Лубяніха гэтак расказвае ўнукам аб прычыне іхнага павароту:

Лажок Міхееў — вось што, родныя, мне спакою не давала. Гляджу на голы ды шырокі стэп, а перад вачмі лясок яго бярозкамі шуміць. А ў ім лісічак поўна. А ў ім чарніцы і верасы агнём сінім гарацъ... Мне, сказаць, Міхееў лажок сьніўся. А другога Хмуроўскія разлогі назад клікалі, а трэйці ўсё пра Млінкоўскія горкі думаў... І стала ўсё няміла. Ніякае багацьце людзей ня ўтрымала...»[345]

Новыя апвяданьні Міколы Ракітнага, здаецца, раскрылі сакрэт, у якім кірунку можа найбольш пасьпяхова разьвівацца ягоны пісьменьніцкі талент. Гэтыя апавяданьні паказваюць, што найбольш адпаведнай для Ракітнага пісьменьніцкай стыхіяй — жыцьцё, быт і людзі беларускай вёскі.

Тонкім і дакладным аналітыкам людзкіх характараў выступае малады пісьменьнік *Іван Чыгрынаў*. Ягоныя апавяданьні зьяўляліся на бачынах усіх трох літаратурных часапісаў на працягу ўсяго пяцігодзьдзя, большая частка якіх выйшла ў 1965 годзе асобным зборнікам «Птушкі ляцяць на волю», вельмі прыхільна сустрэтым крытыкай. У гэтых першых ягоных апавяданьнях знаходзім шмат чаго цікавага й своеасаблівага якраз для Чыгрынавага, як пісьменьніка з выразнай творчай індывідуальнасьцяй.

Вялікая частка апавяданьняў Чыгрынава або цалком пабудаваная на матар'яле апошняе вайны й партызанскага змаганьня ў Беларусі, або вы-

---

[343] Мікола Ракітны. Мяфодзя. «П», № 1, 1965, б. 4.
[344] Мікола Ракітны. Кубанцы, «П», I, 1965, б. 14.
[345] Тамсама.

карыстоўвае гэты матар'ял у паасобных эпізодах, уплеценых у дзею апаваданьняў пра сучаснасьць. Выпадкі й падзеі мінулай вайны бытуюць, аднак, у творах Чыгрынава не самі для сябе, а звычайна становяць адно фон для паказу нейкай жыцьцёвай праблемы або раскрыцьця нейкай рысы чалавечага характару. Апавяданьні Чыгрынава гэтак кампазыцыйна пабудаваныя, што трымаюць увагу чытача ўвесь час у напружаньні. Яны на самым ужо пачатку могуць нечым заінтрыгаваць чытача, а іхная сюжэтная разьвязка звычайна неспадзяваная й часта іншая ад тэй, якой зь лёгікі папярэдняга разьвіцьця дзеі можна спадзявацца.

Вось, прыкладам, завязка дзеі або экспазыцыя апавяданьня «Маці»: «Тое, што Рэйдзіха нечакана зьявілася ў Бароўцы, дзе яе ніхто ўжо ня бачыў цэлых трыццаць год, больш таго, дзе яе ніхто не спадзяваўся нават бачыць — пра яе даўно не ўспаміналі ў вёсцы, бо к слову ніяк ня прыходзілася, — зьдзівіла ня толькі Тараськову Ганну: навіна за якую паўгадзіну абляцела ўжо сорак бароўскіх двароў, і ў кожнай хаце толькі і гаварылі пра гэта».[346] Чытач адразу насьцярожваецца й чакае адказу на пытаньне, хто-ж такая была Рэйдзіха? Але аўтар не сьпяшаецца з разьвязкай загадкі. Ён уводзіць у вапавяданьне штораз новыя дэталі, зьвязаныя із зьяўленьнем Рэйдзіхі, пасьлей паведамляе, што Ганна Тараськова, як-бы нічога ў нічым ня бывала, запрашае яе да сябе нанач, укладае пасьля вячэры спаць ды вядзе зь ёй доўгую прыязную гутарку аб розных жыцьцёвых дробязях. І толькі пад канец даведваемся пра жахлівы выпадак: калі ў сорак другім годзе эсэсаўскія карнікі напалі на вёску Бароўку, дык сын Рэйдзіхі, Якаў Рэйда, будучы «ў чужой форме з чарапамі на рукаве», падскочыў быў да старога Тараська, Ганнінага бацькі, і павёў яго да вісельні. Тады-ж Немцы спалілі й Бароўку, а «Рэйдзішын сын першы паднёс палаючы смаляк пад саламяную страху Тараськовай хаты».[347] І вось цяперака, па дваццацёх гадох, Ганна Тараськова, забыўшыся на страшную крыўду, прыймае ў сваёй хаце старую Рэйдзіху, як жаданую госьцю.

На першы пагляд, гісторыя проста няверагодная. І таму Міхаіл Гарбачоў, маючы на думцы гэтае апавяданьне, зрабіў быў гэткі дакор Чыгрынаву: «Ці ня гэтая сьляпая вера ў перавагу падсьвядомага элемэнту ў чалавеку, ці ня голы псыхалягізм прывялі маладога пісьменьнінка І. Чыгрынава да ўсёдараваньня, па сутнасьці, да апраўданьня здрадніцва».[348]

Падобнае пачуцьцё чалавечнасьці становіць галоўны псыхалягічны стрыжэнь і ў вапавяданьні «У баку ад дарогі». Экіпаж ваеннае санітарнае машыны адмаўляецца бяз дай прычыны падабраць цяжка параненага капітана й пакідае яго на полі бою на няўхільную сьмерць. Але вось просты вясковы хлопец Міцька, сам наражаючыся на небясьпеку, стараецца за ўсякую цану выратаваць капітана. Пазьней даведваемся, што Міцька быў несправядліва пакрыўджаны савецкай уладай, якой верна служыў і за якую змагаецца капітан. Ён якраз вяртаецца з далёкіх астравоў

---

[346] Іван Чыгрынаў. Маці. «П», № 1, 1963, б. 87.

[347] Тамсама, б. 89.

[348] Максім Гарбачоў. Ня кожная сьцежка выводзіць на бальшак. «ЛіМ», № 30, 12 красавіка 1963.

на поўначы, дзе адбываў цэлы год пакараньне за тое, што не із сваёй віны спазьніўся быў на адну гадзіну на работу. Наагул праблема высакароднасьці й гуманнасьці або, як прыгожа выразіўся рэцэнзэнт зборніка «Птушкі ляцяць на волю» Ан. Шаўня, «паэзія чалавечых пачуцьцяў, чалавечае хараство, якое праяўляецца ў розных, часамі зусім нязначных учынках»[349] — цэнтральная праблема ў вапавяданьнях Чыгрынава.

У вапавяданьнях Чыгрынава асабліва хвалююць перажываньні й пачуцьці гэрояў да блізкіх ім асобаў. Гэтак капітан рачнога плаваньня Чарэнда ў вапавяданьні «Шчасьлівае месца», гнаны гэтымі пачуцьцямі, «памяняў Волгу на Сож, а цеплаход на маленькі абшарпаны параходзік, на якім сапраўднаму мараку, па праўдзе кажучы, сорамна і на палубе стаяць»,[350] каб адшукаць сваю дачку, якую, калі ў вапошнюю вайну бомба забіла ейную матку, падабралі добрыя людзі ў ваколіцах Сожа. Іншае апавяданьне — «Па сьлядох сваіх» аснованае на выпадку, калі былы партызан Вацура прыяжджае з гораду ў вёску, каб адшукаць магілу сваёй каханай, партызанскай разьведчыцы Насты.

Звычайныя, здавалася-б, у вабодвых апавяданьнях выпадкі пададзеныя аўтарам гэтак падрабязна й дакладна, што, як правільна заўважыў Анатоль Вярцінскі, «у сваіх апісаньнях Іван Чыгрынаў часта карыстаецца прыёмамі нарысіста».[351] Іншай мастацкай асаблівасьцяй у Чыгрынава тое, што ў ягоных апавяданьнях кажны вобраз, кажная, навет найдрабнейшая дэталь мае вызначаную мастацкую функцыю. Чыгрынаў добры таксама майстра ў будаваньні дыялёгаў, якія нярэдка пераважаюць над апісальным элемэнтам апавяданьня й тым самым ажыўляюць дзею. Для поўнай характарыстыкі пісьменьніка варта яшчэ прывесьці зусім правільную заўвагу Юліі Канэ, што Чыгрынаву «ўдалося стварыць шэраг арыгінальных чалавечых характараў, вобразаў людзей адначасова звычайных і ў нечым адметных і таму вартых нашай увагі й роздуму».[352]

Што, аднак, можна закінуць Чыгрынаву, дык гэта тое, што ў ягоных апавяданьнях вельмі слаба падчыркнуты беларускі нацыянальны калярыт. Гэты нацыянальны калярыт у бальшыні выпадкаў абмяжоўваецца адно беларускай мовай апавяданьня, нярэдка захварбаванай магілеўскімі дыялектызмамі, ды лякалізацыяй іхнага дзеяньня пераважна над ракой Бесядзяй у роднай пісьменьніку Магілеўшчыне. Усё-ж іншае нічым ня прыгадвае роднага краю, навет прозьвішчы ягоных мясцовых пэрсанажаў пераважна тыпова расейскія.

Чыгрынаў у шмат якіх дачыненьнях пісьменьнік-наватар. Ужыцьцяўляючы свае творчыя задумы, ён ня йдзе пратаптанымі традыцыйнымі сьцежкамі, але сьвядома ставіць перад сабой нялёгкія творчыя заданьні, зь якіх найчасьцей выходзіць пераможна.

Сярод маладых пісьменьнікаў асобнае займае месца *Уладзімер Дамашэвіч* войстрай праблемнасьцяй сваіх твораў. Першы зборнік ягоных апа-

---

[349] Ан. Шаўня. Гартаючы першы зборнік. «Б», № 11, 1965, б. 27.

[350] Іван Чыгрынаў. Шчасьлівае месца. «М», № 6, 1965, б. 51.

[351] Анатоль Вярцінскі. Гэта было з пакаленьнем... «П», № 10, 1965, б. 179.

[352] Юлія Канэ. Таварыш людзям. «М», № 2, 1966, б. 124.

вяданьняў «Заклінаю ад кулі» пра гаротнае жыцьцё беларускага сялянства ў Заходняй Беларусі пад Польшчай і аповесьць «Між двух агнёў» (1963 год), аснованая на падзеях апошняе вайны й партызанскага руху ў Беларусі, хоць і выяўлялі бясспрэчныя здольнасьці й талент аўтара, былі яшчэ адно першымі спробамі ягоных пісьменьніцкіх сілаў, не пазбаўленымі хібаў і заганаў. Таму й крытыка сустрэла іх ня вельмі прыхільна, знаходзячы ў паасобных апавяданьнях і аповесьці некаторую ненатуральнасьць і павярхоўнасьць у паказе людзкіх характараў, часамі наіўнасьць у матывацыі паасобных сюжэтных вузлоў.[353]

Але вось у 1965 годзе зьявілася ў «Полымі» некалькі новых Дамашэвічавых апавяданьняў таксама на тэмы гаротнага жыцьця беларускіх сялян у Заходняй Беларусі перад апошняй вайной. Гэтыя апавяданьні, асабліва два зь іх — «Сівы конік» і «Начныя страхі» зьвяртаюць на сябе ўвагу рэалістычным адлюстраваньнем жыцьця, тонкім псыхалягічным аналізам характараў і шчырасьцяй перажываньняў аўтарам нявымоўнага сялянскага гора.

Далейшым значным крокам наперд на шляху творчага разьвіцьця пісьменьніка — ягоная аповесьць із студэнцкага жыцьця «Студэнты апошняга курсу», надрукаваная ў № 10 «Маладосьці» ў 1965 годзе. Дзея аповесьці разгортаецца ў палавіне 1952 і напачатку 1953 году, калі ўжо прытупілася істрыво сталінаўскага тэрору, хоць спадчына ўсяго таго благога, што было створана сталіншчынай у 30-ых гадох, яшчэ заставалася. Пра гэта студэнты часта ўспамінаюць і асьцярожна міжсобку гавораць. Прыкладам, студэнт Рамашка ў бузкім коле сяброў расказвае наступнае:

> Перагібаў хапала... Напрыклад, дзядзька быў паляўнічы, меў стрэльбу. Дык значыць, у час вайны ён можа страляць у нашых байцоў ці мае канкрэтнае заданьне забіць старшыню сельсавету або сакратара райкому. Былі ў чалавека галубы, значыць, ён шпіён, адсылае зьвесткі недзе ў Польшчу ці куды...
>
> Мой бацька прайшоў праз усё гэта... Ён быў настаўнікам фізыкі, любіў радыятэхніку. Майстраваў свой прыёмнік. За гэта яго і ўзялі... Першы раз пусьцілі, а другі — як у ваду кануў. Ніхто ня ведае, дзе ён і што зь ім.[354]

Найбольш зындывідуалізаваны й адрозны ад іншых студэнтаў псыхалягічны тып у ваповесьці студэнт філфаку Русіновіч. Калі ўсе іншыя студэнты асабліва ня ўглыбляюцца ў жыцьцёвыя й грамадзкія праблемы й бястурботна жывуць сяньняшнім днём, Русіновіч глядзіць на жыцьцё глыбака й паважна. Гэта ня проста літаратурны пэрсанаж, але тып, задуманы аўтарам, як прадстаўнік пэўнага грамадзкага асяродзьдзя. Паводля аўтаравае характарыстыкі, ён «быў ціхманы, няпрыкметны хлопец, ня вызначаўся вельмі сваімі здольнасьцямі, але быў чулы да чужога гора, спагадлівы, умеў цаніць дружбу».[355] А як студэнт, Русіновіч «вызначаўся маруднасьцю й павольнасьцю думкі, меў трохі як-бы замару-

---

[353] Міхась Ярош. Творчы неспакой пісьменьніка. «П», № 12, 1963; Мікола Луфераў. Пошукі даюць плён. «М», № 2, 1964.

[354] Уладзімер Дамашэвіч. Студэнты апошняга курсу. «М», № 10, 1965, б. 29.

[355] Тамсама, б. 15.

джаную рэакцыю, але ўсё тое, што ён гаварыў ці даказваў, было яго ўласным, выказваным пасвойму».[356]

На прыкладзе сваіх бацькоў, калгасьнікаў з пад Баранавіч, Русіновіч бачыць, што калгаснае жыцьцё не такое ўжо «радаснае й заможнае», як яго размалёўвае савецкая прапаганда. Балюча пераżываючы нядолю сваёй сястры Зосі, нявінна засуджанай за дробную растрату ў краме, у якой працавала, на пяць год цяжкіх работ на далёкай Поўначы, ён пераконваецца аб бюракратычна-фармальнай бяздушнасьці савецкага правасудзьдзя. Гэткі-ж бяздушны бюракратызм пануе ў унівэрсытэце. Разьмяркоўваючы выпускнікоў на працу, камісія кіруецца ня тым, што «закладзена ў натуры» кандыдата, але анкетнымі дадзенымі, ахвотна прыслухоўваючыся навет да злосных даносаў «аматараў плётак і брудных жартаў», як характарызуе пісьменьнік студэнта Краскіна.

Русіновіч добра бачыць і парадоксы савецкай нацыянальнай палітыкі. У сваёй дыплёмнай працы «Андрэй Лабановіч — прадстаўнік новай беларускай інтэлігенцыі» ён разьвіў тэзу, што «мова — самая галоўная рыса нацыянальнай культуры». Але выкладчык беларускай літаратуры Юскавец зрабіў яму дакор, што гэтак пастаўленае пытаньне было правільным адно ў той час, калі, як ён гаворыць, «мову меншасьцяў наагул ня лічылі за мову, калі многія народы ня мелі свайго друкаванага слова, а то нават і альфавіту». Гэта, аднак, ня пераконвае Русіновіча, і ён у думках адказвае свайму прафэсару: «А цяпер такія пытаньні зьнятыя з парадку дня? Няўжо яны ўжо вырашаны на ўсе сто працэнтаў?»[357]

Русіновіч — праўдападобна аўтапартрэт самога аўтара, а аповесьць у ладнай ступені аўтабіяграфічная. Русіновіч ня прыпадкова за тэму сваёй дыплёмнай працы выбраў Андрэя Лабановіча, бо й ён сам — той-жа Лабановіч, адно ў іншых гістарычных абставінах пачатку 50-ых гадоў. Ён, як і коласаўскі Лабановіч, прадстаўляе сабой усе лепшыя духовыя рысы й грамадзкія імкненьні маладой беларускай інтэлігенцыі свае эпохі.

Дзея аповесьці канчаецца сьмерцяй Сталіна, калі, як кажа ў фінальных словах аўтар, «жыцьцё крута брала ў новы бок». Для Русіновіча-ж «жыцьцё крута брала ў новы бок» яшчэ й таму, што ў гэтым мамэньце памёр і ягоны бацька, і ён змушаны ўзяць на сябе ўсю адказнасьць за сям'ю. Але пра тое, што-ж будзе далей у жыцьці краю й Русіновічавым асабіста, аўтар ня робіць ніякіх нагадак. Магчыма, ідучы ўзноў-жа за Коласавым прыкладам, Дамашэвіч будзе весьці далей гісторыю жыцьця Русіновіча, і аб тым, як будзе на гэным другім крутым баку жыцьця, ён раскажа ў сваіх наступных творах.

Гэтак, на фоне вясёлага й бястурботнага студэнцкага жыцьця, Дамашэвіч патрапіў у васобе Русіновіча стварыць цікавы, глыбока засяроджаны й жыцьцёва паўнавартасны тып маладога беларускага інтэлігента. Постаць Русіновіча дый уся аповесьць «Студэнты апошняга курсу» — бясспрэчнае творчае дасягненьне Уладзімера Дамашэвіча.

Маладая зьмена беларускай мастацкай прозы мае яшчэ некалькіх таленавітых прадстаўнікоў, што ўжо выявілі бясспрэчныя літаратурныя

---

[356] Тамсама, б. 16.
[357] Тамсама, б. 49 і 50.

здольнасьці й маюць за сабой па некалькі кніжак сваіх апавяданьняў і аповесьцяў. Да такіх перш-наперш можна залічыць Міколу Лупсякова, Вячаслава Адамчыка, Алену Васілевіч, Антона Алешку, Васіля Хомчанку, Міколу Ваданосава, Аўгена Васілёнка, Леаніда Гаўрылкіна. З большымі або меншымі посьпехамі стаўляюць першыя крокі ў празаічным жанры маладыя пісьменьнікі Аркадзь Марціновіч, Мікола Капыловіч, Павал Ткачоў, Уладзімер Шыцік, Галіна Васілеўская, Уладыслаў Нядзьведзкі, Кляра Пішчыкава, Леанід Главацкі, Ніна Маеўская, Валентын Мысьлівец, Міхась Вышынскі, Іван Шальманаў і іншыя. Некаторыя аўтары, а сярод іх і старэйшыя, абраўшы галоўным сваім жанрам паэзію, часткава працуюць і ў жанры мастацкае прозы. Сярод іх неабходна назваць Сяргея Грахоўскага, Кастуся Кірэенку, Міколу Арочку, Алеся Ставера.

Наагул-жа першая палавіна 60-ых гадоў была для беларускай мастацкай прозы асабліва плённая. Дзякуючы такім высока таленавітым пісьменьнікам, як Іван Мележ, Уладзімер Караткевіч, Янка Брыль, Іван Шамякін, Васіль Быкаў ды некаторыя іншыя, беларуская мастацкая проза дасягнула ў гэтым пяцігодзьдзі такіх узвышшаў, на якіх яшчэ ня была дагэтуль.

## IV

## ДРАМАТУРГІЯ

Драматург Андрэй Макаёнак свой судаклад «Аб стане сучаснай беларускай драматургіі» на пятым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі пачаў наступнымі словамі: «трэба прызнацца, што нам, драматургам, было крыху сорамна за свае сьціплыя посьпехі ў параўнаньні із заслужанай славай нашых сяброў празаікаў і паэтаў».[358] Калі беларуская паэзія й мастацкая проза разьвіваюцца даволі буйна й з кажным годам маюць штораз большыя дасягненьні, дык галоўна дзякуючы таму, што разьвіцьцё гэтых літаратурных жанраў залежыць у васнаўным ад іхных аўтараў — паэтаў і празаікаў. Інакш з драматычным жанрам, разьвіцьцё якога залежыць ня толькі ад драматургаў, але ў значнай ступені й ад тэатраў. Тымчасам тэатры Беларусі, абсаджаныя дырэктарамі й рэжысэрамі пераважна расейскай нацыянальнасьці або зрусыфікаванымі Беларусамі, не зацікаўленыя ў беларускім нацыянальным рэпэртуары. Газэта «Літаратура і Мастацтва» на самым пачатку 1965 году ў сваёй перадавіцы пісала:

> Будзем шчырымі — бадай, найменш цікавым быў мінулы год для нашых драматычных тэатраў. Вельмі мала нарадзілася спэктакляў, якія-б сталі падзеяй у жыцьці рэспублікі. Выклікае трывогу доўгая адсутнасьць узаемаразуменьня паміж тэатрамі й нацыянальнай драматургіяй.[359]

---

[358] Андрэй Макаёнак. Аб стане сучаснай беларускай драматургіі. «ЛіМ», № 40, 17 травеня 1966.

[359] Руку на дружбу, 1965-ы! «ЛіМ», № 2, 5 студзеня 1965.

Беларускі драматург Кастусь Губарэвіч яшчэ ў 1964 годзе скардзіўся, што «калі ў тэатрах была не фармальная, не паказная, а сапраўдная зацікаўленасьць у рабоце зь беларускімі драматургамі, драматургі ахвотна пісалі, а тэатры ставілі іх п'есы. Сяньня-ж, нажаль, такой зацікаўленасьці няма».[360]

Тое-ж самае й у галіне беларускай опэры. Старэйшы беларускі кампазытар, аўтар некалькіх опэр Аўген Цікоцкі ў канцы 1964 году пісаў, што яшчэ нядаўна беларускія кампазытары, працуючы ў галіне музычнага тэатру, у цэнтр сваёй увагі ставілі напеўнасьць і мэлядычнасьць зьвернутую да народных крыніц. «Нажаль, гэтыя добрыя традыцыі садружнасьці нашага тэатру з кампазытарамі й лібрэтыстымі, што працавалі ў галіне опэрнага мастацтва, у наступныя гады былі згублены»,[361] — сьцьвярджаў кампазытар. А на адкрытым партыйным сходзе ў Саюзе кампазытараў БССР у сьнежні 1965 году было ўжо сьцьверджана, што ў вадзіным у Беларусі менскім тэатры опэры й балету «ў вапошні час амаль зусім зьніклі беларускія опэрныя й балетныя спэктаклі».[362]

Прычыны крызісу сучаснай беларускай драматургіі, выкліканыя абыякавасьцяй і навет няпрыхільнасьцяй да яе з боку тэатраў, найшырэй былі выяўленыя на апошнім пісьменьніцкім зьезьдзе. Усе гэтыя прычыны вылучна нацыянальнага характару: папершае, даваньне перавагі ў тэатрах чужым, найчасьцей расейскім п'есам пры адначаснай дыскрымінацыі п'есаў беларускіх; падругое, адсутнасьць у тэатрах рэспублікі рэжысэрскіх і ў некаторай меры акторскіх кадраў, што маглі-б працаваць над пастаноўкамі беларускіх п'есаў; патрэйцяе, колькасная перавага расейскіх тэатраў у Беларусі над тэатрамі, што працуюць у беларускай мове.

Усе бяз вынятку тэатры Беларусі неахвотна прыймаюць для пастаноўкі п'есы беларускіх аўтараў, даючы пяршынство й перавагу або п'есам замежным, ясна, ідэялягічна сваяцкім, або расейскім, як клясычным, гэтак і савецкім. Беларускі драматург Аркадзь Маўзон прыгадаў на пісьменьніцкім зьезьдзе, як агульную зьяву, наступнае: «Маскоўскага аўтара бязь ніякага роздуму бярэ кажны тэатр, а нашага — зь вялікай неахвотай».[363]

Як вынік такіх дачыненьняў да беларускага нацыянальнага рэпэртуару, можна прывесьці факт, што із шумным назовам Дзяржаўны ордэну Леніна акадэмічны тэатр опэры й балету БССР, выяжджаючы летам 1964 году на гастролі ў гарады Расеі, павёз быў з сабой адзінаццаць опэр і сем балетаў, зь якіх толькі адна опэра — А. Туранкова «Яснае сьвітаньне» і адзін балет — Г. Вагнэра «Сьвятло і цені» — былі беларускія.[364] Пра гастролі ў тым-жа 1964 годзе драматычных тэатраў «Літаратура і Мастацтва» пісала:

---

[360] Кастусь Губарэвіч. У падмурак помніка. «ЛіМ», № 44, 2 чырвеня 1964.

[361] Я. Цікоцкі. Опэрны жанр, яго праблемы і патрэбы. «ЛіМ», № 103, 25 сьнежня 1964.

[362] Вынікі музычнага году. «ЛіМ», № 93, 8 сьнежня 1965.

[363] Разам з партыяй, разам з народам. «ЛіМ», № 41, 20 травеня 1966.

[364] Далёкія і блізкія маршруты. «ЛіМ», № 43, 29 травеня 1964.

Што-ж датычыць Гродзенскага тэатру, дык у яго рэпэртуары няма ніводнай арыгінальнай пастаноўкі. Выклікае зьдзіўленьне той факт, што Гомельскі тэатр, знаходзячыся на гастролях у Малдавіі амаль на працягу цэлага месяца, яшчэ ні разу не паказаў свой адзіны беларускі твор «Лявоніха на арбіце».

Усё гэта павінна па-сапраўднаму занепакоіць і кіраўнікоў тэатраў, і пісьменьніцкую грамадзкасьць. Становішча, якое склалася ў тэатрах з арыгінальным рэпэртуарам, павінна зьявіцца прадметам сур'ёзнага абмеркаваньня.[365]

Рэжысэрскі й у значнай ступені акторскі пэрсаналы тэатраў Беларусі й кінастудыі «Беларусьфільм», як успаміналася, пераважна чужы нацыянальна, нябеларускі. Людзі гэтыя, перш-наперш рэжысэры, ня толькі не зацікаўленыя ў пастаноўцы беларускіх твораў, але часта й ня могуць ужыцьцявіць такіх пастановак. Андрэй Макаёнак на апошнім пісьменьніцкім зьезьдзе праілюстраваў гэта вельмі вымоўным і проста няверагодным прыкладам. Уладзімер Караткевіч падаў быў кінастудыі «Беларусьфільм» свой сцэнары «Гнеўнае сонца». Сцэнары, паводля Макаёнка, быў «выдатным», быў прыняты, зацьверджаны Рэспубліканскім Камітэтам. «Мы ўпэўнены, што фільм атрымаўся-б цікавы, з глыбокай, аптымістычнай філязофіяй». Тымчасам, сцэнары ў канцы быў «адхілены» з прычыны «адсутнасьці нацыянальных кадраў кінарэжысуры. Старых рэжысэраў на студыі засталося ня шмат, а моладзь у большасьці ня ведае беларускай літаратуры й нацыянальнага беларускага жыцьця».[366] Праўда, гэта датычыць іншай галіны творчасьці, хоць і сваяцкай драматургіі й тэатру — кінафільму. Але той-жа Макаёнак пацьвердзіў такую-ж сытуацыю й у тэатрах:

Хіба можна ня ўспомніць добрым, шчырым словам такіх дзеячоў беларускага тэатральнага мастацтва, як К. Саньнікаў і М. Міцкевіч, якія душэўна чула, самааддана вырошчвалі драматургаў, памагалі ім на пачатку творчасьці.

Магчыма таму, што ў нас цяпер няма такіх нацыянальных рэжысэраў, і справы ў драматургіі пагоршыліся.[367]

У БССР працуюць чатыры дзяржаўныя й восем абласных прафэсіянальных тэатраў. Прафэсіяльныя тэатры працуюць і ў некаторых раённых цэнтрах, прыкладам, ведамы з добрага боку, хоць яшчэ малады, тэатр музычнай камэдыі ў Бабруйску. Далей працуе каля трох дзесяткоў г. зв. народных тэатраў, што разьвіліся зь лепшых самадзейных калектываў. Было ведама із савецкага друку, што бальшыня тэатраў Беларусі працавала на расейскай мове. На апошнім пісьменьніцкім зьезьдзе Аркадзь Маўзон гэтую колькасьць удакладніў: «У рэспубліцы вельмі мала тэатраў. Акрамя таго, толькі тры зь іх працуюць на роднай мове».[368] Такая сытуацыя, пэўне-ж, ня можа заахвочваць беларускіх пісьменьнікаў, шчырых энтузіястых і кроўна зацікаўленых у разьвіцьці беларускай нацыянальнай культуры ды належным месцы беларускай мовы ў ёй, працаваць над

---

[635] Тамсама.
[366] Андрэй Макаёнак. Тамсама.
[367] Тамсама.
[368] Разам з партыяй, разам з народам. «ЛіМ», № 41, 20 травеня 1966.

п'есамі, што будуць паказаныя беларускаму гледачу не ў ягонай роднай мове. Гэта тым больш, што, як сьцьвярджаў яшчэ ў 1962 годзе крытык Барыс Бур'ян, беларускія п'есы пры перакладзе на расейскую мову, трацяць ня толькі мову, але й іншыя беларускія асаблівасьці:

> Пры перакладах шмат чаго губляецца нават з таго калярыту, які быў у аўтарскім арыгінале. І п'есы ўжо нельга катэгарычна лічыць беларускімі толькі на той падставе, што яны былі напісаныя пабеларуску. Яны робяцца п'есамі «наогул», хоць і пішуцца на матар'яле беларускага жыцьця.[369]

Вялікім посьпехам цяперака цешыцца ў тэатрах Беларусі п'еса маладога беларускага драматурга Анатоля Дзяленьдзіка «Выклік багом», напісаная пад канец 1965 году. Але гэтая ўзапраўды цікавая п'еса, што ўжо надрукаваная парасейску ў № 8 маскоўскага часапісу «Театр» за 1966 год, у беларускім арыгінале не зьявілася зусім, відаць, таму, што не ўважалася гэта практычна патрэбным.

Нараканьні на такі ненармальны стан, што тэатры Беларусі ў бальшыні ня беларускія й што п'есы беларускіх драматургаў наагул неахвотна прыймаюцца тэатрамі для пастаноўкі, ня сьціхаюць у пэрыядычным друку ад 1958 году. Не зважаючы на гэта, паправы ня відаць ніякай, трэба думаць, галоўна таму, што ўрадавыя й партыйныя вярхі ў найлепшым выпадку прыхільна нэўтральныя да ўсякіх формаў русыфікацыі тэатральнага жыцьця. У газэце «Літаратура і Мастацтва» за 8 студзеня 1965 году тагачасны намесьнік міністра культуры БССР Я. Парватаў сьцьвярджаў, як высока пазытыўную й пажаданую зьяву, наступнае: «Ня будзе перабольшаньнем сказаць, што руская клясыка й сучасная руская драматургія складаюць асноўны рэпэртуар беларускага драматычнага тэатру й па сёньняшні дзень». Вымоўная таксама й заява сакратара ЦК КПБ Станіслава Пілатовіча на 5-ым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі, які, выслухаўшы нараканьні пісьменьнікаў на ненармальныя абставіны для разьвіцьця беларускай драматургіі й ейны поўны заняпад, знайшоў патрэбным сказаць наступнае: «Нядрэнна, на наш погляд, разьмеркаваліся сілы пісьменьнікаў па жанрах».[270] Значыцца, на думку прадстаўніка партыі, і жанр драматычны ня выклікае ніякіх пажаданьняў.

Нічога тады дзіўнага, што газэта «Чырвоная зьмена» ў нумары за 14 красавіка 1964 году сьцьвярджала гэткі стан:

> За апошнія шэсьць-сем гадоў у беларускай літаратуры зьявілася многа новых імён... Затое на афішах беларускіх тэатраў за гэты-ж тэрмін не зьявілася амаль ніводнага імені. Падумаць толькі, ні адзін беларускі драматург ня дэбютаваў на сцэнах нашых тэатраў за столькі гадоў!

Таксама нічога дзіўнага, што за апошнія сем год ад 4-га зьезду пісьменьнікаў Беларусі ў 1959 годзе, — як сьцьвердзіў Андрэй Макаёнак на 5-ым пісьменьніцкім зьезьдзе, — зьявіліся ўсяго два беларускія драматычныя

---

[369] Барыс Бур'ян. Каб не згасаў агонь творчасьці. «ЛіМ», № 20, 9 сакавіка 1962.
[370] «ЛіМ», № 41, 20 травеня 1966.

творы, што мелі ўзапраўдныя посьпехі й трапілі на тэатральныя сцэны ўсіх рэспублікаў Савецкага Саюзу. Гэта — ягоная собская камэдыя 1961 году «Лявоніха на арбіце» й п'еса Аркадзя Маўзона 1962 году «Пад адным небам». Усё-ж іншае — гэта рэчы нявысокай або й зусім нізкай якасьці, што ня выйшлі за межы беларускай рэспублікі, а шмат якія зь іх, пасьля аднэй-дзьвюх пастановак у тэатрах БССР, здымаліся з праграмы.

*

Спасярод сучасных беларускіх драматургаў першае месца заслужана займае *Андрэй Макаёнак,* аўтар добрых сатырычных камэдыяў «Выбачайце, калі ласка» (1953 г.), «Каб людзі ня журыліся» (1958 г.) і «Лявоніха на арбіце» (1961 г.). Камэдыя «Каб людзі ня журыліся», за рэалістычны паказ зусім ня «радаснага й заможнага» калгаснага жыцьця, войстра атакавалася ў сваім часе партыйнай крытыкай і, пасьля некалькіх рэпэтыцыяў у тэатры імя Янкі Купалы, была вычыркнутая з праграмы бязь ніводнае пастаноўкі.[371]

Затое наступная Макаёнкава камэдыя, таксама з калгаснага жыцьця, «Лявоніха на арбіце» (упяршыню надрукаваная ў № I «Полымя» за 1961 год) была гэнай партыйнай крытыкай прынятая, як ідэялягічна беззаганная. Будучы й з мастацкага боку на адпаведным узроўні ды маючы бясспрэчныя сцэнічныя задаткі, яна здабыла вялікую папулярнасьць ня толькі ў БССР, але й у цэлым Савецкім Саюзе. Яна й дагэтуль ня зыходзіць із сцэнаў савецкіх тэатраў, прыхільна ацэньваецца крытыкай і партыйнымі дзейнікамі, за яе была прызнаная аўтару літаратурная прэмія імя Янкі Купалы за 1961 год. Выдатным дасягненьнем беларускай літаратуры яе назваў Пятрусь Броўка на XXII зьезьдзе Камуністычнай партыі. З трыбуны зьезду Броўка заявіў:

> А. Макаёнак у сваёй п'есе востра крытыкуе прагу да ўласьніцтва, тое, што сёньня зьяўляецца перашкодай для нашага руху наперад. Ён умела бічуе адмоўныя зьявы ў жыцьці. Новае, жыцьцёсьцьвярджальнае перамагае, і ў гэтым — пафас твору.[372]

«Лявоніха на арбіце» — паводля жанравай формы — сатырычная камэдыя. Хацеў гэтага пісьменьнік, ці не хацеў, але яна ўспрымаецца адно як дакладнае адлюстраваньне карыкатурнае ў самой сабе савецкай рэчаіснасьці. Рэч у тым, што ня толькі адмоўныя бакі савецкага жыцьця паказаныя ў камэдыі ў карыкатурным асьвятленьні, — што зусім нармальна й зразумела, — але й усе іншыя мамэнты савецкае рэчаіснасьці, якія паказаныя аўтарам, як пазытыўныя, успрыймаюцца, як ня менш карыкатурныя. Само савецкае жыцьцё нагэтулькі беднае, прымітыўнае й поўнае супярэчнасьцяў, што, калі яго паказаць у праўдзівым сьвятле, як яно ёсьць у запраўднасьці, ды калі яго супаставіць з тым выідэялізаваным жыцьцём, як яго падносіць савецкая прапаганда, дык інакш, як таксама карыкатурным, успрыняць яго нельга.

---

[371] П. Броўка. На шляху служэньня народу. «ЛіМ», 13 лютага 1959.

[372] П. Броўка. XXII зьезд КПСС і задачы беларускай савецкай літаратуры. «ЛіМ», № 10, 2 лютага 1962.

Дробны выпадак крадзежы ахапка сена з калгаснага стажка, ад чаго й «загарэўся ўвесь сыр-бор», ня перастае быць актуальным аж да канца дзеяньня камэдыі, як канкрэтны прыклад праяўленьня ўласьніцкай псыхалёгіі. Гэты дробны выпадак, у нармальных абставінах ня варты й увагі, тут паднесены да памеру сацыяльнага злачынства. Дык ужо сам сабой выпадак гэты ўспрыймаецца, як карыкатура. Ды прычынай гэтае крадзежы ахапка сена была ня гэтулькі ўласьніцкая псыхалёгія Лявона, колькі калгасная галіта. Аб гэтым прагаворваецца й сам старшыня калгасу Буйкевіч: «Калі ёсьць мая карова, дык ёй-жа і сена трэба. І зіма зацягнулася, свайго не хапае, дык прыходзіцца красьці ў калгасе».[373]

Карыкатурнай выглядае й тая акалічнасьць, што навет да калгаснага стажка сена даводзіцца ставіць начнога стоража. А яшчэ вайстрэй адлюстроўвае савецкую рэчаіснасьць праект таго-ж калгаснага стоража Максіма «Абавязковай пастановы і ўказу», каб злоўленага на падобнай крадзежы «у выхадны дзень вадзіць па сяле пры ўсім народзе для ганьбы й пасьмешкі з плякатам, дзе напісана «паразіт».[374]

Уся камэдыя пабудаваная на канфлікце паміж Лявонам Чмыхам, калгасьнікам з уласьніцкай псыхалёгіяй, і ягонай жонкай Лявоніхай, жанчынай на ўсе сто працэнтаў прагрэсыўнай, выдатнай савецкай актывісткай, якая поўнасьцяй вызбылася тых уласьніцкіх інстынктаў, ідзе із сучаснасьцяй, адным словам — будуе камунізм. Усе намаганьні загнаць Лявона ў «камунізм», як і бесьперапынныя патэтычныя тосты за гэты камунізм у сцэне сватаньня Міхала Зайграя да Соні таксама гучаць, як карыкатура на гэты гон да камунізму.

Найбольш, аднак, карыкатурных рысаў засярэджана ў загалоўным і галоўным пазытыўным пэрсанажы твору — Лявонісе. Яна ў некаторай ступені прыгадвае галоўнага гэроя калісьці вельмі папулярнага сатырычнага твору Андрэя Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя», напісанага яшчэ ў 1929 годзе. Але Самсон Самасуй быў Мрыем сьведама задуманы, як карыкатура. Макаёнкава-ж Лявоніха, гэты новы «самасуй» у спадніцы задуманая, як пазытыўны гэрой. Тым ня менш, усё ейнае захоўваньне, як крыклівай будаўнічкі камунізму, успрыймаецца ня менш карыкатурна, чымся паводзіны й Мрыевага Самасуя. Аднак ёсьць і глыбокая розьніца між Самсонам Самасуем і Лявоніхай: першы — гэта запраўды поўны «самасуй» з ахвоты й натуры, тымчасам як Лявоніха — актывістка з мусу: у «актывізм» будаўніцтва «камунізму» яе «суне» сама бязвыхаднасьць калгаснага жыцьця, выхад зь якое ў «уласьніцтва» немагчымы, як паказвае прыклад ейнага мужа Лявона, дык і застаецца адно «выхад у людзі» — у актывістыя, калі толькі заставацца ў калгасе, калі не ўцякаць зь яго ў горад ці наагул кудысьці, як гэта стараюцца рабіць шмат калгасьнікаў, асабліва маладых.

Ужо ня ў пляне галоўнага сюжэту, а ў якасьці адно эпізоду, пры гэтым вельмі характэрнага, у камэдыі добра паказаная савецкая практыка выбараў. Перад афіцыйна-фармальнымі выбарамі дэпутатаў у мясцовыя саветы, адбываюцца фактычныя «выбары» іх у габінэце старшыні рай-

---

[373] Андрэй Макаёнак. Лявоніха на арбіце. «П», № 1, 1961, б. 6.
[374] Тамсама, б. 20—21.

выканкому. У другой і трэйцяй дзеі камэдыі сакратар абкому партыі Мікалай Сяргеевіч наведвае райвыканком, у якім над стогам папераў сядзець старшыня Глуздакоў і ягоны паплечнік Цесакоў. Між імі й сьвежа прыбылым сакратаром абкому адбываецца гэткая гутарка:

Мікалай Сяргеевіч. А-а, ну-ну... Цікава (пераглядае сьпіс). Э-э, нешта-ж у вас малавата жанчын... Адна, дзьве... І ўсё? Мала, мала. Вось і тут відаць, што ты пастарэў: прапала цікавасьць да жанчын.

Глуздакоў (пасьмейваючыся). Хе-хе... Недагляд, недагляд наш. Трэба выправіць.

Мікалай Сяргеевіч. І моладзі мала. Сьмялей з маладымі трэба.

Глуздакоў (ласкава). А тут дазвольце, Мікалай Сяргеевіч, маленькую заўвагу. Хацелася, каб у саветах вопытныя людзі былі. Маладыя, яны і з баразны могуць выскачыць. А людзі з вопытам, з практыкай...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Мікалай Сяргеевіч. А як вы думаеце, малады чалавек?

Цесакоў. Калі ёсьць непасрэднае ўказаньне, думаць ня трэба.

Вось гэтая кароценькая сцэнка ў райвыканкоме, гэтак рэалістычна паказаная ў камэдыі, як ня трэба лепей адлюстроўвае ўсю мэханіку й тэхніку савецкіх выбараў, добра паказвае гэтак званы «савецкі дэмакратызм», гэтую запраўдную карыкатуру на дэмакратызм наагул.

Наапошку варта адзначыць, што й мова савецкіх і партыйных чыноўнікаў — пэрсанажаў камэдыі густа перасыпаная русыцызмамі, бо гэтакай мовай гавораць яны ў жыцьці, калі паслугоўваюцца беларускай мовай. З вуснаў прадстаўніка партыі Мікалая Сяргеевіча, замік словаў Савецкі Саюз, зусім нявыпадкова чуем толькі «Расія», «Русь», што таксама ўспрыймаецца, як карыкатура самога жыцьця на г. зв. ленінскую нацыянальную палітыку.

Дык цяжка згадзіцца з вышэй прыведзенымі словамі Броўкі, быццам што «пафас твору» ў тым, што «новае, жыцьцёсьцьвярджальнае перамагае». Праўда, у канцы Лявон здаецца перад наступам на яго ўсіх «будаўнікоў камунізму». Але гэтая капітуляцыя Лявона ня зь пераканаграньня, не пад уплывам «перавыхаваньня», а толькі ў моц бязвыхаднай канечнасьці.

І яшчэ адна цікавая дэталь. І само імя сакратара абкому, і аўтарава характарыстыка яго выразна робленыя пад самога Мікіту Сяргеевіча — пад Хрушчова: «чалавек пажылы, невялікага росту, поўненькі, брытагаловы і на дзіва рухавы для сваіх год і паўнаты. Ён, як заўсёды, у добрым настроі. Сьмяшлівыя вочы сьветчаць аб войстрым пачуцьці гумару».[375] Перад намі, як жывы, сам Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў.

Пэрсанажы, што маюць у сабе рысы Хрушчова, у тагачаснай савецкай літаратуры зьява ня рэдкая. Даволі прыгадаць такія творы, як п'еса. А. Карнейчука «Крылья», раман Н. Вірты «Крутые горы», а навет раман М. Шолахава «Поднятая целина». Заканчваючы ў другой палавіне 50-ых гадоў гэты свой даўно пачаты раман, Шолахаў увёў новага сакратара рай-

[375] Тамсама, б. 24.

кому Несьцярэнку, якога шчодра надзяліў рысамі Хрушчова.[376] Дык і нашая літаратура тут не асталася далёка з-заду.

Драматург *Аркадзь Маўзон,* падобна як і Андрэй Макаёнак, мае за сабой не малы пісьменьніцкі стаж і значныя дасягненьні ў драматычнай творчасьці. За п'есу «Канстанцін Заслонаў», напісаную яшчэ ў 1946 годзе, яму была прызнаная Сталінская прэмія, а ягоная п'еса «У бітве вялікай», прысьвечаная падзеям грамадзянскай вайны, на рэспубліканскім конкурсе на лепшую п'есу 1957 году атрымала трэйцюю прэмію.

П'еса Аркадзя Маўзона «Пад адным небам» упяршыню зьявілася ў № 9 «Полымя» за 1962 год. Яна прысьвечаная сучаснаму жыцьцю й праблемам пераважна менскай інтэлігенцыі — студэнцкай і работніцкай моладзі й іхным бацьком, што на савецкай сацыяльнай драбіне знаходзяцца або знаходзіліся на найвышэйшых ступнях: былы намесьнік міністра, а цяперака пэнсіянер Мякішаў і дырэктар заводу, якога пераводзяць у Маскву на яшчэ вышэйшае становішча глаўка, Траян. У п'есе разгортаюцца адначасна й узаемна пераплятаюцца дзьве сюжэтныя лініі й два драматычныя канфлікты. Адзін, гэта нясумленныя любоўныя дачыненьні Барыса Мякішава спачатку да Веры, такой-жа, як і ён, работніцы на заводзе, каб пасьлей, ашукаўшы Веру й зрабіўшы яе нешчасьлівай, усе свае здольнасьці падабацца жанчынам ськіраваць да студэнткі Машы, дачкі Траяна. Але тут спатыкае яго катастрофа дзякуючы ранейшаму ягонаму прыяцелю Аляксею, таксама работніку, ды Машынай сяброўцы Людміле, студэнтцы пэдагагічнага інстытуту. Аляксей і Барыс — два супрацьлежныя вобразы: першы — савецкі ідэял новага пакаленьня, чалавек высокай маралі, сумленны й праўдзівы, другі — хвальшывы й крывадушны, цынік і эгаісты, тыповы вобраз савецкага тунеядца й стылягі.

Другі канфлікт разьвіваецца між Траянам і Мякішавам: першы зь іх — чалавек сумленны й справядлівы, другі — тыповы прадстаўнік сталінаўскай эпохі, вінаваты ў арышце супольнага з Траянам сябры Станіслава Кардовіча. Як у паэзіі верш Пятруся Макаля «Думайце, людзі», у мастацкай прозе апавяданьне Алеся Пальчэўскага «Мікітка», гэтак у драматургіі п'еса Аркадзя Маўзона «Пад адным небам» — першыя ў нашай літаратуры творы, у якіх былі засуджаныя несправядлівасьць і злачынствы сталіншчыны. Вельмі характэрныя з гэтага гледзішча ў п'есе «Пад адным небам» словы Траяна, зьвярнутыя да Мякішава:

> ...Але калі гаворыш, што ўсё ўжо мінулася, памыляешся. Доўга нам яшчэ разьбірацца ў бацькоўскай спадчыне. Хіба тое, што кіравала такімі, як ты, мінула? Што, няма ўжо, зьнікла зайздрасьць? Зьнікла ў некаторых жаданьне пабудаваць сваё шчасьце на чужым няшчасьці? На чужой шыі ў рай трапіць? Хіба ўжо няма такіх, што з асалодай абалгуць таварыша, каб заняць яго месца? Няма ўжо такіх, хто гатовы пайсьці на ўсё, каб утульней, цяплей уладкавацца ў жыцьці? І хіба няма ўжо, зьнікла раўнадушнасьць, чэрствасьць, хлусьня? А баязлівасьць, лякейская паслужлівасьць? Гатоўнасьць сказаць «але»,

---

[376] Арк. Гаев. Советская художественная литература послесталинского десятилетия. «Ученые записки Института по изучению СССР». Т. I, вып. I, Мюнхен, 1963, б. 157.

калі трэба сказаць «не». Мінулася гэта? А хіба няма ўжо чалавечкаў, у якіх на кожныя дзьверцы падабраны ключык свой, цэлыя зьвязкі ключоў, зь якімі яны, мінаючы галоўны, цэнтральны ўваход, пралазяць туды, куды ім трэба, праз бакавыя зладзейскія шчылінкі? А колькі яшчэ жанглёраў, нам-жа шкодзячы, жангліруюць нашымі словамі? А паспрабуй разабрацца ў такіх. Словы-ж яны вяшчаюць правільныя. А гэта ўсё, паўтараю, адтуль. Вось чаму і кажу — доўга нам яшчэ ў бацькоўскай спадчыне разьбірацца. Ну, ды нічога. Разьбяромся. Усё ачысьцім. Увесь бруд, усю цьвіль змыем...[377]

П'еса «Пад адным небам» вызначаецца актуальнай тэмай, войстрай канфліктнасьцяй, цікава збудаваным сюжэтам і драматычнай напружанасьцяй.

Затое нельга ўсяго гэтага сказаць пра наступную п'есу Маўзона «Куды ідзеш, Сяргей!», напісаную ў канцы 1965 году, а надрукаваную ў № 2 «Полымя» за 1966 год.

У гэтай, наскрозь псыхалягічнай, драме галоўнай праблемай спадчына ўдушлівай атмасфэры сталіншчыны, што аблытвае рашчараваньнем і няверай у грамадзкую праўду й сяньня дваццацёхгадовага сучасьніка Сяргея Каваля. Гэтае пераканаsuccessful, што праўды няма й сяньня, падтрымлівае ў Сяргею ягоны сусед па кватэры Яўген Скаруба: «Культ — гэта... гэта ўжо ўчарашні дзень... Як вядома — асуджаны. Кропка. Хораша, правільна Сяргей сказаў: такое не паўторыцца. Але... Вось і раю вам задумацца над гэтым «але». У ім — ой, як многа...»[378] Затое Дробышаў, зь якім прыпадкова Сяргей пазнаёміўся, поўны антыпод Скарубы, стараецца ўзьвесьці Сяргея на правільную дарогу. Гэта яму ў фінальнай сцэне ўдаецца, Сяргей раптам становіцца іншым, але гэтая ягоная духовая мэтамарфоза зусім ня пераканальная й псыхалягічна неўматываваная, як правільна заўважыў і першы рэцэнзэнт п'есы тэатральны крытык Рыгор Колас.[379] У гэтым галоўная загана новай п'есы Маўзона.

Калі камэдыі Макаёнка, магчыма таму, што чэрпаюць матар'ял галоўна з жыцьця беларускай вёскі, маюць выразны нацыянальны калярыт, дык п'есы Аркадзя Маўзона, што ў васноўным адлюстроўваюць жыцьцё гораду, гэтага калярыту зусім пазбаўленыя. Гэткія-ж п'есы Івана Шамякіна й П. Васілеўскага, што зьявіліся напачатку пяцігодзьдзя. Пра гэтыя й ім падобныя творы беларускай драматургіі вельмі правільна сказаў яшчэ напачатку 1962 году Барыс Бур'ян:

...мне здаецца, што многія сучасныя нашы п'есы назваць беларускімі можна толькі з агаворкамі. Калі я чытаў «Выгнаньне блудніцы» І. Шамякіна, «Твой сьветлы шлях» А. Маўзона, «Любоў, Надзея, Вера...» П. Васілеўскага, мяне не пакідала ўражаньне, магчыма, дзіўнае, але вельмі пераканаўчае: драматургі паклалі ў васнову сюжэтных пэрыпэтый падзеі, якія маглі адбывацца ў вёсках або на новабудоўлях нашай рэспублікі, а маглі і быць у суседніх з намі мясьцінах, або ўвогуле маглі нідзе не адбывацца. Адбор канфліктаў, сутыкненьняў і супярэчнасьцей паміж дзеючымі асобамі не падказваўся асаблівасьцямі,

[377] Аркадзь Маўзон. Пад адным небам. «П», № 9, 1962, б. 38.
[378] Аркадзь Маўзон. Куды ідзеш, Сяргей? «П», № 2, 1966, б. 77.
[379] Георгій Колас. Трэці неабходны. «ЛіМ», № 11, 4 лютага 1966.

якія характэрны абавязкова для нашай рэспублікі. У характарах гэрояў гэтых п'ес амаль няма рысаў, па якіх гледачы беспамылкова пазналі-б, што гэта Беларусы. Тэмпэрамант, лад думак, адносіны да навакольнага сьвету, нарэшце, манера выказвацца такіх, напрыклад, гэрояў, як Васіль Гаворка з п'есы І. Шамякіна ці Сяргей Зорын з п'есы В. Васілеўскага, пазбаўлены якіх-небудзь нацыянальных адзнак.[380]

У разгляданым пяцігодзьдзі зьявіліся, апрача ўспомненых ужо, драматычныя творы й такіх аўтараў, як Алесь Бачыла, Мікалай Гарулёў, Яўген Рамановіч, Мікола Гамолка, Валянцін Зуб, Р. Раманаў, Я. Тарасаў і іншыя. Аднак іхныя п'есы ў бальшыні сваёй у друку не зьявіліся, відаць, з прычыны нявысокай мастацкай якасьці, як іх ацаніў Андрэй Макаёнак на пісьменьніцкім зьезьдзе.[381]

У канцы 1965 году значнай падзеяй у беларускай драматургіі сталася п'еса маладога беларускага драматурга *Анатоля Дзяленьдзіка* пад спачатным загалоўкам «Чатыры крыжы на сонцы», або «Выклік багом», як яна была названая пазьней. Ужо адно тое, што ў канцы 1965 году п'есу ўзяліся паставіць адначасна аж чатыры тэатры Беларусі: тэатр імя Янкі Купалы ў Менску, тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску, абласныя тэатры гомельскі й берасьцейскі — дастаткова сьветчыла, што вартасьць п'есы ня штодзённая.

П'еса паказвае жыцьцё, прафэсіянальную дзейнасьць і зацікаўленьні маладых беларускіх вучоных і студэнцкай моладзі мэдыцынскага інстытуту ў Менску. Ейная акцыя разгортаецца ў сучасную пару — у дзьвюх першых дзеях у Менску, у трэйцяй дзеі — на Палесьсі паўтара году пазьней. Сюжэт п'есы вельмі просты. Студэнтка апошняга году мэдыцыны Інга хворая на нявылячальную хваробу крыві, пра якую спачатку яна ня ведае, хоць жыць ёй асталося ня больш, як два гады. Выдатны вучоны доктар Аскольд, які кахае Інгу й цешыцца ейнай узаемнасьцяй, робіць падрад чатыры аналізы ейнае крыві, і за кажным разам у выніку атрымлівае плюс, адсюль і пачатакавы загаловак п'есы — «Чатыры крыжы на сонцы». Хвароба Інгі пачалася ў часе вайны, калі гітлераўцы, захапіўшы ў Белавежы вялікую групу дзяцей, што там адпачывалі ў летнім лягеры, рабілі над імі жахлівыя экспэрымэнты: выпрабоўвалі дзеяньне розных хімічных прэпаратаў на людзкім арганізьме. З усяе групы выжыла толькі Інга й яшчэ адна дзяўчынка, і гэта таму толькі, што ў час напалі партызаны на лягер і адбілі запалоненых дзяцей.

Аскольд, паставіўшы дыягназ і прадбачучы хуткую трагічную разьвязку, стараецца парваць блізкія дачыненьні зь Інгай. У гэным-жа часе малады інжынер-канструктар Вадзім, які кахае Інгу таксама, не зважаючы на нішто, жэніцца зь Інгай і едзе разам зь ёй працаваць на Палесьсе. У сваім каханьні Вадзім непахісны, ён на зло мэдыцыне, верыць у перамогу каханьня над сьмерцяй: «Ты не памрэш! Мы кінем выклік Богу, нячыстай сіле, д'яблу і тым пачварам з чорна-белымі крыжамі... Чуеш? Ты будзеш жыць. Будзеш! Ты мяне ня ведаеш. Я не аддам цябе! Я кахаю. Чу-

---

[380] Барыс Бур'ян. Каб не згасаў агонь творчасьці. «ЛіМ», № 20, 9 лютага 1962.

[381] Андрэй Макаёнак. «ЛіМ», № 41, 20 травеня 1966.

еш?».[382] Гэтая вера Вадзіма перадаецца Інзе, і вось стаецца цуд: Інга, пад узьдзеяньнем гэтае веры, перамагае сьмерць.

Вось гэты нескладаны сюжэт, дарэчы, вельмі часта спатыканы ў літаратуры розных часоў, выпаўняе вялікую п'есу, што складаецца з трох дзеяў і трынаццацёх абразоў. Ды й ня толькі выпаўняе, але робіць п'есу цікавай, прынаднай, нярэдка дасьціпнай, жвавай і праўдзівай. Анатоль Дзяленьдзік, паводля прафэсіі лекар-псыхіятар, патрапіў гэтак унікліва прааналізаваць людзкія характары ў нязвычайных сытуацыях, што п'еса ані чуць ня робіць уражаньня штучнасьці й надуманасьці. П'еса цікавая й тым, што аўтар патрапіў у ёй умела падчыркнуць каларыт сучаснасьці зь ейнымі навуковымі й тэхнічнымі вынаходніцтвамі ды з жыцьцёвымі й інтэлектуальнымі зацікаўленьнямі сучаснай інтэлігенцыі.

Тэатральны крытык Рыгор Колас сваю рэцэнзію на гэтую п'есу, зь якой упяршыню пазнаёміўся адно ў часе тэатральных рэпэтыцыяў над ёй, закончыў гэткімі словамі: «нешматлікую сям'ю беларускіх драматургаў папоўніў новы аўтар. Ён абяцае шмат. І ня толькі абяцае. Справа ў тым, што А. Дзяленьдзік напісаў ужо другую п'есу, і, здаецца, таксама неблагую».[383]

## V

## НА МЯЖЫ ДВУХ ПЯЦІГОДЗЬДЗЯЎ

У двух першых нумарох часапісу «Маладосьць» за 1966 год зьявіліся два цікавыя артыкулы: «Чалавечна, паграмадзянску страстна» Пятруся Макаля й «Пяром аналітыка» Васіля Быкава. Абодвы артыкулы, напісаныя прадстаўнікамі двух галоўных літаратурных жанраў — паэзіі й мастацкай прозы ды надрукаваныя якраз напачатку году, аднолькавыя сваім характарам і намерамі: даць ідэйнае й мастацкае асэнсаваньне беларускай літаратуры мінулага году й колькіх папярэдніх гадоў і раскрыць пэрспэктывы ейнага далейшага разьвіцьця.

Галоўную асаблівасьць сучаснай беларускай паэзіі Пятрусь Макаль бачыць у тым, што яна «здолела адчуць і адгукнуцца на вельмі важныя патрэбы духоўнага жыцьця грамадзтва, поўным голасам сказаць пра тое, што гадамі выношвалася ў душах людзкіх».[384] Гэтую сваю характарыстыку Пятрусь Макаль дапаўняе яшчэ цьверджаньнем, што, на ягоную думку, «незваротна адыходзіць у мінулае рытарычная траскатня, бясконцае паўтараньне ведамых ісьцін і сьцёртых фраз, што права сталага жыхарства ў літаратуры атрымала сапраўды грамадзянская паэзія, якая шчыра й мужна нясе самыя чалавечныя ідэі».[385] Характарызуючы су-

[382] Г. Колас. Чатыры варыянты «Чатырох крыжоў». «ЛіМ», 103, 24 сьнежня 1965.

[383] Тамсама.

[384] Пятрусь Макаль. Чалавечна, паграмадзянску страстна. «М», № 1, 1966, б. 121.

[385] Тамсама, б. 122.

часную прозу й цьвердзячы, што «звароту да старога ня будзе», Васіль Быкаў робіць выснаў, што «шчырасьць і поўнагучнасьць пачуцьця напоўнілі дзесяткі найлепшых кніг пра вайну».[386] Але зь лёгікі ягоных разважаньняў застаецца паза ўсякімі сумлевамі, што гэтыя асноўныя асаблівасьці — «шчырасьць і паўнакроўнасьць пачуцьця» — расьцягвае аўтар ня толькі на «дзесяткі найлепшых кніг пра вайну», але й наагул на творы мастацкае прозы на ўсякія тэмы.

У гэтых сфармуляваньнях Макаля й Быкава, у прынцыпе вельмі правільных, усё-ж у вялікай меры жаданае бярэцца за праўднае. А гэтае запраўднае яшчэ не дае асноваў гаварыць пра сучасную беларускую літаратуру, як пра пройдзены й ужо завершаны этап ды прыходзіць да высnаву, як робіць гэта Васіль Быкаў, што «родная літаратура ўступае ў новы этап разьвіцьця».[387] З канкрэтнага аналізу літаратурных твораў апошняга часу, праведзенага ў гэтай працы, можа быць толькі такі выснаў, што сяньня можна гаварыць адно аб распачатым, а не аб ужо пройдзеным этапе разьвіцьця сучаснай беларускай літаратуры. Таксама яшчэ зарана канстатаваць, што сучасная паэзія «здолела поўным голасам сказаць пра тое, што гадамі выношвалася ў душах людзкіх».

Бадайшто ўсе важнейшыя зьявы ў нашай літаратуры, якія можна ўважаць за новыя й характэрныя для сучаснасьці, маюць яшчэ далёка няпоўны, нярэдка адно фрагмэнтарычны характар. Прыкладам, адлюстраваньне ў літаратуры сталінскага тэрору й народнай трагэдыі гэнага часу. Гэтая зьява знайшла дагэтуль некаторае адбіцьцё адно ў такіх творах, як аповесьці Рамана Сабаленкі «Незамужняя ўдава», Івана Шамякіна «Мост», Васіля Быкава «Мёртвым не баліць» ды часткава ў рамане Івана Мележа «Подых навальніцы» й у драме Аркадзя Маўзона «Пад адным небам». Тымчасам народная трагэдыя гэнага часу нагэтулькі вялікая й балючая вынікамі, што мусіла-б паслужыць тэмай не аднае шыракамаштабнае эпапэі. Гэныя часы агульнанароднага гора мусілі-б быць адлюстраваныя ў мастацкай літаратуры ўва ўсёй сваёй глыбіні й трагізьме ды асэнсаваныя із запраўды сучасных пазыцыяў. Тымчасам, твораў такіх яшчэ нямашака.

Таксама нельга яшчэ гаварыць пра поўную рэгабілітацыю нацыянальнай існасьці беларускай літаратуры й поўнае адлюстраваньне ў ёй нацыянальных патрэбаў, імкненьняў і спадзяваньняў народу. У творах апошняга пяцігодзьдзя, галоўна ў лірыцы, паэты мелі шырокую магчымасьць выказваць свае патрыятычныя пачуцьці, захапляцца хараством роднага краю, любіць свой народ, свае песьні й сваю родную мову. Гэтыя сьціплыя магчымасьці яны й прагна выкарыстоўваюць, што бадай кажны паэта стараецца, як правіла, даць хоць адзін верш праграмна-дэкляратыўнага характару пра гэтую любасьць да свайго роднага, перш-наперш да роднае мовы. Але гэта і ўсё. Яшчэ не маглі зьявіцца творы, у якіх была-б пастаўленая й разгорнутая, няхай сабе ў межах адно афіцыйна дазволенага, нацыянальная праблема, у якіх былі-б, прыкладам, паказаныя існуючыя ў жыцьці разыходжаньні й супярэчнасьці паміж камуністычнай тэо-

[386] Васіль Быкаў. Пяром аналітыка. «М», № 2, 1966, б. 121.
[387] Тамсама, б. 122.

рыяй у нацыянальным пытаньні аб поўным і свабодным разьвіцьці нацыянальнай культуры, аб раўнапраўнасьці й пашанаваньні роднае мовы, а практычным ужыцьцяўленьнем гэтае тэорыі.

Без усебаковага адлюстраваньня й асэнсаваньня ў мастацкай літаратуры гістарычнай мінуўшчыны народу немагчымае правільнае асэнсаваньне й ягонай сучаснасьці. Нацыянальны працэс, як і ўсякі іншы, павінен і ў гістарычнай навуцы, і ў мастацтве разглядацца ў ягонай прычыновай сувязі зь мінуўшчынай, у ягонай гістарычнай цягласьці. Тымчасам, у беларускай літаратуры сяньня штонайменш тры сотні творча актыўных паэтаў і празаікаў, а зь іх адзін-адзіны Уладзімер Караткевіч дзейны ў галіне гістарычнай тэматыкі, дый то мусячы змагацца, пэўне-ж, ня з выпадковымі, цяжкасьцямі й перашкодамі. Не зважаючы на тое, што ўжо мае за сабой два вялікія высокамастацкія гістарычныя раманы й некалькі ня менш каштоўных гістарычных аповесьцяў ды апавяданьняў, ён не дачакаўся яшчэ й дагэтуль аніводнага кніжнага выданьня сваіх твораў мастацкае прозы А між тым, слабенькі з мастацкага боку й груба тэндэнцыйны гістарычны раман расейскіх пісьменьнікаў у Беларусі М. Садковіча й Е. Львова «Георгій Скарына», упяршыню надрукаваны яшчэ ў 1951 годзе й пазьней перакладзены й надрукаваны ў беларускай мове, перавыдаецца ў 1966 годзе ў выдавецтве «Беларусь» тыражом аж 50 тысячаў экзэмпляраў.

Беларуская мастацкая літаратура змагла ў вапошнім пяцігодзьдзі сказаць шмат што з таго, што «гадамі выношвалася ў душах людзкіх», але далёка йшчэ ня ўсё, і сказаць ня «поўным голасам», як піша Макаль, але адно йшчэ прыглушаным шэптам.

Партыйныя дзейнікі, што ад часу адыходу ад улады Хрушчова прыглядаліся як-бы з боку да ўсяго таго, што адбывалася ў літаратуры, у канцы 1965 і на пачатку 1966 году пачалі актыўна ўмешвацца ў літаратурнае жыцьцё. Каб паўстрымаць імкненьні пісьменьнікаў да штораз большага вызваленьня ад ідэялягічных догмаў і эстэтычных схэмаў мінулага, партыя знайшла патрэбным вярнуцца да больш строгага рэглямэнтаваньня літаратурнага руху. Такія тэндэнцыі выразна выявіліся на XXIII зьезьдзе КПСС у сакавіку-красавіку 1966 году, а ў дачыненьні вылучна да беларускай літаратуры — у дакладзе старшыні Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Пятруся Броўкі на пятым пісьменьніцкім зьезьдзе ў травені 1966 году. Пачаліся навет спробы тарнаваньня рэпрэсійных мераў у дачыненьні да непаслухмяных пісьменьнікаў, як судовы працэс і засуджэньне расейскіх пісьменьнікаў А. Сіняўскага й Ю. Данііеля ды арышты ўкраінскіх пісьменьнікаў. У беларускай літаратуры скончыліся гэтыя рэпрэсіі, пакульшто, фізычна бязбольна, бо адно войстрымі выпадамі партыйнае крытыкі супраць Васіля Быкава. Каб падчыркнуць незадаваленьне з творчасьці беларускіх пісьменьнікаў, у канцы 1965 году ня была прызнаная аніводная літаратурная прэмія імя Янкі Купалы за 1964 год ды дэманстрацыйна прызнаная прэмія імя Якуба Коласа за слабую з мастацкага, але моцную з партыйнага гледзішча аповесьць Івана Новікава «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску». Азнакай партыйнай няласкі да пісьменьнікаў Савецкага Саюзу наагул было няпрызнаньне аніводнай Ленінскай прэміі за літаратурныя творы 1964 і 1965 году. Сытуацыя некарысна ўскладнілася для

пісьменьнікаў яшчэ ў сувязі з тым, што ўжо ад ладнага часу праводзіцца ў цэлым Савецкім Саюзе партыйная кампанія за тое, каб мастацкая літаратура як найшырэй адгукнулася на 50-ыя ўгодкі савецкай улады й на 100-ыя ўгодкі ад нараджэньня Леніна новымі творамі, тэматычна й ідэйна зьвязанымі з гэтымі наскрозь палітычнымі юбілеямі.

Даводзіцца падчыркнуць з асаблівым націскам, што, за малымі вынятками, уся беларуская пісьменьніцкая грамадзкасьць зусім ня выяўляе ахвоты здаваць заваяваных ёю пазыцыяў. Партыйныя спробы рэглямэнтаваць літаратурны працэс натрапілі на наважаны супраціў на пятым зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі, на якім выразна зарысаваліся як-бы два кірункі: кірунак афіцыйны, рэпрэзэнтаваны старшынём Саюзу пісьменьнікаў Беларусі Пятрусём Броўкам ужо хоць-бы ў моц ягонага службовага становішча ды некалькімі другараднымі пісьменьнікамі, ведамымі із свайго партыйнага сэрвілізму, і кірунак, што выражаў пагляды аснаўной бальшыні пісьменьніцкай грамадзкасьці. Прадстаўнікі гэтага другога кірунку ў дыскусіі на зьезьдзе вызналі правільнай і карыснай тэндэнцыю літаратурнага разьвіцьця, узятую апошнімі гадамі.

Сяньняшнюю сытуацыю ў беларускай літаратуры вельмі добра характарызуе яшчэ й гэткі факт. Прыхільнік партыйнага дагматызму й рэглямэнтацыі літаратуры пісьменьнік Уладзімер Карпаў выступіў у сакавіковым нумары «Полымя» за 1966 год з артыкулам «Позірк назад», у якім, выказаўшы незадаваленьне із сучасных тэндэнцыяў разьвіцьця беларускае прозы, радзіць арыентавацца на творы часоў сталінізму. Уладзімер Карпаў ня толькі застаўся зусім адзінокім у сваіх паглядах, але быў аднагодна заатакаваны іншымі пісьменьнікамі, як у друку, гэтак і на пісьменьніцкім зьезьдзе, што навет ён сам, выступіўшы на зьезьдзе ў іншым пытаньні, зусім не спрабаваў бараніць сваіх пазыцыяў, занятых у гэным артыкуле.

Характэрным водгукам на зьезд пісьменьнікаў Беларусі быў рэдакцыйны, трэба думаць, інсьпіраваны партыйнымі вярхамі, артыкул «Упоравень з часам», што быў зьмешчаны ў № 7 «Маладосьці» за 1966 год. У артыкуле, між іншым, чытаем:

> ... нельга абыйсьці маўчаньнем той факт, што некаторыя маладыя й пачынаючыя пісьменьнікі замест глыбокага адлюстраваньня жыцьця ва ўсёй яго шматграннасьці топчуцца на маленькім пятачку дробных, прыватных тэм: няўдалае каханьне, першае прызнаньне, няверная дружба, успаміны дзяцінства. Прычым яны, як правіла, ня ўзьнімаюцца вышэй апісаньня факту.[388]

Пасьля такой строгай крытыкі далей знаходзім у артыкуле й адпаведныя накіраваньні, ужо ў строга дырэктыўным парадку:

> Забароненых тэм няма. Пісьменьнік можа выбіраць і любую форму, якая яму патрэбна, каб ярчэй выявіць ідэю твору, што служыць нашай агульнай справе. Але шэрасьць, ілюстрацыйнасьць, як халоднае рамесьніцтва, бязумоўна, павінны быць забаронены.[389]

---

[388] «М», № 7, 1966, б. 105.

[389] Тамсама, б. 106.

Усе закіды гэтага артыкулу пад адрысам маладых пісьменьнікаў — гэта называньне пазытыўных мамэнтаў нэгатыўнымі тэрмінамі. Усё тое, аб чым б'е на трывогу артыкул «Маладосьці», агульна можна схарактарызаваць, як адмову маладых пісьменьнікаў ставіць сваю творчасьць на службу ідэйных і практычных патрэбаў партыі, як імкненьне да поўнае творчае свабоды, да неабмежанага ніякімі догмамі й дырэктывамі выказваньня ўсяго таго, што накіпела ў пісьменьнікавай душы.

Зусім прыродна, што піянэрамі гэтае новае плыні ў літаратуры — перш-наперш маладыя й наймалодшыя пісьменьнікі. Адзін з маладых паэтаў Казімер Камэйша ў сваім вершы 1965 году пісаў: «Вайны я ня знаю, помню ледзь-ледзь сорак пяты».[390] А маладая паэтка Вера Вярба прызнаецца ў сваім вершы: «Аб вайне мне расказваюць абэліскі. Васільковым полем у кананаду грозную прайшла дзяўчына ля маёй калыскі».[391] Гэткім парадкам, раньняя маладосьць сяньняшняй літаратурнай моладзі прыпадала на гады, калі ўдушлівая атмасфэра сталіншчыны пачынала ўжо разьвейвацца, а гады раньняе сталасьці праходзілі ў часы дэсталінізацыі. А пра жахлівыя 30-ыя гады, што чорным прывідам маячаць яшчэ ў памяці старэйшых пісьменьнікаў, маладыя й наймалодшыя пісьменьнікі ведаюць адно з апавяданьняў і ўспамінаў іншых. Дый пісьменьнікі сярэдняга векам пакаленьня, што прайшлі празь пекла апошняе вайны, пазнавалі жыцьцё на ваенных франтох і фармавалі свой сьветапагляд пад уплывам бачанага й кроўна перажытага гора. Таму ў васобах маладога й сярэдняга векам літаратурнага пакаленьня сфармаваўся зусім новы псыхалягічны тып з усімі азнакамі новага часу.

Зарукай таго, што літаратурная моладзь і сярэдняе векам пакаленьне мае ўсе дадзеныя далейшага няўпыннага росту й буйнага разьвіцьця сваёй творчасьці — бясспрэчныя мастацкія здольнасьці й таленавітасьць гэтых пісьменьнікаў, іхная высокая літаратурная культура й строгая патрабавальнасьць да самых сябе. Такой-жа зарукай іхная глыбокая ідэйнасьць і гарачы беларускі патрыятызм.

---

[390] Казімер Камейша, Восеньскія позвы. «М», № 4, 1965, б. 121.
[391] Вера Вярба. Калі пачынаецца каханьне. «М», № 10, 1966, б. 5.

# Справа аўтаноміі Беларусі ў Першай Думе і „Наша Ніва“*

Янка Запруднік

Нацыя можа складацца з розных элемэнтаў, але адным зь неадлучных і незаменных складаноў ейных павінна быць памяць пра сваю мінуўшчыну — як найпаўнейшая, як найглыбейшая.

*

У першай палавіне 1906 году, калі на Беларусі разьняволенае нацыянальнае слова ўбіралася ў сілу, каб увайсьці неўзабаве ў гісторыю вызначнай нашаніўскай традыцыяй, у сталіцы Расейскае дзяржавы, у Пецярбургу, засядала Першая Дзяржаўная Дума (ад 27 красавіка да 8 ліпеня паводля старога стылю). 478 пасланцоў з розных частак імпэрыі напружана й натхненна шукалі выхаду із затхлі зьбюракратызаванага самаўладзтва, з аднаго боку, ды ратунку ад рэвалюцыйнага катаклізму, з другога. Разам з гэтым прабіваліся на сьвет і палітычныя асьпірацыі падбітых нацыянальнасьцяў, якімі абрасла на працягу стагодзьдзяў маскоўская спадчына Раманавых. Прадстаўленая ў Думе была й Беларусь, афіцыйна званая тады ўсё йшчэ абезасабоўленым тэрмінам «Северо-Западный Край».

Сярод пасланцоў Паўночна-Заходняга Краю былі мяшчане, сяляне, шляхта-дварянства, духавенства; былі людзі з вышэйшай асьветай (вялікая бальшыня), зь сярэдняй, з пачаткавай; былі праваслаўныя й каталікі; былі Беларусы, Палякі, Лятувісы, Жыды, Расейцы, Латышы; былі канстытуцыйныя дэмакраты, трудавікі, беспартыйныя, аўтанамістыя.

Мы ня будзем займацца тут характарыстыкай усіх гэных групаў, адкладаючы гэта да іншых нагодаў. Паглядзем адно тымчасам, як у Першай Дзяржаўнай Думе Расеі была выказаная, на чым грунтаваная, ідэя аўтаноміі Паўночна-Заходняга Краю, ды як разумець і чым вытлумачыць

---

* У васнове гэтага артыкулу даклад, прачытаны на навуковай канфэрэнцыі ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку 12 чырвеня 1966 г.

тую пазыцыю ў дачыненьні да гэтых выказваньняў, якую заняла «Наша Ніва», калі напрыканцы 1906 году яна пачала выходзіць.

*

Нацыянальнае пытаньне, разам із справаю палітычнае амнэстыі й зямельнае рэформы, было галоўным аб'ектам дэбатаў у першым парлямэньце імпэрыі. Пацьвярджаюць гэта й савецкія гісторыкі, праўда, упорыста ўхіляючыся ад дакумэнтаваньня ды распрацоўваньня самое тэмы.

Актуальнасьць нацыянальнага пытаньня ў Расеі, як ведама, вынікала з абмежаваньня й перасьледу нерасейскіх народаў. У Думе, установе аддаөай дэмакратычным прынцыпам, патрэба разьвязаньня нацыянальнага пытаньня выплывала ўжо з самога пастуляту роўнасьці ўсіх грамадзянаў перад законам. І дзеля гэтага ўжо Дума, адказваючы цару на ягоную тронную прамову, задэкляравала:

> Дзяржаўная Дума апрацуе закон пра поўнае зраўнаньне ў правох усіх грамадзянаў, із скасаваньнем усіх абмежаньняў і прывілеяў, абумоўленых станам, нацыянальнасьцяй, рэлігіяй або родам.[1]

Дума ў тым-жа сваім адказе — вялікім дакумэньце расейскае канстытуцыйнае гісторыі — дзякуючы дамаганьням нацыянальных дэпутатаў, унесла і інтарэсы нацыянальнасьцяў у праграму свае дзейнасьці:

> Дзяржаўная Дума ўважае, нарэшце, за канечнае адзначыць у ліку безадкладных заданьняў сваіх і разьвязаньне пытаньня пра задаваленьне даўно насьпелых дамаганьняў паасобных нацыянальнасьцяў. Расея становіць дзяржаву, заселеную шмат якімі плямямі й народнасьцямі. Духовае задзіночаньне ўсіх гэтых племяў і народнасьцяў магчымае адно пры задавальненьні патрэбы кажнага зь іх захоўваць і разьвіваць сваеасаблівасьць у паасобных галінах быту. Дзяржаўная Дума паруліцца пра шырокае здавальненьне гэтых справядлівых патрэбаў.[2]

*

Адным з дынамічных і красамоўных абаранынікаў нацыянальных правоў быў у Думе дэпутат Менскае губэрні, кадэт, аўтанамісты — Аляксандар Лядніцкі. Ужо на чацьвертым паседжаньні Думы 3 (16). V. 1906 г. Лядніцкі падаў голас нацыянальнага пратэсту й дамаганьняў. Выступаючы ў справе адрысу (звароту) ў вадказ цару на ягоную тронную прамову, Лядніцкі заяўляў:

> Мы, прадстаўнікі паасобных нацыянальнасьцяў і тэрыторыяў, уважаем за магчымае прыняць той адрыс, які складзены камісіяй, але ў гэтым гістарычным мамэньце, ад імя гэтых прадстаўнікоў уважаю за свой абавязак заявіць і вытлумачыць, як мы разумеем задавальненьне тых справядлівых нацыянальных дамаганьняў, у імя якіх мы сюды зьявіліся.[3]

---

[1] Государственная Дума. Стенографические отчеты. т. I. Государственная типография, С.-Петербург, 1906, б. 239. (Далей пры спасыланьні на гэтую крыніцу ўжываецца скарот «СО», г. зн. «Стенографические отчеты»).

[2] Тамсама, б. 241.

[3] Тамсама, б. 102.

Лядніцкі, між іншага, будучы з нацыянальнасьці Паляком, але родам, відаць, зь Беларусі, разрозьніваў нацыянальныя інтарэсы Беларусі й Польшчы, не атаесамляў гэтых двух краёў, а ставіў поруч, што відаць зь ягоных словаў:

> Калі мы слухалі прадстаўнікоў Царства Польскага, салідарных з намі ў вагульным імкненьні да палітычнае свабоды, мы ўспомнілі, што там задыхаюцца ў атмасфэры пораху й дыму, у атмасфэры самавольства й гвалту; . . . калі мы ўспамінаем, што мусульманскі зьезд яшчэ нядаўна ня мог сказаць свайго собскага слова ў вабарону сваіх правоў, калі Ліфляндыя, Эстляндыя й Літва зьнябываюцца ў шчамлётках карных аддзелаў і таго самавольства, зь якім мы таксама змагаемся, дык я бачу, *як адтуль з нашых родных мясьцінаў працягваюцца рукі нашых братоў,* (падчыркненьне наша — Я. З.) тых-жа працоўных клясаў, тых-жа работнікаў, таго-ж працоўнага сялянства, якія клічуць-просяць расейскі народ пра дапамогу, пра тое, каб у гэтую ўрачыстую часіну ўсім стаць упоруч у змаганьні за агульную свабоду, за ўстанаўленьне вялікіх пачаткаў справядлівасьці.[4]
>
> Я думаю, — казаў далей Лядніцкі, — . . . што справядлівае імкненьне паасобных акругаў у прызнаньні ім поўнае свабоды ў арганізацыі самастойнага нацыянальнага быту, у арганізацыі яго на прынцыпах аўтаноміі й аўтаномнага самакіраўніцтва, знойдзе тут задавальненьне . . . Мы ня толькі вітальна кланяемся прадстаўніком расейскага народу, але й уважаем за свой абавязак заявіць, што ад гэтага расейскага народу мы чакаем задавальненьня нашых нацыянальнаых дамаганьняў.[5]

Лядніцкі выказаў у Думе сваё моцнае перакананьне, што калі надыйдзе мамэнт падліку нацыянальных імкненьняў, «дык будуць узятыя на ўвагу канкрэтныя й этнаграфічныя асаблівасьці, якімі кажная асобная акруга або нацыянальнасьць, бяспрэчна, вызначаюцца».[6]

На адну з «канкрэтных» асаблівасьцяў беларускага народу зварачаў увагу дэпутатаў Думы прадстаўнік тае-ж Менскае губэрні, зь якое паходзіў і Аляксандар Лядніцкі, князь Геранім Друцкі-Любецкі. У часе абмяркоўваньня пытаньня зямельнае рэформы Друцкі-Любецкі казаў:

> Спадарове народныя прадстаўнікі! Я сам паходжу зь Менскае губэрні, гэта значыцца з аднае з губэрняў Паўночна-Заходняга Краю, да якога тарнаваліся ўсялякага роду вылучныя захады й дзе ўстанавілася поўнае панаваньне бюракратызму . . . Я сам рос сярод народу й ведаю, што гэты просты сельска-гаспадарскі народ Беларусі мае таксама свае ідэялы. Ягоны ідэял — ,Зямля Божая', але й народ Божы — таму ён уважае, што гэтая Божая зямля павінна належаць свайму Божаму народу, гэта значыць, што патрэбы дадзенае мясцовасьці, патрэбы дадзенае нацыянальнасьці павінны быць задавольненыя згодна зь ідэялямі гэтае нацыянальнасьці.[7]

---

[4] Тамсама, б. 103.
[5] Тамсама, б. 103.
[6] Тамсама.
[7] Тамсама, б. 197.

Друцкі-Любецкі, між іншага, у вадным із сваіх далейшых выступленьняў зварачаў увагу на псыхалягічную асаблівасьць жыхарства Паўночна-Заходняга Краю, на пачуцьцё неадлучнасьці індывідуальнае зямельнае собскасьці:

> Гэтае пачуцьцё, — казаў ён, — гэтак глыбака прасякла ў душу жыхарства Паўночна-Заходняга Краю, што яно заве гэтую зямлю сваёй зямлёй, а прынцып собскасьці гэтак грунтоўна яму ўласьцівы, што, праўду кажучы, яно навет уважае, што ўся тэрыторыя павінна належыць вылучна жыхарству, што на ёй жыве.[8]

Мы бачым, як на аснове псыхалягічнае асаблівасьці беларускага народу фармуляваўся пастулят нацыянальна-палітычны: «уся тэрыторыя павінна належаць вылучна жыхарству, што на ёй жыве».

Выступаючы ў справе зямельнае рэформы — найгалаўнейшага й найскладнейшага пытаньня ў Першай Дзяржаўнай Думе — дэпутат Горадзенскае губэрні ксёндз Анатоль Сангайла зварачаў таксама ўвагу на мясцовыя своеасаблівасьці Паўночна-Заходняга Краю й грунтаваў на гэтым патрэбу дэцэнтралізацыі дзяржаўнае ўлады:

> Расея — дзяржава самая абшырная, мясцовыя ўмовы ейнага жыхарства гэтак разнастайныя, як разнастайнае й само жыцьцё... Што можа стацца выгодным аднэй мясцовасьці, аднэй губэрні нутраной, таго можа выявіцца зусім недаволі й навет на шкоду губэрні паўночна-заходняй ці якой-небудзь іншай. Мы ўвесь час змагаліся зь бюракратыяй; цэнтральнае кіраўніцтва краем давяло нам сваю поўную недасканальнасьць. І калі мы, імкнучыся да дэцэнтралізацыі, ужываем у дадзеным выпадку аднолькавыя захады, дык мы творым новы бюракратызм... Я адважуся прасіць, каб мы зазірнулі ў сэрцы ўсіх народнасьцяў ува ўсе ўскраіны нашае абшырнае бацькаўшчыны й разьвязалі аграрнае пытаньне згодна зь мясцовымі ўмовамі.[9]

Дэпутат Віцебскае губэрні ксёндз Франц Трасун, Латыш з нацыянальнасьці, казаў тое самае:

> Мясцовыя палажэньні й спосабы земляўладаньня й землякарыстаньня гэткія розныя ў Расеі, што адзіны закон для ўсіх ніколі ня можна выдаць. Дзеля гэтага трэба было-б пакінуць гэта мясцовым установам, каб кажная з гэтых установаў вызначыла тую форму й спосабы валоданьня, якія яна жадала-б мець у сябе.[10]

«Для ўжыцьцёўленьня карэннае аграрнае рэформы, — казаў дэпутат Віленскае губэрні Ялавецкі, — перш-наперш павінна быць разьвязанае пытаньне пра аўтаномныя й краёвыя самакіраўніцтвы».[11]

Другі дэпутат зь Віленскае губэрні Міхал Гатавецкі дамаганьне аўтаноміі для свайго краю абгрунтоваў даволі шырака:

> Я, — казаў ён, — селянін і дэпутат ад сялянскае курыі Віленскае губэрні. Асяродзьдзе, зь якога я паходжу, у якім асабіста

---

[8] СО, т. I, б. 624.
[9] СО, т. I, б. 198.
[10] СО, т. I, б. 419.
[11] СО, т. I, б. 606.

прайшоў цяжкі працоўны шлях і якое мяне сюды прыслала, я ведаю даўно й добра, і толькі з гледзішча ягоных інтарэсаў я й буду гаварыць. Нашыя сяляне, перш-наперш ясна ўсьведамляюць, што яны павінны быць самі гаспадарамі ў сваім краі, і што яны павінны самі пастанаўляць пра сваю долю Яны перакананыя, што гэткае права павінна ім быць прызнанае найперш у пытаньні, для іх так надзвычай істотным і важным, як пытаньне аграрнае. Дзеля гэтага яны станоўка дамагаюцца, каб мясцовыя, адмыслова дзеля гэтае мэты створаныя, выбарныя ўстановы кіравалі гэтую справу на месцы. Гэтыя мясцовыя выбарныя ўстановы павінны быць складзеныя так, каб мясцоваму-ж працоўнаму сялянству было ў іх поўнасьцяй забясьпечанае належнае яму паводля справядлівасьці месца. Ад цэнтральнага органу ім павінны быць перададзеныя адно самыя агульныя прынцыповыя настаўленьні што да кірунку справы, а справа сама ня толькі ў дэталях, але й у істотных рысах павінна быць абавязкава разьвязаная на месцах. Гэтага вымагае элемэнтарная справядлівасьць, гэтага вымагае пасьлядоўнасьць ў правядзеньні дэмакратычнага прынцыпу, і гэта няўхільна выплывае з карэннае разнастайнасьці абставінаў у розных мясцовасьцях дзяржавы.[12]

Да аргумэнтаў, чэрпаных з эканамічных і псыхалягічных асаблівасьцяў Паўночна-Заходняга Краю, дадаваліся таксама й аргумэнты-дамаганьні характару нацыянальна-палітычнага: край павінна кіраваць карэннае жыхарства, а ня чужы прыйшлы й варожы элемэнт.

Найзырчэй выявіўся гэты аргумэнт у часе дэбатаў над пагромам Жыдоў, што адбыўся ў Беластоку на самым пачатку чырвеня 1906 году. Хто быў адказны за гэты злачын?

Пытаньне прычынаў пагрому, ягоных спраўцаў і вінавайцаў, дэтальна разглядалася ў Думе Усе стрэлы зьбінавачаньня ляцелі ў бок ураду, паліцыйных органаў, камандаваньня вайсковымі часткамі царскае арміі, што знаходзіліся ў Беластоку ў часе пагрому, ды мясцовага чарнасоценнага элемэнту. Дэпутат места С.-Пецярбургу Вінавер гэтак, прыкладам, схарактэрызаваў беластоцкія падзеі:

> У Беластоку, папраўдзе кажучы, ня было пагрому. У Беластоку была вайскова-паліцыйная экспэдыцыя дзеля застрашаньня рэвалюцыянераў шляхом забойства бязьвінных. Горадзенскі губэрнатар гэтак і сказаў: ,Там ня было пагрому, гэта была перастрэлка з рэвалюцыянерамі', — перастрэлка з аднаго боку, зразумела.[13]

З разглядам справы беластоцкага пагрому выступіў у Думе 26. VI. (9. VII.) 1906 г. дэпутат Віленскае губэрні каталіцкі біскуп барон Адварды Роп. Пра дачыненьне да Жыдоў карэннага жыхарства Паўночна-Заходняга Краю ён казаў:

> У нас вялікі працэнт Жыдоў, але ўвесь наш народ, Лятувісы, Беларусы й Палякі, звыкліся з Жыдамі, зь якімі яны жывуць сотні гадоў, звыкліся да такое ступені, што не разумеюць жыцьця йнакш:

---

[12] СО, т. I, б. 883.
[13] СО, т. II, б. 1734.

ува ўсіх справах гаспадарскіх і гандлёвых, усюды й заўсёды, Жыды для іх — патрэбнае злучво.[14]

Адкуль-жа, тады, браліся пагромы? Прычыну й актыўны ўдзел у іх біскуп Роп бачыў у «истинно-русских людях» Паўночна-Заходняга Краю, асабліва ў стараверах, якіх дзеля праводжаньня пагромаў прывозілі ў патрэбнае месца навет зь іншых гарадоў: Дзьвінску, Лунінца, Бабруйску.[15] Роп выясьняў Думе, «што значыць у нас „стараверы"»:

> Стараверы, — тлумачыў ён, — пасяліліся ў нашым краю ў XVIII і часткава XIX стагодзьдзях. Гэта людзі вельмі дужыя, людзі працоўныя, што маюць добрыя якасьці, але маюць адно няшчасьце: яны былі ўвесь час пад апекаю ўраду сярод цэлае масы парыяў мясцовага жыхарства, якое ўрад прыгнятаў... У выніку даўгагадовага ўціску паўстала невялікае кола асобаў, што панавалі дасюль у гэтым краі, як у сваёй гасподзе. Гэтыя асобы, у выніку зьменаў, якія зайшлі апошнім часам, адчуваюць, што іхнае палажэньне пахіснулася, і яны хацелі-б, што-б там ні было, захаваць сваё ранейшае становішча. На няшчасьце гэткія групы ўвесь гэты час дзеілі пад рэлігійным сьцягам. Яны зваліся ,праваслаўнымі', але пасьля зьмянілі свой сьцяг з рэлігійнага на патрыятычны й назвалі сябе ,истинно-русскими людьми'. Ім было ўсяроўна, верыць чалавек ці не, няхай толькі ён будзе запісаны праваслаўным; ім усяроўна, дае школа асьвету, ці не, была-б толькі школа расейская; усяроўна, якія духовыя вартасьці чалавека, абы толькі была шыльда навонкі — ,праваслаўны', ,рускі'.[16]

Жыдоўскія пагромы, на думку біскупа Ропа, былі намаганьнямі рэакцыйнага расейскага элемэнту ў Паўночна-Заходнім Краі зьнішчыць вызвольны рух, у якім асабліва актыўную ролю адыгравалі добра арганізаваныя жыдоўскія арганізацыі. «У нас ніжэйшая ўлада часта належыць ,истинно-русским людям', — казаў біскуп Роп. — У запраўднасьці гэтая ніжэйшая ўлада напэўна й вінаватая ў пагромах, але ня думаю, каб вышэйшая ўлада брала ў гэтым просты ўдзел».[17]

На аснове гэткага аналізу прычынаў біскуп Роп выстаўляў цэлую палітычную праграму, як шлях да палепшаньня, да ўнармалізаваньня палажэньня ў Паўночна-Заходнім Краю:

> Пакуль у нас будуць усюды тыя асноўныя палажэньні, розьніцы народнасьцяў, розьніцы свабоды дзеяньня, пакуль будуць пад апекай ураду кіраваць краем людзі, што, шчыра кажучы, ня маюць з краем нічога супольнага, пакуль будуць панаваць людзі, хоць-бы й з найлепшымі намерамі, што прыяжджаюць зь Пецярбургу, Тыфлісу, Табольску ды з усіх іншых канцоў Расеі, якія краю ня ведаюць і ня могуць зразумець ягоных патрэбаў, пакуль усё гэта будзе, заўсёды, апрача процьмы зла й несправядлівасьці, будзе й небясьпека пагромаў. Гэтыя вышэйшыя людзі ня маюць сувязі зь ніжэйшымі: ніжэйшыя-ж хочуць як-небудзь абараніць сваё палажэньне. Як у абрусіцеляў краю, у іх зьяўляецца нейкая

---

[14] СО, т. II, б. 1731.
[15] СО, т. II, б. 1730.
[16] СО, т. II, бб. 1731—1732.
[17] СО, т. II, б. 1732.

> нянавісьць. У выніку-ж таго, што яны цягам даўгіх год карысталіся апекаю ўладаў, яны згубілі ўсякае разуменьне пра маральнасьць. І вось гэтыя ніжэйшыя нашы абрусіцелі — ,истинно-русские люди' гатовыя строіць розныя штукі, а вышэйшыя, ня ведаючы краю, змушаныя кіравацца дырэктывамі гэтых ніжэйшых чыноў, і затым ня ведаюць, што ім рабіць. Для нас адна разьвязка, але ня тая адзіная разьвязка, пра якую тут толькі й гаворыцца — адыход міністраў. Сто міністраў можа зьмяніцца, але пакуль унізе застануцца тыя-ж асобы, усе гэтыя міністры нічога ня здолеюць зрабіць, губэрнатары навет ведаць ня могуць, што вытварае які-небудзь спраўнік, прыстаў ці ўраднік. Для нас, каб пагромаў ня было, каб край мог разьвівацца нармальна й добра, каб існаваў мір між усімі клясамі, між усімі народнасьцямі, што жывуць у нашым краі, *трэба, каб людзі мясцовыя там на мясцох панавалі* (падч. наша — Я. З.). Пакуль не дасьцё нам мясцовага самакіраўніцтва, пакуль у запраўднасьці ўсе мясцовыя справы, уся ўлада ня будзе ў руках людзей мясцовых, да тае пары мы ня можам сказаць, што мы будзем у поўнай бясьпецы ад якіх-небудзь пагромаў.[18]

Выказваньні дэпутата Паўночна-Заходняга Краю біскупа Ропа станоўка падтрымаў прадстаўнік Чарнігаўскае губэрні Шраг, удакладняючы навет да пэўнае меры ягоную думку:

> Барон Роп, між іншага, адзначыў, што вінаватая ў беластоцкім пагроме тая кліка, што зьвіла сабе гняздо ў Горадні. Я магу далучыцца да бліскучае характарыстыкі, якую барон Роп даў гэнай кліцы абрусіцеляў; я магу далучыцца да таго, што на думку барона Ропа, адхіліць пагромы можна толькі тады, калі мясцовае кіраваньне пяройдзе ў мясцовыя рукі; я поўнасьцяй далучаюся да гэтае думкі ды ўважаю, што толькі тады, калі стары рэжым будзе заменены новым, у васнову якога будзе пакладзеная свабода, дэцэнтралізацыя й аўтаномія народаў і акругаў, толькі тады мы будзем забясьпечаныя й вызбавімся ад зьяваў, што назіраем цяпер.[19]

*

Дамаганьні аўтаноміі Паўночна-Заходняга Краю, бязумоўна, выстаўлялі ня ўсе ягоныя дэпутаты, ня ўсе зь імі згаджаліся, не для ўсіх аўтаномія была аднолькава жыцьцёвая. Дамагаліся яе пераважна прадстаўнікі шляхоцкага стану й каталіцкага духавенства. Сярод прычынаў, што абумаўлялі іхныя дамаганьні, ня былі, пэўна-ж, на апошнім месцы блізкасьць гэных людзей да традыцыяў свайго краю, памяць мінуўшчыны сярод іх, сьведамасьць гістарычнае апрычонасьці.

Як-жа паставілася да гэтых дамаганьняў аўтаноміі газэта «Наша Ніва», што пачала выходзіць чатыры месяцы па тым, як Першая Дзяржаўная Дума, прайснаваўшы 72 дні, была разагнаная?

Сваё дачыненьне да Думы «Наша Ніва» напэўна выявіла з самага пачатку выхаду ў лістападзе 1906 году. Дачыненьне гэнае было барджджэй за ўсё адмоўнае.* «Наша Ніва» выказвала пагляды Беларускае Сацыялі-

---

[18] СО, т. II, бб. 1732—1733.
[19] СО, т. II, бб. 1812—1813.
* Нажаль, у нашых руках няма нумараў «Нашае Нівы» за 1906 год.

стычнае Грамады, будучы ейным неафіцыйным органам, а БСГ разам зь іншымі левымі сацыялістычнымі партыямі выбары ў Першую Думу байкатавала.

Дакладней пра стаўленьне «Нашае Нівы» да Першае Дзяржаўнае Думы можна меркаваць на аснове першых нумароў за 1907 год. Расея тады была напярэдадні выбараў у Другую Дзяржаўную Думу, і ў друку шырака вялася перадвыбарная кампанія. Выказваючыся да пытаньня Другое Думы, людзі часта займаліся ацэнай Першае. Таму вось і ў «Нашай Ніве» пачатку 1907 году мы знаходзім выказваньні пра Першую Думу ды, зразумела, пра дэпутатаў у ёй ад Беларусі.

Ужо ў першым нумары «Нашае Нівы» за гэны год, у вартыкуле пра выбары ў Другую Думу, хтосьці Я. Гаравік прыгадваў, што ў 1906 годзе «ў Думу папалі ад Беларусі найбольш панскія дэпутаты». Як яны там захоўваліся? — «Гэтыя дэпутаты ні слова не гаварылі аб беднасьці й цяжкай долі дзеравенскага народу, а толькі нагвалт стаялі за тым, каб ні пядзіны панскай зямлі не адступіць мужыком. ... Блізка ўсе ксяндзы й біскуп барон Роп сталі на старану багачоў — памешчыкаў і ў Думе баранілі толькі іх інтарэсы».[20]

У тым-жа нумары «Нашае Нівы» нейкі Ясь, паведамляючы пра настроі што да Другое Думы ў Васілішках Віленскае губэрні, прыгадваў:

> А быў у Думе з нашага Лідзкага павету — Гатавецкі, ды толькі зь яго пацехі было, што на пекным крэсьлі ў Думе сядзеў дый пэньсіі па дзесяць рублёў у дзень браў, — а як трэба было гаварыць, то маўчаў, як немка. Не, нам не такі патрэбны: няхай будзе чалавек сьмелы, няхай будзе язычлівы, каб патрапіў за бедны народ заступіцца![21]

І крыху далей у тэй-жа карэспандэнцыі:

> Стыд навет падумаць: з другіх старон дэпутаты ў Думе сьмела дабіваліся для народу сьвету, свабоды, зямлі-маткі. І ня любіць іх паліцыя за іх шчырае сэрца для народу. А нашы — што? Ці паказвалі яны ўсяму сьвету нашу бяду? Не! Ці гаварылі яны сьмела праўду ў вочы чыноўнікам? Не! А цяпер ці ня жывуць сабе бяз страху пад ласкавым на іх вокам паліцыі? Жывуць![21]

Дэпутат Гатавецкі, пра якога пісаў Ясь, як ведама, у Дзяржаўнай Думе выступаў, і навет з даволі грунтоўнай прамовай на карысьць аўтаноміі (гл. вышэй). Вось-жа за месяц пасьля зьмяшчэньня карэспандэнцыі Яся «Наша Ніва» зьмясьціла папраўку пра недакладнасьць у карэспандэнцыі, але папраўку таксама вымоўную: «У карэспандэнцыі было сказана, што пан Гатавецкі маўчаў у Думе ,як немка'. Рэдакцыя заяўляе, што карэспандэнт абмыліўся: — адзін раз п. Гатавецкі ў Думе гаварыў». Каб чытач не падумаў, аднак, што Гатавецкага перапісваюць з катэгорыі паганых у катэгорыю добрых, рэдакцыя ня толькі называла Гатавецкага «панскім служкам» і «лёкаем», але й узмацняла зьвінавачаньне: «Прыехаўшы ў Пецербург, Гатавецкі для непазнаку запісаўся ў Трудавую Гру-

[20] «Наша Ніва» № I, 6. I. 1907, б. 6.
[21] «Наша Ніва» № I, 6. I. 1907, бб. 4—3.

пу, але не пакінуў хаўрусу з панамі ды біскупам (Ропам — Я. З.) і падаваў свой голас за тое, чаго хацелі паны».[22]

У ваднэй із сваіх перадавіцаў «Наша Ніва», выказваючы надзею на вайстрэйшую ў будучыні палітычную празорлівасьць «упаўнамочаных ад валасьцей», перасьцерагала мінулым дазнаньнем:

> Гэтыя людзі, калі злучацца з гарадзкімі выбаршчыкамі, то перасіляць памешчыкаў: калі-ж ня злучацца — то сапсуюць справу, як гэта было летась. У Вільні мужыкі выбралі пад камандай паноў і біскупа Ропа панскіх і біскупскіх прыслужнікаў. А ў Менску расейскія чарнасотнікі так добра парадзілі мужыком, што тыя ня злучыліся ні з гарадзкімі выбаршчыкамі, ні навет з памешчыкамі, і дзеля таго ня мелі ніякай сілы на выбарах.[23]

Перадавіца наступнага нумару прыгадвала йзноў зраду народных інтарэсаў у часе выбараў у Першую Дзяржаўную Думу:

> У прошлым гаду ў Вільні, калі сабраліся выбаршчыкі ад мужыкоў, то знайшлося між імі колькі прыслужнікаў памешчыкаў ды біскупа Ропа. Яны, як Юдашы, зрадзілі мужыкоў і працавалі для ворагаў мужыцкіх. А за гэта памешчыкі абяцалі выбраць іх дэпутатамі ў Думу — і выбралі.[24]

Праз тыдзень — яшчэ раз:

> У прошлым гаду нашы дэпутаты як паехалі ў Пецербург, так мы аб іх і ня чулі, а як Думу разагналі, то ўсе яны пахаваліся недзе, дый не далі ніякага атчоту тым, хто іх выбіраў. Толькі дэпутат ад мужыкоў з Гродзенскай губ. Брэсцкага пав. Кандрашчук, вярнуўшыся з Думы, аб'яжджаў воласьці свайго вуезду й расказваў сваім ізьбірацелям аб тым, што рабіла Дума, што рабілі дэпутаты й за што іх разагналі. Аб другіх дэпутатах ніхто ня чуў і ня бачыў іх.[25]

Асаблівым аб'ектам атакаў у «Нашай Ніве» быў біскуп барон Роп, як правадыр усяе рэакцыйнае клікі. Паведамляючы пра ход выбараў на нізавых сялянскіх пластох (выбары былі шматступенныя), газэта пісала:

> У Віленскім пав. выбралі такіх людзей, што не прададуцца памешчыкам і ня зрадзяць сваіх братоў-мужыкоў. Біскупа барона Ропа пастанавілі не выбіраць: «Біскуп — сказалі — быў і ў першай Думе, а за мужыкоў усё роўна не закінуў слова. Ён цягне за памешчыкаў, бо й сам памешчык. У справах духоўных яму можна верыць, але ў палітыцы — не, бо, што добра для мужыка, то ня надта добра для памешчыка.[26]

Як бачым, на балонках «Нашае Нівы» галоўная лінія падзелу й асноўная лінія фронту змаганьня праходзіла паміж «мужыкамі» і «памешчыкамі». Згодна з гэтым дзейнасьць дэпутатаў у Думе вымяралася й ацэньвалася аднэй-адзінай меркай: іхным стаўленьнем да зямельнага пытаньня. Іншай дыфэрэнцыяцыі палітычных інстынктаў і пачуцьцяў тады ня было.

---

[22] «Наша Ніва» № 5, 2. II. 1907, б. 8.
[23] «Наша Ніва» № 3, 19. I. 1907, б. 1.
[24] «Наша Ніва» № 4, 25. I. 1907, б. 1.
[25] «Наша Ніва» № 5, 2. II. 1907, б. 1.
[26] «Наша Ніва» № 5, 2. II, 1907, б. 4.

Дамаганьні ў Думе аўтаноміі для Паўночна-Заходняга Карю ня выклікалі ніякае прыхільнасьці на балонах газэты. Наадварот, «Наша Ніва» расшыфроўвала гэтыя дамаганьні, як змову, паказваючы на небясьпеку, што хавалася за ёю:

> Памешчыкі хочуць дабіцца таго, каб заместа цяперашніх расейскіх чыноўнікаў, назначаных ад правіцельства, панавалі й гаспадарылі ў нашым краю яны, памешчыкі. Жаданьні народу — другія. Народ хоча зямлі, хоча свабоды для ўсіх.[27]

Вартая ўвагі, між іншага, блізіня гледзішча паміж кагадзе працытаваным выказваньнем «Нашае Нівы» й выказваньнем да таго самага пытаньня сучаснага савецкага дасьледніка: «Шырмай аўтанамізму прыкрывалі сваё варожае стаўленьне да прымусовага адчужаньня (зямлі — Я. З.) памешчыкі Царства Польскага, *Паўночна-Заходняга* (падч. наша — Я. З.) й Паўдзённа-Заходняга Краю».[28]

*

Калі сацыялістычнасьць «Нашае Нівы» перашкаджала газэце падтрымваць ідэю аўтаноміі Беларусі ў выказваньнях кансэрватыўных дэпутатаў Першае Думы, дык гэная сацыялістычнасьць не перашкаджала ўсё-ж «Нашай Ніве» самой стаяць за аўтаномію Беларусі. Як актыўна «Наша Ніва» пашырала гэтую ідэю, як грунтоўна распрацоўвала палітычную праграму, што з гэтай ідэі вынікала, — застаецца справай далейшых досьледаў. Ясна тымчасам толькі адно, што ідэя аўтаноміі Беларусі была нашаніўцам блізкая.

Пра гэта, між іншага, хоць і задняй датай, даведваемся ад аднаго з заснавальнікаў і ідэйных кіраўнікоў нашаніўства Антона Навіны (Луцкевіча).

У 1910 годзе ў С-Пецербургу выйшла кніга «Формы нацыянальнага руху ў сучасных дзяржавах». У кнізе зьмешчаны артыкул пра Беларусаў Антона Навіны. Аўтар артыкулу выяўляе добрае азнаёмленьне зь гісторыяй ідэі аўтаноміі Беларусі, ставіцца да гэтае ідэі прыхільна ды паказвае сьведамасьць таго, што думка пра аўтаномію Беларусі была пашыраная ў розных колах і клясах беларускага жыхарства. Навіна піша:

> У 1904—5 гадох, разам зь іншымі пытаньнямі, высунутымі на парадак дня, уздымаецца пытаньне пра самакіраўніцтва для беларускага краю. Гэтае пытаньне горача абмяркоўваецца на зьездах інтэлігентаў у Вільні, на якіх сустракаем прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў, што засяляюць Паўночна-Заходні Край. Уздымалася яно і ў саюзе аўтанамістых-фэдэралістых, у якім бралі ўдзел і прадстаўнікі ад Беларусаў.[29]

---

[27] «Наша Ніва» № 4, 25. I. 1907, б. 2.

[28] С. М. Сидельников. Образование и деятельност Первой государственной думы. Изд. Московского у-та, Москва, 1962, стр. 313.

[29] А. И. Кастелянский (ред.). Формы национального движения в современных государствах. Изд. т-ва «Общественная Польза», С.-Петербург, 1910, бб. 391—392.

«Дамаганьне аўтаноміі для Беларусі, — кажа там-жа Антон Навіна, — знаходзім мы і ў праграме Беларускае Сацыялістычнае Грамады, прынятай другім зьездам на самым пачатку 1906 году.» Прыгадайма тут яшчэ раз, што «Наша Ніва» была неафіцыйным органам БСГ.[30]

У выказваньнях Антона Навіны знаходзім адно цьверджаньне, што асабліва завайстрае пытаньне палітычных гушчароў, праз якія прабівалася на сьвет думка пра аўтаномію Беларусі. Ант. Навіна кажа нам, што:

> Зь ініцыятывы паўсталага ў дадумаўскі пэрыяд ,Беларускага Сялянскага Саюзу' ў Першую Дзяржаўную Думу пасылаюцца сялянскія пастановы й наказы, у якія, між іншага, улучаюцца дамаганьні аўтаноміі Беларусі з соймам у Вільні й нацыянальнай школай.[31]

*

Мы бачым, што ідэя аўтаноміі Беларусі выплывала і справа і зьлева. У 1906 годзе, аднак, гэтыя дзьве плыні былі разьдзеленыя сацыяльна-эканамічнымі, псыхалягічнымі й культурна-моўнымі (ато й рэлігійнымі) бар'ерамі. З аднаго боку быў абшарнік Раман Ськірмунт, дэпутат Першае Думы, з другога — сацыялісты-нашанівец Антон Луцкевіч. Варожа настаўленыя адзін да аднаго ідэялягічна й палітычна ў 1906 годзе, яны тым ня менш апынуліся па адным баку лініі, у рэчышчы Беларускае Народнае Рэспублікі, у годзе 1918-ым. Як адбыўся працэс гэтага зьмірэньня? Як гэныя два струмяні — правы кансэрватыўны й левы сацыялістычна-рэвалюцыйны — зьліліся ў вадну дзяржаўніцкую плынь? Пытаньне гэтае вымагае грунтоўнага досьледу. Як ведама, палітычная публіцыстыка «Нашае Нівы» бадай зусім нявывучаная, як не распрацаваныя наагул шмат якія дзялянкі нашае палітычнае гісторыі.

*

Хацелася-б выказаць тут некаторыя меркаваньні што да мэтадалёгіі вывучэньня гэтага пытаньня.

Ці князь Друцкі-Любецкі, і ксёндз Сангайла, і селянін Гатавецкі, і Барон Роп і іншыя, што ў вадрознасьць ад Ськірмунта, ня былі беспасярэдня зьвязаныя з пасьлейшай дзяржаўніцкай фазай беларускага руху, ці яны належаць да беларускае гісторыі, ці не? Ці яны — частка беларускага гістарычнага працэсу, а праз гэта й аб'ект зацікаўленьня, вывучэньня, ці іх мэханічна трэба выкасоўваць зь летапісу Беларусі, як гэта робіць савецкая гістарыяграфія? Ці гэныя аўтанамістыя, дэпутаты Першае Дзяржаўнае Думы, зрабілі свой уклад у разьвіцьцё беларускага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва, ці былі толькі чужанацыянальнымі антынароднымі прыгнятальнікамі мужыка? І ці не зашмат, урэшце, канцэнтраваліся мы дасюль, вывучаючы сваю мінуўшчыну, на беларускамоўных

---

[30] Н. Недасек. Большевизм в революционном движении Белоруссии. Институт по изучению СССР, Мюнхен, 1956, стр. 126—127.
[31] А. И. Кастелянский, цыт. праца, б. 392.

творах і выданьнях? Ці ня стрыжэм мы свае гісторыі пад грабень сялянскіх ідэялаў і сацыялістычных вартасьцяў? Ці ня помсьціцца гэта фатальна на разуменьні свае мінуўшчыны й сябе самых?

Мы часта адчуваем, як цяжка дыхаць на поўныя грудзі праз вузкую трубку культуралістычнае канцэпцыі нашага гістарычнага працэсу. Заначма пры гэтым, што на культуралізм (толькі ў марксыцка-ленінскім варыяньце) хварэе ўвесь час і беларуская савецкая гістарыяграфія.

Гляньма, да чаго гэта вядзе.

На Беларусі, прыкладам, паміж 1901 а 1916 гадамі выходзіла, у розных часох, дзесьці пад 150 розных пэрыядычных выданьняў. Праўда, блізу ўсе яны былі ў расейскай мове. Але-ж тым ня менш гэта — арганічная частка гісторыі Беларусі свайго часу. Чаму дасюль ніхто не пацікавіўся гэтымі крыніцамі? Чаму ніхто ня выведаў, што за гістарычныя плыні білі ў іх? Чаму ніхто не заглянуў у «Белорусский Вестник» (1904—5), «Брестский Листок» (1907—10), «Голос Белоруссии» (1906), «Минская Старина», «Минское Слово» (1906—12), «Отклики Белоруссии» (1906), «Северо-Западная Жизнь» (1913—15), «Бобруйская Жизнь» (1913—14), «Витебский Голос» (1905—7), «Придвинский Край» (1912), «Гомельская Мысль» (1910—14), «Полесский Курьер» (1914—15), «Гродненская Копейка» (1912), «Лепельский Вестник» (1911—12), «Лидское Слово» (1912—13), «Мозырянин» (1914—15), «Плочанин» (1909), ды іншыя, ды іншыя, ды іншыя?[32]

Мо ня ўсе яны поўнасьцяй захаваліся. Але ці рабіліся наагул спробы адкопваць іх, заглядаць у іх? І калі не, дык ці не перашкаджаў гэтаму культуралізм у падыходзе да нашае гісторыі, аўтаматычнае адкіданьне ўсяго, што ня зьвязана зь беларускай мовай, культурай?

Цяпер пастаўма сабе пытаньне: У 1906 годзе — якой шырыні была плынь нацыянальнага жыцьця Беларусі — Беларусі такой, якой яна была тады, не абавязкава беларускамоўнай, не абавязкава нацыяналістычнай? Якія нурты ў гэнай плыні абумаўлялі ход падзеяў, фармавалі будучыню?

Гэта пытаньне мэтадалёгіі. Якім-жа прынцыпам кіравацца тут?

Вось-жа так, як у геамэтрычнай прасторы паміж двума пунктамі можна правесьці лінію, гэтак у прасторы гістарычнай, часавай, паміж двума мамэнтамі (скажам, паміж 1906 і 1918 гадамі) можна правесьці лінію галоўнага разьвіцьця. На Беларусі разьвіцьцё гэтае йшло ад запярэчаньня йснаваньня беларускае нацыі да абвешчаньня беларускае сувэрэннае дзяржавы. А таму — абавязак сучаснага гісторыка прасачыць лінію гэтага разьвіцьця: вытлумачыць тое, што было спачатку, з гледзішча таго, што сталася пасьля, з гледзішча таго, што ёсьць сяньня. Абавязак гісторыка, інакш кажучы, дасьледваць *усе* гістарычныя фактары, што ўзьдзейвалі на фармаваньне асноўнага факту нашае найнавейшае палітычнае гісторыі — беларускае дзяржаўнасьці — не зважаючы на тое, ці гэныя фактары былі расейкамоўныя, польскамоўныя, ці беларускамоўныя. Шукаць гэных фактараў трэба, бясспрэчна, пры дапамозе крытэрыяў не літаратурна-

[32] Гл. Академия наук БССР. Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.), т. III. Минск, 1953, бб. 305—309.

моўных, культуралістычных, а шырэйшых крытэрыяў — палітычна-дзяржаўніцкіх.

Паўстае тут, пэўна-ж, пытаньне: а што рабіць з тым, што нацыянальна-дэмакратычная дзяржава, Беларуская Народная Рэспубліка, была падмененая сацыялістычна-таталітарнай дзяржавай, Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай? Адказ на гэта такі, што адно другога не засталучае, не касуе. Гістарычныя падзеі, калі на іх глядзець праз вакно адчыненага розуму, а не праз прадушыны марксыцкіх догмаў ды ленінскіх цытатаў, разьвіваюцца, як вынік сутыку розных сілаў і інтарэсаў, часам антаганістычных, часам хаўрусных, часам напоў- або начверцьхаўрусных. Лінія гістарычнага разьвіцьця абумаўляецца, так сказаўшы, і тым, што справа, і тым, што зьлева. Гэтак, прыкладам, БНР і БССР зьвязаныя неразрыўнай прычынавай сувязяй. Як паказвае ўжо храналёгія, БНР была акцыяй, БССР — рэакцыяй. А гэта не мяняе таго, што беларускі гістарычны працэс пачатку дваццатага стагодзьдзя трэба прасочваць з гледзішча *ідэі* беларускае сувэрэннае дзяржавы й ня звужаць яго да аспэкту — хоць і вельмі важнага — адраджэньня беларускае культуры. Адно гэтак мы вызвалімся з палону культуралізму ў разуменьні нашае мінуўшчыны ды рэгабілітуем свой гістарычны працэс. На мінуўшчыну трэба глядзець шырэй і сьмялей, бо толькі такім шляхом узбагачваецца будучыня . . .

Цэнтральнае пытаньне найнавейшае палітычнае гісторыі Беларусі такім парадкам: адкуль паходзіць беларуская незалежніцкая ідэя? Хто першы быў заражаны ейнымі мікробамі? Якое асяродзьдзе спрыяла іхнаму перахоўваньню й дасьпяваньню? Хто займаўся іхным пашыраньнем?

І як толькі мы дакранаемся да гістарычнага матар'ялу, дык адразу-ж упіраемся ў пытаньне ролі беларускага шляхоцтва; ролі кансэрватыўнага элемэнту; ролі людзей, часамі небеларускае культуры, якія аднак стаялі за аўтаномію Беларусі, што сталася, як паказалі далейшыя падзеі, першай фазай руху да незалежнасьці.

Беларускасьць, як ідэя, трэба памятаць, у шмат якіх выпадках ішла паперадзе тэрміналёгіі: часта тое, што ня было беларускім паводля свайго тэрміну, было ім у сваёй аб'ектыўнай існасьці. Тэрміналягічная дрыгва нашае гісторыі ўсё йшчэ чакае на сваіх мэліяратараў.

Савецкая гістарыяграфія, зазначма, ставіць таксама тое-ж кардынальнае пытаньне: адкуль незалежнасьць Беларусі (незалежнасьць у савецкім разуменьні)? Дзе бяруць пачатак вытокі беларускае дзяржаўнасьці? Толькі адказ на гэта даецца падагматычнаму спрошчана й паагітатарску заежджана: дзяржаўнасьць беларускаму народу дала Кастрычніцкая рэвалюцыя ! . . Ад яе пачынаецца будаваньне беларускае сацыялістычнае нацыі.

Беларуская сацыялістычная нацыя ня была, аднак, дэкрэтаваная й ня была абвешчаная тэлеграмай з Крамля. Фармаваньне нацыі, якое-б там ні было — буржуазнае ці сацыялістычнае — —працэс складаны й павольны. Дзеля гэтага зьяўленьне й беларускае сацыялістычнае нацыі мусіла быць абумоўленае цэлым сьцягам падзеяў папярэдніх дзесяцігодзьдзяў. Нажаль, досьледам гэтага пытаньня ў Савецкай Беларусі дасюль ніхто, як сьлед, ня мог заняцца: усе адыходныя шляхі перарэзаныя загарадзяй — «партыйнасьць (плюс русыфікацыйнасьць) гістарычнае навукі!» Гэтак

вось і выходзіць: беларуская савецкая гістарычная навука неўзабаве будзе адзначаць сваё 50-годзьдзе, а беларускі народ — блізу паўвеку сацыялістычнае дзяржаўнасьці, а дасюль гісторыя нацыянальнае сьведамасьці ляжыць няўзьнятым аблогам. Савецкую гістарычную навуку, аніяк не бянтэжыць тое, што ў трактаваньні гісторыі беларускае дзяржаўнасьці яна даходзіць да кур'ёзаў, на адзін зь якіх варта глянуць.

У 1958 годзе ў выдавецтве Акадэміі навук БССР выйшла калектыўная праца «Фарміраваньне і разьвіцьцё беларускай сацыялістычнай нацыі».[33] Першы разьдзел гэтае кнігі кідае чытача адразу-ж з галавой у вір 1917 году. Разьдзел гэтак і загалоўлены: «Кастрычніцкая рэвалюцыя і ўзьнікненьне асноваў беларускай сацыялістычнай нацыі». Тымчасам нельга ўцячы ад пытаньня: а як-жа выглядала справа зь беларускай нацыяй да рэвалюцыі? І тут-жа кідаецца ў вочы мэтадалягічная непасьлядоўнасьць савецкіх дасьледнікаў. Калі, прыкладам, яны пішуць гісторыю сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры, дык разьбіраюць па костачках і Багрыма, і Дуніна-Марцінкевіча, і Багушэвіча, і цімала іншых літаратараў XIX-га й пачатку XX-га стагодзьдзяў. Трэба, бачыце, паказаць на глыбокія гістарычныя карані «перадавога мэтаду сацыялістычнага рэалізму» ў беларускай літаратуры. Тож-ба! Тымсамым тропам трэба было-б ісьці ў дарэвалюцыйныя дзесяцігодзьдзі, углыбкі, дасьледуючы пытаньне паходжаньня й беларускае сацыялістычнае нацыі. Але гэтага ня робіцца, каб ня будзіць прыспанае мінуўшчыны.

Савецкай гістарычнай навуцы, як бачым, не стае сьмеласьці заставацца пасьлядоўнай у рамках ёю-ж прынятага мэтадалягічнага прынцыпу: ісьці глыбей за Кастрычніка.

Ад гэтае непасьлядоўнасьці партыйнае навукі, зразумела, не мяняецца асноўны факт: як паказваюць ужо матар'ялы Першае Дзяржаўнае Думы, радаводу беларускае незалежніцкае ідэі й беларускае дзяржаўнасьці (а савецкім гісторыкам — і тае сацыялістычнае нацыі) трэба шукаць у дзесяцігодзьдзях, што йдуць далёка глыбей за Кастрычніцкую рэвалюцыю. Кастрычнік беларускае дзяржаўнасьці не спарадзіў і ёй ня спрыяў, ён перахапіў адно ідэю яе, ды, пагвалціўшы, налажыў на яе сацыялістычныя клямры.

---

[33] Акадэмія навук БССР. Інстытут філасофіі. Фарміраваньне і разьвіцьцё Беларускай сацыялістычнай нацыі. Мінск, 1958. (Рэд. калегія: П. Ф. Глебка й інш.).

# Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры

Сымон Брага

What's in a name? that which we call a rose
By any other name would smell as sweet.

*W. Shakespeare.*

Ад часу апошняе сусьветнае вайны ў падсавецкіх публікацыях аб доктару Скарыну няма часта адналітасьці што да ягонага імя. Скарыну называюць і *Францішкам,* і *Юрым,* — ці, з расейскага, *Георгіем,* — або й абодвума гэтымі імямі адначасна. У СССР і, асабліва, у Беларускай ССР, паваеннымі гадамі выразна прапагавалася расейскае *Георгий,* як Скарынавае галоўнае й адзіна правілнае імя, заміж блізу вылучна перад гэтым ужыванага *Францішак.* У беларускім падсавецкім друку гэта імя пісалася й пішыцца няраз і з фанэтычна ў беларускай мове недапушчальным чужым расейскім канцавым *«й»*[1].

*Георгій,* і часта толькі *Георгій,* доктара Скарыну называлі ў БССР у партыйным друку, у публікацыях навуковых установаў, у школьных падручніках, у надпісах пад ягонымі партрэтамі. Па апошняй сусьветнай вайне друкаваўся раман аб Скарыну М. Садковіча й А. Львова. Раман быў названы «*Георгій* Скарына». Паваеннымі-ж гадамі М. Клімковіч напісаў драматычную паэму-трылёгію «*Георгій* Скарына». У 1956 годзе Акадэмія Навук Беларускае ССР выдала ў Менску папулярны нарыс аб доктару Скарыну В. В. Чапко пад назовам «Беларускі першадрукар *Георгій* Скарына». Колькі год таму ў Менску быў выпушчаны кароткамэтражны фільм, які таксама названы «*Георгій* Скарына». Навет пры рэпрадукцыі ведамага Скарынавага дрэварытнага партрэту зь ягонае Біблії, на якім, вітым пісьмом, дадзены ўнізе надпіс «Доктор *Франциско* Скорина», у падсавецкіх

[1] Прыкладам, Георгій ужываюць: Чапко В. В. Беларускі першадрукар Георгій Скарына. Выдавецтва Акадэміі Навук БССР. Мінск, 1956. Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасьць і сьветапогляд. Інстытут філязофіі Акадэміі Навук БССР. Мінск, 1958. Коршунаў А. Ф. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Інстытут імя Янкі Купалы. Акадэмія Навук БССР. Мінск, 1959, б. 169.

выданьнях ставіцца надпіс яўна супярэчны Скарынаваму: «*Георгій* Скарына»[2].

Навуковая й мастацкая літаратура аб доктару Скарыну й ягонай пісьменьніцкай дый выдавецкай спадчыне нарастае ўвесь час. Будзе яна расьці й у будучыні, асабліва з надыходам 450-х угодкаў беларускага друку, што прыпадаюць 6 жнівеня 1967 году, у дзень паявы першае, выдадзенае доктарам Скарынам, кнігі — праскага Псалтыра 1517 году. Дзеля гэтага, і ў вабліччы сучаснае яўнае блытаніны із Скарынавым імём, паўстае патрэба ўважнага, на аснове дакумэнтаў і фактаў, перагляду пытаньня ягонага імя, — ці імяў, — дый выясьненьня, чаму, на якой падставе ўжываецца тое або іншае, дый дзеля чаго адно зь іх напорыста прапагуецца, а другое — кансэквэнтна замоўчваецца. Якія за гэтым факты, дакумэнты, літаратура ды навуковыя, ці палітычныя, мяркаваньні. Важна й канечна гэта й з чыста практычнага гледзішча, каб ведаць, якое імя ўжываць бяз гвалту фактаў, гістарычнае запраўднасьці, а, галоўна — волі самога доктара Скарыны.

Справа таго ці іншага імя навет і гэткае выдатнае гістарычна постаці, як доктар Скарына, звычайна ня мае такога істотнага значаньня, каб над ім даўжэй затрымвацца. Калі гэтаму цяпер даводзіцца прыдзяліць крыху больш увагі, дык толькі ў выніку сучасных намаганьняў замены імя доктара Скарыны. Гэта змушае да грунтоўнага дакумэнтнага разгляду пытаньня, каб выясьніць яго ды заняць у гэтай справе становішча згоднае зь гістарычнымі фактамі й праўдай. З гэтаю, вось, мэтай друкаваная гэтта праца й была пісаная.

## 1

...я Францишек, Скоринин сын...

*Доктар Скарына, «Псалтыр», 1517 г.*

Да другой паловы мінулага стагодзьдзя із Скарынавым імям ня было ніякое блытаніны ды нікому ніякога клопату. Доктар Скарына ўва ўсёй і не малой тады ўжо навуковай аб ім літаратуры меў толькі адно імя: *Франьціішак*. Толькі гэтае імя знаходзім ува ўсіх выказваньнях аб Скарыну рукапіснае й друкаванае пісьменнасьці Эўропы праз стагодзьдзі XVI, XVII, XVIII, і аж да другой паловы XIX-га. «Аднаіменнасьць» гэтая была вынікам і таго, што ўва ўсіх кнігах, што выдаў Скарына, — на іх загаловачных бачынах, у прадмовах, у канцавых прыпісках, — сам Скарына

---

[2] Імя Георгій пад Скарынавым партрэтам зь Бібліі, для прыкладу, дадзенае: Чапко В. В., тамсама, б. 3. История Белорусской ССР, т. I. Академия Наук БССР, Институт Истории. Минск, 1954, б. 103. Вольскі Віталі. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры эпохі фэадалізма. Дзяржаўнае Вучэбна-Пэдагагічнае Выдавецтва Міністэрства Асьветы БССР. Мінск, 1958, б. 87. Большая медицинская энциклопедия. Изд. 2-ое, том 17. Издание «Советская энциклопедия». Москва, 1960, б. 256. Полоцк. Исторический очерк. Под редакцией И. С. Кравченко и И. В. Каменской. Издательство Академии Наук БССР. Минск, 1962, б. 89. 400 лет русского книгопечатания, том I. Ответственный редактор А. А. Сидоров. Издательство «Наука». Москва, 1964, б. 19.

называе сябе толькі адным імем: *Франьцішак*. Гэтае імя дадзенае й на дрэварытным партрэце доктара Скарыны, які ў трох варыянтах колькі разоў памешчаны ў кнігах Бібліі ягонага выданьня[3]. Нейкага іншага імя доктара Скарыны ні зь ягоных кнігаў, ні зь нейкіх іншых жаролаў, да другой паловы XIX стагодзьдзя ніхто ня ведаў, і дзеля гэтага й у справе ягонага імя ня было ніякога разнагалосься.

Што да імя *Франьцішак*, дык сам Скарына ў сваіх кнігах ужывае яго ў двух варыянтах: *Франциско* й *Францишек*. У прадмове да свае першае друкаванае кнігі, праскага Псалтыра 1517 году, Скарына кажа: «*я Францишек* Скоринин сын . . . » Таксама ў прадмове да Кнігі Ёвы, Кнігі Прысловаў Салямона, у віленскай «Малой падарожнай кніжыцы», — «*я Францишек* Скоринин сын . . . »

Другая форма імя, *Франциско*, у назоўным склоне ўжытая ў прадмове да Кнігі Царстваў, — «*я Франциско Скорина*», — а ў склонах родным і творным — *Франциска, Франциском*, — яго маем на загаловачных бачынах і канцавых прыпісках усіх Скарынавых кнігаў: «Повеленіем і працою . . . *Франциска* Скорины», «выложена доктором *Франциском* Скориною», і падобна. І на дрэварытным партрэце Скарыны, што памешчаны ў кнігах ягонай Бібліі, у надпісе вітым пісьмом дадзена *Франциско*: «Доктор *Франциско* Скорина». Асабліва выразнае канцавое «*о*» імя *Франциско* чытаецца ў надпісах на партрэтах Кнігі Сыраха й Кнігі Быцьця. Яно там, у форме малога колца, падвешанае пад правай ножкай папярэдняе літары «*к*». На варыяньце партрэту Кнігі Царстваў, робленым пасьпешна, з пропускамі некаторых дэталяў рысунку, канцавое «*о*» імя здэфармаванае[4].

Імя *Франціско* Скарына скланяў гэтак, як скланяюцца цяпер у беларускай мове імёны з націскам на канцавым складзе, імёны тыпу Пятро, Паўло (*Франціско, Францiска, Францiску, Францiском* і г. д.). Што імя *Францiско* гэтак тады скланялася ў беларускай мове, паказваюць і віленскі ды полацкі судовыя акты, у якіх доктар Скарына колькі разоў па імі названы. Гэтак, у віленскай судовай пастанове 1529 году сустракаем: «доктор *Францышко* от жоны своее мовил», «жоне доктора Францышка», «доктору Францышку»[5]. У пастанове-ж полацкага суду 1535 году маем: «часть доктора Францышка», «а будет ли Францышку доктору . . . которое дело»[6]. Форма імя *Францiско* як імя Скарыны ўжываецца й у ведзенай панямецку перапісцы 1538—39 год чэскае каралеўскае каморы ў Празе з каралём Фэрдынандам І. Скарына тамака ўвесь час згадваецца як „Maister Francisco“[7].

Кансэквэнтнае пісаньне ў судовых актах і Вільні, і Полацку, імя *Францышак* праз цьвёрдае «*ы*», а не праз «*и*», як пісаў у сваіх кнігах сам Ска-

---

[3] Брага Сымон. Партрэты доктара Скарыны. «Конадні», кн. 7. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Нью Ёрк — Мюнхэн, 1963, б. 138.

[4] Тамсама, б. 144.

[5] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатныя издания и язык. Общество любителей древней писменности, т. XC. Санктпетербург, 1888, б. 321—322.

[6] Владимиров П. В., тамсама, б. 324. Таксама: Беларускі Архіў, т. 2. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1928, б. 264.

[7] Köpl Karl. Urkunden, Acten, Regesten und Inventare. Jahrbuch der Kunsthistorischen Sammlungen des Allerhöchsten Kaiserhauses. Zehnter Band. Wien, 1889, б. 79, 80, 91, 92.

рына, паказвае, што гэтак у тую пару яно й вымаўлялася ў Беларусі. Хіба гэтак вымаўляў яго й сам Скарына, а пісаў праз *«и»* дапасоўваючыся толькі да традыцыйнага правапісу, падобна, як дзеля таго-ж правапісу й сваё прозьвішча пісаў ён праз «и» — *Скорина* — хоць у полацкіх судовых актах яно, наперакор тагачасным правапісным традыцыям, а згодна, затое, з вымаганьнямі беларускае фанэтыкі, консэквэнтна пісанае праз *«ы»* — *Скорына.*

Дзеля таго, што форма імя *Франьцішак* ад стагодзьдзяў ужо прынялася й замацавалася і ў народнай беларускай мове, і ў мове літаратурнай, ды, паколькі гэтую самую форму імя, — побач другое *Франциско,* — ужываў і сам доктар Скарына, дык *Франьцішак,* як ягонае імя, пішыцца звычайна й у сучасным беларускім друку. У расейскай літаратурнай мове імя *Франьцішак* традыцыйна пішыцца як *Франциск.* У ходзе паваеннае русыфікацыі ў БССР гэтая расейская форма імя сяньня навязваецца часта для доктара Скарыны й у беларускім падсавецкім друку. Там цяпер, звычайна, — калі імя гэтае, а не адно *Георгій,* згадваюць наагул, — пішуць не пабеларуску *Франьцішак,* а з расейскага — *Францыск* Скарына.

Адцеміць яшчэ варта, што рэдчас у навуковым друку можна сустрэць і *Франц* як Скарынавае імя. Гэта нямецкая форма імя *Франьцішак,* германізм. Імя *Франц* — „Doktoru Francovi“ — ужытае раз і ў пісаным пачэску адкрытым лісьце караля Фэрдынанда I, выстаўленым у 1552 годзе чэскаю каралеўскаю канцылярыяй Скарынаваму сыну Сымону. Напачатку гэтага самага ліста Скарынавае імя пададзенае пачэску „František“[8]. Цяпер, у навуковай літаратуры аб Скарыну, *Франц* як ягонае імя здараецца часам у ўкраінскіх аўтараў галіцкага паходжаньня, прыкладам у Івана Франка[9].

## 2

...Georgii Franciscii Scorinae...
*Sigismundus Rex, 1532.*

Калі спачатку ўся веда аб доктару Скарыну грунтавалася толькі на вестках зачэрпнутых зь ягоных-жа кнігаў, дык ад сярэдзіны XIX стагодзьдзя пачынаюць зьяўляцца й публікацыі архіўных, датычных яго, актаў. У 1849 годзе Тадэуш Мучкоўскі выдаў у Кракаве актавыя запісы Кракаўскага ўнівэрсытэту, у якіх запратакалаваны факт наданьня Францішку Скарыну ў 1506 годзе навуковае ступені бакаляўра[10]. У годзе 1858 Маўрыцы Круповіч друкуе ў зборніку Віленскае Архэалягічнае Камісіі копіі двух, пісаных палацінску, прывілейных граматаў, што былі выстаўленыя доктару Скарыну ў 1532 годзе ў Кракаве з канцылярыі караля й вялікага кня-

---

[8] Florovskij Ant. Vas. Nové zprávy o pobytu Františka Skoryny v Praze. Časopis Národního Musea. Oddíl Duchovědny. Ročník CX. Praha, 1936, б. 11—12.

[9] Прыкладам: франко Іван. Відгуки грецької і латинської літератури в українськім письменстві. «Стара Україна», кн. I—II. Львів, 1925, б. 11.

[10] Muczkowski Josephus. Statuta nec non Liber Promotionum philosophorum ordinis in universitate studiorum Jagellonica ab anno 1402 ad annum 1849. Cracoviae, 1848, б. 144.

зя Жыгімонта[11]. П. В. Валадзіміраў у манаграфіі 1888 году «Доктор Франциск Скорина» дае, узятыя зь Літоўскае Мэтрыкі, тэксты трох, пісаных пабеларуску, дакумэнтаў датычных доктара Скарыны: судовую пастанову вялікага князя Жыгімонта й Паноў Рады Вялікага Княства Літоўскага з 1529 году ў справе дому ў Вільні Скарынавае жонкі Маргарэты, ды, два полацкія акты ў справе спрэчкі зяцёў брата доктара Скарыны, Івана, за радавую зямлю Скарынаў на замку ў Полацку.[12] У 1892 годзе Адам Хмель публікуе іматрыкуляцыйныя запісы Кракаўскага ўнівэрсытэту XVI стагодзьдзя, дзе пададзены й тэкст запісу на ўнівэрсытэт у 1504 годзе «Францішка, сына Лукаша, з Полацка»[13]. У тымсамым 1892 годзе ў Кракаве зьяўляецца ў друку паведамленьне Станіслава Віндакевіча аб знаходзе трох актавых запісаў аб Скарыну ў архівах Падуанскага ўнівэрсытэту[14]. У тымжа годзе лацінскія тэксты гэтых актаў друкуе ў Пецярбурзе Ільля Шляпкін[15].

Гэтак, за другую палову XIX стагодзьдзя, выяўленых і апублікаваных было ўжо каля дзесяцёх актавых запісаў датычных доктара Скарыны, запісаў, што паходзілі з Кракава, Полацку, Вільні, Падуі. І ў іх, як і ўва ўсіх Скарынавых кнігах, Скарына названы *Францішкам,* з адным адзіным адхіленьнем ад гэтага правіла: у копіі пісанае палацінску прывілейнае граматы, дадзенае доктару Скарыну каралём Жыгімонтам 25 лістапада 1532 году ў Кракаве. Там, на пачатку граматы й толькі адзін раз, перад імем Скарыны Franciscii стаіць і Georgii[16]. Далей у грамаце Скарына называецца ізноў толькі адным імем — Franciscus. Як вышэй ужо было адзначана, тэкст гэтае граматы апублікаваў у 1858 годзе М. Круповіч. Дык гэты год — год першае ведамкі ў друку аб тым, што побач імя *Францішак,* Скарына мог мець і імя другое — Georgius, значыцца *Юры.*

Грэцкае па сваім паходжаньні імя Georgius у беларускай мове прынялося здаўна й пашырылася як *Юр, Юр'е, Юры, Юрага, Юрыла, Юрук, Юрка, Юрык, Юрысь, Юрчык.* Гэтак яно ведамае ў беларускіх прыказках, казках, народных песьнях, у штодзенным бытавым абыходзе. *Юр* або *Юры* пісалі, як правіла, і ў старых беларускіх летапісах. І ў актавай беларускай мове ў часы Скарыны лацінскае Georgius пабеларуску перадавалася як *Юры.* Прыкладам, першы муж Скарынавае жонкі Маргарэты ў пісаным палацінску акце места Вільні ў 1521 годзе згадваецца як Georgius Odwernikowicz[17]. Колькі-ж год пазьней, у пісаным ужо пабеларуску судовым запісе ён на-

---

[11] Крупович Маврикий. Собрание государственных и частных актов касающихся истории Литвы и соединенных с нею владений... Изданое Виленскою Археологическою Коммиссиею, ч. I. Вильно, 1858, б. 35—37. Тэксты граматаў другі раз і больш акуратна перадрукаваныя ў: Pociecha Vladislaus. Acta Tomiciana. Tomus quartus decimus... Posnaniae, MCMLII, б. 790—792, 795—796.

[12] Владимиров П. В., тамсама, б. 321—325.

[13] Chmiel Adam. Album studiosorum Universitatis Cracoviensis (Ab anno 1490 ad annum 1552). Cracoviae 1892, б. 91.

[14] Windakiewicz Stanisław. Materyały do historyi Polaków w Padwie. Archivum do dziejów literatury i oświaty w Polsce. Tom VII. Nakładem Akademii Umiejętności. W Krakowie, 1892, б. 158.

[15] Шляпкин И. К биографии Франциска Скорины. Журнал Министерства Народного Просвещения, № 4. Санктпетербург, 1892, б. 382—385.

[16] Крупович М., тамсама, б. 35.

[17] Владимиров П. В., тамсама, б. 47.

званы «*Юры* Одверник»[18]. З гэтага прыкладу ясна, што імя Georgius ня толькі цяпер, але й у Скарынавыя часы, і ня толькі ў народнай і летапіснай, але й у беларускай урадавай актавай мове мела форму *Юры.* З вышэй сказанага вынікае, што, калі-б заходзіла патрэба падаваць пабеларуску два імі Скарыны, дык, згодна з традыцыямі старымі й навейшымі мовы літаратурнае й мовы народнае, пісаць трэба *Франьцішак Юры* Скарына, а не *Георгій Францыск* Скарына, як гэта, дзеля русыфікацыі, цяпер часта здараецца ў беларускім падсавецкім друку.[19]

Маўрыцы Круповіч, навуковы сакратар урадавае расейскае Віленскае Археалягічнае Камісіі, які ў 1858 годзе апублікаваў тэксты прывілейных граматаў караля Жыгімонта, у парасейску пісанай перад тэкстам дакумэнту паясьняльнай заўвазе, лацінскае Georgius, згодна з традыцыямі беларускае мовы й перадаў як *Юры*[20]. Дык царскія навуковыя ўстановы яшчэ ў палове мінулага стагодзьдзя ўважалі за навукова нетактоўнае, каб дзеячом старое беларускае культуры колькі стагодзьдзяў пазьней мяняць іхныя беларускія імі на расейскія. Цяпер-жа, тое самае Georgius Акадэмія Навук Беларускае ССР падае звычайна толькі гэтак, як яно санкцыянаванае ў мове расейскай, значыцца *Георгій,* а не пабеларуску, ня *Юры,* як ёсьць, ад самых зачаткаў пісьменнасьці, у беларускай мове, ды, як яшчэ сто год таму пісаў М. Круповіч.

Існаваньне двух ім'яў у ваднэй асобы здараецца часта, і, само па сабе ў гэткай «двуіменнасьці» няма нічога надзвычайнага. Пасьля апублікаваньня Круповічам у 1858 годзе тэксту граматы, у якой раз сустракаецца Georgii, некаторыя аўтары побач імя *Франьцішак* часам згадвалі й, як другое Скарынавае імя, *Юры.* Дый сярод навукоўцаў усё-ж увесь час ня было ніякіх сумлеваў у тым, што Франьцішак у Скарыны галоўнае імя, паколькі гэтае й толькі гэтае імя ён заўсёды ўжываў сам. Гэтак, для прыкладу, П. В. Валадзіміраў сваю манаграфію 1888 году назваў «Доктор *Франциск* Скорина». Аб магчымым існаваньні ў Скарыны імя другога ўспомніў ён толькі ў тэксьце свае кнігі.[21]

Справа «двуіменнасьці» доктара Скарыны як у Валадзімірава была патрактаваная й у інфармацыйным нарысе аб Скарыну А. Купалова 1904 году ў расейскім біяграфічным слоўніку, які доўгімі гадамі быў важным жаралом біябібліяграфічных даведак аб доктару Скарыну.[22] Падобны падыход да імя Скарыны й у капітальнай працы Яўхіма Карскага «Белорусы»[23], у аўтараў менскага скарынінскага юбілейнага зборніка Інстытуту Беларускае Культуры 1926 году «Чатырохсотлецьце беларускага друку»[24], ды ў

---

[18] Тамсама, б. 321.

[19] Для прыкладу: Коршунаў А. Ф., тамсама, б. 169.

[20] Крупович М., тамсама, б. 35. Даслоўны тэкст уводнай прыпіскі Круповіча: «Привилегия Сигизмунда I, освобождающая Юрія Франциска Скорину из под власти обыкновенного суда а также Воеводов, Каштелянов и Старост...»

[21] Владимиров П. В., тамсама, б. 45.

[22] Купалов А. Скорина Франциск. Русский биографический словарь, т. 18. Издан под наблюдением председателя Императорского Русского Исторического Общества А. А. Половцова. С.-Петербург, 1904, б. 600—603.

[23] Карский Е. Ф. Белорусы, т. III. Очерки словесности белорусского племени. 2. Старая западно-русская письменность. Петроград, 1921, б. 21—30.

[24] Чатырохсотлецьце беларускага друку. 1525—1925; Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1926.

шмат іншых працах аб доктару Скарыну канца XIX і пачатку XX стагодзьдзяў.

### 3

...łatwo się domyślić, iż... pisarz przekręcił słówko „egregii“ na „Georgii“...

*H. Łowmiański, 1925.*

Пагляд, што доктар Скарына меў два імі — *Францішак,* і, няснага паходжаньня й значэньня другое, *Юры,* — у скарынаведнай літаратуры існаваў, бязь яго аспрэчваньня, ад публікацыі Круповічам кракаўскіх граматаў, да году 1925. У гэтым годзе віленскі гісторык Гэнрык Ляўмянскі, пазнаёміўшыся з лацінскім тэкстам граматаў, выказаў цьверджаньне, што Скарына ў запраўднасьці меў толькі адно імя — *Францішак,* — ды што Georgii раз у ваднэй грамаце зьявілася ў выніку звычайнай апіскі таго перапісчыка, што зьнімаў копію з арыгіналу для каралеўскае канцылярыі.[25] Ход разважаньняў і аргумэнтацыі Лаўмянскага гэткі: сам Скарына ўва ўсіх сваіх кнігах называе сябе толькі *Францішкам.* Таксама ўва ўсіх ведамых актавых аб ім запісах і дакумэнтах ягонае прозьвішча дадзенае толькі з адным гэтым імем. Адзіны вынятак — каралеўская кракаўская грамата 25 лістапада 1532 году, але й у ёй Georgii стаіць толькі раз, на пачатку граматы, ды таксама побач Franciscii. Далей у грамаце Скарына ізноў называецца толькі Franciscus.

Пры супастаўленьні тэксту граматы гэтай з тэкстам граматы выстаўленай для Скарыны каралём Жыгімонтам чатыры дні раней, 21 лістапада, Лаўмянскага ўразіла тое, што, калі ў уводным пачатковым сказе аб Скарыну ў першай грамаце кажацца „egregium et famatum Franciscum Skorina de Poloczko, medicine doktorem“ — «выдатнаму й слаўнаму Францішку Скарыну з Полацка, доктару мэдыцыны»[26], дык за чатыры дні, у грамаце другой, перад імем Скарыны няма ніводнага, звычайнага тады ў граматах падобнага зьместу, слова ветлівай хвалы: тут доктар Скарына ані egregius, ані famatus, а проста: Georgii Franciscii Skorina.[27]

Абедзьве граматы сваім зьместам і тонам вельмі прыхільныя доктару Скарыну. Першаю кароль Жыгімонт звальняў Скарыну ад усякае адказнасьці й судовых прасьледаў за даўгі ягонага, памерлага ў 1529 годзе ў Пазнані, брата Івана. Другою, у якой перад Скарынавым прозьвішчам няма ніякіх словаў ветлівасьці, а, затое, зьявілася нідзе несустраканае паза

---

[25] Łowmiański Henryk. Рэцэнзыя на: „Ad. Stankiewič. Doktar Francišak Skaryna, pieršy drukar biełaruski...“ „Ateneum Wileńskie“. Rok III. Zesz. 9. Wydziału III. Towarzystwo Przyjaciół Nauk w Wilnie. Wilno, 1925, б. 163—164.

[26] Крупович М., тамсама, б. 36. Міжіншым, даты граматаў у Круповіча зблытаныя. Першая (у Круповіча другая, № XXX, б. 36)), што ў яго мае дату 5 студзеня 1532 году, была выстаўленая 21 лістапада таго-ж году. Другая-ж (у Круповіча першая, № XXIX, б. 35), датаваная Круповічам 21 лістапада 1532 году, была выстаўленая 25 лістапада таго-ж году. Даты пададзеныя правільна ў больш акуратным новым перадруку граматаў: Pociecha Vl., Acta Tomiciana..., тамсама, б. 790—792, 795—796.

[27] Крупович М., тамсама, б. 35. Pociecha Vl., тамсама, б. 795.

гэтым Georgii, Жыгімонт выймаў Скарыну з пад юрысдыкцыі звычайных судоў і з пад улады ваяводаў, каштэлянаў, старастаў ды іхных урадоўцаў. Доктар Скарына пераводзіўся ў беспасярэднюю залежнасьць і ахову самога караля й вялікага князя, і на будучыню мог падлягаць толькі ягонаму суду. Прывілей, як бачым, быў для Скарыны нязвычайна выгадны й сьветчыў аб вялікай схільнасьці да яго караля Жыгімонта. Калі дзе, дык у дакумэньце гэткага зьместу й трэ' было-б чакаць перад імем і прозьвішчам доктара Скарыны звычайна тарнаваных тады словаў ветлівае хвалы, ці egregius, ці famatus, ці іншых. Тымчасам, у другім прывілеі няма іх чамусьці зусім. Была гэта яўная й незразумелая супярэчнасьць як із зьместам граматы, так і з прынятым звычаем эпохі.

Узважыўшы ўсё гэта Лаўмянскі й паставіў цьверджаньне, што Georgii ў другой прывілейнай грамаце зьявілася праз звычайную памылку копісты-перапісчыка, які, праз пасьпех ці няўвагу, «перакруціў» словы ды й напісаў у копіі дакумэнту Georgii там, дзе ў варыгінале стаяла Egregii — «выдатны».

Дапушчэньне Лаўмянскага падмацоўвала ды быццам пацьвярджала й тое, што Georgii ў копіі граматы стаіць не пасьля, а перад Franciscii. Агульна ведама, што калі нехта мае два імі й адным зь іх, менш важным, карыстаецца толькі рэдчас, дык у выпадку ўжываньня абодвух імяў адначасна, другое звычайна ставіцца не перад імем важнейшым, галоўным, а пасьля яго. Падмацоўвае ў нейкай меры тэзу Лаўмянскага й факт, што хоць у тэксьце дзьвюх, блізкіх сабе па часе й зьмесьце, кракаўскіх каралеўскіх граматаў Скарына па імі згадваецца аж восем разоў, аднак-жа разоў сем ён там толькі Franciscus, бяз Georgius.

За дапушчэньнем Лаўмянскага прамаўляе й тое, што ня толькі ўва ўсіх, вышэй пералічаных, публікаваных у XIX стагодзьдзі, актах, але й у нававыяўленых у стагодзьдзі XX-м, Скарына мянуецца толькі адным імем *Франьцішак*. Тое самае й у знойдзеных пасьля выстаўленьня Лаўмянскім цьверджаньня архіўных, датычных доктара Скарыны дакумэнтах і запісах, дакумэнтах кеніґсбэрскіх[28], пазнанскіх[29], праскіх[30] й новаадкрытых падуанскіх[31]. Ува ўсіх іх Скарына толькі *Франьцішак*. Аб Georgius ніякога ў іх сьледу. З другога боку, у палацінску пісаных аб Скарыну падуанскіх і кеніґсбэрскіх дакумэнтах, згодна з заўвагаю Лаўмянскага аб звычаі эпохі, перад ягоным імем стаяць, звычайна, і словы ветлівае хвалы: або тое-ж egregius, або раўназначнае яму eximius, або іншыя. Асабліва іх шмат у трох

---

[28] Миловидов А. В. Новые документы, олносящиеся к биографии Франциска Скорины. Известия Отделения Русского Языка и Словесности Российской Академии Наук, 1917, т. XXII. Петроград, 1918, б. 221—226. Таксама, у беларускім перакладзе, у: Брага С. Кароль Альбрэхт і Скарына. «Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, кн. 2 (4). Ню Ёрк, 1953, б. 110—113.

[29] Wojciechowska Maria. Рэцэнзыя на: Ludwik Abramowicz. Cztery wieki drukarstwa w Wilnie. 1525—1925. „Kwartalnik historyczny“, XL. Lwów, 1926, б. 473—475.

[30] Florovskij Ant. Vas. Nové zprávy... б. 11—12.

[31] Брага Сымон. Геаграфічная лёкалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны. «Запісы», кн. III. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхэн, 1964, б. 19. Адбітка: Ню Ёрк—Мюнхен, 1965, б. 17.

першых лістох, пісаных у 1530 годзе ў справах доктара Скарыны да Вільні прускім герцагам Альбрэхтам.[32]

Гіпатэза Г. Лаўмянскага зьвярнула з часам увагу дасьледнікаў Скарынавага жыцьцяпісу. Свае мяркаваньні Лаўмянскі, між іншым, выказаў у рэцэнзыі на рэфэрат аб Скарыну Адама Станкевіча «Франьцішак Скарына — першы друкар беларускі». Хоць у рэцэнзыі Лаўмянскі й пахваліў «папулярнае й яснае» ўняцьце тэмы ў рэфэраце Станкевіча, ды паставіўся да яго нэгатыўна, адмаўляючы яму нейкае навуковае значэньне. Адам Станкевіч, працу якога Лаўмянскі з навуковага гледзішча ацаніў гэтак адмоўна, у пытаньні гіпатэзы Лаўмянскага аб спосабе аднаразовай паявы ў актах імя Скарыны Georgius заняў становішча толькі праз год дзесяць, у годзе 1936, і, выглядае, што ён не знашоў ніводнага аргумэнту, якім мог-бы падважыць цьверджаньне Лаўмянскага аб спосабе паявы ў Скарыны імя Georgii, бо, па зацытаваньні адпаведных радкоў Лаўмянскага, збыў іх ён адным сказам: «Вышла, праўда, даволі зручна й дасьціпна, але каб навукова пераконваюча, то не скажу».[34]

Затое выдатны знавец жыцьцяпісу доктара Скарыны, праскі прафэсар Антон Васілевіч Флароўскі, пазнаёміўшыся зь мяркаваньнямі Лаўмянскага, выказаўся, што Georgius, як імя Скарыны, «найхутчэй звычайнае непаразуменьне», ці — згадзіўся з Лаўмянскім.[35]

Ад Круповічавай публікацыі тэксту копіі граматы, дзе раз пры прозьвішчы Скарыны ёсьць Georgii, мінула звыш ста год, а ад выстаўленае Лаўмянскім тэзы аб паяве Georgii з Egregii сорак. За гэты час не знашлося ніводнага іншага дакумэнту аб Скарыну з гэтым імем. У наяўнасьці гэтага, калі-б гіпатэзы Лаўмянскага аб памылцы перапішчыка сяньня й ня было, дасьледнікам жыцьцяпісу доктара Скарыны пара была-б затрымацца над гэтым незразумелым фактам ды пашукаць нейкага яго выясьненьня. У кажным выпадку, на падставе цяпер ведамага архіўнага й дакумэнтнага матар'ялу, сяньня ня толькі няма нейкае пэўнасьці аб тым, што доктар Скарына, побач імя *Франьцішак,* меў яшчэ й імя *Юры* — Georgius, але наадварот, гэта вельмі сумлеўна й мала праўдападобна.

Як доўга магчымасьць існаваньня ў Скарыны імя *Юры,* побач імя *Франьцішак,* аднак-жа, на падставе нейкіх новых дакумэнтаў ня будзе канчаткова адкінутая, яе трэба браць на ўвагу, яна ўсё-ж існуе, хай сабе й на вельмі хісткой падставе аднаго адзінага выпадку ў тэксьце копіі аднаго адзінага дакумэнту, правілнасьць чаго, да гэтага, яшчэ паважна аспрэчваецца. Адно можна, аднак-жа, сказаць і цяпер, а пайменна, што з навуковага гледзішча няма ніякіх падставаў на тое, каб Скарыну пазбаўляць імя, якім ён сам сябе праз усё сваё жыцьцё, на бацькаўшчыне й на

---

[32] Миловидов А. В., тамсама, б. 223—225.

[33] Станкевіч Адам. Доктар Франьцішак Скарына — першы друкар беларускі. Выданьне Беларускага Навуковага Таварыства. Вільня, 1925, 56 б. Вышла адначасна паралельным выданьнем лацініцай.

[34] Станкевіч Адам. Доктар Францішак Скарына і яго культурная праца. З нагоды 450-лецьця яго нараджэньня (1486—1936). «Калосьсе», кн. 3. Вільня, 1936, б. 157.

[35] Флоровский Антон Васильевич. Чешская библия в истории русской культуры (Франциск Скорина и продолжатели его дела). Sbornik filologický. III. Třida Česke akademie věd. a uměni, sv. XII. Praha, 1940—1946, б. 187.

чужыне, называў, імя *Франьцішак,* ці, хоць-бы, адсоўваць гэтае імя на другое, менш важнае, месца ды падменіваць яго імем *Юры* або расейскім *Георгій,* як гэта сяньня чыніцца ў падсавецкім друку.

Што да тога, як гэтае пытаньне ў працэсе далейшых скарынаведных дасьледваньняў можа быць выясьненае, дык існуюць тут дзьве магчымасьці. Або ў ходзе архіўных росшукаў канчаткова стане ясным, што Georgius памылка, гэтага імя ў Скарыны зусім ня было, і ўсё пытаньне разам будзе зьнятае ў скарынаведнай літаратуры. Або будуць урэшце выяўленыя якія-небудзь дакумэнты, на якія ніхто нейк ня змог натрапіць за мінулых сто год, што пацьвердзяць існаваньне ў Скарыны й другога імя — *Юры.* У запраўднасьці, хапіла-б для гэтага аднаго адзінага дакумэнту, дзе-б імя *Юры* — Georgius — было-б пададзенае ясна, пэўна, і бязь ніякіх ужо сумлеваў.

Няма, аднак-жа, ніякіх аб'ектыўных прадумоваў на тое ,каб магла заіснаваць трэйцяя магчымасьць, а пайменна, каб выявілася, што імя *Юры* — імя важнейшае, галоўнае ў Скарыны. Пярэчаць гэтаму ведамыя сяньня архіўныя дакумэнты, а іх цяпер ня гэтак і мала. Ды, галоўнае й найважнейшае, што сам доктар Скарына ў сваіх выданьнях ніколі яго ня згадвае, а падае толькі й вылучна *Франьцішак,* — факт, якога ніяк ужо ня змогуць зьмяніць навет і нейкія новыя архіўныя акты. А выяўленая, і бязь ніякіх сумляваньняў, воля самога доктара Скарыны ў пытаньні гэткага чыста асабістага характару, як імя, мае маральна абавязваючую сілу тэстамэнтнае волі, абавязваючую, пэўне-ж, толькі тых, што з воляю вялікага Палачаніна й выдатнага гуманісты Беларусі наагул лічацца.

## 4

> ... а прозван был он неправославным именем Франциск, вероятно, воспреемниками и родителями для прикрытия истинного имени от всяких чародейских наговоров.
>
> *«Крестный календарь на 1873 год», Москва.*

Калі няма ніякіх навуковых падставаў для замены імя *Францішак* у Скарыны імем *Юры,* дык існавалі й існуюць іншыя прычыны й фактары што ад мінулага яшчэ стагодзьдзя, а апошнімі гадамі з нарастаючай сілай, дзеюць у кірунку падмены Скарынавага імя. Да разгляду колішніх першых зачаткаў «перахрышчваньня» доктара Скарыны ды да прычынаў сучасных у гэтым кірунку намаганьняў далей гэтта й пярэйдзем.

Пасьля Круповічавай публікацыі 1858 году тэкстаў кракаўскіх прывілейных граматаў, дзе ў Скарыны здараецца раз Georgii, першая зьвернутая на гэты факт увага й першая яго інтэрпрэтацыя зьявілася пятнаццаць год пазьней і ў друку не навуковым, а ў маскоўскім «Крестном календары» на 1873 год. Там быў памешчаны непадпісаны артыкул аб доктару Скарыну, у якім першы раз было паднятае пытаньне існаваньня ў Скарыны двух імяў ды дадзенае гэтаму своеасаблівае паясьненьне. У календары пісалася, што хрышчаны быў Скарына «праваслаўным імем *Георгій*», а імя *Франьцішак* зьявілася ў яго быццам гэтак:

> «...а прозван был он неправославным именем Франциск, вероятно, воспреемниками и родителями для прикрытия истиннаго имени от всяких чародейских наговоров».

Доктар Скарына далей у вартыкуле календара ўсхваляецца, як «русский патриот» і як «общероссийский первопечатник». Івана Хведаровіча й Пётру Мсьціслаўца ананімны аўтар уважае за вучняў Скарыны й пры гэтым падчырківае, што «Иван Федоров первопечатник только московский, а не общерусский», ды канчае свой артыкул словамі:

> «...не следует забывать и первопечатника общерусского Скорину. Ждем сооружения ему памятника в Вильне».[36]

Прыведзеныя вышэй цытаты пазваляюць зарентавацца, у васяродзьдзі людзей якога сьветагляду й якіх палітычных пераконаньняў зарадзілася думка аб тым, што «правілнае» Скарынавае імя *Георгій*, а *Франьцішак* — другараднае, прыпадковае, прынятае «для прыкрыцьця ад чараў». Вось выказаная ў маскоўскім календары думка й дала зачатак усім пазьнейшым намаганьням «прыкрыць» у доктара Скарыны імя *Франьцішак* імем *Георгій*, ці й падмяніць яго гэтым імем зусім.

Тлумачэньне двуіменнасьці Скарыны дзеля страху перад «чарадзейнымі нагаворамі» й на XIX стагодзьдзе выглядала на мала праўдападобны забабон, каб магло, як паважная гіпатэза трапіць у навуковую літаратуру, тымбольш, што ў тымсамым артыкуле было й шмат зусім памылковых ды проста «фантастычных», як кажа Ул. Пічэта,[37] інфармацыяў пра Скарыну, якія паказвалі, што й ананімны аўтар артыкулу, і рэдактары календара, мала арыентаваліся ў васноўных фактах біяграфіі доктара Скарыны. Між іншым, там цьвердзілася, што сваю Біблію Скарына друкаваў ня ў Празе, а ў 1525 годзе ў Вільні.

Ды, незважаючы на яго «фантастычнасьць», на артыкул календара хутка, бо ўжо ў 1875 годзе, у лісьце да львоўскага часапісу «Слово» зьвярнуў увагу А. Пятрушэвіч, які, пад уплывам таго-ж «Крестного календаря» даў сваю мадыфікаваную, ужо бяз «чараў», інтэрпрэтацыю справы існаваньня ў Скарыны двух імяў. Паводля Пятрушэвіча, Скарына сваё «хроснае праваслаўнае імя *Георгій*» неправаслаўным *Франьцішак* «прыкрыў» сам, і не на тое, каб скрыцца ад «чарадзейных нагавораў», а каб магчы паступіць на кракаўскі ўнівэрсытэт.

Пятрушэвіч зьвярнуў увагу на факт, што Скарына пры наданьні яму на Кракаўскім унівэрсытэце годнасьці бакаляўра ў пратакольным запісе названы толькі па імі, бяз прозьвішча: Franc. de Poloczko, Litphanus. Гэтаму Пятрушэвіч прыпісаў асаблівае значаньне ды даў гэткае тлумачэньне:

> «На маё разуменьне „Франьцішак з Полацка, Ліцьвін", ніхто іншы, як толькі наш Скарына, які затаіў сваё прозьвішча й імя, што дастаў у часе хросту... У Кракаўскі ўнівэрсытэт, які знаходзіўся пад апекай рымскае курыі, не дапушчаліся да наведваньня ўнівэрсытэцкіх навук асобы чужое веры, асабліва-ж схізматыкі,

---

[36] Франциск Скорина, первопечатник русский. «Крестный календарь на 1873 год». Москва, 1873, б. 47.

[37] Пічэта Уладзімір. Scoriniana. Чатырохсотлецьце беларускага друку. Менск, 1926, б. 293.

якіх стаўлялі нараўні з паганцамі. З гэтае прычыны рускаму, і пры гэтым схізматыку, які хацеў быць кандыдатам унівэрсытэцкага курсу ў Кракаве, нічога не заставалася рабіць, як толькі, хаваючы сваё прозьвішча, узяць сабе ў заходніх каталікоў імя Франьцішка. Гэткім спосабам для Скарыны была магчымасьць, хаваючыся пад маскай, праслухаць курс у Кракаўскім унівэрсытэце».[38]

Гэткія Пятрушэвічавы домыслы аб спосабе паявы імяў *Франьцішак* і *Юры* ў Скарыны ды іх значаньня ў Скарынавым жыцьці. Трэба адцеміць, што ўсе гэтыя «на маё разуменьне» мяркаваньні ня былі ў яго падмацаваныя далей ніякімі канкрэтнымі фактамі-довадамі.

Пры ўважнейшым разглядзе Пятрушэвічавых разважаньняў, і, асабліва, пры супастаўленьні іх з актавымі дадзенымі й ведамымі нам сяньня фактамі Скарынавага жыцьцяпісу, лёгка выявіць усю іхную неабгрунтаванасьць. Найперш, калі ў запісе Кракаўскага ўнівэрсытэту 1506 году аб наданьні для Скарыны годнасьці бакаляўра й запраўды не пададзена ягонае прозьвішча, а толькі імя, дык гэта зусім не дзеля таго, што Скарына сваё прозьвішча затойваў, як думаў Пятрушэвіч. Відаць гэта найлепш з самога запісу, даслоўны лацінскі тэкст якога гэткі:

„Anno eodem, sub decanatu eiusdem Mgri Leonardi, etc., ad Quatuor tempora sancta Lucie, ad gradum baccalariatus promoti, hunc ordinem locorum sortiti sunt: Matheus de Semnijklosz. Andr. de Zynta. Joh. de Goraw. Thom. de Podlyeszye. *Fran. de Poloczko, Litphanus.* Paulus de Marienborg (prefectus ibidem et capitaneus). Joh. de Szkoki. Andr. de Strzelno. Jac. de Elbyng. Joh. de Marienborg. Joh. de Frawstat. Conr. de Monte regio. Andr. de Monte regio. Joh. de Wratislauia. Valent. de Noua uilla. Andr. de Pakost (vicarius Gnesnensis et procurator)“.[39]

З вышэй прыведзенага тэксту відаць, што разам з «Франьцішкам з Полацка, Ліцьвіном», навуковую ступень бакаляўра ў галіне філязофіі здабыло яшчэ 15 студэнтаў унівэрсытэту, і яны ўсе ў пратакольным запісе пераліччаныя толькі па імі й месцы свайго паходжаньня, а не па прозьвішчы, — прозьвішча іх усіх «схаванае». З гэтага ясна, што Скарынавага прозьвішча няма ў запісе не дзеля таго, што ён яго «скрываў», як мяркаваў Пятрушэвіч, а што пры тагачасных актавых запісах уважалася за дастатковае паданьне самога імя зь месцам паходжаньня. Дык сам тэкст запісу, які Пятрушэвіч хіба-ж чытаў, калі яго прыводзіць, не даваў ніякіх аб'ектыўных падставаў да цьверджаньня, што Скарына на ўнівэрсытэце скрываўся з сваім прозьвішчам. Маем тут прыклад, як прынятая згары й беззасьцярэжна як пэўная дагадка аб «прыкрываньні» й «маскаваньні» зацьміла дасьледніцкую зыркасьць аўтара ды давяла да стаўляньня на падставе акту тэзаў яўна супярэчных ягонаму зьместу.

Калі запіс аб Скарыну ў вышэй прыведзеным акце выдзяляецца нечым ад іншых, дык не «скрываньнем» прозьвішча, бо «скрытае» яно ўва ўсіх

---

[38] Петрушевич А. Ф. Скорина, издатель русской Бивлии в Празе Чешской в 1517, 1518 и 1519 годах. Ответы и вопросы. «Слово», № 130. Львив, 1875, б. 1—2.

[39] Mauczkowski J., тамсама, б. 144.

бакаляўраў, а пададзеным у Скарыны азначэньнем яго нацыянальнасьці Litphanus. Азначэньня нацыянальнасьці ў гэтым запісе ня мае ніводзін іншы бакаляўр, толькі Скарына, хоць, як зь месца іх паходжаньня відаць, былі яны нацыянальнасьці рознае, бо на ўнівэрсытэт прыбылі з Польшчы, Прусіі, Нямеччыны, а «Тамаш з Падляшша» з тае самае, што й Скарына, Літвы. Заакцэнтаваньне нацыянальнасьці ў ваднаго толькі Скарыны паказвае на тое, што свайго паходжаньня на ўнівэрсытэце ён ня толькі ня скрываў, а яўна яго падчырківаў, дэманстраваў, і гэтым, відавочна, вырозьніваўся навет ад іншых, што й знайшло свой адбітак і ў пратакольным запісе. Характэрна, што навет і пры імі ягонага суродзіча «Тамаша з Падляшша» няма азначэньня Litphanus, хоць «Ліцьвіном» быў і ён, бо Падляшша ўходзіла тады ў склад Вялікага Княства Літоўскага.

І ў часе паступленьня на ўнівэрсытэт Скарына, як і блізу ўсе іншыя новапрынятыя студэнты, запісаны таксама толькі па імі, імі бацькі ды месцы паходжаньня — Franciscus Luce de Ploczko — хоць яшчэ й бязь «Ліцьвін».[40] Калі за два гады, у часе бакаляўрату, Скарынава «літоўская» нацыянальнасьць зьяўляецца, і зьяўляецца толькі ў яго аднаго, з гэтага ясна, што калі хто ў Кракаве, дык гэта ён не хаваў ні свайго паходжаньня, ні нацыянальнасьці, і наагул быў ня гэткага складу чалавекам, што скрывае сваё «я», а, значыцца ,няма падставаў думаць, каб скрываў ён нешта й у галіне рэлігійнай.

Да гэтага трэба дадаць, што прозьвішча ў Скарынавыя часы яшчэ ня мела гэткага шырокага й канцылярыйна абавязваючага ўжытку ў актавых запісах, як імя, і як ёсьць цяперака, і прозьвішча тады часта проста не спаміналі. Для дакладнейшага азначэньня дадзенае асобы падавалі затое імя бацькі й месца паходжаньня. Добры гэтага прыклад даюць запісы новапрынятых, разам із Скарынам, на Кракаўскі ўнівэрсытэт у зімовым сэмэстры 1504 году. На 121 запісаных усяго колькі побач імя маюць і прозьвішча. Усе іншыя, як і Скарына, запісаныя толькі па імі, імі бацькі й месцы свайго паходжаньня.[41]

Другое нічым неабгрунтаванае вязьмо Пятрушэвічавых мяркаваньняў, гэта тое, што за «Крестным календаром» імя *Юры* — *Георгій* — ён уважае за імя праваслаўнае. Тымчасам імя гэтае агульнахрысьціянскае й такое-ж «каталіцкае», як і «праваслаўнае», бо на каталіцкім Захадзе Эўропы яно здаўна пашыранае ня менш, як на праваслаўным Усходзе. Культ сьвятога Юрага, а разам з гэтым і імя *Юры*, на Захадзе Эўропы ведамы ў першых там стагодзьдзях хрысьціянства. У самым Рыме знаны ён найменш ужо ад пачатку VI стагодзьдзя. У некаторых краёх Захаду сьвяты Юры з часам здабыў гэткую пашану ў народзе, што ўзьведзены быў навет і ў нацыянальныя патраны, як было ў Англіі ці Партугаліі. У Францыі-ж, падобна як і ў Беларусі, сьвяты Юры быў асабліва паважаны сялянствам, як апякун пасеваў і земляробства наагул.

Дык імя *Юры*, якое на Захадзе Эўропы, у залежнасьці ад мовы, прыняло featuresрознае фанэтычнае гучаньне — *Жорж, Джордж, Джэрджыё, Ёрг* ды іншыя, — было вельмі шырака ведамае й паважанае якраз як імя ката-

---

[40] Chmiel A., тамсама, б. 91.
[41] Тамсама, б. 90—93.

ліцкае. Тое самае можна сказаць і аб землях Вялікага Княства Літоўскага, аб Беларусі. Тут імя *Юры* было папулярным ня толькі сярод праваслаўных, але й каталікоў, яшчэ доўга перад Скарынам. Для прыкладу, вобраз сьвятога Юрага сустракаем ужо на маестатычнай пячаці вялікага князя Ягайлы.[42] Ведама таксама, што ад 1423 году ў віленскай катэдры існаваў аўтар сьвятога Юрага ўфундаваны там баярынам Манівідам.[43] Ад пачатку-ж XVI стагодзьдзя Вільня мела й каталіцкую сьвятыню імя гэтага сьвятога, заснаваную, на памяць перамогі над Татарамі пад Клецкам, віленскім ваяводам Мікалаем Радзівілам.[44]

Калі ў 1498 годзе, дзеля ваеннае загрозы Масквы й Татараў, віленскія мяшчане наважылі абвесьці сваё места высокім абаронным мурам, дык праца над яго будоваю была ўрачыста, пры звоне званоў усіх чатырнаццаці праваслаўных і сямі каталіцкіх цэркваў, пачатая 23 красавіка, у дзень шанаванага й праваслаўнымі й каталікамі сьвятога Юрага, пераможцы цмока.[45] А сто год пасьлей, на пачатку XVII стагодзьдзя, за віленскага біскупа Войны, саборам каталіцкага духавенства сьвяты Юры, падобна як у Англіі ды Партугаліі, быў абвешчаны навет патранам Літвы (побач сьвятых Казімера й Мікалая).[46] Дык гісторыя дае даволі фактаў на тое, што культ сьвятога Юрага, а разам і ягонае імя, былі здаўна пашыраныя на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага сярод каталікоў ня менш, як сярод праваслаўных, і дзеля гэтага няма ніякіх падставаў на тое, каб аб імі *Юры* на землях Беларусі гаварыць як аб імі «праваслаўным», як гэта рабілі Пятрушэвіч і «Крестны календар».

Ужо з вышэй пададзенага ясна вынікае, што калі Скарына й запраўды імя *Юры* меў, дык для паступленьня на Кракаўскі ўнівэрсытэт ня было яму ніякое патрэбы «прыкрываць» гэтае імя імем *Франьцішак*. Пацьвярджаюць гэта й самыя запісы Кракаўскага ўнівэрсытэту. Зь іх відаць, што ў веснавым і зімовым сэмэстры 1504 году, году паступленьня на ўнівэрсытэт Скарыны, прынятых было 356 студэнтаў, і 24 з гэтага ліку мелі імя Georgius. Ёсьць колькі навет выпадкаў, калі студэнты запісаныя як Georgius Georgy, значыцца «Юры сын Юрага», «Юр Юрэвіч» ці «Юры Юравіч».[47] Дык «праваслаўнае» паводля Пятрушэвіча й «Крестнаго календара» імя яўна не перашкаджала гэтаму, каб быць прынятым на кракаўскі, як і кажны іншы тагачасны ўнівэрсытэт.

Ня вытрымлівае крытыкі й Пятрушэвічава цьверджаньне аб тым, што імя *Франьцішак* Скарына прыняў як «маску» для паступленьня на ўнівэрсытэт. Гэтаму супярэчаць ведамыя аб доктару Скарыну жыцьцёвыя факты. Калі-б імя *Франьцішак* Скарына прыняў пад нейкім націскам ды карыстаўся ім як «маскаю», каб «скрыць» сваё праваслаўнае веравызнаньне й

---

[42] Gumowski M. Pieczęcie królów polskich, 13—14. Tabl. IX, 13.
[43] Semkowicz Władysław. Miscellanea archiwalne. „Ateneum Wileńskie", R. I. Nr. 1. Wilno, 1923, b. 255.
[44] Радзівіл Мікалай. Ліст да ўдавы па Яне Глябовічу. Описание документов и бумаг Московского Архива Министерства Юстиции, XXI, б. 397.
[45] Василевский В. Ф. Очерк истории города Вильна. Памятники Русской старины в Западных губерниях Империи. Издаваемые... П. Н. Батюшковым, выпуск V. Петербург. 1872, б. 27.
[46] Kurczewski Jan. Biskupstwo Wileńskie. Wilno, 1912, б. 128.
[47] Chmiel A., тамсама, б. 86—92.

імя, як мяркаваў Пятрушэвіч, дык трэ' было-б спадзявацца, што ён гэтае імя адкіне зразу-ж, як кончыць унівэрсытэт і «маска» ня будзе больш патрэбная. Тымчасам імем Франьцішак, і толькі гэтым імем, Скарына карыстаецца праз усё жыцьцё. Толькі гэтае імя ён ужывае ў сваіх, выдадзеных у Празе, кнігах Бібліі, і, таксама, друкуючы пры дапамозе выдатных віленскіх праваслаўных мяшчанаў, праваслаўныя кнігі ў Вільні. Не закідае ён гэтага імя й падчас свае бытнасьці ў Каралеўцы на двары варожага каталіцтву прускага пратэстанцкага герцага Альбрэхта, дзе падобная «маска», калі-б яна была, ставала-б зусім ужо бязмэтнаю.[48]

Што імя *Франьцішак* сам Скарына не ўважаў за нейкае чужое, навязанае супроць ягонае волі імя, відаць ня толькі з таго, што ім ён толькі карыстаўся праз усё сваё жыцьцё падчас сваіх шматлікіх вандровак па краёх Эўропы, але, яшчэ больш яскрава і з таго, што аднаму з сваіх сыноў, пайменна таму, што малым яшчэ хлапчанём загінуў трагічна 2 чэрвеня 1541 году ў вялікім пажары Прагі, даў тое самае сваё імя *Франьцішак*.[49] З самога гэтага факту ясна, што імя *Франьцішак* доктар Скарына ўважаў за добрае, дастойнае імя, і ім яўна ганарыўся.

На заканчэньне разгляду Пятрушэвічавых мяркаваньняў аб Скарынавым імі варта прыгадаць яшчэ, што супярэчаць ягоным домыслам і ведамыя сяньня архіўныя дакумэнты з роднага Скарыну Полацка. Гэтак, полацкія судовыя акты ў справе спрэчкі зяцёў Івана Скарыны за радавую зямлю Скарынаў на полацкім замку, у якой была часьць і доктара Скарыны, згадваюць яго толькі пад адным імем — *Франьцішак*. Калі-б-жа ён меў і імя другое, *Юры*, ды асабліва, калі-б гэтым імем быў хрышчаны ды пад ім гадаваўся й рос у Полацку, дык дзе-як-дзе, а ў спрэчцы за радавую зямельную спадчыну, за бацькавіну, найперш гэтае імя павінна было-б у актах і зьявіцца, а не другое, *Франьцішак*, нажытае, паводля Пятрушэвіча, пазьней на чужыне, якое ў Полацку маглі мала чуць, ці й наагул ня ведаць. Дык акты роднага Скарынавага Полацка ня толькі не далі падтрыманьня Пятрушэвічавай дагадцы аб перамене Скарынам у Кракаве імя, але яўна ёй супярэчаць.[50]

## 5

> ... сам Скорина нигде этим именем себя не называет: и современникам своим, и нам, потомкам, он известен только под излюбленным своим именем «Франциск».
>
> *А. Степович, «Киевская старина», 1889 г.*

Калі пагляд аб існаваньні ў Скарыны двух імяў дзеля «чараў» выказаны «Крестным календаром» у навуковай літаратуры пасьлей часам і адцемліваўся, дык хутчэй як прыклад нейкае сярэднявяковае забабоннае мэн-

---

[48] Миловидов П. В., тамсама, б. 221—227. Таксама: Брага С. Кароль Альбрэхт..., б. 110—113.

[49] Florovskij A. V., тамсама, б. 17.

[50] Владимиров П. В., тамсама, б. 324. Таксама: Беларускі Архіў т. 2, б. 264.

тальнасьці. Затое мадыфікаваная й больш рэалістычная вэрсыя Пятрушэвіча аб «прыкрываньні» аднаго імя іншым, з часам знашло ў некаторых аўтараў послух, як ня выключанае, як магчымае, хоць і яўна непадмацаванае канкрэтнымі довадамі. Праўда, дагадкі Пятрушэвіча тады-ж былі сустрэтыя й з крытычнаю іх ацэнаю найперш некаторымі галіцкімі аўтарамі, якія зьвярнулі ўвагу на іх чыста гіпатэтычную канструкцыю. Гэтак А. Вахнянін[51] і О. Огоновскі[52] тады-ж падцемілі, што зусім неканечна Скарыну трэ' было «каталіцкім» імем «прыкрываць» імя «праваслаўнае», бо-ж магло быць і куды прасьцей: ён мог быць хрышчаны каталіцкім імем ужо пры нараджэньні — каталікі-ж у Вялікім Княсьцьве Літоўскім існавалі найменш ад часоў князя Ягайлы.

П. В. Валадзіміраў у сваей манаграфіі 1888 году аб доктару Скарыну хоць і не заняў нейкага станоўкага становішча ў пытаньні двух імяў Скарыны, але схіляўся аўна да таго, што імя *Юры* магло быць праваслаўнага паходжаньня. Ён у гэтым пытаньні выказаўся вельмі коратка: «Гэтае другое імя можа насьветліць пытаньне аб веравызнаньні Скарыны».[53] Пасярэдня, затое, Валадзіміраў падмацаваў Пятрушэвічаву канцэпцыю аб замене Скарынам імя ў Кракаве дадзенай памылковай інфармацыяй аб тым, што ў часы Скарыны ў Полацку ня было каталіцкага духавенства, ніводнае каталіцкае сьвятыні, а, значыцца, і ніякіх каталікоў.[54] З гэтага лягічна вынікала, што Скарына пры нараджэньні мусеў быць хрышчаны нейкім праваслаўным імем, а імя каталіцкае здабыў нейдзе пасьлей.

Гэтую памылку зразу-ж заўважыў і выправіў лепшы за Валадзімірава веданьнік культурна-рэлігійных дачыненьняў у Полацку XV стагодзьдзя П. Н. Бацюшкаў, які ў кнізе 1890 году «Белоруссия и Литва» зацеміў, што

> «Аўтар (Валадзіміраў, — С. Б.) несправядліва думае, быццам у Полацку канца XV і навет пачатку XVI стагодзьдзя ня было ніводнага каталіцкага касьцёла».[55]

Але працу Валадзімірава чыталі й чытаюць усе, хто асобаю доктара Скарыны цікавіцца, папраўку-ж Бацюшкава, дадзеную пры самым канцы ягонае кнігі пэтытам, у «Примечаниях», рэдка зь іх хто й толькі прыпадкова можа ведаць, і, у выніку, памылковы пагляд, пушчаны ў навуковы абыход Валадзіміравам, час-ад-часу адзываецца ў скарынаведнай літаратуры яшчэ й сяньня.[56]

Аб тым, што за часоў Франьцішка Скарыны ў Полацку быў каталіцкі касьцёл і сьвятары, і навет манахі й манастыр, ды паважны лік жыхарства каталіцкага веравызнаньня, сяньня няма ніякіх сумлеваў. Пра не

---

[51] Вахнянин Анатоль. О докторе Франциску Скорине и его литературной деятельности. Справоздане дирекціе ц. к. гимназіе акад. во Львове на рок школьный 1878/1879. Львов, 1879.

[52] Огоновскій Омелян. Исторія литературы руской, ч. I. Львов, 1887, б. 155.

[53] Владимиров П. В., тамсама, б. 45.

[54] Тамсама.

[55] Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва. С.-Петербург, 1890. Примечание 280, б. 16.

[56] Пичета В. И. Культура Белоруссии в XVI в. Белоруссия и Литва XV—XVI вв. Академия Наук СССР. Институт славяноведения. Москва, 1961, б. 661.

малы лік каталікоў у Полацку тае пары сьветчыць найлепш тое, што калі ў 1498 годзе вялікі князь Аляксандра надаваў для Полацку прывілей майдэборскага меставога самаўраду, дык паставіў у ім вымаганьне, каб палова меставой рады, што мела складацца з 20-ці асоб, была каталіцкага веравызнаньня й адзін з двух бурмістраў быў таксама каталік.[57] Гэта ні ў якім выпадку ня сьветчыць аб тым, што й лік каталіцкага жыхарства места быў у падобнай прапорцыі, але гавора ўсё-ж ясна, што каталікі ў Полацку ў Скарынавыя часы існавалі ўжо ў куды паважнейшым ліку, як думаў Валадзіміраў. Выдадзены вялікім князем Аляксандрам колькі месяцаў пазьней, 14 сакавіка 1499 году, прывілей на майдэборскае права для Менску, падобных, рэлігійнага характару, вымаганьняў ня ставіць, з чаго відаць, што ў тагачасным Менску лік каталікоў быў нязначны.[58] Адцеміць яшчэ варта й цікавую драбніцу, што прывілейная грамата вялікага князя Александры дадзеная была для Полацку «в четверк, в день светого Францишка» (4 кастрычніка), значыцца ў дзень Скарынавага патрана.

З рэцэнзэнтаў Валадзіміравай манаграфіі да пытаньня веравызнаньня, а адначасна й імя доктара Скарыны, бліжэй і крытычна падышоў толькі А. Стэповіч у 1889 годзе ў часапісе «Кіевская старина». Стэповіч найперш падчыркнуў тую вагу, якую справа веравызнаньня доктара Скарыны мае для расейскіх дасьледнікаў:

> «...пытаньне аб яго (Скарыны) паходжаньні й веравызнаньні... у дадзеным выпадку пытаньне капітальнае вагі, а ня проста пытаньне пустое цікавасьці, паколькі ад такога ці іншага яго вырашэньня мог залежыць і той ці іншы пагляд гісторыка на істоту й значаньне прасьветнае дзейнасьці Скарыны, дадатны ці адмоўны, з гледзішча, разумеецца, нацыянальна расейскага».[59]

З арыентацыі, вось, на «нацыянальныя расейскія» інтарэсы Стэповіч і дакараў Валадзіміраву, што той у сваёй манаграфіі ня здолеў абгрунтаваць дастаткова пагляд аб праваслаўным веравызнаньні, а адначасна й «праваслаўным» імі доктара Скарыны. Стэповіч пры тым, яшчэ перад папраўкай Бацюшкава, выказаў свой недавер і да таго, што ў Полацку пры канцы XV стагодзьдзя ня было каталікоў, як цьвердзіў Валадзіміраў. У справе-ж імя *Георгі* ў Скарыны Стэповіч адцеміў:

> «Сам Скарына нідзе гэтым імем сябе не называў, і сваім сучасьнікам, і нам нашчадкам, ён ведамы толькі пад сваім улюбёным імем Франьцішак».[60]

Пагляды Пятрушэвіча аб зьмене Скарынам імя на Кракаўскім унівэрсытэце, як магчымыя, прыймаў, затое, у сваім нарысе біяграфіі доктара Скарыны А. Купалов. Ён пісаў, што імя *Франьцішак* Скарына «можна думаць атрымаў на Кракаўскім унівэрсытэце».[61] Яўхім Карскі ў сваіх «Бе-

---

[57] Акты относящиеся к истории Западной России. Собраные и изданые Археографической Коммиссиею, т. I. Санктпетербург, 1846, № 159, б. 179—182.

[58] Тамсама, № 165, б. 187—189.

[59] Степович А. Рэцэнзыя на: Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... «Киевская Старина», т. XXIV. Киев, 1889, б. 516.

[60] Тамсама, б. 517—518.

[61] Купалов А., тамсама, б. 600.

лорусах» хоць і не заняў у гэтым пытаньні выразнага становішча, ды словамі «З лацінскім імем яму (Скарыну) было выгадней вучыцца на Заходніх каталіцкіх унівэрсытэтах»,[62] таксама быццам прымыкаў да паглядаў Пятрушэвіча. Затое за блізу пэўную гіпатэзу Пятрушэвіча аб «прыкрываньні» імя й веравызнаньня прыймаў М. Піотуховіч у сваім артыкуле аб Скарыну ў скарынінскім менскім юбілейным зборніку 1926 году.[63] Асьцеражнейшым быў другі аўтар таго самага зборніка, Ул. Пічэта, які хоць, з аднаго боку, адзначыў, што ход разважаньняў Пятрушэвіча, калі супаставіць яго з «фантастычнымі» мяркаваньнямі «Крестнаго календара», выглядае больш «правілным», дык з другога аб'ектыўна прызнаў, што пытаньне «падвойнасьці імён Скарыны й пасьля артыкулаў Пятрушэвіча засталося нявырашаным».[64]

Ёсьць у Скарынавым жыцьцяпісе важнае, неразьвязанае дастаткова й дагэтуль, пытаньне — пытаньне ягонага веравызнаньня. Шмат каго бянтэжыць факт, што пры яўна каталіцкім імі *Францішак*, доктар Скарына рупна й ахвярна друкаваў і пашыраў гэткія бясспрэчныя праваслаўныя выданьні, як віленскую «Малую падарожную кніжыцу», дзе поклікі на сьвятых усходніх праваслаўных патрыярхаў, малітвы за «сьвятую праваслаўную веру», праваслаўнае «Верую» бязь filioque, праваслаўныя сьвятцы. Неправаслаўнае імя выдаўца пры праваслаўным характары выдаваных ім кнігаў, выглядала на нейкую супярэчнасьць, якую цяжка пагадзіць, і гэта стала прычынаю, што ў паглядах на Скарынавую веру сярод дасьледнікаў няма адналітасьці. Уважалі й ўважаюць яго за праваслаўнага, каталіка, вуніята, пратэстанта, гусыта, а навет — рэлігійна індыфэрэнтнага.[65]

Разьвязаць гэтую супярэчнасьць яшчэ ў 1867 годзе, ды ў спосаб адваротны «Крестному календару», пробваў расейскі дасьледнік А. Віктараў, які яшчэ ня ведаў тады пра магчымае існаваньне ў Скарыны імя *Юры*. Віктараў пісаў:

> «Скарына мог быць запраўды хрышчаны па лацінскім абрадзе, але пасьля мог перайсьці ў праваслаў'е».[66]

Прапанаваная Віктаравам разьвязка супярэчнасьцяў з дапушчэньнем аб пераходзе Скарыны з каталіцтва на праваслаў'е, не знайшла, аднак-жа, прызнаньня ў пазьнейшых дасьледнікаў. Для аўтараў XIX—XX стагодзьдзяў, часу, калі лінія рэлігійнага разьмежаваньня між праваслаўнымі й

---

[62] Карский Е. Ф., тамсама, б. 25.

[63] Піотуховіч Міхал, Францішак Скарына. Чатырохсотлецьце беларускага друку. Менск, 1926, б. 161—163.

[64] Пічэта Ул. Scoriniana..., б. 293.

[65] Пічэта Ул., тамсама, б. 293. Флоровский А. В. Чешская библия..., б. 207—208. Там пералік пару дзесяткоў аўтараў з рознымі паглядамі ў гэтым пытаньні. Аўтар друкаванае гэтта працы схіляецца да думкі, што хоць магчыма доктар Скарына й быў хрышчаны каталіцкім сьвятаром, і дзеля гэтага меў імя *Францішак*, дый уважаць яго трэба, судзячы па характары ягоных выданьняў, за праваслаўнага, паколькі пры азначэньні веравызнаньня важнейшымі й вырашальнымі павінны быць пагляды й дзейнасьць чалавека, а менш імя, якое звычайна дастае кажны, незалежна ад свае волі, пры нараджэньні.

[66] Викторов Алексей. Замечательное открытие в древнорусском книжном мире. Беседы в Обществе любителей российской словесности при Императорском Московском Университете, вып. I. Москва, 1867, б. 20.

каталікамі на землях Беларусі была зарысаваная ўжо вельмі войстра, каталіцкае імя Скарыны пры праваслаўным характары выдадзеных ім кнігаў, было нейкім незразумелым парадоксам. Ніхто зь іх нейк не зьвярнуў увагі на тое, што супярэчнасьць гэтая існавала для XIX—XX стагодзьдзяў, але яе нейк не адчувалі ў пару доктара Скарыны. Ніякое супярэчнасьці, у кажным выпадку, ня бачылі ў гэтым Скарынавыя, сучасныя яму, суродзічы, найперш тыя выдатныя праваслаўныя мэцэнаты ягонага выдавецтва, як «найстаршы бурмістр» Вільні Якуб Бабіч ды райца места Багдан Анкевіч, што апякаваліся Скарынавай выдавецкай справай ды гойна яе фінансавалі.

Хоць сьведамасьць праваслаўнага характару Скарынавых кнігаў пры каталіцкім яго імі і схінала некаторых аўтараў да азіраньня на Пятрушэвічаву гіпатэзу, як на магчымае выясьненьне загадкі, але ні згаданы вышэй Валадзіміраў, ні Купалоў, Карскі або Піотуховіч, і ніхто іншы ня ішлі ўсё-ж гэтак далёка, каб адкідаць імя Скарыны *Франьцішак* ды замяніваць яго імем *Георгій,* як чыніцца гэта часта цяпер.

З публікацыяй у 1925 годзе тэзы Лаўмянскага аб тым, што Georgii у вадным адзіным акце зьявілася праз звычайную памылку, з пад Пятрушэвічавай гіпатэзы выймаўся вуглавы яе камень і падважываўся ўвесь сэнс яе існаваньня. У справе цьверджаньня Лаўмянскага, аднак-жа, ні Піотуховіч, ні Пічэта, ні іншыя аўтары скарынінскага менскага зборніка 1926 году не пасьпелі выказацца, бо ў часе прыгатовы зборніка зь імі відавочна, яшчэ ня былі знаёмыя. Пару-ж год пазьней Скарына ў БССР быў абвешчаны «клясава варожым», а яшчэ пасьлей, усе вышэй названыя аўтары былі арыштаваныя, сасланыя, некаторыя й фізычна зьнішчаныя, і займацца становішча ў падобных пытаньнях ня было ўжо ня толькі як, але й каму.

## 6

> ...вопрос о его происхождении и вероисповедании... вопрос капитальной важности... так как от того или инаго его решения... зависит и тот или иной взгляд историка на сущность и значение просветительной деятельности Скорины, положительный или отрицательный с точки зрения, разумеется, национально русской.
>
> *А. Степович, «Киевская старина», 1889 г.*

Хоць за мінулых звыш сто год ад Круповічавай публікацыі прывілейнае граматы, у якой раз пры прозьвішчы й імі доктара Скарыны ёсьць і Georgii, ува ўсёй, і даволі багатай, пасьлейшай скарынаведнай літаратуры не зьявілася аніводнага факту на пацьверджаньне таго, што гэтае імя ў Скарыны запраўды было й што яно ня звычайная апіска, і, наўсуперак таму, што існаваньне гэтага імя ў Скарыны з навуковага гледзішча гадамі ставала ўсё болей і болей сумлеўным, — у СССР ад Другое Сусьветнае Вайны наглядаецца курс супроцьлежны навуковай вымове дакумэнтаў і фактаў. Імя, якога доктар Скарына сам ні разу ня ўжыў, ды й сама магчымасьць існаваньня якога абапертая на ўсяго аднаразовай яго паяве ў копіі аднаго

адзінага акту, — гэтае імя ў савецкім паваенным друку, ды зь яўным націскам, прапагавалася як адзінае Скарынавае імя. Імя-ж якім Скарына заўсёды й толькі карыстаўся, ягонае, як калісьці падцеміў А. Стэповіч, імя «ўлюблёнае», ці адсоўвалася на другое месца, ці, часта, і зусім замоўчвалася. Дзеля таго, што ў СССР гэтая, здавалася-б, другарадная справа, стала нейк вельмі важнаю, даводзіцца прыгледзіцца да яе пільней, каб выявіць яе прычыны й матывы, прасачыць яе пачаткі.

Калі на прасторы Беларусі ўжо ад звыш поўтысячы год побач праваслаўнае веры існуе й каталіцкая, і для беларускага й праваслаўнага вуха *Франьцішкі, Вінцэсі, Казімеры, Вацлавы* ды *Станіславы* й у штодзенным быце, і ў гісторыі, і ў літаратуры не навіна, дык у Маскве каталіцкае імя выдатнага дзеяча «залатога веку» беларускае культуры яўна няпрыемна ўражала й уражае расейскія ўжо ня толькі рэлігійныя, але й нацыянальныя пачуцьці, як нешта чужое, а навет і варожае. Як доўга Скарына быў толькі *Франьцішкам,* рабіць зь яго «общероссийского первопечатника» й патрыёту, або ставіць яму памятнікі, як прапанаваў калісьці «Крестный календарь», у Маскве ніхто ня думаў і было там гэта проста немагчыма: «общероссийский первопечатник» і раптам — *Франьцішак!* Для маскоўскага вуха й мэнтальнасьці нешта не сумяшчальнае.

Накш было на землях Беларусі, дзе праваслаўная вера ад стагодзьдзяў была ў нясупынным сутыку й суіснаваньні зь верай каталіцкай, і дзе неправаслаўнае імя пры праваслаўнай дзейнасьці й пераканаваньнях, і наадварот, ня рэдкая, гістарычна абумоўленая, зьява. Ведама, што якраз на землях Беларусі дайшло да спатканьня, скрыжаваньня й сваеасаблівае сынтэзы заходніх эўрапейскіх і ўсходніх візантыйскіх цывілізацыйных элемэнтаў із старавечнымі беларускімі культурнымі традыцыямі ў галіне мастацтва, культуры, пісьменнасьці.[67] Адбітак гэтага яскравы й на асобе, інтэлекце й дзейнасьці й доктара Скарыны.

Важным было асабліва тое, што ў ходзе гістарычных падзеяў праваслаўе ў Беларусі набрала традыцыйных свомасьцяў беларускае зямлі з дэмакратычнымі, талерантнымі дачыненьнямі да людзей іншых рэлігійных пераканаваньняў ды адрозных культурных традыцыяў. Гэтым праваслаўе Беларусі розьнілася ад праваслаўя маскоўскага зь яго самазамкнутасьцяй, фанатычным абмежаваньнем, ультракансэрватыўным артадаксальным дагматызмам ды крайняй варажынёй і неталерантнасьцяй да ўсіх іншых, і найперш — іншых хрысьціянскіх веравызнаньняў.

Асабліва яскраваю розьніца гэтая была ў прыраўнаньні Маскоўшчыны да Беларусі перадрэфармацыйнае й перадвунійнае, Беларусі Скарынавае

---

[67] Аб сынтэзе на землях Беларусі культурных элемэнтаў візантыйскіх, заходняэўрапейскіх і радзімых мясцовых у працах: Максімовіч Рыгор. Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі. «Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, кн. 2 (6). Ню Ёрк, 1954, б. 65—84. Заканчэньне ў: «Конадні», кн. 3. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Ню Ёрк, 1955, б. 55—72. Акіншэвіч Л. Пра «Цывілізацыйныя асновы» беларускага гістарычнага працэсу. «Запісы» Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, кн. 2 (4). Ню Ёрк, 1953, б. 70—79. Аб тых самых працэсах сынтэзы ў беларускім мастацтве: Шчакаціхін Мікола. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, т. I. Інстытут Беларускае Культуры. Менск, 1928.

пары. Двум тагачасным выдатным праваслаўным дзеячом — «найстаршаму бурмістру слаўнага й вялікага места Віленскага», Якубу Бабічу, і радцы таго-ж сталічнага «места Віленскага» Багдану Анкевічу, неправаслаўнае імя Скарыны ня было перашкодаю для тога, каб горача маральна й шчодра матар'яльна ўспамагаць яго й у Празе, і ў Вільні ў ягонай адданай, ахвярнай выдавецкай дзейнасьці для пажытку й дабра сваіх-жа праваслаўных суродзічаў. Дык сама думка, што Скарына, рэдактар і выдавец праваслаўных кнігаў, *Францішкам* ня можа быць, а мусіць быць толькі *Георгіем*, зарадзілася ня зь беларускіх традыцыяў дэмакратычнае талеранцыі, а толькі з расейскага духовага асяродзьдзя й мэнтальнасьці, для якое заходняе, і, асабліва, заходняе каталіцкае імя, не сумяшчаецца з паймом ня толькі ўжо расейскае, але й беларускае нацыянальнасьці.

У першыя гады існаваньня савецкае Масквы, новы таталітарны рэжым, заняты клопатамі мацаваньня свае ўлады ды ўблытаны ў жорсткае змаганьне партыйных правадыроў за дыктатарскую пазыцыю, зьвяртаць увагу на дзеяча старое беларускае культуры й, асабліва, на тое ці іншае ягонае імя, ня меў часу ані магчымасьці. Але ўжо пры канцы 20-х год палажэньне зьмянілася й у БССР доктар Скарына быў абвешчаны рэакцыйным, клясава варожым «сярэднявяковым манахам». Гэты палітычны асуд Скарыну быў дадзены ў афіцыйным артыкуле сакратара ЦК КПБ В. Кнорына, што зьявіўся ў прэсе БССР на пачатку 1928 году.[68] Ад гэтага часу ў БССР праводзіцца сыстэматычная партыйная нагонка на Скарыну, разьдзелы аб ім вычырківаюцца з падручнікаў гісторыі й гісторыі беларускае літаратуры. Калі-ж прозьвішча ягонае там часам і згадвалася, дык з адначасным войстрым зьвінавачаньнем у «буржуазнасьці». Скарынавыя партрэты выкідаліся із школаў, музэяў, грамадзкіх установаў. Нішчыліся як «клясавага ворага», як беларускага «нацдэма» ў мінулым, ягоныя скульптурныя вобразы.

Ды Скарына — завялікая постаць, каб лёгка можна было яго вычыркнуць з балонак гісторыі, тымбольш, што сваёй дзейнасьцяй ахопліваў ён аж колькі краёў Эўропы й быў культурнай вялічынёй ня толькі мясцовага беларускага, але шырэйшага эўрапейскага засягу й значаньня. Гэта ня прыпадкам Скарынаў партрэт красуецца сяньня й у далёкім ад Полацку Падуанскім унівэрсытэце.[69] Вось дзеля гэтага ў часе апошняе сусьветнае вайны, калі ў Маскве пачалі рыхтавацца да рэакупацыі земляў Беларусі й там вызначаліся новыя вехі будучае нацыянальнае там палітыкі, і да Скарыны ўзяты быў іншы курс. Гэтым-жа часам, 1 студзеня 1944 году, прыпадалі якраз 25-я ўгодкі абвешчаньня ў 1919 годзе ў Смаленску БССР. Была зручная нагода для пачатку новае прапагандпае акцыі на беларускім нацыянальным адрэзку. У Маскве да 25-х угодкаў БССР рыхтаваўся да выхаду грамадзка-палітычны й літаратурны двумесячнік «Беларусь», першы нумар якога на самым пачатку студзеня 1944 году й паказаўся.

Перадавіцаю першага нумару новага часапісу быў артыкул тагачаснага сакратара ЦК КПБ Г. Гарбунова «25 год Беларускае СССР». У гэтым арты-

---

[68] Кнорын В. Аб рашаючых «дробязях» у вялікім пытаньні. «Асьвета», № 4. Часапіс Народнага Камісарыяту Асьветы Саюзу Працаўнікоў Асьветы. Менск, 1928, б. 4.

[69] Брага С. Партрэты..., б. 149—151.

куле Скарына, між іншым, ня толькі ўжо згадваўся, але навет і славіўся. Ды згадваўся ён з аднэй вельмі характэрнай зьменай: імя *Францішак* у яго ня было. Называўся ён цяпер *Георгій.* У тым самым нумары часапісу друкаваўся й артыкул аб Скарыну М. Ларчанкі. Артыкул меў загаловак: «Вялікі прасьветнік *Георгій* Скарына». З розных гледзішчаў цікавая сама фраза, у якой Гарбуноў згадвае *Георгія* Скарыну:

> «Беларускі народ спарадзіў імёны, каторыя навекі ўвойдуць у гісторыю. У вякох нашай нацыянальнай славы, побач з слаўнымі імёнамі вялікага беларускага прасьветніка Георгія Скарыны, Васіля Цяпінскага, Багушэвіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, побач з слаўнымі імёнамі барцоў за народную справу Кастуся Каліноўскага, Галоты, Крывашапкі, Вашчылы...»[70]

З прыведзеных вышэй радкоў відаць, што калі Скарыну сакратар ЦК КПБ імя *Францішак* зьмяніў на *Георгій,* дык у Багушэвіча, таксама *Францішка,* падставіць якому нейкае іншае імя, аднак-жа, ня было ўжо ніякіх падставаў, імя гэтае наагул прапушчанае.

Зь перадавога артыкулу сакратара ЦК КПБ у першым нумары новага часапісу зьмена становішча Масквы да Скарыны беларускім падсавецкім чытачом была ясная: у спадзяваньні павароту на землі Беларусі, каб зрабіць «добрае ўражаньне» ды крануць патрыятычныя пачуцьці Беларусаў, яна зьнімала із Скарыны колішнюю, кінутую вуснамі Кнорына, анатэму, і дазваляла Беларусам вярнуць яго ў нацыянальны Пантэон слаўных мужоў свае гісторыі. Гэтак, пасьля 15 год выгнаньня, можна было вярнуць Скарыну на бачыны беларускага падсавецкага друку, вярнуць навет у «нацыянальнай славе», бяз абзываньняў «сярэднявяковым манахам», бяз прытыкаў аб не пралетарскім сацыяльным паходжаньні. Але вярнуцца Скарына мог толькі як *Георгій.* Як *Францішак* ён і далей заставаўся непажаданым — persona non grata.

Становішча занятае ў справе доктара Скарыны й ягонага імя найвышшым, прызначаным для Беларусі Масквою партыйным аўтарытэтам, ды ў часапісе, што пачаў выдавацца ў пару сталінскае безаглядная дыктатуры ў самым цэнтры імпэрыі, была раўназначная афіцыйнай зьмене палітычнае лініі, абавязваючай усіх партыйнай інструкцыі-загаду, якому зразу-ж і сталі падпарадкавацца падсавецкія беларускія журналістыя, пісьменьнікі, навуковыя працаўнікі. Ад гэтага часу й вядзе свой пачатак тая настойлівая і, асабліва, у БССР, падсавецкая «георгізацыя» доктара Скарыны. Там ён у паваенную пару прапагаваўся ўвесь час як *Георгій.* Толькі рэдчас, нясьмела, і толькі на другім месцы згадвалася й ягонае запраўднае імя, імя, якое сам Скарына праз усё сваё жыцьцё толькі ўжываў — *Францішак.*

Цікава адцеміць, што незважаючы на вайну ў поўным яе тады разгары й на ваенныя франты, факт наважанае Масквою рэгабілітацыі Скарыны, з адначаснаю заменаю ягонага імя, быў тады-ж заўважаны й «сыгналізаваны» і ў беларускім эміграцыйным друку. Аб гэтым у бэрлінскай «Раніцы» ўжо 2 красавіка 1944 году, ці ўсяго тры месяцы пасьля паявы першага нумару «Беларусі» ў Маскве, паведамляў З. Крыцкі ў вартыкуле пад за-

---

[70] Гарбуноў Г. 25 год Беларускае ССР. «Беларусь», № I. Масква, 1944.

галоўкам: «Франьцішак — Георгій, або ворагавы сыгналы каля нашага Скарыны . . .»[71]

Калі ўважней прыглядзіцца да падсавецкае «геаргізацыі» Скарыны, дык можна заўважыць, што ёсьць не адзін, а колькі аспэктаў гэтае, палітычна задуманае, акцыі перахрышчваньня рэгабілітаванага беларускага гуманісты-вучонага й першадрукара XVI стагодзьдзя. У рэлігійнай роўніцы гэтае, паводля колішняга азначэньня А. Стэповіча, «капітальнае вагі» пытаньне для «расейскіх нацыянальных інтарэсаў», важнае й для сучаснае атэістычнае Масквы, бо пазваляе прадстаўляць Скарыну як праваслаўнага, а гэта важны крок у кірунку набліжэньня Скарыны-Беларуса да Масквы й Расеі й у роўніцы нацыянальнай ды да высоўваньня яго, дзе прапаганда мэтазгодна й трэба, як «общероссийского», ці й проста свайго «русского». Пастулаць гэтак із Скарынам *Франьцішкам* прапагандна яўна менш зручна.[72]

А ад нацыянальнае інтэграцыі Скарыны зь «вялікім рускім народам» простая ўжо дарога й да палітычнага аспэкту справы — да прадстаўляньня Скарыны як прапагатара «общероссийской» ідэялёгіі. У «Истории БССР» 1956 году выданьня Акадэміі Навук БССР канцэпцыя гэтая сфармуляваная словамі: «он отразил социально-политические устремления белорусского народа к единению с русским народом . . .»[73] У цывілізацыйным аспэкце ў намаганьнях пазбавіць Скарыну імя*Франьцішак* выяўляецца старавечная варажыня Масквы да культурных элемэнтаў Захаду, і, асабліва, да ўсяго заходняга «лацінскага». Імя *Франьцішак,* у дадзеным выпадку, непажаданы Маскве сымбаль блізкое, цеснае зьвязанасьці Скарыны й Беларусі XVI стаг. з духовым сьветам і культурнымі працэсамі эўрапейскага Захаду.

Лёгка зацеміць, што прычыны й матывы сучаснага савецкага пераймяноўваньня Скарыны з *Франьцішка* на *Георгія* ў сваёй істоце тыя самыя, што былі й у Масквы часоў «Крестнаго календаря» 1873 году. Гэта намаганьне «ўбудаваць» Скарыну ў сваю вялікадзяржаўную канцэпцыю й ей яго, ягоную дзейнасьць і спадчыну падпарадкаваць.

## 7

. . . Георгий . . . это едва-ли не недоразумение . . .
*А. В. Флоровский, 1946 г.*

Многія . . . памылкова называюць Скарыну Георгіем.
*М. Прашковіч, 1965 г.*

Калі ад апошняе сусьветнае вайны ў падсавецкім друку імя *Георгій,* як імя доктара Скарыны, было шырака папулярызаванае, дык, апрача афіцыйнага партыйнага націску, у некаторай меры спрыяла гэтаму й тая гэрмэтычная ізаляцыя падсавецкіх навукоўцаў ад замежнае навейшае ска-

---

[71] Крыцкі В. Франьцішак — Георгі, або ворагавы сыгналы каля нашага Скарыны . . . «Раніца», № 14/176. Бэрлін, 2 красавіка 1944 г., б. 4.

[72] Прыкладам, у «Большая медицинская энциклопедия», изд. 2-ое, т. 17, Москва, 1960, б. 256, партрэт доктара Франьцішка Скарыны зь ягонае Біблії, з подпісам «Георгий Скорина», аздабляе артыкул «Медицина в Московском государстве»!

[73] История Белорусской ССР, т. I, Академия Наук БССР. Минск, 1956, б. 106.

рынаведнае літаратуры, што трывала ад пачатку трыццатых год гэтага стагодзьдзя аж да канца сталінскае дыктатуры. У выніку, падсавецкія аўтары, якія асобаю доктара Скарыны сталі з часам цікавіцца, з тэзамі й довадамі Лаўмянскага ў пытаньні «двуіменнасьці» Скарыны маглі пазнаёміцца толькі праз трыццаць год ад іх публікацыі, ці ў другой палове пяцідзесятых год.

Адзін зь іх, віленскі дасьледнік Л. І. Уладзімераў, пазнаёміўшыся з адпаведнымі актавымі тэкстамі, прызнаў у 1956 годзе за правілную тэзу Лаўмянскага аб тым, што Georgii ў копіі акту зьявілася з Egregii праз памылку.[74] Затое два іншыя аўтары — менскі М. А. Алексютовіч і маскоўскі А. А. Сідараў — наадварот, сталі ў вабароне *Георгія,* як скарынавага «запраўднага» імя зь яўнаю мэтай апраўдаць і навукова легалізаваць факт падсавецкага пераймяноўваньня доктара Скарыны.

Алексютовіч заняў да гэтага пытаньня становішча ў 1957 годзе ў сваёй, выдадзенай Інстытутам філязофіі Акадэміі Навук БССР, кніжцы аб Скарыну. Алексютовіч там піша:

> «Некаторыя вучоныя, як напрыклад Г. Лаўмянскі й Л. І. Уладзімераў, аспрэчваюць той факт, што Скарына меў праваслаўнае імя Георгій. Яны лічаць, што праваслаўнае імя Скарыны, якое ён нібыта меў да пераходу ў каталіцтва, нам невядома. Георгіем-жа яго называюць памылкова. Сам Скарына ўсюды называе сябе толькі Францішкам. Пад гэтым імём ён выступае й ува ўсіх вядомых «аўтэнтычных» (арыгінальных) дакумэнтах... Гэтую думку трэба лічыць памылковай. Справа ў тым, што выданы каралём прывілей вызваляў Скарыну ад судовых прасьледваньняў за даўгі брата Івана, які да сваёй сьмерці жыў у Полацку. Паколькі тут гутарка ідзе аб маёмасных справах, кароль, відаць, спэцыяльна ўказваў у прывілеі праваслаўнае імя Скарыны Георгій, якое ён атрымаў у тым-жа Полацку пры хрышчэньні й быў там пад ім вядомы. Мы ўважліва разгледзілі адпаведныя месцы ў прывілеі й грамаце й прыйшлі да цьвёрдага перакананьня, што перапісчык, які, бязумоўна, павінен быў добра ведаць лацінскую мову, ня мог дапусьціць памылкі. Зблытаць у даным выпадку два зусім розныя словы egregium і Georgii ніяк немагчыма, тым больш, калі справа датычыцца юрыдычных дакумэнтаў».[75]

З прыведзеных тут цытатаў найперш відаць, што Алексютовіч, хоць і напісаў сваю кніжыцу з даручэньня гэткае ў савецкай сыстэме аўтарытэтнае ўстановы, як «Інстытут філязофіі Акадэміі Наяук», аднак-жа ў фактах біяграфіі доктара Скарыны ён яўна здэзарыентаваны. Іван Скарына, брат доктара Францішка, перад сваёй сьмерцяй жыў ня ў Полацку, а ў далёкім ад яго Пазнані, у Польшчы, дзе ў 1529 годзе ён і памёр. Усе клопаты й няпрыемнасьці за ягоныя даўгі доктар Скарына меў перад пазнанскімі меставымі ўладамі й судом, а не полацкімі.[76] Для пазнанскага-ж

---

[74] Vladimirovas L. I. Franciškus Skorina — vilniaus spaudos pradininkas. Vilnius, 1956.

[75] Алексютовіч М. А., тамсама, б. 40.

[76] Wojciechowska M., тамсама, б. 473—475.

суду напэўна было зусім абыякава, пад якім імем Скарына рос у Полацку, калі-б гэтае імя было навет і іншае ад *Франьціішак*, і дзеля гэтага ня было ніякое патрэбы ў тэкст граматы ўводзіць імя Georgius знарок, як даводзіць Алексютовіч. Ня мае аніякое дакумэнтнае падставы аўтар і на сваё цьверджаньне аб тым, што імя *Георгій* Скарына атрымаў у Полацку пры хрышчэньні. Гэта толькі нічым неабгрунтаваная вера аўтара. Полацкія акты Скарыну знаюць толькі як *Франьціішка*.

Як з пададзеных раней фактаў аб пашырэньні імя Georgius і на каталіцкім Захадзе, і сярод каталікоў на землях Вялікага Княства Літоўскага, відаць, называць імя *Георгій* «праваслаўным», як, за «Крестным календаром» робіць Алексютовіч, няма таксама ніякіх падставаў. Georgius — *Юры* — імя агульнахрысьціянскае, і такое-ж каталіцкае, як і праваслаўнае. Дык уся першая частка Алексютовічавых разважаньняў ня мае пад сабой ніякога абгрунтаваньня і ў актах, і ў фактах.

Алексютовіч, таксама, яўна не абазнаны зь лёгікаю разважаньняў Лаўмянскага й істоты ягоных вывадаў. Ён цьвердзіць: «мы ўважліва разгледзілі адпаведнае месца ў прывілеі й грамаце й прышлі да цьвёрдага перакананьня, што перапісчык... ня мог дапусьціць памылкі...» Што да гэтага «цьвёрдага перакананьня», дык, найперш, Алексютовіч «уважліва разглядаў» не арыгінал граматы, які быў зразу-ж па напісаньні дадзены доктару Скарыну на рукі й, відавочна, не захаваўся, найхутчэй згарэў у вагні таго вялікага пажару Прагі 1541 году, у якім трагічна загінуў і адзін із Скарынавых сыноў. Дык Алексютовіч мог бачыць толькі тую самую копію граматы з каралеўскае канцылярыі, зь якое тэкст для друку ўзяў сто год таму М. Круповіч, і толькі па гэтай копіі ён ніяк ня можа мець аб'ектыўных падставаў для «цьвёрдага перакананьня» ў тым, што гэтак дакладна было й у арыгінале, і што перапісчык запраўды памылкі не зрабіў. Высьніць справу напэўна магло-б толькі супастаўленьне тэксту копіі з тэкстам арыгіналу. Калі-ж гэтак зьверыць немагчыма, бо арыгінал не захаваўся, ці ня знойдзены, дык ёсьць іншы спосаб, каб давесьці, што перапісчык не памыліўся: трэба знайсьці хоць адзін нейкі дакумэнт, у якім імя *Юры* — Georgius — як імя Скарыны было-б пададзенае напэўна й ужо бязь ніякіх сумлеваў.

Ад часу друку тэкстаў граматаў Круповічам прайшло ўжо звыш ста год, а ад публікацыі засьцярогаў Лаўмянскага што да дакладнасьці копіі, сорак. За гэты час аб доктару Скарыну было выяўлена шмат новых архіўных актаў. Сяньня ведама каля 30-цёх дакумэнтаў, дзе Скарынавае прозьвішча, разам зь імем, згадваецца. Ува ўсіх іх ёсьць толькі адно ягонае імя — *Франьціішак*, і ніразу Georgius — *Юры*. З гэтага лішні раз ясна, што Алексютовічавы «цьвёрдыя перакананьні» — вера неабаснаваная на фактах.

Недакладны Алексютовіч і тады, калі кажа, што «зблытаць... два зусім розныя словы egregium і Georgii ніяк немагчыма...» Адпаведны лацінскі сказ граматы вымагае роднага склону гэтых абодвух словаў, значыцца не egregium, але egregii, а ў гэткім выглядзе слова гэтае мае ўжо зусім адзінакавы канчатак як і ў Georgii. Пакольк-ж і ў пачатку абодвух словаў маем

блізу тыя самыя літары, толькі ў крыху рознай перастаноўцы, дык зблытаць, асабліва пры пасьпешным перапісваньні, больш чым лёгка.

З вышэй разгледжанага відаць, што лішне й яўна непатрэбна хутка Алексютовіч пры канцы сваіх вывадаў забывае на тое, аб чым сам гавора напачатку, а пайменна, што «сам Скарына ўсюды называе сябе толькі Франьцішкам», ды што «пад гэтым імем ён выступае й ува ўсіх вядомых «аўтэнтычных» дакумэнтах». Калі-б гэтых бясспрэчных фактаў аўтар трымаўся, быў-бы ён калі й далей ад сваіх «цьвёрдых перакананьняў», ды, затое, куды бліжэй праўды.[77]

А. А. Сідараў у вабароне імя Georgius у доктара Скарыны выступіў у 1964 годзе, у вартыкуле пісаным з нагоды 400-годзьдзя маскоўскага друку. Сідараў у гэтым пытаньні кажа:

> «Чэскі вучоны А. Флароўскі, які апублікаваў не малы лік дакумэнтаў аб апошніх гадох жыцьця Скарыны, выказаў сумляваньне ў тым, што ягонае імя выводзілася ад славянскага «Георгій», паколькі Скарына сябе часьцей называў «Францискам», «Франтишкам». У дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя В. І. Леніна ня гэтак даўно былі атрыманыя фатакопіі дакумэнтаў, што перахоўваюцца ў Польшчы, зь якіх вынікае, што дапушчэньне Флароўскага — імя «Георгій» зьявілася ад няправільнага адчытаня слова «EGREGIUS» — павінна быць адхіленае. У дакумэнтах «Георгій» чытаецца зусім выразна».[78]

Што да гэтае, аўтарытэтнае ня менш як і ў Алексютовіча, заявы, дык адцеміць найперш трэба, што словы Сідарава «Скарына *часьцей* сябе называў *Франьцішак»* не адказваюць праўдзе. Скарына сябе называў *толькі Франьцішкам* і ніколі, ні разу *Георгіем,* ці нейкім іншым імем. Недакладны Сідараў і ў правапісе, калі падае, што Скарына сваё імя пісаў *«Франтишак».* Імя гэтае Скарына, згодна з вымаганьнямі беларускае фанэтыкі, заўсёды пісаў толькі праз *«ц»* — *Францишек»* а не праз расейскае *«т».*

Таксама ня ясна, што А. А. Сідараў разумее пад сваім выражэньнем «славянскае *Георгій».* Імя *Георгій* зусім не «славянскае», а грэцкае. Лёгка зацеміць, што ў яго карані тое-ж грэцкае *«ґео-»* — «зямля», — якое маем і ў словах *геаграфія, геалёгія, геамэтрыя,* ды падобных. Імя гэтае пагрэцку значыць *земляроб, селянін.* Гэта адна з прычынаў, чаму сьвяты Юры з часам у Беларусі, Францыі й іншых краёх быў узьведзены ў патрана-апякуна ўраджаяў і земляробства. Дык *Георгій* імя грэцкае й славянскім мовам яно натолькі далёкае й чужое, што ўва ўсіх іх зьявіліся свае адпаведнікі гэтага імя: *Юр, Юры, Юр'е* ў Беларусаў і Украінцаў, *Юр* таксама ў Славенцаў, *Юрай* у Сэрбаў і Харватаў, народнае *Юрій* у Баўгараў.

І ў народнай расейскай мове здаўна ёсьць *Юрий.* Толькі расейскай мове кніжнай маскоўскімі царкоўнікамі была з часам навязаная грэцкая форма гэтага імя *Георгий,* якая выціснула сваё *Юрий.* Навет і ў заходніх славя-

---

[77] Глядзі таксама: Брага С. Рэцэнзыя на вышэй цытаваную кніжыцу М. А. Алексютовіча. «Запісы», кн. І. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхэн, 1962, б. 265—269.

[78] Сидоров А. А. Узловые проблемы и нерешеные вопросы истории руского книгопечатания. «Книга», сб. IX. Москва, 1964, б. 23.

наў — Jiřy у Чэхаў, а Jerzy у Палякаў, — фанэтычна вельмі далёкае ад грэцкага *Георгій*. Дык, калі гаварыць аб нейкай «славянскай» форме імя *Георгій,* дык хутчэй можна было-б уважаць за яе *Юр* ці *Юры,* як пашыранае, зь нязначнымі фанэтычнымі адменамі, ува ўсіх усходніх і паўдзённых славянаў, але няма ніякіх падставаў, каб называць «славянскім» чыста грэцкае *Георгій.*

Заява-ж А. А. Сідарава па самой істоце пытаньня, пайменна, што «дапушчэньне Фляроўскага» аб тым, што імя *Георгій* у Скарыны зьявілася па недаразуменьні й «павінна быць адхіленае», бо ў фатастатах дакумэнтаў атрыманых з Польшчы «выразна чытаецца Георгій», сьветчыць толькі аб тым, што аўтар незнаёмы з ходам разважаньняў Г. Лаўмянскага ў гэтым пытаньні. Лаўмянскі зусім не пярэчыў што ў копіі дакумэнту Georgii чытаецца выразна, а толькі цьвердзіў, што трапіла яно туды праз апіску перапісчыка, які слова арыгіналу Egregii праз пасьпех ці недагляд «перакруціў» на Georgii. А паколькі Сідараў мог бачыць толькі фатастат тае самае копіі дакумэнту, бо пра існаваньне арыгіналу нікому нічога ня ведама, дык і ягонае катэгарычнае «адхіляньне» цьверджаньня А. Фляроўскага зусім ня мае тае аўтарытэтнае сілы, даць якую намагаецца яму аўтар.

А. А. Сідараў у сваім артыкуле высака ўзносіць гістарычнае значаньне культурнае дзейнасьці доктара Скарыны. Між іншым ён кажа:

> «Скарына — *выдавец,* а не наборшчык, ня друкар, не работнік станка. Ён — вучоны, інтэлігент, пісьменьнік, перакладнік, ён — ідэялёг, рэдактар, мовавед і грамадзкі дзеяч. Ён найперш патрыёт і асьветнік».[79]

Калі, як правілна адцемлівае А. А. Сідараў, доктар Скарына сваёй адукацыяй і шырынёй інтэлекту гэтак узносіўся над усімі іншымі пачынальнікамі кірылічнага друку, дык было-б толькі лягічным, каб аўтар прызнаў за аўтарытэтную й ушанаваў Скарынавую ясную волю й у пытаньні, у якім ягоны голас павінен уважацца вырашальным, пытаньні яго імя, ды не навязваў выдатнаму вучонаму й гуманістаму Беларусі імя, якога ён сам ні разу ня ўжыў.

З вышэй разгледжанага відаць, што абодвы падсавецкія аўтары, якія магчымасьць існаваньня ў Скарыны імя Georgius намагаліся бараніць, — М. А. Алексютовіч і А. А. Сідараў, — падышлі да гэтага пытаньня з прынятым згары «цьвёрдым перакананьнем» і выходзілі ад яго, а не існуючых фактаў, і ў выніку разгледзілі справу гэтак павярхоўна, што навет не парупіліся ўнікнуць у ход разважаньняў Г. Лаўмянскага. Сідараў-жа, відавочна, зь імі й наагул бліжэй незнаёмы, бо паклікаецца ён толькі на лякавічнае выказваньне ў гэтым пытаньні Фляроўскага. Дзеля гэтага й іхныя «довады», незважаючы на ўсе, вельмі-ж ужо катэгарычныя й аўтарытэтныя заявы, разьмінаюцца з мэтай і ня толькі не запярэчваюць, ані «адхіляюць» цьверджаньняў Лаўмянскага, Фляроўскага ці Л. А. Уладзімерава, але нічым іх навет і не падважваюць.

Спробы Алексютовіча й Сідарава нейкімі довадамі абгрунтаваць факт падсавецкае падмены імя Скарыны выпалі нагэтулькі слаба, што перака-

---

[79] Тамсама, б. 24.

нацъ аб яе правільнасьці падсавецкага, больш уважлівага, чытача яны наўрад ці маглі. Калі ўсё-ж Скарыну ў СССР і, асабліва, у БССР у друку называлі й называюць *Георгіем,* дык гэта найперш дзеля націску ў гэтым кірунку партыйнае прапаганды. Як толькі палітычная лібэралізацыя ў СССР паступіла натолькі, што дала магчымасьць больш свабоднага выказваньня думак, цэлая чарада беларускіх падсавецкіх аўтараў адкінула казённага «*Георгія*» ды вярнулася да запраўднага імя Скарыны *Франьцішак.*

Гэты спантанічны наварот да «прыкрыванае» раней праўды й рэгабілітацыя імя *Франьцішак* у Скарыны выявіліся ад другое паловы 1965 году, калі, пры нагодзе адзначаных у БССР «475-х угодкаў ад нараджэньня» Скарыны Прашковіч, Александровіч, Чамярыцкі, Мазалькоў, Фактаровіч ды й іншыя аўтары сталі ў сваіх артыкулах называць Скарыну ізноў і толькі *Франьцішкам.* У кастрычнікавым-жа нумары менскага «Полымя» 1965 году Мікола Прашковіч, — першы раз у друку БССР, — прызнаў, што *Георгі* ў Скарыны «памылковае» з Egregius.[80]

Дык, ад запачаткаванай у 1944 годзе ў Маскве першым сакратаром ЦК КПБ Г. Гарбуновам акцыі замены імя Скарыны мінуў аж дваццаць і адзін год, пакуль у друку БССР беларускія пісьменьнікі наважылі спробу вярнуць Скарыну ягонае запраўднае імя. Ці сучасная спантанічная рэгабілітацыя ў БССР доктара Скарыны як *Франьцішка* ня будзе спыненая й замацуецца, ці прыйдуць новыя, афіцыйна навязваныя, навароты да старое канцэпцыі маскоўскага «Крестнаго календаря» 1873 году аб *Георгіі* як адзіным «правільным», «праваслаўным» імі Скарыны, — пакажа будучыня.

## 8

— Што значыць Скарына?..
— А гэта кушнер — чалавек, які у зьнятых скурах знае толк...

*М. Клімковіч, «Сьмерці не падуладна», 1954 г.*

Па абмяркаваньні актуальнага сяньня пытаньня імя, мэтазгодна спыніцца коратка й над прозьвішчам доктара Скарыны, спробаваць выясьніць яго этымалёгію ды раскрыць сэмантычную яго вымову.

Беларускія прозьвішчы з суфіксам -іна, -ы́на, — Дубіна, Яцы́на, Пацы́на, Пузы́на, — даволі частыя. Да прозьвішчаў гэтага-ж тыпу належыць і Скары́на. У беларускіх актавых запісах XVI і пасьлейшых стагодзьдзяў прозьвішчы Скары́на, Скары́ніч, Скары́нчыч, сустракаюцца па ўсёй беларускай тэрыторыі. Апрача Полацку й Полаччыны, ведамыя яны зь Віцебску, Слуцку, Рэчыцы, Горадзеншчыны, Слонімшчыны, Вільні.[81]

---

[80] Прашковіч Мікола. Доктар Франьцішак Скарына. «Полымя», кн. 10. Орган Саюза Пісьменьнікаў БССР. Мінск, кастрычнік 1965, б. 147.

[81] У 1601 годзе згадваюцца Скарына Альхім і ягоны сын Сава, падданыя полацкага архіяпіскапа. «Вестник Западной России», кн. III, т. I. Вільня, 1868, б. 83. Колькі Скарынаў спамінаецца ў: Сапунов А. Витебская старина, т. I. Витебск, 1883, б. 405, 410, 417, 419, 423, 424, 425. У 1681 г. Рыгор Скарына быў сябрам Слуцкага праваслаўнага брацтва. Архив Юго-Западной России», т. 6, б. 56.

Паходжаньне прозьвішча Скарына ня зусім яснае, бо існуе колькі этымалягічных магчымасьцяў. Найперш, напрашваецца дапушчэньне, што яно магло паўстаць ад скоры, хуткі. Як на павольнага, на маруднага, кажаць мару́да, мару́дзіна, гэтак шустры, борзды, скоры, мог нажыць мянюшку Скарына. Мянюшка магла замацавацца, зайсьці ў даўнасьць, а з часам легалізавацца й у дакумэнтах ды стаць прозьвішчам. Словы скарыня́, скарына́, у значаньні хутчыня, ведамыя ў беларускай народнай мове.[82] Другая магчымая этымалёгія, гэта паўстаньне прозьвішча Скарына ад слова скары́на ў значаньні скары́нка. Насовіч у сваім слоўніку да слова скарына падае гэткі прыклад: «Скарыну паламай да палажы ў капусту.[83]

Ды больш праўдападобна, што прозьвішча Скарына, і, асабліва, Скарынаў полацкіх, зь якіх вышаў доктар Франьцішак, выводзіцца не ад скарыны-скарынкі, ані навет ад скоры, хуткі, а мае іншую этымалёгію, і сваім паходжаньнем ці ня зьвязанае з радавым заняткам Скарынаў.

У старой беларускай мове, як і ў старой славянскай, у шырокім калісьці ўжытку было слова скара́, скора́, якое значыла скура, аўчынка. Слова гэтае й сяньня існуе блізу ўва ўсіх славянскіх мовах, прыкладам, скора́ ў расейскай, skorá, skórja ў славенскай, skora, skořice ў чэскай, skóra ў польскай, skora ў верхнялужыцкай, skora, škora ў ніжнялужыцкай. Цяпер слова гэтае, у мовах, у якіх яно захавалася, мае значаньне або скуры аўчынкі, або «скуры» дрэва, кары.[84] Частае гэтае слова й у ўсходнеславянскіх летапісах, прыкладам у «Повести временных лет»: «Рекоша же Деревляне: што хощеши оу нас, ради даем медом и скорою...» пад 6454 годам); «Двор княжь разграбиша, бещисленое множьство злата и сребра, и кунами и скарою» (тамсама пад 6576 г., паводля Іпацieўскага сьпіска); «Присла к немоу... дары многы паволокою и скорою» (Іпацieўскі летапіс, пад 6654 г.).[85] Між іншым, у расейскай мове ад скора паўстаў і скорняк, у значаньні беларускага кушнер, скураль, аўчыньнік, — той, што займаецца абробкаю скураў.

Слова скара, скора ведамае ня толькі мовам славянскім. Ёсьць яно й у іншых індаэўрапейскіх мовах. Мае яго, найперш, мова лацінская, як scortum — скура. Яно там спародненае з corium, што мае значаньне й скуры, і, часьцей, скуры дрэва кары. Лацінскія corium-scortum сваім паходжань-

---

Скарына Міхал судзьдзя Рэчыцкага павету: Акты Виленской Археологической Коммиссии, т. XII, Вильно, 1883, б. 294, 297, 298. Скарынічы ў Горадзеншчыне, тамсама, т. XVII, 1890 г., б. 36, 261. Скарынчыч Іван у Слонімшчыне, тамсама, т. XVIII, 1891 г., б. 94.Poplatek Wykaz, 280 i 586. „Ateneum Wileńskie", t. XI. Wilno, 1936. «Иван Скорина... с Турков» (Рэчыцкі павет) згадваецца ў Попісе літоўскім 1567 г. (Русская Историческая Библиотека, т. XXXII. С.-Петербург, 1915, б. 1233).

[82] Запісаныя, прыкладам, у Пскоўшчыне: Дополнение к опыту областного великорусского словаря. Издание второга отделения Им. Академии Наук. Санктпетербург, 1858, б. 244.

[83] Носсвич И. И. Словарь белорусского наречия. Санктпетербург, 1870, б. 585.

[84] Miklosich Franz. Etymologisches Wörterbuch der Slavische Sprache. Wien, 1886, б. 302. Vasmer Max. Russisches etymologisches Wörterbuch. Heidelberg. 1954, II, б. 645.

[85] Срезневский И. И. Материалы для словаря древне-русского языка по письменным памятникам, т. III. Санктпетербург, 1903, б. 380—381.

нем і значаньнем спрэжаныя падобнай блізкой сузалежнасьцяй як і беларускія ды славянскія к а р а - с к а р а, к о р а - с к о р а. Калісьці нейкае яснае дыфэрэнцыяцыі між к а р о ю, «скураю» дрэва, і с к а р о ю, скураю зьвера, наагул ня было. У некаторых славянскіх мовах яна нявыразная й цяпер.[86] З прыведзеных вышэй прыкладаў відаць, што старабеларускае, і славянскае наагул, с к а р а, с к о р а, старое вельмі слова й яно належыць яшчэ да агульнага праславянскага й, навет, індаэўрапейскага лексычнага фонду. У беларускай мове слова с к а р а было з часам выцісьненае словам с к у р а, якое цяпер ува ўсіх дыялектах народнае мовы й у мове літаратурнай. Засталося, аднак-жа, колькі ад яго словаў паходных, прыкладам: с к а р ý п а, с к а р л ý п а, ш к а р л ý п і н а, з а с к а р ý з л ы, і, згаданае ўжо вышэй, с к а р ы́ н а, с к а р ы́ н к а

У Скарынавую й даскарынавую пару, ад дагістарычных яшчэ часоў, багатыя зьвярыною прасторы лясное Беларусі, і, асабліва, паўночная яе Полаччына, былі важным асяродкам здабываньня, скупу, абробкі й гандлю зьвярынымі скурамі, аўчынкамі, ды адным з важных краёў іх экспарту на Захад Эўропы й Поўдзень. Скуры заўсёды былі адным з галоўных тавараў полацкіх купцоў. У прывілейнай грамаце 1498 году вялікага князя Аляксандра, якою месту Полацку надавалася «на вечныя часы» права майдэборскага самаўраду, было засьцярэжана, што «чужыя купцы» тавары «мають куповати ни в лесех, а ни в борах, а ни в селах, только на месте», значыцца толькі ў Полацку, і купляць павінны іх толькі гуртам, прыкладам: «. . . соболи, куницы и тхоры по сороку, белку, горностая, ласицу и нориц по полтретьяста . . .»[87]

Ведама, што доктар Францішак Скарына паходзіў з купецкага роду. Відавочна гандлем, найхутчэй якраз скурамі, «скарою», займаўся ў Полацку й ягоны бацька Лукаш і хіба ад яго занятак гэты пераняў у спадчыне й у шырокае, міжнароднага засягу, прадпрыемства разьвіў старшы брат доктара Францішка, Іван. Іван Скарына пераехаў з Полацку спачатку да сталічнае Вільні, дзе прыпісаўся мешчанінам, а пасьля падаўся ў Польшчу й у Пазнані заснаваў склад скураў для гуртовага гандлю й для далейшага экспарту на захад, у Нямеччыну. Калі Іван Скарына ў 1529 годзе ў Пазнані памёр, дык, праведзеным меставымі ўладамі вопісам, на ягоных складох было сьцьверджана 47.468 скураў рознае якасьці, вялічыні й цаны, з чаго 10 скураў рысіных, 258 вялікіх юхтовых, 500 меншых «чымчавых», і 46.700 «звычайных».[88]

Вышэй прыведзенае паказвае, што род Скарынаў, зь якога вышаў доктар Францішак, займаўся, і, хіба, здаўна, гандлем скурамі. Вось гэта наводзіць думку, што й прозьвішча полацкіх Скарынаў паходзіць не ад с к а р ы н á — скоры, хуткі, ані ад с к а р ы́ н а — скарынка, а найхутчэй ад старабеларускага с к а р á — скура, аўчынка. Як ад с к у р а сяньня маем с к у р ы н á, гэтак ад скара калісьці, відавочна, было й с к а р ы н á, слова, якое магло лёгка, як мянюшка, прыліпнуць да асобы, што мела дачыненьне із скурамі, а зь мянюшкі з часам стаць і радавым прозьвішчам.

---

[86] B r ü c k n e r Aleksander. Słownik etymologiczny języka polskiego. Warszawa, 1957, б. 495.

[87] Акты Западной России, т. I. Санктпетербург, 1846, б. 180.

[88] W o j c i e c h o w s k a M., тамсама, б. 473.

Факт рэгістрацыі прозьвішчаў Скарына, Скарыніч і падобных у старых актах на ўсёй тэрыторыі Беларусі таксама быццам сьветчыць аб тым, што зьяўленьне яго, гэта не паадзіночны выпадак, а адбітак нейкае паўсюднае зьявы, найхутчэй — папулярнага ў старадаўныя часы на землях Беларусі занятку зьвязанага із скарою — скураным промыслам, гандлем. Былі ў Полацку й падобныя іншыя прозьвішчы, яўна выводныя таксама ад скара, прозьвішчы, якія сьветчаць аб тым, што й іхнае зараджэньне зьвязанае з заняткам даўнейшых Палачанаў скурамі. Прыкладам, у 1601 годзе актавыя матар'ялы згадваюць сялян Скарага Архіп, Скаражыч Мікіта, а генэралам Полацкага ваяводзтва ў 1630 годзе быў Скарняка Мацьвей.[89] З вышэй прыведзеных фактаў вынікае, што прозьвішча доктара Скарыны вытокамі сваімі зьвязанае з старавечным і ад дагістарычных часоў для багатых зьвярыною земляў лясное Беларусі важным заняткам зьвязаным із скураю-скарою.

На ўвеце важна мець і тое, што прозьвішча ў Скарынавую пару яшчэ ня мела гэткага шырокага бытавога й абавязваючага прававога ўжытку, як цяпер. Навет у актавых запісах і дакумэнтах тады часта абыходзіліся й зусім бязь яго, а падавалі толькі імя дадзенае асобы, імя бацькі, і, калі трэба, месца паходжаньня. І Франьцішак Скарына ў актавых запісах на Захадзе Эўропы ня раз згадваецца толькі па імі, бяз прозьвішча, як, прыкладам, у 1504 годзе пры запісе на Кракаўскі ўнівэрсытэт, або, два гады пазьней, пры атрыманьні там ступені бакаляўра. Ня згадваецца зусім Скарынавае прозьвішча, а толькі імя й у панямецку ведзеным ліставаньні чэскае каралеўскае каморы з каралём Фэрдынандам I у гадох 1538—1539. Там ён называецца Maister Francisco.[90] Скарынаў-жа сын Сымон, як відаць гэта з адкрытага ліста караля Фэрдынанда I з 1552 году ды з запісу 1577 году чэскага храністы, прозьвішча Скарына наагул ня ўжываў, а прыняў сабе за прозьвішча мянюшку «Рус».[91]

У кнігах свайго выданьня сваё прозьвішча доктар Франьцішак Скарына падае ў два розныя спосабы: ці як Скорина, ці, часьцей, зь некаторым заакцэнтаваньнем таго, што прозьвішча гэтае перанятае ад бацькі — «я Франциwек Скоринин сын». Прозьвішча брата доктара Франьцішка, Івана, у полацкіх судовых актах 1535 году, падаецца ў крыху яшчэ іншай, але таксама адбацькавай, форме: Скорынинич.[92] З факту ўжываньня розных адменаў таго самага прозьвішча — Скарына, Скарынін сын, Скарыніч, — можна зрабіць вывад, што нейкая адна, юрыдычна полацкіх Скарынаў абавязваючая, форма гэтага прозьвішча на пачатку XVI стаг. яшчэ не ўсталявалася. Як вынікае з прыкладаў ужытку свайго прозьвішча ў выдадзеных Скарынам кнігах, скланяў ён яго ў гэткі спосаб: Скарына, Скарыны, Скарыне, Скарыну, Скарыною, Скарыне.[93]

---

[89] Археографический сборник, т. I. Вильно, 1867, б. 223, 224; X, 253.
[90] Köpl K., тамсама, б. 79, 80, 91, 92.
[91] Florovskij A. V., Nové zpravy... б. 227.
[92] Владимиров П. В., тамсама, б. 323—324. Таксама: Беларускі Архіў, т. 2, б. 263—264.
[93] Справа паходжаньня прозьвішча Скарыны шырэй разглядаецца гэтта першы раз. Раней — коратка й толькі ў зносках сваіх працаў — зьвярнулі ўвагу на гэтае пытаньне Владимиров П. В., тамсама, б. 263 і Флоровский А. В., Чешская библия... б. 187.

# ВЫСНАВЫ

> А запраўды я ня быў ні Юрым, ні Франьцішкам, — быў вольным і незалежным духам, толькі ў беларускай вопратцы. Шукайце-ж!
>
> *І. Абдзіраловіч, «Адвечным шляхам», 1921 г.*

З вышэй разгледжанага даводзіцца зрабіць наступныя высновы:

1. Ува ўсіх выдадзеных Скарынам кнігах і ведамых сяньня архіўных дакумэнтах і актавых датычных яго запісах, Скарынавае прозьвішча разам зь імем сустракаецца каля 200 разоў, і заўсёды зь імем *Франьцішак.* Толькі ў копіі аднаго дакумэнту, кракаўскае прывілейнае граматы караля Жыгімонта з 25 лістапада 1532 году, і толькі раз, перад Franciscii яшчэ ёсьць і Georgii.

2. Паколькі ад 1858 году, году першае публікацыі тэксту вышэй згаданай каралеўскай граматы, мінула звыш сто год і за гэты час ува ўсіх нававыяўленых актах аб доктару Скарыну, — а ведама іх цяпер больш трыццаці, — імя Georgius, *Юры,* больш ніразу не зьявілася, дзеля гэтага стае вельмі сумлеўным, ці імя *Юры,* побач імя *Франьцішак,* Скарына наагул меў, і, наадварот, выглядае правільным цьверджаньне 1925 году Г. Лаўмянскага аб тым, што ў Скарыны яго ня было, і што ў ваднэй адзінай копіі аднаго адзінага лацінскага дакумэнту зьявілася яно праз звычайную апіску перапісчыка дзеля пераблытаньня слова Egregii з Georgii.

3. Ужываньне прозьвішча Скарыны бязь ягонага запраўднага пэўнага імя *Франьцішак,* ды падстаўляньне заміж яго імя *Юры,* або, з расейскага, *Георгій,* ня мае пад сабою ніякога дакумэнтнага абгрунтаваньня. Падмена гэтая апошнімі дзесяцігодзьдзямі праводзіцца ў падсавецкім друку ня з увагі на навуковую праўду, а зь мяркаваньняў толькі палітычных, каб Беларуса-Скарыну зручней было выкіраваць у «общерусского» дзеяча, а ягоную культурна-духовую спадчыну зьвязаць з Масквой і яе вялікадзяржаўнымі канцэпцыямі.

4. Ведамае пэўнае бясспрэчнае ў Скарыны толькі адно імя — *Франьцішак.* Дзеля гэтага што гэтае й толькі гэтае імя ўжываў заўсёды сам Скарына, дык гэтым імем і трэба доктара Скарыну называць. Імя *Юры — Georgius,* — паколькі існаваньне яго ў Скарыны з кажным годам стае ўсё больш і больш сумлеўным, не павінна ўжывацца без агаворкі, што яно ня пэўнае. Ніколі-ж не павінна ўжывацца прозьвішча доктара Скарыны толькі з адным імем *Юры,* бо гэта яўна пярэчыць і фактам, і волі самога Скарыны, выказанай у кнігах яго выданьня, дзе толькі *Франьцішак.*

5. Прозьвішча *Скарына* яўна паходзіць із старабеларускага *скара* — скура. Паказвае яно на стары радавы занятак Скарынаў ці то гандлем скурамі й аўчынкамі, ці прамысловаю іх апрацоўкай. Дык у прозьвішчы доктара Скарыны адбітак таго багацьця зьвярынаю й скурамі, якім слыла калісьці старавечная Полаччына.

## ПАПРАЎКА ПАМЫЛАК ДРУКУ

У працы Сымона Брагі «Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу Доктара Скарыны», ЗАПІСЫ, кн. 3, 1964 г., трэба паправіць гэткія карэктарскія памылкі:

| *Бачына* | *Радок* | *Заміж* | *Трэба* |
|---|---|---|---|
| 11 | 16 зьнізу | XVIII стагодзьдзя | XIX стагодзьдзя |
| 17 | 6 згары | ў 1553 годзе | ў 1552 годзе |
| 18 | 21 згары | Альбэрту Крычку | Адальбэрту Крыску |
| 24 | 3 згары | у XVIII стагодзьдзі | у XIX стагодзьдзі |
| 26 | 7 зьнізу | 272 бачыны | 274 бачыны |
| 27 | 6 згары | 6 лістапада | 6 кастрычніка |
| 27 | між радкамі 6 і 7 | Уставіць тэкст радка, што выпаў пры друку: «хаду 12 студзеня 1518 году; Першае й Чацьвертае Кнігі Царстваў, дата вы-» | |
| 27 | 8 зьнізу | 4 сьнежня | 15 сьнежня |
| 32 | 11 згары | нелажная | належная |

## *МАТАР'ЯЛЫ*

# Да Першага Ўсебеларускага Зьезду 1917г.

**Дакумэнты й матар'ялы**

Я. Запруднік

У сьнежні 1967 году споўніцца 50 год ад вялікае падзеі ў гісторыі Беларусі — Першага Ўсебеларускага Зьезду (Кангрэсу). Угодкі гэтае падзеі будуць адзначацца вольным беларускім грамадзтвам у розных формах: у чытаньні дакладаў, рэфэратаў, публікаваньні навуковых і публіцыстычных артыкулаў. Для тых, хто пажадае распрацаваць гэтую тэму грунтоўней, дапамогай будуць апублікаваныя ў трох кнігах «Запісаў» дакумэнты да гісторыі Першага Ўсебеларускага Зьезду.*

У гэтай кнізе «Запісаў» зьмяшчаецца трэйцяя падборка гэтых матар'ялаў. Зьбіраныя яны з розных выданьняў, часта мала даступных, і публікаваліся ў меру таго, як траплялі ў рукі. У кажнай кнізе «Запісаў» яны зьмешчаныя ў храналягічным парадку.

У Савецкай Беларусі дакумэнтальным разглядам тэмы Ўсебеларускага Зьезду ніхто не займаецца (хоць-бы ў такой ступені, як гэта рабілася ў БССР у сярэдзіне дваццатых гадоў): сьцень сталінаўскага табу ўсё яшчэ вісіць над гэтым пытаньнем. Адна з дадатковых перашкодаў беларускім савецкім гісторыкам — тое, што дасюль яшчэ яны ня маюць свайго гістарычнага часапісу (акалічнасьць, што тармозіць наагул разьвіцьцё гістарычнае навукі ў Беларусі).

Тэмай Усебеларускага Кангрэсу не парастае тымчасам цікавіцца савецкая публіцыстыка, як звычайна, выхапляючы з кантэксту паасобныя выказваньні пра Кангрэс, тэндэнцыйна насьвятляючы (або прамоўчваючы) гістарычныя факты. За прыклад гэткага трактаваньня тэмы можа быць артыкул С. Пачаніна «На службе у интервентов», апублікаваны ў 1966 годзе ў расейскамоўным часапісе «Неман», што выдаецца пры Саюзе пісь-

---

* Іншыя матар'ялы й дакумэнты да гэтага пытаньня гл. ў «Запісах» кн. 2 (1963), бб. 181—204 і кн. 3 (1964), бб. 131—176.

меньнікаў БССР.** У артыкуле апісваюцца падзеі на Беларусі ад другое палавіны 1917 году да канца 1918-га, калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі пакінула Менск.

«Асабліва зацяты супраціў, — піша Пачанін, — выявілі буржуазныя нацыяналістыя. Іхныя арганізацыі былі цэнтрам усіх найбольш ашалелых контррэвалюцыйных элемэнтаў. Задзіночаным органам беларускіх буржуазных нацыяналістычных арганізацыяў сталася ‚Беларуская Рада', створаная заміж так званага ‚Беларускага Нацыянальнага Камітэту' ў чырвені 1917 году ў Менску на зьезьдзе нацыяналістых» (б. 143).

І далей апісваецца гісторыя навыварат скліканьня Ўсебеларускага Зьезду, выданьня трох устаўных граматаў ды абвешчаньня незалежнасьці Беларусі; гісторыя збройных і дыпляматычных канфліктаў вакол Беларускае Народнае Рэспублікі. Пасьля ўсіх апісаньняў Пачанін канчае свой артыкул раптам на цьверджаньні:

«Першы зьезд Камуністычнае партыі (бальшавікоў) Беларусі 30 сьнежня 1918 году прыняў гістарычную пастанову, што паклала пачатак першаму пэрыяду ў разьвіцьці Беларусі, пэрыяду нараджэньня й разьвіцьця ейнае нацыянальнае дзяржаўнасьці».

Пачанінаў артыкул асабліва зырка ілюструе й падмацоўвае адно з асноўных палажэньняў беларускае вольнае гістарыяграфіі. А гэта тое, што ідэя нацыянальнае свабоды беларускага народу, ідэя беларускае дзяржаўнасьці, уцелаўлёная праз Першы Ўсебеларускі Кангрэс у Беларускай Народнай Рэспубліцы, храналягічна йшла паперадзе ідэі беларускае савецкае дзяржаўнасьці.

Ленін і Камуністычная партыя беларускім пытаньнем не займаліся датуль, пакуль іх ня змусіла да гэтага канечнасьць — патрэба змагацца зь беларускай нацыянальнай рэвалюцыяй. *«Беларускае пытаньне з тае прычыны, што бальшавікі не ўзялі на яго патрэбнае ўвагі, прычыніла нам пэўныя няпрыемнасьці»* — далікатна прызнаваўся яшчэ ў 1925 годзе адзін з галоўных бальшавіцкіх дзеячоў на Беларусі Вільгэльм Кнорын у сваёй кнізе «1917 год в Белоруссии и на Западаном фронте» (Минск, 1925).

Бальшавіцкае зацікаўленьне беларускім пытаньнем, такім парадкам, не станавіла нейкай пазытыўнай праграмы з думкай пра дабро беларускага народу, а было вымушанай *рэакцыяй* на нацыянальна-вызвольны рух. БССР-жа сталася ўвасабленьнем перахопленай і пагвалчанай ідэі беларускае нацыянальнае дзяржаўнасьці. Ігнараваць, аднак, беларускае пытаньне зусім, як гэта бальшавіцкая партыя рабіла працягам усяе свае дакастрычніцкае гісторыі, пасьля Ўсебеларускага Кангрэсу ўжо было немагчыма. У гэтым — гістарычная роля Першага Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 году.

---

** С. Почанин. На службе у интервентов. «Неман» (Минск) № 4, 1966, бб. 142—152.

*1917, сьнежня 19. — Пастанова Саўнаркому Заходняе Вобласьці й фронту пра скасаваньне загаду Выканальнага Камітэту Беларускае Вайсковае Рады.**

19 декабря 1917 г.

Исполнительный комитет Белорусской Войсковой Рады на заседании своем 16 декабря с. г. вынес следующее постановление:

«Исполнительный комитет Центральной Белорусской Войсковой Рады доводит до вашего сведения, что для надобностей Всебелорусского с'езда и выделяемых им учреждений занято все здание губернского присутствия Просим при распределении помещений в городе никому не выдавать ордеров на помещение в этом доме. Типография об'является национальной собственностью».

Ознакомившись с содержанием означенного постановления, Совет Народных Комиссаров Западной обл. и фронта постановил означенное постановление отменить, т. к. Белорусская Войсковая Рада не является органом Советской власти, правомочным выносить подобного рода постановления. Об'явить, что все дома, имущество, угодья бывших казенных и правительственных учреждений, со всем живым и мертвым инвентарем в Западной обл. и на фронте являются общенациональной собственностью, которая находится в полном распоряжении и исключительном ведении Совета Народных Комиссаров Западной обл. и фронта. Никакие самочинные захваты этого имущества и недвижимостей не могут быть допущены и будут караться со всей строгостью военно-революционного закона.

Совет Народных Комиссаров Западной обл. и фронта. Минск.

Газэта *«Советская правда» № 17, 21. XII. 1917;* паводля зб. *«Великая Октябрьская Социалистическая Революция в Белоруссии».* Государственное изд. БССР, Минск, 1918, т. 2, б. 599.

---

* Беларуская Вайсковая Рада паўстала ў выніку І-га Беларускага Вайсковага Зьезду, што адбыўся ў Менску 3—5 лістапада 1917 г., з мэтай стварэньня беларускага нацыянальнага войска.

*З кнігі: Е. С. Канчер. Белорусский вопрос. Петроград, 1919, бб. 50—53.*

*Подготовка к об'явлению Белорусской Республики*

Октябрьский переворот и декрет Правительства Народных Комиссаров по национальному вопросу дали возможность деятелям белорусского движения поставить национальный вопрос в Белоруссии на широкую основу. Полонофилы решили использовать момент, чтобы об'явить независимую Белорусскую Республику, а в случае необходимости — заключить унию с возрождающейся Польшей. Не исключена была возможность вступить в союз с Украиной и даже образовать тройственный юго-славянский союз:

Украины, Польши и Белоруссии. Для осуществления независимой Белорусской Республики Великая Белорусская Рада решила созвать на 5 декабря в Минске сессию Рады и пригласить представителей фронта. Задуманное большой важности политическое мероприятие рассчитывало на успех, так как к этому времени уже состоялись с'езды воинов-белоруссов Северного, Западного, Юго-Западного и Румынского фронтов, а также состоялись конференции воинов-белоруссов петроградского гарнизона. На всех этих с'ездах и совещаниях была проведена широкая агитация и выкристаллизованы персональные элементы, разделявшие ту точку зрения, которая предполагает осуществить самостоятельность Белоруссии. Эти идеи были проведены среди солдатских масс, которые должны были с'ехаться 5 декабря в Минск. К этому моменту в гор. Минске был сформирован Белорусский полк и с фронта предлагалось вызвать белорусские части с артиллерией и пулеметами.

*Борьба за неотделимость Белоруссии от России*

В виду того, что белорусское народно-национальное движение захватило солдатские, а местами и крестьянские массы, в виду грозного положения, в котором очутилась Белоруссия вследствие оккупации целого ряда ее областей немцами, наконец, вследствие притязаний на нее польских империалистов и даже литовцев и отчасти украинцев, в виду того, что и германские завоеватели готовы аннексировать белорусские леса (Беловежская Пуща) и торфяники, няходящиеся в Петрограде при всероссийском Совете Крестьянских Депутатов представители белорусского крестьянства и солдат решили инициативу белорусского движения взять в свои руки и придать ему социалистическо-революционный характер. Для этого Белорусским Областным Комитетом при В.С.К.Д. был назначен на 15 декабря 1917 г. в гор. Минске I-й Всебелорусский С'езд, на который с'ехалось до 1.800 представителей с мест, в своем подавляющем большинстве солдаты, крестьяне и рабочие. Перед открытием С'езда Белорусский Областной Комитет выдержал ожесточенную борьбу с «радистами» и, действительно, добился того, что значительное большинство С'езда, в том числе все крестьянство, пошло за Областным Комитетом.

Провозглашенная на С'езде «радистами» через посредство г.г. Гриба, Дулина и других независимая Белорусская Республика была щумно встречена солдатами и враждебно — крестьянами. Но и это недоразумение было улажено, так как Областному Комитету удалось доказать несостоятельность идеи самостоятельной Белорусской Республики и провести резолюцию о временном, до Учредительного Собрания, устройстве Белоруссии на основах Советской Республики, входящей в состав Российской федерации.

*Совет Комиссаров Западной Области и разгон С'езда*

К сожалению, деятельность Белорусского Областного Комитета была парализована разгоном С'езда, последовавшим 17 декабря 1917 года со стороны Комиссаров Западной Области. Образование Совета Комиссаров Запад-

ной Области произошло революционным путем в ноябре 1917 г. в городе Минске на фронтовом с'езде, при этом ни белорусские воинские части, ни белорусские советы крестьянских и рабочих депутатов не участвовали в выборах этих Комиссаров. В состав Совета Комиссаров входил только один белорус, тогда как большинство принадлежало к другим национальностям (5 евреев, 3 поляка, 1 литовец, 1 латыш). Естественно, что деятельность Совета Комиссаров Западной Области часто не соответствовала интересам местных нужд и польз и вызывала резкую критику со стороны белорусской демократии. Тем не менее состоявшийся 15 декабря 1-й Всебелорусский С'езд не имел намерения низвергать Совет Народных Комиссаров Западной Области, так как существование этого Совета считалось временным и власть его понималась ограниченной Западным фронтом. Между тем, перед С'ездом стояла задача более широкая — об'единение всей Белоруссии и выявление всех ее революционно-творческих сил. Разгон С'езда сопровождался грубыми эксцессами, он сыграл роковую роль для всего последующего белорусского движения.

### *Работа в подполье*

Чтобы оправдать свой поступок, Комиссары Западной Области устами г. Ландера в полномочных органах Российской Советской Федеративной Республики стали неправильно освещать состав и работу С'езда и проявлять суровость к белорусскому движению, даже часто революционному, социалистическому. В результате почти все организации в крае перешли на нелегальное положение, т.-е. из поля зрения ускользнули не только вредные, контр-революционные силы, но и здоровые ростки.

После розгона С'езда остался на нелегальном положении Совет С'езда, который, получив от С'езда инструкцию, стал вести организационную работу и подготовлять массы к новым выступлениям.

Обращаю сугубое внимание на этот Совет С'езда. В него входят представители от землячеств и фракций социалистических партий, участвовавших на I Всебелорусском С'езде, всего 57 человек. Но все эти представители после розгона С'езда раз'ехались по местам своей службы и деятельности, а в Минске остался Исполнительный Комитет в лице той небольшой группы национал-шовинистов, которые никогда не признавали широты революционного народно-национального белорусского движения. Среди них первую роль играет Воронко, молодой человек, полный пафоса и страсти, но не имеющий государственных навыков и широких взглядов на историю борьбы народов и классов. Эта группа стала использовать свое положение и узурпировать народную власть. В своей деятельности она решила не останавливаться ни перед чем, лиш бы добиться своего.

Вообще же, разгон I-го Всебелорусского С'езда создал такое положение, при котором открылось широкое поле для работы темных людей и закрыта возможность работы для искренних и честных политических деятелей на белорусской ниве.

Е. С. Канчер. *Белорусский вопрос.* Петроград, 1919, бб. 50–53.

*З кнігі: Е. С. Канчер. Б е л о р у с с к и й   в о п р о с. Петроград, 1919, бб. 67—74.*

## І-Й ВСЕБЕЛОРУССКИЙ С'ЕЗД И ПРОВОЗГЛАШЕННЫЕ ИМ ИДЕИ

І-й Всебелорусский С'езд был созван 15 декабря 1917 г., в г. Минске, Белорусским Областным Комитетом при Всероссийком Совете Крестьянских Депутатов.*

На С'езде участвовало 1915 человек, из них с решающим голосом 1175 человек. В числе лиц с решающим голосом были: представители губернских, уездных и волостных земств, губернских и уездных самоуправлений, губернских и уездных земельных комитетов, губернских организаций почтово-телеграфных служащих, дорожных комитетов, губернских комитетов, губернских и уездных учительских организаций, союза земских служащих, Белорусских беженских организаций, Белорусских национальных организаций (по 1 на губ.), воинов армии, флота и тыла (по 1 на 5.000 человек белоруссов), советов рабочих и солдатских депутатов (по 1 на уезд), а также члены исполнительных органов Белорусского Областного Комитета при В.С.КД., Великой Белорусской Рады в Минске, Центральной Белорусской Войсковой Рады в Минске и Исполнительного Бюро С'езда белоруссов в Москве. С совещательным голосом были допущены представители партий, в том числе и национальных: еврейских, польских, литовских и т. д.

Таким образом состав С'езда представлял собою замечательное явление. В нем доминировали представители демократических *деловых, государственных* учреждений. Создатели С'езда, при своем построении плана государственного устройства Белоруссии, имели в виду опереться на такой элемент, который бы сразу приступил к выполнению программы, — как на элемент с сознанием, опытом и положительной устойчивостью.

Постановления І-го С'езда касаются общественного, государственного, хозяйственного и экономического устройства Белоруссии. Намечая этот план, І-й С'езд окончательное решение по этим вопросам имел в виду передать 2-му С'езду и Белорусскому Учредительному Собранию. Последним в близком времени не суждено было родиться.

### *Права граждан и народов*

Сословия, чины и всякого рода гражданские и общественные отличия и преимущества в Белоруссии, по мысли І-го С'езда, раз навсегда уничтожаются. Все люди равны перед законом, а закон устанавливает равенство людей между собою, их одинаковое право на труд и пользование результатами своего труда.

За каждым гражданином Белоруссии, достигшим известного возраста, неопороченным по суду, имеющим здравый разум, независимо от его на-

* І-й с'езд не закончил своих работ, т. к. в ночь с 17 на 18 декабря был распущен вооруженными силами по распоряжению «Коммиссаров Западной Области».

циональности, вероисповедания и пола, признается его право на участие в общественных и государственных делах. Народ осуществляет свое право через посредство временных и постоянных учреждений, в которые избираются народные представители путем всеобщего, прямого, равного и тайного голосования. Верховная власть в Белоруссии принадлежит народу в лице его исполнительного органа — в данном случае, в лице Временного Белорусского Совета Крестьянских, Рабочих и Солдатских депутатов.

Все национальности в Белоруссии равны и имеют право на национально-персональную автономию.

*Государственное устройство Белоруссии*

Опасаясь монархической реставрации в Белоруссии, I-й Всебелорусский С'езд считал необходимым подчеркнуть, что в Белоруссии отныне утверждается «демократический республиканский строй». Это еще не означало, что I-й С'езд об'являет Белорусскую Республику. Речь шла о закреплении, об утверждении того демократического республиканского строя, который существовал в то время в России и Белоруссии. Это значит, что, если бы в Великоруссии через некоторое время произошел монархический переворот, или существующая Центральная власть в России, вздумала декларировать вместо демократической республики социалистическую, то чтобы во всех этих случаях было принято во внимание мнение белорусского народа, который 17 декабря 1917 года закрепил за Белорусской землей именно «демократический», а не какой-либо другой государственный строй (рез. § 1).

I-й Всебелорусский С'езд предвидел возможность «раздела и отторжения от Российской Демократической Федеративной Республики», родного края — Белоруссии, поэтому подчеркнул *о своем праве* на самоопределение (рез. § 1). Самоопределение Белоруссии понималось, как мера временная, существующая до созыва Белорусского Учредительного Собрания. Последнее могло установить те или иные формы республиканского строя, образовать самостоятельную Белорусскую Республику, могло связать судьбу Белоруссии с Великоруссией, Польшей, Украиной и т. д. Вообще, ему должно было принадлежать последнее слово. Свое право на самоопределение I-й С'езд закрепил в виде создания временной, до созыва Белорусского Учредительного Собрания, власти — Белорусского Совета из представителей I-го С'езда, или, как он был назван, «Белорусского Совета Крестьянских, Рабочих и Солдатских Депутатов». Совет должен был находиться в деловых отношениях с Центральной Российской властью и разделять с нею одну всероссийскую заботу по укреплению федеративного строя. Создатели I-го С'езда не боялись Учредительного Собрания, так как всеобщее, прямое, равное и тайное голосование в Белоруссии должно утвердить *торжество белорусского крестьянства.* Создатели I-го С'езда ни на минуту не забывали, что Белоруссия — страна крестьянства и потому крестьянству должна принадлежать первенствующая роль в управлении краем, в развитии и устройстве хозяйственной, экономической и культурной жизни Белоруссии.

Белорусскую власть предполагалось распределить между Старшинами, которые составляют Совет Старшин. Из отдельных старшинств намечались:

1) земледелия и лесоводства, 2) военных дел, 3) национальных дел и вероисповеданий, 4) внутренних дел (администрация, санитария, земство, опека), 5) просвещения, 6) финансов, торговли, промышленности, 7) суда, 8) продовльствия и труда, 9) сношения (дороги, почта, телеграф), 10) народного контроля. Во главе Совета Старшин стоит Председатель Совета или Перший Старшина.

### *Председательство*

Признав территориальную и национальную автономию Белоруссии, I-й С'езд постановил вступить в деловые сношения с другими республиками Российской Федерации (рез. § 8). Для этой цели Белорусский Народный Совет должен был, с целью защиты интересов Белоруссии, делегировать своих представителей в Россию, в Совет Народных Комиссариатов, в Украину и так далее. В то же время Белоруссия должна была принять делегатов других Российских Республик. Белорусскому Народному Совету должно было принадлежать право защиты интересов Белоруссии при заключении мира (рез. § 8). Во всех своих шагах делегаты Белоруссии должны опираться на волю I-го Всебелорусского С'езда и отстаивать неделимость Белоруссии и неотторжимость ее от России (рез. § 8).

### *Местное самоуправление*

С'езд стоял на позиции права и справедливости и отстаивал всеобщее, прямое, равное и тайное избирательное право во всех областях хозяйственной, экономической и культурной жизни. Белорусский Народный Совет должен был обеспечить «правильную и плодотворную работу местных демократических органов земского и городского самоуправления» (рез. § 13).

### *Войска и народная охрана*

В декабре 1917 г. Белоруссия находилась в смертельной опасноти, которая надвигалась со стороны поляков и немцев. Одни стремились захватить край на правах прежних «владельцев», а другие пытались его оккупировать, чтобы окончательно закрепить за собою фронт и влияние на востоке. Поэтому I-й С'езд высказал твердое намерение о создании белорусских национальных войск для охраны белорусской территории от контрреволюции и, особенно, от внешних врагов «империалистов» — поляков и немцев. Содержание армии должна была взять на себя Российская Федерация. Это положение вытекало из того, что Белорусская армия, охраняя Белорусскую территорию, в то же время охраняла бы Россию, по крайней мере, ее западную границу.

*Финансы*

I-й С'езд предусматривал в России такую финансовую систему, при которой Белоруссия, как автономное государство, должна была иметь свою роспись приходов и расходов, но пользоваться общегосударственными денежными знаками. Российский Федеративный Союз должен был явиться регулятором справедливого распределения средств между отдельными республиками, согласно требованиям их росписей. Если исключить такое регулирование со стороны Федеративного Союза, то может произойти огромная пестрота в доходах и, следовательно, в развитии жизни отдельных республик, входящих в состав Российского Федеративного Союза. Уже заранее можно предвидеть, что, в то время, как Украинская и Донская республики имели бы чрезвычайно богатые доходы (хлеб, уголь, сахар), Белорусская республика, наоборот, имела бы доход чрезвычайно скудный (лесоводство) и поэтому не могла бы обойтись без дополнительных ассигнований со стороны Союзного — общегосударственного казначейства.

*Земельный вопрос*

В земельном вопросе I-й С'езд стал на точку зрения конфискации нетрудового хозяйства — земли, живого и мертвого инвентаря, без выкупа, с передачей в руки трудящихся через посредство земельных комитетов (рез. § 9). С'езд не успел рассмотреть тезисы по аграрному вопросу Е. С. Канчера, поэтому трудно сказать, какая форма землевладения и землепользования была бы принята для Белоруссии. Имелось много сторонников социализации (общественное владение) и уравнительных переделов (общинное землепользование). Но гораздо больше высказывалось за национализацию (государственное землевладение) и отрубно-хуторское землепользование, что вполне отвечает навыкам подворного землевладения, существует в Белоруссии со времени Великой Реформы (1862 г.) и усвоена местным населением.

*Лесной вопрос*

Лесное дело в Белоруссии представляет обширную отрасль промышленности. Поэтому I-й С'езд постановил принять меры к немедленному приостановлению расхищения леса. Лесные площади постановлено национализировать и лесное хозяйство регулировать через земские самоуправления в интересах трудового народа (рез. § 10).

*Рабочий вопрос*

Класс пролетариата в Белоруссии немногочисленен, так как и сама промышленность в крае развита слабо. Тем не менее, С'езд стал на точку зрения защиты интересов труда от эксплоатации капитала, так как полагал, что в автономном Белорусском государстве личность труженика должна

быть поставлена на первое место. С этою целью проектировалось ввести 8-часовый рабочий день на фабриках и заводах и 8-часовый — в сельском хозяйстве, всеобщее страхование рабочих от безработицы и несчастных случаев, рабочий контроль и обеспечить свободу стачек, союзов и культурно-просветительной деятельности.

### *Добывающая, обрабатывающая, торговая и финансовая промышленность*

І-й С'езд не мог не обратить внимания на то, что Белоруссия являлась долгое время чертой еврейской оседлости. Это создало ненормальные условия обмена, производства и потребления. Чтобы устранить эти условия, С'езд высказался за немедленное введение народного контроля над производством и торговлей (рез. § 12). Контроль мог бы быть осуществлен через посредство государственной и народной инспекции и, особенно, через посредство демократических организаций — рабочих союзов, рабочих камер, потребительных обществ, кредитных и ссудо-сберегательных товариществ, сельско-хозяйственных товариществ по закупкам и сбыту и т. д.

С'езд отметил слабые производительные силы края, — отсталость не одного сельского хозяйства, но также добывающей и обрабатывающей промышленности. Особенно нуждается край в осушении болот, в облесении песков, в развитии добычи торфа, извести, железа, красок. Поэтому С'езд высказался за создание условий развития народно-хозяйственной самодеятельности и государственных мероприятий за счет государственных средств.

### *Народное просвещение*

Комиссия по народному образованию С'езда высказалась за всеобщее бесплатное обучение, как залог народной культуры. Государственный язык — русский, но он постепенно заменяется белорусским в согласии с требованием самого народа. Школа должна быть единая, основанная на трудовых принципах. Особенно должно быть расширено техническое образование. Край не имеет своего высшего учебного заведения, между тем, как без него не представляется возможным создать кадр научных и практических работников и положить основание белорусской науки. Поэтому комиссия высказалась за немедленное открытие Белорусского университета, сельскохозяйственного института и политехникума.

### *Правосудие*

Так как в Белоруссии уничтожаются сословия и всякого рода гражданские о общественные отличия и преимущества, то отсюда вытекает необходимость в создании единого справедливого народного суда и правозаступничества. Нисшей единицей является общественный или мировой суд, основанный на началах выборности и коллегиальности.

*Призрение и здравоохранение*

I-й С'езд стал на точку зрения создания условий широкого воспомоществования сиротам, калекам, старикам, хроническим больным, обедневшим и т. п. несчастным гражданам. Одним же из основных условий этого воспомоществования является осуществление, прежде всего, нормальных и здоровых условий жизни и особенно — развитие чувства гуманности, братской помощи и самодеятельности.

## ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ СОВЕТА I-ГО ВСЕБЕЛОРУССКОГО С'ЕЗДА И ПРОВОЗГЛАШЕННЫЕ ИМ ИДЕИ

Оставшийся после разгона С'езда (с 17 на 18 декабря 1917 г.) в Минске Совет Старейшин, чтобы не оборвать нить белорусского национально-революционного движения, об'явил себя «Советом С'езда» — наследником суверенной власти белорусского народа. Постановление об этом сводится к следующему:

«Обсудив вопрос о положении I-го Всебелорусского С'езда и Совета С'езда, Совет на закрытом своем заседании 18 декабря 1917 года постановил:

1) Считать I-й Всебелорусский С'езд насильственно разогнанным;

2) Совет С'езда признать исполнительным органом С'езда, на обязанности которого лежит проведение в жизнь всех решений и постановлений С'езда;

3) Пополнить Совет С'езда делегатами от землячеств и других групп, делегировавших своих представителей со С'езда в Совет, и предоставить право отвода, отзыва и кооптации;

4) Областной Комитет при Всероссийском Совете Крестьянских депутатов, Московская Исполнительная Комиссия, Великая Белорусская Рада, Временное краевое бюро и т. п. организации немедленно прекращают свое существование и предают все свои дела и принадлежащее им имущество в распоряжение Совета;

5) Центральная Войсковая Рада существует, как подчиненный орган Совету С'езда;

6) 2-й Всебелорусский С'езд созывается в самый кратчайший срок;

7) В целях увеличения авторитетности Совета и преемственности работ президиумом Совета должен быть президиум С'езда, пополненный одним товарищем председателя и двумя секретарями».

18 и 19 декабря большинство членов С'езда раз'ехалось. Осталась лишь минская группа белорусской интеллигенции, — представители партий Белорусской Социалистической Громады и Белорусской партии Народных Социалистов: Смолич, Воронко, Прушинский, Гриб, Бодунова, Середа, Макреев, Заяц, Мамонько и др. — почти все назалежники или западники. Эта груп-

па фактически явилась «преемником» власти. До ухода из Минска «Исполнительного Комитета Западной Области» и его «Комиссаров Западной Области» И. К. Совета С'езда находился на нелегальном положении. Он не раз пытался завязать сношение с Центральной Российской властью — Советом Народных Комиссаров, но, встретив нелюбезный прием, отказался от посылки своих постоянных представителей в Петроград и стал ждать более благоприятного момента.

Таким образом, и после разгона I-го Всебелорусского С'езда, с 17 декабря 1917 года по 18 февраля 1918 года, т.-е. в течение 2-х месяцев власть в г. Минске оставалась по-прежнему в руках «Совета Комиссаров Западной Области». В провинции Белоруссии в губернских городах (не во всех) власть находилась в руках революционных комитетов Советов Рабочих и Солдатских депутатов, а в селах и почти во всех уездных городах власть находилась в руках Советов Крестьянских Депутатов, не признававших «Комиссаров Западной Области» и «Народных Комиссаров в Петрограде».

Е. С. Канчер. *Белорусский вопрос.* Петроград 1919, бб. 67–74.

*З артыкулу: У. Ігнатоўскі, «Вялікі Кастрычнік на Беларусі», зборнік Беларусь. Менск (Выд. Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР), 1924, бб. 198—200.*

## ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС (14. XII. 1917—25. II. 1918) І ЯГО РАДА

Найраней пачынаюць думаць аб Кангрэсе менскія беларускія арганізацыі: Вялікая Беларуская Рада, Цэнтральная Вайсковая Беларуская Рада і Беларускі Выканаўчы Камітэт заходняга фронту. У сярэдзіне лістапада ад імя гэтых арганізацыяў выпускаецца адозва «да ўсяго народу беларускага». Адозва лічыць неабходным адразу зрабіць згоду зь Нямеччынай, аб'яднаць Беларусь, парэзаную фронтам, пабудаваць яе, як дэмакратычную рэспубліку, злучаную зь Вялікарусьсю і іншымі суседнімі рэспублікамі даўнейшай Расіі на аснове фэдэрацыі, бяз выкупу перадаць працоўнаму народу ўсе панскія, царкоўныя, касьцельныя, скарбовыя, удзельныя й інш. землі, безадкладу распачаць фармаваньне нацыянальнага беларускага войска. Каб пачаць праводзіць у жыцьцё гэтыя пункты праграмы, прапануецца склікаць на 5-га сьнежня 1917 году зьезд прадстаўнікоў усяго беларускага народу ў Менску.

17 лістапада выпускаецца дэклярацыя Беларускага Абласнога Камітэту пры Ўсерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе. Дэклярацыя вызначае, што, дзякуючы эканамічнаму разбурэньню, барацьбе клясаў, партыяў і нацыянальнасьцяў, магутнасьць Расійскага гаспадарства пахіснулася; паратунак гаспадарства — у сьцїслым зьвязку нацыянальнасьцяў, складаючых яго. Беларусі пагражае падзел, бо яна парэзана фронтам на дзьве часьці. Трэба сабрацца ўсім Беларусам навакола ідэі ўтварэньня аўтаномна-вольнай Беларусі, як часткі Расійскай Рэспублікі. Для гэтай мэты, каб абараніць цэласьць Беларусі, Камітэт бярэ на сябе пачын склі-

каньня Надзвычайнага Беларускага Зьезду. Па праекту Камітэту зьезд павінен быць скліканы не 5-га, а 15-га сьнежня, ня ў Менску, а ў Рагачове, дзе яго працы ня будуць перашкаджаць менскія беларускія арганізацыі і Савет Народных Камісараў Заходняй вобласьці.

Пасьля нядоўгай вострай барацьбы паміж Радай і Камітэтам была ўстаноўлена згода. Яны абяцаліся падтрымліваць адзін аднаго і разам клапаціцца аб арганізацыі Кангрэсу, які павінен быў, па іх думцы, выявіць дэмакратычную пляцформу.

Падгатоўкай да зьезду зацікавілася Беларуская Сац.-Дэм. Раб. партыя бальшавікоў, якая вырасла ў Петраградзе зь левага крыла Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Пачалася, такім спосабам, рэзкая дыфэрэнцыяцыя беларускага руху. У той час, як адна старана руху прыймае яўна выразны «белы» напрамак, другая старана кіруецца ў бок Камуністычнай партыі і Савецкай улады. Беларускія бальшавікі намерыліся скарыстаць Усебеларускі Кангрэс для пакіраваньня рабоча-сялянскай яго часткі ў бок сацыяльнай рэвалюцыі, каторая адна толькі можа выявіць як сацыяльнае, так і нацыянальнае пытаньне. Цэнтральны Камітэт партыі бальшавікоў згадзіўся на паездку зь Петраграду ў Менск дзесяцёх членаў беларускай бальшавіцкай арганізацыі. Ім было дадзена заданьне пакіраваць зьезд у бок рэвалюцыі і ўтварыць на ім, у згодзе з камуністымі Абліскомзапу краёвую Савецкую ўладу на Беларусі. Сябры Петраградзкай арганізацыі на зьезд спазьніліся і такім спосабам не змаглі зрабіць уплыву на работу зьезду, якая пайшла па няправідловаму шляху, без кіраўніцтва з боку партыі бальшавікоў.

Усебеларускі Кангрэс адчыніўся ў Менску 14 сьнежня 1917 г., з дазволу цэнтральнага Савецкага ўраду і пры яго матар'яльнай дапамозе (50 тысяч рублёў). Усяго сабралася 1.872 дэлегаты зь якіх 1.167 былі з рашаючым голасам. Вайсковых дэлегатаў было 716. Тут былі прадстаўлены ўсе беларускія губэрні — Менская, Магілеўская, Віцебская, Смаленская, нават Віленская і Горадзенская, занятыя Немцамі. Апошнія дзьве губэрні былі прадстаўлены бежанскімі арганізацыямі. У большасьці сваёй Кангрэс быў сялянскі, хоць было тут і шмат рабочых, прадстаўнікоў каапэрацыі, гарадоў, сацыялістычных партыяў і г. д. Першы пункт рэзалюцыі, прынятай зьездам, гаворыць так: «Замацоўваючы свае правы на самавызначэньне, абвешчанае расійскай рэвалюцыяй, і прыймаючы рэспубліканскі дэмакратычны строй на абшары Беларускай зямлі, для паратунку роднага краю і для забесьпячэньня яго ад разьдзелу і адлучэньня ад Расійскай Дэмакратычнай Фэдэрацыйнай Рэспублікі першы Ўсебеларускі Зьезд ухваляе: безадкладна ўтварыць са свайго складу орган краёвай улады ў васобе Ўсебеларускага Савету сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіраваньня краем, уступаючы ў дзелавыя зносіны з цэнтральнаю ўладаю, адпавядальнай перад Саветам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў».

Як мы бачым з гэтага асноўнага пункту агульнай рэзалюцыі, Усебеларускі Кангрэс, ня маючы кіраўніцтва з боку камуністычнай партыі, не знайшоў правідловага шляху, і стаў на дэмакратычную пляцформу. Пад націскам сьвядомых-клясава рабочых і савецка-настроеных сялян і салдатаў ён прызнаў, праўда, як часовую, Савецкую ўладу на Беларусі і сувязь яе ў дзелавых толькі зносінах з Савецкай Расіяй. Але гэтага было

мала. Кангрэс зрабіў тую самую абмылку, якую зрабілі ў свой час беларускія арганізацыі ў грамаце да беларускага народу. Ён думаў, што магчыма знайсьці сярэдняе месца паміж рэвалюцыяй і контр-рэвалюцыяй, стаўшы на пляцформе адзінага нацыянальнага фронту.

Вынікі гэтай абмылкі былі тыя, што Кангрэс павінен быў быць прызнаны контр-рэвалюцыйным. Уноч на 18-га сьнежня ён быў распушчаны сілаю камісарамі Абліскомзапу. Старшыня Савету Народных Камісараў Заходняй вобласьці і фронту Ландэр у сваёй тэлеграме ў цэнтр тлумачыць ліквідацыю Зьезду тым, што Зьезд абвесьціў у краі новую ўладу, адкінуўшы абраны Зьездам Саветаў Абласны Выканаўчы Камітэт Заходняй вобласьці і фронту. Пасьля роспуску Зьезду Абліскомзап павінен быў пачаць рашучую барацьбу зь беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі, прыймаючымі ўдзел у Зьезьдзе. Яны, абараняючы пазыцыю адзінага нацыянальнага фронту, схаваліся ў падпольле і зрабіліся яўна варожымі да мясцовай Савецкай улады. Вырашэньне нацыянальнага пытаньня на Беларусі адрываецца ад сацыяльнай рэвалюцыі. Сацыяльная рэвалюцыя, з свайго боку, губіць свой уплыў на тыя масы рабочых і сялян, якія стаялі за плячыма беларускіх нацыянальных арганізацыяў.

Пасьля роспуску Зьезду засталася Рада Зьезду, каторая на другі дзень (18. XII.) ужо ўсталявала сваё становішча і абвесьціла сябе насіцелям сувэрэннай улады беларускага народу. Сабраўшыся патаемна, яна ўхваліла такія пастановы: 1) лічыць, што першы Ўсебеларускі Зьезд разагнаны сілаю; 2) Раду Зьезду прызнаць выканаўчым органам Зьезду; 3) папоўніць Раду дэлегатамі зямляцтваў; 4) і 5) лічыць распушчанымі ўсе беларускія арганізацыі, існаваўшыя дагэтуль, апроч Цэнтральнай Вайсковай Рады, якая існуе, як орган, падуладны Радзе; 6) склікаць другі Ўсебеларускі Зьезд у найкаротшы тэрмін і 7) для павялічэньня аўтарытэту Рады прэзыдыюмам Рады зрабіць прэзыдыюм Зьезду, павялічыўшы яго адным намесьнікам старшыні і двума сакратарамі.

Рада Зьезду існавала нелегальна. Фактычна ўлада і пасьля 18 сьнежня знаходзілася ў руках Савету Народных Камісараў Заходняй вобласьці і фронту. Высунуты да ўлады фронтам Абліскомзап, пасьля роспуску фронту, ня мог мець папулярнасьці сярод мясцовага беларускага сялянства і рабочых слаёў. Рэўкомы губэрнскіх гарадоў, саветы сялянскіх і рабочых дэпутатаў павятовых гарадоў і вёсак кіравалі зусім незалежна ад Абліскомзапу і яго камісараў. Настрой у Беларусі быў напружаны. Няўдачна ішлі мірныя перагаворы ў Берасьці, гатовыя кожную мінуту перарвацца. Руская армія расходзілася, адчыняючы безбаронымі граніцы перад імпэрыялістычным націскам Нямеччыны. Урэшце перагаворы прыпыніліся, і кайзэраўская армія, разам з войскам адроджанай белай Польшчы, перайшла ў наступ. Астаткі рускай арміі пачалі адходзіць, ухіляючыся ад бітваў.

Абліскомзап уноч на 19 лютага 1918 году пакінуў Менск дзеля таго, што становішча яго стала небясьпечным, дзякуючы ня столькі Немцам, колькі мясцовай апазыцыі. На чале гэтай апазыцыі стаяла Рада Ўсебеларускага Зьезду. Ландэр, старшыня Савету Камісараў Заходняй вобласьці, у сваіх успамінах («Вперед» 1922, № 1) так малюе падзеі таго часу: «У горадзе пачуўся рух ,беларусаў', гатовіўшых выступ проціў нас. На вулі-

цах пачаліся дробныя стычкі, раздаваліся стрэлы. Калі т. Пятроў, камандант Савету, увечар выводзіў мяне з Савету чорным ходам, з параднага ўжо ўварваліся ўзброеныя банды, шукаючы мяне й таварышоў. На станцыі нас усялякімі спосабамі стараліся затрымаць, нацкоўваючы на нас рабочых чыгуначнікаў і ўрэшце ўтварылі крушэньне нашага цягніка — два вагоны перавярнуліся, мой зыйшоў з рэек. Гэта рабілася з мэтаю выйграць час да прыходу Немцаў ці Палякоў.»

І саўпраўды, Рада Зьезду выйграла час. 19-га лютага Абліскопзапу ў Менску ўжо ня было, а Немцы занялі сталіцу Беларусі толькі 25 лютага. Рада Зьезду скарыстала гэты тыдзень, каб захапіць уладу ў свае рукі. Яна папаўняе свой склад прадстаўнікамі земства, нацыянальных меншасьцяў (Жыдоў, Вялікарусаў, Палякоў і Ўкраінцаў) і абвяшчае сябе часовым урадам Беларусі. 21 лютага Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду выдае «І Устаўную Грамату да народаў Беларусі». Зьмест яе такі: «Быўшая ў Беларусі ўлада выйшла. Каб ажыцьцявіць права нацыі на самавызначэньне, трэба склікаць на дэмакратычных асновах Устаноўчы Сойм. Выканаўчы Камітэт Зьезду да гэтага часу абвяшчае сябе часоваю ўладаю Беларусі і выканаўчую частку сваёй улады аддае ўтворанаму Камітэтам Народнаму Сакратарыяту Беларусі».

З гэтага часу Народны Сакратарыят прыступіў да выкананьня сваіх абавязкаў. Ён меў 15 народных сакратароў: чужаземных спраў, унутраных спраў, асьветы, юстыцыі, народнай гаспадаркі, шляхоў, фінансаў, дабрачыннасьці, почтаў і тэлеграфу, кантролю, земляробства, ваенных спраў, па вялікарускіх справах, па жыдоўскіх справах і па кіраўніцтву канцылярыяй сакратарыяту. Дзейнасьць новага ўраду пачала разьвівацца зь вялікай быстрынёй, але была прыпынена прыходам Немцаў.

У. Ігнатоўскі, Вялікі Кастрычнік на Беларусі, зб. *Беларусь*. Менск (Выданьне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР), 1924, бб. 198–200.

*З кнігі: В. Кнорин. 1917 год в Белоруссии и на Западном фронте. Минск, 1925, бб. 74—75.*

...Белорусский вопрос, по той причине, что большевики не обратили на него достаточно внимания, причинил нам некоторые неприятности. Во-первых, перед Совнаркомом Западной Области стал вопрос о выделении белорусских войсковых частей. Так как во главе этого дела стояли далекие от рабочих и крестьян люди, то большевики имели все основания относиться к этим формированиям с опаской и препятствовать их расширению. Такая линия и проводилась командованием фронта. Во-вторых, перед Совнаркомом Области стал вопрос о I-ом Всебелорусском с'езде, созванном в Минске с разрешения Наркомнаца, но без контакта с областными органами власти, и представляющем белорусские кружки со всей РСФСР, но не представляющем белорусских крестьянских масс Области. После длительной борьбы за революционное большинство левой части с'езда, принятая с'ездом резолюция о власти, однако, оказалась национально-демократической, на деле сводящейся к замене власти Советов национально-демократическою властью,

выделенною с'ездом. Вследствие этого, Совнарком Области решил с'езд распустить. Что он в этом решении был прав, доказывает то обстоятельство, что в течение продолжительного времени различные организации, связывающие себя с I-ым Всебелорусским с'ездом, вели антисоветскую пропаганду в крае. Для ближайшего периода роспуск Всебелорусского с'езда привел к переходу белорусской националистической демократии явно на сторону открытых противников Советской власти и к поддержке с их стороны готовящихся планов контр-революционных выступлений, завершившихся организацией правительства Белорусской Народной Республики после отступления Советской власти.

В. Кнорин. *1917 год в Белоруссии и на Западном фронте.* Минск, 1925, бб. 74—75.

*З кнігі: А. Чарвякоў. За Савецкую Беларусь. Менск, 1927, бб. 41—50.*

Рэвалюцыйныя й контр-рэвалюцыйныя сілы Беларусі найбольш войстра сталі адна супраць аднае, твар да твару, на так званым «І-м Усебеларускім Зьезьдзе», або Кангрэсе. (У далейшым, каб ня блытаць гэтага Зьезду з Савецкімі Зьездамі, будзем называць яго Кангрэсам).

Ужо надыйшоў Кастрычнік. Беларусь разам з Расіяй пайшла па шляху Кастрычніцкае рэвалюцыі. Улада знаходзілася ўжо ў руках беларускіх Саветаў рабочых і сялян. 19 лістапада ў Менску сабраўся Абласны Зьезд рабочых і салдацкіх дэпутатаў і зьезд сялянскіх дэпутатаў. Абудва зьезды сталі на рэвалюцыйную Савецкую пляцформу. Як пыл, рассыпаліся думы, земствы ды іншыя ўстановы буржуазна-дэмакратычнага ладу.

Ня гледзячы на гэта, Вялікая Беларуская Рада разам з Выканаўчым Камітэтам вайсковых беларускіх арганізацый зусім самастойна, бяз згоды і ўмовы з савецкімі арганізацыямі, прызначылі на 5-га сьнежня Ўсебеларускі Кангрэс для вырашэньня лёсу Беларусі.

У гэты час у Рады зьявіўся канкурэнт: Беларускі Абласны Камітэт пры Ўсерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў з Канчарам і Караткевічам на чале таксама захацеў узяць на сябе кіруючую ролю ў вырашэньні будучыні Беларусі і таксама прызначыў у Менску на 8-га сьнежня Ўсебеларускі Кангрэс для вырашэньня лёсу Беларусі. Пляцформа Беларускага Абласнога Камітэту вызначаная ім у дэклярацыі якую ён агаласіў 17 лістапада 1917 году.

Зварачаючыся да ўсіх грамадзян Беларусі з заклікам прыняць удзел у вырашэньні лёсу Беларусі, ён кажа: «Мы, сацыялістыя, зь верай імкнёмся да сьветлага будучага, калі ўсе працоўныя народы аб'яднаюцца ў вадзін сусьветны саюз, каля аднэй сацыялістычнай культуры, братэрства, роўнасьці і свабоды: *але мы ня верым, што ў сучаснасьці шляхам грамадзянскай вайны і зруйнаваньня дзяржаўнасьці* бяз сталай падрыхтоўкі народных мас і без належнага грамадзка-эканамічнага разьвіцьця народаў Расіі ды нават Эўропы можна зьдзейсьніць цалкам сацыялізм» . . .

Ён ня верыць у магчымасьць будаваць сацыялізм у Расіі і ў Беларусі. Аднак, каб падмануць Савецкую ўладу, Абласны Камітэт у васобе Караткевіча ўвайшоў з хадайніцтвам да ўраду РСФСР аб падтрыманьні сваёй працы, узяў на сябе абавязак перад Савецкім урадам РСФСР забясьпечыць не-

парушнасьць Саветаў у Беларусі і даў падпіску, што беларускі Кангрэс будзе пакіраваны па Савецкаму напрамку. На скліканьне Зьезду Камітэт атрымаў грошы ад Савецкага ўраду. Але як толькі Камітэт атрымаў ад Савецкага ўраду грошы на Зьезд і як сам выехаў зь Петраграду, дык агаласіў дэклярацыю, што ён ня верыць у будаваньне сацыялізму, што ён супраць грамадзянскай вайны, што ён супраць Саветаў, супраць рэвалюцыі.

Такім чынам, было зусім самастойна назначана два ўсебеларускія зьезды: адзін на 5-га, а другі на 8-га сьнежня. Аднак, маючы перад сабой агульнага ворага — Саветы, Беларускі Абласны Камітэт і Вялікая Беларуская Рада ўмовіліся, каб злучыць абудва Кангрэсы і адкрыць іх 8-га сьнежня.

Фактычна было так: Зьезд Вялікай Беларускай Рады прыехаў 5-га сьнежня і пачаў працаваць. Зьезд Беларускага Абласнога Камітэту зьехаўся 8-га сьнежня, пасьля чаго абудва зьезды зьліліся ў вадзін зьезд. Аб тым, што гэта было два зьезды, звычайна не гавораць — але гэта было так. Дзьве арганізацыі склікалі зьезды, дзьве пасылалі запрашэньні сваім прыхільнікам і дзьве давалі мандаты. Зьезды сабраліся паміж 5 і 8 сьнежня — гэта значыць ужо пасьля Кастрычнікавай Рэвалюцыі, пасьля таго, як на мясцох былі арганізаваныя Саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў. Аднак, на Зьезьдзе амаль ня было прадстаўнікоў ад Саветаў, іх не запрасілі. Зьезд у большасьці складаўся з прадстаўнікоў ад палітычных, культурных арганізацый, арганізацый уцекачоў, партый, земстваў, гарадзкіх дум, каапэратываў, г. зн. зьезд у большасьці складаўся або з прадстаўнікоў няіснуючых арганізацый, або з тых, што аджылі свой гістарычны час, або з асоб, якіх заклікалі на зьезд пэрсанальна.

Хаця абудва зьезды зьліліся ў вадзін, але фактычна і далей Кангрэс складаўся зь дзьвюх частак: абласьнікоў і радаўцаў. «Абласьнікі» стаялі на тэй пазыцыі, што Беларусь, як неадрыўная частка Расіі, павінна пры ўсялякіх выпадках уваходзіць у склад Расіі ў якасьці «вобласьці», у крайнім выпадку на фэдэральных падставах. Гэта была дэмакратызаваная пазыцыя «ісьцінна рускіх» людзей. «Радаўцы», наадварот, займалі пазыцыю «незалежнасьці». Яны імкнуліся давесьці, што Беларусь ня мае нічога супольнага з Расіяй, што Беларусь павінна пайсьці па самастойнаму шляху да стварэньня дэмакратычнай незалежнай Рэспублікі. Яны лічылі, што калі Беларусі ня ўдасцца дасягнуць незалежнасьці, дык яна ўсё роўна не павінна ісьці разам з Расіяй, а павінна шукаць сабе іншага апякуна. Называліся, звычайна, Польшча і Нямеччына. Як бачым, у «абласьнікоў» і «радаўцаў» нічога супольнага ня было.

Што-ж іх злучыла?

Іх злучыла агульная варожасьць да Саветаў, да пралетарскай рэвалюцыі.

Варожасьць да Саветаў і пралетарскай рэвалюцыі — гэта значыць тое, што доўга хавалася ад рабочых і сялян Беларусі пры зьбіраньні сіл, беларускімі нацыянальна-дэмакратычнымі арганізацыямі тое, што хавалася пад рэвалюцыйнымі фразамі, выявілася ясна на Ўсебеларускім Кангрэсе. Саветы для кіраўнікоў беларускага нацыянал-дэмакратычнага руху служылі толькі для таго, каб праз іх заваёўваць уплывы на рабочых і сялян. Кангрэс гатоў быў прыняць Савецкую ахварбоўку, каб замацаваць сваю буржуазна-дэмакратычную пазыцыю. Гэта відаць зь першага пункту пастановы зьезду, дзе гаворыцца, што *«замацоўваючы рэспубліканскі дэмакратычны*

*лад* у межах Беларускай зямлі, *Зъезд пастанаўляе зараз-жа стварыць орган краёвай* улады ў васобе Ўсебеларускага Савету сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў». У гэтай пастанове, як у люстры, адбіваецца ня шчырасьць, але контр-рэвалюцыйная сутнасьць Кангрэсу: Кангрэс стварае краёвую ўладу — Савет — не для таго, каб забясьпечыць праз Саветы магчымасьць рабочым і сялянам ступіць на шлях сацыяльнай рэвалюцыі, але каб замацаваць рэспубліканскі, дэмакратычны, г. зн. буржуазны лад.

Гэтая рэзалюцыя Кангрэсу адбівала, такім чынам, агульную для абласьнікоў і радаўцаў варожасьць да пралетарскай рэвалюцыі. Разам з гэтым, рэзалюцыя адбівае асабістыя імкненьні «абласьнікоў» і «радаўцаў». Рэзалюцыя гаворыць аб беларускай зямлі, як частцы Расіі, — гэта думка абласьнікоў. У той-жа час яна гаворыць аб самастойным Устаноўчым беларускім сойме — гэта імкненьне незалежнікаў. У рэзалюцыі сказана, што Зьезд «замацоўвае рэспубліканскі дэмакратычны парадак у межах Беларусі» (плятформа абласьнікоў), а разам сказана, што трэба склікаць Усебеларускі Устаноўчы сойм, каб канчаткова вырашыць лёс беларускага народу (плятформа незалежнікаў).

Кіраўнікі Кангрэсу імкнуліся дабіцца хаця-б фармальнага прызнаньня дэмакратычнага, г. зн. буржуазнага ладу і гэтым стварыць перашкоду для замацаваньня і разьвіцьця пралетарскай рэвалюцыі: яны дабіваюцца пастановы аб тым, што «Кангрэс замацоўвае рэспубліканска-дэмакратычны парадак». Але на Кангрэсе была пэўная частка рэвалюцыйна настроеных рабочых і сялян, якія ўжо прызналі Саветы, і таму кіраўнікі Кангрэсу, каб зьберагчы ўплывы на гэтую частку зьезду і каб праз гэта замацаваць сваю пазыцыю, згаджаюцца назваць «Саветам» той орган, які будзе вылучаны супрацьсавецкім Кангрэсам, як орган Краёвай Улады. Кіраўнікамі Кангрэсу было зроблена, як бачым, усё, каб падмануць працоўныя масы, Савецкую ўладу, бальшавіцкую партыю.

Кангрэс не адбіваў імкненьняў рабочых і сялян Беларусі. Гэты Кангрэс быў непатрэбны рабочым і сялянам Беларусі, шкодны рэвалюцыі, і ён ня скончыў сваёй працы. Кангрэс быў распушчаны воляю рабочых і сялян Беларусі, Саветам Народных Камісараў Заходняй вобласьці і фронту, бо заняў яўна варожую пазыцыю ў стасунку да Саветаў і сацыялістычнай рэвалюцыі.

Пасьля разгону Кангрэсу, яго кіраўнікі павялі нелегальную працу па зьбіраньні сіл на барацьбу супраць Саветаў. «Абласьнікі» пасьля Кангрэсу, калі грошы вышлі, зусім адышлі ад працы, яны пайшлі шукаць працы па ўсёй «матушке Расіі». Галоўны ўплыў у нелегальных супрацьрэвалюцыйных нацыяналістычных арганізацыях атрымалі «радаўцы»-«незалежнікі». У барацьбе супраць Саветаў Беларусі яны стварылі «Спаўняючы Камітэт Усебеларускага Кангрэсу». 25-га сакавіка 1918 году ў часы нямецкай акупацыі «Спаўняючы Камітэт» агаласіў Беларусь незалежнай «Беларускай Народнай Рэспублікай», заявіў аб поўным разрыве з Расіяй, а яшчэ раней, 10-га сакавіка 1918 г., зьвярнуўся да нямецкага кайзэра Вільгельма з падзякай за вызваленьне Беларусі ад Саветаў ды бальшавікоў і просьбай аб прыняцьці Беларусі пад сваю высокую руку.

Так паступова змаганьне паміж рэвалюцыйнымі сацыялістычнымі элемэнтамі, з аднаго боку, і супрацьрэвалюцыйнымі буржуазна-дэмакратычнымі элемэтамі Беларусі, з другога, — давяло да пытаньня: *Саветы ці Рада,*

быць Беларусі — Савецкай, Сацыялістычнай, ідучы разам з рэвалюцыйнымі сялянамі й рабочымі іншых краін, ці быць Беларусі — Народнай Рэспублікай, гэта значыць дэмакратычнай, гэта значыць буржуазнай, гэта значыць з эксплёатацыяй рабочых і сялян, гэта значыць разам з усімі буржуазнымі дзяржавамі (нават з кайзэраўскай Нямеччынай), супраць рэвалюцыі, супраць Саветаў, БССР або БНР?

Беларускімі нацыянал-дэмакратычнымі групамі, варожымі Саветам, звычайна распаўсюджваюцца чуткі, што хаця Ўсебеларускі Кангрэс і стаяў на Савецкай плятформе, але Савет Народных Камісараў Заходняе вобласьці і фронту разагнаў Кангрэс, абапіраючыся на «латыскія і кітайскія атрады»,[1] таму, што бальшавікі наагул ворагі нацыянальнага самавызначэньня і незалежнасьці Беларусі. Гэтымі чуткамі шырака карыстаюцца ворагі Савецкае ўлады па-за межамі Савецкае Беларусі, гэтыя чуткі зьяўляюцца падставай для ўтварэньня настрояў супраць Саветаў і бальшавікоў, і таму трэба разабрацца ў гэтым пытаньні і даць на яго належны адказ.

Першае, што трэба высьветліць, — гэта пытаньне аб складзе Кангрэсу, яго кіраўніцтве і кірунку.

Па гэтым пытаньні ўдзельнік Кангрэсу т. А. Бурбіс пісаў:

«Зьехаліся 1872 дэлегаты, у тым ліку вайсковых прадстаўнікоў 716. На зьезьдзе былі, апрача прадстаўнікоў салдат і матросаў усіх фронтаў і флётаў, прадстаўнікі рабочых арганізацый, валасных земстваў, гарадоў, чыгуначнікаў, паштова-тэлеграфных служачых, сацыялістычных партый ад бальшавікоў да меншавікоў і ад максымалістых да правых с.-р., Усерасійскага Савету Сялянскіх дэпутатаў, Савету Рабочых і сялянскіх дэпутатаў, уцекачоў, каапэратываў, беларускіх сацыялістычных і нацыяналістычных партый і арганізацый. З прадстаўнікоў кадэцкай партыі і абшарнікаў ня было аніводнага дэпутата, хаця аб прысутнасьці асабліва абшарнікаў вельмі часта гавораць. Былі арганізаваны на зьезьдзе сялянскія зямляцтвы — Менскае, Магілеўскае, Віцебскае, Віленскае, Горадзенскае і Смаленскае. На зьезьдзе вялася барацьба яўных і скрытых ворагаў Савецкае ўлады і ворагаў самавызначэньня Беларусі, у большай частцы земскага элемэнту з правых с.-р., асабліва фармацыі 1917 году, ды некаторых сяброў Бел. Абл. Камітэту, а з другога боку левых элемэнтаў зьезду, і таксама прадстаўнікамі часткі беларускіх арганізацый. 17 сьнежня перамаглі левыя ўплывы, і зьезд пераважнай большасьцю выказаўся за ўладу Саветаў» ...

Гэтая ацэнка нябожчыка т. А. Бурбіса вельмі цікава таму, што яна паказвае, якая блытаніна існавала ды існуе нават у людзей, блізкіх Савецкай уладзе.

Разьбярэм па парадку ўсе вышэйпералічаныя факты.

Тав. А. Бурбіс кажа, што на зьезьдзе ня было абшарнікаў і кадэтаў. Але-ж мы ведаем, што пачэснымі сябрамі зьезду і, здаецца, нават Прэзыдыюму былі праф. Карскі, праф. Масоніюс, былі дэлегаты-ксяндзы, папы, сярод кіраўнікоў Кангрэсу былі такія дзеячы, як Аляксюк ды інш., якія, вядома, стаялі вельмі блізка да абшарнікаў. Значыць, уплывы кадэтаў,

[1] Варонка. Белорусский вопрос к моменту Версальской мирной конференции.

абшарнікаў, наагул буржуазныя, хаця і пад выглядам дэмакратычным, на зьезьдзе былі вельмі значныя.

Тав. А. Бурбіс гаворыць аб прадстаўнікох на Кангрэсе Саветаў. Так, яны прыехалі на зьезд, але чаго? Адказ на гэта мы знаходзім у пастановах першага Віцебскага Губэрнскага Зьезду Саветаў. Віцебскі губэрнскі зьезд паслаў на Кангрэс сваіх прадстаўнікоў і даў ім наказ: «Мы — прыхільнікі нацыянальнага самавызначэньня аж да аддзяленьня, але вырашыць гэта пытаньне ня мае права адна толькі частка насельніцтва Беларусі, якая зьбіраецца 15-га сьнежня ў г. Менску. Гэтае пытаньне можа вырашыць толькі Зьезд Саветаў Раб., Сял., Чырвонагвардз. і Батрацкіх дэпутатаў, скліканы з усіх нацыянальнасьцяў. Зьезд адмаўляецца падтрымліваць усе Рады, пабудаваныя паводля нацыянальнае адзінкі, і заклікае рабочую клясу ды сялянства, усю беднату гораду ды вёскі стварыць між сабой саюз і агульным фронтам пайсьці на барацьбу з прыгнятальнікамі працоўных мас усіх нацыянальнасьцяў. «Віцебскі Зьезд прапанаваў сваім прадстаўніком абвесьціць на Кангрэсе волю рабочых, сялян, салдат і батракоў Віцебшчыны і пакінуць Кангрэс, прапанаваўшы ўсім рабочым ды сялянам зрабіць тое самае.

Значыць, прадстаўнікі Саветаў прыехалі няпрошанымі на Кангрэс не дзеля таго, каб разам з нацыянал-дэмакратычнымі элемэнтамі ісьці адным фронтам, а каб пайсьці супраць іх за Саветы, за рэвалюцыю.

Былі на Кангрэсе і бальшавікі. Гэта праўда. Іх паслала партыя, каб згуртаваць рэвалюцыйныя элемэнты Кангрэсу, каб выбіць ініцыятыву з рук Рады і Абласнога Камітэту. Каб аслабіць бальшавіцкую групу, Рада пайшла на правакацыю. Яна прыслала ў Пецярбург свайго агента, які, прыкінуўшыся бальшавіком, увайшоў у Пецярбурскую бальшавіцкую арганізацыю і дабіўся таго, што яму далі мандат на Кангрэс ад бальшавікоў. На самым Кангрэсе гэты «бальшавік» уваходзіў у склад кіруючай групы левай часткі Кангрэсу, але ў самы рашучы момант адкрыта перайшоў на бок правай часткі Зьезду. Ня дзіва, што левая частка зьезду была слаба арганізаваная і значных уплываў на Зьезд мець не магла.

*Такім чынам мы бачым, што Кангрэс складаўся ў большасьці з ворагаў Савецкае ўлады і меў вузка-нацыяналістычны характар* (дэлегатамі былі толькі Беларусы).

Тэндэнцыя, напрамак кіраўніцтва Кангрэсам яскрава адбіваюцца ў паказаньні т. Бурбіса, калі ён кажа, што на Кангрэсе былі заснаваныя зямляцтвы па губэрнях. Каб ня даць рабочым і сялянам магчымасьці згаварыцца, каб перашкодзіць утварэньню асобнае фракцыі рабочых і сялян, каб разьбіць іхныя сілы, былі заснаваныя зямляцтвы, куды ўваходзілі не паводле клясавай прыметы, але паводле губэрнскага паходжаньня. Зямляцтвы былі створаны, каб аблытаць рабочых і сялян, каб, замест інтарэсаў клясавых, на першы плян высунуць агульныя інтарэсы губэрні.

*Такім чынам Кангрэс быў супраць Саветаў, супраць Пралетарскай рэвалюцыі, супраць клясавых інтарэсаў рабочых і сялян.*

Нарэшце, заўвага т. А. Бурбіса аб тым, што на Кангрэсе перамаглі левыя ўплывы і Кангрэс выказаўся за ўладу Саветаў.

Вышэй мы ўжо зазначалі, што Кангрэс прыняў пастанову аб стварэньні Краёвай улады ў васобе Саветаў толькі фармальна, каб з надворнага

боку захаваць свае (праўдзівей, сваіх кіраўнікоў) запраўдныя контр-рэвалюцыйныя імкненьні. Рэчаіснасьць кажа, што Кангрэс стаяў на супрацьсавецкім груньце.

Я. Варонка і іншыя ўдзельнікі ды кіраўнікі Кангрэсу нідзе і ніколі не гавораць, што Кангрэс стаяў на Савецкім груньце. Затое яны *заяўляюць, што Кангрэс абвесьціў Беларускую Народную Рэспубліку, г. зн. не Савецкую, не рабоча-сялянскую.* Цікава, што Я. Варонка кажа, што «Кангрэс абраў загадзя (!) Раду І-га Ўсебеларускага Кангрэсу, якой даручыў рабіць і далей справу, распачатую на Кангрэсе, выконваць рэзалюцыі і ўзяць уладу ў свае рукі, калі для гэтага надыйдзе выгодны момант» (И. Воронко. Белорусский вопрос к моменту Версальской мирной конференции). Відаць, кіраўнікі Кангрэсу загадзя ўжо бачылі, што зьезд да канца не дабярэцца і таму, каб забясьпечыць яго далейшую контр-рэвалюцыйную чыннасьць, загадзя абралі Раду. Бачым, што зусім адкідаецца матыў аб Савецкім груньце Кангрэсу.

*Другое, пытаньне — аб «радаўскай незалежнасьці».* Бальшавікоў вінавацяць, што яны разагналі Кангрэс, бо стаялі і стаяць супраць «незалежнасьці» Беларусі. Паглядзімо, як-жа стаіць гэта справа ў самых незалежнікаў?

Радаўцы-«незалежнікі» не адразу прышлі да думкі аб незалежнасьці Беларусі, а ішлі да гэтага паступова.

*Першае.* Беларускі Нацыянальны Камітэт 25 сакавіка 1917 году гаворыць аб Беларусі, як аб частцы Расеі:

«Прызнаючы найлепшай формай дзяржаўнага ладу Расіі фэдэрацыйна-дэмакратычную Рэспубліку, — зьезд лічыць патрэбным *аўтаномнае адбудаваньне Беларусі ў межах Расіі»* і дадае: «Нацыянальны Камітэт лічыць патрэбным перасьцерагчы ад тых людзей, якія, прыкрываючыся імем беларускім, вялі-б прапаганду за далучэньне да Польшчы або да якой іншай дзяржавы».

*Другое.* Статут Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый, прыняты 5—6 жніўня 1917 году, гаворыць, што ў яе склад уваходзяць розныя арганізацыі, якія прызнаюць патрэбу *аўтаноміі Беларусі.*

*Трэйцяе.* Вялікая Беларуская Рада ў сваёй грамаце ад 27 кастрычніка да Беларускага Народу кліча: «Браты-Беларусы, працоўны народ Беларусі, работнікі і сяляне-земляробы, Беларусы-ваякі, *усе, каму дарага воля і рэвалюцыя, усе, у кім гарыць і б'ецца сэрца за правы і волю беларускага народу»* (адным словам, усе, усе. Гэта ў час Кастрычніка!) і заве: «Вялікая Беларуская Рада... верыць у сілу і мудрасьць беларускага народу, у руках якога вялікая будучыня *Вольнай Беларусі...»*

*Чацьвертае.* Далей ідзе пастанова зьезду 5—8 сьнежня аб нейкай «Савецка-дэмакратычнай» Беларусі ў складзе Расіі.

*Пятае. І толькі 25 сакавіка 1918 году* канчаткова гаворыцца аб БНР. *Аўтаномія з Расіяй, аўтаномія без Расіі, Вольная Беларусь, Савецка-дэмакратычная Беларусь із ноў з Расіяй, але з самастойным Устаноўчым Зборам і нарэшце БНР пад апекай нямецкага Кайзэра.*

Шлях няроўны, нявыразны і сумны...

*Трэцяе пытаньне — аб прынцыповай пазыцыі ў стасунку да Беларусі, партыі бальшавікоў і Савецкай улады.*

Камуністычная партыя ўвесь час рашуча праводзіць лінію згодна сваёй праграмы: яна вядзе працоўных да сацыялістычнай рэвалюцыі і цьвёрда стаіць на прызнаньні права ўсіх народаў на самавызначэньне. Гэтыя два пытаньні — шлях да сацыялістычнай рэвалюцыі і права на самавызначэньне — зьвязваюцца ў адно пытаньне, бо яны адно з другога выцякаюць і адно другое дапаўняюць. Ня можа быць поўнага нацыянальнага вызваленьня без сацыялістычнай рэвалюцыі, і наадварот, сацыялістычная рэвалюцыя ня можа перамагчы без вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

Вось гэтым разуменьнем права нацый на самавызначэньне і кіравалася Кампартыя ў сваіх адносінах да Беларусі.

Падаём факты. Т. Сталін, як адзін зь кіраўнікоў Камуністычнае партыі і Савецкае ўлады ў сьнежні 1917 году, умовіўся зь Беларускім Абласным Камітэтам сялянскіх дэпутатаў наконт таго, што трэба склікаць Усебеларускі ангрэс, каб вырашыць пытаньне аб самавызначэньні Беларусі, забясьпечыўшы савецкую форму дзяржаўнасьці. Ды ня толькі ўмовіўся, але даў грошы на зьезд і зрабіў загад, каб арганізатарам зьезду далі поўную магчымасьць карыстацца тэлефонам, тэлеграфам ды інш. Ці можна пасьля гэтага вінаваціць Кампартыю ў неспачуваньні самавызначэньню Беларусі? Відаць, ня можна.

У часы Брэст-Літоўскіх перамаўленьняў т. Сталін па тэлеграфу запэўніў прадстаўніка Кангрэсу Савіча, што «Савет Народных Камісараў будзе абараняць інтарэсы беларускіх працоўных мас».

14-га сьнежня т. Троцкі, як старшыня Савецкай дэлегацыі ў Брэст-Літоўску, прыслаў тэлеграму на ймя ўдзельніка Кангрэсу Вярбіцкага: «Савецкі ўрад у поўнай згодзе са сваёй праграмай лічаць, што ніхто, апрача Беларусі, ня мае права вырашаць лёс Беларусі. Гэту пазыцыю наша дэлегацыя будзе абараняць у далейшых перамаўленьнях».

Нарэшце, уся гісторыя барацьбы за Савецкую Беларусь, стварэньне, жыцьцё і сацыялістычнае будаўніцтва Савецкай Беларусі зьяўляюцца найлепшым довадам таго, што толькі Камуністычная партыя рашуча і да канца вырашае нацыянальнае пытаньне ў Беларусі.

*Чацьвертае пытаньне — аб разуменьні бальшавіцкай партыяй «незалежнасьці».* Буржуазнае разуменьне права нацый на самавызначэньне звычайна абмяжоўваецца праўным пытаньнем або пытаньнем аб больш ці менш аўтаномнай дзяржаўнасьці. З гэтага вынікае барацьба за «незалежнасьць» бязь зьмены эканамічных і сацыяльных адносін, як найбольш крайняя праява буржуазнага разуменьня права на самавызначэньне.

Мы вышэй адзначылі, што Камуністычная партыя разумее пытаньне аб самавызначэньні як частку агульнага пытаньня аб сацыялістычнай рэвалюцыі. З гэтага вынікае, што бальшавіцкая партыя не магла стаць і ніколі ня стане на пазыцыю буржуазна-дэмакратычнага разуменьня незалежнасьці Беларусі, яна супраць стварэньня Беларусі, як дэмакратычнай рэспублікі — аўтаномнай, вольнай і г. д., і г. д.

А. Чарвякоў. *За Савецкую Беларусь.* Менск, 1927, бб. 41–50.

*З артыкулу: В. Кнорын. Да гісторыі дыктатуры пралетарыяту ў Беларусі (Да дзесяцігодзьдзя агалошэньня БССР). «Полымя» № 1, Менск, 1929, бб. 88—91.*

Працоўныя масы Беларусі, дзякуючы вайне, шчыльна падышлі да сацыялістычнай рэвалюцыі. Імпэрыялістычны фронт праходзіў па самаму цэнтру краіны. Гарады й мястэчкі былі зусім разбураныя. Прамысловасьць амаль поўнасьцю прыпынілася. Рабочая кляса, дзякуючы прыфрантовым умовам, знаходзіцца ў больш цяжкім становішчы, чымся дзе-небудзь. Сялянская гаспадарка была ў поўным заняпадзе. Масы саматужнікаў былі таксама ў вельмі цяжкім становішчы. У гэткіх умовах для шырокіх працоўных масаў мог быць толькі адзін лёзунг: безадкладнае спыненьне вайны й разам з тым стварэньне новых умоваў для ўздыму рабочай клясы шляхам пераходу да яе ўлады, для ўздыму сялянскай гаспадаркі шляхам захопу ўсёй абшарніцкай зямлі з жывым і мёртвым інвэнтаром. Нацыяналістычныя й нацыянальна-сацыялістычныя партыі, застаючыся на груньце буржуазнай дэмакратыі і ўстаноўчага збору, не маглі вырашыць ніводнага з гэтых пытаньняў. Разам са сваймі расійскімі партыямі-маткамі (эсэрамі, энэсамі, меншавікамі і г. д.) яны былі супраць гэтых лёзунгаў і не маглі вырашыць сялянскага пытаньня, заклікаючы чакаць Устаноўчага збору — і таму сталі антысялянскімі партыямі (Бел. Грамада, эсэры і г. д.). Яны не маглі вырашыць нацыянальнага пытаньня, бо нацыянальнага пытаньня нельга вырашыць у інтэрэсах рабочых і сялянскіх мас бяз пытаньня аб уладзе і аб зямлі. Высоўваць адно нацыянальнае пытаньне ўва ўмовах, калі масы ў васнову вырашэньня ўсіх пытаньняў ставілі пытаньне аб уладзе й зямлі, выступаць супраць захопу ўлады й зямлі, супраць выгнаньня капіталістых, абшарнікаў і чыноўнікаў і прапанаваць вырашэньне нацыянальнага пытаньня — гэта значыла зрабіцца сьмешным, зрабіцца Дон-Кіхотам у вачох шырокіх мас. Таму асабліва беларускія нацыянальныя й нацыянальна-сацыялістычныя партыі ў канцы 1917 г. ператварыліся ў нязначныя групы дробна-буржуазных інтэлігентаў, зусім ізаляваных ад масаў працоўных, якія хаваліся ад іх, выступалі ў Беларусі ў шырокіх масавых кампаніях у блёку нацыянальных меншасьцяў (Паалей-Цыён, Украінцы, беларускія с-д., беларускія эсэры) і атрымлівалі нават у такім блёку адзінкі галасоў. Адзінай партыяй рабочых і сялянскіх масаў магла быць і была партыя бальшавікоў, якая з усёй бальшавіцкай пасьлядоўнасьцю разгортвала ў масах асноўныя, рашаючыя, самыя важныя лёзунгі — бездакладнае сканчэньне вайны, безадкладнае абшарнікаў і передача ўсёй зямлі сялянам, заснаваньне дыктатуры пралетарыяту, самавызначэньне народаў, сацыялізм. Ёй масы верылі, зь ёю яны хацелі вырашаць і вырашылі пытаньні аб сканчэньні вайны, аб уладзе, аб зямлі, лічачы, што гэтым вырашаецца пытаньне аб усім, што трэба рабочаму й селяніну. На аснове таго, што кіруючая група работнікаў нашай партыі ў гэты самы час складалася пераважна з таварышоў, прыехаўшых у Беларусь зь Ленінграду, Масквы, Рыгі, Іванава-Вазьнясенску, некаторыя да гэтага часу гавораць, што Кастрычнікавая рэвалюцыя ў Беларусі была праведзена расійскімі бальшавікамі, і пасьлякастрычнікавая ўлада была прыежджай, чужой, расійскай. Няма нічога больш хвальшывага, чымся гэткая пастаноўка пытаньня. Бальшавіцкая партыя, нажаль, у гэтыя дні яшчэ ня мела канцэнтраванага

разьмеркаваньня работнікаў. На чале ўсіх пасьлякастрычнікавых органаў улады (у сёлах, валасьцёх, паветах) сталі працаўнікі выключна зь мясцовага насельніцтва. Часьцей усяго гэта былі беспартыйныя, якія ішлі за бальшавіцкімі лёзунгамі, сяляне й рабочыя, пазьней увайшоўшы ў нашую партыю. Калі яны ня ішлі за нацыяналістымі й нацыянал-сацыялістымі, дык не таму, што яны былі не Беларусамі, а таму, што перш за ўсё трэба было ўзяць уладу, узяць зямлю, выгнаць абшарніка.

Што-ж у гэтых умовах ўяўляў гэтак званы I Усебеларускі кангрэс?

Скліканьне I Усебеларускага кангрэсу ў гэткіх умовах было ў поўнай меры анты-пралетарскай, анты-сялянскай, контр-рэвалюцыйнай справай. «Беларускі» зьезд паставіў *над усімі* пытаньнямі пытаньне нацыянальнае, якое масамі вырашалася *аднача сова.* «Беларускі» зьезд ня быў на справе беларускім зьездам, бо ён не выяўляў ні беларускіх рабочых, пачаўшых уваходзіць у прафсаюзы, ні беларускіх сялян, якія арганізаваліся ў Саветы. «Беларускі» кангрэс ня мог паставіць рабочага пытаньня, бо ён ішоў супраць самой сутнасьці Кастрычнікавай рэвалюцыі, а рабочае пытаньне ў гэтыя дні вырашалася перш за ўсё пытаньнем аб уладзе, заснаваньнем дыктатуры рабочай клясы. «Беларускі» кангрэс ня мог вырашыць пытаньне аб зямлі, бо гэтае пытаньне ўжо было вырашана сялянамі, якія захапілі зямлю й выганялі абшарнікаў, і ніякаму перавырашэньню не падлягала. Але «Беларускі» кангрэс імкнуўся вырашыць пытаньне аб *уладзе* — і паставіў заместа саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, саветы *беларускіх* рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. I ў гэтым слове было вельмі шмат: цяжка было ісьці супраць савецкай сыстэмы, трэба было ставіць пытаньне аб пакіданьні сыстэмы, зьмяняючы яе зьмест,ператвараючы яе з сродкаў дыктатуры пралетарыяту, які вёў за сабой, у саюзе зь вясковай беднатой, шырокія масы сярэдняга сялянства, у форму дробна-буржуазнай дэмакратыі, на чале якой была нацыянальная інтэлігенцыя, якая абапіралася на вясковага кулака. Значыцца, устаноўка слова «беларускіх» ня значыла толькі падкрэсьліваньня нацыянальнага момату, а мела зусім іншы сэнс і значэньне. Гэта значыла — паставіць, замест савецкай улады, абранай рабочымі й салдатамі ў горадзе і бяднейшымі й сярэднімі сялянамі ў вёсцы, уладу, абраную па прынцыпу выбараў самога кангрэсу, г. зн. уладу невялікіх нацыянальна-сьвядомых, ці, вярней сказаць, нацыяналістычных груп, па сутнасьці інтэлігенцкіх і кулацкіх груп, якія ішлі за нацыяналістычнымі й нацыянальна-сацыялістычнымі партыямі. Гэта азначала нішто іншае, як пераход улады ў бок заможнай клясы, пакідаючы часова яе савецкую форму. Гэта азначала нішто іншае, як супрацьстаўленьне савецкай улады Ўстаноўчаму збору, як зварот ад савецкай сыстэмы да Ўстаноўчага збору, да буржуазнай дэмакратыі. *I адзінае правільнае тлумачэньне першага Ўсебеларускага кангрэсу ёсьць тлумачэньне яго, як беларускага Ўстаноўчага збору.**

Партыя толькі што зь вялікімі вынікамі перамагла на выбарах Устаноўчага збору, сабраўшы пераважную большасьць галасоў у Беларусі, а ў вёсцы 90 працэнтаў усіх галасоў. Партыя вяла ўжо ідэёвую падрыхтоўку да разгону Ўстаноўчага збору. Яна павінна была паставіць пытаньне аб раз-

* Усе падчыркненьні ў дакумэнтах перанесеныя з арыгіналаў.

гоне Беларускага Ўстаноўчага збору, разагнаць яго таксама, як потым быў разагнаны Ўсерасійскі Ўстаноўчы збор. Толькі так яна павінна была й магла замацаваць дыктатуру пралетарыяту ў Беларусі, замацаваць заваёвы Кастрычнікавай рэвалюцыі, прыцягнуць на свой бок тых, хто несьвядома ішоў за беларускімі ўчрадзілаўцамі, шмат каму адчыніць шлях да бальшавізму. Але розьніца тая, што Беларускі Ўстаноўчы збор быў устаноўчым зборам нацыі, якая была прыгнечаная да Кастрычнікавай рэвалюцыі. Ён быў устаноўчым зборам такой нацыі, інтэлігенцыя якой была прыгнечанай, ня выявіла сябе да таго часу ў дастатковай меры ў якасьці паслугача заможных клясаў. Таму такі акт, як разгон І Ўсебеларускага Кангрэсу, мог быць растлумачаны некаторымі нацыянальнымі коламі для абвінавачваньня партыі ў вялікадзяржаўнай палітыцы, што не магло мець месца пры разгоне Ўсерасійскага Ўстаноўчага збору. Таму нават некаторыя камуністыя да гэтага часу не разумеюць сэнсу й значэньня гэтага акту. А зараз ужо пара нават самаму адсталаму рабочаму й селяніну зразумець, што І Ўсебеларускі Кангрэс быў Беларускім Устаноўчым зборам, накіраваным супраць дыктатуры пралетарыяту і супраць саміх беларускіх рабочых масаў, у імя дробна-буржуазнага беларускага інтэлігента й кулака.

І як ні дзіўна: беларускія нацыянал-дэмакраты й нацыянал-сацыялістыя першыя сабралі Ўстаноўчы збор, першыя склалі легенду аб тым, што ён быў разагнаны п'янымі салдатамі. Усерасійскім меншавіком і эсэрам прышлося толькі паўтарыць гэтую плётку на рэвалюцыйных салдатаў і матросаў. Аўтарскі «гонар» і права належаць бязумоўна Беларусам, а не Расійцам.

Але гістарычная раўналежнасьць, а таксама «пяршынства» беларускіх нацыянал-сацыялістых на гэтым не канчаецца. Учрадзілаўцы, ува ўсіх выпадках, павінны былі выкрыць сябе да канца й заснаваць зносіны з адкрытымі імпэрыялістымі. Расійскім прышлося чакаць да паўстаньня Чэхаславакаў, беларускім — толькі да наступу Немцаў і даўборчыкаў у лютым 1918 г. Утварэньне так званага Беларускага Народнага Сакратарыяту выкрыла буржуазна-дэмакратычную прыроду беларускіх эсэраў і меншавікоў. Але трэба было пайсьці яшчэ далей, трэба было схіліцца перад кайзэрам Вільгельмам, паслаць яму тэлеграму, увайсьці ў вадкрытую сувязь зь імпэрыялістымі, каб ліквідаваць рэшткі дэмакратычнага мінулага. І ўсё гэта было праароблена зь нячуванай шпаркасьцю, у хуткай зьмене кірункаў і асобаў, выходным пунктам якіх прэтэньзій на ўладу быў І Усебеларускі Кангрэс. Гэтаму «тэмпу» расійскія эсэры маглі толькі зайдросьціць, бо яны значна пазьней дайшлі да Омскай дырэкторыі й Калчака.

Так скончылася першая й адзіна-сур'ёзная «дэмакратычная» спроба ліквідаваць дыктатуру пралетарыяту ў Беларусі, пазбавіць беларускіх рабочых і сялян улады, перасунуць яе да заможных пластоў, пад нацыянальным лёзунгам, пад выглядам гульні на нацыянальным моманьце. Скончылася адкрытай контр-рэвалюцыяй і пакаянным зваротам многіх са «зграі славутых» пад цьвёрдую ўладу дыктатуры пралетарыяту.

В. Кнорын. Да гісторыі дыктатуры пралетарыяту ў Беларусі (Да дзесяцігодзьдзя агалошаньня БССР). *«Полымя»* № І, Менск, 1929, бб. 88–91.

*З артыкулу: Г. Парэчын. Ідэя беларускай дзяржаўнасьці перад утварэньнем Савецкае Беларусі. Беларуская Акадэмія Навук. Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук. Працы катэдры сучаснага права, т. I, Менск, 1929, бб. 18—22.*

К часу Кастрычнікавае рэвалюцыі буржуазныя й дробна-буржуазныя палітычныя арганізацыі на Беларусі былі згуртаваныя ў двух асноўных цэнтрах: у Цэнтральнай радзе беларускіх арганізацыяў і партыяў і ў Беларускім Краёвым Камітэце.

Палітычны твар гэтых арганізацыяў мастацка намалёваны імі самімі ў дэкларацыях, якія яны выдалі ў зьвязку з Кастрычнікаваю рэвалюцыяй. Кароткія цытаты з гэтых дэкларацыяў яскрава пакажуць нам яго. «У гэтыя дні нам належыць паказаць запраўды, што злучаная пакутай беларуская рэвалюцыйная дэмакратыя не дапусьціць, каб віхор бязладу згубіў нашу сьвятую нацыянальную справу абароны вольнасьцяў і правоў Беларускага Народу» — гэта з «Граматы да Беларускага Народу», падпісанай Вялікай Беларускай Радай, Часовай Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Радай, Беларускім Спаўняючым Камітэтам Заходняга фронту, Беларускай Сацыялістычнай Грамадой і Беларускай Народнай Партыяй сацыялістых.

А вось палітычнае крэда Беларускага Краёвага Камітэту:

«Мы, сацыялістыя, зь верай імкнёмся да сьветлага будучага, калі ўсе працоўныя народы аб'яднаюцца ў вадзін сусьветны саюз, каля аднэй сацыялістычнай культуры, братэрства, роўнасьці й свабоды: але мы ня верым, што ў сучаснасьці шляхам грамадзянскай вайны й зруйнаваньня дзяржаўнасьці бяз сталай падрыхтоўкі народных мас і без належнага грамадзка-эканамічнага разьвіцьця народаў Расіі ды нават Эўропы можна зьдзейсьніць цалкам сацыялізм» — гэта з дэкларацыі Беларускага Краёвага Камітэту за 17 лістапада 1917 г.

Такім чынам абодвы цэнтры беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху ў Кастрычнікавыя дні выразна заявілі, супраць каго яны і праз гэта стала зусім ясна, зь кім яны.

У вадозьве «Ко всему Народу Белорусскому» Выканаўчы Камітэт Вялікае Беларускае Рады зараз-жа пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі дэтальна вылажыў сваю праграму ўва ўсіх важнейшых галінах дзяржаўнага жыцьця. Ён перш за ўсё заявіў, што Беларусь у складзе губэрань Віленскае, Віцебскае, Горадзенскае, Менскае й Магілеўскае, заходніх паветаў Смаленскае губ. і паўночных паветаў Чарнігаўскае «является *единой и неделимой* страной (падкрэсьлена ў арыгінале — Г. П.) связанной братскими узами со всей остальной Федеративной Российской Республикой».[1]

Вялікая Беларуская Рада тут-жа вызначае й кампэтэнцыю Беларускае рэспублікі ў складзе Расійскае фэдэрацыі. «Пытаньні агульнадзяржаўнага будаўніцтва, пытаньні міжнароднае палітыкі й гандлёвыя дагаворы з чужаземнымі дзяржавамі павінны ўваходзіць у кампэтэнцыю вышэйшага заканадаўчага органу Расійскае дэмакратычнае фэдэрацыйнае рэспублікі»; «ніякіх мытных граніц паміж Беларусьсю й іншымі рэспублікамі Расійскае фэдэрацыі не павінна быць»; «краёвай радзе павінна належаць права

---

[1] Ф. Турук. *Белорусское движение*, ст. 95.

выданьня мясцовых законаў, разьвіцьця, распрацоўкі й дапасаваньня да мясцовых умоваў законаў, якія выдаюцца вышэйшымі заканадаўчымі органамі Расійскае дэмакратычнае рэспублікі».

Але ўжо і ў тэй самай адозьве, дзе гаварылася пра адзінства міжнароднае палітыкі ўва ўсёй фэдэрацыі, ВБР заявіла, што «для абароны свайго права на непадзельнае існаваньне беларускі народ павінен мець на мірным кангрэсе сваіх правамоцных прадстаўнікоў». У гэтым выявілася незалежніцкая тэндэнцыя, якую ВБР так старанна хавала ў першых пунктах адозвы. А калі ўзяць пад увагу, што для ажыцьцяўленьня сваіх мэтаў ВБР лічыла за неадкладную сваю задачу ўтварэньне беларускае арміі, то зусім ясна стане, што незалежніцкія мэты ВБР былі значна большымі, чымся аб гэтым гаварыла Рада беларускаму народу.

Так гаварыла Вялікая Беларуская Рада пакуль спадзявалася, што Расія застанецца буржуазнаю рэспублікаю, пакуль лічыла, што Савецкая ўлада зьявішча часовае, што гэты «віхор бязладу» пранясецца над краінаю, не зачапіўшы грунту, на якім пачалі складацца буржуазна-дэмакратычныя парадкі. Празь некалькі месяцаў, калі Савецкая ўлада стала моцнаю рэальнасьцю, калі загінулі надзеі на пабудаваньне буржуазнага ладу ўва ўсёй «фэдэрацыі», беларускія нацыяналістычныя арганізацыі сталі на шлях поўнае незалежнасьці.

Другі беларускі цэнтр — Беларускі Краёвы Камітэт — «Ідэёвы кіраўнік і арганізацыйна-палітычны цэнтр рускае й зрусыфікаванае буржуазіі, дробна-буржуазных, мяшчанскіх, інтэлігэнцкіх і сацыял-згодніцкіх зрусыфікаваных элемэнтаў» — таксама выступіў з дэклярацыяй, у якой рашуча заявіў, што ён за ўтварэньне «автономной свободной Белоруссии как части Российской Федеративной Республики». Зусім бясспрэчна, што Беларускі Краёвы Камітэт ня меў ніякіх сэпаратыстычных імкненьняў. У гэтым яго асноўная розьніца ад Вялікае Беларускае Рады. Ён лічыць за патрэбнае шчыльную сувязь з Расіяй і таму яшчэ, што баіцца пагрозы для Беларусі быць далучанай да Польшчы. Ёсьць усе падставы думаць, што БКК і лёзунг аўтаноміі Беларусі скарыстоўваў толькі як сродак барацьбы з Радаю і ні ў якой меры не дамагаўся-б яго ажыцьцяўленьня, калі-б не баяўся, што гэта можа быць зроблена ВБР. Але Беларускі Краёвы Камітэт таксама, як і Вялікая Беларуская Рада, думаў пра фэдэрацыю не з Савецкай Расіяй, а з буржуазна-дэмакратычнай, ён быў супраць саветаў ня ў меншай меры, чымся ВБР. У іх была толькі розная тактыка. ВБР дзейнічала зусім самастойна, а БКК хацеў дасягнуць сваіх мэт . . . пры дапамозе Савецкае ўлады.

Т. Чарвякоў у кнізе «За Савецкую Беларусь» апублікаваў цікавыя матар'ялы аб тым, як Беларускі Краёвы Камітэт рыхтаваўся да Ўсебеларускага Кангрэсу, які адбыўся ў сьнежні месяцы 1917 г. У той час, як Вялікая Беларуская Рада вяла падрыхтоўку кангрэсу зусім самастойна, не ўваходзячы ў жадны кантакт ні з цэнтральнаю ні зь мясцоваю Савецкаю ўладаю, Беларускі Краёвы Камітэт «вёў перагаворы з Урадам РСФСР і даў падпіску, што Беларускі кангрэс будзе за саветы. Але атрымаўшы ад савецкага ўраду грошы на скліканьне беларускага кангрэсу, зараз-жа абвясьціў дэклярацыю, што ён супраць саветаў і грамадзянскай вайны».[1]

---

[1] *За Савецкую Беларусь,* стар. 42.

Вялікая Беларуская Рада й Беларускі Краёвы Камітэт вялі паасобна падрыхтоўку ўсебеларускіх зьездаў — Рада к 5 сьнежня, а Камітэт к 8-му. Але было зусім відавочна, што паралельная праца двух зьездаў магла-б толькі аслабляць па сутнасьці адзіны фронт буржуазна-дэмакратычных элемэнтаў. Ува ўсякім разе супольнага паміж абедзьвюма арганізацыямі было значна больш, чымся рознага. Для аб'яднаньня зьездаў досыць было таго факту, што перад абедзьвюма арганізацыямі стаяла вялікая пагроза з боку шырокіх працоўных мас Беларусі ў васобе маладое Савецкае ўлады, якая да гэтага часу ўжо арганізавалася ў краёвым маштабе. Ня толькі рабочыя, а й працоўнае сялянства было супраць намераў беларускіх арганізацыяў адарваць Беларусь ад новае Савецкае Расіі. Беларускія працоўныя масы ня былі супраць самае ідэі аўтаноміі Беларусі. Гэта яскрава відаць з далейшае гісторыі Беларусі, калі яна станавілася й стала самастойнай савецкаю рэспублікаю. Але ў той час у сьнежні 1917 г., калі сялянскія масы ўразумелі, што для іх нясе Савецкая ўлада, калі яны адхіснуліся нават ад сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якія мелі да таго часу фактычную манаполію сялянскае партыі, сяляне добра ўсьведамлялі сабе, што падтрыманьне беларускіх аўтанамістаў і незалежнікаў, што сабраліся на беларускі зьезд, ёсьць аслабленьне запраўднае народнае ўлады, улады саветаў. І таму на сваіх зьездах дружна галасавалі за рэзалюцыі, прапанаваныя бальшавікамі. 3-ці Сялянскі Зьезд Менскай і Віленскай губ. у сьнежні 1917 г. прыняў, напр., рэзалюцыю, у якой заявіў, што, «абмеркаваўшы пытаньне аб краёвым кіраўніцтве Беларускага краю і аб скліканьні Беларускай Радай беларускага зьезду, ня прыняў пад увагу жаданьня беларускага народу мець асобнае кіраваньне, знаходзіць, што Беларусь ёсьць неразьдзельнае цэлае вялікай рэвалюцыйнай Расіі, а таму да зьезду Беларусаў, склікаемых Вялікай Беларускай Радай, сялянскі зьезд адносіцца адмоўна».

Ня мог спадзявацца падтрыманьня з боку працоўных і зьезд, які склікаўся Беларускім Краёвым Камітэтам.

Абодва зьезды злучыліся й назвалі сябе першым Усебеларускім Зьездам. На аб'яднаным зьезьдзе было 1167 чал. з пастаноўчым голасам і 705 з дарадчым. У праграме зьезду ня было ніводнага пункту, які-б мог па сутнасьці аб'яднаць усіх дэлегатаў зьезду. Калі для большасьці зьезду асноўнай прычынай аб'яднаньня нацыяналістычных элемэнтаў зь Вялікае Беларускае Рады з элемэнтамі русыфікатарскімі зь Беларускага Краёвага Камітэту быў страх перад арганізацыямі працоўных — саветамі, то трэба сказаць, што сярод дэлегатаў зьезду быў значны лік такіх, якія стаялі за Беларусь савецкую. Гэты факт знайшоў сваё адлюстраваньне нават у рэзалюцыі Зьезду. Зьезд пастанавіў «зараз-жа арганізаваць з свайго складу орган краёвае ўлады ў васобе Ўсебеларускага Савету Сялянскіх, Салдацкіх і Рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіраваньня краем». Гэтая пастанова аб *часовым* Усебеларускім Савеце не магла быць выкліканая нічым іншым, апроч націску з боку рэвалюцыйнае часткі зьезду. Уся дзейнасьць Вялікае Бел. Рады й Бел. Краёвага Камітэту да самага адчыненьня зьезду не дае ніякае падставы дапусьціць, што кіраўнікі зьезду запраўды стаялі за савет дэпутатаў, хоць-бы й часовы. Зьезд гатоў быў прызнаць Савецкую ўладу ў Расеі, але толькі не на Беларусі. Гэтае прызнаньне падобнае да таго, якое было зроблена Вільсанам, калі ён прыслаў прывітань-

не Ўсерасійскаму зьезду саветаў: мы можам цярпець савецкую ўладу ў Расіі, але, Божа барані ад яе нашу краіну — толькі такі сэнс мела гэтае прызнаньне.

Асноўнае ў пастанове Зьезду было абвяшчэньне Беларускае дэмакратычнае рэспублікі. Зьезд заявіў, што ён «зацьвярджае рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларусі». Гэта бясспрэчна той лад, пра які Лёсік пісаў у сваёй брашуры «Аўтаномія Беларусі», толькі з большым праблiжэньнем да незалежнасьці; гэта рэспубліка дэмакратычная, але не савецкая, значыцца буржуазная. Сучаснасьць ведае толькі два гэтыя віды дэмакратыі: буржуазную й савецкую.

Зьезд не давёў свае працы да канца. Ня было патрэбы чакаць далейшага выяўленьня яго сацыяльнага твару. Бясспрэчным стала адразу, што зьезд хоча замяніць сваім выбарным органам ужо існаваўшы краёвы орган Савецкае ўлады — Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Заходняга Краю. Як-бы ні назваў зьезд свой выбарны орган — адно было відавочна: замест улады саветаў, арганізаванае й працаваўшае пад кіраўніцтвам партыі бальшавікоў, мела існаваць улада, арганізаваная прадстаўнікамі буржуазнае дэмакратыі. Якія тэндэнцыі былі схованы ў гэтых плянах зьезду, цяпер яскрава відаць з таго факту, што найбольш актыўныя ўдзельнікі й кіраўнікі зьезду заявілі сябе праз нядоўгі час пасьля зьезду адкрытымі ворагамі саветаў, і некаторыя зь іх застаюцца такімі да гэтага часу. Ды й перад зьездам яны глядзелі на Кастрычнікавую рэвалюцыю, як на «віхор бязладу».

Пра запраўдныя адносіны кіраўнікоў зьезду да Савецкае ўлады бясспрэчна сьветчыць тая характарыстыка, якую яны, цяпер ужо пакаяўшыся, давалі ўладзе працоўных у зьвязку з роспускам зьезду. «Цепляясь за свою власть и боясь, что народ взявшийся за дело творения своей государственности, выкинет их из застенка, они вооруженной силой разогнали Всебелорусский С'езд», кажа А. Цьвікевіч, якога цяпер Савецкая ўлада Беларусі прыняла ў свой «застенок», калі ён прызнаў поўнае банкруцтва сваіх тагачасных палітычных ідэалаў.

У справе ўзаемаадносін з Расіяй пляны кіраўнікоў зьезду былі значна больш незалежніцкімі, чымся гэта можна было ў той час заявіць публічна. Аб гэтым сьветчаць самі прыхільнікі ўсяе палітыкі зьезду. «Зьезд гэты пастанавіў прыступіць да арганізацыі Беларускай Народнай Рэспублікі, *праўда, згодна з духам моманту і рэальнымі варункамі яшчэ ў фэдэрацыі з Расеяй»*, (падкрэсьлена намі Г. П.), расказвае А. І.[1]

Савет Народных Камісараў Заходняга Краю, для якога на першым месцы былі інтарэсы рэвалюцыі, гэта значыць сацыяльныя інтарэсы працоўных, пастанавіў распусьціць зьезд. «Гэтая барацьба, — заявіў Савет Народных Камісараў у зьвязку з роспускам зьезду, — ня супраць працоўных Беларусі, якія толькі й маюць права вырашыць пытаньне аб нацыянальным самавызначэньні, і толькі сам народ можа рашыць яго правільна ў інтарэсах працоўнага сялянства і рабочых, а супроць рускай і беларускай буржуазіі, якія імкнуцца ашукаць і зьняволіць працоўныя масы ўсякімі

[1] *Усходняя Беларусь,* Менск, 1918 г.
Поўны і зусім бясспрэчны ў вывадах аналіз сацыяльнага характару зьезду і яго дзейнасьці зроблены Чарвяковам у кнізе «За Савецкую Беларусь», ст. 45–48.

абходнымі й простымі шляхамі й спосабамі. Мы ўпэўнены, што беларускі народ з намі, бо яго інтарэсы — гэта й нашы інтарэсы, яго ворагі — нашы ворагі... Мы упэўнены, што гэты беларускі народ падтрымае тут у краі тыя арганізацыі савецкай улады, якія ўтвораны і пры яго-ж удзеле. Тыя-ж арганізацыі, якія яшчэ ня маюць сваіх прадстаўнікоў у Цэнтральным органе краёвай улады, выбяруць і пашлюць іх туды».[1]

18-га сьнежня Зьезд на нелегальным пасяджэньні выбраў свой выканаўчы орган — Савет Зьезду з 57 членаў. Савету было даручана ажыцьцяўленьне ўсіх пастаноў Зьезду. «Ему было завещано взять в свои руки власть на Белоруссии в тот момент, когда это окажется возможным», кажа А. Цьвікевіч.[2] Сталым органам для выкананьня пастаноў Зьезду стаў Прэзыдыюм Савету, бо члены Савету праз кароткі час разьехаліся зь Менску.

Ні Савет Зьезду ні яго прэзыдыюм ня мог, разумеецца, ажыцьцяўляць пастаноў зьезду, бо рэальная ўлада была ў руках саветаў раб., с. і с. дэпутатаў, аўтарытэт якіх усё ўзрастаў разам з пашырэньнем сярод працоўных ведаў аб практычных мерапрыемствах Савецкае ўлады ў галіне зямельнага пытаньня, ваеннае палітыкі і г. д.

Аднак Савет Зьезду ні ў якой меры ня зьбіраўся адмаўляцца ад надзеі стаць урадам Беларусі. Узмацненьне саветаў раб., с. і с. дэпутатаў толькі павялічвала варожасьць да іх з боку Савету Зьезду й рабіла яго больш актыўным у барацьбе з уладаю працоўных.

**Г. Парэчын. Ідэя беларускай дзяржаўнасьці перад утварэньнем Савецкае Беларусі. *Беларуская Акадэмія Навук. Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук. Працы катэдры сучаснага права,* т. I, Менск, 1929, бб. 18–22.**

---

1 *«Кастрычнік на Беларусі»*, ст. 438.
2 А. Цьвікевіч. *Краткий очерк возникновения БНР*, ст. 11.

# ЗАЦЕМКІ

## «НАВІНЫ ГРОЗНЫЯ» 1563 ГОДУ

### Да гісторыі зачаткаў беларускіх газэтных выданьняў

У 1922 годзе, у № 2—3 часапісу «Беларускі сьцяг», што выдаваўся ў Коўні, на бачыне 55, зьмешчаная кароткая, падпісаная мянюшкаю Being, даведка: «Першыя беларускія часапісы». Даслоўны тэкст яе гэткі:

«У каталёзе Бодлейскай біблятэкі ў Оксфордзе (Англія), акром цэлага раду славянскіх кнігаў, зьмешчана сем непэрыядычных лістовак (рукапісны каталёг з 1684 г.):

1) Новіны грозные а жалостлівые о нападе княжаті Московского Івана на землю рускую, которі то князь паленьем, тыранством, мордованьнем, мест, замков добываньем, веліку і знаменіту шкоду вчыняет. З доданьем релацыей Его Мілості Гетмана В. К. Л. княжаті Радзівілла о поражцы места Полоцкаго, 1562.

2) Новіна іста а правдіва о добыті тыраном московскім места Полоцкаго, 1571.

3) Эдыкт з замку Полоцкаго, 1597.

4) Эдыкт з обозу под замком нашым Велікімі Лукамі, 1580.

5) Nova ex Livonia a Feria anno, 1602. Заключае навіны аб перамогах К. Хадкевіча ў Інфлянтах.

6) Новіны о взяті Смоленска, або тріумф радосны, 1610.

7) Новіны о шчастлівом поступаньні на царство Московское Найясьнейшаго Владыслава, Короля Польскаго, 1617. З дрэварытам выабражаючым Дарагабуж і Владыслава прыймаючага ў абозе паслоў маскоўскіх».

На зацемку гэтую дагэтуль нейк ніхто не зьвярнуў увагі. А яна цікавая вельмі й, асабліва, даведкай аб «Навінах грозных» — ці ня першай беларускай друкаванай, газэтнага тыпу, аднаразоўцы, што падавала ведамкі пра нязвычайна важныя падзеі таго часу, пра напад Івана Грознага на Вялікае Княства Літоўскае ды заўладаньне ім Полацка. Гэта «Навіны грозныя», відавочна, стаяць у зачатках усяго беларускага часапісьменства, як першае, у вялікай чарадзе розных пасьлейшых, часткова вышэй пералічаных, падобных экстраных выданьняў.

Што да самое зацемкі ў «Беларускім сьцягу», дык адзначыць найперш трэба памылку, яўна карэктарскую, у датаваньні. Свой наступ Іван Грозны пачаў у студзені 1563 году, Полацак паў у палове лютага, дык «Навіны» зьявіцца муселі ня ў годзе 1562-м, як, памылкова, надрукавана ў «Беларускім сьцягу», а ў 1563-м, і не раней месяца сакавіка гэтага году. Хто аўтар даведкі, скрыты пад мянюшкай Being, высьніць не ўдалося. Сп. Аляксандра Ружанец-Ружанцоў, які жыў у Коўні, калі «Беларускі сьцяг» там выдаваўся, ніякіх інфармацыяў у гэтай справе ня мог даць.

Росшукі ў Бадлейскай бібліятэцы Оксфордзкага ўнівэрсытэту, праведзеныя колькі год таму, на просьбу аўтара друкаванае гэтта зацемкі, з мэтаю разглянуцца за сьлядамі вышэй згаданых аднаразовак, ды, калі магчыма, спробваць знайсьці й самыя «Навіны грозныя», — вынікаў не далі. Адведзены на гэта парагадзінны ўсяго час, пэўна-ж, быў закароткі, каб мець падставу на нейкія канкрэтныя выснавы аб тым, існуюць сяньня ў Бадлейскай бібліятэцы «Навіны», ці не. У бібліяграфічнай, затое, літаратуры эўрапейскіх друкаў XVI стагодзьдзя, можна было натрапіць на шмат выданьняў 1563 году аналягічнага характару й зьместу аб упадку Полацка, як згаданае вышэй беларускае паведамленьне. Адначасна былі выяўленыя й некаторыя паказаньні, што, пацьвярджаюць выглядае, факт публікацыі «Навінаў грозных», дый даюць магчымасьць устанавіць навет і іх прыблізны зьмест.

Напад на Вялікае Княства Літоўскае ўзімку 1563 году зь вялікаю, колькісоттысячную сілаю войска, рабіўся Іванам Грозным з мэтаю захапіць Полацак, як ключ да важнага тады вельмі гандлёва-камунікацыйнага шляху, Дзьвіны, падбіць Лівонію, умацавацца на ўзьбярэжжы Балтыйскага мора. Быў гэта працяг тых крывавых лівонскіх войнаў, якія трывалі, зь перапынкамі, дваццаць пяць год ды закончыліся толькі за каралём і вялікім князем Сьцяпанам Батурым татальнаю апаразаю Масквы ды вызваленьнем Полацка й Лівоніі.

Жудасныя весьці пра вайну й масавыя крывавыя рэзі маскоўцаў жыхарства здабытых местаў, экстранымі паведамленьнямі разносіліся тады хутка па ўсёй Эўропе ды выклікалі абурэньне супраць зьверстваў Масквы й хвалю агульнае спагады да бязьвінных ахвяраў жорстокае агрэсіі Аб ходзе ваенных падзеяў і жудасьцях Маскоўцаў зьяўляліся тады надзвычайныя выданьні-газэты ў мовах нямецкай, лацінскай, ангельскай, галяндзкай, ды іншых. Прыкладам іх могуць быць наступныя шэсьць (усе з 1563 году):

1) Abschrift kurze und Verzeichniss des grossen und gewaltigen Feldzugs, so der Moscowiter für Polotzko d. 31. Jan. 1563 gebracht hat.

2) Memorabilis et perinde stupenda de crudeli Moscovitarum expeditione narratio e Germanico in Latinum conversa, Douai 1563, Boscardus.

3) Gravingellius J. R. Erschröckenliche Neue Zeitung, Nürnberg.

4) Ein Ney Leidt, Van Veynde dem Muscoviter wohe d. Könige uth Polen-unde Polotzk.

5) Zeitung (wahrhaft.) von dem Feind dem Moscoviter (Eroberung von Polocko).

6) Beschreibung der Einnahme von Polozk.[1]

Падобныя паведамленьні выдаваліся тады й у Польшчы ды Вялікім Княсьцьве Літоўскім. Ведамае, прыкладам, нясьвіскае выданьне ў мове лацінскай 1563 году Revelationes Niesviecenses, адзначанае польскім бібліяграфам К. Эстрэйхерам.[2] Зьместам да іх падобныя былі, напэўна, і беларускія «Навіны грозныя», бо хіба ня можа быць сумлеваў у тым, што й яны зьявіліся з тае самае нясьвіскае друкарні. Хоць у прыведзеным вышэй назове «Навінаў» і не сказана, дзе яны друкаваныя, ды на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў гэтым часе зь кірылічным шрыфтом была дзейная толькі адна, закладзеная пару год перад тым, друкарня ў Нясьвіжы. Колькі ўсяго месяцаў перад упадкам Полацка, у годзе 1562-м, у нясьвіскай друкарні Сымон Будны выдрукаваў дзьве беларускія кнігі: «Катихисіс» і «О оправданіи грешнаго человека пред Богом». Ня дзіва тады, што з пачаткам маскоўскае навалы, друкарня гэтая зразу-ж і была скарыстаная для друку «грозных» вестак пра наступ Грознага. Калі нейкі экзэмпляр «Навінаў» калі-небудзь удасца знайсьці, дык можна быць пераканаым, што

---

[1] Estreicher Karol. Bibliografia Polska. Kraków, 1882, t. VIII, б. 51—52.
[2] Тамсама.

шрыт іх будзе той самы нясьвіскі, што й кнігаў Буднага. Гэта шрыфт, формы якога пераняты із шрыфту Скарынавых кнігаў, і той самы, якім эвангельле, пасьлей, друкаваў у Цяпіне Васіль Цяпінскі.

Ужо з самога, пададзенага вышэй, загалоўку аднаразоўкі можна зрабіць і некаторыя выснавы аб яе характары ды зьмесьце. Відаць найперш, што «Навіны грозныя» мелі найменш два артыкулы: адзін агульны інфармацыйны, аб пачатку й ходзе вайны й яе жудасьцях, другі, вялікага гэтмана, аб упадку Полацка. «Реляцея» гэтмана Вялікага Княства Літоўскага, якім быў тады князь Мікалай Радзівіл Руды, гэта тыповае ў сучаснай газэтнай практыцы «паведамленьне галоўнакамандуючага». Раўнуючы «Навіны» да газэтнага тыпу публікацыяў, што разьвіліся пазьней, можна сказаць, што яны мелі характар аднаразовага, «экстранага» выданьня, прызначанага падзеі нязвычайнай, трывожнай, усіх абходзячай, усім вельмі важнай. Побач інфармацыйнага чыста заданьня — паведаміць аб грозных і сумных («жалостлівые») падзеях вайны, — «Навіны» былі сьціраваныя яўна й на тое, каб выклікаць абурэньне супроць жорсткага агрэсара ды рыхтаваць народ да абароны.

Надзвычайныя паведамленьні аб нападзе Івана Грознага й упадку Полацка падобна, як у іншых краёх Эўропы, зьявіліся гэтым самым часам і ў Чэхіі пачэску. Апублікаваны ў 1950 годзе том кнігапісу чэскіх старадрукаў натуе, прыкладам, праскае вьданьне 1563 году Сэбастыяна Оксы, з гэткім, вельмі цікавым, загалоўкам:

Noviny hrozné, strašlivé i žalostivé, kterak Neptalim veliké kniže Mozkevské, Jeho Milosti králi polskému atd. s znamenitým počtem lidu valečneho do země litevské vpadl, pálenim, mordovaním lidí obojího pohlavi, nekřest'anským a nestydatým zajímaním, měst a zámků dobyvánim, velikau znamenitau škodu učinil. Vytišteno v Starém městě Pražském u Šebastiana Oksa z Kolovsy, Léta atd. — LXIII (1563). 6 listů, vc 4.[3]

Калі прыраўнаць загаловак «Навінаў» чэскіх да загалоўка «Навінаў» беларускіх, дык уражае, найперш, факт, што пачынаюцца яны тымі самымі словамі «Навіны грозныя». Паўтараецца ў загалоўку й колькі іншых выразаў. Стуль даводзіцца зрабіць вывад, што чэскае выданьне робленае ці на падставе беларускага, ці нейкага падобнага, няведамага нам, выданьня польскага. З гэтага вынікае й той практычны выснаў, што, калі-б беларускіх «Навінаў» адшукаць не ўдалося, дык дакладнейшую ўяву аб іх зьмесьце можна было-б здабыць пазнаёміўшыся з тэкстам «Навінаў» чэскіх. Нажаль, чэскія бібліёграфы, падаючы назоў «Навінаў» чэскіх, адзначаюць адначасна, што сяньня ніводзін іх экзэмпляр не захаваўся.

Для больш дакладнага выясненьня абставінаў зьяўленьня гэтае першае ластаўкі беларускага часапісьменства, для знаёмасьці з тэкстам арыгіналу, важна вельмі, бязумоўна, было-б расшукаць экзэмпляр самых «Навінаў» грозных». Для гэтага найперш трэ' было-б пераглянуць дакладней бібліятэку, на якую паказвае ў сваей даведцы Being, Бадлейскую. Ведамы агульна факт, што некаторыя беларускія, ды іншыя кірылічныя старадрукі, куды лепш захаваліся на захадзе Эўропы, як у краёх свайго паходжаньня. Выясняецца гэта тым, што, дзеля інтэнсыўнага карыстаньня, на землях свайго прызначэньня друкі гэтыя хутка нішчыліся. Калі-ж яны траплялі на Захад, дзе рэдка хто іх мог чытаць і разумець, дый, асабліва, калі пападалі яны пад ахову нейкае бібліятэкі, там перахаваліся ў добрым стане аж да нашага часу. Яскрава гэты факт пацьвердзілі Барнікот і Сыммонс у працы 1951 году, публікаванай у Оксфордзе, у якой яны паведамляюць аб знаходзе ў бібліятэках Эўропы, пераважна Ангельшчыны, і, найперш, тойсамай бі-

[3] Knihopis Českých a Slovenských tisků od doby najstarší až do konce XVIII stoleti. Vydáva Narodni Knihovna v Praze. Rediguje Dr. František Horák. Dil II, čast V. Ročnik VIII. V Praze 1950, б. 311.

бліятэкі Бадлейскай, звыш дваццацёх няведамых перад тым кірылічных старадрукаў, дзьве траціны якіх паходзяць з друкарняў Беларусі, галоўна віленскіх.[4]

Кнігі і розныя іншыя друкі зь Беларусі ў Ангельшчыну ў тую пару траплялі найчасьцей праз тых ангельскіх купцоў, што наведвалі беларускія землі. Завязваўся, часам, з Ангельшчынай і ліставы кантакт. У рукапісных зборах тае самае Бадлейскае бібліятэкі перахоўваецца, прыкладам, вельмі цікавы, пісаны палацінску, ліст Сымона Буднага да гістарыяграфа ангельскай рэфармацыі Джана Фокса. Ведама таксама, што ў вясну 1574 году Буднага ў ашмянскім Лоску наведаў і даўжэйшую зь ім гутарку меў Raph Rutter, купец ангельскага гандлёвага таварыства The Muscovy Company, які ў іншым месцы палацінску названы Raphael Ritterus Londinensis, Anglicus Doctor. Гэта Рыттэр і намовіў Буднага напісаць ліст да Фокса. Пасярэднікам у ліставаньні Буднага з Фоксам меўся быць іншы ангельскі купец, прыяцель Рыттэра, Thomas Glovere, і ягоныя сваякі.[5] Вось праз Рыттэра, Глёвера ды іншых ангельскіх купцоў, якім даводзілася бываць у Вялікім Княсьцьве Літоўскім, і траплялі ў Ангельшчыну кірылічныя выданьні друкарняў Беларусі. Празь іх маглі трапіць туды, і навет ад самога Буднага й праз таго-ж Рыттэра, і «Навіны грозныя», бо Будны, у часе іх зьяўленьня зь нясьвіскай друкарняй быў вельмі цесна зьвязаны, і дзеля гэтага ён іх напэўна знаў і меў.

Калі «Навіны грозныя» зачаткі беларускага часапісьменства дазваляюць аднесьці да 1563 году й зьвязаць іх зь першай паскарынавай друкарняй Беларусі, друкарняй нясьвіскай, і хоць ведама, што падобных аднаразовых публікацыяў «навінаў» пабеларуску, у другой палавіне XVI, першай XVII стагодзьдзяў, было больш, ды гісторыя Беларусі пасьля пайшла ў гэткім кірунку, што да разьвіцьця беларускіх газэтаў і часапісаў у поўным значаньні гэтага слова ані ў стагодзьдзі XVI, ані XVII—XVIII, усё-ж не дайшло. Толькі роўна 300 год па «Навінах грозных», із зьяўленьнем у гадох 1862—1863 «Мужыцкае праўды» Кастуся Каліноўскага, даходзіць да далейшага важнага кроку ў гісторыі разьвіцьця беларускага часапісьменства. Хоць, дзеля нелегальнасьці свайго йснаваньня, «Мужыцкая праўда» зьяўлялася нерэгулярна й была кароткатрывалаю, дык усё-ж было надрукована яе 7 нумароў. Беларускім-жа рэгулярным, пэрыядычным часапісам пачатак даюць, пасьля скасаваньня расейскае забароны беларускага друку, толькі «Наша доля» й «Наша ніва» ў годзе 1906. Ад гэтага часу разьвіцьцё й рост беларускага часапісьменства ўжо ня спыняецца, не зважаючы на ўсе няспрыяльныя гістарычныя абставіны.

Важна, на заканчэньне, адзначыць і характэрны вельмі, бясспрэчна геапалітычным палажэньнем Беларусі й гісторыяй абумоўлены факт, што ўсе тры вехавыя для гісторыі беларускага часапісьменства выданьні — «Навіны грозныя», «Мужыцкая праўда» й «Наша доля» з «Нашай нівай» — зарадзіліся як органы нацыянальнае самаабароны беларускага народу перад загрозаю Масквы. «Навіны грозныя» зьяўляюцца 400 год таму ў часе крывавае агрэсіі Маскоўшчыны Івана Грознага на землі Беларусі, «Мужыцкая праўда» паўстае як рэвалюцыйны кліч да змаганьня за вызваленьне народу «зь няволі маскоўскай», а «Наша доля», і яе беспасярэдняя пасьлядоўніца, «Наша ніва», засноўваюцца на пачатку XX стагодзьдзя для таго, каб праводзіць гэтае змаганьне ў рамах легальных магчымасьцяў расейскага самаўладзтва.

*Р. Максімовіч*

---

[4] Barnicot J. D. A. and Simmons J. S. G. Some unrecorded Early-printed Slavonic Books in English Libraries. Oxford Slavonic Papers, vol. II. Oxford, 1951, б. 98—118.

[5] Kot Stanisław. Oddziaływanie braci polskich w Anglji. „Reformacja w Polsce". Rocznik VII—VIII. Warszawa, 1936, б. 219.

# ДА СПРАВЫ ПАХОДЖАНЬНЯ НАЗОВУ «БЕЛАЯ РУСЬ»

Надрукаваная ў 3-яй кнізе «Запісаў» 1964 году каштоўная праца Паўлы Урбана «Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага...» цікавая найперш масаю прыцягнутых да пытаньня фактаў і цытатаў із жаролаў. Хоць падзагаловак працы «У парадку дыскусіі» да яе быццам і запрашае, гэтая кароткая зацемка пісаная, аднак-жа, не для дыскусіі, а каб зьвярнуць увагу на некаторыя важныя, датычныя тэмы, а неахопленыя ў працы, факты.

Перад заўвагамі ў справе назову «Белая Русь», да шматлікіх, прыведзеных аўтарам, сьветчаньняў пісьменнасьці аб пануючым калісьці ў Эўропе паглядзе на Літву, як на край і народ славянскі, хочацца дакінуць і яшчэ адзін, які трапіўся якраз пад рукі: выказваньне ў папулярнай у сваю пару, друкаванай у 1493 годзе ў слаўнай друкарні Антона Кобэрга ў Нюрнбэргу «Хроніцы сьвету» Шэдэля: Hartman Schedel. Das buch der chroniken und geschichten. Nürnberg, 1493. Тамака, на бачыне CCLXXVIII, у вопісе Літвы — Littaw — пра мову яе народу кажацца: Das gezueng diss volks ist Windisch («Мова гэтага народу вэндыйская», значыцца славянская). Хроніка Шэдэля перавыдавалася вялікімі тыражамі колькі разоў панямецку й палацінску, і пашыраная была па ўсёй Эўропе. У гісторыі інкунабульнага друку слаўная яна найперш сваім вялізным — звыш дзьвёх тысячаў — лікам ілюстрацыяў. Апрача цікавых інфармацыяў аб Ліцьве, важнае значаньне яе й у гісторыі беларускага друку, бо ейныя ілюстрацыі мелі яўнае ўзьдзеяньне на графічна-ілюстрацыйнае афармленьне першых «інкунабулаў» беларускага друку — кнігаў Скарынавае праскае Біблії.

У пытаньні часу й прычынаў зьяўленьня на беларускіх землях назову «Русь» П. Урбан, згодна із сучасным станам навуковых досьледаў, правільна адзначае, што назоў гэты на тэрыторыю Беларусі пашырыўся зь Кіеўшчыны зь перанятым пры пасярэдніцтве Кіева хрысьціянствам, і, спачатна, азначаў праваслаўную «рускую» рэлігійную прыналежнасьць. Другое, бясспрэчна правільнае сьцьверджаньне аўтара, што назоў «Белая Русь» ад стагодзьдзяў XVI—XVIII да беларускіх земляў тарнавала, і на іх пашырала, найперш Масква.

Выклікаюць, затое, засьцярогі некаторыя іншыя высновы працы. Хоць спачатку аўтар кажа, што «гісторыя ўзьнікненьня апошняга тэрміну («Беларусь», С. Б.) нам няведамая, і пытаньне гэтае застаецца неразьвязаным у гістарыяграфіі» (б. 78), адылі на бачыне 83 ён сьцьвярджае, што «тэрмін... «Белая Русь» ці «Беларусь...» сьпярша й даўжэйшы час прымяняўся вылучна да Маскоўшчыны й прылеглых да яе земляў. З гэтае прычыны маскоўскі вялікі князь Іван III часта тытулаваў сябе й як «князь Белай Русі».

Ды назоў «Белая Русь» у памятках пісьменнасьці сустракаем куды раней, як яго, у вапошняй чверці XV стагодзьдзя, у сваім тытуле пачаў скарыстоўваць маскоўскі князь Іван III, і сустракаем якраз ня ў пісьменнасьці маскоўскай, а заходня-эўрапейскай. Гэтак, назоў «Белая Русь» ужывае часта баварскі паэта XIV стагодзьдзя, Пётра Зухэнвірт, у сваіх вершаваных вопісах ваенных наездаў паловы XIV стагодзьдзя нямецкіх Крыжаносаў і Мечаносаў на тэрыторыю Беларусі, найперш тэрыторыю крывіцкае Полаччыны й Пскоўшчыны. У Зухэнвірта сустракаем гэткія, і падобныя ім, фразы: Die Weizzen Reuzzen heten mut zu raisen auf die Christen. У 1351 годзе «Белая Русь» ужытая і ў вугорскай хроніцы Chronicon Dubnicense, а ў годзе 1382 ведамы польскі храністы, Янка з Чарнкова, піша: in castro Albae Russia, Polock dicto. Ужо ў 1413 годзе ўжытая яна й у дыпляматычнай грамаце.

Праяваю агульнага тады на Захадзе ўяўленьня, што «Белая Русь» знаходзілася нейдзе на ўсход і поўнач ад тэрыторыі лівонскіх Мечаносаў, быў факт, што выдатныя эўра-

пейскія картографы першае паловы XVI стагодзьдзя край Russia alba звычайна зьмяшчалі на прасторы між Полацкам і Вялікім Ноўгарадам, як гэта ёсьць на карце Orbis universalis descriptio 1527 году Робэрта Торна, Orbis imagine 1538 году слаўнага Гергарда Мэркатара, або італьянскай карце 1548 году Якуба Гастальды (Russia bianca). Усе гэтыя факты сьветчаць аб тым, што найранейшая ведамая сяньня лякалізацыя назову «Белая Русь» зьвязвалася на захадзе Эўропы з крывіцкімі землямі паўночнае Беларусі.

Калі маем шмат довадаў на тое, што ўжо ў палове XIV стагодзьдзя на захадзе Эўропы назоў «Белая Русь» быў шырака знаны, дык існаваць ён мусіў і перад гэтым, найменш ужо ад пачаткаў XIV стагодзьдзя, а зарадзіўся, найхутчэй, і яшчэ раней, ці ня ў другой палове стагодзьдзя XIII-га. Вось вышэй прыведзеныя канкрэтныя факты неабходна й браць наўвет пры спробе высненьня часу й месца зараджэньня назову «Белая Русь». Яны, у кажным выпадку, не сумяшчаюцца зь цьверджаньнем аўтара, што «тэрмін . . . «Белая Русь» . . . *сьпярша* й даўжэйшы час прымяняўся *выключна* да Маскаўшчыны». Блізу чатыры стагодзьдзі таму ведамы храністы, Аляксандра Гваніні, меў зусім супроцьлежны пагляд, бо ў сваёй кнізе Sarmatiae Europeae descriptio пісаў, што землі Маскоўшчыны даўней называліся «Чорнаю Русяй». Тоесамае пацьвердзіў крыху пазьней і Сымон Старавольскі. Аб Маскоўшчыне, як «Чорнай Русі», пісалі й аўтары арабскія.

Трэба зыркую, крытычную ўвагу зьвярнуць, адначасна, і на ўсе папярэднія спробы высьненьня месца й прычыны паўстаньня назову «Белая Русь», асабліва аўтараў XIX стагодзьдзя — Ламанскага, Драгаманава, а пазьней Сулімірскага, ды й шмат іншых. Даўно, прыкладам, існуе пагляд, што падобна, як адным з вынікаў прыйма ўсходнеславянскімі народамі хрысьціянства было пашырэньне на іх тэрыторыі зь Кіеўшчыны назову «Русь», гэтак мангольская навала з прастораў сьцепавое Азіі XIII стагодзьдзя ды захоп у «татарскае ярмо» земляў Маскоўшчыны й Украіны, былі тымі гістарычнымі фактамі, што давялі да зьяўленьня назову «Белая Русь» на азначэньне прастораў, якія ад татарскага ярма былі вольныя. Згодна з гэтым паглядам і Маскоўшчына гэты назоў стала да сябе тарнаваць тады, калі пачала вызваляцца ад татарскае залежнасьці, што ў канцы й удалося вялікаму князю маскоўскаму Івану III. Стуль і зьяўленьне ў ягоным тытуле «князь Белое Русі», хоць назоў гэты пры Маскоўшчыне-Расеі так і ня ўтрымаўся.

Вышэй прыведзеныя гіпатэзы й тлумачэньні, пэўна-ж, могуць быць правільнымі й не, можна аб іх дыскутаваць, можна згаджацца зь імі, або не. Але, пры ўсякай паважнай спробе высненьня часу, месца й прычынаў зараджэньня назову «Белая Русь» браць на ўвагу іх трэба. Асабліва ня можна абмінаць вышэй прыведзеныя канкрэтныя факты пашырэньня, яшчэ ад першае паловы XIV стагодзьдзя, на захадзе Эўропы назову «Белая Русь» у дачыненьні да крывіцкіх земляў Полаччыны ды Пскоўшчыны.

*С. Брага*

## ФАКТЫ Й ПРАЎДА

У даволі вялікай, 752 бачыны друку, кнізе пад загалоўкам Mūsų Lietuva («Нашая Летува»),[1] аўтар, Б. Квікліс, падае «гістарычныя, геаграфічныя, этнаграфічныя нарысы» важнейшых мясцовасьцяў тэрыторыі не міжваеннае Летувы, ані сяньняшняе Лятувіскае ССР, але Летувы ў куды шырэйшых, ім самым зарысаваных, межах. У справе вялічыні свае надуманае Летувы аўтар піша: «Пра-

[1] Mūsų Lietuva. Krašto vietovių istoriniai, geografiniai, etnografiniai bruožai. I tomas. Paruošė Bronius Kviklys. Lietuvių Enciklopedijos Leidykla. Boston, 1964, 752 б.

стора будучае Летувы, адбудаваўшы незалежнасьць, у этнаграфічных межах магла-б дасягнуць 105 000 кв. км.» (міжваенная Летува мела прастору ўсяго 56 670 кв. км., А. Б.). Мяжа гэтае «будучае» Летувы ад беларускага боку «ішла-б прыблізна праз Друю, Браслава, Пастаўе, Маладэчна, Валожына, Мікалаеўшчыну, Індуру, Аўгустова» (б. 16).

Далей аўтар вялікадушна зазначае, што «ў гэтую прастору не ўвайшла-б цэлая чарада іншых лятувіскіх земляў, да якіх Летува мае старыя й моцныя гістарычныя правы: абеларушчаныя Дзісенскі й Вялейскі паветы, ды землі Слонімшчыны, Наваградчыны, што ўразаюцца ў нетры Белавескае пушчы; гэта спадчына старых крэўных Лятувісаў, Яцьвягаў, што прыпала не сваяком вымардаваных, а забойцам» (б. 16). Паколькі Масква, пасьля апошняе сусьветнае вайны, большую частку Белавескае пушчы адрэзала ад Беларускае ССР і перадала Польшчы, дык, выглядае, у «забойсьцьве» старавечных Яцьвягаў вінаваціць аўтар і Беларусаў, і Палякоў!

Здвоеная, на паперы, прастора Летувы, як відаць наглядна зь першага тому выданьня, абыймаць мае тэрыторыі гэткіх беларускіх, апісаных у кнізе, паветаў: Віленскага, Троцкага, Вялейскага, Маладэчанскага, Ашмянскага, Валожынскага, Лідзкага, Шчучынскага, Горадзенскага, Браслаўскага, Сьвянцянскага. Паколькі ў томе першым апісваецца толькі адзін моўна запраўды лятувіскі павет, Зараскі, ды колькі воласьцяў зь лятувіскім жыхарствам пары паветаў іншых, дык аўтар, на звыш 700 бачынах кнігі апісвае ў запраўднасьці чыста беларускія этнічна землі ды старавечныя беларускія селішчы. Чыніць ён гэта ў гэткі спосаб, што адзначае праявы культурна-грамадзкага жыцьця найперш каталіцкага жыхарства тэрыторыі, выходзячы із свайго пагляду, што Беларусы каталікі, гэта Лятувісы, якія толькі тавораць пабеларуску, бо абеларушчыліся.

Да аснаўнога зьместу кнігі, вопісу селішчаў дадзенае тэрыторыі, дададзеныя яшчэ ў томе й тры разьдзелы: «памяткі лятувіскай культуры й лятувіскія селішчы ў Беларусі», «старадаўныя месцы лятувіскага пасяленьня ў Беларусі» й «калёніі Лятувісаў у Беларусі». Гэткім парадкам у кнізе ахопленая й уся рэшта беларускае тэрыторыі аж да самых усходніх яе межаў. У разьдзел «старыя месцы лятувіскага пасяленьня ў Беларусі» трапіў, прыкладам, і «найбольш усходні», паводля аўтара, пункт Беларусі, Вязьма, і дзеля тае асаблівае прычыны, што стуль паходзіць найвыдатнейшы бібліяграф лятувіскага эміграцыйнага друку — Беларус Аляксандра Ружанец-Ружанцоў.

Зацемка гэтая пісаная не на тое, каб займаць месца й час на разгляд ультрапатрыятычных лятуценьняў аўтара аб будучай велічы ягонай Летувы. Зьвяртаецца тут увага толькі на некаторыя інфармацыі ў кнізе аб аднэй воласьці — вялейскім Вішняве, — паколькі пададзеныя яны як дакумэнтаваныя канкрэтнымі фактамі, хоць факты гэтыя значаць зусім ня тое, што, на аснове іх, намагаецца давесьці аўтар.

Вялейскае Вішнява (ёсьць і Валожынскае), гэта невялікае, вясковага тыпу, з каталіцкім касьцёлам, селішча, раскінутае вельмі маляўніча на ўзгор'ях паўночнага берагу Вішняўскага возера (возера мае 4.5 км даўжыні, 3.5 км шырыні). Жыхарства Вішняўскае воласьці, як і ўсіх суседніх, спрадвеку беларускае, — праваслаўнае ў усходняй часьці, каталіцкае ў заходняй. Ужо ад XIX стагодзьдзя Вішняўшчына дае й выдатных дзеячоў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Тут, у хвальварку Кавалі, нарадзіўся ведамы адраджэнец, паэта й этнограф Адам Гурыновіч (1869—1894). З Паляняў Вішняўскае воласьці паходзіў сацыял-рэвалюцыянер і публіцысты, міністар земляробства Беларускае Народнае Рэспублікі першага ўраду прэм'ера Язэпа Варонкі 1918 году, пазьнейшы міністар нутраных справаў БНР, Тамаш Грыб, які потым, на эміграцыі, аж да свае сьмер-

ці ў 1938 годзе, займаў становішча дырэктара Беларускага Замежнага Архіву пры Міністэрсьцьве Замежных Справаў Чэхаславацкае Рэспублікі. У міжваенную пару ў Вішняве жыў і, насуперак нясупынных прасьледаў польскае адміністрацыі, беларускую нацыянальна-грамадзкую працу ўвесь час кратаў, нашанівец Юстын Мурашка. У 1920-х гадох у суседняй, у Жойдзішнай, парахвіі, падтрыманы масава народам, змаганьне за права беларускае мовы ў касьцеле, аж да свайго засуду й зьняволеньня, адважна вёў а. Вінцэсь Гадлеўскі. Бурныя Жойдзішныя падзеі знаходзілі заўсёды жывы водгалас і сярод каталіцкага жыхарства парахвіі Вішняўскай.

У гадох 1886—1889 у Вішнява заглядаў часта й ведамы «бацька беларускага адраджэньня», паэта Францішак Багушэвіч, калі назіраў тут за справамі двара выдатнага польскага філялёга Яна Карловіча, ды й сам пры гэтым запісваў матар'ялы для свайго беларускага слоўніка. У Вішняве гэта, у сваім маленсьцьве, песьні беларускага народу слухаў Карловічаў сын, таленавіты пазьней кампазытар, Карловіч Мячыслаў (1876—1909). Ён запісваў пазьней ад сялянак Вішнява й недалёкіх Лешчанятаў ды Гаркалёў беларускія народныя мэлёдыі. Уражаны моцна глыбінёю выказанага ў песьнях пачуцьця, кампазытар стварыў на аснове іх колькі сымфанічных твораў, а між імі й слаўную «Літоўскую Рапсодыю», у лейтматыў якое пакладзеная беларуская жніўная песьня пары прыгону «Дый пара дамоў, пара». Аб рапсодыі гэтай сам Карловіч пісаў: «Хацеў зачараваць у ёй увесь жаль, сум і спрадвечную няволю таго народу, песьні якога ў маім маленсьцьве зьвінелі». Згадвае гэтую рапсодыю й аўтар «Нашае Летувы», хоць інфармуе хвальшыва, што пісаная яна пад уплывам «лятувіскіх калыханак і хаўтурных галашэньняў» (б. 233).

Дык беларускасьць жыхарства Вішнява й яго аколіцаў добра й шырака ведамая яшчэ ад мінулага стагодзьдзя. Ніякіх Лятувісаў на тэрыторыі воласьці, ані воласьцяў суседніх, няма. Ніхто із самых старых мясцовых людзей ня помніў, каб яны жылі там калі-небудзь і раней. Першыя вёскі зь лятувіскім жыхарствам пачынаюць сустракацца толькі колькідзесят кілямэтраў на захад ад Вішнява. Насуперак усім гэтым фактам, пра нацыянальнасьць жыхароў Вішняўскае воласьці аўтар кнігі піша вось што: «Падчас польскага валаданьня ў ваколіцах Вішнява было Лятувісаў ня шмат, але яны былі ў Антасіне, Сьпягліцы й Сьвінцы. Тут закладаліся й аддзелы Таварыства сьв. Казімера (лятувіская культурна-асьветная арганізацыя, А. Б.). 17. VIII. 1927 аддзел Т-ва сьв. Казімера быў заснаваны ў самым Вішняве. Ладзіліся лятувіскія прадстаўленьні, рэфэраты, былі скліканыя зборкі. Палякі, пэўне-ж, больш дзейных Лятувісаў прасьледвалі. Прыкладам, пасьля заснаваньня аддзелу Т-ва сьв. Казімера, польская паліцыя правяла допыты ўсіх сяброў, што ў гэтае Т-ва паступілі, але дапытваныя сьмела заявілі, што яны Лятувісы. Нейкі час тут дзеіла й літоўскае земляробскае таварыства. Жыхары прасілі школы «Рытас» (лятувіская школьная арганізацыя ў Польшчы», А. Б.), але Палякі не пазволілі на яе дзейнасьць» (б. 233).

Хоць, з аднаго боку, чыстая праўда, што ніякіх Лятувісаў у Вішняве, і вышэй памянёных вёсках, няма й ня было, дык, з другога, калі канцылярыйныя акты Вялейскага староства тае пары захаваліся, сярод іх можна было-б знайсьці й дакумэнтацыю таго, што ў 1927 годзе запраўды чыніліся спробы закласьці ў Вішняве й Антасіне лятувіскія арганізацыі. Ніякага «дзейнага» земляробскага лятувіскага таварыства затое, тамака ніколі ня было, ніякіх лятувіскіх школаў жыхары таксама не прасілі. Каб вывсьніць, як дайшло да гэткага дзівоснага парадоксу — спробаў закладаць лятувіскія арганізацыі на тэрыторыі з наскрозь беларускім жыхарствам, — трэба на коратка зьвярнуцца да гісторыі.

Увосені 1915 году нямецка-расейскі фронт Першае Сусьветнае Вайны дакаціўся да Вішняўскае воласьці й за-

пыніўся тут на пару доўгіх год. Вішнява, засьценак Антасіна, вёскі Сьвінка, Сьпягліца, Няхведы, і шмат іншых, апынуліся на самай пярэдняй лініі фронту па нямецкім боку, і неўзабаве былі дашчэнту зьнішчаныя агнём расейскае артылерыі. Тады гэта ў Вішняўскім двары з дымам пашла й багатая, каштоўная бібліятэка Карловічаў. Жыхарства ўсіх памянёных, як і шмат іншых селішчаў наваколься, нямецкія ваенныя ўлады эвакуавалі на захад. Калі-ж, па нейкім часе, уладам гэтым стала ясна, што фронт затрымаецца тут на даўжэйшы час, тады тысячы высяленцаў былі перакінутыя яшчэ далей ад фронту, пад Прусію, пераважна ў валасьці павету Шакі былое Ковенскае губэрні, і там яны заставаліся праз усю нямецка-расейскую вайну, а, пазьней і польска-савецкія войны.

Вярнуцца на свае, зьнішчаныя вайною, сялібы, эвакуаваныя змаглі толькі пасьля 5-6, а некаторыя й аж па 8-мі гадох. Ворнае поле за гэты час зарасло густым, да двух сажняў увышкі, бярэзьнікам. Паваротцам гадамі даводзілася жыць у зямлянках, бо будавацца ня было за што й калі — рупіцца кажны мусеў найперш пра хлеб. Трэба было сячы, выкарчоўваць, і зь вялікім трудам узорваць удзірванелую ніву. Непасільная праца напоўгалодных, часта без дапамогі цяглае конскае сілы, — гэта нідзе неапісаная, і, бадай, наагул у гістарычнай літаратуры дадзенага часу нікім незаўважаная, герaічная эпапэя сялян зьнішчаных вайною вёсак Вішняўскай, Войстамскай, ды іншых прыфрантовых валасьцяў Вялейшчыны. Вось, за час свайго доўгага прабываньня на выгнаньні ў Ковеншчыне, вішняўцы, атнасінцы, сьвінчане й сьпягляне й навучыліся лятувіскае мовы, а іхныя дзеці пабывалі навет і ў лятувіскіх пачаткавых школах. Ня дзіва тады, што ўся моладзь дасканала гаварыла палятувіску, разумелі гэтую мову й старэйшыя.

Каля паловы 1920-х год, калі сялянскія мазалістыя рукі ліквідавалі яшчэ астанкі ваенных зьнішчэньняў, польская касьцельная адміністрацыя на пробашча Вішняўскае парахвіі прыслала сьвятара, што спракудзіўся ёй у нейкай іншай парахвіі сваёю лятувіскай прапагандай. Новы пробашч хутка пасьля пераезду зар'ентаваўся, што ў некаторых вёсках ягонае новае парахвіі людзі разумеюць, а навет і умеюць гаварыць палятувіску. Па нейкім часе ён, пры дапамозе колькіх, ксяндзу заўсёды паслушных, дэвотак, і пачынае захады, каб закласьці ў Вішняве аддзел лятувіскай арганізацыі. Для гэтае мэты зь Вільні выпісвае й прадстаўніка гэтых арганізацыяў С. Урбановіча (прозьвішча самога пробашча ў памяці не захавалася), які, зь ягонага даручэньня й аб'яжджае Антасіну, Сьвінку, Сьпягліцу. Гэтак у Вішняве й Антасіне ўдаецца сабраць колькі й подпісаў, патрэбных на тое, каб да старасты ў Вялейцы накіраваць афіцыйную заяву ў справе закладзінаў аддзелу Т-ва сьв. Казімера ў Вішняве.

Для польскага старасты ў Вялейцы факт гэты быў ня толькі неспадзеўкаю, але выглядаў і на нейкую абразьлівую нагласьць — закладаць у межах ягоных адміністрацыйных валаданьняў непажаданую, і польскай шавіністычнай палітыцы прынцыпова праціўную, лятувіскую арганізацыю там, дзе кажны ведаў, што ніякіх Лятувісаў няма. Дазволу на закладзіны аддзелу таварыства стараста, ясна, ня даў, а паліцыя, на ягоны загад, і запраўды некаторых апытвала, як да подпісаў пад заяваю дайшло. Беларускае жыхарства спрытныя захады пробашча трактавала як дасьціпны жарт і заслужаную насьмешку над той польскай адміністрацыяй, якая засноўваць беларускія арганізацыі ня толькі не дазваляла, але сваімі паліцыйнымі дакукамі назаляла й тым, што выпісвалі беларускія газэты. У хуткім часе па гэтым, польскія касьцельныя ўлады забралі зь Вішнява неспакойнага, дасужага, пробашча, і пра ўсё здарэньне, як справу хоць і пацешную, але малаважную, людзі хутка забыліся.

Вось гэткія былі абставіны нядошлае спробы закладзінаў лятувіскіх арганізацыяў сярод нелятувіскага

жыхарства Вішняўскае воласьці. Пададзеныя ў кнізе факты, без належнага іх высьненьня, маглі-б і запраўды нейкага дасьледніка наводзіць на думку, што ў ваколіцах Вішняўскага возера жывуць, ці яшчэ нядаўна жылі, Лятувісы, як Б. Квікліс ужо й пробуе наўсуперак праўдзе, цьвердзіць. Каб да гэткіх непаразумленьняў у будучыні не даходзіла, была й пісаная гэтая зацемка.

*А. Багровіч*

## СПРАВА ПАХОДЖАНЬНЯ СЫМОНА БУДНАГА

Час і месца нараджэньня Сымона Буднага й дагэтуль ня высьненыя. Дзеля гэтага, і, удадатак таму, што побач мовы беларускай, царкоўнаславянскай, лацінскай, грэцкай, гэбрайскай, Будны знаў добра й мову польскую ды шырака ёю карыстаўся ў пісьме й друку, некаторыя польскія аўтары маюць нахіл ставіць дапушчэньне, што Будны нарадзіўся нейдзе на Мазуршчыне, быў мазуром, значыцца Паляком. Пагляды пра польскую нацыянальнасьць Буднага яшчэ напачатку гэтага стагодзьдзя выказваў Гэнрык Мэрчынг,[1] давесьці гэта намагаўся пасьля Станіслаў Кот,[2] згаджаўся зь ім Мсьціслаў Аляхновіч[3] дый некаторыя іншыя польскія аўтары. Гіпатэзу польскіх дасьледнікаў пра мазурскае паходжаньне Буднага пераняў цяперака, як даведзены быццам ужо факт, і Сымон Падокшын, які ў біяграфічным нарысе пра Буднага, надрукаваным на «Старонках беларускай энцыкляпэдыі» менскага «Полымя», піша: «Нарадзіўся ён у вёсцы Буды (Мазовія)».[4]

Тымчасам, у запраўднасьці, ніякіх дакумэнтных дадзеных пра мазурскае паходжаньне Буднага няма. Гэта толькі здогады й дапушчэньні. Існуюць, затое, зусім канкрэтныя факты, якія станоўка гэтаму пярэчаць ды паказваюць на беларускае паходжаньне Буднага. Усьведамляючы іх, з выказанай С. Котам думкай, што Будны мазур, адразу-ж сваім часам не згадзіўся й гэтаму запярэчыў, аўтарытэтны знавец польскае гісторыі, культуры й мовы, выдатны польскі вучоны Александра Брукнэр. У 1934 годзе, у ваднэй з рэцэнзіяў, ён пісаў: «Будны мае быць мазуром — ды скуль здабыў ён гэтулькі дазнаньня, а навет гэтак пераняўся рушчынай, што паруску («рускай» Брукнэр тут заве беларускую мову — Р. М.) і свае творы друкаваў, і ў сваёй польскай мове надточваў рушчынай?.. Не знайсьці ў яго аніводнага мазурскага слоўца».[5]

Да гэтае заўвагі А. Брукнэра дадаць трэба, што ў польскай мове Буднага няма ня толькі мазурскіх словаў, але ніякога сьледу й мазурскіх фанэтычных, ці іншых моўных асаблівасьцяў, хоць-бы, для прыкладу, ведамага «мазурэньня». Дык які зь яго мазур, калі аніразу, хоць-бы нехаця, забыўшыся, ён не мазурнуў? Польская-ж мова ягоных твораў мае, тымчасам, вельмі моцную і фанэтычную, і лексычную закрасу мовы беларускай. Прыкладаў гэтага тысячы. Гэткія,

---

[1] M e r c z y n g, Henryk. Szymon Budny jako krytyk tekstów biblijnych. Kraków, 1913.

[2] Zabytki literatury z doby Reformacji, Nr. 1. Pod redakcją Stanisława K o t a. Warszawa, 1932.

[3] O l e c h n o w i c z, Mścisław. Polskie zainteresowanie językiem białoruskim (Zeszyty naukowe Uniwersytetu Łódzkiego. Nauki humanistyczno-społeczne. Seria I, Zeszyt 36. Łódź, 1964. б. 90).

[4] П а д о к ш ы н, Сымон. Сымон Будны (Полымя, Мінск, 1966, № 7, б. 188).

[5] B r ü c k n e r, Aleksander. Рэцэнзыя на: Zabytki literatury z doby Reformacji, Nr. 1, pod redakcją S. Kota (Reformacja w Polsce, Rocznik VI, Nr. 21—24, Warszawa, 1934. б. 262).

чыста беларускія, словы й формы ягонае польскае мовы, як swar, szczyry, pomirzyli, uczyciel, miesca, szyroko, inszy, Christianski, po kraioch (у значэньні «бялюгох»), ды безьліч іншых, ясныя паказьнікі таго, зь якое моўнае й народнае стыхіі выйшаў Будны. Яны бясспрэчны довад таго, што рос і гадаваўся ён не ў навакольлі мазурскім-польскім, а беларускім, на этнічнай беларускай, а ня польскай прасторы. Зь ягонае дасканальнае веды мовы беларускай, якою пісаныя самыя першыя творы Буднага, а таксама з добрае веды мовы царкоўнаславянскай, вынікае, што гадаваўся ён у васяродзьдзі тым, дзе кірылічная — беларуская й царкоўнаславянская — пісьменнасьць была ў вялікай пашане й шырокім практычным ужытку.

Усе дапушчэньні польскіх аўтараў пра мазурскае быццам паходжаньне Буднага навязваюць да таго, што ў кнізе паступленьняў на Кракаўскі ўнівэрсытэт у 1544 годзе запісаны нейкі «Сымон з Буды», Буды, што на Мазуршчыне. Ды аніякіх няма довадаў на тое, каб Будны паходзіў зь нейкае Буды й што гэта запісаны якраз ён. Калі-ж прыняць за нейкае, нікім не ўстаноўленае, але прынятае С. Котам, правіла, што чалавек з прозьвішчам «Будны» мусіць канечна паходзіць з «Буды», дык трэба мець наўвеце, што на беларускай тэрыторыі Будаў куды больш, як на Мазуршчыне. Толькі ў межах сучаснае БССР існуе 140 селішчаў з назовамі Буда, Буды.[6] Калі-ж да гэтага ўзяць на ўвагу этнічна беларускія прасторы Падляшша, Беласточчыны, Віленшчыны, Дзьвіншчыны, Пскоўшчыны, Смаленшчыны, Браншчыны ды ўсе іншыя землі на ўсходзе, што сяньня вонках межаў БССР, дык Будаў на беларускай этнічнай тэрыторыі налічым колькі сотняў. Гэтая назова тыповая для тапанімікі этнічна беларускіх якраз земляў.

З другога-ж боку, як той самы А. Брукнэр кажа, само слова «будны» ня польскае, а «рускае», — і выводзіцца яно ад «будь день»: дзень не сьвяточны, дзень звычайны, дзень «будны».[7] Дык прозьвішча «Будны» ня польскае, а беларускае й паводля самой сваёй этымалёгіі. Тэзе пра польскую нацыянальнасьць Буднага пярэчыць і ягоны беларускі патрыятызм, яскрава выказаны ў прадмове да нясьвіскага «Катыхізысу», дзе Будны заклікае дзяцей князёў Радзівілаў пазнаваць ня толькі мовы «чужаземскія», але палюбіць і вучыцца й «слаўную мову» свайго народу. Калі-б Будны быў мазуром, і беларускае мовы, як дапушчае С. Кот, навучыўся толькі пасьлей для мэтаў прапаганды пратэстантызму сярод Беларусоў, незразумела тады, скуль у яго гэткі беларускі патрыятызм, «навучыцца» якога ня гэтак лёгка.

Пара Буднага — другая палавіна XVI стагодзьдзя — гэта час, калі сярод сацыяльных вярхоў Вялікага Княства Літоўскага й інтэлігенцыі шпарка ўжо шырылася веда мовы польскай, стуль добрае валоданьне польскай мовай у Буднага, побач беларускай, зразумелае. Палякі-ж другое палавіны XVI стагодзьдзя беларускае мовы звычайна ня вучыліся, хоць яшчэ пры канцы XV-га пабеларуску часта, а ніколі папольску, даваліся надпісы навет і на Вавэлі ў Кракаве, як, прыкладам, надпіс над грабніцаю караля Казімера Ягайлавіча й ягонай жонкі каралевы Альжбеты.[8]

У сваёй пісьменьніцкай дзейнасьці Будны свабодна карыстаўся трыма мовамі: беларукай, польскай, лацінскай. Моваю беларускай пісаў ён і вы-

---

[6] Жучкевич, В. А. Происхождение географических названий Белоруссии. Изд. Белгосуниверситета. Минск, 1961. б. 64.

[7] Brückner, Aleksander. Słownik etymologiczny języka polskiego. Wyd. 2-ie. Warszawa, 1957. б. 47.

[8] Соболевский. А. И. Материалы и исследования в области славянской филологии и археологии (Сборник Отделения русского языка и словесности Императорской Академии Наук. Том 88, № 3. С.-Петербург, 1910. б. 193—194).

даваў кнігі прызначаныя для беларускага народу. Палацінску — лісты да дзеячоў рэфармацыі захаду Эўропы ды некаторыя важнейшыя, агульнаэўрапейскага прызначаньня, рэлігійныя трактаты. Папольску — выданьні скіраваныя да й супроць «братоў» арыянаў польскіх. Для іх, найперш, і для Польшчы быў зроблены й ягоны, «ачышчаны ад прысад» (памылак і хвальшаваньняў), польскі пераклад Бібліі, які меў быць фундамэнтальным канчальным довадам правільнасьці рэлігійных паглядаў перакладніка.

Каб лягчэй давесьці свае пагляды й перакананьні да сьведамасьці й зразуменьня «братоў» польскіх, зь якімі Будны вёў войструю палеміку ў пытаньнях дагматычных і маральнаграмадзкіх, было толькі мэтазгодным пісаць і друкаваць моваю братом польскім найлепш зразумелаю — папольску. Гэта адна важная прычына шырокага ўжываньня Будным польскае мовы. У загалоўку аднаго, выдадзенага папольску, твору, Будны сам адзначае, што пісаны ён „Zborowi Bożemu języka polskiego używającemu" („O przednieyszych Wiary Christianskiey Artikulach", 1576).

Другая прычына тая, што ад паловіны XVI стагодзьдзя пачынаецца ўжо працэс моўнае палянізацыі беларускае — найперш пратэстанцкае й каталіцкае — інтэлігенцыі. Дзеля гэтага на частых супольных саборах-зьездах арыянаў польскіх зь літоўскімі (беларускімі), моваю нарадаў і спрэчак была мова польская, як зразумелая й братом літоўскім. Пры канцы XVI-га, пачатку XVII стагодзьдзяў, папольску часта пісалі й друкавалі свае палемічныя творы й гэткія выдатныя праваслаўныя дзеячы, як Сьцяпан Зызані ці Мялеці Сматрыцкі. Папольску шмат палемічнае літаратуры выдавала віленскае праваслаўнае брацтва. Шырокае карыстаньне польскаю мовай у пісьме й друку тагачаснымі дзеячамі й праваслаў'я, і пратэстантызму, яшчэ ня довад польскае іхнае нацыянальнасьці.

Калі канктрэтныя, найперш моўныя, факты даводзяць бясспрэчна, што Будны рос на этнічна беларускай, а ня польскай прасторы, дык тымчасам усё-ж няма бліжэйшых паказаньняў, скуль, зь якога павету Беларусі ён паходзіць. Але й пра гэта сяньня можна выказаць некаторыя здогады. З факту, што Буднаму добра былі ведамыя некаторыя нутраныя справы й падзеі 1530-х год блізкога ад Беластоку Супрасьльскага манастыра, падзеі з часоў ягонага маленства й зьвязаныя з учынкамі архімандрыта Сяргея Кімбара, дапушчаць можна, што Будны паходзіў зь недалёкае ад манастыра мясцовасьці, нейдзе ізь земляў беларускага Падляшша.

Усе вышэй прыведзеныя факты паказваюць, што няма ніякіх падставаў на тое, каб у «беларускую энцыкляпэдыю» пераймаць нікім недаведзеныя гіпатэзы некаторых польскіх аўтараў пра тое, быццам Будны «нарадзіўся ў Мазовіі», і, значыцца, мазур. Падчыркнуць, з другога боку, трэба, што, калі справа нацыянальнага паходжаньня Буднага й мае сваю акадэмічную цікавасьць для высьвятленьня праўды, дык менш яна важная практычна для гісторыка літаратуры. Калі-б раптам, неспадзеўкі, і зьявіўся нейкі дакумэнтаваны довад на тое, што Будны з паходжаньня й запраўды быў Паляком, гэта ў ніякім выпадку ня зьменіць факту, што ён выдатны пісьменьнік старое беларускае літаратуры, у якую ён сябе ўпісаў сам сваймі беларускімі творамі, і зь якое яго ніхто ўжо ня вычыркне, як зь гісторыі расейскага літаратурнага працэсу ніхто ня здолее вычыркнуць бясспрэчнага Беларуса з нацыянальнасьці Сымона Полацкага.

Сама-ж беларускасьць Буднага, з другога боку, ніякая перашкода адзначаць ягонае ці малое значаньне й у гісторыі польскай пісьменнасьці, а, таксама, гісторыі разьвіцьця рэлігійна-філязафічнае й грамадзькае дум-

кі ўсяе Эўропы, бо праз лацінскія творы й ліставаньне з Захадам, сьмелыя рацыяналістычныя думкі й пагляды Буднага шырыліся ня толькі на краі сумежныя Беларусі, але дасягнулі й Швайцарыі, далёкае Англельшчыны, а з часам, пасярэдня, дайшлі й да Францыі, і гэтак сталіся істотным фактарам, які стымуляваў поступ зўрапейскае думкі.

*Р. Максімовіч*

## КНІГАПІС

**Порецкий Я. И. Симон Будный — передовой белорусский мыслитель XVI века. Издательство Белгосуниверситета им. В. И. Ленина. Минск, 1961, 67 б.**

У трох разьдзелах гэтай кніжкі разгледжаныя тры аспэкты дзейнасьці Буднага: як асьветніка простага народу, як крытыка асноўных догмаў хрысьціянскай рэлігіі, як моваведа. У працы адчуваецца, з аднаго боку, неблагая знаёмасьць аўтара зь некаторымі творамі Буднага, а з другога — яна наглядна паказвае намаганьні ўбудаваць асобу й рэлігійна-філязафічны сьветагляд беларускага арыяніна XVI стагодзьдзя ў сучасныя дагматычныя катэгорыі падсавецкага марксізму. Ня відаць, затое, у ёй самастойнага глыбейшага ўнікненьня ў істоту грамадзкіх і духовых працэсаў Беларусі дадзенае пары й гісторыі беларускага народу наагул.

Прыкладам, пагляд Я. Парэцкага на сацыяльнае й нацыянальнае палажэньне беларускага народу ў пару Буднага паходзіць не із самастойнага вывучэньня актаў, фактаў і гістарычнае запраўднасьці, а ўзяты із сучаснае савецкае афіцыйнае гістарыяграфіі, што відаць з карыстаньня гэткімі стандартнымі штампамі падсавецкае прапаганды, як тое, што ў часы Буднага Беларусь была «паняволеная й аграбленая польскімі фэўдаламі» (б. 8). Калі-б нехта зажадаў у аўтара даць хоць адно канкрэтнае прозьвішча такога «польскага фэўдала» на землях Беларусі XVI стагодзьдзя, прывесьці яго ён-бы ня мог дзеля тае простае прычыны, што іх там тады ня было. Былі, пэўна-ж, як і ўва ўсіх тады народаў Эўропы, і ў Беларусі фэўдалы, былі магнаты й паны, але ў сваёй масе былі яны свайго, старавечна беларускага, паходжаньня й роду. Благія яны былі, ці добрыя, «грабілі» народ, ці не, але былі гэта фэўдалы ня «польскія», а свае беларускія.

Усе Хадкевічы, Валовічы, Сапегі, Кішкі, Глябовічы, Тышкевічы, Радзівілы, гаварылі тады, як і народ, пабеларуску. Пабеларуску вялі яны судовыя адміністрацыйныя й дзяржаўныя справы, пісалі акты, граматы, законы. Да паловы XVI стагодзьдзя, зь невялікімі выняткамі, усе яны былі яшчэ праваслаўнае веры. Толькі ад другой паловы стагодзьдзя сярод шляхты й магнатаў Беларусі пачынае шырыцца шпарка мода пераходу на пратэстанцтва, а пазьней, у вапошняй чверці стагодзьдзя, на каталіцтва. Але калі сваю веру мяняла тады шляхта па колькі разоў, як рукавіцы, гэтак хутка не мянялася беларуская яе мова, культурныя традыцыі, нацыянальнасьць. Хоць ад другой паловы XVI стагодзьдзя шырыцца ўжо, найперш сярод магнатаў, і веда мовы польскай, гэта, аднак-жа, не азначала яшчэ палянізацыі, бо й сваю беларускую ў часы Буднага яны зналі, ёю карысталіся. Моўная дэнацыяналізацыя беларускіх «паноў» прыходзіць толькі ў далейшых, у XVII—XVIII, стагодзьдзях.

Зь ініцыятывы й коштам якраз фэўдалаў Беларусі — Радзівілаў, Валовіча, Глябовіча, — 1562 годзе ў

Нясьвіжы наладжаная была друкарня для выдаваньня беларускіх кнігаў, і найперш кнігаў Сымона Буднага. У Заблудаве пад Беластокам, у 1569 годзе, верны сваёй праваслаўнай веры вялікі гэтман літоўскі Рыгор Хадкевіч прыхінае ўцекачоў з Масквы, друкароў Івана Хведаровіча й Пётру Мсьціслаўца, каб выдаваць свайму народу рэлігійныя кнігі — «Эвангельле», «Псалтыр». Колькі праваслаўных рэлігійных кнігаў выдае й канцлер Вялікага Княства, Астап Валовіч, якія друкуе ў друкарні Братоў Мамонічаў, а ў 1586 годзе выдае ён і кнігу сьвецкага зьместу пабеларуску — «Трыбунал обывателем Великого Княства Литовскаго» — у якой паясьненьне новай судовай сыстэмы Вялікага Княства. Праваслаўныя кнігі ці самі выдавалі, ці справе выданьня іх грашмі памагалі й друкаром, і рэлігійным брацтвам, наваградзкі ваявода Хведар Скумін, князь Багдан Агінскі, Сымон Война, Тэадарыт Сапега, Багдан Стэцкевіч ды шмат іншых «фэўдалаў» Беларусі канца XVI, пачатку XVII стагодзьдзяў. Іхныя імёны, прозьвішчы, гэрбы падаюцца на пачатку друкаваных кнігаў з вершаванымі панэгірычнымі эпіграмамі.

Ведамы выдатны канцлер, Леў Сапега, апрацаваў пабеларуску й друкам у 1588 годзе выдаў трэйцюю рэдакцыю слаўнага кодэкса законаў Вялікага Княства «Літоўскі Статут». У прадмове да статуту Сапега пісаў: «есьлі катораму народу ўстыд правоў сваіх няўмеці, пагатоўю нам, каторыя ня обчым якім языком, але сваім уласным правы сьпісаныя маем». Гэта аўтарытэтнае сьветчаньне вядучага беларускага фэўдала канца XVI пачатку XVII стагодзьдзяў аб тым, што не Палякамі сябе ўважалі фэўдалы Вялікага Княства Літоўскага, а пачуваліся да нацыянальнага адзінства з тым народам, беларуская мова для якога была моваю «сваею ўласнай». Гэта Сапега ў сваю рэдакцыю Статуту ўвёў і адмысловыя пункты, якія не дазвалялі чужынцам, і найперш Паляком, займаць у Вялікім Княсьцьве Літоўскім адказныя дзяржаўныя становішчы, а таксама валодаць зямельнаю маемасьцяй. Дык пранікнуць у стан фэўдалаў Беларусі польскім паном шлях быў адсечаны й законамі гаспадарства. Усе высокія, адказныя дзяржаўна-адміністрацыйныя становішчы Вялікага Княства Літоўскага ў XVI стагодзьдзі абсаджваліся толькі беларускімі магнатамі-фэўдаламі, ніколі польскімі.

Вось усіх гэтых красамоўных фактаў, што згрунту пярэчаць прапагандн ай тэзе аб «польскіх фэўдалах», як гаспадарох Беларусі XVI стагодзьдзя, ні Парэцкі, ні сучасныя іншыя падсавецкія аўтары, ня згадваюць. Ня згадваюць яны й таго, што на чале абаронных сілаў Вялікага Княства стаялі тады беларускія, а, навет, пераважна, і праваслаўныя, гэтманы. У 1514 годзе восемдзесяцітысячную маскоўскую армію ўшчэнт пад Воршай разьбіў слаўны князь Канстантын Астроскі, які, з удзячнасьці Богу за перамогу, збудаваў у Вільні царкву сьвятое Тройцы. У 1564 годзе вялікі гэтман Рыгор Хадкевіч, пазьнейшы выдавец кнігаў для народу ў Заблудаве, дазваньня зьнішчыў над рэчкай Улой, на друцкіх палёх каля Воршы, трыццацітысячную маскоўскую армію пад камандаю князя Шуйскага.

Ненавуковая хвальшывая прапагандная тэза аб тым, што ў XVI стагодзьдзі ў Беларусі былі не свае беларускія «фэўдалы» і «паны», а «польскія» ці «лятувіскія», сучаснай савецка-расейскай гістарыяграфіі канечная найперш на тое, каб тагачасную агрэсію Масквы на землі Беларусі прадстаўляць як акт «абароны» ці «вызваленьня» беларускага народу ад «польскіх паноў». Ведама, тымчасам, добра, што на захопленых часова Масквою беларускіх землях зразу заводзіўся ўціск і прыгон народу куды горшы, як у Вялікім Княсьцьве Літоўскім.

Калі вобраз культурна-палітычнага стану Беларусі пары Буднага аўтар падае не на аснове фактаў, а ў крывым люстры сучаснае савецкае гістарыяграфіі, дык падыход да паглядаў Буднага ў рэлігійных пытаньнях вы-

водзіцца таксама ня столькі з вывучэньня пісьменнае яго спадчыны, а галоўна з антырэлігійных установак савецкага рэжыму. Усе спробы аўтара прадставіць Буднага ледзь ня нейкім атэістым, разьмінаюцца з праўдай. Войстрыя атакі Буднага на тыя ці іншыя догмы каталіцкае ці пратэстанцкае цэркваў, або й на, адрозныя ад ягоных, рэлігійныя пагляды арыянаў польскіх, былі ведзеныя не з атэістычных матываў, але для доваду правільнасьці глыбокіх рэлігійных перакананьняў сваіх. Будны ў Бога верыў, і верыў бадай глыбей за сваіх каталіцкіх, пратэстанцкіх ці праваслаўных супраціўнікаў.

І ў сьвяты аўтарытэт Бібліі верыў Будны ня менш, а хучэй больш, як шмат якія каталіцкія тэалёгі, бо яму, як і ўсім пратэстантам, Біблія была адзіным жаралом праўды ў справах веры. Будны прызнаваў, што кнігі Бібліі былі калісьці пісаныя з Божага натхненьня, але дзеля памылак перапісчыкаў і сьведамых пераіначваньняў і хвальшаваньняў, з часам зьявіліся ў іх адступленьні ад першатэксту. Зьмены, памылкі, дапіскі выявіць і пастараніць, і ставіў сабе за заданьне Будны, калі прыступіў да грунтоўнага вывучэньня Бібліі й перакладу яе на польскую мову.

Да пастаўленага сабе заданьня перакладу Будны падышоў нязвычайна сумленна й грунтоўна. Ён казаў: «я не абыяк і не бяз вясла пусьціўся на гэтае мора перакладу..., а азіраўся, як кажуць, на ўсе бакі. Меў я на ўвеце грэцкія кнігі й ня толькі; працаваў я над лацінскімі, не пакідаў бяз увагі славянскіх». У Заславе, Хохле, Лоску, ці іншых падобных глухіх мясьцінах свайго краю, Будны патрапіў сканцэнтраваць багатую патрэбную літаратуру, якая давала магчымасьць раіцца ў справах перакладу з колькі дзесяткамі аўтараў, пачынаючы ад камэнтатараў Бібліі першых стагодзьдзяў хрысьціянства — Тэртуліяна, Эўзэбія, Эпіфанія, Гароніма, — а канчаючы на Эразьме Ротэрдамскім, Лютэры й сваім выдатным суродзічу — Францішку Скарыну. Дык цьверджаньне Парэцкага, што «Будны адзін зь першых паставіў камэнтаваньне Бібліі на навуковыя падставы» (б. 65), цалком абгрунтаванае, хоць, затое, неабаснаваныя, ізноў-жа, частыя намёкі аўтара на тое, быццам у васнове ягоных камэнтараў ляжалі нейкія сукрытыя атэістычныя матывы. Толькі год сто пасьля, з падобным грунтоўным крытычна-навуковым рацыяналізмам, як Будны, да разгляду тэксту Бібліі падыйшоў і ведамы філёзаф Сьпіноза на Захадзе. Прызнаць трэба, што для перакладное працы Будны меў на сваю пару й дасканалую, акадэмічную падгатову, бо, згодна зь ідэялам адукацыі XVI стагодзьдзя, быў ён вучоным «трымоўным» — homo trilinguis, — знаў тры «сьвятыя мовы»: лацінскую, грэцкую, гэбрайскую, побач добрае веды, у дадатак, моваў беларускай, польскай, і, чацьвертай «сьвятой», царкоўнаславянскай.

Паважная загана кніжыцы Парэцкага й тая, што калі аўтар увесь час у ёй зырка аглядаецца на абавязваючыя яго догмы падсавецкага марксізму, дык, затое, мала ўнікае ў справы й падзеі Беларусі пары Буднага. А, тымчасам, ня Маркс ці Энгельс, а яны абумовілі й наканавалі ягоны й рэлігійны, і, асабліва, грамадзкі сьветагляд ды вызначылі ход яго дзейнасьці. Будны, як і ягоныя літоўскія аднадумцы, былі з аднаго боку беларускімі прадстаўнікамі таго бурнага рэфармацыйнага ўзруху, што ламаў традыцыйныя царкоўныя догмы й пагляды, і ў большай ці меншай меры крануў тады ўсе краі захаду Эўропы. З другога, і Будны, і Цяпінскі, і ўсе іншыя літоўскія «браты», былі людзьмі вырослымі зь беларускіх культурна-духовых традыцыяў, дый жылі й дзеілі пад беспасярэднім уплывам справаў і гістарычных падзеяў Беларусі свае пары. Яскравы сьлед гэтага можна прасачыць на іх паступаньні, паглядах, пісьменнай спадчыне.

Пара Буднага ў Беларусі, побач рэфармацыйнага ўзруху, адзначаецца й чарадою цяжкіх крывавых войнаў дзеля агрэсіі Масквы Івана Грознага, войнаў, якія трывалі чверць стагодзь-

дзя, і закончыліся толькі із зламаньнем у канцы мілітарнае сілы Маскоўшчыны й вызваленьнем Полацка, Полаччыны й іншых, захопленых Масквою, беларускіх земляў. Вось у гэтых канкрэтных суворых падзеях эпохі й ключ маральна-грамадзкага становішча Буднага, Цяпінскага й літоўскіх братоў, становішча адрознага ад паглядаў арыянаў польскіх натолькі, што ў 1582 годзе між імі дайшло да поўнага разрыву. Ішло пра тое, што Будны, ці Цяпінскі, маючы беспасярэдня перад ачыма крывавыя ваенныя жудасьці, стаялі непахісна на маральным абавязку арыянаў, як і кажнага іншага грамадзяніна, бараніць, у патрэбе і мячом, свабоду сваю, грамады, народу, перад агрэсіяй лютага ворага. Яны, кансэквэнтна, апраўдвалі абаронную вайну, хоць асуджалі войстра вайну агрэсіўную. Будны, зь яўнаю думкаю пра Грознага, пісаў: «Калі тыран, або мучыцель які горды, не здавольваецца сваім гаспадарствам, і чужыя месты, княствы й землі сілаю забірае, — у гэткіх войнах хрысьціяніну служыць нягодна, бо гэткая вайна — разбой».

Пра абаронную вайну думкі Буднага былі гэткія: «Вайна бывае справядлівая, калі вядзецца не для гордасьці, не для жаднасьці, але для абароны сваіх межаў. Калі кароль, ці князь, зброю супроць сваіх ворагаў падымае, каб падданых ягоных не мардавалі, не вязалі, у няволю ня гналі, жонак і дзяцей ня гвалцілі, цэркваў не бясчэсьцілі, дзяцей не паганілі, або не забівалі, местаў ня пустошылі... Вайна з гэткіх прычынаў справядлівая й хрысьціянін можа із спакойным сумленьнем брацъ у ёй удзел».

У словах гэтых выразнае рэха падобных падзеяў, як 1563 году, калі, пасьля захопу Полацка Масквою, тысячы жыхароў места былі выразаныя. Жыды — старыя, дзеці й жанчыны, — патопленыя ў Дзьвіне. Пратэстанцкаму прапаведніку Тамашу, на загад Грознага, раструшчылі калamі галаву й цела кінулі ў палонку. Манахаў-бэрнардынаў Татары пасеклі. Скаванага ланцугамі полацкага праваслаўнага архіяпіскапа Арсенія, ваяводу Давойну, і дзесяткі тысячаў мяшчан, што ўцалелі ад маскоўскае масакры, пагналі ў Маскоўшчыну як нявольнікаў. Вось гэткая жорсткая гістарычная рэчаіснасьць Беларусі XVI стагодзьдзя ляжала ў васновах грамадзка-філязафічнага сьветагляду Сымона Буднага. І ня дзіва, што ў тымсамым 1563 годзе, у лісьце да галавы швайцарскае пратэстанцкае царквы, Булінгера, Будны наракае, што «празь меру часта наведваюць нас Татары, Маскоўцы, і іншыя барбары».

Польшча, аддзеленая ад Маскоўшчыны й ахоўваная ад гвалтаў Грознага вялікімі прасторамі беларускіх земляў, не адчувала тады беспасярэдняе ваеннае загрозы ад «барбараў», падобных жахаў вайны не перажывала. У тымсамым часе, калі радзімыя землі Буднага крываваіліся ў чарадзе зьнішчальных войнаў, польскія арыяне, схільныя, як польская шляхта наагул, да анархіі й так, праводзілі час у дыскусіях аб нерэальным пацыфізьме дый забаранялі «братом» браць у рукі меч ня толькі для ваеннае самаабароны, але й для трыманьня ладу. Яны цьвердзілі, што добры хрысьціянін ня можа займаць урадавых становішчаў, не павінен судзіцца, ня можа мець маемасьці. Пры гэткай абыякавасьці польскіх братоў да долі жыхарства Беларусі, зразумела, што Будны толькі з пагардаю мог глядзець на пацыфістычныя дэманстрацыі польскага арыяніна, шляхціча Пётры з Ганёндза, які, прыпаясаўшы дзеравяную шаблю да боку, разьяжджаў па сойміках польскае шляхты, каб шукаць зачэпкі да дыскусіі аб сваіх пацыфістычных лятуценьнях. За іх нерэальны, утапійны, у дадзеных гістарычных умовах абураюча абыякавы да людзкое долі, пацыфізм, польскіх арыянаў Будны пагардліва празываў «анархітамі». Буднаму было ясна, што безбароннасьць і анархія — згуба грамады, народу, самых арыянаў, і што не анархія, а лад патрэбны для жыцьця й супакою народу. Дзеля гэтага патрэбная справядлівая ўлада, каб сьцерагчы гэтага ладу, суды, каб ахоўваць ад злачынцаў, а для абароны ад ворага й войска. Дзеля гэтага, паводля Буднага, і арыянін не

павінен чурацца грамадзкіх адказных становішчаў і ўрадаў, а, ў патрэбе, і мяча, для аховы сябе, свае сям'і, свайго народу, бо «ўрад мяча» на тое, «каб ліхіх караць, а добрым даваць супакой».

Сваім рэлігійна-філязафічным рацыяналізмам Будны шмат у чым, і на стагодзьдзі, апярэдзіў сваіх эўрапейскіх сучасьнікаў і, бясспрэчна, меў уплыў на разьвіцьцё эўрапейскай філязафічнай думкі. Яшчэ пры канцы XVI стагодзьдзя некаторыя ягоныя вывады, у сваім трактаце 1594 году «Апора веры», падхапіў беларускі караімскі тэалёг Ізаак, сын Абрагама, з Трокаў. Буднага ў сваім трактаце Ізаак з Трокаў часта называе «найвучонейшым зь сяньняшніх хрісьціянаў». Рукапіс «Апоры веры» нейкім чынам апынуўся з часам аж у паўночнай Афрыцы. Там на яго прыпадкам натрапіў, і пасьлей, у 1681 годзе апублікаваў, Вагензайль. Трактатам гэтым захопліваўся пазьней ведамы францускі філязоф Вольтэр. Гэтак ідэі Буднага знайшлі рэха ў Францыі й мелі сваё ўзьдзеяньне на францускую філязафічную думку XVIII стагодзьдзя. А дзьвесьце год па гэтым, у палове стагодзьдзя цяперашняга, прафэсар бастонскага ўнівэрсытэту Е. М. Уільбур, пазнаёміўшыся з паглядамі Буднага на аснове ягоных арыгінальных працаў, прызнаў, што «з усіх рэлігійных правадыроў свае пары ён адзіны, што чуўся-б дома ў унітарным руху й стагодзьдзя XX-га».[1]

Помніць трэба, што калі інтэлект Буднага мог свабодна разьвіцца й дасягнуць сусьветных узвышшаў думкі, дык гэта найперш дзякуючы той рэлігійнай талеранцыі й дэмакратычным традыцыям, што панавалі тады на землях Беларусі. За падобна сьмелую крытыку догмаў пануючых хрысьціянскіх цэркваў, якую праводзіў Будны, тады на захадзе Эўропы, як і на яе ўсходзе, у Маскоўшчыне, давялося-б кажнаму прыплаціць жыцьцём. Выдатнага гішпанскага філязофа-доктара, Міхала Сэрвэта, думкі якога ў вялікай меры Будны разьвіваў і паглыбляў, у Жэневе на вогнішчы спаліў у 1553 годзе Кальвін пры пахвальнай апрабаце каталіцкае інквізыцыі й правадыроў пратэстантызму — Мэлянхтона й Булінгера. Другі выдатны сучасьнік Буднага, філёзаф Джордано Бруно, усяго колькі год па сьмерці Буднага, у 1600 годзе, быў спалены на інквізыцыйным вогнішчы ў Рыме.

Будны, тымчасам, хоць пісаў, друкаваў і па ўсёй Эўропе рассылаў свае палемічныя творы й «гарэтычныя» лісты, а яшчэ тры гады перад сьмерцяй езьдзіў на публічныя дыспуты з каталіцкімі тэалёгамі ў Полацкую Акадэмію, памёр дома сваёю сьмерцяй, а не на інквізыцыйным вогнішчы. Калі-б Маскве Грознага ўдалося хоць на кароткі час завалодаць тады беларускімі землямі, доля Буднага, бясспрэчна, была-б наканаваная, і такая самая, як полацкага прапаведніка Тамаша, як Міхала Сэрвэта, як Джордана Бруна. Дык Будны й ягоныя дасягненьні ў галіне поступу людзкое думкі — плады той талеранцыі й дэмакратычных традыцыяў беларускай зямлі, што вяліся на ёй яшчэ ад пары полацкіх народных вечаў, і якія зьнішчаныя былі толькі пазьней, спачатку наступам польскага каталіцкага фанатызму з Захаду, а пасьля — маскоўскага самадзяржаўнага, а па ім, партыйнага, дэспатызму з Усходу.

Сяньня, зь гістарычнай пэрспэктывы, можна сказаць, што Будны — адзін з найсьмялейшых філязофаў Эўропы XVI стагодзьдзя. Ходам ягоных думак кіравала не пачуцьцё, а найперш розум. Будны быў ані фанатыкам, ані утопістым, а цьвярозым рацыяналістым. Ягоны рэлігійна-філязафічны сьветагляд, гэта глыбака, рацыяналістычна прадуманы кансэквэнтны монотэізм. Усё сваё жыцьцё ён наважана крочыў да пазнаньня праўды, не зважаючы на путы сярэднявечных традыцыяў і догмаў. Дзеля гэтага, калі ў 1593 годзе Будны расстаўся з жыцьцём, праводзіў яго хор праклёнаў царкоўнікаў каталіцкіх,

---

[1] Wilbur E. M. A History of Unitarianism. Socinianism and Its Antecedents. Harvard University Press, 1946, b. 378.

пратэстанцкіх, праваслаўных. Каб зьнішчыць ягоную думку й выкараніць усякую памяць аб ім, зь ненавісьцяй нішчылі ягоныя кнігі за ягонага жыцьця й па сьмерці. Дзеля гэтага, толькі некаторыя зь іх захаваліся, і, пераважна, толькі па адным-двух экзэмплярах.

Агульна бяручы, кніжыца Парэцкага, гэта спроба жыцьцё, сьветагляд, дзейнасьць Сымона Буднага, бескампраміснага абаронцу свабоды думкі, уціснуць у цесны, штыўны гарсэт сучаснае падсавецкае дагматычнае навукі. Ідэі й пагляды, што былі накіраваныя на сьмелае крытычнае перадоленьне закасьцянелых схалястычных догмаў сярэднявечча, дачакаліся ў ёй агляду з пазыцыяў ня менш дагматычна-схалястычнага сьветагляду стагодзьдзя XX-га. Хоць уся вайстрыня думак і ідэяў Буднага была ў сваю пару накіраваная найперш супроць сваячасных яму царкоўнікаў розных рэлігійных кірункаў, аднак-жа, сваёй бескампраміснай абаронай свабоды сумленьня, слова й права крытыкі перад цэнзурай і ўсякім гвалтам над людзкой думкай на яе шляху ў пошуках праўды, ідэі Буднага застаюцца ў сіле й цяпер. Іхную рэвалюцыйную моц, відавочна, адчулі й сучасныя валадары Беларусі. Кніжыца Парэцкага, у якой яны разгледжаныя, — хай сабе й з пазыцыяў казённае ідэялёгіі, — выдадзеная яўна не для народу, бо друкаваная яна парасейску й мізэрна малым тыражом: 500 экзэмпляраў.

*Р. Максімовіч*

**Сидоров А. А. Узловые проблемы и нерешенные вопросы истории русского книгопечатания. «Книга», сб. IX. Всесоюзная Книжная Палата. Москва, 1964, б. 13—36.**

Гэта разважаньні аб гістарычным значаньні друкарскіх пачынаньняў кракаўскага Швайпольта Фэоля, чарнагараніна Макара з Цэтыніі, палачаніна Франьцішка Скарыны, «масквіціна» Івана Хведаровіча, выдаўцоў віленскіх XVI—XVII стагодзьдзяў, дый аб важнейшых няясных пытаньнях іхнае дзейнасьці. Зьвярнуць варта зразу ўвагу на характэрны аўтараў падыход: у «русское книгопечатание» ён загартае ўсе кірылічныя выданьні друкароў Кракава, Прагі, Вільні, Заблудава, балканскіх славянаў, хоць запраўдным «рускім» зь іх усіх быў толькі адзін Іван Хведаровіч.

Калі, паводля аўтара, Немец Фэоль усяго прадпрыемца, «дзялок», што імя сваё з друкам праваслаўных кнігаў зьвязаў хутчэй нейк прыпадкам, а балканскі ераманах Макар усяго сьціплы царкоўнік, дык «першы славянскі дзеяч кнігі, што з усёй сьвядамасьцяй падыйшоў да яе як да фактару асьветы, а да свае дзейнасьці, як вытворства матар'ялу да чытаньня й ідэйнага ўзбагачэньня чалавека, а не для дапамогі багаслужбе», быў доктар Скарына (б. 23). Правільна аўтар адзначае, што Скарына «не прадпрыемца, як Фэоль, і не манах, як Макар... Ён — вучоны, інтэлігент, пісьменьнік, перакладнік, ён — ідэялёг, рэдактар, моваед і грамадзкі дзеяч. Ён найперш патрыёт і асьветнік... Доктар Скарына быў сьведамым справы вытворцам кнігаў, ён разумеў нашто, для чаго ў ягоных кнігах патрэбнае тое ці іншае. З Залатой Чэскай Прагі дадзеная яскравая лекцыя кнігавытворства й кнігатлумачэньня» (б. 24).

Уся друкарская дзейнасьць Скарыны, пераклады старадаўных тэкстаў на жывую мову, з паясьненьнямі мала зразумелых словаў, гэта імкненьне да даступнасьці кнігаў зь іх нутра-

нога й вонкавага боку. Ілюстрацыі ў свае выданьні Скарына ўводзіць для «лепшага разуменьня», а не самое аздобы. «Скончыў ён два ўнівэрсытэты, здабыў вучоную ступень доктара навук, і ўва ўсёй сваёй дзейнасьці не забываўся, што навука гэтая — для яго роднага народу» (б. 23). Для Скарыны характэрнае й тое, што ў яго не знайсьці тае пакоры й самапаніжэньня перад вышэй стоячымі, няма панэгірычнае ім хвалы, якую «эпоха наканавала» Івану Хведаровічу й іншым. У Скарыны моцна выяўленае пачуцьцё сьведамасьці свае вартасьці й свае чалавечае годнасьці.

Вышэй прыведзеная, і ў васнаўным правілная, ацэна А. Сідарава асобы й дзейнасьці Скарыны, падаецца ў нарысе побач з вывадамі спрэчнымі або й зусім памылковымі. Ня мае, для прыкладу, аўтар падставаў у сваім дакоры А. Фляроўскаму за тое, што той асьмеліўся «выказаць сумлеў» ці Скарына меў «славянскае» імя «Георгі» (б. 23). Сідараў тут яўна нясьведамы фактаў і літаратуры датычнае гэтага пытаньня. Ды й «Георгі» ніякое «славянскае» імя, а грэцкае. Ніякіх довадаў аўтар ня мае й для свайго зьвінавачаньня Скарыны ў «здрадзе» ім свае веры, кінутага мімаходам «Но своему народу Скорина не изменял» (б. 24). Няма ніякіх канкрэтных дадзеных на тое, каб Скарына сваю веру мяняў, дый ня ведаем сяньня напэўна й якое веры ён быў, і дзеля гэтага аўтаравы намёкі пра «зраду» галаслоўныя.

Неабгрунтаваныя фактамі й некаторыя аўтаравы выказваньні пра гістарычнае значэньне друкарскага пачыну расейскага першадрукара Івана Хведаровіча, дзейнасьць якога Сідараў асабліва высака ўзносіць, дый выводзіць яго нераз у піянеры-пачынальнікі й там, дзе ён толькі позны сьціплы пасьлядоўнік іншых. Сідараў, прыкладам, кажа: «Хведаровіч... першы скарыстаў друк для перадачы свае гаворкі, ён — першы друкар-грамадзянін, першы публіцысты. Ягонае жыцьцё — нашая нацыянальная гордасьць. Ён першы ў расейскай кніжнай культуры цалком заслугоўвае вялікага імя асьветніка й гуманісты» (б. 30).

Калі-б дзейнасьць Івана Хведаровіча аўтар разглядаў у межах толькі гісторыі Маскоўшчыны-Расеі, аб правільнасьці гэтых выказваньняў можна было-б, зразумела, дыскутаваць. Калі-ж ён у «русское книгопечатание» загарнуў і Скарыну, і Фэоля, і балканскага манаха Макара, — тады высокапахвальныя водзывы аб Хведаровічу як аб піянеры, неабгрунтаваныя, бо ў гісторыі ўсяго славянскага кірылічнага друку ён далёка ня першы выказваў друкам свае думкі й пагляды. Сідараў забыўся аб шматлікіх прадмовах Скарыны, у якіх адбітак тых высокіх рэлігійна-маральных, асьветна-грамадзкіх і нацыянальна-патрыятычных матываў і заданьняў ягонае пісьменьніцкае дзейнасьці. Таксама, яшчэ перад Хведаровічам, выпраўляючы ў сьвет з друкарні ў Нясьвіжы свае беларускія кнігі, патрыятычнымі прысьвятамі й прадмовамі папярэджаў іх Сымон Будны. Дык выводзіць Івана Хведаровіча ў «першага публіцысту» славянскага кірылічнага друку ніяк немагчыма.

Ня можна забываць, што з народаў славянскіх, расейскі народ ледзь не апошні здабыўся на свой друк, і дзеля гэтага цяжка і спадзявацца, каб Іван Хведаровіч мог быць у нечым піянерам у гісторыі ўсяго славянскага друку. Калі, разам з Фэолем, Скарынам, Будным у «русское книгопечатание», кансэквэнтна, паводля схэмы аўтара, улічыць, апрача манаха Макара, і ўсіх іншых паўдзённаславянскіх друкароў-выдаўцоў, што дзеілі перад 1564 годам, — ад Вуковічаў да Прымуса Трубэра, — тады выявіцца, што Іван Хведаровіч Масквіцін не адзін зь першых кірылічных друкароў, а найменш нейкі пятнаццаты. Калі-ж возьмем на ўвагу яшчэ выданьні маскоўскія «ананімныя» ды некаторых паўдзённаславянскіх друкароў драбнейшых, дык пабачым, што храналягічна ён займе тады й месца нейдзе аж дваццатае — далёкае ад магчымасьцяў нейкае піянерскае важнасьці ў гісторыі ўся-

го кірылічнага друку. Піянерам-пачынальнікам быў ён толькі для Масквы й Маскоўшчыны, хоць і гэта сяньня шмат кім і ў чым аспрэчваецца дзеля выяўленьня маскоўскіх «ананімных» выданьняў.

У сваім нарысе Сідараў кажа й аб тым, што гэта Іван Хведаровіч «запаліў» зыркія агні й у Беларусі, дзе пасьля Скарыны 40 год ня было друку» (б. 32). І тут нейк выпушчана зь віду, што, калі пасьля ўцёкаў ад прасьледаў з Масквы, з даручэньня вялікага гэтмана літоўскага Рыгора Хадкевіча, Іван Хведаровіч і Пётра Мсьціславец пачынаюць сваю друкарскую дзейнасьць у Беларусі, дык прыходзіць яна тут ня толькі пасьля Скарыны, але й пасьля Сымона Буднага, беларускія кнігі якога вышлі ў 1562 годзе ў Нясьвіжы. Дык не Хведаровіч і Мсьціславец, а першы Будны ўзнаўляе друкарска-выдавецкія традыцыі Скарыны ў Беларусі, і ўзнаўляе іх не самым толькі фактам адновы друку, але, што куды важней, і рэалізацыяй аснаўное ідэі Скарыны — даць народу кнігі ў ягонай роднай мове.

У сваіх намаганьнях узьняць гістарычныя заслугі вытрывалага ў сваёй друкарскай дзейнасьці й бяспрэчна выдатнага маскоўскага друкара, аўтар даходзіць і да беспадстаўнага прыпісваньня Хведаровічу чужых словаў, думак і намераў. У выдадзенай «накладам» гэтмана Хадкевіча першай заблудаўскай кнізе «Евангеліе оучительное» 1569 году, перад тэкстам памешчанае даўжэйшае «Предисловіе книги сея» Хадкевіча, як выдаўца, у якім ён паясьняе ідэйныя матывы й мэты выданьня. Хадкевіч, між іншым, у сваёй прадмове расказвае й аб тым, што меў ён вялікае жаданьне выдаць эвангельле зразумелаю для народу «простаю мовай», значыцца пабеларуску, але што адрадзілі яму гэта «людзі мудрыя». Хадкевіч піша: «Помыслил же был есми и се, иже бы сію книгу выразуменія ради простых людей преложил на простую молву, и имал есми о том попеченіе великое. И совещаша ми люди мудрые в том писме оученые, иже прекладаніем з давных пословиц на новые, помылка чинится немалая».

Пра гэтае, вельмі цікавае, месца Хадкевічавай прадмовы, вось што піша Сідараў: «У Заблудаве... Хведаровіч (ці яшчэ хто-небудзь?) ад імя гэтмана Хадкевіча гавора нязвычайна важныя словы, што паказваюць, якімі ідэйнымі ніцямі зьвязаныя дзейнасьць Івана Хведаровіча з запаветамі Скарыны» (б. 31). Дык Сідараў словы, думкі й намеры гэтмана Хадкевіча, выказаныя ім самым у прадмове ў справе «вялікага жаданьня» друкаваць для народу кнігі пабеларуску, неспадзеўкі, і абсалютна бяз ніякіх падставаў, прыпісвае Івану Хведаровічу. У тэксьце прадмовы гэтман Хадкевіч ясна й бязь ніякіх сумлеваў адзначае, што піша ён яе сам: «аз Григорей Александрович Ходкевича», — і ніякога непаразумленьня, здавалася-б, не павінна тут быць.

Рыгор Хадкевіч, вялікі гэтман літоўскі, аўтар выдадзенае ў 1562 годзе палацінску «ваеннае канстытуцыі» Вялікага Княства Літоўскага — Articuli constitutionum bellicorum Magni Ducatus Lituaniae, — быў непараўнальна шырэй адукаваным чалавекам ад у царкоўнай толькі кніжнасьці начытанага дзяка маскоўскае царквы сьвятога Міколы Гастунскага, Івана Хведаровіча. Выказваць свае думкі ў пісьме Хадкевіч умеў, і на гэта не патрабаваў дапамогі маскоўскага друкара. Дык думкі й пагляды выказаныя ў яго прадмове напэўна ягоныя, а не Івана Хведаровіча, як, чамусьці, навязвае чытачом, і зусім беспадстаўна, А. Сідараў. Прыпісваньне аўтарства Хадкевічавай прадмовы Івану Хведаровічу «масквіціну», незразумелае асабліва ў Сідарава, пад рэдакцыяй якраз якога нядаўна, бо ў 1959 годзе, вышаў зборнік прысьвячаны Івану Хведаровічу, у якім М. В. Шчэпкіна памясьціла фотадрукам тэкст прадмовы Хадкевіча.[1]

---

[1] Щепкина М. В. Переводы предисловии и послесловии первопечатных книг. «У истоков русского

Іван Хведаровіч «вялікага жаданьня» выдаваць кнігі для народу ў беларускай мове напэўна ніколі ня меў. Гэтага ад яго, «масквіціна», цяжка было-б і спадзявацца дый вымагаць, бо-ж беларускае мовы ён, хіба-ж, і ня ведаў. Лёгка таксама дагадацца, што «людзі мудрыя», якія Хадкевічу station адрадзілі ісьці шляхам Скарынавых гуманістычных традыцыяў, ды друкаваць суродзічам кнігі жывою моваю «простага» народу, гэта найперш тойсамы Іван Масквіцін. Гэта Іван Хведаровіч ува ўсёй сваёй друкарскай дзейнасьці — у Маскоўшчыне, Беларусі, на Украіне, — ня выявіў і крыхі зразуменьня таго, што кнігі трэба й можна перакладаць з кніжнае царкоўнаславяншчыны на жывую «простую» мову народу. Праз усё ягонае жыцьцё яму ідэі гэтыя былі чужыя, а ён ім — варожы.

З другога боку, няма сумлеваў у тым, што гэта Скарынаў прыклад быў вырашальным пры задуме гэтмана Хадкевіча даць друкаваныя кнігі свайму «простаму» народу. Відаць гэта з ужытых у ягонай прадмове, перанятых ад Скарыны, словаў, сказаў і цэлых зваротаў. Для прыкладу, Скарына, прадмову да Кнігі Царстваў, пачынае словамі: «Многими и различными обычаи господь бог писма и науку нам людем своим дал и дава... Найпервей дал ест Евреом рукою Мойсея раба своего ветхый закон. Потом нам Хрестианом оусты своими, Новое благоветсвование уставил. Якоже святый апостол Павел глаголет: Закон Мойсеем дан ест, благодатьже господем нашим Ісусом Христом».

А вось пачатак прадмовы гэтмана Рыгора Хадкевіча да «Евангеліе оучительное»: «Господь бог вседержитель, многими и различными обычаи писаніем оученіе людям своим дал. Первое мойсеом пророком ветхій закон июдеом дал. Намже хрестіяном Христос Спас наш новое свое благовествованіе святое евангеліе предал четырми евангелісты... Яко и апостол павел вначале епистоліи своей ко евреом пишет... Благодатьже и истинна Ісусом Христом бысть...» Дык пры пісаньні прадмовы да свайго першага выданьня для народу Хадкевіч ня толькі ар'ентаваўся, як на ўзор, на папярэднюю выдавецкую дзейнасьць Скарыны, але перад сабой меў і самыя Скарынавыя кнігі, зь якіх чэрпаў думкі й натхненьне. За прыкладам Скарынавых гэта выданьняў «люду паспалітаму» пачаў Хадкевіч сваё выдавецтва кнігаў для «народу простага».

Дык красамоўнае цьверджаньне Сідарава аб Івану Хведаровічу, як аб вялікім «гуманісьце», вісіць, непадмураванае фактамі, у паветры. Гуманістычныя ідэі Скарыны аб кнігах для народу ў мове народу, ідэі, што на Захадзе былі прызнаныя й праводзіліся ў жыцьцё ўжо ад часоў Дантэ, Пэтраркі, Бокачыё, Чосэра, вырасламу ў духу маскоўскага артадаксальнага праваслаўя Івану Хведаровічу, былі чужыя, незразумелыя, няпрыемлівыя, а бадай навет «гарэтычныя». І дзеля гэтага ўзводзіць яго сяньня ў нейкага, прыбылага з Масквы, апостала гуманізму ў Беларусі, — яўная рытарычная перасада.

*С. Брага*

---

книгопечатания». Издательство Академии Наук СССР. Москва, 1959, б. 225—231.